ББК 81.2Бел-4
Ю 83

Рэдактар
А. А. Крывіцкі,
кандыдат філалагічных навук

Рэцэнзенты
А. І. Падлужны, І. Я. Яшкін,
кандыдаты філалагічных навук

**Юрчанка Г. Ф.**
Ю83 Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. А—Л.—Мн.: Навука і тэхніка. 1981.— 280 с.
У пер.: 1 р. 20 к.

У слоўнік уключан багаты лексічны матэрыял, сабраны на ўсходзе Беларусі, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. Шырока паказана форма- і словаўтваральная сістэма гаворкі, яе выключна багатая сінаніміка і эмацыянальна-вобразная афарбоўка. Усяго пададзена і растлумачана каля 4100 лексічных адзінак. У ілюстрацыйным матэрыяле адлюстраваны фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці гаворкі.
Разлічана на лінгвістаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. Карысны для сябе матэрыял знойдуць тут работнікі друку, пісьменнікі, журналісты.

70105—045
Ю————————137—81 4602020000 ББК 81.2 Бел-4
М316—81 4Бел

## ПРАДМОВА

Пададзеная ў слоўніку лексіка сабрана на працягу 50—70-х гадоў на Мсціслаўшчыне, пераважна ў яе ўсходняй частцы. Сюды ўвайшлі толькі тыя словы, якія не зарэгістраваны «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы», адсутнічаюць у найбольш поўных слоўніках рускай літаратурнай мовы і, як правіла, не друкаваліся ў нашым «Дыялектным слоўніку» (1966) і іншых падборках дыялектных слоў. З апублікаваных раней змяшчаюцца адзінкавыя словы, у якіх удалося выявіць новыя значэнні. У некалькіх выпадках у якасці рэестравага ўзята літаратурнае слова, калі яно дае значную колькасць дыялектных утварэнняў: *воўк — ваўчуга, ваўчына, ваўчышча; зямля — зямліца, зямлічка, зямелька, зямелічка, зямелюхна, зямлішча.*

Лексіка падаецца камбінаваным алфавітна-гнездавым спосабам. Асноўны парадак падачы слоў алфавітны. У гнёзды аб'ядноўваюцца звычайна аднакарэнныя словы, якія блізка стаяць па алфавіту. Сюды адносяцца:

аднязначныя аднакарэнныя варыянты слова: *бульбашнік, бульбяннік, бульбятнік, бульбяшнік; базарыць, базарыцца.* Пры гэтым у гняздзе ў якасці апорнага слова для назоўнікаў, прыметнікаў, прыслоўяў бярэцца найбольш распаўсюджанае;

аднакарэнныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць асобу па дзеянню: *вечарынашнік, вечарынашніца; ірзун, ірзуха;*

дзеясловы незакончанага і закончанага трывання, незалежныя і залежныя, а таксама дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі на *-ёмшы* да адпаведных дзеясловаў: *выскрыпываць, выскрыпывацца, выскрыпаць, выскрыпацца; баніць, баніцца; заясняць, заяснёный, заяснёмшы.* Для дзеясловаў у якасці апорнага падаецца форма незакончанага трывання;

аднакарэнныя варыянты назоўнікаў і прыметнікаў, якія маюць значэнне памяншальнасці, павелічальнасці

і інш.: *апрат, апраціна, апрацішча; атлёт, атлёцік, атлёціна, атлёцішча; дуплястый, дуплясценькій.*

Большасць слоў у гняздзе тлумачыцца. У якасці тлумачэння прыводзіцца пераважна літаратурны адпаведнік, адзін ці некалькі сінонімаў. Калі ж літаратурны эквівалент адсутнічае, даецца апісальнае тлумачэнне. У шматзначных словах значэнні падаюцца ў парадку іх ужывальнасці. На першае месца выносяцца найбольш пашыраныя, нейтральныя, прамыя значэнні, а затым прыводзяцца пераносныя.

Калі слова падаецца як норма ў слоўніках літаратурнай мовы, а ў гаворцы падобнае слова адзначана ў іншым значэнні, як правіла, пераносным, то літаратурнае значэнне не паказваецца, а з паметай *перан.* даецца толькі гэтае значэнне: **Асколак** *м. перан.* Задзіра, балаўнік. **Іграць** *незак. перан.* Хацець, імкнуцца, выражаць нецярпенне.

Без тлумачэння падаюцца наступныя словы: назоўнікі жаночага роду пры назоўніках мужчынскага роду, якія абазначаюць асобу; памяншальныя, павелічальныя, узмацняльныя і іншыя ацэначныя формы; дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі да адпаведных дзеясловаў. Дзеепрыметнікі, якія падаюцца асобнымі артыкуламі, тлумачацца.

Выкарыстоўваецца досыць шырокая сістэма памет.

Рэестравыя словы прыводзяцца ў літаратурным запісу. Ілюстрацыйны матэрыял падаецца ў спрошчанай транскрыпцыі. Націскі пазначаюцца ў тых выпадках, калі слова можа быць няправільна прачытана. Выбухное *г* паказваецца графічна: ґ.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Абраж.*— абражальнае, *абур.*— абуральнае, *асудж.*— асуджальнае, *выш. ст.*— вышэйшая ступень параўнання, *гл.*— глядзіце, *груб.*— грубае, *гумар.*— гумарыстычнае, *дзеепрым.*— дзеепрыметнік, *дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе, *дзіц.*— дзіцячае, *ж.*— жаночы род, *жарт.*— жартоўнае, *заг.*— загадны лад, *зак.*— закончанае трыванне, *зб.*— зборны назоўнік, *звыч.*— звычайна, *знач.*— значэнне, *зневаж.*— зневажальнае, *зніж.*—зніжальнае, *інш.*—іншае, *іран.*—іранічнае, *ласк.*— ласкавае, *м.*— мужчынскі род, *мн.*— множны лік, *н.*— ніякі род, *-н.*— небудзь, *неадабр.*— неадабральнае, *незак.*— незакончанае трыванне, *павеліч.*— павелічальнае, *пагардл.*— пагардлівае, *памянш.*— памяншальнае, *перан.*— пераноснае значэнне, *прым.*— прыметнік, *прысл.*— прыслоўе, *узмацн.*— узмацняльнае, *узнёсл.*— узнёслае, *часц.*— часцей, *экспрэс.*— экспрэсіўнае.

# А

**Абажмаць** *зак.* Абціснуць. *Карзінку сплёў — кылы дна абыжмáць нада, роўнінька пыправіць кругом. Дугу як сыгінáіш, акуратнінька абажмеш рыспáрінью палку, іна і ні пулумаіцца.* **Абажмацца** *зак.* Абціснуцца. *Козлымі салома абажмецца, пріляжыць роўнінька, і будзіць красівыя крыша. Крепка пляцень абыжмаўся, Сыціпан яго сыціскывыў як нада.* **Абажманый, абажматый** *дзеепрым. Была тут карзінычка с абыжманымі быкамі. Ты во сам пыглядзі, як тута ладна ўсё абыжмана, Сярьгей умеіць пыдыгнаць, роілым ён ня кініць. Тыкая абыжматыя лубка мне ні нада, зь яе высыпáцца усё будзіць.*

**Абаранянне** *н.* Захады па абароне. *Ні нада мне яго абырыняньня і сам ён тута ні нада, ніхай ідзець, айдзе быў. Ці многа пымагло Віктыру Хрітанкова абырыняньня?*

**Абараняннік, абараняльшчык, абараняльнік, абароншчык** *м.*, **абарона** *м.* і *ж.* Абаронца, заступнік. *Сь Цімоха ніплахей абырынянньнік, ён чужога чылавека увідзіць і слова ні праронiць. У іх абырыняньнікыў многа, тута ты ні пытыкáйся. Сядзь і сядзі, тама бісь цябе абырыняльшчыкыў хваціць. Пы насу схваціць — во й абырыняльшчык увесь будзіць. Сыбралыся тыкая куча абырыняльнікыў, што куды к ім пытыкацца. Нада табе, абароншчык, іціць спаць, тута бісь цябе рызьбяруцца. Абароншчыкі з вас ніплахея, толька асталыся наўчыцца насы пыцьцірáць. Пынасёнык—твыя самыя луччыя абарона, ты за ім як зы камінныю гарою, а бізь яго прыпаў ба. Ён знаіць, каго браць сабе зы абарону, Гапкіна дычка зышчыціць яго луччы некуды.* **Абараняннiца, абараняльшчыца, абараняльніца, абароншчыца** *ж. Ідзі ты ўжо, ідзі, абырыняньніца, двору, ідзі нілáіныя. Цэлыя куча абырыняньніц сыбралыся, яны сваіх у абіду ні дадуць. Машкіна абырыняльшчыца як пытхвацілыся: вы ніправільна дзелыіця, вы ніпраўду гаворіця, я куды нада*

*дайду і свайго даб'юся. Каб вы ні быяліся слова прыгываріць, з вас ба ні абы-якея абырыняльніцы былі. Пычалі ўжо рысхадзіцца, а бягіць тая абырыняльніца: нашто вы майго дзіцёнка трогыіця. Такея ўжо ж джоґія абароншчыцы, што куды там зь імі спруўляцца.*

**Абасець** *зак.* Застацца без абутку, зрабіцца босым. *Што ты нічога ня рупісься, хлопіц саўсім абасеў, яму б нада боты якея думыць ґ грязі. Ня хочыць біспакоіцца, ніхай ні біспакоіцца, згалеіць, абасеіць, будзіць ны пасьмешышча людзям.*

**Абассаць** *зак.* 1. Абсмактаць. *Канхвету абыссáў — кінуў, бырáнік рыскрышыў — ціпляты пыдзяўблі,— во яго іда.* 2 *перан.* Выцягнуць усе сродкі, набыткі (часцей пра дзяцей, сяброў). *Етыя ня ўпусьцюць, абассуць яго кругом, усё пывыцяґгыюць.*

**Абаткнуцца** *зак.* 1. Заштукавацца, заканапаціцца. *Ты бярі стамеску і зыпіхáй хлоп'я патрошку, і хырашо абаткнецца. Абаткнецца твыя пуня, пасьпеіць, управімся з бульбыю і зьдзелыім.* 2. Абторкацца. *Ні заўтря абаткнуцца, а січас ідзі і абаткні, вы́сыдкі саўсім вáлюцца.*

**Аббарабаніваць** *незак. перан. неадабр.* Абгаворваць усюды і на ўсе лады. *Як возьмуцца аббырыбáнівыць усіх пыдряд, нікога ні прапусьцюць.* **Аббарабаніць** *зак.* Абгаварыць на ўсе лады. *Пакуля усіх пыдряд ні аббырыбáнюць, ні разойдуцца, хуць да поўнычы гатовы стыяць. Каго ж вы сяньня аббырыбанілі, хто прішоўся па ўкусу?*

**Аббірала** *м* і *ж. асудж.* Той, хто абірае, ашуквае. *Былі аббірáлы, чаму ж не, умелі кырмáны сабе ныбіваць. Тыкая аббірала, чышчы якога мужука, у дзяўчоnык усё пывыцяґгывыла сабе.*

**Аббіраннік** *м.* Той, хто абірае, абрывае. *Зь іх ішчэ аббірáньнікі такея, ну ніхай, трошку ж квасоль абарвуць. Памянш.* **аббіраннічак.** *Ну-ка, аббіраньнічык, як у цябе йдзець работа?* **Аббіранніца** *ж. Відзіш, якея яны аббіраньніцы, ня столька сьлівык у карзінку, сколька ў рот.*

**Аббрындавусіць** *зак. неадабр.* Абхадзіць, пабываць у розных месцах. *І Жыгалкі, і Ціляткыва, і Мазылыва — усё аббрындавýсіў, работыць ня хочыцца, а каб чарычку ставілі — дужа лас. Зы нядзелю ўсю акругу аббрындавусюць, што ж ім яшчэ дзелыць.*

**Аббрындаць** *зак. неадабр.* Абхадзіць без патрэбы, без

**мэты.** *Пакуля ўсіх падруг сваіх зудушэўных ні аббрындыіць, ны гряды ня пойдзіць, а тама ўсё травішчыю зырасло і зуплуло. Ён паўсьвета ўжо аббрындый, ты луччы спрасі, айдзе яго толька ні було.*

**Аббрынкываць** *незак. перан.* Абкошваць (абы-як або рэдкую траву). *Пычаў аббрынкывыць, тама травінка ат травінкі на гоні,— кінуў.* **Аббрынкывацца** *незак.* Абкошвацца (абы-як або пра рэдкую траву). *Ня дужа тут аббрынкывыіцца, пыт касу нічога ні пупыдаіць.* **Аббрынкаць** *зак.* Абкасіць (абы-як або рэдкую траву). *Хуць слаб, а склаўшы рукі ні сядзіць, то кусты аббрынкыіць, то айдзе лашчынку саб'ець, там пуд, там ношку і нызьбіраіць ны карову.* **Аббрынкацца** *зак.* Абкасіцца (абы-як або пра рэдкую траву). *Січас ні пасьпеіш — заўтря аббрынкыіцца, цяперя пагода харошыя, высыхніць.* **Аббрынканый** *дзеепрым. Не ўжо, сьперіду ўсё аббрынкына, можа, дальшы, узаду, ікая лашчынка пупадзецца, там толька адзін Зьмітрачоньк хадзіў.*

**Аббягаць** *незак.* 1. Аббягаць. *Аббігай кругом, яны там!* 2 *перан. гумар.* Пераўзыходзіць, абыходзіць у працы, у справах. *Ты ні на сьмех бяресься, сымаго Сільчынка аббігаіш, крепка поршы пыдняў зы пасьледнія ўремя.* **Аббежч** *зак.* 1. Абабегчы. *Пакуля аббягіць сваіх падруг, с кажнію язык пачэшыць, і работыць некылі.* 2. Пераўзысці, абысці ў працы, у справах. *Пятрок цябе даўно аббег, ён у брігадзіра у друзьях ходзіць, а ты ніяк ні пыдладзісься. Не, яны цябе аббягуць ува ўсём, ты пакуля пыстаіш, падумыіш, а яны ныпярёд знаюць, што дзелыць.*

**Абвазголіваць** *незак.* Заквэцваць, вымазваць, завэдзгваць. *Пыднясі яшчэ ты сюды рукавы абвазголівыць, цябе тута ні хвытала. Што ж ён дзелыіць — харошыя зыняція найшоў: стульчык абвазголівыіць.* **Абвазголівацца** *незак.* Заквэцвацца, вымазвацца, завэдзгвацца. *Сядзіць, абвазголівыіцца куляшом, вазьмі на рукі ды сыма пыкармі трошку.* **Абвазголіць** *зак.* Заквэцаць, вымазаць, завэдзгаць. *Твой ядун абвазголіў міску куляшом, на пол нымазыў, сам увесь чыста вымызыўся, к яму ні пуцступіцца. Пырысяткі то ў карыццы парыюцца, то к яму, абвазголілі лычамі усе штаны.* **Абвазголіцца** *зак.* Заквэцацца, вымазацца, завэдзгацца. *Ну айдзе йта ты етык абвазголіўся, цеста нейкыя ну рукувах ужо зысыхаць пычало. Зыбяры-ка ты ат іх міску, нічога яны ні*

*зьядуць, яны ні галодны, а абвазґолюцца па вушы.* **Абвазголеный, абвазголетый** *дзеепрым. А божычка ж ты мой, а чым жа етый дзіцёнык абвазґолін, што дайжа вачэй ня відна! Ходзіць, як атряха, перід абвазґолітый, худзь ба апцёрла троху.*

**Абвазграўліваць** *незак.* Моцна заквэцваць, вымазваць, завэдзгваць. *Ні нада табе брацца, адзежу чыстыю абвызґряўлівыць, я сыма прібяру трошку і пойдзім.* **Абвазграўлівацца** *незак.* Моцна заквэцвацца, вымазвацца, завэдзгвацца. *Ахота вам абвызґряўлівыцца, ніхай яно пыстаіць, у шайку акуратнінька сыстаўця і ўсё.* **Абвазгравіць** *зак.* Моцна заквэцаць, вымазаць, завэдзгаць. *Ня столька натоўк, як мост цестым абвызґрявіў, ныляпыў кругом шайкі, ныляпыў і ішчэ ныгамі нымясіў. Зыкласьць нада рукавы, шырахнісься і абвызґрявіш краі.* **Абвазгравіцца** *зак.* Моцна заквэцацца, вымазацца, завэдзгацца. *Ня столька зьелі, сколька абвызґрявіліся, памыць нада абоіх.* **Абвазграўленый** *дзеепрым. Большым што, зыняліся, гуляюць, а малый сядзіць ны сіньнікў увесь абвызґряўліный і міска збоку стаіць. У цябе уся левыя пыла абвызґряўліна.*

**Абвяхываць, абвяхкываць** *незак. перан. неадабр.* Абгаворваць, балбатаць пра чалавека пустое. *Луччых мысьцярін абвяхывыць у белым сьвеці са сьвечкыю ні найдзіш. Пірістаньця абвяхкывыць людзей, вам ба нада за ета ізыкі пывыцягывыць ды якою-небудзь драчкыю нацерць, каб яны нызад у рот ні ўлазілі.* **Абвяхаць, абвяхкаць** *зак.* Абгаварыць, набалбатаць пра чалавека пустога. *Такея ніпутнэя ізыкі, каго хочыш абвяхыюць, усё, каб ім перць трілюды. Алёна абвяхыла па ўсёй дзяреўні, што яны ў сталовый, знаць, пысядзелі. Ім каго хочыш абвяхкыць, што сыбаку на вецір гаўкнуць. Насьціны ета і абвяхкылі, ім дужа колык Стыхванёнык быў.* **Абвяханый, абвяхканый** *дзеепрым. У Марінкі любэй будзіць абвяхыный, ёй на зуб толька пупадзіся. Усяго будзіць, ня бойся, і абвяхыным паходзіш. Ну й будзіш абвяхкыный, а што ты горла заткнеш ёй ці што. Ходзіць, як абвяхкыный, гылаву павесіўшы.*

**Абдаваннік** *м.* Той, хто абдае, абдаецца (звыч. пры мыцці ў лазні). *Ты кіпятку ні ліні, абдываньнік, ато апшпаріш усяго мальца, будзіць тады вазьні.* **Абдаванніца** *ж. Доўга абдываньніцы пліскаліся, ім толька дай ды вады дыбрацца, усю выльлюць.*

**Абдзёрашный** *прым.* Шатраваны, з шатраванай мукі. *Абдзёрышнью муку часта ні малолі, ета ґ бальшым празьнікым ці к свадзьбі, тады мяшочык зывязуць, абдзяруць і зьмелюць. Твыя сьвякрова угышчала мяне абдзёрышнымі блінамі, многа ныпяклі.*

**Абдзіраннік** *м.* Той, хто абдзірае (здымае кару, злуплівае абоі і інш.). *Нашто етым абдзіра́ньнікым вольха, і рукі вымызылі, і ліцо, і рубашычкі, іх жа ні атмыіш цяперь.* **Абдзіранніца** *ж. Узяліся нашы абдзіраньніцы зы квасолю, ніхай абарвуць, пацсохніць, пулузкаіцца, зваріць калі будзіць, зьядуць с ахоткі.*

**Абдзогаць, абдзугаць** *зак. неадабр.* 1. Абабіць, пазбіваць скачучы (складзенае сена, пасцель і інш.). *Абдзогылі сена ў пуні, пылавіна ны кладкі, пылавіна ны зямле, езьдзілі зь яго ці што. А што ім, абдзу́гыюць копы, а ты хадзі тады ўсьлед, пупруўляй.* 2 *перан.* Абабегаць з тупаннем. *Сколька іна хат за дзень абдзогыіць, к адным прібягіць — адно трілюдзіць, у другіх другоя нясець, вярзець,— як такей чылавек урадзіўся! Сколька вы сяньня чаго абдзугылі — у Шмату пыбылі, у Зяціцкыю рошчы змыталіся, у Радкеўшчыну ні зыхадзілі, а пряма ў Равы кытанулі.* **Абдзоганый, абдзуганый** *дзеепрым.* Абабіты, пазбіваны. *Уся чысьцінька крыша абдзогыныя, чаго ты іх палкыю ат'етуля ні гнаў, яшчэ раз-два злазюць так — і пірікрываць будзіш. Тама два нібальшэя стажкі саломы абдзугыныя са ўсіх бакоў,— ёрзыюцца, хочыш, ішчэ каторый на вілкі успоріцца.*

**Абдзыгаць** *зак. неадабр.* Абабегаць з намерамі нешта адшукаць, выведаць. *Зы раньня етый канец абдзы́гыла, ды, знаць, нічога ні пачула. Сярдзітыя сядзіць: ні ўдалося дзярэйню абдзыгыць.*

**Абдзяўбыванне** *н.* 1. Абдзёўбванне. *Кыш с абдзя́ўбывыньнім, дам вам ячмень, як мятлою луплянý каторыю.* 2 *перан.* Няўмелае абсяканне, падобнае да дзяўбання. *С такою работыю луччы було ні брацца, мне ета абдзяўбывыньня ні нада, худзь ба тапор найстріў, як у людзей.*

**Абдзяўбываць** *незак.* 1. Абдзёўбваць. *Віряб'і дужа каноплі абдзя́ўбывылі, як нывалюцца ны галоўкі — як насы́пына. Снапкі пыставіла пат крышу, а куры абдзяўбывыюць.* 2 *перан.* Абсякаць (няўмела або тупой сякерай). *Нідаўна ж ён быў пад вербымі, суччаабдзяўбывыў, можа, ґ бані пашоў.* **Абдзяўбывацца** *незак. перан.* Абсякацца (няўмела або тупой сякерай). *Ну як яно ў цябе*

*абдзяўбывыіцца, ці кончыш сваю работу к посьлібедзьдзю?*

**Абеданне** *н.* Сядзенне за абедам. *Любілі пысядзець зы сталом, адзін ты-лы-лы, другей та-ла-ла, у іх абедыньня ны два часы рысьця́гывылыся, пы-паньську любілі абедыць.*

**Абеданнік, абедашнік** *м.* Той, хто абедае. *Нешта доўга нашы абедыньнікі сідзяць сяньня, каб ні зываліліся яны спаць посьлі вічарінкі, ато будзіш стыяць адзін зь естымі каровымі да вечыра. Глядзі, ці дажджэсься ты етых абедышнікыў, ім як пыдвязець, яны могуць і да вечыра праседзіць.* **Абеданніца, абедашніца** *ж. Во калі ідуць абедыньніцы, і пабедылі як нада, і ныгываріцца пасьпелі ўволю. Доўга ня йдзець мыя абедышніца на зьмену, верна, з бабымі зутурлы́чылыся, стануць кучыю і пашлі новысьці рысказывыць.*

**Абедашній, абедашный, абедный** *прым.* Абедзенны, такі, які мае адносіны да абеду. *Ні нырізай, ішчэ вун абедышнія кускі выляюцца. Абедышнія крупеня стаіць у печы, нальлю, кылі хочыш, большы нічога ні асталыся. Усё абедышныя мы ў шайку пызьлівалі, пырысятым будзіць, яны любюць зыдыбря́ныя. Абедныя мылако пыставіла квасіцца, а ўвечыры пыдаю і ў ваду пыстаўлю, ны раньня халодныя будзіць.*

**Абжарыстый** *прым.* Добра падсмажаны. *Куріцу пываріла троху, а тады ны скыўраду, дыстала — абжа́рістыя, ажно хрупыіць. Мае лю́бюць, каб бульба абжарістыя была.*

**Абжыманнік** *м.* Той, хто абціскае, займаецца абцісканнем. *Відзіш, як мне етый абжыма́ньнік памог: рябро ў карзіні злумаў і пабег.* **Абжыманніца** *ж. Ох, абжыманьніца сь цябе, пляцёнку нада на́нывa піріплітáць.*

**Абжынаннік** *м.* Той, хто абжынае вакол чаго-н. *Глядзі, абжына́ньнік, рызва́ліш сярпом руку ды касьці, тады атмучыісься, ніхай пыстаіць тая трыва, упраўлюся і сыма сажну.* **Абжынанніца** *ж. Сь цябе б нядренныя абжынаньніца, толька серп ня дужа роўна ў руках дзяржыцца.*

**Абзямлянівацъ** *незак.* Наношваць нагамі зямлі на чыстае месца. *Будзіш яшчыкі абзімля́нівыць, дык дам, ідзі на вуліцу, гуляй, найдзі сабе зыняція і ня гойзыйся тут.* **Абзямлянівацца** *незак.* Абсыпацца, забруджвацца зямлёй. *Як ты акуратнінька ні ступай, а будзіць абзімля-*

*нівыцца, ты ж пы зямле ходзіш, а ні па чом другом.* **Абзямляніць** *зак.* Нанасіць нагамі зямлі на чыстае месца. *З ныгамі пы мішках тулуваліся, абзімлянілі, хуць зьмяці астарожнінька, ну нада мальцым прута.* **Абзямляніцца** *зак.* Абсыпацца, забрудзіцца зямлёй. *Мы ціхінька й стынавіліся, а зімля зы ныгамі носіцца, пасьцілка абзімлянілыся, тріхані чуць-чуць з рыжка.* **Абзямляненый** *дзеепрым. Ну скажы, ну што зь імі зьдзелыць: пыслала пылаценцы на сонца, ніхай, думыю, пац сонцым адбелівыюцца, атвярнулыся, пріхаджу — абзімляніныя: дзугыліся пы палотных.*

**Абкаваць** *зак.* Акаваць, ababіць жалезам (абручамі, пласцінкамі). *Апкувалі, круглінька зьдзелылі, ладный ломік пулучыўся. Цэбір зьдзелылі і зразу апкувалі, такей ні паб'ецца, ну, праўда, лі калодзіжа нада сы ўсякім акуратнінька.* **Абкавацца** *зак.* Акавацца, ababіцца жалезам (абручамі, пласцінкамі). *Апкуецца — знаіш, якоя крепкыя будзіць вядро, ніякыя халера яго ня возьміць.* **Абкаваный** *дзеепрым. С апкуванымі дзьвірямі яны нічога ня зьдзелыюць. Вароты крепка апкуваны, гвозьдзя пызагнута у паліц тыўшчыною. Апкуваныя восі будуць доўга дзіржацца.*

**Абкалантырыць** *зак. неадабр.* Абабегаць, наведацца ва ўсе куткі. *За дзінь сьвет апкылантырюць, усюдых іх поўна, усюдых пубуваюць.*

**Абкалачываць** *незак.* 1. Моцна абтрасаць. *Чуіш, б'ець: ета ж ён так ірьмяк апкылачыіць.* 2 *перан.* Аббягаць усё навокал. *Сколька яны за ныч апкылачывыюць сьвету, усю акругу зьбігаюць, пакуля вічарінку найдуць.*

**Абкапашыць** *зак. перан.* Дапамагчы абжыцца, удзельнічаючы ў клопатах, справах і інш. *Самі б яны ні ў век ні абжыліся, ета іх дзядзька апкыпашыў: і хату памог субугоріць, і кыравёнку купіў пасьці зы свае грошы, і так многа чым пысыбляў.* **Абкапашыцца** *зак. перан.* Абжыцца, прыкладаючы значныя намаганні. *Як трудна ні було, а, відзіш, апкыпашыліся, нічога жывуць. Гультаі ні разу ні апкапошуцца, каб абжыцца, нада рукі прілажыць ды прілажыць, а ці ета хочыцца.*

**Абкапыраннік** *м.* Той, хто абкопвае, займаецца абкопваннем. *А Жэнька — луччый апкапывыньнік, відзіш, як у яго роўнінька кружком пулучаіцца.* **Абкапыванніца** *ж. Ты ж, апкапывыньніца, кырянькоў ні папорці, лупаткыю астарожнінька кыпай.*

**Абкінуцца** *зак.* 1. Абсыпацца (звыч. зямлёй), абкласціся (звыч. саломай). *Зысыпáць хундáмінт віcока дужа ні нада, а як зьнізу апкініцца, дык ня хужы, цяплей будзіць. Ніхай тута ляжыць, апкініцца іржышчым і ладна.* 2.Накінуць на сябе, акрыцца. *Апкінься якою-небудзь тряхолінью, каб зы кaйнерь ні цякло, і піряскочыш вуліцу.* 3. *перан.* Набыць у дастатку маёмасці, рэчаў і інш. *У іх нічога, троху апкінуліся хызяйствым, і пастройчына ёсьць, і скот дзіржаць.*

**Абкічаць, абкічываць** *незак.* Абкітоўваць. *Нада брацца вокны апкічáць, зукуець — тады позна будзіць думыць. Апкíчывыць — ета нібыльшая мудрысьць, кіт бярі ды маж строґінька, сьцёклы зымазывыць ні нада.* **Абкічацца, абкічывацца** *незак.* Абкітоўвацца. *Што, самі вакенцы ні апкічáюцца? Чаго ні апкічывыiцца? — кіт нада рызьмясіць хырашо, каб ён мяккій стаў.* **Абкіціць** *зак.* Абкітаваць. *Горька нада апкіціць вокны: зіма ны насу.* **Абкіціцца** *зак.* Абкітавацца. *Вокны ішчэ пасьпеюць апкíцюцца, а як сена вадою прыбярецца, хужы будзіць.* **Абкічаный, абкічоный** *дзеепрым. Як вокны апкíчыныя, тады куды цяплей у хаці, дух ні праходзіць. Я гляджу: у цябе ужо і вокны апкíчоныя.* **Абкіцёмшы** *дзеепрысл. Апкіцёмшы, я марозу ні спужаюся, ня ўлезіць. Кылі вокны апкіцёмшы, цяплей у хаці, а так вецір у рямых праходзіць.*

**Абкладнэй, абкладный** *прым.* Аблажны (пра дождж). *Столька ўремя апкладнэя дажджы лілі! Дождж апкладный, а мы ў адных кохтычкых, і пірімя́клі, і пірядры́глі,— хваціла нам.*

**Абклініваць, абкліновываць** *незак.* Абіваць, умацоўваць клінкамі. *Тама нямножка асталося апклíнівыць, піряд вечырым кончу. Пычаў апкліновывыць стыякі, стукнуў мылатком, а ён сырваўся ды мальчыку зы адною каплію ня ў вока.* **Абклінівацца, абкліновывацца** *незак.* Абабівацца, умацоўвацца клінкамі. *Тута дужа нялоўка, саўсім ні апклíнівыiцца. Ну й што, ежылі етыя тваe ножкі крепка апкліновывыюцца, пыставіш уніз клінкамі, яны пацсохнуць у хаці і пывысыпáюцца.* **Абклініць, абклінаваць** *зак.* Абабіць, умацаваць клінкамі. *Тута апклініць нада, інáчы дзіржацца ня будзіць, а як заб'еш клінкі, станіць кряпчэй. Козлы як ставіш, нада хырашо у балькі апклінувáць, каб нікуды ні пыхісну́ліся, крепка стыялі, ато крыша можыць паехыць.* **Абклініцца, абклі-**

**навацца** *зак.* Абабіцца, умацававацца клінкамі. *Канешня, нада б край таўсьцей зьдзелыць, меншы сьця́сывыць, ды некылі пірядзелывыць, зыклініцца і будзіць дзіржацца. Апклінўіцца і будзіць сядзець, тут-то тыкая важнысьць— будзіш лупатку да цуґу дывадзіць.* **Абкліненый, абклінаваный** *дзеепрым. Апкліні́ныя калёсы — ета ні калёсы, паедзіш, раздрёгыюцца, і ўсё клінува́ньня пывысыпаіцца. Стойка там апклінува́ныя, ну, па-мойму, іна нінадзёжныя, слаба пыстаўліна, можыць пыхітнуцца.*

**Абкрывяніць** *зак.* Акрывавіць. *Ты глянь-ка, як увесь бок апкрывя́ніў і дайжа штаны апка́пыны, як нясьлі кыбына, тута ка́пыла.* **Абкрывяніцца** *зак.* Акрывавіцца. *Ні пыткысаў рукавы і апкрывя́ніўся, толька зумува́й зы табою. Апкрывяніісься — то сам як хочыш і атмувайся.* **Абкрывяненый** *дзеепрым. Апкрывяніныя тряпкі складзі у вугалку, памыюцца посьлі, січас пабедыім.*

**Аблавушка** *ж.*, **аблавух** *м.* Старая зімовая шапка. *Табе б дык дайжа і стыдна такую аблаву́шку ныдзівацць, разьві ж у цябе німа за што купіць. Во нейкій мальцыў аблаву́х выляіцца, вазьмі ды ўсторні ны гылаву.*

**Аблакат** *м.* Адвакат, абаронца, заступнік. *Другей аблыка́т найшоўся, у заступу ідзець. Памянш.-зневаж.* **аблакацішка.** *Быў там нейкій аблыка́цішка, ён ніякія ролі ні йграў.* **Аблакатша** *ж. іран. Ідзі пушукай сабе другую аблыкачшу, я зы цябе зуступацца ня буду.*

**Абламанец** *м.* Абламаная рэч (нож, грабеньчык і інш.). *Хуць аблума́нцым етым вазьмі атреж кусочык. Аблуманіц нейдзі ліжаў, трошку прічэшысься. Памянш.* **абламанчык.** *У грібы можна і с аблума́нчыкым іціць, калі й пыціряіцца, ні так жалка.*

**Аблашчыцца** *зак.* Зрабіцца ласкавым, рахманым. *Як толька прівялі карову, дык к рукам ні блізка і к сабе ні путпускаіць — рыгамі круціць: ні пытхадзі, чуць пыстыяла пыдаіцца, а тады абла́шчылыся, і к рукам ідзець, і чашы яе, гылаву зыдзіраіць,— прівыкла.*

**Аблезлік** *м. зневаж.* Нязграбная, неакуратная, знешне непрыемная асоба. *Німа мужука́, ну й аблезьліка ў хату я ні хачу,— вазьмі ды кармі яго, абглідай. З горыда там нейкій аблезьлік хадзіў к ёй, нешта ў іх ні зла́дзілыся. Во баба зь яе, аблезьлік якей-то, толька язык пы плічах цігаіцца бісь пірядышкі.*

**Аблеціцца** *зак.* Крыху нагрэцца (звыч. пра ваду). *З надворья ня пі вады, горла зразу зыкладзець, ніхай*

*пыстаіць, аблеціцца, ато дык зы заслонку пыстаў у кружкі.*

**Аблом** *м.* Паваленыя, паламаныя бурай дрэвы. *Хваціся, аблом валяўся пы лясу, гніў, я прівёз, во пыпкарю, пыпкарю, мыцірiял яшчэ ладный.*

**Аблыхаць** *зак. неадабр.* Абабегаць з мэтай пажывіцца. *Што ёй дзелыць, печ пракуріць і кытанула, за дзінь пыўдзяреўні аблыхыіць.* **Аблыханый** *дзеепрым. Ці ўсе ўжо ў цябе хаты аблыхыны, ай асталыся што-небудзь, айдзе ты ні пыбыла?*

**Аблягаць, аблягацца** *незак.* 1. Аблягаць. *Ні аблігай ны прясла, аб'едзіць.* 2. Змяншацца, спадаць (пра пухліну). *Пухліна ны ладоні дзяржыцца і дзяржыцца, ні аблігаіць. Ныга была рузбрюсянела ды самыга калена, ета сы ўчырашніга дня вопух стаў аблігацца.* **Аблежч, аблежца** *зак.* 1. Аблегчы. *Неба аблягло тучымі.* 2. Зменшыцца, спасці (пра пухліну). *Куды ты пойдзіш, ніхай вопух у ліцэ абляжыць, прістудзіш — ішчэ ікая халера прікініцца. Січас што, вопух аблёгся, на той нядзелі быў, як шапка.*

**Абманнік, абманыванніік, абманяннік, абманяльшчык** *м.*, **абманяла** *м.* і *ж.* Падманшчык. *Ні аднаму слову яго ня верь, ён абманьнік с абманьнікыў. Хто ж такому абманьніку паверіць, ён ні днаго слова праўды ні скажыць. Я дужа ні люблю абманывыньнікыў, ні хачу я зь імі і рызгыварівыць. Вот ня думыў я, што ты такей абмыняньнік будзіш, як ня стыдна дзеда пыдманівыць. Мала што ён табе нывярзець, ня слухый ты етыга абмыняльшчыка, дайжа адному слову ня верь. Ня веріш — ні нада, ён абмыняла первый маркі. Ні знаю, каторыя з вас луччыя абмыняла, абея хырашы, адна другой ні пыткычаіця.* **Абманніца, абманыванніца, абманянніца, абманяльшчыца** *ж. Ой ты, абманьніца дзеўка, нешта ты ня тоя гаворіш, Мішка ўчора нікуды ні хадзіў. Ня думылі мы, што ты будзіш тыкая абманывыньніца. Вот табе на, другая абмыняньніца чышчы Тонічкі. Чаго ты ўрадзілыся еткыя абмыняльшчыца, знаіш жа сыма, што ніпраўда, а трілюдзіш пустоя.*

**Абмываннік** *м.* Той, хто абмывае, займаецца абмываннем. *Во глянь, абмуваньнік, сколька тут грязі астался, хут травою цірні як-небудзь.* **Абмываніца** *ж. Ты, абмуваньніца, уся чысьцінька аблілася, во пыглядзі ны свае боцікі.*

**Абмятаннік** *м.* Той, хто абмятае, займаецца абмятан-

нем. *Ты ж, абмітáньнік, хуць усякыга сьміцьця ні мяці ў ячмень. Памяніш.* **абмятаннічак.** *Во ўзяўся абмітаньнічык, стыряцільный мальчык.* **Абмятанніца** *ж. Цябе толька і нынімаць у абмітаньніцы, работа будзіць кіпець.*

**Абмятлёвываць** *незак.* Абшываць, абкідваць краі адзення, тканіны. *Толька села абмятлёвывыць, бягіць Зінка з рожыю пышыптаць, ну айдзе ж ты аткажыш, пакуля пышыптáла, рыспрасіла пра Колю — і цёмна.* **Абмятлёвывацца** *незак.* Абшывацца, абкідвацца (пра краі адзення, тканіны). *Ня дужа ў цябе красіва абмятлёвывыіцца, ты глядзі, каб ніткі роўнінька ішлі.* **Абметляваць** *зак.* Абшыць, абкідаць краі адзення, тканіны. *Хырашо було б і абмітлювáць сяньня, заўтря большы работы будзіць. Чуць к цёмныму абмітлювала, ета зразу кажыцца, што нечыга дзелыць, а работы многа.* **Абметлявацца** *зак.* Абшыцца, абкідацца (пра краі адзення, тканіны). *Пыдаждуць тваe крайкі, абмятлю́юцца, бульба — большы пільныя работа, марозік цісканець і прыпала.* **Абметляваный** *дзеепрым. Ніз абмітлювáный, а большы я ні пасьпела нічога зьдзелыць, дадзелывый сыма. Нічога тут ні абмітлювана, што ты трілюдзіш пустоя.*

**Абмурзаціць** *зак.* Зрабіць мурзатым. *Сам сябе абмурзáціў і ходзіць.* **Абмурзаціцца** *зак.* Зрабіцца мурзатым. *Як абмурзацюцца, іх ні атмуваць — ацскрібаць нажом нада, пляйсьціры адзьдзіраць засохлыя.* **Абмурзачаный** *дзеепрым. Сідзяць з ложкымі абмурзáчыныя, у кулеш у нейкій вымызыны.*

**Абнаравіць** *зак.* Упадабаць. *Нейкій сьвітазерскій тваю Зойку абнырáвіў, ды крепка, ці ні к свадзьбі ў іх ідзець дзела. Тута ты сабе абнырáвіш дзеўку.*

**Абніманнік** *м.* Той, хто абдымае. *Пашлі нашы абнімáньнікі, дужа вясёлыя хлопцы.* **Абніманніца** *ж. Ну пойдзім ужо, абніманьніцы, посьлі дыцалўіціся, Паўлік машыну заводзіць.*

**Абныкаць** *зак.* Абысці, заглядаючы ў розныя мясціны, шукаючы што-н. *Увесь двор абны́кыў, і айдзе тэй сьвярдзёлык дзеўся — ні знаю.* **Абныканый** *дзеепрым. Тута ўсё кругом абны́кына, я знаю, раз Мікіпырёнык пубуваў.*

**Аборкавый, аборашный** *прым.* Атрыманы з аборка (пра сена). *Я таго прішоў, што аборкывыга сена німа, а адным лугавым ні дакормімся. Аборышныя сена тожа ўсякыя буваіць, адно ядуць — аж хвытаюць, а другоя папорюць, папорюць і атойдуць.*

**Абпарыць** *зак.* Апарыць. *Ні знаў, што кіпяток, лінуў ны ладонь, аппáріў, уся кожа уздýлыся, нічога ўзяць нілізя.*

**Абпетаваць, абпетаць** *зак.* Моцна пабіць. *Тэй пыдгыварію, дык яго пупалі ны Слыбадзе і крепка аппетывылі. Хацелі аппетывыць, каб ня ўцёк, ладна пупала б. Ня слухыіць і ня слухыіць, што ні скажу — зубы скаліць, дык я зы тряпку ды пы плічах, крепка аппетыла. Пабегый большы, пабегый, ні аппетылі, дык аппетыюць, ну тады ні жалься і ні склімі.* **Абпетавацца, абпетацца** *зак.* Моцна пабіць адзін аднаго. *Ці доўга такім бізгалоўцым аппетывыцца, толька што рызгывáрівылі, а ўжо ні пыладзілі за нешта. Ты ўжо луччы ні звадзі чарцей, ато ім нядоўга, зывядуцца і ўзноў аппетыюцца.* **Абпетаваный, абпетаный** *дзеепрым. Дырзáўся, што пашоў аппетывыный. Аппетывыныму стыдна будзіць іціць, а ты палучыш сваё, ты пряма сам просісься. Я зразу пачуствывыла, што нешта ня тоя, пріціх, сядзіць як вады ў рот ныбраўшы, а ета Анька скызала, што аппетыный прішоў.*

**Абпівала** *м. асудж.* Аматар выпіць як мага больш за чужы кошт. *А быў аппівала, хто пры яго добрыя слова скажыць.*

**Абраголіць** *зак.* Ашукаць. *Іна думыла, ніізьвесна як памогуць, а яны яе абраґолілі, узялі пілку і долыта.* **Абраголеный** *дзеепрым. Думыў усіх пиріхітріць, ажно сам астаўся абраґоліный.*

**Абразаннік** *м.* Абразальшчык. *Зірні, ны якім сучку етый абрізáньнік стаіць, сучок крэхніць і ён пыляціць, як мячык, уніз.* **Абразанніца** *ж. Сь цябе абычáйныя абрізаньніца, будзіш резыць усё пыдряд, што пуд рукý пупадзецца.*

**Абрасяніцца** *зак.* Абрасіцца. *Бягі луччы пряма, дарогыю, ну Лугуваткі абрысянісься, тама трыва быльшая. С краю між кусьцікыў пылазілі, нічога ні найшлі, толька абрысяніліся.* **Абрасяненый** *дзеепрым. Ужо ладна бралыся на зорьку, як яны пріцягнуліся абрысяніныя да поіса. Ня столька штаны, сколька рукáвы абрысяніныя.*

**Абскараджыванне, абскароджыванне** *н.* 1. Баранаванне вакол якой-н. перашкоды. *Пы разу праехыў туды і нызад, во і ўсё апскырáджывыньня, дайжа камлыжкі як ліжалі глутыріми, так і асталіся ліжаць. Якое ж ета апскароджывыньня, кылі дайжа нізаметна, што тут бырынá была.* 2. Забаранаваная ралля. *Апскыраджывыньня прі-*

*біла даждж*о*м, нада будзіць прігнаць борыны ушшурушы́ць. Апскароджывыньня зырасло травою, хуць узноў пашы.*

**Абскараджываннік** *м.* Той, хто барануе вакол якой-н. перашкоды, займаецца баранаваннем. *Апскыра́джывыньнікі коні пусьцілі з борынымі ны па́ріні́ні, а самі спаць зываліліся посьлі вічарінкі, во, крый бог, коні спужаюцца ды ўзаб'юцца ны кляцы!* **Абскараджываннiца** *ж. Як запутылыся апскыраджывыньніца, за пні гужамі зычапілыся, а коні мыладэя, ні стыяць, кідыюцца.*

**Абскараджываць, абскароджываць** *незак.* 1. Баранаваць вакол якой-н. перашкоды. *Ля́да вы́цірібілі, пыласу рызработылі, а бальшыя дубы асталіся, нескылька пнёў сядзела, так трудна було апскыра́джывыць, круціцца с канём. А што ж ты зьдзелыіш, прідзіцца апскароджывыць, ня кініш жа лапік між пнёў ніскароджыный.* 2. Выходзіць пераможцам пры баранаванні. *А што, Пецька меншы зы цябе, а ўсігда цябе апскыраджыіць, ён куды рухавейшый. Як ета табе ўдаецца Сеньку апскароджывыць, стыряіцца ён, стыряіцца, а памеріiць брігадзір — у цябе большы.* **Абскараджывацца, абскароджывацца** *незак.* 1. Баранавацца вакол якой-н. перашкоды. *Троху апскыра́джыіцца, туды-нызад праеду, пулума́ю камлы́жжа, каб дождж прайшоў, ляхчэй ба скырадзілыся. Відзіш, як у цябе апскароджывыіцца: с аднаго боку праехына борынымі, а з другога як ліжала пахыта, так і ляжыць.* 2 *іран.* Празмерна старацца пры баранаванні. *Ня дужа Мікілай станіць апскыра́джывыцца, ён ня с тых, ні пірярьвецца. Я знаю, як вы там апскароджывыліся пут кустамі ў цяньку.* **Абскарадзіць** *зак.* 1. Забаранаваць вакол якой-н. перашкоды. *Пакуля я нукруціўся між пнёў, пакуля апскырадзіў іх, і сам намучыўся, і коні нумурдува́ліся. Па тройкі зыкладуць, дык яны за́ дзінь нівісь якей кусок апскародзюць, хлопцы яны дужа прыцаўнэя, самі пірякусюць, коні троху скубануць і ў борыны.* 2. Выйсці пераможцам пры баранаванні. *Мы вашых апскырадзілі у два шчоты.* **Абскарадзіцца** *зак.* 1. Забаранавацца вакол якой-н. перашкоды. *Там нямножка асталыся, ураньні апскародзіцца.* 2 *іран.* Празмерна пастарацца пры баранаванні. *Вы тама хвацілі, апскырадзіліся, лежучы пыд бярёзкымі, можа, вам мухі дужа мішалі.* **Абскароджаный** *дзеепрым. Тама места нізкыя, сыроя, ну ўсе аборычкі аппахыны акуратнінька, апскароджыны.*

*Кругом апскароджына, а тута кусок кінулі і кінулі нівісь на што.* **Абскарадзёмшы** *дзеепрысл.*

**Абсям'іцца, абсем'яніцца** *зак. жарт.* Абзавесціся сям'ёй, ажаніцца. *Во будзіць чуда, калі Мішка апсям'іцца. Ці ня думыіш ты апсім'яніцца, нешта дужа ласа ны Матруніну дачку пыглідаіш.*

**Абтрапаць** *зак.* 1. Ачысціць ад кастрыцы (ільновалакно). *Цяперя і ці сеіць хто тэй лён, а раншы, бувала, самнеш, аптрепліш і прядзеш чуць ня ўсю зіму.* 2. Абнасіць, абабіць краі ў адзенні. *Ён жа пінжачок яшчэ ня дужа выціртый, ныдзівацъ ба можна, а рукавы аптріпаў, ні к чорту годны.* 3 *перан. неадабр.* Абгаварыць. *Ізыкі, як хвасты у сарок, аптреплюць каго хочыш кругом.* **Абтрапацца** *зак.* 1. Ачысціцца ад кастрыцы (пра льновалакно). *Ну кінь, ніхай пыляжыць жмуток, другім разым аптрепліцца.* 2. Абнасіцца (пра адзенне). *Аптріпаўся, як старіц якей, ці ты пўтнію адзежыну ня можыш купіць ці справіць. Штаны зьнізу аптріпаліся, худзь ба махры падрезыў.*

**Абтропак, атропак** *м.* Рызман. *Пад дождж якей аптрёпык накінуў на плечы, тэй і ладзін, ці к табе хто прігля́дывыцца будзіць. Пысыбярі аптрёпкі, с краічку пылажы на сенцы наверьх, будзіць тряпышнік ехыць і здасі. У такім атрёпку дайжа к тубуну стыдна йціць. Ляжыць вун куча атрёпкыў, выбірь што-небудзь пыд гылаву. Памяніш.* **абтропачак, атропачак.** *Ну пайдзі там якей-небудзь аптрёпычык узьдзень, ці ты ж будзіш у гной путную адзёжыну гамзіць. Атрёпычкым накрыйся і пірібягіш, тут нідалёка.*

**Абтропыш** *м.* 1. Абадранец. *Дужа нада Куліныий дачке аптрёпыша зяцім сабе брацъ. Ходзіць аптрёпышым, усё дно як ня можыць путнэя адзёжыны справіць.* 2. Рызман. *А многа ў мяне ўсякіх аптрёпышыў выляіцца, прінуціць ніяк ні сыбяруся.*

**Абшчыгіляць** *зак.* Пераўзысці ў майстэрстве, здольнасцях. *Пятрок апшчыґіля́іць цябе ў два шчоты, ён прыварней зы цябе.* **Абшчыгіляный** *дзеепрым. А што я гыварію, што прідзіш апшчыґіля́ный, стыдна цяперя.*

**Абшыванніk** *м.* Той, хто абшывае, займаецца абшываннем. *Ідзі ты, апшыва́ньнік, с такою работыю, я луччы зынясу каму-небудзь, дык пы-чылавечыску зьдзелыюць.* **Абшыванніца** *ж. Ты ныстыяшчыя апшываньніца, зьдзелыла, як у сапожный, можыш дайжа зыказы брацъ.*

**Абязножыцца** *зак.* Абязножаць. *У Праскоўі даўно балелі ногі, усё, бувала, жаліцца, а цяперя саўсім абязножылысь, хаты ня можыць піряйціць.*

**Абясхлебіць, абясхлебіцца** *зак.* Спажыць увесь хлеб, часова застацца без хлеба. *Неік абясхлебілі, нада, знаць, пресныя што-небудзь сьпеч. Чаго ж ты етык абясхлебілыся, пыслала б хлыпцá у мыгазін, ніхай ба купіў.*

**Аваўчэць** *зак.* Зрабіцца нелюдзімым, азвярэць. *Адзін, седзічы ў хаці, і аваўчэць можыш. Нешта ён зы пасьледнія ўремя аваўчэў, зьдзелыўся, як зьверь, ні пыдыйдзі, ні слова ні скажы.*

**Адбрык** *м. неадабр.* Грубае адмаўленне. *Ого, якей адбрык, ні пуцступайся, рыспáшыць ён табе. Мне тваé адбрыкі ні ныравюцца, чым ты зынятый? — нічым, і можна було паможч Сярьгею, ён жа табе ішчэ свой.*

**Адгрымець** *зак. перан.* Набурчацца, скончыць бурчанне. *Адгрімеў, паплёўся некуды с касою, усё раньня хадзіў і бубнеў. Нешта яны сяньня рунувáта адгрімелі, раншы яны большы сваé песьні рызвадзілі.*

**Адгрымячыць** *зак.* Надаваць кухталёў. *Івана зы яго дýрікі даўно нада було адгрімячыць. Ты свайго, знаць, крепка адгрімячыла, я ажно на вуліцы чула нейкыя бух, бух.* **Адгрымячаный** *дзеепрым. Ты хочыш пайціць адгрімячыный і палучыш сваё, так палучыш, што задзівісься.*

**Адгультаіць, адгультаіцца, адгультайнічаць, адгультайнічацца** *зак.* Налодарнічацца. *Хвáціць, сколька адгультáілі, як пріехылі ў маі, так і прыкычаліся у цяньку цэлыя лета, помышчы ніякія ні було. Штоб столька ўремя адгультáіцца, нада було ні глядзець, а пряма гываріць: тоя зьдзелый, ета, а ты слова скызаць быялася. Жджы ты, пакуля ён адгультайнічыіць, тады ён кышанýць пойдзіць. Ніхто столька ні адгультайнічыўся, як твой Пецька, скажы, што ён зьдзелыў палезныя зы два гады, сядзеў ны тваёй шыі і большы нічога.*

**Адгуляцца** *зак.* 1. Раздабрэць, паправіцца без работы. *Адгуляўся за лета, як сьлімянёк, стаў. Коні адгуляліся, што сьлімяньнё, ня дужа у аглоблі пыставіш.* 2. Закончыць гульню (у куля, у ножыка і інш.). *Мяне ніхто ні абгýлівыў, я як стану, так зы адзін раз і адгуляюся.*

**Адгыцаць, адгыцацца** *зак. неадабр.* Набегацца, абабегаць з тупаннем. *Німала адгыцыла зы два гады, айдзе іна толька ні пыбылá, усюдых нісмашна, нада самой зырыбляць. Ні знаю, калі етыя мальцы адгыцыюцца.*

**Аддалікатнічаць, аддалікатнічацца** *зак. іран.* Перастаць абыходзіцца далікатна. *Дужа панельна Пітрачонык лі яе хадзіў, столька аддылікáтнічыў, што ні прідумыіш большы, і чаго-то ў іх рызлáдзілыся. Яны ўжо, памойму, ні разу ні аддылікатнічыюцца.*

**Адданый, аддатый** *дзеепрым.* Аддадзены, вернуты, заплочаны. *Аддáный доўг у кырмані ня мýліць. Такей жадобіна, што адданыя гатоў другей раз узы́скывыць. Ён, хочыш, і аддáтыя грошы спросіць. Аддатыя грошы ня верніш, нада було глядзець, што бяреш.*

**Аддзіраннік** *м.* Той, хто аддзірае, займаецца аддзіраннем. *Ты ж вазьміся, адзьдзірáньнік, дзьвюмя рукамі збоку ды пыцягні хырашэнька, яно й ацскочыць.* **Аддзіранніца** *ж. Во табе ў памошнікі другая адзьдзіраньніца, удзьвюх вы мігым спрáвіціся.*

**Аддзогаць, аддзогацца, аддзугаць, аддзугацца** *зак. неадабр.* Нагойсацца, надурэцца, напрыгацца. *Пастой, пыдажджы, пакуля яны адздзогыюць,— крікні, каб уняліся з дзогыньнім, ато будзіш любувацца. Увесь дзень насіліся, тулувáліся, цёмна стала, дык тады адздзогыліся, во айдзе німа спакою мальцым, дык німа. Сколька яны за ету нядзелю адздзýгылі, я табе пряма скызаць ні магу, што зь іх тварілыся. Ні піряжджэш, пакуля яны адздзугыюцца, бярі прут ды прутым гані, угаворы ім ні памогуць.*

**Аддзыгаць, аддзыгацца** *зак. іран.* Закончыць беганіну з карыслівымі намерамі. *І натура тыкая, і ўхватка, што йна ні разу ні адздзы́гыіць, усё будзіць насіцца — а можа, пыдлытáцца удасца айдзе. Нешта ня веріцца, што Кулінойна так скора адздзы́гылыся. Ня столька ім урэмя нада адздзыгыцца, ім цылíком усяго дня ні хвытáіць.*

**Аддзяжыць** *зак.* Пабіць, адлупцаваць дубцом, дзягаю. *Я свайго ўчора адзьдзя́жыла зы балыўства. Дуроў зь іх многа, адзьдзяжыць ніхто ні найдзіцца.* **Аддзяжаный** *дзеепрым. Сяньня ты дажджэсься, што пойдзіш адзьдзяжыный, пы ўсяму відна.*

**Аддручыць** *зак.* Аддубасіць, пабіць палкаю. *Такую шкáріду нада було дайно аддрю́чыць. Цябе каб аддрючыў раз ды другей хырашэнька пы рібрах, ты б пыспыкайнеў.* **Аддручаный** *дзеепрым. Ня хочыш так паслухыць, дык аддрю́чыныя пыбягіш пыцскакыючы, і капрізы уміг айдзе дзенуцца.*

**Аддрынчэць** *зак.* Перастаць бразгаць, дрынчаць. *Што*

*яны там зывялі нейкыю кузьню, ніяк ні аддрынчáць,— брязкыюць, што ны вярсту кругом чутна.*

**Аддубырываць** *незак.* Адстаўляць, адтапырваць. *Што ты рукі аддубы́рівыіш, так нікрасіва. Во як вецір сарочку аддубырівыіць!* **Аддубырывацца** *незак.* Адстаўляцца, адтапырвацца. *Зыпáзыха аддубы́рівыіцца і сьперіду, і з бакоў: яблык с пуд ныпхаў.* **Аддубырыць** *зак.* Адставіць, адтапырыць. *Руку аддубы́рій і дзяржыць. Каўнерь аддубыріць і ходзіць, думыіць: дужа модна.* **Аддубырыцца** *зак.* Адставіцца, адтапырыцца. *Нечыга пыныклыдáў, кырманы аддубыріліся, аж атвісаюць,— пытарьвець, усё ўсякыя так піхаўшы.* **Аддубыраный** *дзеепрым. Ны сьпіне пінжак ляжыць ладна, а барты аддубы́ріны нікчомна.*

**Аддудукаць, аддудукацца** *зак.* Нагаварыцца, закончыць ціхую неразборлівую гаворку. *Ні знаю, пра што яны тама гыварілі, ну доўга нешта адна адной дыказывылі і ўсё ў грудзі прібівáлі, ужо ладна цямнела, як яны аддуду́кылі. Старыя падругі сыйшліся, цяперя няскора аддудукыюцца, пакуля ўсе новысьці адна другой пірікáжуць.*

**Аддыханне** *н.* Адпачыванне. *Доўгыя ў вас аддыхáньня пулучаіцца, нада б жывей пышавелівыцца, а так вы нядзелю хадзіць сюда будзіця.*

**Аддыханнік** *м.* Той, хто адпачывае, знаходзіцца ў адпачынку. *Етыя аддыхáньнікі як сядуць, так да беда і ні пыдымаюцца, тáры ды бáры і сонца нівісь айдзе.* **Аддыханніца** *ж. У кусьцікых тэя аддыханьніцы, хлопцыў абгыварівыюць. Нешта ж аддыханьніц нійдзе ня відна, ці ні пашлі яны двору.*

**Аджаніхаць** *зак. перан.* Адлупцаваць за пагулянкі (пра дарослае дзіця). *Каб вярёўкыю аджжыніхáў, тады б ён забыў дурікі. Аджжыніхала сяньня сваю, ладныю лукку дыла.* **Аджаніхацца** *зак.* Спыніць заляцанні. *Ці ета праўда, што ты ўжо аджжыніхáўся? Варычкіна аджжыніхалыся, у дваре сядзіць, нянчыць.* **Аджаніханый** *дзеепрым.* Адлупцаваны. *Січас ён будзіць аджжыніхáный, толька бацька прідзіць двору.*

**Аджвянькаць, аджвянькацца** *зак. неадабр.* Перастаць дакучаць, назаляць размовамі. *Пры таго аджжвя́нькыюць — пычынаюць пра етыга, ныдыя́длыя бабы. Луччы ні чыпацца і ня трогыцца, ня столька таго пызычáньня, сколька аджжвянькыюць посьлі. Мархва ні ў век ні аджжвянькыіцца, ета ўжо тыкая пріpода, па цёткі ўся пышла.*

**Адзадавацца** *зак.* Перастаць выхваляцца, важнічаць. *Аддзыдываʹлыся сваімі дычкамі, маўчыць. А скора аддзыдаецца, пройдзіць трошку ўремя і кончыцца яе зыдываʹньня.*

**Адзадзі** *прысл.* Ззаду. *Яны нідалёка ат мяне аддзаʹдзі йшлі, нешта адзін другому рысказывылі і зыліваліся хохытым.*

**Адзваніць** *зак. перан. іран.* Скончыць балбатню. *Ета толька што пільныя работа, дык рызыйшліся, ато яны, кажыцца, і за ныч ба ні аддзванілі,— і аткуль у іх бярецца ахота былбытаць!*

**Адзнібець, адзнібецца** *зак.* Перастаць дакучліва хныкаць, ныць. *Ці ён калі адзьзьнібіць, ці не, усё кавэнчыцца, усё яму баліць, мучыіць яго нешта — такоя ніпуцьцё зыдалося, што большы некуды. Нешта зьнібіць, як маленькій дзіцёнычык, нідылігаʹіць яму, як малюʹтычку, калі ўжо ён адзьзьнібіцца.*

**Адзызнуць** *зак.* Намерзнуцца, накалецца. *Мы думылі, цёпла, туды-нызад ацскочым, скорінька вернімся, а тут ліхалецьця ўзьнялося, мы ў пінжачыʹшкых трясьліся, трясьліся, дый тресца большы некуды, во аддзыʹзьлі, дык аддзызьлі.*

**Адзыкаць** *зак.* 1. Перастаць гізаваць. *Скот ужо аддзыʹкыў, цяперя можна паʹсьцівіць, ета ў зык трудна.* 2 *перан. іран.* Перастаць бегаць, дурэць. *Аддзыкылі яны, тэя козы, у дваре сідзяць, адна замужым, а другая гатуіцца к свадзьбі.*

**Адкабызіцца** *зак.* Перастаць капрызіць. *Мутрunoйна тыкая зыдылаʹся з роду, іна ні ў век ні аткыбызіцца. Аткыбызяцца і яе дочкі, троху пакрівюцца, а тады ўремя пройдзіць і будуць глядзець, каб хто-небудзь узяў.*

**Адкавэнчыць, адкавэнчыцца** *зак.* Адмучыцца, намучыцца. *Ня будзіш бярежца, пыляʹдзіш, аткавэнчыш. Рану дужа глубокыю зьдзелыў, косьць пасек, крепка аткавэнчыўся з нагою, і трудзьдзень заробіць нада, і лі двыра што зьдзелыць, а ён цэлыя лета прыгыіць с кыстылём.*

**Адкаенчыць, адкаенчыцца** *зак.* Адмучыцца, намучыцца. *Косьціку прішлося здорыва аткаенчыць, апёкі — знаіш, якоя мучэньня. Пы сваёй глупысьці аткаенчыў, ці ён ня мог пыбярежца, як другея хлопцы. Аткаенчыцца — тады поймиць, як маткі ня слухыць, яму ж разумныя што скажыш, дык станіш плыхая.*

**Адкаіванне** *н.* Прывядзенне ў прытомнасць. *Луччы*

*атыйдзі ты і атлезь сы сваім аткáівыньнім, біс твае помышчы абойдзіцца.*

**Адкалантырыць, адкалантырыцца** *зак.* Выбегаць усё навокал, набегацца. *Сколька ж яны аткыланты́рілі за етыя месіцы, я б, кажыцца, за цэлый год столька ня вы́бігыла, а яны ўсюдых пубувалі. Ні знаю, калі ўжо іна аткылантыріцца, калі яе душычка уціх якей-небудзь найдзіць.*

**Адкалець** *зак.* Намерзнуцца, накалецца. *Лёхкія ныпряткі ўзялі і паехылі: што нам, цёпла,— а хыладзіна як узілася, веціp як узбушувáўся, што яны аткалелі там, большы некуды як аткалелі.*

**Адкальжэць, адкальчэць** *зак.* Намерзнуцца, накалецца. *Зіму аткальжэў, дык хочыш, каб і ну другую біз валінык астацца. Ні надзеніцца — аткальжэіць, тады ніхай сам ны сябе абіджаіцца. Ні прідумыць, сколька мы тама аткальчэлі, такую хыладзіну пірінясьлі. Ніхай пыкапошыцца, аткальчэіць, дык сам прібягіць, і звать ні нада будзіць.*

**Адкалясіць** *зак.* Набегацца, наездзіцца, пабываць у шмат якіх месцах. *Як у іх толька ногі ні зыбыляць столька аткылясíць. Ны лісапетых паехылі, сяньня яны аткылісяць німала.*

**Адкамсаць, адкамсіць** *зак.* Пабіць, надаваць кухталёў. *Цябе даўно дзеўкі зьбіраюцца аткымсáць, што ты ў Шыркі ўсё бегыіш. Матка яго аткамсіла, каб ні дурювау, дык што яму, троху пыпішчэў і ўзноў зы сваё.* **Адкамшоный** *дзеепрым. Ён сяньня пыбягіць аткамшоный, так яму ні абойдзіцца.*

**Адканархаць** *зак.* 1. Перастаць канькаць, дакучаць. *Ці ты калі аткынáрхыіш зь естымі канхветымі, ці бісь цірісьсядзельніка ні абойдзіцца? 2 перан.* Памерці ў пакутах. *Аткынархыла Ганна, столька іна атмучылася, ацстрыдала!*

**Адканіцеліцца** *зак.* Наваждацца. *Там, кажыцца, і простыя дзела було, а пакуля мы аткыніцеліліся: то бумажкі ні хвытаіць, то патпісына ня етык — дык мы разоў пяць туды зьбегылі.*

**Адканькаць** *зак. неадабр.* Перастаць надакучліва, доўга прасіць. *Аткáнькый дык атканькый, як у яго язык ні зыбалеў. Аддай ты ім тэя канхвеціны, ніхай яны ўжо атканькыюць, сьціхнуць ніхай.*

**Адкапашыцца** *зак.* Напоркацца, спыніць порканне.

*Ты пыдажджы, пакуля яны аткапошуцца ды заснуць — ныдыядуць сы сваім ёрзыньнім.*

**Адкаравіць** *зак. перан.* Збэсціць, нагаварыць на чалавека непрыемнасцей. *Ні за што аткыря́вілі чылавека, ну і ў яго ж цярьпеньня: слова ні прыраніў.* **Адкараўлены** *дзеепрым. Луччы палы́ атреж і ацступіся, троніш чорта — ну й пойдзіш аткыря́ўліный.*

**Адкарожыцца** *зак.* Перастаць капрызіць. *Большыя мае былі спакойныя, нічога дзеці, а етый пакуль аткарёжыцца, ныдаесьць, спаць ня ўложыш, ня́нчы яго, пакуля засьнець.*

**Адкархаць** *зак. перан.* 1. Намучыцца ў цяжкай хваробе. *Атка́рхыў ён етый месіц, застуда пышла пы ўсяму целу, і ў бані жаріўся, і я чым толька ні ныцірала, чуцьчуць прайшло троху.* 2. Памерці. *Пірідыва́лі сьлёзкыйцы, што і Пракоп аткархыў, схувалі нідаўна.*

**Адкасціць** *зак.* Паўшчуваць вельмі моцна, груба. *Дужа крепка яго аткасьцілі, усё пымянулі. Аткасьціць цябе Гапычка калі-небудзь, іна даўно абішчаіць ды цябе дыбрацца.*

**Адкаўкаць** *зак.* 1. Перастаць мяўкаць, намяўкацца. *Прівыкла на печы спаць, а сяньня я ўзіла ды выкінула за дзьвері: ідзі ў каморычку, мышы тама пяшком ходзюць,— што йна атка́ўкыла пыдзь дзьвірямі, што ныпрасілыся ў хату.* 2 *перан. іран.* Наплакацца, перастаць плакаць. *Аткаўкыіць, пакуля засьнець, дужа ніспакойный дзіцёнык.* 3 *перан.* Памерці. *Я б ужо сыма хацела аткаўкыць, каб ім ні ныдыіда́ць.*

**Адкахікаць** *зак.* 1. Перастаць кашляць. *Ну калі ты ўжо аткахікыіш, ажно слухыць ныдаела, усё кахі ды кахі.* 2 *перан.* Памерці. *Старому ўжо аткахікыў дый ляжы спакойна, ні ныдыідай нікому.*

**Адкіданнік, адкідываннік** *м.* Той, хто адкідвае, займаецца адкідваннем. *Крепка ўзяліся аткіда́ньнікі, яны табе ўвесь сьнег раськідыюць ды заўтріка. Зымаріліся аткідывыньнікі, сідзяць, гамонюць. Памянш.* **адкідannічак.** *Што, аткіда́ньнічык, гуляць луччы, як работыць?* **Адкіданніца, адкідываnніца** *ж. Другая аткіданьніца як прідзіць на помышч, вы тую мінуту справіціся. Прітна аткідывыньніцы ўзя́ліся за дзела.*

**Адклыпаць** *зак.* 1. Адхадзіць, нахадзіцца павольна, кульгаючы. *Аткль́пыла я сваё, сяджу во на печы: мла́чшыя пріходзіць, унучкі зыбігаюць, вядро вады прінясуць.*

2 *перан.* Памерці. *Старый як атклыпыіць, тады спакоін, нічога яго ні трівожыць.*

**Адкляпаць** *зак. перан. неадабр.* Перастаць балбатаць, плявузгаць. *Сколька Мітрыхвыняты ны яго аткліпа́лі, каб ты толька чула, ета во пасьледнія ўремя трошку ўняліся.*

**Адкрэмзаць** *зак.* Адрэзаць тупым нажом, абы-як. *Ты яму толька дывай, ён што хочыш аткремзыіць, ты і ў рукі тады ня возьміш.* **Адкрэмзацца** *зак.* Адрэзацца тупым нажом, абы-як. *Ну, можа ж, як аткремзыіцца, реж, такей жа кусок ня будзіш перць.* **Адкрэмзаный** *дзеепрым. Во кусок аткремзыный ляжыць, бярі.*

**Адкукобіцца** *зак.* Навазіцца, намучыцца. *Сколька іна з малымі аткукобілыся: сьпірва адзін прустудзіўся крепка, успаленія лёхкіх пычалося, тады другей ножку злумаў — вазіся, хваціла ёй.*

**Адкуксіцца** *зак.* Перастаць плакаць, капрызіць (пра малое дзіця). *Як аткýксіцца, тады пыспыкайнеіць, а січас, можа, болі якея чýствыіць, трошку нідылігáіць штонебудзь.*

**Адкулажыцца** *зак.* Распагодзіцца пасля хмурнага надвор'я. *Трі дні зьбіраўся дождж: вот-вот пойдзіць, пряма вісеў, а сяньня-тыкі аткулáжылыся, відна, станіць харошыя пагода.*

**Адкуламесіцца** *зак.* Натаўчыся ў гразі. *Нійдзе ні ступіць, ні прічаліцца, пакуля мы тама аткуламесіліся, хваціла з нас, доўга будзім помніць бызар.*

**Адонне** *н.* Подсціл пад складзеным сенам. *Стог зыбралі, троху адоньня астáлыся, каб ны кані пад'ехыў ды пысыбраў. Памянш.* **адонніка.** *Адоньніка ў сяніцы нада було прібраць, ніхай ба чысьцінька було.*

**Адпалавініць** *зак.* Узяць значную частку, хапануць. *Такей чылавек, што атпылавініць і будзіць с табою гывäріць як ні у чом ні бувала. Сала ўжо атпылавінілі, пасьпелі.* **Адпалавінены** *дзеепрым. Пыгляджý — жыта атпылавініна, а там жа мех стыяў пудоў на шэсьць.*

**Адпаска** *ж.* Пасьба за іншых. *Сяньня ў нас атпáска зы Кындратывых, мы прасілі, каб яны ў скрысеньня зы нас пасьвілі, нам нада було пырысят везьць.*

**Адпасць** *зак.* Спасці (пра мароз, гарачыню). *Калі ўжо етыя марозы атпадýць, жáрюць і жарюць столька ўремя, і печ нівісь сколька дроў пыжырáіць, і скаціні халодна. Ніхай ба ўжо атпáла трошку жыра, дыхыць нечым, а ж жары ўсігда палёты бываюць.*

**Адпацець** *зак. перан.* Скончыць цяжкую працу. *Атпацелі ны стыгах за ета ўремя, ці лёхка вілкымі ўсё мыхай і мыхай.*

**Адпетушыцца** *зак.* Перастаць задавацца, выстаўляцца. *Скора атпітушыцца, во пад'едзіць Кірей, і ён як шоўкывый станіць. Ты пыдажджы-ка, пакуля яны атпітушацца, ішчэ ні тыкая указэя будзіць.*

**Адпілікаць** *зак.* Скончыць іграць. *Во Стэшкін сын атпілікыў сяньня вічарінку, Машычка была, дык ён ужо стыряўся, стыряўся, дый стыряцца большы некуды.*

**Адпіліць** *зак. перан.* Перастаць лаяць, грызці, ушчуваць. *Атпілілі яго, пакуля ўмесьці жыў, стáрыя дужа бурклівыя, ці ёсьць прічына, ці няма, будзіць грімець.* **Адпілёмшы** *дзеепрысл. Пыглядзім, атпілёмшы, іна, ета палка, ці ні патрескыныя. Ат кымля даўно атпілёмшы, нічога ўжо ні замеціш і ні праверіш. Атпілёмшы аднаго, зу другога бярецца.*

**Адплутухаць** *зак.* Адблытаць. *Нешта цялёнык с кустоў ні выходзіць, можа, зукруціўся, нада схадзіць атплутухáць. Ні атплутухаіш тута нічога, вазьмі нож ды атреж.* **Адплутухацца** *зак.* Адблытацца. *Улезла ў лазу, ні магу атплутухáцца, ногі, як зьвязыныя, а тута яшчэ жавіньнік коліцца. Не, сам ён ні атплутухаіцца, ідзі ўжо, пымагі троху.* **Адплутуханый** *дзеепрым. Я думыў, ён аттуля ня выбіріцца,— не, гляджу, вылазіць атплутухáный.*

**Адпаставаць, адпаставацца** *зак.* 1. Перастаць паставаць. *Було ж во такоя дурноя: дзьвінáццыць нядзель ня есьць скаромныга, ні брацъ у рот мылыка, а тады ўжо як атпостыюць, ныядуцца—кычаюцца ж жывытамі. Ну ўжо, бувала, як атпостыюцца, тады ныідáюцца ўволю.* 2 *перан. жарт.* Нацярпецца нястачы. *Сёліта ты ладныга атпостыіш, скора твыя ніныглядныя пакоціць. Ці ўжо атпостывыўся? — глядзі, скора яшчэ адзін астанесься.*

**Адпракудываць, адпракудзіць, адпракуднічаць** *зак.* Навычвараць. *Ну й атпракýдывыў тут Аксюцін сын, увесь чысьцінька у дзеда пашоў. Лыўрінковы хлопцы і Санькіны сыны зьехыліся, цяперя яны атпракудыюць, ім тута раздольля. Іх была ладныя кынпанія, што яны атпракýдзілі за лета, кажныю ноч ня тоя, дык другоя утворюць! Разьві яны тут мала атпракýднічылі?*

**Адпульгаць** *зак.* Адшпурляць, нашпурляцца. *Во каб ты пыглядзеў, сколька яны атпульгáлі камлыжжым адзін у другога!*

**Адпурхаць** *зак.* Набурчацца, перастаць злосна бурчаць. *Нешта хлопцы у пуні ні пы яго зьдзелылі, прішоў, як рыськіпеўся на етых хлопцыў, а тады атпурхыў і пашоў у лес с тыпаром.*

**Адпярхаць** *зак.* Накашляцца, перастаць кашляць. *Во атпірьхаў посьлі купаньня, ета ж нада було надумыцца такою хыладзінью лезьць у ваду.*

**Адсакатаць, адсакатацца** *зак. перан. іран.* Перастаць балбатаць. *Унілася трошку Кулініна дычка, ацсыкытала, так ужо ў яе язык ходзіць, места яму ніўдзе найціць ня можыць. Есьлі зывяліся, няскора ацсакочуцца, ты іх ізыкі сам знаіш.*

**Адсіпець, адсіпецца** *зак. неадабр.* Перастаць злавацъ, стоена выказваць незадаволенасць. *Ходзіць і ўсё ўремічка скрозь зубы бубніць і бубніць, калі іна ацьсіпіць, што зь ёю тваріцца. Ніхай, пыцярьпі троху, скора яны ацьсіпяцца.*

**Адсклець** *зак.* Настыцца. *Ня хочыця слухыць, ня хочыця ныпрятывыцца — ацсклеіця, сяньня цёплыга ня жджыця, ужо сьняжынкі круцюцца, а к вечыру ніізьвесна што можыць быць.*

**Адсклімець, адсклімецца** *зак.* Нахныкацца, наплакацца, перастаць хныкаць, плакаць. *Нізыдашлівыя дзевычка, усё кавэнчыцца, ны жывоцік доўга пыказывыла, тады зубкі резыліся, ні знаю, калі іна ацскліміць. Табе б ужо ацсклімець пыра, квокчыш, як малютычка якей. Калі ты ў мяне ацскліміську, горя ты ны маю гылаву.*

**Адскусць** *зак.* Адскубці. *Нада ацскусьць трошку сена ац стога ды ўкінуць у сані. Нешта пыпрікарела к шубі, чуць ацскуб.* **Адскусца** *зак.* Адскубціся. *Пыцягні кряпчэй, можыць ацскусца. Відзіш, як яно ацскублыся с аднаго боку.*

**Адсланяцца** *зак.* Прабадзяцца. *Цэлыя лета ацслыняцца, такоя гырячыя ўремя, айдзе яго совісьць. Було за кім, дык і ацслыняўся два месіцы бязь дзела.*

**Адсмегавацца** *зак.* Нагаравацца ў нястачы. *А ў каго дужа дыстаткі былі посьлі вайны, ці мала мы аціьсьмігуваліся аб адной бульбі, а каровы ж ні було.*

**Адсмурыжыць** *зак.* 1. Змякчыць трэннем, шморганнем (пра вяроўку). *Вярёўку хырашэнька ацсмурыж, іна пымякчэіць, луччы будзіць зыцягывыць.* 2 *перан.* Даць добрую праборку. *Тымарка узнала, што ты стыяў с Хадорінью дачкою, цяперя іна цябе ацсмурыжыць.* **Адсмуры-**

**жаный** *дзеепрым. Відна, што ацсмурыжыный явіўся, німа ныстраенія, як расстроіный.*

**Адстраміць** *зак.* Насарамаціць. *Тольки стреніць вас Аўдотычка, іна вас ацстраміць як нада. Ты іх ацстрамі хырашэнька, каб ні вярзьлі ўсякія лухты.* **Адстрамленый** *дзеепрым. Дыхіхікыіць, што пойдзіць ацстра́мліный.*

**Адстукатаць, адстукатацца** *зак.* Адгрукацца, перастаць грукаць. *Гылавень дужа крепка сьпіць, пряма як забітый, ну, ён лёг і заснуў, а Паўлюк прішоў, дывай ляпыць, што ён ацстукытаў, пакуль дубудзіўся. Ці ён тама ацстукочыцца, ці ўсё будзіць грюкыць?*

**Адсупаратываць, адсупаратывацца** *зак. жарт.* Перастаць супраціўляцца, упарціцца, натурыцца. *Ну-ка, ці ацсупура́тывыў? — цяпер я зы цябе пы-ныстыяшчыму вазьмуся. Нешта вы скора ацсупура́тывыліся, а я думыў, вас прідзіцца доўга угыварівыць.*

**Адсэндзіць** *зак. неадабр.* Наплявузгацца, скончыць плявузгаць. *Можна було пы грядкі бульбы прайціць, пакуля яны ацсэньдзюць. Слава богу, тыкі ацсэньдзілі, ніяк ні маглі рызыйціцца.*

**Адтаівацца** *незак.* Адмаўляцца, працягваць утойваць. *Дужа ні аттáівыіцца, што быў, чулкі тэя схваціў, страміла яго, страміла, большы некуды як страміла.*

**Адталаскаць** *зак.* Натузаць, добра пацягаць. *Іна доўга ні глядзела: аттылыскáла Вольгу, аттылыскала: во табе чужыя мужукі, пулучай. Даўно нада було аттылыскаць такога.* **Адталаскацца** *зак.* Натузацца, добра пацягацца. *Зывяліся, зывяліся і ладна аттылыскаліся, во табе й свае.* **Адталасканый** *дзеепрым. А ці ты ні знаіш, за што іна аттылыскáна, спрасі, можа, пыхваліцца.*

**Адтарабаніць** *зак.* 1. Аднесці хутка, жвава, з шумам. *Пашлі Сярёжку, ён уміг аттырыбáніць і нызад верніцца.* 2. Расказаць хутка, неразборліва. *Ня чы́кылыся, аттырыбаніла, што думыла, і села: рызьбірайціся.* **Адтарабаненый** *дзеепрым.* Аднесены хутка, жвава. *Што ты шукаіш, карзінкі даўно аттырыбáніны, ішчэ ўраньні.*

**Адтараніць** *зак.* Аднесці хутка, жвава. *Жыва аттырáнь бабі решыта, я нá дзінь брала, а яно цэлыю нядзелю выляіцца. К цёткі ён што хочыш аттырáніць, любую мінуту гатоў ляцець туды як на крыльліх.* **Адтараненый** *дзеепрым. Я думыю, айдзе йта тэй бязьмен дзіваўся, ажно ён ужо аттыранін.*

**Адтараторыць** *зак.* Расказаць паспешліва, хутка, не-

разборліва, нагаварыцца. *Нешта аттыраторіў і пашоў, яго ніхто ні пыняў. Калі ўжо вы тама свае трілю́ды аттыраторіця, скот ґвалту у пуні крічыць.*

**Адтарачыць** *зак.* Аднесці хутка, са спрытам. *Скажы Высілёвыму сыну, ён мігым табе што хочыш аттыра́чыць, пуслухмя́ный мальчышка.* **Адтарачаный** *дзеепрым. Ці ні ґ бабі ўжо аттыра́чыны клубочыкі, што пат крышыю віселі ны хаці?*

**Адташнаваць** *зак.* Набедавацца, наперажывацца. *Аттушнува́ў, пакуля карову ету піряжыў. Адарка бедныя аттушнувала, як прішло Стыхваныва пісьмо, айдзе ён пра жонку пісаў.*

**Адтопаць** *зак.* 1. Прайсці павольна, з намаганнямі. *Якей ні сла́бінькій, а вёрст восім аттопыў.* 2. Адхадзіць. *Я сваё аттопыў, сядзі цяперя на печы і ня ріпыйся, жджы, пакуля унук кружку вады пыдасьць.* **Адтопацца** *зак.* Скончыць тупанне, нахадзіцца. *Пакуля аттопыюся лі скыта, зымарюся, што большы некуды. Як ні аттопыўся, а сядзець жа ня будзіць, якоя ні хызяйства, усё нешта находзіцца зьдзелыць.*

**Адтоўч** *зак.* Натаўчы, налупцаваць. *Як аттаўкеш ладна, тады ён будзіць знаць, што ні нада ўлазіць ні ў сваё дзела. Такога ўжо ня дужа аттаўкеш, у яго ў сымаго сілы хвытаіць.* **Адтоўчаный** *дзеепрым. Пабег аттоўчыный, а каб ні пабег, ня столька було б.*

**Адтрахтаваць** *зак.* Адчаставаць. *Ці вы аттрухтува́лі сваіх гасьцей? Пакуля адных аттрахту́ю, тады другім пычынаю гатовіць, як натопыюся, дык і зы работу некылі брацца, некылі і сілы німа.* **Адтрахтавацца** *зак.* Адчаставацца. *Я і сыма ні знаю, калі яны аттрахтуюцца, і хырашо, што заехылі, хацелыся устреціцца, і ўремя ні мінуты свабодныя німа.* **Адтрахтаваный** *дзеепрым. Ідуць ат Кузьмы аттрухтува́ныя, давольныя.*

**Адтрубіць** *зак. перан.* Адбыць, марна затраціць час. *Аттрубілі цэлыю нядзелю зря, уремя пыціря́лі. Паехыць яно ня штука, ну баюся: аттрубіш і толку ня будзіць.*

**Адтрудзіцца** *зак.* Закончыць мучыцца; памерці. *Я відзіў, сколька ён аттрудзі́ўся з нагою, усё ны маіх вычах було. Аттрудзілыся бедныя, столька пірямучылыся, учора хувалі, пріiжджалі усе дочкі, а сын тута на месьці гатовіў.*

**Адтруніць** *зак.* Перастаць насмяхацца, кпіць. *Сколька над ім аттрунілі ку́дріцкія хлопцы, устрецюць яго: чаго*

*ты ні пріходзіш у сваты, Мархва даўно цябе жджэць, а ён думыіць і праўда.*

**Адтруняцца** *зак.* Налодарнічацца, набадзяцца. *Як табе ня стыдна столька уремя аттруняцца, стырікі адны стыряюцца, кідыюцца, а ты паліц ап паліц ні ўдаріш.*

**Адтужыць** *зак.* Набедавацца, насумавацца. *Крепка Пыраска пы свайму Зьмітраку аттужыла, што ж ты думыіш, пашоў і як у ваду кануў, ні слыху ні дыху ніаткуля німа.*

**Адтукаць** *зак.* Наўшчувацца ў злосці. *Што ўжо Адарка аттукыла ны свайго большыга, дык што яму, ці тукый, ці ня тукый, а раз убоіна урадзіўся, то да веку ні пірявўчыш.*

**Адтуляцца** *зак.* Перастаць бадзяцца, бяздзейнічаць. *Аттуляўся ўжо большы некуды, паплёўся сяньня с касою ну лужок,— хваціць, будзіць накошына.*

**Адтуняцца** *зак.* Набадзяцца. *Калі ты, чылавек, аттуняісься, калі ты падумыіш, што табе дзяцей гудуваць нада, а Хвенька адна ні рызарьвецца за ўсім зы ўсякім.*

**Адтупілічыць** *зак. жарт.* Адрэзаць (тупой прыладай). *Я табе што-небудзь аттупілічу, толька пупадзесься ты мне ў рукі.* **Адтупілічыцца** *зак.* Адрэзацца (тупой прыладай). *У мяне скарей аттупілічыцца.* **Адтупілічаный** *дзеепрым. Ага, злавіў, дывай шыю, с аттупілічынfamous гылавою многа ні ныбалыісься.*

**Адтурыць** *зак.* Адагнаць бесцырымонна, рашуча. *Аттурі к аборку, нашто каб коні ў ячмень лезьлі. Кылы нас немцыў аттурілі вёрст ны дваццыць зы адзін дзень.* **Адтураный** *дзеепрым. Каровы й аттуріныя будуць лезьць у вык.*

**Адтухаць** *незак.* Тухнуць, патухаць. *Мы паехылі, як пасьледнія гылавешкі ужо аттухалі, а кырыбчані ішчэ асталіся сядзець. Печ аттухаіць, скора буду зымітаць.* **Адтухнуць** *зак.* Патухнуць. *Тыкая дубіна зы адзін раз ні згаріць, ну аттухніць, дыгаріць заўтря.*

**Адтыхаць** *зак.* Шмат пабіцца ў хваляванні, перастаць біцца (пра сэрца). *У Аўдоткіныя аттыхыіць серца, як пачуіць, што Шэндрікыў думыіць у сваты іціць, яны ж доўга дружылі: усё хадзілі умесьці.*

**Адтэпкаць, адтэпкацца** *зак.* Натупацца. *Сяньня я ладна аттэпкыла. Ідзіця вы адны, пакуля я аттэпкыюся, ікая пыра будзіць, я посьлі ны мінутку атвярнуся, мне нада толька нітык пыглядзець.*

**Адхадная, адходная** *ж.* Развітальны вечар. *У Пітраковых сяньня атхыдная, сын ідзець у армію. Ты хуць атхаднўю ні забудзь справіць, ато табе й скруціць нядоўга. У іх быгатыя атходныя была, чуць ня ўсю дзярэйню сызвалі, двоя судык Верка с Танькыю гатовіць пымыгалі.*

**Адхваліць** *зак.* Закончыць хваліць. *Ні прідумыю, калі ўжо яны свайго Дзёму атхвалюць, па-іхніму, луччы яго і чылавека ува ўсём сьвеці німа. Знаць, кончылі, атхвалілі, большы ні хвалюць, ато ж толька пры яго і былі рызгаворы.* **Адхваліцца** *зак.* Закончыць хваліцца. *Ды атхвалюцца, пройдзіць трошку ўремя і атхвалюцца, ета хвыльба ні надоўга.* **Адхвалёмшы** *дзеепрысл. Атхвалёмшы яго, пашлі, дужа рад быў, хадзіў прываджывыць. Ён ужо так у іх атхвалёмшы, што большы некуды.*

**Адхітрыць** *зак.* Нахітравацца, закончыць хітраваць. *Што ён ужо атхітріў с Кузьмінятымі, ныгаворіць ім, ныбішчаіць ніізьвесна чаго і нічога ня зьдзелыіць, а яны ўсё верілі.* **Адхітромшы** *дзеепрысл. Ня думый, што так атхітрёмшы у цябе ўсё будзіць пулучацца.*

**Адхліпаць, адхліпкаць** *зак.* Перастаць усхліпваць, плакаць. *Дужа я буду успыкаівыць, атхліпыіць і сьціхніць, быльшая тыкая абіда — кніжкі пірілажылі ні па ёй. У мяне б жыва атхліпкыў, я атаўчыў ба ат етыя прівычкі,— іш ты яго, пыдываў яму тоя, што зыхацелыся.*

**Адхлупнуць** *зак.* 1. Аддзяліцца, адстаць (пра кару, скуру). *Кыра як атхлупніць, сьвісткі дзелыім.* 2 *перан.* Адваліцца. *Ні атхлупла яму гылыва, зыбясьпечыў усіх сваіх кырмамі, цяперя ім ня горя, цёплінька будуць зіму сядзець.*

**Адхлынкаць, адхлынкацца** *зак.* Набадзяцца, наблукацца (пра няспешнае хаджэнне). *Ня дужа ат іх тэя работы увідзіш, пакуля яны находзюцца, атхлынкыюць туды-нызад, пыпірілівають с пустога ў парожнія, тады толька к конім падойдуць. Папробый дажджыся, пакуля яны атхлынкыюцца, ім рузвурушыцца доўга нада. Не, ішчэ ні атхлынкыўся, чаго-то к Максімывым пывалокся.*

**Адхлянуць** *зак.* Адхлынуць (пра ваду, натоўп). *Выда атхляніць троху, тады як-небудзь будзім пірібірацца ў Жавінку. Я жду, каб трошку народ атхлянуў, ні к чому ні пріступіцца.*

**Адхропсць** *зак.* Перастаць храпці, нахрапціся ў сне. *Атхроп за судкі ладна, ат вечыра да вечыра прыспаў.*

*Атхраплі часоў пы дзьвінаццыць. Чарычку возьміць, тады ўжо атхрапець.*

**Адхуркаць** *зак. неадабр.* Злосна набурчацца, перастаць злосна бурчаць. *А ніхай яго, такога чылавека, зь естыю жаднысьцю: каб зы карзінку бітых яблык столька атхуркыць.*

**Адхырлець** *зак.* 1. Начахнуцца, намарнецца. *Застудзісься, дык атхырліiш, луччы ні зустуджацца.* 2 *перан.* Памерці. *Ня слухыў нікога, ні бярэгся, рыспацелый пукупаўся, тады вады хваціў халодныя, зачэг і зачэг, большы года кычаўся, дык во атхырліў, схувалі учора.*

**Адцісканнік** *м.* Той, хто адціскае, займаецца адцісканнем. *Зь яго ніплахей ацьціскаьнік, ня достычкыю пріціснуў, а кумушок пысярёд пылажыў, тама трошку ацьціснулысь, а кругом жывэй творг астаўся.* **Адцісканніца** *ж. Паўчы хуць ету хызяйку творг ацьціснуць, гымза, а ні ацьціскаьніца.*

**Адцмыгаць, адцмыгацца** *зак. іран.* Набегацца з патайнымі намерамі (пра залішне цікаўнага). *Пакуля ні ацмыгыіць па ўсіх хатых, пряма ня жыва, пряма цярьпець ня можыць, дайця ёй пыглядзець, што хто дзелыіць, айдзе што ў каго ляжыць, дайця ёй паслухыць, хто што пры каго скызаў, тады йна давольна. Ну, можа ж, як-небудзь і Матруна ацмыгыіцца, толька ныўряд, каб у такея совісьць аткуль узілася.*

**Адцыгаць** *зак.* 1. Перастаць пішчаць (пра куранят). *Мае ацыгылі: тхорь сяньня увырваўся, усіх пылажыў.* 2 *перан. неадабр.* Перастаць дакучаць плаксівымі просьбамі. *Аццыгыіш, як нулуплю бакі, кініш ныдыідаць і зыняція пы сабе найдзіш.*

**Адцяпаць** *зак.* 1. Адсячы з цяжкасцю. *Во ў цябе нешта сілы саўсім німа, чуць ацьцяпыў етыя палычкі.* 2. Перастаць сячы. *Калі ты ўжо ацьцяпыіш, сьціхніш, аж ныдаела тваё стукытаньня.* 3 *перан.* Адкусіць. *Сьвіньням дужа ня верь, будзіць вухыць, вухыць, дый ацьцяпыіць паліц.*

**Адчаёўнічацца** *зак.* Перастаць частавацца чаем. *Сумувар зываркоць, на стол пыставюць, пысядуць кругом, пакуль ачаёўнічыюцца, дык і поўныч ны дваре.*

**Адчапаць** *зак.* 1. Адтопаць (пра павольную хаду). *Куды мне ны свадзьбу йціць, я сваё аччапыла, мне дайжа хату піряйціць трудна.* 2 *перан.* Памерці. *Во і Кірей аччапыў, у тую пятніцу схувалі.*

**Адчапурыцца** *зак.* Перастаць прыбірацца, займацца сваім знешнім выглядам. *Як малыя зы хвастом цігаюцца, тады ўжо ні ды пріборыў, мы сваё аччупуріліся, ніхай мыладэя пріхыра́шыюцца.*

**Адчарніць** *зак. перан.* Прымусіць пакутаваць. *Так яны аччарнілі Домні серца, большы некуды як аччарнілі. Аччарніў ён дзяўчонку дужа крепка, іна ж, дура, яму веріла, а ён сьміяўся.*

**Адчарэпываць** *незак.* Адчэрпваць. *Столька ня вы́нісіш, прідзіцца аччарепывыць, пынясём — і будзіць пліскацца на ногі.* **Адчарэпывацца** *незак.* Адчэрпвацца. *Ні знаю, чаго ў цябе ні аччарепывыіцца, можа, рукі ні туды служуць.* **Адчарэпаць** *зак.* Адчэрпаць. *Нада було б аччарепыць, рызальлём, шаічка дужа поўна. Ліні пряма зь відра, будзіш цы́ркыцца, пакуль аччарепыіш.* **Адчарэпацца** *зак.* Адчэрпацца. *Ну дылівай ужо, астарожнінька аччарепыіцца, каб цірязь беріг ні пылілося.* **Адчарэпаный** *дзеепрым.* *Аччарепыныя поіла пыстаў у чугунку, посьлі вы́нісіцца, карова ш чугунка дап'ець. Тут ужо аччарепына, ну мулува́та, расплешчыцца.*

**Адчаяннік, адчайнік** *м.* Адчайны чалавек. *Ён быў дужа аччаіньнік бальшэй, ну любоя дзела усігда быў гатоў, хуць на нож. Такей аччайнік: тоніькія сучкі, вісыта́ ніізьвесна ікая, а ён лезіць худзь ба што.* Узмацн. **адчайнюга, адчаюга.** *Такея аччайню́гі, яны што хочыш утворюць. Ні падумыла б, што ён еткій аччаю́га, а ён пыдыйшоў: бы́ська, быська — зы вярёўку і павёў.* **Адчаянніца, адчайніца** *ж.* *Ну й аччаіньніца, я б ні асьмелілыся так лезьць іх рызвадзіць. Такея аччайніцы я ня відзіла дайжа, нада такою парою асьмеліцца іціць.*

**Адчубаціць** *зак. перан. жарт.* Даць праборку, паўшчуваць. *Пыдажджы́, Хвенічка цябе яшчэ раз аччуба́ціць.* **Адчубаціцца** *зак.* Суняцца, супакоіцца. *Твае дзеўкі ужо аччуба́ціліся, табе б тожа пыра ачылавечыцца.*

**Адчубучываць** *незак.* Рабіць штосьці незвычайнае. *Нас хлыпца́мі було многа, мы ўсякія штукі аччубу́чывылі ні адзін раз.* **Адчубучыць** *зак.* Зрабіць штосьці незвычайнае. *Такей ма́хырь што хочыш аччубу́чыць. Ці ты ня чуў, што Пітрачонык аччубучыў у Жыріціне?*

**Адчудзіць** *зак.* 1. Зрабіць штосьці дзіўнае, смешнае. *Што ўжо аччудзіў Коля лырья́ныўскій, усе пряма пыка́тывыліся.* 2. Перастаць весяліць, смяшыць. *Не ўжо, яны аччудзілі, куды ім з молыдзіжжу руўняцца.*

**Адчыгаць, адчыгацца** *зак.* Нажыцца ў нястачы, прымаючы захады да паляпшэння становішча. *Ніхай, ніхай прыдаюць хвост, як аччы́гыюць хырашэнька, дык будуць ложкі мылыка рады, — ета яны ўтраіх ня могуць ны адну кыравёнку сена прідбаць, лабрэты такея ны плічах за лета нынасіць могуць. Січас яны ні пра што ня рупюцца, а як аччы́гыюцца, тады пра жызінь станўць думыць, такіх мудряцоў я німала відзіў па сьвету.*

**Адчыкільгаць** *зак.* Адкульгаць. *Конь панёс з гары, крепка пытріпа́ў, Пракоп с калёс зваліўся ды пыт каток, ладна аччыкільга́ў, большы месіца чуць нуступаў ны нагу.*

**Адчыкіляць** *зак. іран.* Пахадзіць з выкрутасамі (пра фарсуноў). *Пітраковы сыны аччыкіля́лі тут за лета, паехылі, дужа многа зыдач було, цірязь верьх.*

**Адчыкрыжываць** *незак. жарт.* Адразаць хутка, лёгка. *Падбег і дывай аччыкры́жывыць вярёўку, а нож тупэйтупэй, нічога ня зьдзелыіць, я ны яго: ты што дзелыіш? — як кытанець ён зу кусты!* **Адчыкрыжывацца** *незак.* Адразацца хутка, лёгка. *Як яно ў цябе аччыкры́жыіцца?* **Адчыкрыжыцца** *зак.* Адрэзацца хутка, лёгка. *Ну-ка, ну, сьмялей, яно ў цябе січас аччыкры́жыцца. Во табе й малый, у яго аччыкрыжылыся луччы, як у бальшога.* **Адчыкрыжаный** *дзеепрым.* *Ты глядзі, як лоўка аччыкрыжына, відна, што масьцір пыхадзіў, я б ні сумеў абрезыць так.*

**Адчыкрыніваць** *незак. жарт.* Адразаць лёгка, спрытна. *Відзіш, як бярецца аччыкрінівыць, січас тут ку́чышчу бруквы нываліць.* **Адчыкрынівацца** *незак.* Адразацца лёгка, спрытна. *Дывай, дывай сьмялей, відзіш, як ладна аччыкрінівыіцца.* **Адчыкрыніць** *зак.* Адрэзаць лёгка, спрытна. *Коля ны вас доўга глядзець ні станіць, залезіць у кублік, аччыкрініць кусок, зьесьць, а вы сабе глядзіця, як хочыця.* **Адчыкрыніцца** *зак.* Адрэзацца лёгка, спрытна. *Я дайжа і ні падумыў, што так аччыкрініцца, ну пілка войстрінькыя, сучкоў німа, яно й пулучылыся гладзінька, акуратнінька.* **Адчыкрыненый, адчыкрынетый** *дзеепрым.* *Ты сь Пёклыю ні зывадзіся, іна, знаіш, ікая: ні так слова скажыш — і пойдзіш с аччыкрінінью гылавою, пыт пахыю пынясеш. Канешня, твой брат масьцір, фіру́г, ён табе аччыкрінітыю руку пріставіць, зымажыць і ты пашоў, гуляй. Ураньні выйшыў, гляджу — пылавіна пацсоніц аччыкрініта.*

**Адшабуцець, адшабуцецца** *зак.* Перастаць шумець, буяніць. *Ачшубуцей, дайжа ня чутна яго стала. Іх была крепкыя кынпанія сьпета, гэрчыкыў тых, яны тута ладна ачшубуцелі. Вот увідзіш сам, што скора яны ачшубуцяцца, рыспадзецца іхныя бра́жка.*

**Адшалапуціцца** *зак. іран.* Перастаць вычвараць, паводзіць сябе легкадумна. *Я ждаць ня буду, пакуля етый хлюст ачшылапу́ціцца. Каб Васіль пыкызаўся ны парог толька, яны б ачшылапуціліся зразу.*

**Адшалацца** *зак. неадабр.* Набадзяцца, перастаць бадзяцца. *Ну й ачшыла́ўся за́ гыд! Каб дзядзька троху павысіў голыс, яны б скарей ачшылаліся, а як ніхто дужа ні пріцісьняў, дык што ім.*

**Адшалудзіцца, адшалудзівіцца** *зак.* Перастаць вычвараць, паводзіць сябе груба, задзірыста. *Ачшулудзі́ўся і Іхімёнычкыў, сядзіць у дваре і малых нянчыць. Каб меншы іх снызбжалі біз усякія меры, яны б скарей ачшулудзіліся. А прідзіць урэмя, і Пракопчыкыў ачшулудзіцца, нямнога яму асталыся.* **Адшалудзёмшы** *дзеепрысл. Яны і ачшулудзёмшы ня дужа пойдуць, ты іх прі — ні так скора выпріш. Паехылі ачшулудзёмшы, адурілі яны мне галовухну.*

**Адшарабаніць** *зак. перан.* Адлупцаваць. *Я прут вы́лымыла, стала, дыжыда́ю, думыла, ачшырыба́ню,— так упіка́іцца, толька за́ ныч нервы аду́мыюцца.* **Адшарабанены** *дзеепрым. Ну каб злавіла, пабег ба ачшырыба́ніный.*

**Адшарахоніць, адшарахоніцца** *зак.* Навычвараць, навыстаўляцца. *Помніш, як яны летыся пріїжджалі, сколька тут ачшырахонілі, у іх зыдыва́ньня бязь меры. Большы яму нечыга дзелыць, ачшырахоні́ўся, сатнець зубы і будзіць муўчаць як вады ў рот ныбраўшы. Ачшырахоніліся тваe дзівярькі, саўсім ня тэя людзі сталі.*

**Адшарсціць** *зак. перан.* Адлупцаваць. *Нада було крепка ачшарсьціць іх прутым, каб і дарогу сюды забылі. Як ачшаршчу́ пугыю, ува ўсе бакі будуць ляцець бізы глядкі.*

**Адшарыць** *зак.* Нашукацца, напоркацца ўсюды. *Пакуля ўсюдых ні ачша́рюць, ня пойдуць. Ай-я-яй, сколька яны ачшарілі пы двару, усё чыста пірівярнулі дыгары ныгамі, што яны ўжо хацелі найціць!*

**Адшатацца** *зак.* 1. Перастаць хістацца. *Ачшыта́ўся мой зуб: нітку зывізаў, смырганýў, ён і вы́скычыў.* 2 пе-

*ран.* Нашвэндацца, набадзяцца. *Ачшыталіся лета, нічога ня дзелылі, цяперя ны кынбінат устроіліська.*

**Адшлындаць, адшлындацца** *зак.* Перастаць швэндацца, бадзяцца. *Яны і пріехылі сюда, каб ачшлы́ндыць лета, нягож чаго другога яны пріехылі. Каб я столька ачшлындыўся, мне б стыдна було за стол садзіцца, а яму нічога, напрецца і ўзноў пыцягнуўся.*

**Адшмараваць** *зак.* Намазаць, адшмальцаваць. *Пынас усё ўмеў прыпыря́ччыць, давесьць ды ладу, ён, бувала, ачшмуру́іць хумуты, яны ў яго аж бліщчаць.* **Адшмаравацца** *зак.* Адшмальцавацца. *Ну й ачшмурува́ўся ты нейдзі, верна, у якім сьвінна́рніку усе сьценкі выцір плічамі.* **Адшмараваный** *дзеепрым.* *Ты мне толька явіся другей раз такей ачшмурува́ный, буду лупіць чым дзержа, ці я йта кажный дзень нуспруўля́юся шчолык ны цябе дзелыць, атмуваць тваё тряхольля.*

**Адшмуляваць** *зак.* Адшмальцаваць. *Як жа так можна,— так ачшмулюва́ць новый пінжак, ці ты пыд машынымі лазіў, уся сьпіна у нейкім масьлі.* **Адшмулявацца** *зак.* Адшмальцавацца. *Сь цябе выйдзіць ныстыяшчый трыктарíст: ачшмулюва́ўся — толька вочы бліщчаць.* **Адшмуляваный** *дзеепрым.* *Штаны ўжо так ачшмулюва́ны, што каб паднёс сьпічку, яны б і апхваціліся агнём у сікунду.*

**Адшныпарыць, адшныпарыцца** *зак.* Нашныпарыцца, перастаць шныпарыць, вышукваць. *Ого, сколька яны тута ачшны́пырілі, як толька мы з двыра, яны і пашлі ша́ріць, ні знаю, што ім хацелыся найціць. Я пытхаджу і віджу: нешта вароты аччыніны трошку, я раз вароты насьціж — яны там,— ну, ці ачшны́пыріліся? — дык ім вочы некуды дзіваць, хуваюцца адзін зы днаго.*

**Адшныхарыць, адшныхарыцца** *зак.* Нашныпарыцца, нашукацца. *Ого, ні ныбярець іна грібоў, у ёй чорт сядзіць, іна табе кажный кусьцік падверніць, кажныю ветычку падніміць, ачшны́хыріць пы ўсяму лясу. Ачшны́хыріўся, ідзець нызад с апушчыныю гылавою, відна, нічога ні найшоў, дый што ён найдзіць, там ды яго сколька пубуло.*

**Адшпыраць** *зак.* Нападколваць. *Цяперь Домна ачшпыря́іць нявестку, каб ёй толька було за што прічапіцца.* **Адшпыраный** *дзеепрым.* *Ні гыварі ты яму нічога, ён і так ужо ладна ачшпыря́ный.*

**Адшурхаць, адшурхацца** *зак.* Перастаць злосна па-

крыкваць. *Ачшýрхыў ужо, маўчыць, толька пыглідаіць коса,— а чаго я дылжна яму уважыць, я ні ны яго прішла. Як ачшýрхыіцца, яму, кажыцца, ну душэ палехчыіць, ато ўсё ходзіць і бу-бу-бу, як борыхыва кіла.*

**Акапіровываць** *незак.* Дапамагаць абжывацца. *Чаму Зьмітраку ні акыпіровывыць сына, у яго грошы нішчысьлёныя, ён і хату купіць, і карову, і ны хызяйства дасьць.* **Акапіровывацца** *незак.* Абжывацца, асталёўвацца. *Дынілёнык тут акыпіровывыцца ні зьбіраіцца, у яго харошыя сьпіцыяльнысьць, будзіць ны заводзі работыць.* **Акапіраваць** *зак.* Дапамагчы абжыцца. *Большыя ўжо нічога, пріпырáччыны, цяперя мне каб меншыга акапірывыць, і тады б у мяне клопыту ні було ніякыга. Што Адаркі тушнуваць, дачок іна акыпірувáла, сядзі паціхіньку ды унукыў гадуй.* **Акапіраваный, акапірованый** *дзеепрым. Канешня, іхныя жызьня ні тваёй вірста, дзеці акыпірувáны, пеньсія ідзець, ды харошыя пеньсія, чаго ім пра што клыпаціць. Твыя дычка акыпіровыныя, зы яе можна быць спакойным.*

**Аклумліванне** *н.* Затлумліванне. *Кажный дзень такоя аклýмлівыньня, ні ўсякій сыгласіцца цярпець, а яны ціртяць і нічога.*

**Аклумліваць, аклумляць** *незак.* Затлумліваць. *Каб яны мяне так ні аклýмлівылі, я б сыгласілыся быць, а так пряма ні магу, к вечыру як рызбаліцца гылыва, цярьпець нілізя. Дзеці ў яе балыўныя, распýшчыныя, яны мяне пряма аклумлáюць, ні кыпілінычкі ня слухыюць.* **Аклумлівацца, аклумляцца** *незак.* Затлумлівацца. *Нашто яны мне тута, чаго я буду аклýмлівыцца, ніхай ідуць к Насьці і там дурюць гылаву. Я б ш чужымі дзіцямі так ні аклумлáлыся, а ёй жа во ахота, кажын дзень дуріцца.* **Аклуміць** *зак.* Затлуміць. *Тыкая сямейка, што аклýмюць — ні рызьбяресься, як скызаць.* **Аклуміцца** *зак.* Затлуміцца. *Ад дуроў ат вашых я аклумілыся, ці вы мне ні ўспакоіціся? Як аклуміліся, дык ні рызьбярёмся, што к чаму.* **Аклумленый** *дзеепрым. Я ўжо стаю аклýмліный, думыю: што яны так дзелыюць.* **Аклумёмшы** *дзеепрысл. Такей гам, гылыва аклумёмшы, я ўжо нічога ні сыбрыжáю.*

**Аклямацца** *зак.* Разабрацца, прыйсці ў сябе, сцяміць. *Пакуля мы аклімáліся, што к чаму, аўтобусік пашоў, куды нам було кінуцца.*

**Акурыцца** *зак.* 1. Суняцца, супакоіцца. *Мышарýіцца*

*пы хаці, будзіць бяды,— ня бойся, пыстаіць, пыстаіць і акýріцца.* 2. Асталявацца. *А во акýрíйся ý вашых Кудрічых і жывець, ужо дзеці ёсьць.*

**Алюкаць** *зак.* Зацюкаць. *Як ывалюцца гуртым, алю́кыюць, ыпраўду пышчытáіш сябе пасьледнім чылавекым. Такей мушчына, а во алюкылі і зы чылавека ні вядуць.*

**Аляпіста** *прысл.* Няўклюдна, аляпавата. *Ты ўсігда дзелыіш аля́піста, ні ў чом толку німа.*

**Аляпістый** *прым.* Няўклюдны, аляпаваты. *І ны ліцо харошыга німа нічога, і ўвесь ён нейкій дужа аля́пістый, як рызівон. Ны такей аляпістый тубурет і садзіцца страшна.*

**Амарочыць** *зак.* Затлуміць, задурыць. *Яны цябе нарошня амарочылі,— штоб такея мáхырі ды чаго-нібудзь ні атпалілі? Ты адною трілю́дыю пра коз любога амарочыш.* **Амарочыцца** *зак.* Затлуміцца, задурыцца. *Як амарочыліся, нічога ні рызьбярёмся, іна пыкáзывыіць: у тэй бок іціць, а мне кажыцца саўсім у другей.* **Амарочаный** *дзеепрым. Мы былі такея амарочыныя, што нам було ні ды жыніхоў, мы думылі, худзь ба як двору дыбрацца.*

**Амарыць** *зак.* Ахапіць стомай, зморанасцю. *Неік амаріла мяне ўсяго, ні магу граблі ў руках удзержыць. Сяджу, доўга сяджу, а тады сон мяне аморіць, дык я прілягу трошку.*

**Амягнуць** *зак.* Аслабець, адчуць прагу ад спёкі, смагі. *Наліця с сабою глячок вады, еткыя жарішча, амя́гніця. Зынясі бутылку вады, ён тама амяг.*

**Аніжаць** *незак.* 1. Зніжаць, апускаць. *Хундамінт ні нада аніжáць, як хата вісачэй, крысівей глядзіцца.* 2. Зніжацца. *Крыша пысярёд аніжáіць, нада патпорку пыставіць.* 3. Прыніжаць. *Ён шчытаіць, што яго ты анíжáіш, ён сам хацеў пыцсватыцца.* **Аніжацца** *незак.* Зніжацца. *Яно й так відна: у етым месьці зімля анíжáіцца. Выда стала аніжацца, нада було б пыткыпаць калодзіж.* **Аніжыць** *зак.* 1. Знізіць, апусціць. *Нада ж так лоўка аніжыць стряху, што ўсюдых пупала ў пазы, як зразу дзелылыся.* 2. Знізіцца. *Етый вугыл здорыва асеў, аніжыў.* 3. Прынізіць. *Ён сябе дужа вісока нёс, а тута яго аніжылі, ні далі рызьвярнуцца.* **Аніжыцца** *зак.* Знізіцца. *Дайжа на вока відна, што погріб аніжыўся. За восінь стагі зьляглíся, аніжыліся, дайжа узьлезьць можна.* **Аніжаный** *дзеепрым. Чыріз аніжыныю сьцяну сьнегу*

*нымітáіць, там дзірька быльшая абрузувáлыся, ніякыя зытыкáньня ні дзяржыцца.*

**Анцімонія** *ж.*, **анцімоны** *мн.* Пустаслоўе. *Дужа табе Зьмітракова аньцімонія ныравіцца. Твае аньцімоніі пірянслухыць і ночы ні хваціць. Я біз вашых аньцімоныў абыйдуся, некылі мне трілю́дзіцца.*

**Апаланіць** *зак.* Апанаваць, авалодаць. *Аткуля яго апыланіла, што мы пыдбіваім клінкі пыд Аньку? Ваша семя апыланіла дзярэўню.*

**Апароць** *зак.* Адшукаць. *Було ў мяне трошку канхвет, харошыя, пляменьніца прінісла, я блюла к празьніку, а малыя ды празьніка апаролі і зьелі. Куды ні схуваю, ён усюдых апоріць.*

**Апетаць** *зак.* 1. Ударыць. *Як апетыюць хырашэнька, што ні падніміськя, тады ты атýчыськя с кулукамі насіцца.* 2 *груб.* З'есці. *Хунты два сала апетыіць зы раз, чаму ж тады сіла ня будзіць.*

**Апеч** *зак. перан.* Моцна, балюча ўдарыць. *Каб апёк яго ладна, каб з ног зваліўся, тады б пыспыкайнеў. Апякі пы загріўку, пачуствыіць.*

**Апослі** *прысл.* Пасля. *Вы йдзіця січас, а я апосьлі пыдбягу, толька печ зымятý і чугункі прістáўлю. Апосьлі вы ўсе разумны.*

**Апоўзлік** *звыч. м. абраж.* Нягеглы чалавек, няўклюда. *Успакой сваіх апоўзьлікыў, ніхай у гряды ні лазюць. С тваім апоўзьлікым на людзі стыдна пыкызацца.*

**Апоўзлый** *прым. абраж.* Нягеглы, няўклюдны. *Усігда іна была апоўзлыя і нечыга табе яе зышчышчáць.*

**Апрат** *м.* Здаровы малады чалавек. *Морда, што решыта, здаровый хлопіц, апрят-апрят стаў.* *Узмацн.* **апраціна.** *Такей апрáціна задзелыўся, дайжа ні падумыіш, што ета сь Ціхонывыя пароды. Павеліч.* **апрацішча.** *Сам апрáцішча хлопіц, а йна, зьнібычка, сядзіць танюсінькыя, платочык пыд быраду, плашчык,— ці йна яму жонка, ні с красы, ні з росту, апсалютный дзіцёнычык сядзіць.*

**Апытацца** *зак.* Выявіцца ў выніку распытванняў, прачуцца. *Мне каб апытáлыся айдзе-небудзь ладныя піцісьценка, я б на месьці купіў і піряехыў ба туды.*

**Апытыванне** *н.* Выведванне. *Ні пымагло яму і апытывыньня, у каго ні спрашывыў, ніхто ня чуў, каб айдзе пытхыдзя́шчый істрýб быў.*

**Апялетываць** *зак.* Прагна з'есці. *Як апялетыіць дзьве*

*міскі капусты ды кусюга́н мяса, дык яны і дровы колюцца хырашо. Нада столька апялетывыць, апіціт пряма нямерный у чылавека!* **Апялетаваный** *дзеепрым. Я думыла, тама ішчэ с пуўгырика асталыся, ажно глянула — уся крупеня апялетывына.*

**Асада** *ж.* Матэрыял для акон і дзвярэй. *Ны аса́ду ўсігда выбіраіцца самый луччый лес. Асада выпілівыіцца са смольныга бярьвеньня і с тоўстыга, ніхай дайжа няроўныя, ну каб крепкыя.*

**Асесца** *зак.* Суняцца, супакоіцца. *Пыра б табе асесца сымаму бізь вярёўкі. Калі ўжо Сашка ася́дзіцца, калі ны яго якоя сьціха́ньня найдзіцца.*

**Асколак** *м. перан.* Задзіра, балаўнік. *У яго хлопіц расьцець асколык. Асколык дзяўчонка, быявей любога хлыпца́.*

**Асоціна** *ж.* Асобная расліна асоту. *Вы́рысла асоціна ны пыўгряды, чуць вырвыла, усе рукі пыкалола. Памянш.* **асоцінка.** *Кінь пырасёнку нескылька асоцінык, ніхай зойміцца.*

**Асурочыць** *зак. звыч. жарт.* Сурочыць. *Тонька цябе асурочыла, цяперя табе ні ды жанідзьбы. Асурочылі, яй-богу, асурочылі, у гылаве зымырачэнія і ногі зьдзелыліся, як ватышныя.* **Асурочаный** *дзеепрым. Мала што будуць трілю́дзіць: асурочыный, звазі ў бальніцу, там скажуць што.*

**Атайціць** *зак. перан.* Адсырэць. *Сена суха, як порых, січас гресьць нілізя, ніхай пыляжыць, атойдзіць, інычы патреццa ны аторю, будзіш у карзінкых насіць.*

**Атаманша, атаманшая** *ж.* Уладалюбная жанчына, ахвотніца верхаводзіць. *Зы старым стыршыною іна была атыма́нша, а цяперя нісмашна стала разым са ўсімі іціць ны работу. Нешта твыя атыма́ншыя дужа рысхадзілыся, ці ні пыслаў яе Стыхванёнык пыдальшы?*

**Атамліваць** *незак.* Ахопліваць знямогай. *Мяне часта неік ата́млівыіць, атамлівыіць, тады ўжо нічога ні магу дзелыць, сяду і сяджу. Такоя надворья мяне ўсігда атамлівыіць.* **Атамлівацца** *незак.* Ахоплівацца знямогай. *Як трошку цяплейшыя пагода, я зразу ата́млівыюсь, у пот кініць, тады ўжо зь мяне работніца плыхая.* **Атаміць** *зак.* Ахапіць знямогай. *Жарою мяне як атоміць, ня то што палоць, а шывяльну́цца ні магу. Дужа мяне атаміла, дай я пысяджу мінутычку.* **Атаміцца** *зак.* Ахапіцца знямогай. *Я віджу, што вы саўсім атаміліся, хадзіця*

*пысядзіця ў цяньку.* **Атомленый** *дзеепрым. Сядзіць ны парогі атомліный, гаворіць: ні магу ны жаре нічога дзелыць.*

**Атарвываццa** *незак. перан.* Адлучацца ад пастаяннага занятку. *Мне ж некылі атáрвывыцца, мáлыга нада глядзець, каб було каму пыглядзець, я б схадзіла.* **Атарвацца** *зак.* Адлучыцца ад пастаяннага занятку. *Мне б дужа горька нада було атырвáцца ў Сьвітазерья, гываріли, там нехта дужа харошый мёд прыдаець, я б узяў бітончык.*

**Атаўчаць, атаўчываць** *незак.* Адвучваць. *Сколька я ні атыўчáла яго грызьць нохці, нічога ні пымыгáла. Ад дренныя прівычкі нада атыўчáць. Як пабольшыў, позна ат вічарінык атáўчывыць.* **Атаўчацца, атаўчывацца** *незак.* Адвучвацца. *Атыўчáйся так дзелыць, хто йта будзіць цярьпець, каб ты куды зря шыбнямі кідаў. Атáўчывыйся куріць, кýріва ішчэ нікому на пользу ня йшло, а лёхкія ураз спорціш: то бранхіты, то пляўріты і пойдуць, і пойдуць.* **Атаўчыць** *зак.* 1. Адвучыць. *Другей раз пупаду, дык атаўчý пы яблыных лазіць, іш, места табе німа.* 2. Скончыць вучыць. *Яе дзеўкі як атаўчылі, зразу пріехылі, яны абея ны ныстаўніц выўчыліся, а летым у дваре пымыгаюць.* **Атаўчыцца** *зак.* 1. Адвучыцца. *У мяне б скора ад дураты атаўчыўся. Прівыкла цёлычка карову ссаць у тубуне, пацэліцца і ўсё выцігніць, што дзелыць, каб як атаўчылыся.* 2. Скончыць вучыцца. *Дзеці атаўчыліся, цяперя ляхчэй стала, большы пымыгаюць у дваре.* **Атаўчоный** *дзеепрым.* Адвучаны. *Ты глядзі, што твой атаўчоный дзелыіць: зы пáзыху гуркоў нышывалііў айдзе-то.*

**Атачывацца** *незак. перан.* Асталёўвацца, уладкоўвацца, абжывацца. *Ныўряд ці думыіць ён тут атáчывыцца. Хомкіны патрошку атачывыюцца, купілі карову, пацьсьвінка ладныга забілі, ны прідзелык лесу ныгатовілі.* **Атачыць** *зак.* 1. З'есці. *Яны, як жучкі, грызуць і грызуць, зá дзінь атачылі булку хлеба, пабегыюць і за нож, за нож.* 2. Апанаваць. *Ня будзіш пріглідáць сябе, вошы аточуць. Цябе ж поршы атачылі, ты сыма сябе агледзіць ня можыш, сыма зы сабою ні пыўхáджыіш.* **Атачыцца** *зак.* Асталявацца. *Каторый год атачыўся і жывець. Ты б глянула, як Аўсяёнык атачыўся, там яму ужо і зьвікувáць.*

**Атвалтузіць** *зак.* Натузаць, намуштраваць. *Едзь, ды*

*с пня ні чыпайся, зловюць лісьнікі — атвалтўзюць, ішчэ ў суд пыдадуць, нызьбірай шыгыльля буйнейшыга і ладна будзіць.* **Атвалтузіцца** *зак.* Натузацца, намуштравацца. *Во-тыкі і Мыкыріняты атвалтўзіліся, усё ні маглі бацькывыга быгаства пыдзяліць, — такея-то зыпасы тама.* **Атвалтужаный** *дзеепрым. Абоя прішлі атвалтўжыныя, ім тама хваціла ны арехі.*

**Атвалхвіць** *зак.* Скончыць пялегаваць, песціць, перастаць цацкацца. *Хто б вас атвалхвіў столька, сколька я, вы ж за мною паліц ап паліц ні ўдарілі, усюдых сыма, усюдых сыма.*

**Атвалыніць, атвалыніцца** *зак.* Страціць час бяздумна, абыякава. *Столька ўремя атвалынілі і якога дырагога ўремя! Я вас атвалыню, ці вы ня відзіця, што вечыр ны дваре, а еткыю кучу прібраць нада. Атвалыніціся, што капёшкі нідыкла́джыныя астануцца, а дождж як сыбраўся наныч, і прамочыць наскрозь.*

**Атварзёкаць** *зак.* Запэцкаць, напэцкаць, вымазаць. *Ну й маліц, прібіць мальца нада, усю скыўраду атварзёкыў, атварзёкыў і кінуў: ежця, кылі хочыця.* **Атварзёкацца** *зак.* Напэцкацца. *Калі вы тута атварзёкыіціся, усё чыста зыля́пылі, к сталу ні пыдыйціць.* **Атварзёканый** *дзеепрым. Скамейка атварзёкына, што я ўжо ні прідумыю, ці яе мыць, ці скресьць?*

**Атварзёпаць** *зак.* Запэцкаць, напэцкаць, вымазаць. *Як атварзёпыюць адзежу, хут ты бярі і зразу выкідай, дужа нікура́тныя людзі.* **Атварзёпацца** *зак.* Напэцкацца. *Ці яны тама атварзёпыюцца, ці не, ацьцягні, можа, зы кайнерь. Пакуль я атварзёпыюсь с курямі ды с пырысятымі, пакуля ныкармлю — нівісь ікая пыра.* **Атварзёпаный** *дзеепрым. Пулушубык у яго ня проста зымазын, а неік атварзёпын, толька мыць нада, калі атмыіцца.*

**Атвашакоміць, атвашакомнічаць, атвашакоміцца, атвашакомнічацца** *зак.* Навыхваляцца, перастаць фанабэрыцца. *Яны любюць сябе пыкызаць, пакуля ні атвышакомюць, ніаткуля ня пойдуць зьмірна. Тады яны пряма цаны сабе ні зналі, столька атвышакомнічылі, што ні прідумыіш, ета цяперь уняліся. Вы самі увідзіця, што ён вот-вот атвышакоміцца. Каб ты знаў, сколька яны атвышакоміліся, жывая указэя зь іх была. Не ўжо, ныўряд ці атвышакомнічыіцца калі Кыныстрацёнык, і аткуля толька еткія зыда́чы ў яго бяруцца.*

**Атвечара** *прысл.* У пачатку вечара. *Пляменьніца*

*мідзькыўскыя атвечыра ў суботу зыбігала: як ты тут, цётка, жывеш? Учора коцюць, коцюць атвечыра учыцьвярых: цётка, ці ёсьць у вас вічарінка сяньня?*

**Атвухрыць** *зак.* Павучыць доўгі час, перастаць павучаць. *Што ўжо іна атвухріла сваю дзеўку, дык што толку: паехыла, а ціряз год іўляіцца з бэньсім: гадуй, матка, ўнука. Атвухрію свайго Іваньку, маўчыць.*

**Атвыкамырываць, атвыкамырнічаць, атвыкамырыць, атвыкамырнічацца, атвыкамырыцца** *зак.* Навычварацца. *Не, Сільчынка сваё атвыкамы́рівыў, сюрьёзна за розум узяўся, ета раншы места яму нійдзе ні було. Ён да веку ні атвыкамы́рнічыіць, такей ужо урадзіўся, у яго ў кысьцях злыйдўх сядзіць. Столька атвыкамы́рілі, усякыю дуратў сыпысáлі, хто сьміяўся, а каму ня дужа аньціресна було. Пыра б ужо йціць, дык айдзе ж ты іх вы́прывіш, пакуля ні атвыкамы́рнічыліся, ні ў жысьць ня выпрывіш. Ты йшчэ пыдажджы, ім ня столька ўремя нада, пакуль атвыкамы́рюцца, ім цэлыю ноч пыдывай.*

**Атвылангацца** *зак.* Наляжацца, налодарнічацца. *Устывай, атвалынґаўся, часоў дзесіць сьпіш. Вы большы ўсіх атвылынґаліся ў етым гаду, зы палку дроў дайжа ні ўзяўся каторый.*

**Ат'еджаный, ат'етый** *дзеепрым.* Ад'едзены. *Я доўга там ні зыбáвілысь, мінутку с Пыраскыю пыстыяла, а прібегла ў хату — кусок кілбасы ат'еджын: кошка пыхызяйнічыла. Ат'етыя кусочыкі пыдмяці ды ў чугун укінь. Усё ат'етыя пыбрізáць нада.*

**Атлапатаць, атлапатацца** *зак.* Перастаць балбатаць, адбалбатаць. *Ні знаю, каб іна так скора атлыпытáла. Да не, стыяць, ішчэ ня ўсё атлыпыталі, ім ны кажныю новысьць нада пуўдня, калі ня меншы. Скажы-ка, ніхай двору ідуць, ніяк яны ні атлапочуцца.*

**Атлёт** *м.* і *ж.* Прайдзісвет. *Такея ўжо атлёты яе хлопцы, сытвыряць што хочыш. Чы́шчы мальцыў атлёт, хочыш, у яблыкі злазііць. Памянш.* **атлёцік.** *Ты думыіш, Грішычка ціішэй, такей самый атлёцік. Узмацн.* **атлёціна.** *Мілыя атлёціна, ў цябе ухватка цёціна, зу ухватку цёціну люблю цябе, атлёціну. Павеліч.* **атлёцішча.** *Вы ўжо Мікілая ня помніця, а мы ж разым расьлі, во хто быў атлёцішча!*

**Атлындаць, атлындацца** *зак.* Набадзяцца, перастаць бадзяцца. *Што б ён скызаў, каб мой маліц столька атлы́ндыў. Цэлый месіц атлындылі, пашлі зы палучкыю, а*

*там ні даюць нічога. Прітýркывыць іх дужа некыму, цётка кажын раз ні набегыіцца — атлы́ндыюцца, самі яны ня дужа рýпытныя.*

**Атмантачыць, атмантачыцца** *зак. неадабр.* Налодырнічацца, туляючыся, робячы выгляд занятасці. *Еткія дырагея месіцы ён атмынтáчыў, такоя гырячыя ўремя, каб рýпытлівый чылавек, сколька чаго можна було зьдзелыць. Ня с тога прірод зьдзя ён, што возьміцца зы работу, нядзелю пышавеліцца, а тады жджы, пакуля атмынтáчыцца, а ета ў яго цэлый месіц.*

**Атмардаваць** *зак.* Намучыць. *Пакуля зыпрягець, атмардýіць кыня, а тады ў быразьне пычынаіць учыць, ну й патопчуць бульбоўнік.* **Атмардавацца** *зак.* Намучыцца. *А ня трогый чорта, атмардýіцца і ўціхаміріцца. Во атмурдувáліся яны сяньня ны кынаві: зыстря́лі з возым, ні туды ні нызад.* **Атмардаваный** *дзеепрым. Каб ты прішоў такей атмурдувáный, што б ты скызаў.*

**Атмастачыць** *зак.* Зрабіць умела, спрытна. *Атмыстáчылі крыльцо луччы, як у горыдзі. Бочычку як атмыстачыць, ёю зулюбувáцца.* **Атмастачаный** *дзеепрым. Ого, якея атмыстáчыныя шаічкі, ета ж, верна, ні з бызару, ці ні знакоміц твой прівёз з-зы Сыжа?*

**Атматалыжнічаць, атматалыжнічацца, атматалыжыць, атматалыжыцца** *зак.* Намахлявацца, нараcтранжырваць. *Зы два гады атмыталы́жнічыў, хырашо, што ня ўцýргыўся нікуды. Іх была сьпетыя кынпанія, ладна атмыталы́жнічыліся, блыгыдыря Сенька ўмішаўся ды рызыгнаў троху. У мыладосьці крепка атмыталы́жыў, а цяперя хваціўся за вум, ня п'ець, работыіць, хызяйства вядзець ладна. Ня дужа на іх пахожа, што калі-небудзь атмыталы́жуцца, работыць ні прівучыны, распýшчыны.*

**Атматузаць, атматузіць** *зак.* Адхвастаць матузамі. *Настолька рызбалывыліся мальцы, што я ўжо даўно зьбіраюся атмутузáць абоіх. Рыскажу пры тваe прадзелкі маткі, іна цябе крепінька атмутузіць, ня будзіць с табою чы́кыцца.* **Атматузаный, атматужоный** *дзеепрым. Сядзіць атмутузáный і хныкыіць, ніхай, а што ж ёй дзелыць, калі на ём рогі пырасьлі. Ён цябе біз мутузáньня нісколька ня слухыў і атмутужоный столька паслухыіць, нада було змáлку ні руспускаць.*

**Атмашараваць, атмашаравацца** *зак.* Навыхваляцца. *Ні знаю, як яны сёліта будуць, а ў прошлым гаду атмушурувáлі, цэлыя лета уходу ні було. Як дзядзька з рем-*

*нім паходзіць, тады яны атмышару́юцца. Ці яе вогірі ужо атмушурува́ліся?*

**Атмітушыцца** *зак.* Намітусіцца, мітусліва набегацца. *Ну й атмітушы́лыся ўчора Пыраскіна большыя, усё гасьцей сустрюкала, насілыся туды-ныззад.*

**Атмымрыцца** *зак. іран.* Перастаць дзьмуцца. *Тыкая ўрадзілыся, што ні ў век ні атмы́мріцца. Знаць, атмы́мріўся, рызгыварівыіць сяньня з Машычкыю.*

**Атмэнчыць** *зак.* Навалаводзіць. *Такей быў дренный чылавек, пакуля ён табе патпішыць якую бумажку, атмэнчыць, духі вы́цігніць.* **Атмэнчыцца** *зак.* Навалаводзіцца. *Каб ты столька атмэнчыўся, як я, тады ні гывáріў ба, чаго ня сьледыіць.* **Атмэнчаный** *дзеепрым. Атмэнчыный паехыў, пакуля сы сваім хызяйствым рызыбраўся.*

**Атмяжджуліць** *зак.* Надаваць кухталёў. *Атмяжджу́люць бакі разы два, тады ён уніміцца, троху пызнаіць, як на сьвеці зь людзямі жыць. Знаць, атмяжджу́лілі, ні хваліцца, маўчыць.* **Атмяжджулены** *дзеепрым. Ну й добря, калі будзіць атмяжджу́ліный, ён даўно етыга зуслужы́ў. Прішлі пыд раньня с атмяжджуліным быкамі.*

**Атмяздрачыць** *зак.* Надаваць моцных кухталёў. *Цябе б даўно стоіла атміздря́чыць, каб трошку джоѓысьці сь цябе зьляцела. Каб ня ўцёк, яго б крепка атміздря́чылі.* **Атмяздрачаный** *дзеепрым. Ішчэ двору ні прішоў атміздря́чыный, а мне ўжо ныпярёд пірідаюць: твайго сяньня пыдзіржалі ў руках лырьяныўскія хлопцы.*

**Атмяздрыць** *зак.* Надаваць важкіх кухталёў, моцна натаўчы. *Атмяздріла яго, атмяздріла кулукамі, толька што я такому лабрэту зьдзелыю, зыхыхытаў і ўсё.* **Атмяздромшы** *дзеепрысл. Ета мы посьлі ўжо узналі, што сюда яны зыявіліся, атмяздрёмшы Хымчынка. Ты сваё палучыш, атмяздрёмшы пойдзіш зь дзяреўні.*

**Атмякшыць** *зак.* Надаваць кухталёў, натаўчы. *Так жа ён кажный дзень выводзіць нас сь сябе, атмякшу́ калі-небудзь, яй-богу, атмякшу. Яго за дзела атмякшылі, ніхай джоѓысьці трошку меншы будзіць.* **Атмякшоный** *дзеепрым. Яны абоя атмякшоныя, толька прізнацца ім ня дужа лоўка.* **Атмякшомшы** *дзеепрысл. Пабеглі, атмякшомшы Пуўлюка, папробый дыгані іх. Сяньня табе так ня бойдзіцца, атмякшомшы цябе толька пусьцюць.*

**Атнюндзіць, атнюндзіцца** *зак.* Наплявузгацца (нудна, паволі). *Ну ўжо, думыю, атню́ньдзіў, пойдзім,— не, пыдыйшоў Аўхімёнык, узноў пычалі: я там быў, я тоя ві-*

*дзіў, а ніхай вас з вашымі і быў, і відзіў. Ні знаю, калі яны атнюньдзіліся, а што ім дзелыць, ці ў іх дзеці плачуць, пад'еў ды сядзі ны лавычкі, рызвадзі лухту.*

**Атняхаіваць** *незак.* Адгаворваць, пераконваць адмовіцца. *Нашто атніхáівыць, іна дзеўка нічога: і на від пыгля́дныя, і с пріроды с харошыя.* **Атняхаіць** *зак.* Адгаварыць, пераканаць адмовіцца. *Ета Прося атніхáіла брацьтога пацьцёлка. Цьвёрда я ні знаю, ну, па-мойму, твой зяць атніхáіў яго ац Стыхванывых пырысят.*

**Аторва** *м.* і *ж.* Вялікі гультай, лежабок. *Такую аторву ня дужа к рабоці прітýркыіш, еў ба ды спаў. Узмацн.* **аторвіна.** *Аторьвіна быў, аторьвіна, нывазіліся зь ім і матка, і цётка, і ўсе. Павеліч.* **аторвішча.** *Ні пасьледній быў аторьвішча твой брацíц, сколька тут жыў, палкі дроў ні разу ні піріськяпíў.*

**Атосіна** *ж.* Атоса. *Дужа далёка твыя атосіна, пыт плятнём ляжыць кылы бярёзычкі, пыд ныгамі вылялыся, я прібрала. Памянш.* **атосінка.** *Во і ў маліенькія кыляскі атосінкі прічапілі!*

**Атрыгнуцца** *зак. перан.* Паўтарыцца. *Летыся была рожа і глядзі, каб сёліта ні атрыгнýлыся. Ета ў яго старыя балезьня атрыгнулыся.*

**Атукаць** *зак.* Затуркаць. *Як нывáлюцца са ўсіх бакоў, кругом, як атýкыюць, а яны ета ўмеюць, дык сам аць сябе атрякесься.* **Атуканый** *дзеепрым. Яму ўжо на від пыря́дышна, гадоў шыснаццыць, а нейкій атýкыный, усяго баіцца.*

**Аўчыніна** *ж.* Аўчына. *Каб яшчэ аўчы́ніна, і пулушубык ба быў дыбря́чый. Памянш.* **аўчынінка.** *Етыя аўчы́нінкі харошыя, сы старых авец і позна резыныя, кысматыя. Павеліч.* **аўчынішча.** *Аўчы́нішча — як сь цялёнка, ну тулуп біз натточкі пойдзіць.*

**Ахаіваць** *незак.* 1. Ганьбіць. *Як яны цябе глядзелі, былі хырашы, а цяперя ты іх ахáівыіш кругом.* 2. Прыглядаць, даглядаць. *А як я стыріка ахáівыла, етыга ты ні шчытаіш? Кулініна крепка сям'ю ахаівыіць, усе ў яе дагледжыны і хата прібрáджына.*

**Ахламонька, ахламоня** *м.* Неарганізаваны, неахайны, затуканы чалавек. *Куды ж ты, ахламонька, сыбраўся? Быў ахламоня і астаніцца. Памянш.* **ахламонічка.** *Ці ні к вам ахламонічка Пёклін нупруўля́іцца?*

**Ахотка** *ж.* Ахвота. *Ніхай зьбегыюць, раз у іх ахотка ёсьць. Ахотка яму цемíньню, грязішчыю цягнуцца ў тэя*

*Сапрынывічы. Памянш.* **ахотачка.** *Ахотычка на цэлыю ноч бежч ніізьвесна чаго, мне каб сто рублей плацілі, я ні пышла б.*

**Ацішацца** *незак.* Сунімацца. *Пасьледнія ўремя сталі троху ацішацца, а раншы ж уходу ні було, пряма ўсё хыдаром хадзіла ат іхніх дуроў.* **Ацішыцца** *зак.* Суняцца. *Калі ўжо етыя мальцы ацішуцца? Каб ацішыліся ны мінуту, ні разу спакою німа.*

**Ацэліць** *зак.* Выпадкова застацца цэлым. *Яблынкі ацэлілі, а йгрушкі памёрзьлі, ну тады марозы былі нівынасімыя.*

**Ацяміцца** *зак.* Разабрацца, зразумець. *Зразу мы і ні аця́міліся, к чаму ён ету трілю́ду прець. Цімка быйстра аця́міўся, што ім нада було.*

**Ачэгнуць** *зак.* Змізарнець, схуднець. *Што ета зы матка тыкая зыдыла́ся, дзеці ачэглі, а іна і ў тэй бок ні глядзіць.*

## Б

**Бабахканне** *н.* 1. Гучныя ўдары, стрэлы. *Мы чулі ў том баку, пыд Валоўнікі, быба́хкыньня.* 2. Важкае паданне з гукам. *Дам з вашым быба́хкыньнім, усю салому ны аторю піряцёрлі.*

**Бабахкацца** *незак.* 1. Падаць важка, з гукам. *На стог узьлезуць і ўніз на воз быба́хкыюцца,— што кылі каторый ні пупадзець, а ны зямлю ля́сьніцца? Вун твае ма́лыя, у сьнягу па вушы быбахкыюцца.* 2 *перан.* Праяўляць актыўнасць. *Мыкар німала ў жызьні быба́хкыўся, яму ўсігда неік ні вязло, ну патроху выкру́чывыўся.*

**Бабіца** *ж.* Мажная жанчына. *Ух, Куліна ба́біца была: і красівыя, і рыжа́йныя, і ны работу як агонь. Бабіцабабіца Мархва, а во ў дзіцях бог шчасьця ні даў.*

**Бабіюшчый** *прым.* Цяжкі для абмалоту, аббівання (пра лён). *Быбію́шчый лён, атырваў ён мае рукі, аж ня чуствыю.*

**Бабчанне** *н.* 1. Скручванне крута спрадзеных нітак. *Пакуля ба́бчыньня русплутуха́ю, сколька ўремя праходзіць, ці я дужа крута спріда́ю, ці што.* 2. Важданіна, кешканне. *Каб ні ваша ба́бчыньня, мы б на цэлый час раншы выіхылі, а з раньня бызар куды луччый.*

**Бадзюленне** *н.* Усаджванне, уторкванне з сілай. *Пайстріць нада кірку, якое ета бадзю́ліньня тупою.*

**Бадзюліць** *незак.* Усаджваць, торкаць з сілай. *Лупатка саўсім зутупілыся, бадзю́лю-бадзюлю ў зямлю, а йна ня лезіць.* **Бадзюліцца** *незак.* Усаджвацца, торкацца з сілай. *Ту́пы кылячкі, ня хочуць бадзю́ліцца.*

**Бадзюлька, бадзюлінка** *ж.* Завостраны калок, палачка і інш. *Тут ба якую-небудзь бадзю́льку уторнуў, і ета пацсонічына стыяла б. Нібальшую бадзюльку атлумай ды пыдапрі. Сюда нада нібальшэнькыя бадзю́лінка, і яно будзіць дзіржацца.*

**Бадуля** *м.* і *ж. ласк.* Бадлівая карова або цялё. *Ого, якей ты баду́ля расьцеш, рожкі чэшуцца. Хадзі, бадуля мыя, я табе хлеба с солькыю прінісла. Памянш.* **бадулька, бадулічка, бадулінька** *м.* і *ж.*, **бадулёк, бадулёчак** *м.* *Ай, баду́лька, ай, любіш чысацца, ну стой, пычашу́, пычашу. Бры́кыіць мой бадулька, вясёлінькій бычок. Пыдажджы, баду́лічка, пыдажджы, мыя харошыя, січас вы́нісу піць. Пыгла́джу, бадулінька, пыгладжу, дужа ты любіш лыска́цца. Бягіць будулёк, пачуў, што вядром брязнула. Ай, рожкі у будулёчыка чэшуцца, любіць балывыцца.*

**Бадун** *м.* Бадлівы бык, бычок. *Во баду́н пыдрыстаіць, каб на семя кінулі: с харошыя пріроды, з малошныя дужа. Памянш.* **бадунок, бадуночак, бадунчык.** *Ну што, будунок, мылыка хочыш? — січас ныпаю. Такей будуночык напорлівый, каб абізацільна босца. Ух, баду́нчык растопыўся, ды глядзі, каб ні пысьлізну́ўся ны масту, ато рызыдрацца можыць.*

**Бадуха** *ж.* Бадлівая карова. *Твыя баду́ха рузвуюва́лыся, усіх кароў у тубуне гыняіць.*

**Базаранне** *н. неадабр.* Шумная балбатня, сварка, крык. *Ныдыіда́іць мне кажный вечыр быза́ріньня іхныя, плятуць пустату ніізьвесна нашто.*

**Базарыць, базарыцца** *незак. неадабр.* Шумна балбатаць, сварыцца, крычаць. *Сыбра́ліся ў кучу і пашлі быза́ріць. Доўга пра нешта тубуном бызарілі, яны найдуць пра што. Вы луччы б меншы быза́рыліся, а скарей дыріза́лі бульбу, кыня вот-вот прігонюць і ў вас будзіць нінарезыныя.*

**Байкнуць** *зак.* Сказаць, пусціць чутку. *Дужа я баюся, калі нехта якую лухту ба́йкніць. Пры Андряёнкыў былі байкнулі, што нібытта яны замешыны у тым ільне, а тады пріціхлі.*

**Бакаць** *незак.* Коратка, адрывіста бляяць (пра авеч-

ку). *Ніхай бакыіць, пыбакыіць і ўспакоіцца, айцу ішчэ валхвіць буду.* **Бакнуць** *зак.* Коратка, адрывіста забляяць (пра авечку). *Па-мойму, айца нечыга бакнула, схадзі-ка ты глянь, чаго б ета іна.*

**Балабол** *м.* Балбатун. *Слухыць былабола пасьледнія дзела. Адзін толька ты можыш паверіць былаболу.*

**Балакі** *мн.* Пустая павольная гаворка. *Вашы былакі ніхто ні піряслухыіць. Каб було каму слухыць, ён ба, ні сьціхаючы, свае былакі рызвадзіў, ні разу б ні нанюньдзіўся.*

**Балахоненне** *н. неадабр.* Нудная балбатня. *Трошку і я пыстыяў, былахоніньня паслухыў.*

**Балахоніць, балахоніцца** *незак. неадабр.* Весці пустую, нудную балбатню. *Дос вам былахоніць пустоя, ці вы былі на том сьвеці, відзілі што, ай вам кума пріхадзіла і рыскызывыла, як там дзеіцца. Каб я ні скызала іціць двору, ні знаю, сколька б яны былахоніліся, сідзяць і трілюды с пустога ў парожнія піріліваюць.*

**Балдэс, балдэська** *м.* Недалёкі чалавек, дурань. *Ці ты балдэса ні знаў, ён што хочыш мог брязнуць, як вецір быў. Балдэська ты самый ныстыяшчый, с табою ні найціць ні пыціряць. Памянш.* **балдэска, балдэсічка.** *Балдэска іхній так сяньня вырідзіўся, што ні пызнаць стала, хуць пыд вянец стаў. А балдэсічка ж ты мой, ну што йта ты прідумывыіш, я ж дайжа нагою ні была ў тых Сутокых, знаю толька, што яны нейдзі піряд горыдым. Узмацн.* **балдэсіна.** *Што ты будзіш з балдэсіныю гывapiць, яму нічога ні ўталкуіш. Павеліч.* **балдэсішча.** *Куды ты етыга бадэсішчу пысылаіш, ніхай ён сядзіць у дваре.*

**Балезный** *прым.* Хваравіты. *Увы ўсякыю работу сам і сам, у яго жонка нейкыя балезныя, сядзіць у хаці. Крічыць ёй: выйдзі с хаты, балезныя!*

**Балматаць** *незак.* Гаварыць невыразна, неразборліва, балбатаць. *Балмочыць і балмочыць нешта, я нізаштычка ні рызьбяру. Сойдуцца тубуном і балмочуць бісьпірістанку, усіх аптреплюць.* **Балматнуць** *зак.* Сказаць невыразна, неразборліва, балбатнуць. *Я ўжо сам ні прістаўлю, хто б мог такоя былматнуць, ну прідумына ета нарошня, яй-богу, нарошня.*

**Балматня** *н.* Невыразная, неразборлівая гаворка, балбатня. *Я дык пряма ні хачу туды йціць, былматню іхнію слухыць, кажный дзень піріліваюць с пустога ў парожнія.*

**Бандзізма, бандзіцізма** *ж.* Бандытызм. *Тады жывая баньдзізма кругом была, што мы ныбыяліся, што ныпрінімаліся страху. Не, у нас быйстра баньдзізму ліквідзірывылі. А ці ты забыў, якоя трясушчыя ўремя було, усюдых быньдзіцізма, ня то што ўноччы, а й днём маглі пріціць і абыбраць, пакуля іх пычалі лавіць ды згыняць.*

**Бандура** *ж. перан.* Вялікая нязграбная рэч. *С такою бандўрыю у аўтобус ня ўлезіш, каб толька ны якей грузавік. Узмацн.* **бандурына.** *Ні шкап, а бандўріна, нікуды зь ім ні разьверніськя. Павеліч.* **бандурышча.** *Ай-я-яй, бандўрішчу нейкыю прівязьлі машыну, усю пуню зынілá, ні пывярнуцца стала.*

**Бандурыць, бандурыцца** *незак.* Балбатаць (звыч. пра мінулае). *Любюць бандўріць, сыбяруцца і пашлі бу-бу-бу — што калі було. А ні бандўрь ты чаго зря, каб у Машкі былі свáты, мы б даўно пачулі. Старыя знакомцы ўстреціліся, доўга сядзелі, бандўріліся, успымінaлі, як яны мыладымі былі.*

**Баненне** *н.* Паранне, мыццё ў лазні. *Якое ета бáніньня, што ны палок ні лазіў, пыласнуўся, пыласнуўся і гатоў, ныдзяецца.*

**Баніць** *незак.* Парыць у лазні. *Ня дужа ён любіць, калі яго бáніш, пішчэць пычынаіць. Я баніць ня ўмею, на, сам цёпыйся паціхіньку.* **Баніцца** *незак.* Парыцца, мыцца ў лазні. *Мае мушчыны любюць бáніцца, кажныю б нядзелю хадзілі, каб ім тапіў, самі тапіць ня дужа хочуць.*

**Барабаненне** *н.* 1. Ігра на барабане. *Пылажы ты луччы бубін с такім бырыбáніньнім.* 2. Грукат. *Вот ныдаела іхныя бырыбаніньня, пыдбірáю жалезьзя і пызакíдывыю.* 3 *перан. неадабр.* Шпаркая, неразборлівая гаворка. *Яны цябе сваім бырыбаніньнім навучуць на сьвеці жыць.*

**Барабаненнік, барабаннік** *м.* Той, хто барабаніць на бубне. *Во вам яшчэ адзін бырыбáніньнік, яны ўдваіх ныбырыбанюць, што вушы зыткніцё. Сь цябе бырыбáньнік луччы ўсіх, другога такога ні найдзіш.*

**Барабаніць** *незак.* 1. Рэзка, настойліва стукаць. *Бырыбáнюць у поўныч у дзьверí, я выйшла: хто там? — а ета Высілёвы хлопцы ішлі зь вічарінкі і зублудзіліся. Якоя жалезьзя пупадуць ны дваре і бырыбанюць.* 2 *перан. часта неадабр.* Шпарка, бойка гаварыць, балбатаць. *Так бырыбáніць, што ня дужа пойміш, што йна хочыць*

*скызаць. Толька чатыры гады, а ўжо бырыбаніць, аж захлёбыіцца, бойка гаворіць. Што ім дзелыць, бырыбанюць пустоя дзень у дзень.* 3 *перан. жарт.* Несці. *Ого, якей мяшок бырыбаніць, а ўсё жаліцца, што слаб. Пуда пуўтыра хлеба ны сабе ат аўтобуса бырыбаніў.* **Барабаніцца** *незак.* 1. Ігрaцца на барабане. *Нешта сяньня табе ня дужа бырыбаніцца посьлі ўчырашніга.* 2. Грукаць. *Бітоны слаба прівізаў, яны й бырыбанюцца. Дзеці нейкімі цацкымі бырыбанюцца.* 3 *перан. неадабр.* Балбатаць. *У іх каровы ні рявуць і дзеці ні плачуць, чаго ім ні бырыбаніцца. Сойдуцца, доўга будуць бырыбаніцца, пакуль ныталкуюцца.*

**Барана** 1 *ж. перан. неадабр.* Беспарадак. *Там і двыра таго столька — лапік, дык і на тым бырына, ні прайціць, ніяк пріпыряччыць ня можыць.* 2 *м.* і *ж. перан.* Неакуратны чалавек. *Якей жа ты бырына, усё глядзі зы табою ды глядзі.*

**Баранак, баранік** *м.* Абаранак. *Пагрыз, пагрыз бырáнык і кінуў, во ядун. Вун у кашолкі ліжаць, бырáнік зьеж і пацерьпіш ды заўтріка, скора бульба зваріцца. Памянш.* **бараначак, баранічак.** *Нескылька бырáнычкыў у кырман і пашлі гулять ну пуўдня. Хадзі сюда, я дам табе быранічык, дужа смашный.*

**Баранашнік, баранішнік** *м.* Ахвотнік да абаранкаў. *Рана ж ты, бырáнышнік, ускруціўся, быранькі ішчэ толька патходзюць. Бягі, бырáнішнік, к цёткі, іна табе нешта прінісла ў кашолычкі.* **Баранашніца, баранішніца** *ж. Томка як была маліцькыя, дужа ўжо быльшая бырáнышніца была, цэлый дзень, бувала, грызець. Успакойця ету быранішніцу, торніця што-небудзь у рукі, ніхай маўчыць.*

**Бараненне** *н.* Абаранянне. *А йдзі ты с тваім быраненьнім, ты ім пымыгла як хваробі кашыль.*

**Бараненнік** *м.* Абаронца. *С Хныкоўніныга сына ніплахей быраненьнік, ны яго хто нагою топніць, і ён пыбягіць уцікаць.* **Бараненніца** *ж. Січас другая быраненьніца пыдбягіць, утрёх яны зышчыцяць Юрку.*

**Барахловый, барахляный, барахлястый** *прым.* 1. Нізкай якасці, вартасці, дрэнны. *Быpaxловыя шубы ні купляй, кылі брать, дык каб на людзі можна надзець. Ны работу ён чылавек нічога, ну хрáкцірым дужа бырыхлáный, ны адзін нохыць ні ўладзь — і завёўся, пашоў бубнець, як борыхыва кіла. Хата яго бырыхлястыя, хряпкі,*

*летнія ва́лкі, хырашо, каб гадоў пітнаццыць вы́стыіла.* 2. Маланадзейны. *Пятрок быpахловый кынпаньён, ён у любую мінуту можыць падвесьць. С такімі бырыхля́нымі людзямі луччы ні зьвязывыцца. Аўдотка бырыхлястыя баба, у вочы с табою як масьліный блін, а атыйшла — ны цябе пынясець што зря. Памянш.* **барахловенькій, барахлясценькій.** *Быpахловінькій касьцюмчык, зы такея грошы путнога ня купіш. Бырыхля́сьцінькыя пастройчына, луччы ты паезьдзі пушукай чаго-небудзь кряпчэйшыга.*

**Барахольнік** *м.* 1. Барахольшчык. *Быpахольнік ён быў і астаніцца, зы ірваныю тряпку дрыжыць.* 2 *перан.* Маланадзейны чалавек. *Антон такей бырахольнік, ты яму ні ў чом веры ні дывай, січас шушу́кыіцца с табою, а атойдзіць — і ны цябе ныпляцець.* **Барахольніца** *ж.* 1. Барахольшчыца. *У тваe бырахольніцы ні разу путнэя вешчы ня будзіць.* 2. Маланадзейная жанчына. *Зы бырахольніцу зы такую ні ў чом ручацца нілізя, айдзе хочыш і ў чом хочыш пыдвядзець.*

**Барахольня** *ж.* 1. Памяшканне для старых рэчаў, памяшканне са старымі, малакаштоўнымі рэчамі. *Пусьціў клець ны бырахольню, там ні аднае вешчы путнэя німа. Ні мыгазін, а бырахольня, што ў ім купіш лю́дзкыя.* 2. Месца збыту старых рэчаў. *Збоку тута была тыкая бырахольня, тряпкі ўсякія прыдыва́ліся.*

**Барахольшчына** *ж.* Беспарадак (звыч. у гаспадарцы). *У іх знаіш ач чаго бырахольшчына? — што ня ў места глідзяць, а кажный сам пы сабе і сам длі сябе.*

**Бардзіла** *звыч. м.* Высокая няўклюдная асоба. *Во ўрадзіўся бардзіла, ніякія адзёжыны ны яго ні пыдбяреш. Прыха́джывылыся па горыду зь нейкім бардзілыю. Тыкая ж бардзіла, як і мужык. Павеліч.* **бардзілішча.** *Большы сажня вы́мыхыў бардзілішча, толька чужым розумым жывець.*

**Барсаннік** *м.* Той, хто забарсвае лапці. *Во ўзяўся бырса́ньнік, січас будуць лапці гатовы, ідзі нубува́йся.* **Барсанніца** *ж. Дывай-ка ты, бырса́ньніца, ні трілюдзь, а скарей шывяліся, ужо дзень ны дваре, січас ґвалт сьвіньні паднімуць.*

**Барсацца** *незак.* 1. Забарсвацца. *Неік у яго бырса́іцца ня ў тэй бок і ціріс курец.* 2 *перан. неадабр.* Блытацца пад нагамі, перашкаджаць. *Ні бырса́йся мне тут лі рук, ішчэ посыд паб’еш.* 3. Дзесьці хадзіць, цягацца.

*Аткуля я знаю, айдзе ён бырсаіцца, лі Цёмныга лесу, гываріліі, відзілі.*

**Басалыга** *звыч. м.* Мот, круцель, падманшчык. *Хвалі, хвалі Андреівыга, ета такей бысалы́га, што пыдзівіцца толька. Узмацн.* **басалыжына.** *І ты еткыму бысалы́жыну веріш? — яму ж ні ў жысьць паверіць нілізя.*

**Басатва, басота** *ж.,* **басатво** *н.* Басата. *Бысытва́ с таго кынца сыбярецца тубуном і ходзюць, каб што-небудзь утваріць, за імі глядзі і ня згледзіш. Раншы ў іх у дзярэўні тыкая басота была,— усігда кучыю, усігда кучыю і каб што сытваріць. Такоя бысатво ні ўвішча́ць нада, а хлыбазіну схваціць ды туріць хлыбазіныю пірiц сабою.*

**Басець** *незак.* Станавіцца босым. *Хылады находзюць, а я басею, нада ў лаўкі пыглядзець што-небудзь цяплейшыя на восінь. Ці ты ня відзіш, што дзеці басеюць, ні ап чом твыя гылыва ні баліць.*

**Басяк** *м.* Басяк. *Узмацн.* **басячуга, басячына.** *Я дык і ні прідумыю, у каго ён удаўся, еткій бысячу́га. Бысячы́на быў, бысячына, пріiжджаў раз, мы ны яго наглелзіліся ўволю. Павеліч.* **басячышча.** *Бысячы́шча ты, с табою ж путна́я дзеўка рызгыва́рівыць ні станіць!*

**Басяка, басяком** *прысл.* Басанож. *Хырашо, пріятна так бысіка́ пы расе пыхадзіць. Куды ж вы бысіка вупруўля́іцісь хыладзіныю? Ета січас усё набу́ўшы, а мы, як сьнег сойдзіць, і пабеглі бысяком. Дайжа у школу бысяком бегылі.*

**Басятнічаць, басятнічацца, басякаваць, басячыцца** *незак.* Паводзіць сябе распусна, па-басяцку. *Як увідзілі, што пычынаіць быся́тнічыць, зразу крепка ў шоры ўзялі. За імі прігляд ды прігляд нада, спусьціш з вока і пойдуць быся́тнічыцца. Нада глядзець, каб ні быся́тнічыліся, як рызба́лыюцца, тады нічога ня зьдзелыіш. Ні я твыя матка, у мяне б ты атвык і зарёкся бысікува́ць, я б цябе разым атаўчы́ла. Ды не, ня зь лета ён быся́чыцца, ужо ў прошлым гаду, ці ты ня помніш, што ён вытвыряў у горыдзі.*

**Баўтанне** *н. неадабр.* 1. Боўтанне, гушканне. *Ныдаела іхныя буўта́ньня, ідзі-ка ты шчапі вярёўку.* 2 *перан.* Балбатня. *Чулі мы яго буўтаньня, прець усякыю лухту, вушы вянуць слухыўшы.*

**Баўтаннік** *н.* Балбатун. *Буўта́ньніку нядоўга што хочыш ляпнуць, ты толька верь.* **Баўтанніца** *ж. Тыкая самыя буўтаньніца, як матка была, пустоя меліць і меліць.*

**Баўтануцца** *зак. перан.* Боўтнуцца, мільгануць. *Нехта буўтанўўся лі выкна, а ў дзьвері ня йдзець, глянь-ка, хто тама. Згонь, нечыга яму там лазіць, буўтанецца ж жэрдзя ўніз і ня згледзіш.*

**Баўтуха** *ж.* Балбатуха. *На ўсім белым сьвеці ні сыйскаць большыя баўтўхі, як твыя Проська была, іна ж чула ці ня чула, а прідумыіць, прікладзець, усё піряверніць і пышла лыпытаць.*

**Баўцюля, баўцюліна** *ж.* Невялікі прадмет, які вісіць. *Павесь яму над люлькыю баўцюлю якую, ён будзіць зубуўляцца. Павесіў кыцінятым баўцюліну, дык тэя цэлый дзень прыгыюць, ажно сь сябе выходзюць. Памянш.* **баўцюлька, баўцюлечка, баўцюлінка.** *Ну разьві ж красіва баўцюлік на кохту нычыпляць, па-моймy, нісколька ета нікрасіва. Ты ўжо ці ні вілікуват трошку, каб, як маліўкій, баўцюлічкымі зубуўляцца. Баўцюлінка нейкыя вісіць, я ні знаю, длі чаго йна павешына.*

**Бачына** *ж.* 1. Мяса з боку тушы. *Бачыны зваріла, парезыла ны тарелкых, сольлю трухнўла,— зы маліну йшла.* 2 *узмацн.* ад б о к. *Нада було дубінкыю пы бачыні зы такоя адурюваньня.*

**Баянне** *н.* Страх, боязь. *У цябе ўсюдых быяньня, аборык піряйціць і то страшна. Я ўмею атвучывыць ад быяньня, у мяне мігым пысьмялеіць.*

**Баярыць** *незак.* Цяжка працаваць. *Атклалі да будушчыга году, тады будзіць трі месіцы быяріць.*

**Беганнік** *м.* Той, хто бегае. *Такей шустрый бегыньнік, усё носіцца і носіцца, мінуткі ні пысядзіць.* **Беганніца** *ж. Во дабегыліся бегыньніцы, разьбілі каленкі ды крыві.*

**Безадхланне, безадхлынне** *н.* Нявыкрутка, нешанцаванне, няхватка часу. *Нейкыя бізытхланьня сыпіцца ны яе гылаву са ўсіх бакоў: тады с каровыю случылыся, ён ў бальніцу зьлёг, а цяперя самой такоя нішчасьця. Кругом у мяне бізытхланьня. Што б ты сам гыварій, каб ны цябе такоя бізатхлыньня нывалілыся.*

**Безгаловец** *м. неадабр.* Дурань. *Бізгаловіц нейкій урадзіўся, сколька ні дукўй, ат яго ўсё ацскакыіць як аць сьценкі гарох. Ні хачу я зь бізгалоўцым зьвязывыцца, купіш, а тады жвяныкыньня ні аббяресься.* **Безгалоўка** *ж. Чаго той бізгалоўкі нада, я яе ня трогыла і ня трону, і ніхай сядзіць спакойна. Зьвяжысься зь бізгалоўкыю, тады трудна будзіць распўтывыцца.*

**Бездарожыца** *ж.* Бездараж. *Вот-вот пўсьціць, пыча-*

*нецца біздарожыца, нікуды ня выпыўзьць будзіць, ета скрысеньня ны бызар абізацільна едзьця.*

**Безікі** *мн. абраж.* Вочы. *Чаго безікі вытрішчыў, куды нада глядзі. Безікі пратрі, увесь табун у атаві.*

**Безураддзе** *н.* Бязладдзе. *Сам нірыстаропный, жонка пупалыся толька спаць, стáрыя троху тýркыла, а бізь яе пашло бізурáдзьдзя. Калі ўжо бізурядзьдзя, дык яно ўва ўсім толку німа.*

**Безуродзіца** *м.* і *ж.*, **безуроддзе** *н.* Няўдаліца. *Як зыдасца бізуродзіца, ныгарю́ісься і ныбядýісься. Не, ты маўчы і ні гывbooрі нічога, во Прося цяпнула горя сы сваёю бізуродзіцыю. Зыдалося бізуродзьдзя, зь ім ні ў пір ні ў вір ні ў добрыя людзі. Хто яе возьміць, каму такоя бізуродзьдзя нада, іна ні ататрецъ як нада, ні есьць ні зваріць.*

**Безуродный** *прым.* Бязродны. *Сайка нейкій бізуродный быў, троху у Лешчынкі прівівáўся, ынімаўся кароў пасьвіць, ні знаю, айдзе ён дзеўся.*

**Белабрысік** *м. жарт.* Белабрысы чалавек, бландын. *Танька сабе ў жыніхі білабры́сіка вашыга вы́брыла.* Памянш. **белабрысічак.** *Ты відзіш, якея ў яго білабры́січкі, як шпýньцікі, бегыюць.* **Белабрыска** *ж.* *За рожыўскыю білабры́скыю уго як хлопцы гыня́юцца, а ны вас нешта ня дужа і глідзяць.*

**Белазорый** *прым.* З белымі вачамі. *На рост ён нічога, пыгля́дный, толька вочы нікрасівыя,— нейкій білазорый.* Памянш. **белазоранькій.** *Білазорінькыя дзяўчонычка.*

**Белапузік** *м.* 1. Белабрухая жывёліна. *Сёліта ў іх красівый бычок білапýзік, ны вярёўкі ўсё скачыцъ.* 2 *перан. жарт.* Малады, нявопытны чалавек. *Што етый білапýзік табе скажыць, з маткыю нада рызгывáрівыць.* **Белапузка** *ж.* 1. Белабрухая жывёліна. *Зь естыя білапузкі можыць нядренныя кароўка выйціць, яе матка дужа малошныя.* 2. Маладая, нявопытная дзяўчына. *Яе, білапýзку, ніхто і слухыць ні станіць, сыма схадзі, дык хуць рыскажыш усё.*

**Белянуць** *зак.* Крышку пабяліць або забяліць. *Мел во атхлуп і апсыпыўся, біляні, ніхай плямы ня сьвецюць. Дужа многа ныработылі, білянулі пы два разы і расьселіся курíць ны час.*

**Беспрытулле** *н.* Неўладкаванасць, адсутнасць парадку. *Біспрітýльля цябе нейкыя водзіць, ні найдзіш, за што рукі зычапíць. Ныпáла ны чылавека біспрітулья.*

**Бесталань** *ж.* Нешанцаванне. *Ікая на сьвеці бестылынь, уся ны маю гылаву. Ні знаў, куды ад бестылыні озівацца, пряма як нарошня кругом ні ў чым ні вязло.*

**Бесталковіца** *ж.*, **бесталкоўе** *н.* Бесталкоўшчына. *Бісталковіца нейкыя у вас, ці вам нілізя узяцца хызяйства пріпуціць, як ува ўсіх людзей. Такога бісталкоўя я нійдзе ня відзіў. Вы ж ад бісталкоўя прыпыдзіцё, чаго вы ня думыіця, як на сьвеці жыць.*

**Бізун** *м. перан.* Худы, тонкі чалавек. *Ішла сы сваім бізуном, ён як сьпічка, узяў ба і піріщчыпнўў.*

**Біндзюгала, біндзюгаіл** *м. асудж.* Той, хто блукае бязмэтна. *Вы́гыдывыла біньдзюга́лу, рукі ў кырма́ны і пашоў ветру шукаць, помышчы ні на нохыць німа. Што ж ты зьдзелыіш, кылі зыдаўся такей біньдзюга́іл, цігаіцца як сьвет біз ума і большы нічога. Павеліч.* **біндзюгалішча.** *Ты ж біньдзюга́лішчу свайго пашлі скасіць, такей лабрэт у хаці — і ты чылавека ныйма́іш.*

**Біндзюгі** *мн.* Воз для перавозкі бярвення. *Кыла Хведзькі біньдзюгі стыяць, зыпрігай і прівязеш палкі. Калі што дробныя зь лесу прівезьць, дык біньдзюгі зыпрігá-юць, каб калёс ні гнаць. Памянш.* **біндзюжкі.** *Цяперя ўсё ны машыных возюць, а раншы калёсы адзьдзельна, біньдзюжкі адзьдзельна дзелылі.*

**Біндзюжка** *ж.* Невялікі воз для перавозкі бярвення. *Зыпрягі ў Шыпырёнка ны дваре біньдзю́жку і прівязеш палычкі. Біньдзюжку дзелылі падвезьць што-небудзь нядоўгыя.*

**Біндзюжына** *ж.* Дэталь у біндзюгах *(гл.). Нейкія біньдзю́жыны за пунію выляюцца. Памянш.* **біндзюжынка.** *Адна біньдзю́жынка там, другая там, нада сыбраць уместа.*

**Бітва** *ж.*, **бітво** *н.* Бойка. *Чуць-чуць бітвá ні ўзьнілáся, блыгыдыря бога Хведзька нырваўся, угыманіў. Ну спраўця бітво, ніхай людзі апхахочуць. Ні ўгыварі, ні рузуверь, бітво ўзьнімуць.*

**Біток** *м.* 1. Аматар пабіцца. *Хадзі, біток, пацсу́нься, у цябе рёбры дайно няшчы́тыныя.* 2. Біта (пры гульні ў грошы). *Ат разьбітыга цугунá кусок атаб'ець і біток ім.*

**Біць** *незак.* 1. Прабіваць. *Дзірькі ў лесьвіцы бій і разьбій у долыці усю калодычку. Чым біць дзіркі, луччы сьвердлым калоць.* 2 *перан.* Разлічваць (на што). *Мыкар б'ець на тоя, што можа пацьцёлка ўдасца пірядзержыць.*

*На што яны б'юць, нічога ў іх с такіх рашчотыў ні палучыцца.*

**Блажэннічаць** *незак.* Жыць у шчасці, у дастатку. *Ёй такей мужык пупаўся, што блажэньнічыіць за ім як зы камінныю гарою, усюдых сам, толька што карову ня доіць. Доўга блажэньнічылі, усё ў іх гатовыя було.*

**Бліжаюшчый** *прым.* Бліжэйшы. *Большы цягнуць ня буду, у бліжа́юшчыя скрысеньня пайду ў Сутокі. Самыя бліжаюшчыя ўремя яны паедуць.*

**Бліннік** *м.* Ахвотнік да бліноў. *Рышчыня́й-ка ты і сяньня што-небудзь, бліньнік наш ужо ны дзяжу пыглідаіць. Памянш.* **бліннічак.** *Нясі, бліньнічык, скамеічку, во табе сьмітана, латка бліноў, мыка́й.* **Блінніца** *ж. Меншыя ўсё пыдряд ела, а большыя дужа была бліньніца, бувала, пякі ёй кажный дзень.*

**Блудзяга** *м.* і *ж. зневаж.* Бесклапотная і безгаспадарлівая асоба. *Яны ўсе такея блудзя́гі, мы ж іх знаім, як яны яшчэ пац стол пяшком хадзілі. Узмацн.* **блудзяжына.** *Каб ты знаў, якей зыдаўся блудзя́жына, атвылынґаіцца і пашоў цігацца на ўсю ноч.*

**Блында** *м.* і *ж. неадабр.* Асоба, якая блукае бязмэтна. *Ну што, зыдаўся блы́нда, цігаіцца айдзе пупала. Што дзяўчонка блында, ета пасьледнія дзела.*

**Блынданне** *н. неадабр.* Блуканне бязмэтнае. *Думыіш, мне ныравіцца ны яго блы́ндыньня глядзець, пыцярплю якую нядзелю, а тады путурю шукаць работу, нечыга мне гультуя карміць.*

**Блындаць, блындацца** *незак. неадабр.* Блукаць, хадзіць бязмэтна. *Як ім ні ныдаесць блы́ндыць дзень прі дні, ці яны сабе зыняція найціць ня могуць. Блындылі б і блындылі, зьдзелыць што ні кажы ім і ні гывары, ня любюць слухыць. Прііжджаў Максімыў большый, блы́ндыўся тута зь месіц, цяперя узноў зьехыў куды-то. Чаго ты ўсьлед блындыісься зы хвастом, шагу ні даеш ступіць.*

**Блямба** *ж.* Сіняк, крывападцёк. *Бля́мбу як пасодзюць, тады будзіш знаць, ці лезьць куды ні нада. Ходзіць твой Пітрачок з блямбыю, ды ні гаворіць, хто пысадзіў. Памянш.* **блямбачка.** *Глядзі, якей ужо рузуха́бістый Міхяёнык, а бля́мбычку знасіў.*

**Блямканне** *н.* Бразгат, пазвоньванне. *Я чуў нейкыя бля́мкыньня, думыў, дзеці пупалі якоя жалезьзя ды балыюцца. Унімііціся з блямкыньнім, спакою ат вас нійдзе німа.*

**Божканне** *н.* Бажба, спачуванне. *Божкыньня тваё ні паможыць, нада рукавы зыка́сывыць ды рукамі брацца, а ні ізыком.*

**Болмат** *м. неадабр.* Балбатун. *Мала што болмыт ваш трілюдзіў, яму ні ў чом дайжа ны адну капейку веріць нільзя.*

**Больный** *прым.* Хворы, балючы. *Увесь пымя́тый, больный, зы яго ўзяцца страшна. Нявестка мыя дужа больныя, няскора іна вы́дужыіць. Тыкая больныя рана, нілізя цярьпець.*

**Большы** *прысл.* Больш. *Большы я туды ні пайду, ніхай жывуць, як самі знаюць. Адзін раз пычастую, большы ня ўзду́мыіць ну дурюва́ньня.*

**Боля** *ж. дзіц.* Балячка. *Ня сунь пальчык, пріцісьніш — будзіць боля. Зыработыіш болю і зыпішчыш.*

**Боўтала** *м.* і *ж. неадабр.* Балбатун. *Ты яго паслухый, еткыя самыя будзіць боўтыла, як тата, дайжа вы́хыдкі тэя самыя.*

**Боўталы** *мн. груб.* Ногі. *Прібярі боўтылы, чарцей ты імі калышыш ці што.*

**Брадзеный, браджаный, браный, братый** *дзеепрым.* 1. Кратаны, браны. *А ні трілю́дзься ты — бра́дзіна, ніхто тваю бульбу ня трогыў. Па-мойму, дровы во тут брадзіны, відзіш, палык ні хвытаіць. А я гыварю, ячмень бра́джыный, во дайжа я́міна, айдзе мяшок стыяў. Нічога тута ні бра́на, усё як ліжала, так і ляжыць. Разьві ты сам ня відзіш, што дровы браныя? Бра́тыю кучку раскрый ды ныгрябі мяшок.* 2. Вырваны (пра каноплі, лён). *Куды ты занёс бра́дзіныя поскыньні? У нас лён ішчэ ні бра́джын, зыпазьніліся троху. Браный лён увесь стаіць у кучкых. Братыя каноплі нада пат крышу пыставіць, каб ні нымяклі.*

**Бражанне** *н.* Скісанне. *Бра́жыньня таго тут і ня відна саўсім, толька пенкыю трошку ўзялося зьверху.*

**Бражка** *ж.* Спражка.*Бря́жка атырвалыся, прішывваць нада. Ремінь тоўстый у дзьве редзі, і бряжкыю як узяліся яго лупіць у паліцыі, ды крыві зьбілі. Памянш.* **бражачка.** *Купіў сабе новый ремінь с красівыю бряжычкыю. Павеліч.* **бражышча.** *Бря́жышча у ремні бальшэнныя, бліщчыць — дужа красіва, думыіць.*

**Бражыць, бражыцца** *незак.* Кіснуць, укісаць. *Тута ў цябе нешта бра́жыіць, кіслый запых. Капуста толька-толька пычыла бражыць, нядзельку ішчэ ёй нада пысты-*

*яць. Нешта бра́жыцца ў цябе у бочычкі, кіслый запых аттуля б'ець і пена нывярьху. Нічога яно ні бражыцца, як заліта, так і стаіць.*

**Бразкатанне, бразкаценне** *н.*, **бразкатня** *ж.* 1. Бразгат. *Нейкыя там брізкыта́ньня було, мы чулі, ну ні абрасьцілі ўніманія, цяперь я помню: нейкыю чэпкыю брязкылі. Чую: нейкыя брізкаценьня зы дрывамі, ажно ма́лыя залезьлі і брязкыюць чым-то. Якея ў іх там жылізя́кі: брізкытня́, аж у вушах зьвініць.* 2 *перан. неадабр.* Балбатня. *Брізкыта́ньня ваша ўжо ў пячонкых ува ўсіх сядзіць, вы худзь ба час пыдзіржалі, як людзі, язык зу зубамі. Вашыга брізкаценьня усе наслухыліся, як тулька ізыкі вашы ні зыбыляць. Ныдаела іхныя брізкытня, як сыбяруцца, абізацільна пычынаюць чые-небудзь косьці пірімува́ць. Пыміша́ліся ны брізкатне, ня могуць, каб каго ні аблыпыта́ць.*

**Бразкатаннік, бразканнік, бразкатун** *м.* 1. Бразганнік. *Во рызьля́пыліся брізкыта́ньнікі, нешта куюць цэлый дзень. За што яны, тэя бря́скыньнікі, узяліся, пальцы пыдбіваюць адзін аднаму жалезьзім, во што ў іх будзіць. Уніміся ты, брізкату́н, сы сваім ля́скыньнім.* 2 *перан. неадабр.* Балбатун. *Такей брізкыта́ньнік, хужы бабы, што пупадзець ны язык, усё лапочыць і лапочыць. А ты разьві ні знаіш, якей ён бря́зкыньнік? Во брізкату́н: прідзіць ён суботыю,— у суботу ён зыняція сабе найдзіць, у суботу свадзьба пу суседству.* **Бразкатанніца, бразканніца, бразкатуха, бразкатуння** *ж.* 1. Бразганніца. *Ішчэ толька серінька було, за посыд узілася брізкыта́ньніца, ня сьпіцца ёй. Ці ныбрязкылыся, бря́скыньніца, так ты ўсе цацкі свае пулумаіш зы два дні. Адбярі-ка ты ў тае брізкату́хі мылаткі: пальцы пыдбіва́іць. Ты, брізкату́ньня, паб'еш вядро, акуратней нада.* 2. Балбатуха. *Такіх брізкытаньніц сьвет ня відзіў, чаго яны за дзень ні пірілапочуць. Брязкыньніца чышчы мамы, акасну́ла яе. Ты ікраз тыкая самыя брізкатуха, як твыя цётка, тая ўсё чыста дзелыла толька ізыком. Абея брізкатуньні такея, што дайжа ні прідумыць, сколька яны чаго пірілапочуць.*

**Бразкотка** 1 *ж.* Бразгалка. *Толька што бегыў з брязкоткымі па вуліцы твой малый, а січас ня відна.* 2 *м.* і *ж. перан. неадабр.* Балбатун, балбатуха. *Штоб мушчына і такей брязкотка! Каб сьціха́ла тая брязкотка хуць ны мінуту, як іна толька ува сьне церьпіць — ні лапочыць,*

*усё лах-лах-лах ізыком бісь сьціханьня. Памянш.* **бразкотачка.** *Ныбраў нейкіх брязкотычык і балыіцца цэлый дзень.*

**Бралка** *ж.* Ільноцерабілка. *К нам первый раз як прігналі бра́лку, мы думылі, іна саўсім ня пойдзіць,— як ета, бяруць рукамі, а тут машына.*

**Браннё** *н.* Уборка льну ўручную. *Лён брація ня дужа лёхка, ад брыньня́ і рукі, і сьпіна быляць, пастой-ка сагнутый ды пыцягні, ня дужа ета лёхка.*

**Браннік** *м.* Мужчына, які ўбірае лён уручную. *Як вы тута, брыньнікі, ні зызімўіця, нешта ня дужа ў вас дзела дзьвігыіцца упярёд, ацстыіцё.* **Бранніца** *ж. Ідуць мае браньніцы абедыць, ды нешта ня дужа бадзёрыя зь ніпрівычкі.*

**Браток, браточак, братка, братачка, братуха, братушка, брахненька, брахнейка, братуля, братулька, братулічка, братулінька** *м.* Зварот да блізкага чалавека. *Знаіш, бра́тка, па-мойму, ня стоіць табе сяньня саўсім туды йціць. Ай, бра́тычка, што ты гаворіш, я ж там узгудуваўся. Дывай, брату́ха, махнём пад вечыр у Стырасельля. Бра́хнінькі мае, ці вы ж мяне ні знаіця, мы столька гадоў у суседстві жылі, калі мы адзін аднаму плахоя зьдзелылі. Ну, бра́хнійка, ні ждаў я аць цябе дураты́ еткія. Брату́ля твой некуды сыбраўся, чэшыць, аж гай шуміць. Чаго-чаго, а етыга ты ні гыварі: брату́лька цябе ні дасьць у абіду. Што зь яго дзелыіцца, брату́лічкі мае, чаго вы ня ту́кніця ны яго як нада. Брату́лінька ты мой, я табе ўсю праўду рыскажу, як ны прісягі.*

**Брахло** *м.* і *ж. асудж.* Хлус, брахун. *Первыя бряхло быў на ўсю акругу, хто яго знаў, ні днаму́ слову яму ня веріў. Бряхло бряхлом, праўды ў яе ні на волыс ні було й ня будзіць.*

**Браценнік, брацельнік** *м.* Стрыечны брат. *Твой браценьнік дужа ўлігаіць за Пёклінью дачкою, пряма ні выходзіць зь іх дзяреўні. Брацельніка пызаві, ён тут уміг усё пыправіць. Памянш.* **браценнічак, брацельнічак.** *Ета ня вы́думка, ета брацеьнічык твой гыварыў. Пыдажджы сваім брацельнічкым хваліцца.*

**Бруда** *ж.* Бруд. *Нашто ж вам такую бруду́ зупуска́ць у хаці? Пакуля з брудою ўпра́віліся, дзень прашоў.*

**Брудзянець, брудзець, бруднець, брудзянецца** *незак.* Забруджвацца, рабіцца брудным. *К мылацілкі харошыга нічога ні ныдзіваюць, пыльна, усё брудзянеіць. Таго*

*кыўнярі брудзянеюць, што шыю ня мыіш. Ты нешта саўсім у пасьледнія ўремя брудзянеіш. Ны табе ўсё брудзеіць, як ны пырасёнку, хуць нічога ныдзівадь ні дывай. Ны мыладзьбе ўсё брудвеіць, як ні бірягіся, там пыльна дужа. У цябе ўсё будзіць брудзянецца, ты дужа нікуратный і нізґрайный, зы пырядкым ні глядзіш, усё выляіцца як пупала і айдзе пупала.*

**Брудзяніць** *незак.* Забруджваць, рабіць брудным. *Толька надзеў і пычаў брудзяніць, ніскольна ні глядзіць, каб чысьцейшыю пыбыла адзежына.* **Брудзяніцца** *незак.* Забруджвацца, рабіцца брудным. *Як ты акуратна ня дзелый, лі машыны ўсё брудзяніцца. Ты сабе як хочыш, а мне брудзяніцца ахоты німа.*

**Брус** *м. іран.* Празмерна тоўсты чалавек. *Ходзіць брюс, ня спышыцца, ажно адзёжа на ём ня сходзіцца. Узмацн.* **брусюган.** *Наеў брюсюган пуза, нічога ня дзелыўшы. Павеліч.* **брусюганішча.** *Ідзець с Тонькыю брюсюганішча пудоў на дзесіць, глядзеў я, глядзеў, хто ета, і ні пызнаў, толька посьлі ўспомніў, што Мыксімёнкыў большый.*

**Брызканне** *н.* Брызганне. *Учора ты зы аблівáньня схваціў, а сяньня за брызкыньня тоя самыя палучыш. Малый трошку парёў посьлі брызкыньня, а тэй уцёк.*

**Брызкаўка** *ж.* Дзіцячая цацка для брызгання. *Надзелыюць брызкывык, а тады абліваюць адзін другога — пырсь, пырсь. Сядзіць, кулупáіцца: брызкыўку дзелыіць.*

**Брызкаць** *незак.* 1. Брызгаць. *Ну што ж яны дзелыюць, вадою адзін ны днаго брызкыюць, зыняція сабе найшлі. Учора атвечыра дожджык як пычаў брызкыць, дык во й ні пірістаець.* 2 *перан.* Сеяць (пра рэдкую сяўбу). *С крáюшку ячмень трошку брызкыў, нескылька каліў узышло.* **Брызнуць** *зак.* 1. Брызнуць. *Як брызьніць яму ў вочы!* 2 *перан.* Пасеяць (пра рэдкую сяўбу). *Нада було брызнуць пышаніцы паўлýбычкі ат кынавы, ніхай ба ні пустуваў кусочык, якей ба сноп увосінь і жжаўся б.*

**Брызкун** *м.* 1. Той, хто брызгаецца. *Ну-ка, брызкуны, уніміціся, ато я вас набрызкыю.* 2. Рэдкі дождж. *Якей жа ні брызкýн, а сена намочына, у копы ні складзеш. Як пы дажджынкі брызкыіць, тады й брызкýн.* **Брызкуха** *ж.* Тая, што брызгаецца. *Успакой брызкýх, як малютычкі якея, брызкыюцца, людзі будуць сьміяцца.*

**Брызчык** *м.* Адборнае зерне, якое адлятае найдалей пры веянні ўручную. *Калі харошый хызяін быў, ён бры-*

*жчык адзьдзельна адгрібаў і сеіў. Брыжчык зьбіралі ў жыці, можа, калі ў пышаніцы, у другім хлебі ні глядзелі.*

**Брыкі** *звыч. мн.* Падбрыкванне. *Глядзі, карова, табе толькі брыкі на ўме, аж скачыш ны вярёўкі. Жарёбка вырвылыся і ў брыкі зы балота. Жырібятым тольки брыкі — пускай іх, што ім дзелыць.*

**Брыкун** *м.* 1. Гуллівая жывёліна (звыч. маладая). *Вун брыкуны носюцца па выгыну, харошыя жырібяты, гладкія.* 2 *перан.* Хлапчук-гарэза. *Нешта твой брыкун рызырзаўся сяньня ціряшчур, ці ня хочыць ён вярёвычкі. Памянш.* **брыкунок, брыкунчык, брыкунчычак.** *Рузгуляўся брыкунок, хочыць бізь вярёвычкі ну лугу пабегыць. Во брыкункі твае рызыйшліся, яны б харошыя былі мальчыкі, каб ні балыўныя. Такей быў брыкунчык і так ні пыдвязло: нагу выкруціў. Ну, брыкунчык, ці смашных бліноў матка нышкла? Стой, стой, мой брыкунчычык, січас я цябе спушчу, пугуляіш.* **Брыкуння, брыкунніца, брыкуля** *ж.* Гуллівая маладая жывёла. *Распрыгылыся брыкуньня, каб яе пусьціў, ніізьвесна б куды зьбегла. Кытанула твыя брыкуньніца ў кусты, ідзі шукай, пакуля ня зьбегла куды. Тыкая брыкуля, усё б гуляла, і на від пыглядныя. Памянш.* **брыкунька, брыкулька, брыкулічка, брыкулінька.** *Напрыгылыся за дзінь брыкунька, піць зыхацела. Вядзі-ка брыкульку нашу нывяжы, у пуні ёй ужо ныдаела. Брыкулічка мыя, брыкулічка малінькыя, ні пускаюць цябе пабегыць. Ах, брыкулінька, як ты любіш пыбалывыцца!*

**Брылёўнік** *м.* Лопух, дзед. *Пылагеіна дворішча зырасло брылёўнікым, што туды ня ўлезьць, увосінь рыспашуць. З брылёўніку дзелылі цэўкі, яны някрепкія, ну трошку дзіржацца. Памянш.* **брылёўнічак.** *Брылёўнічык мыладэй пысьсікай,. зуглушаць хуць нічога ня будзіць.*

**Брынды I** *мн.* Махры ў абтрапанай знізу адзежыне. *Вазьмі ножні ды падреж троху зьнізу штаніны, брынды ўнізу цігаюцца.*

**Брынды II** *мн. неадабр.* Бязмэтнае блуканне. *Я б яго так аччытала зь яго брындымі, што ён ба зразу ўняўся, такей хлопіц гульма гуляіць. Ныдаелі мне яго брынды, ці ён ня можыць што паможч у дваре.*

**Брысюган** *м.* Здаровы, але гультаяваты чалавек. *Ня дужа етыга брысюгана зыставіш зьдзелыць што-небудзь, будзіць вылежывыцца і ўсё. Узмацн.* **брысюганішча.** *Рысхаджыіць брысюганішча пы дзяреўні дзень прі дні.*

**Буба** *ж.* Ягада, зярнятка. *Бярі, дзетка, бу́бу ў роцік, смашныя ягыдка. Памянш.* **бубка, бубачка.** *Прінёс у кызаўку́ нейкія бу́бкі, я такіх з роду ня відзіла. Чаго ў вас бу́бычкі пы сталу пынысыпа́ны?*

**Бубеншчык** *м.* Барабаншчык. *Якей жа сь цябе бу́біншчык, есьлі ты бубна ў руках ні дзіржаў. А ты бярі мяне за бубіншчыка, дадзім копыці.*

**Бубненнік** *м.* 1. Барабаншчык. *Мой бубненьнік пыд раньня прішоў, ужо дзяньнець пычынала. Ні нада тут етый бубненьнік і бубненьня яго ні нада.* 2 *неадабр.* Буркун. *Қ старысьці такім бубненьнікым стаў, што слухыць ныдаела, любую прічэпку найдзіць, каб пубубнець, і біс прічэпкі бубніць.* **Бубненніца** *ж.* Буркуха. *Тама адна была бубненьніца — спакою ні було, а тута другая серца рьвець. З раньня бубненьніца заводзіць свае песьні і бубніць да цёмныга, ні ны мінуту ні сьціхаіць.*

**Бубніла** 1 *н. жарт.* Барабан. *Бярі на плечы бубніла, пашлі, дзевык сяньня многа сыбралыся.* 2 *м.* і *ж. неадабр.* Буркун. *Учора з раньня бубніла як завёўся, к вечыру чуць сьціх. Пыстарела — бубніла стала, ніхто ні дагодзіць.*

**Бубны** *мн.* Вытаптаная, выбітая паша. *Ну бубна́х ні ныпасеш, а ні ныпасеш — і мылыка ня жджы. Ны Зьмітракоўшчыні адны бубны́, ні травінкі німа, усё выбіта, аж пыл пыднімаіцца.*

**Бузаванне** *н.* 1. Цяжкая праца. *Што толку с твайго бузува́ньня, сілу ныпрасна ўбіваіш, столька-то дроў зь етыга пня. Нічога з вашыга бузуваньня ні палучыцца, дырма ўсё.* 2. Неберажлівае абыходжанне з адзеннем. *Прі таком бузуваньні табе ні нуспруўляісься нічога.*

**Бузавацца** *незак.* Цяжка працаваць. *Трі дні бузува́ўся нат погрібым, ікая аднаму работа прі такой ця́жысьці.*

**Бузгорак** *м.* Узгорак. *Зы Стахоўшчынью ну бузгорку лісіцы доўга вяліся, с погріба ямкі падзелылі і жылі. Памянш.* **бузгорачак.** *Нібальшэй бузгорычык, а чуць конь усьцягнуў воз.*

**Бузгор'е** *н. зб.* Пагоркі. *У іхній дзярейні ніважныя зімля, усё бузгорья і бузгорья. Пу бузгорью ня дужа што родзіць.*

**Бузяный** *прым.* Са смеццем (пра зерне). *Мяшочык бузя́ныга ячменю быў, змалолі пырасёнку. Бузяныя жыта сеіць нілізя, нашто ж траву сеіць.*

**Буй** *м.* Халадэча з ветрам. *Павеліч.* **буішча** *ж. Тыкая буішча, а ён у адной рубацёнкі — пляхотычкі. Чаго вам дрыгнуць ну буішчы, ці нільзя ў хаці пысядзець?*

**Буйнецца** *незак.* Буйнець. *Як пыцяплела, і гуркі сталі буйнецца. Ня дужа яблыкі буйнеюцца, сідзяць мулюпáхтынькія, як пызыдзірьвянелі.*

**Буканне** *н.* Стуканне лбамі (пра авечак). *Як у іх ілбы дзіржацца ат такога бýкыньня!*

**Букатый** *прым.* З вялікім брухам (звыч. пра жывёлу). *У Мікіпыра быў букáтый-букатый конь, як кабыла жаребная, у аглыблях ня месьціўся.*

**Букацца** *незак.* Стукацца лбамі (пра авечак). *Відзіў, як быранчыкі мыладзенькія бýкыюцца: разгонюцца і лбамі бук, бук.* **Букнуцца** *зак.* Стукнуцца лбамі (пра авечак). *Глядзі, глядзі, быраны січас бýкнуцца, нуступаюць адзін ны днаго.*

**Булдоўка** *ж.* Булдавешка. *Схваціў нейкыю палку з булдоўкыю,— паткніціся! Булдоўку ну шнурок прівізаў і круціць.*

**Булдыр** *м.* Пухір, гуз. *Ускачыў нейкій булдыр ны калені, аж нагу ні сагнуць. Зыявіўся з двумя булдырямі на лбе. Памянш.* **булдырок, булдырочак.** *Пашлі булдырькі па целу, наверна ат прастуды. Іна тыкая былячка, нейкій булдырёчык маліенькій, ну лі самыга ж вока.*

**Бульбашнік, бульбяннік, бульбятнік, бульбяшнік** *м.* Ахвотнік да бульбы. *Ну што, бýльбышнік, можа, сяньня капусты з грібамі зварім? Мае бульбяньнікі як прашнуцца, так і пыдывай ім чугунок сь печы. Такея ўжо бульбяньнікі, большы ім нічога ні гатоў. Сунь у руку бульбіну ш чугунка, есьлі ён бульбятнік такей: дай, дай, аж енчыць. Другей мне бульбяшнік найшоўся, хочыць ён тае бульбы, ета во увідзіў і будзіць склімець: а чаго ні яму.* **Бульбашніца, бульбянніца, бульбятніца, бульбяшніца** *ж. Тваёй бýльбышніцы ня дужа што дыгадзіш. Хадзі, бýльбышніца, будзім са мною есьць. Садзіцісь-ка, бульбяньніцы, скабліць, дровы січас рызгыряцца, гаршчонычык прістыўляць нада. Пастой, січас бульбятніцу сваю пыкармлю, ліну бульбы жыдкія і пыбягім. Тыкая ўжо бульбяшніца, дай бульбіну, будзіць цэлыя раньня марзёкыцца, троху зьесьць, а большы рызатрець.*

**Бульбіна** *ж.* Бульба (у абагульненым значэнні віду гародніны). *Ікая бульбіна будзіць, ён рыспырядзіцца, жыва дасьць ряд. Бульбіны трошку ў ямку пасыпылі,*

*мароз дыбрайся, пымарозіў, улезла я, хвацілыся — ліжаць цацкі.*

**Бульбоўнішча** *н.* Бульбянішча. *Як ты чыста ні кыпай, усё дно бульба ў зямле астаецца, бульбоўнішча нада пірíпáхывыць. Пу бульбоўнішчу можна ўсё сеіць, і ячмень вы́рысьціць, і пышаніца будзіць.*

**Бумажына** *ж.* 1. Кавалак паперы. *Пыдніміі бумажыну ды ны загнет кінь.* 2 *пагардл.* Нязначны дакумент. *Ня хочыць патпісывыць тваю бумáжыну.*

**Бумажэнцыя** *ж. пагардл.* Нязначны дакумент. *Можна й так ехыць, ну ніхай ба ікая бумажэнцыя была ў кырмані. Нейкыю ж бумажэнцыю сабе рыздабыў.*

**Бунтаванне** *н.* Перашкоджванне. *Пірістань з бунтувáньнім, січас пу руках палучыш, я ўгыварівыць ды ўмасьлівыць ні стану.*

**Бура** *м.* і *ж. перан.* Буйнацелая асоба. *Во бу́ря Сенькіна баба, верна, пудоў на восім, Сенька быў упылавіну яе. Павеліч.* **бурышча.** *Бу́рішча чылавек, плечы тэя ня зьмеріiш, ростым зы сажынь, яму адзежы ні пыдбяреш.*

**Бурбуленне** *н.* Кіпенне з моцным бульканнем. *Айт, ня жджы ты бурбуленьня, ета ня піць, нагрелыся і цягні, скарей вы́пылышчым плацьця.*

**Бурбулець** *незак.* Кіпець з моцным бульканнем. *Чугун ужо дайно бурбуліць, дыстывай, пасуду пірямыць нада ды сталы гатовіць.*

**Бургун** *м.* 1. Купіна, грудок. 2 *перан.* Жаўлак, шышка. *Памяніш.* **бургунок, бургунчык, бургуночак.** *Па Сімыныву ад балота бургункі, бургункі былі, а во пырыспыхáлі ўсё. Хата стыяла ну бургу́нчыку, а баня лі сажылкі ўнізу. Зу бургуночык схувайся, паспробый найдзі яго. Бургунок ускачыў на шыі, гылаву ні пывярнуць. Па левый руке нейкія бургу́нчыкі. Ня трогый бургуночыкі, ні даві, яны самі разойдуцца.*

**Бургунне** *н. зб.* 1. Куп'е, грудкі. *Мы духу дáліся, пакуля бургу́ньня троху пызрізалі, рузруўня́лі, зямлю дывялі ды ладу.* 2 *перан.* Жаўлакі, шышкі. *Ат прастуды пашло бургу́ньня па целі, пацстыў нейдзі дужа крепка.*

**Бурдзель, бурдзіла** *м. зневаж.* Чалавек з шырокім тварам. *Куды тэй бурдзель дзьвініцца, ён ляніцца на печы з боку на бок пірівярнуцца. Ці твой бурдзіла ня пішыць, калі ён думыіць пыд'явіцца? Павеліч.* **бурдзялішча, бурдзілішча.** *Ці ня відзілі вы Антаноўніныга бурдзяліішчу, ён некуды у етый бок нупруўляўся. Хітрый*

*бурдзілішча, думыіць, ніхто пра іхныя мыхінацыі ні прызна́іць.*

**Бурлян** *м.* Бур'ян, быльнёг. *Каб пывысіка́ў бурля́н, дык ба луччы було. Сухім бурляным гру́бычку хырашо тапіць: нулумаіш бы́льля, кініш, яно пых — і дух зразу пашоў пы хаці.*

**Бурлянішча** *н.* Месца, якое зарасло бур'янам. *Пакуля рыскывіря́лі бурля́нішча, зымаріліся, ні ўкулупну́ць було, ні атвярнуць.*

**Буртоўшчык** *м.* Буртаўшчык. *Ныпряніся, буртоўшчык, цяплей, на ветрі будзіць прыбіраць, а станіць жарка — зьдзеніська.* **Буртоўшчыца** *ж. Ты буртоўшчыца луччыя зу мушчын.*

**Бусіць** *незак. жарт.* Цалаваць. *Бягі, бягі сваю ніныгля́днуюю бу́сіць, іна цябе даўно жджэць — ні дажджэцца.* **Бусіцца** *незак.* Цалавацца. *Відзілі мы, відзілі: стыяць, бу́сіюцца, можа, ны свадзьбу скора пызавеш.*

**Бухікала, бухукала, бухала** *м.* Чалавек, якога працягла мучыць моцны кашаль. *Мне бухікыла ні нада, я, кылі зыхачу, найду сабе чылавека ні такога. Таго буху́кылу зу пуўвярсты́ пачуіш. Выйшыў бу́хыла на вуліцу, буху, буху — ац самых Равоў чутна.*

**Бухіканне, бухуканне** *н.* Моцны кашаль. *Ці йдзі лажыся, ці што дзелый, тапі баню, парься, ну мне ныдаела тваё бухікыньня. Яго буху́кыньня ў мяне і сяньня ў вушах стаіць. Во бухукыньня, як іръвецца што ны сярёдку!*

**Бухікаць, бухукаць** *незак.* Моцна і працягла кашляць. *Чаго ён усё бухікыіць, як у бочку, у яго у лёхкіх нешта зывіря́іцца, інкачы б чаго так біў кашыль. Доўга буху́кыў, а тады некуды зьезьдзіў, пыдлячыўся, як чылавек стаў.* **Бухікацца, бухукацца** *незак.* Моцна і працягла кашляцца. *Ну-ну, нешта табе бухікыіцца, як стырiку якому. Дывай-ка пыднімай, каб большы ні буху́кылыся.*

**Бухценне** *н. неадабр.* Нездаволенае бурчанне. *Тваё бухценьня пряма ў пячонкых сядзіць. Ну іх зь іхным бухценьнім, я тэя лухты наслухыўся дос.*

**Бухцець, бухціць** *незак. неадабр.* Нездаволена бурчаць. *Села і пычыла бухцець: ні ныра́віцца, што яны новыю хату становюць. Нешта бухціў, мы ня слухылі дужа, пашлі. Ні знаіш, дык німа чаго бухціць попусту.*

**Буцвелый** *прым.* Гнілы (ад сырасці, макрэчы). *Кла́дзі ў погрібі дужа буцьвелыя, што ж, усё сы́рысьць і сы-*

*рысьць. Пыдніла бацінкі, яны ні сырыя, а пряма буцьвелыя.*

**Бушмаценне, бушмачанне** *н.* Нагаворванне, хлусня. *Як вы веріця іхныму бушмáціньню, яны ж тріл́юдзюць што зря. Наслухыіцца бушмáчыньня, можа, дайжа нарошня пад'ю́дзюць, тады пріходзіць — сам ня свой.*

**Бушмаціць, бушмачыць** *незак.* Нагаворваць, хлусіць. *Пра ета Сідарёнык бушмáціў, толька яму дывіряць дужа нільзя. Бушмацюць што пупала, ім каб ізыкі троху пыўкырáчывыць. Нашто бушмачыць, ежылі ні знаіш, ці ты падумыў, што с такея тріпатні можыць быць.*

**Бушна** *прысл.* Лапушыста. *Ігруша бу́шна рызрыслася, толька ігрушкі на ёй ня дужа смашныя.*

**Бушнець** *незак.* Лапушыцца, рабіцца лапушыстым. *Ціплытá узілася посьлі дажджоў, гароды віда бушнеюць.*

**Бушный** *прым.* Лапушысты. *Прімець-ка, усігда пыт капусту нада пыцсыпáць залу, іна тады бу́шныя расьцець. У гурках дужа бушныя ціціва́ ні нада.*

**Бывалашній, бывалашный** *прым.* Мінулы, колішні, былы. *І цяперя адзінáкыва ні буваіць, і бувáлышнія гады ўсякія выпыдалі: калі хырашо пріродзіць, а калі пасеіныя чуць зьбіралі. Бувалышнія людзі што зналі? — ныработыцца, пад'есьць і спаць. Бувалышнія гаршкі век жылі і ня біліся, а цяперя зьлепюць, зьлепюць, ды яго датронуцца страшна. Бувáлышныя ўремя хлопцы, знаіш, што вытвырялі. Бувалышныя леты, ух былі жаркімі, пряма гарела ўсё.*

**Былка** *ж.* Былінка, травінка. *Вісна зыпазьнілыся, дык пыдыбраліся людзі, бы́лкі ні ў кога ні асталыся. Худзь ба рысла ікая былка на етый вы́гыры. Памянш.* **былачка.** *Як бы́лычкі ў пуні ні астáніцца, тады ты пырыскашу́ісься і бярежч нáўчысься.*

**Быстрэць** *незак.* Рабіцца рухавейшым, больш актыўным. *Прыкапёнык з мыладою жонкыю быстрець стаў, сяньня вун ну гумно, з гумна, як мітульгá, лётыіць.*

**Бычанок, бычонак** *м.* Цялё-бычок. *Сы́ціцькій бычанок быў, ны здачу купілі. К восіні бычынка як пыткычáіш, капейчына будзіць. Нешта смутный сяньня бычоnык, бакі пыўпáлі і піць пасьці ні ўзяў, два разы цмыктану́ў. Памянш.* **бычаночак.** *Гладзінькій бычаночык, ён дзьве нядзелі пыт каровыю быў, ні тнімалі.*

**Бычэць** *незак.* Рабіцца грубым, нелюдзімым. *К тріц-*

*цаці гыдам саўсім стаў бычэць, скора і гыварıць разучыцца.*

**Бэнкнуць** *зак.* Дзынкнуць. *Нешта зызьвінела, усё дно як хто ны былылайкі бэнкнуў. Во пріслухыйся: што-то бэнкніць, ня чуць, а тады ўзноў так.*

**Бэрла** *груб.* 1 *н.* Шырокі твар. *Пріїжджаў іхній зяць, здыравушчый мушчы́нішча, во такоя бэрла.* 2 *м.* Чалавек з шырокім сытым тварам. *Ходзюць бэрлы, ха́рі пынаелі. Прінясець тэй бэрла сьвярдзёлкі, дажджэсься. Павеліч.* **бэрлішча.** *Рузгудува́ўся бэрлішча, нічога ў дваре паможч ня хочыць.*

**Бэрсанне** *н.* 1. Блытанне пад рукамі, перашкоджанне. *Ну-ка вон ат'етуль з бэрсыньнім, мішаць пуд рукамі!* 2. Бадзянне, швэнданне. *Я б скора атаўчыла ад бэрсыньня: ні пусьціла б ціріс парог, во і ўсё.*

**Бэрсацца** *незак. неадабр.* Блытацца пад рукамі, перашкаджаць. *Чаго вы тута бэрсыіціся, ішчэ посыд пыськідáіця.* 2. Бадзяцца, швэндацца. *Якей жа ета мужык, што нядзелю жывець у сям'е, а тады месіц ніізьвесна айдзе бэрсыіцца.*

**Бязведамный** *прым.* Невядомы. *Я неік ні рішаюся браць бязьведымныга пацьцёлка, мала якей ён, можа, загуна ікая ёсьць.*

**Бязвылазна** *прысл.* Пастаянна (пра знаходжанне). *Чаго б я там сядзеў бязвы́лызна? Прыпыдаюць бязвылызна у Сяльцэ, нейкія іх дужа ўжо бальшэя крысавіцы ні тпускаюць.*

**Бязвырушна** *прысл.* Непрыбыткоўна, бескарысна. *Цяперя мне бязвы́рушна ехыць куды-небудзь, заробіць— ужо сіла ні тая, буду тут сядзець.*

**Бязвырушный** *прым.* Непрыбыткоўны, бескарысны. *Учырашній бызар у мяне быў бязвы́рушный, толька ныпрасна кыня згыняў.*

**Бяздзетух** *м.* Жанаты мужчына, у якога няма дзяцей. *Жыў тут нейкій старік бязьдзетух, і старуха была, ні знаю, ці жонка, ці так ікая прівіва́лыся троху. Грішка ні яго сын, ён быў бязьдзетух.*

**Бяздоліца** *ж.* Няўдача, нешанцаванне. *Як ні зыдасца жызьня, век зьвякуіш у бяздоліцы, праўду ж гаворюць: як ні було шчасьця з раньня, ня будзіць ды зьмірька́ньня.*

**Бяздоліць** *незак.* Абяздольваць. *Вінуват то ён вінуват, ну толька неік жа жалка бяздоліць сям'ю, дзеці*

*дробныя, пыгыварю: ніхай ён пы-харошыму сплоціць, біс суда.*

**Бяздомак, бяздомец** *м. груб.* Легкадумны, бесклапотны чалавек. *Што етыму бяздомку гываріць, ён цябе ні паслухыў і ні паслухыіць ні разу. Усігда твой хваліный Андрей быў бяздоміц бяздомцым і ныўсігда астанецца такім.* **Бяздомка** *ж. Ні хачу я зь ёю тулкувыць ні пра што, іна паследнія бяздомка ў дзяреўні.*

**Бяздоміца** 1 *м.* і *ж. груб.* Дурань, неслух. *Чаго вы еткія бяздоміцы рысьціцё? Якей бацька бяздоміца быў, такей і сын зыдаўся.* 2 *ж.* Беспарадак, бязладдзе. *Бяздоміца вас кругом заела, ці вы ж ня можыця, як людзі, жыць, пріпыря́ччыцца?*

**Бяздомства** *н.* Беспарадак, бязладдзе. *Кылі бяздомства, дык яно ува ўсім бяздомства, бацька з маткыю ні на што ні брышча́лі ўнімання, і ў дзіцях німа пуця.*

**Бязлюднік** *м.* Нелюдзь. *Бязьлю́днік нейкій зыдаўся, ідзець і на сьвет ні глядзіць. Не, ўжо я таго бязьлюдніка піріпра́шывыць ні пайду, ніхай пішыць, што хочыць.* **Бязлюдніца** *ж. Усе бабы як бабы, ку́чкыю, кучкыю, а йна бязьлю́дніца нейкыя, усё ўбок і ўбок, ні разу к людзям ня юціцца.*

**Бязлюдства** 1 *н.* Бязладдзе. *У іх бязьлю́цтва ніяк ні вылазіць.* 2 *м.* і *ж.* Нелюдзь. *Хто яго чылавекым нызавець, бязьлюцтва нейкыя зыдалося.*

**Бязмозкавата** *прысл.* Бяздумна. *Аб адном толька прашу цябе: ня дзелый так бязмозкывыта, як у Сьвітазеры, ніхай хуць тута ціха абойдзіцца.*

**Бязмозкаватый** *прым. абраж.* Бязмозглы, зусім някемліві, тупы. *Ці ні бязмозкывытый ета чылавек, ну хто ж калі ныка́рмлііць скаціну, у поля гнаўшы.*

**Бязулістый, бязульный** *прым.* Бяздумны, бестурботны. *Увесь у бацькыву радню пашоў, такей самый расьцець бязу́лістый. Хто яе замуж возьміць, такую бязу́лістыю, дзяцей на сьвет нупуска́іць, а ні даглядзіць. Ня будзіць толку зь бязульным мужуком, а ўжо як баба бязу́льныя, то хата прыпала.*

**Бязулле** 1 *н.* Гультайства, нядбайнасць. *Уелыся бязу́льля ў чылавека, ні за чым ні глядзіць, па ім хут трыва ні расьці.* 2 *м.* і *ж.* Абібок, няўдаліца, гультай. *Бязу́льля ты і ніхто большы. Такоя ўжо бязульля урадзілыся, як адзін, так і другей, нічагенічка ні пріту́ркыіш зьдзелыць.*

**Бязульнічанне** *н.* Гультайства. *Яны пряма спыстылелі сваім бязу́льнічыньнім, пра іх ніхто пу́тніга слова ні скажыць.*

**Бязульнічаць, бязульстваваць, бязуліцца** *незак. неадабр.* Гультаяваць, разгульваць. *Бязу́льнічыюць абоя Пітраковы, ні за што ні бяруцца зьдзелыць, палкі дроў рыськяпіць ня хочуць. Я дужа ні стану глядзець, што ву́чыный, у мяне многа бязу́льнічыць ня будзіць. Раз пычаў бязу́льствывыць, то ызад трудна пірядзелывыць. А ці мы ні знаім, сколька яе лабрэт бязульствывыў, ні хацеў відра вады прінесьць. Столька ўремя яны бязу́люцца, паліц ап паліц ні ўдарілі, а сколька сена можна було пу куста́х ныкасіць.*

**Бяленджанне** *н. неадабр.* Нудная балбатня. *Ні хачу я Мыланкіныга бяленджыньня слухыць, ці йна путноя скажыць што-небудзь.*

**Бялендзіць** *незак. неадабр.* Балбатаць нудна, павольна. *Што іна там бяленьдзіць, раз гной вазіў, то, верна, і пасеіць, цэлый жа дзень вазіў.*

**Бялёвый** *прым.* Адбелены (пра палатно, тканіну, вырабы з такой тканіны). *Марья, бувала, як нашы́іць хлыпца́м бялёвых рубашык, яны як дубы йдуць. Зь бялёвыга пылытна што хочыш палучыцца. Памянш.* **бялёвенькій.** *Бялёвінькія пылаценчыкі разьвешыла сушы́ць, красівыя.*

**Бяльмастый, бяльматый** *прым. груб.* 1. З бяльмом на воку. *Чаго яшчэ твой бідьма́стый ні ў сваё дзела нос уторкыіць. Іхный бідьма́тый нечыга тут вылачыўся, ні знаю, што яму нада було.* 2 *перан.* Залішне цікаўны. *Дужа ты більмастый стаў, меншы нада любапы́тнічыць. Ня будзь такім більматым, нос можыш прішчаміць ці па лбу схваціш.*

**Бяльмачча, бельмаччо** *н. груб.* Вочы. *Ні вытрішча́й більма́чча, ні длі цябе гатовілі. Ідзі хуць більмачча прамый, як людзі. Прулупі більмаччо, ці ты знаіш, ікая пыра, а ў цябе карова ў пуні рявець.*

**Бяскішкій** *прым. абраж.* Худы, тонкі. *А мяне ваш бяськівшкій ні разу ні аньцірісува́ў. Ныйшла сабе жыніха нейкыга бяськівшкыга.*

**Бяспамятлівый** *прым.* Бяспамятны. *Чаго ты біспа́мітлівый такей, табе ж ясна рустулкува́лі, як іціць ны Заречча, а ты ны Сьвітазерья пашоў.*

**Бяспросыпна** *прысл.* Беспрасыпна. *Судкі бяспросып-*

*на спалі — так выбіліся зы нядзелю. Яго толька ні будзі, бяспросыпна прасьпіць троя судык пыдряд.*

**Бяспросыпный** *прым.* Беспрасыпны. *У цябе ўсігда бяспросыпный сон.*

**Бяспутнасць** 1 *ж.* Няўдальства. *Трахім доўга ны тваю бяспўтнысьць любувацца ня будзіць, жыва дасьць табе места.* 2 *м.* і *ж.* Няўдаліца. *Не ўжо, што ён зы бяспутнысьць, луччы ні гываріць. Зыдылася бяспутнысьць, сколька зь ёю Каця нугурювалыся!*

**Бяспутній** *прым.* Няўдалы. *Усігда ён быў бяспўтній і ні талкуй ты мне большы пры яго нічога. Твой Сярёжка бяспутній, як ты ні хвалі.*

**Бяспутнік** *м.* Няўдаліца. *Што ты рысказыіш, ці я сыма ні знаю: ён быў пасьледній бяспўтнік у дзяреўні.* **Бяспутніца** *ж. Відзіш, як буваіць на сьвеці: і матка талковыя, і бацька хызяін — пушукаць толька, а дычка ўрадзілыся бяспўтніца.*

**Бяспутства, бяспутствіе** *н.* Няўдальства. *Нагледзіўся я ў прошлым гаду на іх бяспўцства, ні знаю, ці піряўчыць хто-небудзь калі такіх. Усё аць сям'і завісіць, ні було пуця ў сям'е, паетыму і зь дзяцей бяспўцствія плувець, а каб вухрілі ў сям'е, саўсем ба другей толк быў.*

**Бяспуцце** *н.,* **бяспуціца** *ж.* 1. Беспарадак, няўдальства. *Раз пашло бяспўцьця ў сям'е, толку ня жджы, ні дажджэсься. Яны троху ветріныя, а Сямён крепка ў рукі ні ўзяў, пышла і пышла бяспўціца.* 2. Няўдаліца. *Пріжылá бяспўцьця ны сваю гылаву, ён зысьвістáў — паехыў, а етый маліц, як палена дубовыя, зь ім ні ў пір ні ў вір ні ў добрыя людзі. Ні маліц, а бяспўціца, толку зь ім ні найдзіш. Абея бяспўціцы, як матка, так і дычка.*

**Бясштаннік** *м.* *неадабр.* Гультай, абібок. *З вашым бішштаньнікым путнáя дзеўка і гываріць ні станіць. Ці ён за што ўзяцца хочыць, прыжывець век бішштаньнікым.*

**Бясштанный** *прым.* *іран.* Гультаяваты. *Гультай бішштáнный цігаіцца, глядзіць, каб хто пыкарміў.* **Бясштанная каманда** *жарт.* Дзеці, дзетвара. *Ну-ка, бішштáнныя кымáнда, пыра пыднімацца, ужо заўтрік стаіць ны стале.*

**Бясшчасце** *н.* Нешанцаванне, адсутнасць шчасця. *І рўпытныя, і стыряцільныя былі, а бішшчáсьця іх нудушыла, пряма душыла, аткуль якоя горя, усё було на іх гылаву.*

# В

**Вава** *ж. дзіц.* Боль, болька. *Нільзя трогыць агня, будзіць ва́ва. Памянш.* **ваўка, вавачка.** *Во відзіш, як з нажом ба́лывыцца, ва́ўка ны пальчыку і кроў ідзець. Айдзе ж ты зьдзелыў такую ва́вычку, а малінькій мой!*

**Вад** *м.* Перашкода, мулянне. *Вад нейкій цябе поріць, спакою німа пысядзець ціха. Ці ў табе вад завёўся, што ты верцісься, як ны іголкых.*

**Вадавозка** *м.* Калёсы або сані для падвозкі вады, вадавозня. *Дзьве ношкі сена і выдавозкыю дывязеш. Выдавозка — ета і калёсы, і сані ста́рінькія, вады с калодзіжа прівезьць. Памянш.* **вадавозачка.** *Чуць ліпіць выдавозычка, каткі рышшымыта́ліся, ручкі ні дзіржацца. Выдавозычка рызва́лііцца, тут трошку зьля́пыць нада.*

**Ваджэннік** *м.* Той, хто водзіць. *Якей зь яго ваджэньнік, есьлі ён к каню, к мордзі пыдыйціць баіцца.* **Ваджэнніца** *ж. Зымарілыся ваджэньніца, ногі пыкалола пы камлы́жкых, біс прівычкі, знаіш, як больна.*

**Важджаннік** *м.* Той, хто чапляе лейцы да аброці. *Якей сь цябе выжджа́ньнік, калі ты ды канёвыя морды чуць дыстаеш.* **Важджанніца** *ж. І зь мяне тыкая выжджа́ньніца, як сь цябе: пуўчыса кулупа́юся, пакуля найду, што к чаму прічапіць.*

**Важджаць** *незак.* Чапляць лейцы да аброці. *Цяперя, знаіш, якея яны растуць, кыня выжджа́ць ня ўмеюць, на ўсём гатовым сідзяць.* **Важджацца** *незак.* Чапляцца да аброці (пра лейцы), дазваляць чапляць лейцы да аброці (пра каня). *Ці знаіш ты, як запрежыный конь выжджа́іцца? Ня дужа ён хочыць выжджа́цца.*

**Важэнне** *н.* Возка. *Што толку з вашыга важэньня, кылі вы ныклалі вазы, а на іх дождж, прівізіцё — усё дно пірясу́шывыць нада.*

**Важэннік** *м.* Возчык. *Учора твае важэньнікі ні пірірва́ліся, па трі вазкі прівязьлі, дождж зыка́пыў і атпряглі.* **Важэнніца** *ж. Як, важэньніца, на новый рабоці, ціжалей, чым лі цілят, ай ныра́віцца?*

**Вазграва, вазгравіста** *прысл.* Брудна, запэцкана. *Лі тваіх ша́ік усігда вызґря́ва й вызґрява, як прібраць ня можыш. Ну нягож, ты чысьцінька і акуратнінька ўсігда прібіраіш, толька ны масту вызґря́віста,— кажный дзень.*

**Вазгравенне, вазграўленне** *н.* Пэцканне. *Не ўжо,*

*куры, ня буду я цярьпець ваша вызґрявіньня, я вас січас палкыю путурю ач шайкі. І кыла печы вызґряўліньня, і лі стыла прібраць нада, вы ні глідзіцё нічога.*

**Вазграватый** *прым.* Ліпкі, няўдалы, брудны. *Не, ні хваліся, хлеб твой пулучыўся вызґріватый, у харошыя хызяйкі так ні буваіць. Увесь мост вызґріватый.*

**Вазгравіць** *незак.* Пэцкаць. *Ці ты нарошня вызґрявіш, ці што ты дзелыіш, ныквакліш, што ні ступіць будзіць.* **Вазгравіцца** *незак.* Квэцацца, пэцкацца. *Толька што быў пызадзелыный, пызамурзыный, пірядзела, а ён узноў вызґрявіцца, ці я ж намыюся, ці ыпрібіраюся за ім.*

**Вазгравый, вазгравістый** *прым.* Ліпкі, няўдалы, брудны (пра печыва). *Вызґрявыя нейкія ў цябе бліны. Хлеб вызґрявый, к нажу ліпніць. Вызґрявыя ікая-то твыя каша, ныўряд ці будуць яе есьць. Тэй хлеб быў нічога, а етый саўсім вызґрявістый, ці ўчынка вінувата, ці мука, толька гаворюць: мука як мука, а калі паходзіць па ёй пыганыя рука... Каб ты быў троху меншы вызґрявый!*

**Вазграціць, вазгроціць** *незак.* Пэцкаць. *Пыстаў курям ны дваре, яны пыдзяўбуць, нашто табе мост вызґряціць. Харошыя, харошыя ладкі, рот троху вазґрёцюць, а тады пыпалошчыш і нічога.* **Вазграціцца, вазгроціцца** *незак.* Пэцкацца. *Скарей сыбірайся, будзіш зь естыю ірундою вызґряціцца два часы. Каб ты меншы тут вазґрёціўся, луччы було б.*

**Вазгротнік** *м.* Пэцкаль. *Квакліцца вазґрётнік і квакліцца, і ны масту бульба, і ну грудзях, і дайжа ны гылаве,— і сьмяецца, рад.* **Вазгротніца** *ж.* *Была ты вазґрётніца і астанесься, ці ў цябе урэмя німа, каб прібраць, прігледзіць усё.*

**Вазіць** *незак. перан.* Соўгаць. *Глянь ты ны яго: вовіць рукавом пы сальныму сталу, к чаму етый рукаў будзіць.*

**Вазярына** *ж.* Невялікае возера або мясціна, дзе было возера. *Кыла іх дзяреўні ёсьць нескылька вызярін, вясною рыба нуплуваіць, астаецца, а тады яе ловюць. Вызяріна зырысла явырым, зь вясны выда троху дзяржыцца, а тады высыхаіць. Памянш.* **вазярынка.** *Я нейкіх кароў кылы вызярінкі відзіў, можа, і ваша там.*

**Вайстрак** *м.* Востры прадмет, востры канец. *Упацёмку на нейкій выйстряк плячом узьбіўся, прыкалоўся, кроў цікла.*

**Вайстрака, вайстраком** *прысл.* Вострым канцом. *Як пусьціць кылячок выйстріка́, каб трошку, пряма б у Стася мог прабіць. Прытырча́ка нейкыя выйстряком тарчы́ць, прыкалоцца можна.*

**Вайстрэннік, вастрэннік** *м.* Той, хто вострыць. *Стыря́цільна ўзяўся вайстреньнік, пілка будзіць, як агонь. Посьлі твайго вастреньніка тапор яшчэ большы путупеў.* **Вайстрэнніца, вастрэнніца** *ж. Зь мяне знаіш ікая вайстреньніца, жала бруском пацёрла, пацёрла, а тапор усё дно ні сякець. Во табе, вастреньніца, луччый сьпіцыяліст.*

**Валаводзенне** *н.* Важданіна, валаводжанне. *Цяперя пеньсію дзелыюць біз усякыга вылаводзіньня. Ні ныравіцца мне вылаводзіньня, ужо ці то, ці то, каб зразу гыварілі.*

**Валавянка** *ж.* Ваўнянка (грыб). *У нас вылывя́нкі толька атва́рівыюць, атварівыюць і солюць, а так варіць — яны горькі, ня возьміш есьць. Памянш.* **валавяначка.** *Бувала, нысалю́ сваім вылывя́нычык мыладзенькіх, так смашны з галычкымі.*

**Валакіціцца** *незак.* Распачынаць важданіну. *Ета ня хочыцца вылакі́ціцца, ато б усё ета можна було рыскыпаць. Столька ўремя мы вылакіціліся з бумажкымі, пакуля ўсё пулучылі.*

**Валакічанне** *н.* Важданіна. *Хваціла мне вылакі́чыньня, пакуля я бумажкі пысыбрала, пакуля пыпатпісывылі, пызывіря́лі.*

**Валам** *прысл.* Навалам. *Што яны стогнуць, ня слухый, у іх быгаства ва́лым. У Анькі адзёжы валым, і дзеці ні паносюць усяе.*

**Валантыранне** *н.* Валакіцтва. *Я вылантыріньня саўсім ні люблю, па мне так: хырашэнька падумый і рішай, каб ні пірярешывыць.*

**Валантырыцца** *незак.* Важдацца, валаводзіць. *Яны ац самыя зімы вылантырюцца зь естыю хатыю: сяньня прыдаюць, заўтря ні прыдаюць, то едуць, то ня едуць — яны самі ні знаюць, чаго хочуць.*

**Валасастый, валасястый** *прым.* Валасаты. *Нейкія госьці вылыса́стыя пыпріехылі к Аксюці, ідуць — дык валосься ны плічах рызьлігаіцца, во мода пышла. Ішоў тут нейкій вылыся́стый, што глядзець ніпріятна, пывярнуў у праву́лык зы Каціныммі.*

**Валасасцік** *м. іран.* Хлопец з доўгімі валасамі. *Па́т-*

*лы во такея атпу́сьцюць і ходзюць вылыса́сьцікі зарослыя, глядзець ня хочыцца.*

**Валасатка** *ж. іран.* Жанчына з непрычасанымі валасамі. *Дайжа ні прідумыіш, ны каго ета вылыса́тка пахожа, на нейкыю абізьяну, а ні ны дзяўчонку, касмоцьця руспусьціла, што сьвету ня відзіць.*

**Валасень** *м.* Нагцяеда. *Выласень — дужа гадкыя балезьня, як уесца, пальцы пыкалечыць. Ета ў цябе ны пальцы выласень, пыглядзіш, выласень.*

**Валасініна** *ж.* Асобны волас. *З бырыда́ўкі тарчыць адна выласініна. У яго ніплахей чуб: нескылька выласінін сьперіду вісіць, а ўся гылыва голыя, як бубін. Памянш.* **валасінінка.** *Штук дзесіць выласініных тарчыць пад носым, во і вусы ўсе.*

**Валачыльшчык** *м.* Баранавальшчык па засеянаму. *Як дужа суха, вылачы́льшчыкым дыстаецца, пыхадзі-ка цэлый дзень з борынымі пы камлы́жжы ды пы пылі́шчы.* **Валачыльшчыца** *ж. Я пышла за борынымі верна сь сямі гадоў, хуць ікая зь мяне была і скырадзьбітка, і вылачы́льшчыца, сыма зь вяршок, коні ня слухыюць,— дывалыся.*

**Валеннік** *м.* 1. Той, хто валіць лес. *Ідзіця, валеньнікі, ды глядзіця, каб вас там сосьнымі ні пыпріда́ўлівыла.* 2. Шапавал. *Ня дужа сьпецный валеньнік твой Грішычка, во ў горыдзі быў шупува́л, во ета сьпец!*

**Валка** *ж.* 1. Збіванне валёнак. *Самі ў нас ніхто ні валіць, аддаюць у ва́лку. Ікая ж ета валка, што ўсё сукно сьвіціцца.* 2. Валюшня. *У горыдзі валілі, ну зы Сажом луччыя валка, там работыў дужа сьпецный мась-цір.*

**Валоўскій** *прым.* Валошскі. *Я ма́лінькыю дужа любіла валоўскія арехі, дзед, бувала, паедзіць у горыд, купіць, і я б'ю мылатком ны парогі.*

**Валтужанне** *н.* Валтузня. *Нагледзіліся на іх валту́жыньня, жывая указэя была, усе жываты пынырва́лі.*

**Валхвенне** *н.* Пялегаванне, песты. *Дужа мне ета валхвеньня ні ныравіцца, ты сыма рызба́лыіш мальца, што ён ні к чорту станіць. Дзяцей гадуй біз валхвеньня, у строґысьці дзяржы.*

**Вальня** *ж.* Валюшня. *Ні пыдвязло мне сяньня: панёс сукно звалі́ць, а ва́льня зачыніта, піряўчот нейкій, ці рівізія.*

**Валэнданне** *н.* Цяганіна, валакіта. *Большы я ні ста-*

*ну вашым валэндыньнім любувацца, паленым путурю на поля гультаёў.*

**Валяць** *незак.* 1. Качаць у брудзе. *Ты пы масту ні выляй булычку, бярі у ручку і еж. Новыю цацку пы грязі выляіць.* 2 *перан.* Моцна біць. *Дывай яго утраіх выляць, чуць ён выкруціўся, во табе й здаровый.* 3. Дзейнічаць (звыч. заг. лад). *Выляй пряма на тую йгрушыну, там будзіць сьцёжычка. Выляйця аьсюль біз аглядкі! Дык што, резыць вербу? — Выляйця!*

**Варажбічка** *ж.* Варажбітка. *Сь цябе выражбічка, як зь мяне мытаріст. Цыганкі — такея выражбічкі: у адной хаці распросіць пры каго-небудзь, а тады ідзець туды і ўгадыіць.*

**Варажэннік** *м.* Той, хто варожыць або каму варожаць. *Выражэньнікі ўселіся кругом стыла, стол ім ножкымі пастукыіць. Што ж табе, выражэньнік, скызала цыганка?* **Варажэнніца** *ж. Другая ныйшлася выражэньніца, трясцы іна знаіць што-небудзь. Пышла выражэньніца наша з Мушына нейкыя смутныя.*

**Варацілка** *м.* і *ж. іран.* Дзеяч. *Нашыму выраціпку брігады мала, яму каб у рыівоні кымандывыць. Ну й выраціпка быў ба, жалка, уласьці яму ні даюць.* **Вараціцелка** *ж. Полька тыкая ўжо была выраціцілка, што куды там, большы сымаго рыспырідждлыся. Ты б харошыю выраціцілкыю была, толька табе кіруваць ні даюць.*

**Варзёкала** *м.* і *ж.* Той, хто пэцкае. *А йдзі ты, варзёкыла, ат мяне, ні ныдыідай. Пылядзі, ікая варзёкыла: ныляпіла, ныляпіла бульбы і садзіцца.*

**Варзёканне** *н.* Пэцканне. *Ну куды ж глядзець ны такоя варзёкыньня! Ну вас абеіх з варзёкыньнім з вашым, я пайду.*

**Варзёканнік** *м.* Той, хто пэцкае. *Ці наеўся, варзёкыньнік, толька хадзі с тряпкыю зы табою ды пыцьцірай кругом цябе.* **Варзёканніца** *ж. Чаго ж ты еткыя варзёкыньніца, акуратній ляпі і маж, ато мыста ні дамыісься послі цябе.*

**Варзёкаць** *незак.* Пэцкаць. *Мый як нада, варзёкыць я і бісь цябе ўмею. Сядзіць і варзёкыіць ны масту.* **Варзёкацца** *незак.* Пэцкацца. *Чаго ты столька варзёкыісься лі гаршкоў? Варзёкыіцца у грязі кажныю мінуту, ня згледзіш.* **Варзёкнуць** *зак.* Пэцнуць. *Глядзі, рукавом варзёкніш пы загнету, на што плацьця станіць пахожа.*

**Варзёкнуцца** *зак.* Пэцнуцца. *Тама гліна толька што была налепліна, а ты бокым варзёкнуўся, новый пінжак пызадзелыў увесь.*

**Варзёпа** 1 *м.* і *ж.* Пэцкала. *Ты варзёпыю быў і астанісься, ты сваіх прівычык ні міняіш.* 2 *ж.* Бруд, пэцканне. *Рызьвялі варзёпу, ні ўвайціць, ні стаць нійдзе.* **Варзёпка** *ж.* Пэцкала. *Ікая ж ты варзёпка нікурáтныя, ці відзіш, як тут наквэцына, а ты становісься.*

**Варзёпала, варзёпкала** *м.* і *ж.* Пэцкала. *Ну варзёпыла ты, варзёпыла, ці табе вочы ня сьвецюць: зыварзёпыла мост і чыстыю адзежыну кідыіш. Кылі варзёпкыла возьміцца за дзела, луччы атыйдзі.*

**Варзёпанне, варзёпканне** *н.* Пэцканне. *Дзелыйці-ка вы біз варзёпыньня, ныварзёпыліся там большы некуды. Як ты глядзіш ны яго варзёпкыньня, ты ж учы, дукýй, як луччы нада.*

**Варзёпаннік, варзёпканнік** *м.* Пэцкала. *Мыля́р, мыляр — варзёпыньнік, а ні мыляр, паквэцыў, паквэцыў сьцены, а высыхлі — сталі плямымі. К путной рабоці варзёпкыньніка ні путпускáй: будзіш пірядзелывыць.* **Варзёпанніца, варзёпканніца** *ж. Ну хто ж ты, варзёпыньніца і большы ніхто, у цябе дайжа кохта у нейкыя цеста вы́квыцына. Січас табе на помышч прібягіць другая варзёпкыньніца, дзела шуганець!*

**Варзёпаць, варзёпкаць** *незак.* Пэцкаць. *Нашто ты лаўку варзёпыіш, ці я ўсьлед зы табою кажныю мінуту мыць буду. Кылі варзёпкыць абы-як, луччы саўсім ня дзелый.* **Варзёпацца, варзёпкацца** *незак.* Пэцкацца. *С адным чугунком раньня варзёпыіцца, а каб табе сям'ю на рукі ды скыта повін двор. Полы варзёпкыюцца ап шайку, пыдаткні ці пыдвяжы як-то.* **Варзёпнуць** *зак.* Пэцнуць. *Не ўвы шта варзёпнуў локыць, усё дно як у сáльныя што-то. Січас нос у сажу варзёпніш.* **Варзёпнуцца** *зак.* Пэцнуцца. *Варзёпнісься лі скыўрады́, а сала, яно ж ні тмувáіцца. Варзёпніцца ў цеста каленкымі і рызглідаіць: што йта такоя?*

**Варонае** *н.* Варанае. *Якея прісмакі ня будуць, дык варёныя ўсігда нада. Біз варёныга многа ні ныжывеш, язву якую пытхвáціш, а тады ня жыціль.*

**Варухнуць** *зак. перан.* Крануць. *На первый узгляд кажыцца, што йта пірястройка, а вурухні-ка ўсё, на цэлыя лета работы, ды якея работы. У сьвет вурухнýць з наседжыныга места нялёхка.* **Варухнуцца** *зак. перан.*

Крануцца. *Былі вурухнуліся ўсёю дзярэўнію ехыць, а тады адзін па дным нызад: жалка ўсё сваё кідыць.*

**Ваўкаўня** *ж.* Непрыязнасць, адкрытая нянавісць. *Нейкыя выўкыўня ў іх зывілася, німа ладу каторый год. Заесьць цябе выўкыўня, кылі ты ні піряменісься ў сваёй жызьні.*

**Ваўкоўня** *ж.* Вялікае або недагледжанае памяшканне. *Нашто табе ваўкоўню рызвадзіць ны дваццыць аршын, сь кім ты жыць у ёй будзіш? Ты йдзі жыць у тую ваўкоўню, калець там.*

**Вахмістрыня** *ж. іран.* Уладалюбная жанчына. *Ты была б вахмістрінію, ого якою, толька рыспырiджаццa нечым. Ідзі ўжо, твыя вахмістріня зьлізаіць з машыны, пасобіш.*

**Вашаком, вашакомец, вашакомнік, вашакомшчык** *м. іран.* Задавака, выхваляка. *Што Лыўрінёнык рысказывыў, дык ета вышаком, ён і ні такоя можыць ныгывaрiць, ну, відна, троху праўды ў яго ёсьць. Такей вышакоміц, рыскажыць — як рызрісуіць, што ў яго быгáства нямерныя і грошы няшчытыныя. Ізьвесныя вышакомцы, я ні аднаго іхныга слова слухыць ні хачу. Я на тых вышакомнікыў і глядзець ба ні стала, а Тайкі яны дужа пыныравіліся, і ніхай любуіцца на іх. Первый сьцепіні быў вышакомшчык, чаго ат яго толька ні нагледзіліся.* **Вашакомка, вашакомніца, вашакомшчыца** *ж. Ну ці ты Платоніхіныя вышакомкі ні знаіш, як рысхвáліцца, ікая йна мысьцяріца і работніца, дык луччы ў сьвеці німа. Сыма іна нічога, ціхыя дзеўка, а пріiжджала сь сёстрымі, старей зы яе,— якея ж яны вышакомніцы! Нікрасіва такою вышакомшчыцыю быць, ты вядзі сябе, як і ўсе, каб ныт табою ні сьміяліся.*

**Вашакомістый** *прым.* Такі, які задаецца, выхваляецца. *Вышакомістыя хлопцы, самі сабе цаны ні знаюць. С такімі вышакомістымі пыгаворіш, дык ныпраўду падумыіш, што ніізьвесна хто пірiт табою.*

**Вашакоміць, вашакоміцца, вашакомнічаць, вашакомнічацца** *незак. іран.* Задавацца, выхваляцца. *Як у чарку нюхнўў, і пашоў вышакоміць: ух, я луччы ўсіх. Каб ён меншы вышакоміўся, саўсім ба другоя атнашэнія і к яму було. А якей толк, што яны вышакоміліся, як быраны? Нечыга вышакомнічыць, нада зы работу брацца, ёсьць троху сўвылкі, дзірькі ў пуні апторкый, быракі нада дачысьціць, дос ім выляцца. Вышакомнічыцца яны*

*любюць, толька за ета хлебым ніхто ня корміць, а пад'есьць яны глідзяць, каб смашней.*

**Вашакомства, вашакомнічанне** *н. іран.* Задаванне, выхвалянне. *Я ня меншы нагледзілыся ны яго вышакомства, ён сябе пычытáіць луччы ўсіх на сьвеці. Дужа праціўна ны тваё вышакомнічыньня глядзець,— во чаго іна атвырáчывыіцца.*

**Вашанос** *м. іран.* Задавака. *Лаўрінчыкаў сын, ого якей вышанос, мы ныдзікувáліся ны яго зыдываньня: пряма ня чўствыіць, пы якому ён сьвету ходзіць.* **Вашаноска** *ж. Ты думыіш, іна праўду гаворіць, што ў іх усё ета ёсьць, ета вышаноска тыкая, каб толька пыхваліцца хуць ба чым-небудзь.*

**Вашапруд, вашапруднік** *м. іран.* Задавака, вычвараннік. *Хто цябе ні знаіць, ты вышапрўдізьвесный. Вышапруды вы, вышапруды, айдзе вы тую работу відзілі, што ізыкамі трепліця. Бацька твой быў вышапрўднік, і ты еткій самый зыдывáла, ні трясцы німа, а хвальбы — як у яго зылатэя горы усяго ўсякыга ныклáджына. Узмацн.* **вашапрудзіна.** *Во ўжо вышапрўдзіна, ты пыглядзі, што ён толька вытвыряіць. Павеліч.* **вашапрудзішча.** *Такей жа вышапрўдзішча, каб толька яму пудурáчыцца.* **Вашапрудка, вашапрудніца** *ж. Іграз тыкая самыя вышапрўдка, як мама, той тожа нійдзе места ні було. Ідзі ты ўжо, йдзі, вышапрўдніца, сы сваім быгаствым, ты ішчэ на сьвеці наўчыся жыць, а тады бацькывым дабром рыспыріжáйся.*

**Вашапруддзе** *н. іран.* 1. Задаванне, вычваранне. *Такей шкáріда, а сколька ў ём вышапрўдзьдзя! Пойдзім, ні хачу я ны яго вышапрудзьдзя глядзець.* 2 *зб.* Задавакі. *Лаўрінына вышапрўдзьдзя пашло, пряма ні знаюць, пы якому яны сьвету ходзюць.*

**Вашапрудзіць, вашапрудзіцца, вашапруднічаць, вашапруднічацца** *незак. іран.* Задавацца, вычвараць. *З гніду чылавека, а вышапрўдзіць як станіць, дык ого! Вышапрўдзіцца, як тата, у таго тожа еткыя прівычка была. Хто луччы Каці ўмеў вышапрўднічыць? — ніхто ня ўмеў, ці мы ні знаім, а ты яе пычынаіш рысхвáлівыць. Кыравёнку прыдаў і вышапрўднічыіцца: быгач,— за месіц распўсьціць, пратрўбіць і будзіць пу людзях цмыгыць пяцёрку піріхваціць.*

**Вашапрудный** *прым. іран.* Такі, які любіць задавацца, вычвараць. *Кылі чылавек вышапрўдный, зь ім луччы*

*ні зьвязывыцца. Усе яны вышапрўдныя, зы каторыга ні хвацісь.*

**Вашапрудства, вашапрудні́чанне, вашапруджанне** *н. іран.* Задаванне, вычваранне. *Ня столька таго чылавека, сколька вышапрўдства, ну, а як хто ні знаіць, дык падумыіць, што і ныпраўду гірой. А ну яго зь яго вышапрўднічыньнім, ніяк ужо ні піряўчыш, кылі змалку такей урадзіўся. Я нагледзілыся ны Васілёва вышапрўджыньня, пыглядзі ты, кылі дужа аньціресна.*

**Вашапут, вашапутнік** *м. іран.* Задавака, вычваранік. *Нада ж, і ў Ганны такей вышапўт урадзіўся, нізашто б ні падумыла, што яе сын такім можыць быць. Троху разьехыліся нашы вышапуты, пыцішэла ў дзяреўні. Па кім ён пашоў, етый вышапўтнік, бацька яго саўсім ні такей быў.* **Вашапутка, вашапутніца** *ж. Чыя ж ета вышапўтка выкрўчыіцца, пы ліцу я нешта ні пызнаю. Ніхай такея вышапўтніцы часта сеюцца, ды редка ўсходзюць.*

**Вашапутный** *прым. іран.* Такі, які любіць задавацца. *Скажы свайму вышапўтныму, што ны яго дуры ня дужа хочыцца глядзець.*

**Вашапуціцца** *незак. іран.* Задавацца, вычварацца. *Яны там вышапуціліся чуць ні ды раньня, самі ні зналі як.*

**Вашапуцце** *н. іран.* 1. Задаванне, вычваранне. *У пўтніга чылавека такога вышапўцьця ня будзіць.* 2 *зб.* Задавакі. *Айт, вічарінка, адно вышапўцьця сыбярецца, будуць выкрўчывыцца.*

**Вашапучанне** *н. іран.* Задаванне, вычваранне. *Я ўсякыга вышапўчыньня навідзілыся, што ты мне пру Сумусёнка рысказыіш.*

**Вашчоный** *дзеепрым.* Вошчаны. *Вашчоныя ніткі і прыцягывыць ляхчэй, і яны многа кряпчэйшыя, вашчы́.*

**Ваявацца** *незак.* Мучыцца ў працы, прыкладваць вялікія намаганні. *Ніхай ба ён тут згареў на месьці, етый пень, каб я столька над ім вуюваўся. Кыпаў, кыпаў, вуюваўся, вуюваўся, а сьціна бах і аб'ехыла.*

**Векаўшчына** *ж.* Шматгадовы набытак (гаспадарка, спадчына). *Ета вы цяперя мыладыя самі сабе зырыбляіцця, а стырікі як жылі, яны пры вікаўшчыну думылі, каб сынам було, каб унукым астывалыся. У наша ўремя ны вікаўшчыну ніхто ні надзеіцца. Памянш.* **векаўшчынка.** *Ён прікаціў, думыў, тута вікаўшчынка яму будзіць, а тута бізь яго рыспырядзіліся.*

**Вербіна** *ж.* Асобная верба. *Ету вербіну каб зываліў, трі б вазы дроў було. Нескылька вербін сьмехым уторнуў, а яны якея дзерівы ўзяліся!* *Памянш.* **вербінка.** *Нешта вербінка на ўглу ня йдзець у рост.*

**Верзяя** *м.* і *ж.* Балбатун, пляткар. *Узмацн.* **верзяіна.** *У каго ён, такей вірзяіна, урадзіўся? К старысьці ты поўныю вірьзяінью стала, ну, праўда, у цябе і ў мыладэя язык быў нізыбарсывыный.* *Павеліч.* **верзяішча.** *Хто паверіць хуць ны каплю твайму вірьзяішчу, таго і сымаго чылавекым ні нызавеш.*

**Верхнік** *м.* Верхняе адзенне, верхняя крышка і г. д. *Верхнік зьнімі, а малыю юшычкыю зылажы хырашэнька ўсярёдык. Ськідай верхнік, ужо цёпла.* *Памянш.* **верхнічак.** *Была калодычка німудренькыя, думыў, пару верхнічкыў вырізыць.*

**Ветрагонне, ветрагонства** *н.* Бязладдзе, непарадак. *Каб жа пуць зь яго быў якей, не, адно вітрагоньня. Вітрагоньня ты маё, ніпуцьцё, с табою і богу нагрешыш, і людзей насьмешыш. Раз у гылаве вітрагонства, то якей можыць быць толк у жызьні.*

**Ветранік, ветрагонец, ветрагоннік** *м.* *неадабр.* Бяздумны чалавек, ветрагон. *Як жа на ветріника надзеіцца, ён пыбішчаіць і тут жа забудзіць, яму і ні ў гылаве тває прозьбы. Ш чыйго ты пріродзьдзя хызяіна хочыш, і дзед быў вітрагонцым, і бацька, во й дзеці па іх пашлі. Каб чылавек путнэй пупаўся, ніхай ба брала, а вітрагоньніка я і ў хату ні пушчу, ніхай луччы ў дзеўкых вякуіць.* **Ветраніца, ветрагонніца** *ж.* *Ні нада зь ветріницыю зьвязывыцца. Каб табе чылавек ета скызаў, ато ж ветріница. Ікраз тыкая вітрагоньніца, як матка, у тае вечна у гылаве веціp сьвістаў.*

**Вечарынашнік** *м.* Ахвотнік да вечарынак. *Некуды ўжо вічарінышнікі згыварілися, ну ім каб хто ріпнуў хуць ны мятле ці ў пабітыю заслонку ударіў. Коля дужа джоґій быў вічарінышнік.* **Вечарынашніца** *ж.* *Во вічарінышніцы нашы суботу й скрысеньня, суботу й скрысеньня, кажныю нядзелю, нійдзе ў акругі ні прапусьцюць скокі.*

**Веяннік** *м.* Веяльшчык. *Веіньніку дыстаецца, пысядзі-ка дзень у пылі, веіць нада пад веціp, уся пыль у вочы, нікому ета нісмашна.* **Веянніца** *ж.* *Ікая зь мяне веіньніца, ну відзіла, як мушчыны кідаюць лупатычкыю, і я так мыхаю, некуды ліцяць зірняты.*

**Віканне** *н.* Выкрыкванне. *Ніхто зь іх ніякыга вікыньня ня чуў, ну а калі чулі, чаго яны ні маглі пыглядзець.*

**Вікаць** *незак.* Падаваць крыклівы голас. *Ага, надзейся, будзіць ён і пікыць, і вікыць,— ён слова проця нычальства ні скажыць, ета хітрец іщчэ тэй.* **Вікнуць** *зак.* Падаць крыклівы голас. *Я гляджу: яны крўцюцца, круцюцца, каб хто пікнуў, каб хто вікнуў. Вазьму ў рукі, што ня вікніш.*

**Віліна** *ж.* Развілка. *Я думыў, віліна пойдзіць ны сахў, а йна треснутыя, нічога ні пулучаіцца, ня будзіць дзіржацца. Памянш.* **вілінка.** *С самыга кымля атреж палкі дзьве на дровы, а зь вілінкі палучыцца пацсошычык.*

**Вілістый** *прым.* Вілаваты. *Вілістыя дзеріва на досткі піліць ня стоіць, іх ні пустругáіш. Ікая вілістыя бярёза, выкáлыіцца ува ўсе бакі!*

**Вільготыванне** *н.* Выгода, прывольнае, бесклапотнае жыццё. *Прівыклі жыць у вільготывыньні, мўтырна брацца зы работу. Мінулыся вільготывыньня, крекчуць ны аборку, што само ня косіцца.*

**Вінаполька** *ж.* Дзяржаўная лаўка ў мінулым для гандлю гарэлкай. *Калі-то вінапольві зваліся, казённыю гарелку там прыдывáлі. Хто знаў дарожку у вінапольку, тэй жыцілім ня быў. Памянш.* **вінаполічка.** *Ета твой знакоміц вінаполічку дзіржаў?*

**Вінахөд** *м.* Празмерна рухомы чалавек (звыч. дзіця). *Ну й удайся вінаход, ні аднае мінутычкі спакойна ні пысядзіць, цэлый дзень бегыіць, носіцца, круціцца, угамоньня яму німа.*

**Вінаходства** *н.* Празмерная рухавасць. *Пряма нейкыя вінахоцтва сядзіць у дзяўчонкі, ніякыга сўдзіржу ні знаіць.*

**Вінтом** *прысл.* Па кругу, кругам. *Віхырь як падніміцца, вінтом круціцца ўверьх. Вінтом верціцца бáлыўнік цэлый дзень.*

**Вірлы** *мн. груб.* Вочы. *Няпцёсыный, бяссовісный, вірлы ўставіць, зіркыіць.*

**Вісажыр** *м.* Сузор'е. *Вун кучка зорік, ета у нас вісажыр завецца.*

**Вісачына** *ж.* Вышыня. *Тыкая вісычынá, а ён ходзіць худзь ба што, я каб глянула ўніз аттуля, і самлела б. Я ны вісычыне ні работыў ба, гылыва кружыцца.*

**Віскатня** *ж.* Віскатанне. *Як спрáвілі віскатню, було хуць з двыра бягі. Віскатні як наслýхыісься, пойдзіш ачумелый.*

**Вітнік** *м.* Той, хто займаецца віццём. *Зыработыўся вітнік, што й абедыць ня йдзець. Вітнік наш круціў, круціў сувaі, пакуля заснуў с крючкамі.* **Вітніца** *ж. Я гляджу, што ты вітніца ня хужы мушчыны, крýцінькыя вярёвычка пулучаіцца.*

**Вогірнічанне, вогірства** *н.* Задаванне, фанабэрства. *А нагледзілыся я ны тваё воґірнічыньня, ідзі, другім пыказывый. Ты ўчыся трошку бяз воґірнічыньня апхадзіцца. Дужа ў табе многа воґірьства, каб і меншы, ня хужы було б.*

**Вогірнічаць, вогірнічацца, вогірствываць** *незак.* Задавацца, фанабэрыцца. *Воґірнічылі ўсё лета пы дзярэўні, зыдач було ні сышчытаць: як жа, у сьвеці два месіцы прублукуняліся. Так быў пычаў воґірнічыцца, што с кукішым ні пытхадзі. Трошку падніміцца — тожа будзіць воґірствывыць, як старшый, яны дужа мысьцірá ны зыдывáньня.*

**Вогірскій** *прым.* Фанабэрысты. *Пынасёнык — воґірьскій хлопіц. Кудрічані — воґірьскія мальцы, яны ўмеюць сябе пыкызáць.*

**Волік, волічак** *м. перан. гумар.* Сыты, распешчаны малады чалавек. *Ладный волік рузгудувáўся, нічога сёстры дыглідаюць. Ніхай-ка тваe волікі троху пыкáшыюць. Вырыс волічык зы бацькінью сьпіною.*

**Вольшына** *ж.* Алешына. *Харошыя была вольшына і ссохла. Трі вольшыны сьпілілі і воз ныклалі.*

**Вомарак** *м.* Галавакружэнне, непрытомнасць. *Вот іду і нічога, нічога, а тады нейкій вомырык, вомырык пывядзець у гылаве, ажно дренна дзелыіцца і туман у вычах.*

**Вомег** *м.,* **вомега** *ж.* Штосьці нясмачнае, непрыдатнае да яды. *Ні прідýмыіш, што табе нада, вомігу ўжо хваціў ба. Аднае вомігі табе ні хвытаіць. Вомігі ім толька нада.*

**Вопад** *м. абур.* Пагібель. *Ніхай на іх вопыд ны тваіх хвáліных. Ты даўно жджэш ны мяне вопыду якога.*

**Вопрамець** *прысл.* Надзвычай шпарка, імкліва. *Ляцеў аттуля вопрымíць, сам ні знаў куды. Кінуўся вопрыміць ат іх.*

**Вотлаз** *м.* Адставанне. *Я табе січас дам вотлыз, ты*

*ат мяне аччэпісься. Лезіць ка мне бяз вотлызу, ну палучыць калі-небудзь.*

**Воўк** *м.* Воўк. *Узмацн.* **ваўчуга, ваўчына.** *Бег па полю ваўчу́га, з ладнага цялёнка, такей любую скаціну парьвець. Знаіш, ваўчы́ну пыцстрялілі, бальшу́шчыга-бальшушчыга, толька ён ўцёк. Павеліч.* **ваўчышча.** *Ваўчы́шча ж жырябёнка прыг к каню, конь на́ дыбы ды ўбок, аглыблянкрэх, я як зыкрічу: туга, туга — воўк у кусты і ўцёк.*

**Воўна** *ж.* Воўна. *Памянш.* **вовенка, воўначка, вовеначка.** *Пірямы́ю вовінку, пірісушу́, нада ныпрясьць ну чулкі і ны вязёнкі. Харошыя воўнычка, доўгінькыя і тонінькыя-то́нінькыя. Вовінычку ні кіда́й, зьля́мчыцца, акуратнінька складзі і павесь.*

**Вошчуп'ю** *прысл.* Вобмацкам. *Ці ня вошчуп'ю ты грібы шукаіш, што пацёмкымі бягіш у лес. Зыпалі сьвет, тута вошчуп'ю нічога ні найдзіш.*

**Вуглавік** *м.* Вуглавы крук у страсе. *Як вешыюць крю́чча, вуглавік усігда выбіраюць кряпчэйшый, ны яго вес большый ны рагу́. Памянш.* **вуглавічок.** *Ну вуглывічок цяжыль большыя, з двух бакоў, ён нада, каб крепкій быў.*

**Вугол** *м.* Вугал, куток. *Вугол ад гароду у пуні крепка падгніў. Сьмяцьцё у вугол ні сыбіраюць, а выносюць. Памянш.* **вугалок, вугольчык, вугалочак.** *Я мячыкі у вугольчыку відзіла. Ці ні твае вязёнкі пуд вугалочыкым ны зямле ліжаць?*

**Вуднуць** *зак.* 1. Украсці са спрытам. *Карзінычку пыстаў у мяшок ды сеным прікрый, ато вудну́ць і ні замеціш. Тыкая скобля лоўкінькыя была — німа, вудну́лі пряма зь бярьвеньня і нікога чужога ні було, кажыцца, ўсе свае.* 2. Ударыць рэзка. *Як вуднець ладна, другей раз ня будзіш пыцска́кывыць.*

**Вузёл** *м.* Вузел. *Вузёл зыцягнуўся, што хут ты яго зубамі грызі. Вузёл зыстря́ніць, ні туды ні нызад ні пыцягніш. Памянш.* **вузельчык, вузёльчык.** *Вузельчыкі нада пырызьвя́зывыць, яны церць будуць. Ат вузёльчыка намуліла і баліць, красьнец стала.*

**Вуйма** *м.* Мноства. *Табе ні біда, у цябе ву́йма радні, пыдбігаць, пы бырязёнкі выбіруць, во і ўся бульба. Павеліч.* **вуймішча.** *Іх жа ву́йміишча пы акругі, зьбегліся атаўсю́ль, за дзень хату самшы́лі, склалі і яшчэ на пуню зыкыпалі шу́льля.*

**Вулдыр** *м.* Пухір. *Па ўсёй руке пашлі вулдырі, дайжа ны плячэ пыўска́кывылі, ці ні ат укусу ета якога-небудзь. Памянш.* **вулдырок, вулдырочак.** *Маліңкій вулдырёк, ну дужа балючый, каб ня рожа прікінулыся. Пашлі якея-то вулдырёчыкі, ач чаго б яны былі. Узмацн.* **вулдырына.** *Во якей вулдыріна ўскачыў ат кіпятку, акуратней нада.* **Вулдырра** *н. зб. Вулды́рьря пасела ны ныгах, чулка ні надзець, ці мазыць нада чым-то, ці вы́пыріць хырашэнька.*

**Вумнасць, вумственнасць** *ж.* Розум, разважлівасць. *Ву́мнысьці ў яго німа ніякія, хто ны каго захочыць патпець — пытпяець і ён: так, так, і пы плячу ля́скыіць. Ву́мствінныісьцю бог цябе ні абідзіў, кылі што айдзе плоха ляжыць, тваіх рук, пішы, ні мінець, на ета ты ціряшчур ву́мствінін.*

**Вумственный** *прым.* Разумны, разважлівы. *Ня можыць быць, каб Қаця такоя зьдзелыла, іна ву́мствінныя баба. Қаб ты быў ву́мствінный хлопіц, такей ба ірунды ні гыварій.*

**Вуравень** *м.* Грунтвага. *Верхнія вакенца ў ву́рыўні разьбілыся, цяперя стыякі ні памеріиш; ці яны роўна стыяць, ці не.*

**Вурзнуць** *зак.* 1. Ударыць. *Усё ўходу ні було, а як ву́рзнулі, тады пыцішэў.* 2. Рэзка адштурхнуць. *Як ву́рзьніць Пынаську аць сябе, тэй і пыляцеў дыгары тырма́шкымі.* **Вурзнуцца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Глядзі, наўзныч ву́рзьнісься затылкым ап каменьня, тады будзіш знаць ба́лыйства. Дура́чыліся ны стагу, пыкаціліся, як ву́рзнуліся, пывязло, што ні на вілкі.*

**Вусастый** *прым.* Вусаты. *Ахрем такей быў вуса́стый, вусы закру́чыны ўверьх, бравый мужык. Памянш.* **вусасценькій.** *Яны цяперя ўсе вуса́сьціңкія, адзь зямлі чуць пыдняўся і ўжо тарчыць мох пад носым.*

**Вуханне, вухканне** *н.* Трывожнае рохканне. *Ета пырысяты гуляюць так, балыюцца: вух, вух адзін аднаму і пабеглі, ну дам я ім пру́ціка з ву́хыньнім, бігаць жа у гряды. Я табе дам ву́хкыньня, я пыкажу як карыта варочыць.*

**Вухар** *м.* Зух, хват. *Як тута былі адны меншыя, ён ву́хырь быў куды там, а цяперя пыцішэў, уняўся, ня чутна стала.*

**Вухарскій** *прым.* Зухаваты. *Ты ву́хырьскій хлопіц, ну*

*і Сярьгей жа ня лыкым шыт. Шкáріда шкарідыю, від тольки дужа вухырьскій.*

**Вухарства** *н.* Зухаватасць. *Вýхырьства у іх дужа многа було. Каб хто найшоўся уняць вас умесьці з вухырьствым вашым.*

**Вухаць, вухкаць** *незак.* Трывожна рохкаць. *Пацьсьвінкі нешта доўга вýхылі ў пунькі: ці яны чулі каго, ці есьць хацелі, можа, ты мулувата ім вынісла. Нізнакомыя места, кыбанчык нюхнець і вýхкыіць: куды йта яго прівязьлі?* **Вухацца, вухкацца** *незак.* Трывожна рохкаць (пра знаходжанне ў стане дзеяння). *Ну чаго, чаго вам вýхыіцца, вы ж і травы пускублí, і ныпіліся хырашо, сьпіця. Ім вýхкылыся, што баню пулучылі зы парытыю бульбу,— улезьлі скрозь пляцень і дывай быразёнкі гнаць у ряд.*

**Вушла** *прысл.* Разумна, развbooжна, дасціпна. *У вашым дзелі нада вýшла пыдыйціць, нада пышывяліць мызкамі, інычы усё пыляціць уверьх тырмáшкымі, ны адной кыпілінычкі дзяржыцца.*

**Вушласць** *н.* Розум, развага, дасціпнасць. *Каб к яго вýшлысьці ды яшчэ сіла, ён ба горы зьвярнуў. Якую ты вушлысьць у тумыкá хочыш найціць!*

**Вушлець** *незак.* Станавіцца больш разумным, разважным, дасціпным. *Відзіш, як ты ў зіцях вушлець пычаў, нада було раншы пайціць.*

**Вушлый** *прым.* Разумны, разважны, дасціпны. *Платон вýшлый мужык быў, ён ба вас у два шчоты абвёў кругом пальца. Выш. ст.* **вушлейшый.** *Не, ні гывары, старік быў вушлейшый, яго ніхто ні ў чым ні правёў ні разу. Аткуля яны вушлейшыя, так, ізыкі гладка ходзюць, а ці яны што разумныя гыварілі? — трілю́ду ўсякыю. Памянш.* **вушленькій.** *Ён у цябе ўсігда вýшлінькій, тольки ня мог сыбразіць, што сена пыд дажджом ня сушуць.*

**Вушна** *прысл.* Вусцішна. *У нізнакомым лесі аднаму ўночы дужа вýшна. Мушчыны паедуць у ізвоз, я адна як астануся ў хаці, як зьдзелыіцца мне вушна.*

**Выбалець** *зак.* Пашкодзіцца або страціцца ў выніку хваробы (пра вока). *Зразу, як зыбалела, ґ дыктырам ня кінуўся, думыў, пройдзіць, а яно ўсё хужы і хужы, і вы́быліла вока.* **Выбалелый** *дзеепрым. У яго вока вы́былілыя.*

**Выбарный** *прым.* Адборны,. найлепшы. *Вы́бырный іч-*

*мянёк пыстаў ны пасеў. Мы дужа ня кормім, каб сала выбырныя, пацешым, пацешым і заб'ём.*

**Выбарсыванне** *н.* Выцягванне аборы з лапця. *Ні трáцьця вы ўремя з выбáрсывыньнім, кідайця так.*

**Выбарсываннік** *м.* Той, хто выцягвае аборы з лапця. *Ні кулупáйся, выбáрсывыньнік, а цягні.* **Выбарсываннiца** *ж. Ты выбарсывыньніца, усё дно як і радзілыся ёю.*

**Выбарсываць** *незак.* Выцягваць аборы з лапця. *Што тута выбáрсывыць, іна рваныя, вузёл ну вузьле, змытай ды кідáй умесьці з лапцім у печ.* **Выбарсывацца** *незак.* Выцягвацца з лапця (пра абору). *Іна была зьвіта ні абора, а так вярёвычка, ды няроўна, аттаго й ні выбáрсывыіцца.* **Выбарсаць** *зак.* Выцягнуць аборы з лапця. *Адну абору скора вы́бырсыў, а другая як запутылыся, чуць толку даў.* **Выбарсацца** *зак.* Выцягнуцца з лапця (пра абору). *Сыма ж аборіна ня вы́бырсыіцца, нада рукамі ўзяцца.* **Выбарсываный, выбарсаный** *дзеепрым. Ліжаць вун пыдз загнетым твае лапці, а ці выбáрсывыныя — ні знаю, я за іх ні браўся. Вун яны, твае атопкі, вы́бырсыны, іх толька ў печ заўтря укінуць.*

**Выбіваннік** *м.* Той, хто выбівае, займаецца выбіваннем. *Твой выбівáньнік расколіць січас ручку, тады будзіш новыю дзелыць, вазьмі сам ды вы́бі астарожнінька.* **Выбіванніца** *ж. Во ўзілася выбівáньніца, мяшок ап сьцяну рызаб'ець.*

**Выбіраннік** *м.* Той, хто выбірае, займаецца выбіраннем. *Глядзіця, выбірáньнікі, каб бульба ў зямле ні астывáлыся. Будзіць пароць носым твой выбіраньнік і ні ш чым астаніцца.* **Выбіранніца** *ж. У тваіх выбірáньніц ня столька работы, сколька былбатні самыя пустэя.*

**Выбузаваць** *незак.* 1. Змяць, забрудзіць (звыч. пра адзенне). *Вы́бузывыў пінжак, што ні пінжак стаў, а тряпка. Усе плечы выбузывыў у грязь ці ў дзёгыць, ні дамы́ісься рубашкі.* 2. Выкапаць звыш меры. *Вы́бузывылі я́мішчу, як погріб. Сьвіньні выбузуюць яму пыць сьцяну і самі вы́лізуць, туды нада кольля глыбока забіць.* 3. Стаміць празмерна. *Коні мяне так выбузывылі, чуць ны ыгах стаю.* **Выбузавацца** *зак.* 1. Змяцца, забрудзіцца. *У што ён вы́бузывыўся, ідзець грязьнюшчый, як чорт.* 2. Стаміцца да знямогі. *Мы ны сажылкых ладна выбузывыліся, пакуль пяньку дыстывалі.* **Выбузаваный** *дзеепрым.* 1. Змяты, заквэцаны. *Якей жа етый касьцюмчык вы́бузывыный!* 2. Выкапаны звыш меры. *Там ямішча*

*выбузывына у два чылавекі.* 3. Стомлены да знямогі. *Што ты ўжо ат яго хочыш, аткуль тая сіла будзіць брацца, ён крепка выбузывыный.*

**Выбухацца** *зак.* 1. Стаміцца, выбіцца з сіл. *Выбухыліся мы с пнямі, чуць жывэя прікаціліся двору.* 2. Вырасці вялікім, моцным. *У дзедыву пріроду пашлі, выбухыліся хлопцы пы сажню. Усё быў маліHькій і маліHькій, а тута зы два гады выбухыўся мушчынішча, што зьверь.*

**Вывадзіць** *незак.* Старанна пець. *Іхнія дзеўкі дужа красіва выводзюць, вашы так пець ня ўмеюць. Ты выводзіш ікраз, як кріклівыя карова.*

**Выважаный** *дзеепрым.* Запэцканы, вымазаны брудам. *Прішоў пад вечыр вымызыный, вывыжыный, ці ён кычаўся айдзе, ці яго хто кычаў, ці хто яго знаіць, айдзе ён быў і што тваріў.*

**Выварзёкываць** *незак.* Вымазваць, забруджваць. *Айт, нікуратный старік, усякыю адзежыну выварзёкывыіць.* **Выварзёкывацца** *незак.* Вымазвацца, забруджвацца. *Дужа табе нада тут поўзыць, выварзёкывыцца.* **Выварзякаць** *зак.* Вымазаць, забрудзіць. *Яй-богу, у дзёгыць вывырзікыў сарочку, цяперя ні дамыісься, чым ты дзёгыць атмыіш.* **Выварзякацца** *зак.* Вымазацца, забрудзіцца. *Ён мігым найдзіць у што вывырзікыцца. Вывырзікыліся ў пуні, сталі як чэрця грязныя абоя.* **Выварзяканый** *дзеепрым. Чугун усігда вывырзікыный, што ў рукі ні ўзяць, ну большы я ў пуні карміць ня буду, ніхай ны дваре есьць.*

**Вывухраць, вывухрываць** *незак.* Старанна вучыць, падвучваць. *Узілася сваю меншую вывухряць. Ты луччы сваіх вывўхрівый, а ны маіх ужо ні глядзі.* **Вывухрыць** *зак.* Старанна навучыць, падвучыць. *Машка свайго так вывухріла, што па дной масьнічкі ходзіць піряд ёю. Яны к чаму хочыш вывухрюць.* **Вывухраный** *дзеепрым. Ат Насты пойдзіць вывухріный, раз пупаўся к ёй у рукі, то йна ўмеіць розум укладывыць.*

**Выгаварыванне** *н.,* **выгавор** *м.* Замова. *Выгыварівыньня паможыць, як хваробі кашыль. Выгавор, хто яго знаіць, можа, каму й памог. Я б цябе путуріў ны яго месьці с хаты разым з выгаворымі, іна дунець, пуплюець, дык вылічыць.*

**Выгаварываць** *незак.* Вышэптваць замовамі. *Сам Навум умеў многа выгыварівыць, і Навуміха лі яго наўчылыся. Пымыгаіць ці не, а рожу у нас выгыварівыюць.*

**Выгаварыць** *зак.* Вышаптаць замовамі. *Рожу каб хто-небудзь вы́гывырій. Ці йна вы́гывыріць, ці кот у ваду бу́ркніць — адзін толк будзіць.*

**Выгаліць** *зак.* Ачысціць дагала. *Пріехылі пыліцэйскія шайкыю на дзьвюх машыных, вы́гылілі дзярейню, ны машыны, ны машыны і паехылі. Ну лужку вы́гылій скот, дык калі іна там, трыва тая, атрасьцець.* **Выгаліцца** *зак.* Ачысціцца дагала. *Уся сьпіна у пулушу́бку вы́гылілыся, пряма клоччым война вылізла і у́сё.* **Выгаленый** *дзеепрым. Так поля вы́гыліна, разу скубнуць нечыга, нада у кусты гнаць скот.*

**Выганянне** *н.* Выгнанне. *Дужа ты яго нупужаіш сваім выгыня́ньнім, ты прагоніш, а ён ґ другой пойдзіць.*

**Выганяннік, выганяльнік, выганяльшчык** *м.* Той, хто выганяе. *Мы етыга выгыня́льніка пріжмём, што ня пікніць, во яму будзіць выгыня́ньня. Хто цябе баіцца, выгыня́льнік такей-то найшойся, ці пынімаіць цябе хуць хто-небудзь? Выгыня́льшчык ваш сам скарей пыляціць біз ыглядкі і ат храбрысьці ат яго мэтлуха ні астаніцца.* **Выганянніца, выганяльніца, выганяльшчыца** *ж. Успакойсь-ка, выгыня́ньніца, што яны табе плахога зьдзелылі, яны ж прайду скызалі. Так аччытала выгыня́льніцу ету, што йна на́вік забудзіцца пры свае ґіморы. Устреціла я січас учырашнію выгыня́льшчыцу Ныталкіну,—ідзець і атвярнулыся, у бок глядзіць.*

**Выгарныванне, выгартыванне** *н.* Выгортванне. *Такоя выга́рнывыньня ні па мне, кылі так дзелыць, луччы сайсім ні брацца і аткызацца. Тваё выга́ртывыньня ны час, а тама мінутныя дзела, бруском два разы падзьвінуй і у́сё.*

**Выгарныванніk, выгартыванніk** *м.* Той, хто выгортвае. *І другей такей самый выга́рнывыньнік, ат вашыя работы пакуля толку дажджэсься, дык і зыначу́іш тута. Дывайця я вам пымагу, выга́ртывыньнікі, вы пы самый зямленя суньця, а трошку ну руках граблі падзьдзержывыйця, тады будзіць ляхчэй.* **Выгарныванніца, выгартыванніца** *ж. Ідзі-ка пымагі сваёй выга́рнывыньніцы, ато йна што-то сайсім зыкыпа́лыся. Адна выга́ртывыньніца хырыша́, а другая яшчэ луччы, бульбу су́нуць, а іна едзіць ныз ад.*

**Выгарнываць, выгартываць** *незак.* Выгортваць. *Жар нада выга́рнывыць, вугольля бальшоя будзіць чадзіць, а ждаць урэмя німа, бярі вядро. Тута выга́ртывыць дужа нялойка: ні пывярнуцца нікуды, ні дайжа стаць ройна*

*ні станіш.* **Выгарнывацца, выгартывацца** *незак.* 1. Выгортвацца. *Што дзелыіш як ні сваімі рукамі, аттаго й ні выга́рныіцца, сілу як прікладзеш, усё пулучаіцца. Под саўсім увесь пыкрышыўся, узыдраўся, і зыла ні выга́ртыіцца.* 2 *перан.* Выбірацца. *Пугусьцюва́лі-пугусьцювалі, ды пыра выга́рнывыцца, людзям ныдыідаць ня дужа лоўка. Сямёнывы госьці, знаць, выгартыюцца, зь нейкімі мяшочыкымі пы двару ходзюць.*

**Выгваздаць** *зак.* Вымазаць, запэцкаць. *І рукі вы́гвыздаў, і рукавы, і нос, ны каго ты пахож стаў цяперя, ты зірні-ка сам ны сябе у зеркыла.* **Выгваздацца** *зак.* Вымазацца, запэцкацца. *Так і хацеўшы ня выгвыздыісься. Пыбляпіліся, вы́гвыздыліся па вушы, ідуць — пірідзівай іх.* **Выгвазданый** *дзеепрым. Яму хуць кажный дзень гывcovaрі пры акура́тнысьць, як на вуліцу пашоў, так і іўляіцца вы́гвыздыный.*

**Выграбаннік** *м.* Той, хто выграбае, займаецца выграбаннем. *Міняюць адзін другога выгрiба́ньнікі, адзін с погрiба, другей у погрiб, хочуць к вечыру справіцца.* **Выграбанніца** *ж. Тама каб баб пяць, а адна выгрiба́ньніца будзіць да цёмныга пароцца між ку́п'я і ні справіцца.*

**Выдзелкі** *мн.* Штукарства. *Табе пупыда́ла за вы́дзілкі ні раз, і сяньня тоя самыя будзіць. Уніміся сы сваімі вы́дзілкымі, пакуля за ремінь ні ўзяўся.*

**Выдужыванне** *н.* Ачуньванне, папраўка пасля хваробы. *Ці будзіць зь яго выду́жывыньня што, ці не, дзень, кажыцца, луччы, а нызаўтріга як хваціць гылыва — ґвалту крічыць.*

**Выдужываць, выдужывацца** *незак.* Ачуньваць, папраўляцца пасля хваробы. *Хуць трудна, ну выду́жывыюць. Айт, як ён выду́жывыіць, пысядзіць мінутку ны крываці, зьвесіўшы ногі, і нызад лажыцца. Ніхто дайжа ні надзеіўся, што Ікімёнык жыў астанецца, а ён, глядзі ты, выду́жывыіцца, ужо на вуліцу выходзіць.* **Выдужаць, выдужацца** *зак.* Ачуняць, паправіцца пасля хваробы. *Так цяжола ліжаў, думылі, ўжо ўсё, ня вы́скрiбіцца, а, глядзі ты, вы́дужыў. Вясною выйдзіць на сонца, пысядзіць, пройдзіць трошку, лі двыра патўпыіць — вы́дужыіць. Мой посьлі ціху чуць вы́дужыўся, усё було сорык адзін і сорык адзін, брюшнэй ціх, а тады вызвра́тный. Вы́дужыісься, тады і пріїжджай к нам, аддыхнеш, пыпра́вісься.*

**Выдумываннік, выдумляннік** *м.* Выдумшчык. *Ён і ма-*

*лый быў выдўмывыньнік харошый, і цяперя такім астаўся, што хочыш прідумыіць. Ты выдумляньнік, як дзіцёнык, што було ні було, будзіш несьць, верзьць, у цябе трудна праўды дабіцца.* **Выдумыванніца, выдумлянніца** *ж. Ладныя выдўмывыньніца, лухту якую сапрець і будзіць верзьць пустоя. Етый выдўмывыньніцы ніхто на грош ня віріць. І ты тыкая самыя выдумляньніца, як твыя сістра, мы тама ўсе былі і нічога етыга ня відзілі, а Коля ні пытхадзіў дайжа.*

**Выёрзываць** *незак.* Бузаваць, вытоптваць. *Калі вы пірістаніця пасьцель выёрзывыць? Што ўжо яны выёрзывыюць за цэлый дзень, зь імі ж ня ўбудзіш.* **Выёрзывацца** *незак.* Бузавацца, таўчыся, падскокваць, круціцца. *Яны ішчэ лі сажылкі выёрзыюцца, пакуль ускочыць туды каторый.* **Выерзаць** *зак.* Збузаваць, вытаптаць. *Як выірзыюць за дзінь сяньнік, зь яго ажно салома сыпіцца. Выірзылі гряду, там нічога ня вырысьціць.* **Выерзацца** *зак.* Набузавацца, натаўчыся, напрыгацца. *Кініш малых адных, як выірзыюцца, дык у хаці пыл стаўбом стаіць. Выірзыліся і сьпяць, ціха.* **Выерзаный** *дзеепрым. Пасьцілкі настолька выірзыны, што пряма ні прідумыіш, як к ім пріступіцца, мыць іх. Яно тута ўсё зы раньня выірзына.*

**Выжлукчаный** *дзеепрым. неадабр.* Выпіты. *Усё выжлукчына, нічога ні асталыся. Ты і ныпраўду паверіў, што там нешта асталыся, схадзі пыглядзі, адны выжлукчыныя бутылкі найдзіш.*

**Выжмураный** *дзеепрым. жарт.* Выпіты. *Нечыга пра выжмурінью настоічку спрашывыць, ты хуць етыя бутылычкі дальшы пыстаў, ато абеіх ні найдзіш.*

**Выжыманнік, выжымшчык** *м. перан.* Капрызнік. *Ня будзь выжыманьнік, як дзеўка, сам ты ні знаіш, чаго хочыш, гывары зразу, ці пойдзіш, ці не. Будзіць такей жа самый выжымшчык, увесь у маму ўдаўся, дайжа кыртавіць, як іна.* **Выжыманніца, выжымшчыца** *ж. І я хырашо помню Антоныву выжыманьніцу, усё ён зы хвастом бегыў, а йна ані пріступ, носым вярцела. У дзеўкых і Каця была выжымшчыца, а як замуж выйшла, дзеці пасыпыліся, айдзе й выжыманьня дзелыся.*

**Выжымацца** *незак. перан.* Капрызнічаць. *До ўжо выжымацца, цябе просюць па-людзку і пыдыйдзі, ня ўкусюць жа цябе тама.*

**Вызвездзіцца** *зак.* Ачысціцца ад хмар, стаць ясным,

чыстым (пра неба). *Такея ўжо тучы йшлі, дўмылыся, ім кынца-краю ня будзіць, а к раньню вызьвізьдзілыся, я выйшла, дык зорічкі вытрішчыліся пы ўсяму небу.*

**Вызыбаць** *зак.* 1. Выцягнуць расхістваннем. *Воз як зыстряў, каткі пы самыя восі урезыліся ў грязь, што мы нубуйтуваліся, чуць-чуць вызыбылі. Шула ж хырашо рысьхістана, можа, ўчыцьвярых вызыбым як-небудзь.* 2 *перан.* З цяжкасцю вызваліць. *Пы сваёй дўрысьці ў такую кашу ўляцеў, што ныўряд ці ўдасца яго вызыбыць.* **Вызыбацца** *зак.* 1. Выцягнуцца расхістваннем. *Луччы ты аткыпай ету штындару як нада, можа, іна й вызыбыіцца, ну нарьвесься, у ёй сукі ўнізу ці ня ёсьць.* 2 *перан.* З цяжкасцю вызваліцца. *Крепка зыстряў, ня вызыбыіцца, такея дзялы проста з рук ня сходзюць.* **Вызыбаный** *дзеепрым. Мы й вызыбыный пень кінулі, на воз ня ўзьлез.*

**Вызыкаць** *зак. жарт.* Выбегаць. *Яны толька вырвуцца, вызыкыюць за ныч усё кругом, у дзісяці дзіріўнях пабудуць. Ну й вызыкыла ж ты сяньня, айдзе тоя Пашына, і там пыбыла, ці многа ж там арехыў?*

**Выкаблучыванне** *н.* Танцы з выкрутасамі. *Пойдзім мы, ныдаела глядзець на іх выкаблўчывыньня, такея-то хлопцы, зыдывакі нішчасныя.*

**Выкаблучываць, выкаблучывацца** *незак.* Танцаваць спрытна, з выкрутасамі. *Мішкіна сістра з Андряёнычкым так ужо выкаблўчывылі ны вічарінкі, так выдзелывылі і ўпрісідкі, і ўсяк, аткуль толька што ў іх бралыся. Любюць пыдззыдацца, выкаблўчывыюцца, хочуць пыкызаць, што яны луччы ўсіх.*

**Выказыванне** *н.* Выдаванне. *Што ён мяне выкыжыць і ў чом выкыжыць, дужа я спужаўся яго выказывыньня.*

**Выкалантырыць** *зак. неадабр.* Абабегаць, выбегаць. *За ныч, ты знаіш, сколька яны выкылынтырюць, айдзе яны толька ні ачынўцца, хочыш —у Сутокі зьбегыюць.*

**Выкалясіць** *зак.* Абабегаць, аб'ездзіць розныя месцы ў наваколлі. *Нада ж столька із-зы ірунды выкылісіць, луччы було б ны бызар зьбегыць. Як паедуць, увесь лес выкылісюць, а найдуць, што хочуць.*

**Выкамыр, выкамырнік, выкамырываннік, выкамыршчык** *м.,* **выкамыра** *м.* і *ж.* Штукар. *Ета быў выкамыр, што другога такога пыіскаць ды пыіскаць, як станіць што прістыўляць, дык усе с хохыту пылігаюць. А ну іх, пряма нысьмяшылі тэя выкамырнікі. Я ні разу нійдзе ня*

*відзіў такога выкамы́рніка, як Лявоныў большый быў. Ты яшчэ ні знаіш, якей ён выкамы́рівыньнік, любога пріставіць — і голыс пыдбярець, і пыкажыць, як ходзіць, і што ты хочыш вы́думыіць. Толік ікраз такей выкамы́ршчык, як бацька яго быў. Сыйшліся выкамыршчыкі, адзін пірі́да дным дурату сыпысаюць. Во хто яшчэ быў выкамы́ра, аткуля ў яго што бралыся. Іна тыкая самыя выкамыра, як мальцы, што-небудзь як прідумыіць, усе пыка́тыюцца.* **Выкамырка, выкамырніца, выкамыранніца, выкамыршчыца** *ж. Такея выкамы́ркі, на іх пряма кожа гаріць, як дытвыряць што, дык ба, кажыцца, ні ў век такога ні прідумыў. Ты пыглядзела б, ікая выкамы́рніца Куліна дзяўчонка, іна і пірідра́жніць кажныга, і пірікріўля́іць, іна табе пыкажыць, як хто ідзець, як гаворіць,— чаго іна толька ні ўтвыря́іць. Пулюбу́йцісь-ка на ету выкамы́рівыньніцу, што іна вытвыряіць, ты прідумый паспробый такое зьдзелыць! Я думыла, што Маша слова прыгывары́ць ня ўмеіць, а йна ж тыкая выкамы́ршчыца, што куды там, чы́шчы Сямёна вытвыряіць.*

**Выкамыры** *мн.*, **выкамырства, выкамырыванне, выкамырнічанне** *н.* Штукарства. *Ну й выкамы́ры ў чылавека, ён пряма ня можыць, каб што ні прідумыць і ні сытваріць. Можа, каму-небудзь тваё выкамы́рства і іньціресна, а мне — не. Што ўжо ўсякія выкамы́рствы зь яго дзеіліся! Чаго-чаго, а выкамы́рівыньня зь іх хвытала. І ні хыця рысхахочыцься, як увідзіш яго выкамырівыньня. Нысьміяліся мы ныд Андреівым выкамы́рнічыньнім, дужа ён іньціресна пыказывыў, як Пітраковы ў баню зьбіраюцца. Ні ў кога столька ні було выкамырнічыньня, як у Стыхванёнка, што ўжо ён умеў прітваріць, пірідражніць каго-небудзь, так ніхто ў сьвеці ня ўмеў.*

**Выкамырываць, выкамырывацца, выкамырыць, выкамырыцца, выкамырнічаць, выкамырнічацца** *незак.* Штукарыць. *Доўга тут выкамы́рівылі, еткія зыдачы, што ныўряд ці ў каго яшчэ такея найдуцца. Як пыдап'юць, пашлі выкамы́рівыць. Во сыма увідзіш, што січас пыча́нуць выкамы́ріваца, ці я іх ні знаю, слава богу, прыжыла́ рядым высімнаццыць гадоў. Ета січас ён ціхінькій, ты пыглядзела б ны яго, як пойдзіць выкамы́ріць, двына́ццыць у кысьцях у яго сядзіць. Гываріліі, ішчэ доўга яны тама выкамы́ріліся, знаць, толька падзь дзень рызыйшліся, мы й то вярнуліся — пасьці поўныч была. Ці Зьмітрок выкамы́рнічыіць, як раншы, ай троху ўняўся,*

*тады ж мы помнім яго: агáрык быў куды там. Дужа ўжо яны лішніга выкамы́рнічыюцца. Ці ты помніш, як Ісай усё урэмя тута выкамы́рнічыўся, чаго толька ён ні прістыўляў.*

**Выканькываць** *незак. неадабр.* Дакучліва выпрошваць. *Як табе ня стыдна канхветы выкáнькывыць, ты ж бальшэй хлопіц. Доўга дуріліся, нешта ўсё у Просі выканькывылі.* **Выканьканый** *дзеепрым. Ізьвесна, што ён за вы́кынькыныю трыячку купіць.*

**Выкарчыць** *зак. перан.* Знішчыць дашчэнту. *Ніхай яго вы́кырчыіць умесьці сы свáтым, каб я к ім хуць нагою ступіў. Каб вас вы́кырчыла, жыніхоў такіх!*

**Выкачыванне** *н. перан.* Стары спосаб лячэння ад спалоху. *Ні знаю, ці пымыгала каму яе выкáчывыньня.*

**Выкачываць** *незак. перан.* 1. Выстаўляць уперад. *Ні выкáчывый брюха, яно і так ня месьціцца, разьеўся, як ваперь.* 2. Гадаваць. *Я і слабінькіх пырысятык выкáчывыла, ды якея сьвіньні брáліся!* 3. Лячыць старым спосабам ад спалоху. *У нас раншы Вольга выкáчывыла, а цяперя ўжо ніхто ня ўмеіць.* **Выкачаць** *зак. перан.* 1. Забрудзіць качаючыся. *Новінькій пінжачок вы́кычыў у грязь, стаў, як тряпка.* 2. Выгадаваць. *Сколька ты за ім глядзела, ты ж ўсё ны работу і ны рáботу, баба яго і выкычыла. Доўга сырадоім паілі, глядзелі хырашо, во так і выкычылі.* 3. Правесці лячэнне старым спосабам ад спалоху. *Можа, ён спужаўся айдзе, можа, яго сыбака піріпужáў, ніхай ба яго Марья выкычыла.*

**Выкіданнік, выкідываннік** *м.* Той, хто выкідае, займаецца выкіданнем. *Зымаріліся выкідáньнікі, сідзяць, курюць, там тыкі гной дужа зьбіт. Глядзі мне, выкідывыньнік найшоўся, кіну січас!* **Выкіданніца, выкідываніца** *ж. Шывяліцісь-ка вы скарей, выкідáньніцы, у мяне ўжо ні астаецца снапкоў. Муўчаць выкідывыньніцы, можа, яны там заснулі?*

**Выкручываннік** *м.* Той, хто выкручвае, выкручваецца. *Ты ж крепка дзяржы, выкрýчывыньнік, у грязь ні ўпусьці пылытна. Во выкрýчывыньнік, як ён ну турніку выдзелывыіць!* **Выкручываніца** *ж. Кіпіць у нашых выкрýчывыньніц работа, ажно упацелі.*

**Выламіць** *зак. перан.* Знішчыць дашчэнту. *Ня вы́лыміць жа яе хвароба зь яе жаднысьцю! Ніхай іх вы́кырчыць і вылыміць, як яны мне жыць ні даюць!*

**Выламываннік, выламліваннік** *м. перан. іран.* Кап-

рызнік. *Што йта стала с табою, раншы ты еткім вылáмывыньнікым ня быў. У ваша пріродзьдзя пашоў, увесь чысьцінька вылáмлівыньнік, як дзядзя быў.* **Выламыванніца, выламліванніца** *ж. Січас іна йшчэ ня дужа пынімаіць, а пыдрасьцець — будзіць выламывыньніца. Ня будзь такою вылáмлівыньніцыю, с табою рызгываріюць, і ты атвець.*

**Вылетаць** *зак. перан.* Хутка абабегаць. *Яны ня толька ў Зяціцых пабудуць, яны як зыкладýць ат Рылыўшчыны, дык зá ныч, чорт іх знаіць, сколька вы́літыюць, ну вічарінку айдзе-айдзе пупадýць.*

**Выліванне** *н.* Стары спосаб лячэння ад спалоху з выкарыстаннем вады. *Нешта я ня чуў, каб вылівáньня каго зьлечывыла. Тваё вылівáньня паможыць, як мёртвыму пріпарка.*

**Выліваннік** *м.* Той, хто вылівае. *Шýхніш на ногі, вылівáньнік, і будзіш мокрый хадзіць.* **Выліванніца** *ж.* Жанчына, якая займалася лячэннем вадой. *Каб прутуріў с хаты цябе разым з вылівáньніцыю, во ета быў ба толк.*

**Выліваць** *незак. перан.* Лячыць ад спалоху з выкарыстаннем вады. *Стáрыя Аксюта вылівáла іспуг: нешта шыптала, тады цірізь віріцяно ліла ваду і яшчэ неік ліла, ці т таго, ці ні т таго, а некытырым дзіцям пымыгала.* **Выліць** *зак. перан.* Правесці лячэнне ад спалоху з выкарыстаннем вады. *Калі спужаўся, мáльца нада вы́ліць. Ну як ты вы́льліш іспуг, етыя бабкі ўжо выдумывыюць ніізьвесна што.*

**Вылупень** *м.* і *ж. груб.* Дурань, тупіца. *Найдзіцца мне чылавек, нашто мне ваш вы́лупінь. Была вылупінь і астáлыся, у яе і рукі ні к чому ня служуць.*

**Вылуплянне, вылупліванне** *н. груб.* Шырокае раскрыванне вачэй, разглядванне. *А каму яе вылуплянья важна, ніхай вылупляіцца, сколька ёй хочыцца. Ета ўсё надзелыла тваё вылýплівыньня, каб меншы рызівоніў, і бутылкі былі б цэлы.*

**Вылуплянннік** *м. груб.* Той, хто шырока раскрывае вочы, разглядае. *Ну што ты вы́тріשчыўся, вылуплянньнік, людзей век ня відзіў ці што. Пывялі к Аўдотычкіный нейкыга вылуплянньніка.* **Вылупляннніца** *ж. Стаіць вылуплянньніца лі гаршкоў, дужа яны ёй аньціресны, матка пыслала цубýлі купіць, дык кýпіць.*

**Вылуплястый** *прым. груб.* З вялікімі вачамі. *Скажы*

*свайму вылуплястыму, што ніхай толька ні прінясець вожычык, будзіць харош. Памянш.* **вылуплясценькій.** *Пріїжджала зь дзіцямі, нібальшэя такея, вылупльсьціньнкія бегылі тута кулу Кузьмы.*

**Вылупляць, вылупліваць** *незак. груб.* Шырока раскрываць (пра вочы). *Ішла і ўсё вылупляла бельмы ны наш гароччык. Будзіш вылуплівыць вочы—кыня ў кынаву угоніш, тады пуўдня буйтуйся, выцягывый.*

**Вымазговываць** *незак. гумар.* Прыдумваць. *Доўга ж ты вымазговывыіш, на ком луччы жаніцца, нічога, найдзіш пятлю на шыю.* **Вымазгаваць** *зак.* Прыдумаць. *Ну што вы цяперя вымызгыіця, атлёты мае? Глядзі-ка ты, вымызгывый, на ком жаніцца, учора к Аўсяёўні ў сваты езьдзіў.* **Вымазгавацца** *зак.* Прыдумацца. *Што ў вас вымызгывылыся нашчот паездкі?*

**Вымакыванне** *н.* Выбіранне маканнем. *Посьлі вымакывыньня вады німа, а так усё сыра, нада, каб пацсохла, складывыць пакуль сюда нічога ні нада.*

**Вымакываць** *незак.* Выбіраць маканнем. *Крыша ня дужа крепкыя, а дождж як зь відра, выда ў засікі ныцікла, я і чарепыла, і тряпкыю вымакывыла.* **Вымакывацца** *незак.* Выбірацца маканнем. *Ня дужа тут вымакывыіцца.* **Вымакаць** *зак.* Выбраць маканнем. *Мае дужа любюць мыладую бульбу галычкымі і цубулю тоўчыныю сы сьмітаныю, усё пыччыстую зьядуць і сьмітану вымыкыюць.* **Вымакацца** *зак.* Выбрацца маканнем. *Мыкайця, што ня вымыкыіцца, памыім.* **Вымаканый** *дзеепрым. Капуста стаіць нятрогыныя, а сала ўсё вымыкына.*

**Вымандзыраный** *дзеепрым.* Выкленчаны, атрыманы ашуканствам. *А каму ж ты аддаў вымындзыріныя канхветкі, як табе ня стыдна дзіцёнка дражніць.*

**Вымахываць** *незак.* 1. Выкідваць, шпурляць. *Нешта ён там усё вымахывыіць у вакенца.* 2 *перан.* Выдзьмуваць. *Хата ну бузгорку стаіць, адна, веціp яе дужа вымахывыіць.* **Вымахаць** *зак.* 1. Вышпурляць. *Троху пыкыпаюць, а тады дывай дурачыцца, пу пыўкарзінкі бульбы вымыхыюць адны ну другіх.* 2 *перан.* Выдзьмуць. *Іна ўжо старёнык хата, веціp як усходзіцца, вымыхыіць, дык халодна.* 3 *перан.* Вырасці. **Вымахацца** *зак.* 1. Вышпурляцца. *Патроху вымыхыіцца і ета дрібядзень.* 2 *перан.* Стаміцца. *Ны казьбе вымыхыісься крепка, асобінна біс прівычкі.* **Вымахнуць** *зак.* 1. Выкінуць. *Палычка тута ліжала, я ні знаў, што йна табе нада, вымыхнуў.* 2 *перан.*

Вырасці. *Зы адно лета вымыхнуў, ты глядзі, якей стаў.*

**Вымудраннік** *м.* 1. Прытворшчык. *Іван быў такей вымудрянньнік, чышчы ўсіх, нікога такога ны вымудрянньня ні було.* 2. Капрызнік. *Усігда вымудряньнікі ў ядзе, нічога ні пыдбяреш па іх.* **Вымудранніца** *ж.* 1. Прытворшчыца. *Мыладою Манька была вымудряньніца на ўсё, бувала, прістáвіць каго-небудзь, зыхахочысься.* 2. Капрызніца. *Я сваёй вымудряньніцы нічога ні магу пыдыбраць зьесьць, таго ні хачу, ета ні смашна, ні знаю, чым яе і карміць.*

**Вымшыць** *зак.* Добра намшыць. *Вышмылі хату, што ніякій мароз ні страшын, дух ня пройдзіць.* **Вымшаный** *дзеепрым.* *Баня вымшына крепка і на столь многа насыпына, дух дзяржыцца і нызáўтріга. У нас вымшыный аўчáрнічык быў.*

**Вымякаць** *незак.* Вымочвацца, адмочвацца. *Ні аднаго мішкá пуд рукамі німа, грязныя посьлі бульбы, нымачыла, вымікáюць. Айдзе трошку лашчынка, выда вясною сыбіраіцца і жыта вымікаіць, калі нібыльшая лашчынка, дык гыняюць быразёнкі.*

**Выніманнік** *м.* Той, хто вымае, дастае. *Ну паспробыйка, вынімáньнік, што ў цябе палучыцца, мыя рука сь ціплёнкым ні вылáзіць.* **Выніманніца** *ж.* *Вынімáньніца ты малінькыя, у цябе ручка кароцінька, ні дыстаніш.*

**Выпараджанне** *н.* Падрыхтоўка, зборы. *Ці доўга ішчэ будзіць тваё выпыріджáньня, пыра йціць. Як пычанецца выпыріджаньня, пра ўсё зубувáюць.*

**Выпарадзіцца** *зак.* Падрыхтавацца, сабрацца. *Сяньня ўжо я ні знаю, куды яны выпырідзіліся. Выпырідзюцца куды-небудзь і кытанулі.*

**Выперазаць** *зак.* 1. Выцягнуць з штаноў (пра рэмень). *Ремінь выпіріж ды прікруці мяшок.* 2. Моцна сцебануць, хвоснуць. *Цірісьсядзельнікым як выпіріжу, і места будзіць табе, і ўсё!*

**Выплаціцца** *зак.* Расплаціцца, выплаціць. *Мы с пызычáньнім выплыціліся ішчэ летыся. Ні знаю, калі я з дуўгамі выплычуся, пыныхвытáў усюдых, сяджу як у шыўках. А ён тады выплыцíўся, рышшчытáўся, і яго ні трясýць.*

**Выпсень** *м.* і *ж.* *абраж.* Састарэлая асоба. *Пыцягнуўся Мікілаіхін выпсінь чаго-то пыц сажылкі с касою, ці ні нагледзіў бічывічкі, на іх дужа ядомыя атáўка. Твой*

*выпсінь усігда дуратў порїць, дзяўчонык трогыіць, дзяўчонкі яму нада. Ай, выпсінь, куды ёй цягнуцца у тоя Зылачэва.*

**Выпсець** *зак. абраж.* Састарыцца, знелюдзець. *Выпсіў саўсім, а ўсё з дуратою ні ўнімаіцца. Скора ты выпсііш і нікому ні нада будзіш.*

**Выпужаць, выпугаць** *зак.* Перапалохаць. *Як жа ты мяне вы́пужыў, я ўжо думыла, ета нівісь хто, можа, якей воўк прыгнуў. Так мяне пыліцэйскія вы́пугылі тады, стаю, кылачўся ўся і сыма ні знаю, ці я жыва, ці ўжо на том сьвеці.* **Выпужацца, выпугацца** *зак.* Напалохацца, набрацца страху. *Цігаюцца яны айдзе-зря, вы́пужыюцца, тады вазіся зь імі, вылачы́ пы дыктырах ды пы хвірчылáх. Адзін ён такою гразою вы́пугыіцца большы некуды, ніхай ба хуць к Алёніным пабег ды пысядзеў.* **Выпужаный, выпуганый** *дзеепрым. Ці ты сыма ня відзіш, ета дзяўчонычка вы́пужыныя, каб Нінка тут была, іна б вы́лічыла, іна дужа сьпецна ат іспугу лечыць. Етый дзіцёнык вы́пугыный, яй-богу, выпугыный, ножкымі дры́ґыіць, ручкі раськініць, рыскрываіцца і стогніць.*

**Выпусканнік** *м.* Той, хто выпускае, займаецца выпусканнем. *Глянь-ка сам, ато тэй выпускáньнік пыччыня́іць пуні разым, а цялёнык прыгніць ціріс прясла і пойдзіць гуляць пы грідáх.* **Выпусканніца** *ж. Тожа мне выпускáньніца, вароццыў як нада аччыніць ня можыць.*

**Выпыліваццa** *незак.* Выбівацца (пра пыл). *Ня дужа тваё тряхольля выпы́лівыіцца, нада було утапіць у шайку, ніхай ба вы́мікла.*

**Выручаннік** *м.* Той, хто выручае. *С Кываленка ніплахей выручáньнік, ён ні днаго выручыў. Пынадзейся ны такога выручаньніка!* **Выручанніца** *ж. Січас яшчэ адна выручáньніца пыбягіць, дасць помышчы.*

**Выручка** *ж.* Выгода, разлік. *Ныўряд ці будзіць яму вы́ручка ехыць з вамі. Німа мне вы́ручкі січас выбірáцца, пыцяплеіць троху, тады пыгляджу.*

**Вырушна** *прысл.* Выгодна, з выгодай. *Вы́рушна купіў пырысятык, яны сяньня ня доргі былі. Мне ня будзіць вырушна цяперь прыдывааць карову.*

**Вырушный** *прым.* Выгодны. *Сяньня ў цябе вы́рушныя прыдáжа была. Ня дужа ета вырушныя дзела пыглідаць ну чужоя.*

**Вырыванніk** *м.* Той, хто вырывае, займаецца вырываннем. *Не, вырывáньнік, тута ні тыкая сіла нада, тута*

*нада, каб ты і яшчэ троя такіх, тады б вырвылі.* **Вырыванніца** *ж. Эх ты, вырыва́ньніца, куст апкыпа́ць нада кругом, а тады цягнуць.*

**Высеверыць, высеверыцца, высеўрыцца** *зак.* Высахнуць на ветры, на марозе. *Пінька вы́сівіріла за́ зіму пыць сьцяною, атхлу́пла, пасьці мяць ні нада. Ліцо вы́сівіріліся ны марозі, на ветрі, ажно кожа шулушы́цца, а рукі ж, буваіць, у ваду уторніш, з мокрымі ны мароз выскычыш. Ну, твой лён пыць сьцяною вы́сіўріўся, што пылатно ні нада будзіць бяліць.*

**Выселка** ж. Высяленне. *Вы́сілку я хыраше помню. На вы́сілкі на той кулачок пыд бачок і лягу.*

**Выскаляннік** *м.* Выскаляка. *Сідзяць выскыля́ньнікі, зубы прыдаюць, ім толька каб пысьміяцца нат кім-нібудзь.* **Выскалянніца** *ж. Як вам ня стыдна ныц старым чылавекым сьміяцца, выскыля́ньніцы вы.*

**Выскараджыванне** *н.* Стараннае баранаванне. *Во ета выскыра́джывыньня, роўнінька, чысьцінька, ні сьлідка́ ніўдзе, відна работа хызяіна.*

**Выскараджываць** *незак.* Выбараноўваць. *Як зря я ня кіну, я люблю выскыра́джывыць хыраше, тады і поля раўней, і жаць луччы, і луччы расьцець.* **Выскараджывацца** *незак.* Выбараноўвацца. *Калі успахына як нада, яно і выскыра́джыіцца луччы, а калі глуты́рі узьвернуць, іх і борынымі пулумаць тру́дна.* **Выскарадзіць** *зак.* Выбаранаваць. *Калі ён бярецца, поля вы́скырыдзіць, як пух, глы́жы ліжаць ня будуць, пыскародзіць, а тады камлыжжа пырызьбіва́іць і ўзноў скародзіць.* **Выскарадзіцца** *зак.* Выбаранавацца. *Харошымі бырына́мі любоя поля вы́скырыдзіцца, а есьлі лыма́чыну зыпрягеш,— якоя ж ета скыраджэньня.* **Выскараджываный, выскараджаный** *дзеепрым. Нічога тут ні выскыра́джывына, борынымі разы пы два праехына, пуруўня́на трошку, а тут іщчэ нада хырашэнька пыскырадзіць. Кыла боркыў камлыжжа було, а Колін ма́ліц хыраше зьдзелыў, вы́скырыджына, аж ныга тоніць.*

**Выскрыпываць** *незак.* Выстуджваць частым адчыняннем дзвярэй. *Ні выскріпывыйця хату, духу саўсім ні астаецца, тапі і тапі грубку, а дровы сурува́тыя, ня дужа хочуць гарець.* **Выскрыпывацца** *незак.* Выстуджвацца частым адчыняннем дзвярэй. *Я ўжо дужа ні хаджу холыдым, а ўсё дно ж нада і кыравёнкі даць, і пырасёнка пыкарміць, і курям сыпнуць,— ходзіш, хата выскріпы-*

*выцца.* **Выскрыпаць** *зак.* Выстудзіць частым адчыняннем дзвярэй. *Адзін за дным, адзін за дным, туды-назад, дзьвері ні пысьпіваюць зычыняцца, вы́скріпыюць к вечыру хату, як і печ ня топліна саўсім.* **Выскрыпацца** *зак.* Выстудзіцца частым адчыняннем дзвярэй. *Дзеці пымінутна бегыюць туды-назад, туды-назад, хата к вечыру вы́скріпыіцца і халодна.* **Выскрыпаный** *дзеепрым. Нада трошку прыкла́сьць на́ ныч, хата саўсім вы́скріпына, халодна спаць будзіць.*

**Выскубаннік, выскубываннік** *м.* Той, хто выскубвае, займаецца выскубваннем. *Твае выскуба́ньнікі дужа прітна ўзяліся. Сядзіць выску́бывыньнік, надуўся, воўну рысьцягыіць.* **Выскубанніца, выскубыванніца** *ж. Нешта ў мае выскуба́ньніцы медлінна дзела пыдзьвігаіцца. Наша выску́бывыньніца ўжо сьпіць над воўнью.*

**Выскяпыванне, выскяпліванне, выскепліванне** *н.* Выколванне. *Уніміся ты з высьkя́пывыньнім сваім, дзелыць табе большы нечыга, займіся вун чым нада. Нашто ж такоя ніпуцёвыя высьkя́плівыньня, каб хто спрасіў у цябе, ці сам у сябе каб спрасіў. Разьві ж так дзелыюць, нікудышныя выськеплівыньня.*

**Выскяпываць, выскяпліваць, выскепліваць** *незак.* Выколваць. *Васіль ісь сірядзіны круглячок высьkя́пывыў, ды ў яго нічога ні пулучылыся. Ён усё высьkя́плівыў сірядзіну с палкі, пакуля тыпаром пы пальцу, насіся зь лялькыю, зьдзелыў. Я ўсё гляджу, як ты выськеплівыіш етыя круглячкі, выськеплііш ты лоўка, толька нашто яны табе.* **Выскяпывацца, выскяплівацца, выскеплівацца** *незак.* Выколвацца. *Зь ёлкі хырашо высьkяпывыіцца, а с алешыны ня выйдзіць ні чырта́, пакры́шыцца. Ну, тута няроўна высьkя́пліiцца, ні палучыцца ў цябе нічога, ета каб роўнінькій целіш пупаўся. Я думыў, раз-два цюк, дый гатова, а тута ня хочыць выськеплівыцца пряма, убок цэліцца.* **Выскепіць** *зак.* Выкалаць. *Такоя пулучылыся ладныя тыпарішчыка, пасьці быў кончыў і на́ табе — хацеў пытпра́віць і ны самый сірядзінкі вы́ськіпіў,— нада выріза́ць новыя.* **Выскепіцца** *зак.* Выкалацца. *Нада астарожній цісаць, кыла су́ка вы́ськіпіцца і прыпаў пыдва́лык, айдзе ты другей возьміш.*

**Выспаць** *зак.* 1. Здолець спаць або заснуць. *Шумяць, гылдзя́ць, зь імі тута ня вы́сьпіш.* 2. Праспаць. *Я б стольќа вы́спыць ня змог ба, а ён храпець як забітый.*

**Выспячча** *н.* Выспяткі. *У яго сяньня так ні абойдзіц-*

*ца, высьпя́чча палучыць, зарю́мзыіць і пойдзіць. Ніхай ба паткну́ўся, яго б ат'етуля ны высьпяччы вы́кыцілі.*

**Выстагнаць** *зак. іран.* Выпрасіць, прыкідваючыся хворым, бедным. *Я знаю, як пычанець ка́нькыць, у ніжывога вы́стыгніць што хочыш. Вы́стыгнуў бутылычку у Волькі, вясёлінькій сядзіць.* **Выстагнацца** *зак.* Прытворна навохкацца. *Пыдажджы́, дай яму вы́стыгныцца, зразу ён ня пойдзіць зыпрігаць. Пакуля выстыгніцца, можна було пяць раз схадзіць і зьдзелыць.*

**Выстраміць** *зак.* Насарамаціць. *Толька ніхай пупадзецца на вочы, вы́стрымлю, як пасьледнію паскуду. А ты ні глядзі, ну людзях вы́стрым, ніхай пыкрасьнеіць.* **Выстрамленый** *дзеепрым. Вы́стрымліный прішоў, яму крепка да́лі, за ўсё пулучыў.*

**Выстыджаць, выстыджываць** *незак.* Сарамаціць. *Сколька ты яго ні выстыджа́й, а есьлі у сымаго совісьці ніякія німа, то словы ні памогуць, хут ты над ім нядзелю былбачы́. Мыланка іх ні раз высты́джывыла, кажыцца, поймуць, голывы сьхілюць, а ціразь дзень узноў зы сваё.* **Выстыдзіць** *зак.* Насарамаціць. *Так ужо Марчыха вы́стыдзіла Антонывыга меншыга, пряма ні знаў ён, куды вочы дзіваць. Нада було на месьці вы́стыдзіць, як цюціка.* **Выстыджаный** *дзеепрым. Пашлі вы́стыджыныя як мыла зьеўшы, Пынасіха іх крепка прыбрала.*

**Высцёбываць** *незак.* Выбіваць сцябаннем. *Ты мне ня будзіш вочы высьцёбывыць, не, я ды цябе дыбяруся.* **Высцебаць** *зак.* Выбіць сцябаннем. *Ты астарожній, так і вока можна вы́сьцібыць. Што ты рьвесься, я такую траву пугыю вы́сьцібыю.* **Высцебаный** *дзеепрым. У Буланыга вока вы́сьцібына.*

**Высыпаннік** *м.* Той, хто высыпае, займаецца высыпаннем. *Ты так тріханеш, высыпа́ньнік, а веціp усю залу табе ў вочы. Памяниш.* **высыпаннічак.** *Ах ты, высыпа́ньнічык, ты ж карзінку ні паверніш.* **Высыпанніца** *ж. Сь цябе нічога высыпа́ньніца, уся у перьі з гылавы ды пят.*

**Высыпаць** *зак. перан.* 1. Выплысці (пра колас). *Жыта харошый рост ныбрала і вы́сыпыла роўнінька, колыс у колыс.* 2. Выказаць адразу ўсё, што вядома. *Кучу новысьціў нам вы́сыпыла, рызьбяріся, айдзе ў яе праўда.* **Высыпацца** *зак. перан.* 1. Выпасці (пра зубы, валасы). *Ні днаго зуба ў році ні асталыся, усе вы́сыпыліся, прішлося ставіць. Як вы́сыплюцца зубы, тады увідзіш, як хыраш о біз зубоў. Валосься вы́сыпылыся, лысіна блі-*

*шчыць*. 2. Выйсці гуртам. *Пырцізаны ў другім канцэ стрілянўлі, дык бобікі, як сыбакі, высыпыліся с хаты і толька былі зы дзяреўню.*

**Выталаваць** *зак.* Стаптаць, змясіць. *Ма́лыя пысярёд гряды сядзіць і так ужо вы́тылывыла, я ны бярема ды двору,— нада туды дыбра́цца, а сяньня ўжо ні рана.*

**Вытаркыванне, выторкыванне** *н.* Выторкванне, высоўванне. *Каб ні тваё вытá ркывыньня, яны б пашлі і пашлі, а так будзіш трілюдзіцца цэлый дзень. Уніміціся з выторкывыньнім, ны ражон каторый напоріцца, тады вазіся зь вамі, лячыся.*

**Вытаркываць, выторкываць** *незак.* Выторкваць, высоўваць. *Прýцьця дужа ні вытáркывый, толька шырá-хыцца будзіць. Кылі ня думыла прыдывáць, нашто було вытáркывыць, ці была ў цябе, баба, гылыва ны плічах. Далёка ні выторкывый паплеціны, нікрасіва будзіць зьнізу глядзецца. Папробывыла выторкывыць сала, дык ні бяруць, свайго хвытаіць, а ці мне ж ёсць уремя цэлый дзень тарчэць там,— ныэад прінісла, ныпрасна знасіла.* **Вытаркывацца, выторкывацца** *незак.* Выторквацца, высоўвацца. *Прібівай, каб крюк ні вытáркывыўся. Яму саўсім нечыга було вытаркывыцца. Нікрасіва ты дзелыіш: адны жардзіны у кольлі чуць дзіржацца, а другея многа выторкывыюцца, пудруўня́й. Нехта тама выторкывыўся с топліным салым, я ні пытхадзіла.* **Вытарнуць, вытаркнуць** *зак.* Выткнуць, высунуць. *Ішоў, гылаву зыдраўшы, а Толік вы́тырнуў пугаўё дзіхцявыя,— калёсы пугаўём мазыў,— Іван шах ап пугаўё, рубец ны штынах ня чы́сьціш. Ні прізмушчáй дзіцёнка: вытырнуў канхвеціну і ныэад схуваў. Пыпрібівáў крепка, а канцы вытыркнуў лішніга, нада пыбрізáць, ато чыпляцца будуць. Вы́тыркні такея боты на бызарі, зразу схвáцюць з рукамі і тургувацца ні стануць.* **Вытарнуцца, вытаркнуцца** *зак.* Выткнуцца, высунуцца. *Забі ды канца: вы́тырніцца і будзіць мішаць, усё будзіш зачэплівыцца. Вы́тырнулыся ш чыснаком, а к яму дайжа ніхто ні патходзіць. Пыглядзі-ка, якей гвозд вытыркнуўся, во й надзень бацінык. Нейкій шымáк вытыркнуўся з бабровыю шкуркыю, яго зразу за хобыт, згрібчылі: айдзе ты быбра ўзяў?*

**Вытва́ранне** *н.* Вычваранне. *Мы ні раз у сусестві відзілі яго вытвыря́ньні, стáрыя, па-мойму, доўга ўсяго етыга цярьпець ня будзіць.*

**Вытвараннік** *м.* Той, хто вычварае, **вычвараннік.** *Ты січас зышчышчáіш, а ты ня відзіла, што зь етых вытвырáньнікыў усё дабедзьдзя дзеілыся, тады б ты ні зышчычáла.* **Вытвараннiца** *ж. Тыкая вытвырáньніца Тымарка, чаго іна толька ні прістáвіць!*

**Вытрапываць, вытропываць** *незак.* 1. Старанна апрацоўваць лён трапаннем. *Мыя кума умела лён вытрáпывыць. Ты хырашэнька вытрёпывый лён, с кастрінкымі прясьць марудна: выбірáй і выбірай.* 2 *перан. неадабр.* Выдаваць, выказваць таямніцу. *Ні нада такою ізыкастыю быць, вытрáпыіш, што нада і што ні нада. Што айдзе ні дызнáіцца, усё вытрёпывыіць, каб знаць ды ні разьнесьць, іна ня можыць.* 3 *перан.* Знясільваць цяжкай працай. *Вытрáпывыіць сябе, а якей толк зь естыга будзіць, пыдаб'ецца і ні нада ім станіць. А чаго ён бýдзіць вытрёпывыць сваю сілу, ны каго, скажы?* **Вытрапывацца, вытропывацца** *незак.* 1. Старанна апрацоўвацца трапаннем (пра лён). *Вы́ліжыный лён хырашо і вытрáпывыіцца. Летысь лён быў што нада, а сёлітній ні вытрёпывыіцца, ці ні рана яго пыднялі.* 2. Знясільвацца ў цяжкай працы. *Шваґорь твой ні станіць вытрáпывыцца, ён пахлы́нкыіць туды-нызад, тады пысядзіць с пыпіроскыю і работа ўся. Вытрёпывыйся на іх, яны будуць кычацца ды пысьміхáцца.* **Вытрапаць** *зак.* 1. Апрацаваць лён трапаннем. *Було нескылька снапкоў лёну, зьмяла і вы́тріпыла.* 2. Выбалбатаць. *Пра сена пашло ат Аўсеівых, яны знали і вытріпылі, кромі іх ніхто ні знаў нічогычка.* 3. Знясіліць цяжкай працай. *Ён вы́тріпыў сябе ў мыладэя гады, здароўя пыціряў. Вы́тріпліш сілу, тады худа будзіць.* **Вытрапацца** *зак.* 1. Апрацавацца трапаннем (пра лён). *Пыдажджэць твой лён, вы́тріпліцца, есьць налівай скарей, мы ж як пызаўтрікылі, і крошкі ў році ні було.* 2. Знясілецца ў цяжкай працы. *Пірястройка нам дылася ў знакі, мы крепка зь ёю вы́тріпыліся, пакуля туды цягнуліся, тады нызад піріцáгывыліся. Якей толк, што ты вы́тріпісься, вытріпісься й тряпліся, яны ні такея людзі, каб у чом-небудзь пыспыгыдáць.* **Вытрапаный** *дзеепрым.* 1. Апрацаваны трапаннем (пра лён). *Вы́тріпыныю жменьку я пыклала ў сенцых ны палíчку.* 2. Знясілены цяжкай працай. *Якоя ж у Хведзькі здароўя, ён вы́тріпын,— столька пыработыў за свой век. Як сіла вы́тріпына, ні к чорту чылавек годзін.*

**Вытрасаннік** *м.* Той, хто вытрасае, займаецца вытра-

саннем. *Удваіх вытрісáньнікі як возьмуцца, ажно шмáцьця ляціць зь мяшкоў.* **Вытрасанніца** *ж. Зь яе і вытрісáньніца тыкая, ну хуць зы край пыдзяржыцца.*

**Вытраскі** *мн.* Тое, што вытраслася (з сена, саломы і інш.). *Пыдгрябі вы́тріскі ў кучу, нашто, каб выляліся пыд ныгамі, раськíдывыліся. Памяніш.* **вытрасачкі.** *Ні гамзі вы́трісычкі, у стрýшынку пусьціш, карова твыя ня дужа пірябірлівыя, папоріць носым, пачмы́хыіць і зьесьць.*

**Вытрасца** *зак.* 1. Вытрасціся. *Во ты шукаў грябёнку, а йна с твайго шырабýрья вы́тріслыся.* 2 *перан. жарт.* Прагаладацца. *Відна, вытрісьліся зы дарогу, нылягліну крупеню, зы мінуту ўмылацілі, пыдлівала.*

**Вытрашчанне** *н. неадабр.* Празмерна ўважлівае прыгляданне. *Я ны яе вытрішчáньня доўга ня буду любувацца, пашлю пыдальшы і большы нічога.*

**Вытрашчыцца** *зак. перан.* Ярка заззяць (пра зоркі, месяц). *Зь вечыра грімела, доўга грімела, а пат поўныч рызыгнáла, зорічкі вы́тріщчыліся і кругом ціха-ціха. Месік вытрішчыўся, відна кругом стала.*

**Выхадзіць** *зак. перан.* Стаміць, намардаваць. *Косы войстрыя, мушчыны здаровыя, вы́хыдзілі яны мяне, луччы б я адзін касіў. Запомнюць яны лешчынцыў, крепка іх вы́хыдзілі.*

**Выхітрыць** *зак.* Дабіцца хітрыкамі. *Ня можыць быць, каб такей пракýда што-небудзь ня вы́хітріў, ён усё можыць прідумыць.*

**Выхлянуць** *зак. груб.* Выліцца, выцечы, выпасці (у праклёнах, зламысных пажаданнях). *Як ён ныбрáўся майго зы пяць гадоў, дык ніхай зь яго вы́хлініць! Грyблі, вылаклі, цягнýлі і во ныбрáліся, ныхвытáліся, можа, з глоткі папрець, выхлініць!*

**Выцвісць** *зак. перан.* Схуднець, саслабець. *Так я вы́ліжыла, так ужо вы́цьвіла, пяць раз ступлю і ўсё, і садзісь, тады ўжо есьць хота стала.*

**Выціраннік** *м.* Той, хто выцірае, займаецца выціраннем. *Выцірáньнікі так узяліся шурувáць, што, хочыш, шыбы пыліцаць ат іх работы.* **Выціранніца** *ж. Сь цябе й выцірáньніца тыкая самыя, як сеіньніца, ну ні ў чом толку німа.*

**Выціраць** *незак. перан.* Вытоптваць, вынішчаць (пасевы). *Што ж ета бысытвá дзелыіць лета, гароды выцірáюць.* **Выцерць** *зак.* Патаптаць, выцерці (пасевы). *Ня столька там чаго найдуць, сколька вы́труць гарод, шко-*

*ды натворюць.* **Выцертый** *дзеепрым. Ура́ньні пышла гурочыкый ачшчыпну́ць — вы́цірт гарод, усё дно як тама мясіліся цалю́хтынькыю ноч.*

**Выцісканнік** *м.* Той, хто выціскае, займаецца выцісканнем. *Удваіх як возьмуцца выціска́ньнікі, ня толька вы́ціснуць, а й рыздавюць.* **Выцісканніца** *ж. Нічога сабе выціска́ньніца прідумыла у пырваный мяшочык творг класьць: ка́мушык пріламжыла — ён і палез у дзірічкі.*

**Выціўкаць** *зак. жарт.* Акрыяць. *Ні бядуй, стыра́я, к вясьне вы́ціўкыіць твой Сенька. Во думылі ўвесь, а ён вы́ціўкый.*

**Выцягывацца** *незак. перан.* 1. Моцна плакаць. 2 *груб.* Паміраць. *Ні хачу таго, хачу етыга, крічыць, ажно выця́гыіцца, ніхай выця́гыіцца, ніхай, дужа я гадзіць буду. Учора выцягывыўся, жонка грелкымі спысала, а сяньня узноў зы сваё.* **Выцягнуцца** *зак. перан. груб.* Памерці. *Ніхай ён вы́цігніцца ат мае гылавы, каб ішчэ пы такому нісызна́цільныму я тушнува́ла. Каб ты выцігнуўся, каб мае вочы цябе ня відзілі!*

**Вычарэпываць** *незак.* Вычэрпваць. *Ён пычаў вычарепывыць ваду у погрібі, трі разы́ злазіў, а тады лі дроў зыба́віўся, выда ўся і ўпіталыся.* **Вычарэпывацца** *незак.* Вычэрпвацца. *Як мокрыя лета, у нашых сажылках поўна вады, а як суха, вычарепывыюцца, іх ба паглы́біць нада, зуплулі.* **Вычарапаць** *зак.* Вычарпаць. *Калодзіж даўно ня чы́шчын, пад вечыр ваду як вы́чырірыюць, адзін мут астаецца.* **Вычарапацца** *зак.* Вычарпацца. *Днём-то ёсьць, а к вечыру выда як вы́чыріпыіцца, адна грязь, горька нада чысьціць калодзіж, ён ішчэ саўсім ня чышчын.* **Вычарапаный** *дзеепрым. У бітончыку ўся выда вы́чыріпына, ны паліц на дне асталыся, я з бочычкі нылівау.*

**Вычыханіць** *зак.* Выліць бесклапотна (звыч. у лазні). *Матка як хлыпца схувала, адна сходзіць, пасьледнія, памыіцца, а яны як прідуць, як вы́чыхынюць, вады німа.*

**Вышмуляваць** *зак.* Вышмуляць, зашмальцаваць. *Куртычку вы́шмулювыў, што зы яе ўзяцца нільга, усё рыўна як па нейкыму дзёхцю на ёй езьдзіў.* **Вышмулявацца** *зак.* Вышмуляцца, зашмальцавацца. *Тута ўсякыя адзёжына вы́шмулюіцца, як ты ні бірягіся.* **Вышмуляваный** *дзеепрым. Увесь рукаў бліщчыць, у нейкыю смалу вы́шмулювын.*

**Вышчаранне** *н. перан. неадабр.* Здзеклівы смех. *Тваё*

*вышчыря́ньня ўсім ныдаела як горькыя редзька і яшчэ хужы.*

**Вэдзганне** *н.* Пэцканне ў гразь, у цеста і інш. *Пыглядзела ны яго вэдзгыньня, зу ручонку ды ў хату. Кідай сваё вэдзгыньня, якей жа будзіць бызар — сонца к абедым ідзець.*

**Вэдзгацца** *незак.* Пэцкацца ў гразь, у цеста і інш. *Ны адну мінутычку атвярнулыся, і малыя ўжо вэдзгыіцца у лужыні, па вушы ў грязі. Усё раньня вэдзгылыся з ладкымі, нічога зьдзелыць ня ўсьпела.*

**Вэрзанне** *н.* Няўмелая, абыякавая работа. *Я й глядзець на еткыя вэрзыньня ні хачу, мне кылі работа, дык каб была работа ныстыя́шчыя.*

**Вэрзаць, вэрзацца** *незак., неадабр.* Рабіць няўмела, абы-як. *Як ты вэрзыіш, разьві ета пляценьня, ня ўмеіш, дык луччы саўсім ні брацца. Пустоя дзела прітылку пыставіць у пунькі, а ён дзень вэрзыіцца і яшчэ на судкі работы хва́ціць.*

**Вядзернік, вядзёрнік** *м.* Вядзёрны чыгунок, гаршчок. *У нас была сям'ішча дзьвіна́ццыць душ, вядзернікі матка пыставіць на́ дзінь, і ўсё пойдзіць. Вядзернік етый пыцігай у печ ды сь печы, нада меншый чугун купіць. Такой сям'ішчы нада вядзёрнікі ны абед ставіць у печ, гаршчонычкымі ні накормісься.*

**Вязаць** *незак. перан.* Рубіць зруб. *Вянец зы вянцом стыря́цільна вя́жуць, сьпецныя плотнікі. Цэлый дзень адзін вянец віза́лі, і то кріва пулучылыся.*

**Вязнуць** *незак. перан.* Чапляцца, назаляць. *Чаго вы вя́зьніця ды чылывека, што ён вам зьдзелыў, ні пыныра́вілыся, што праўду скызаў? Доўга яны вязьлі к Цімоху, пакуля тэй ачшы́ў іх аць сябе.*

**Вяйнуць** *зак.* Павеяць. *Веціp як вяйну́ў, усё раськідыіцца, прікласьць чым цяжолым нада. Ці веціp вяйнець, ці ён скажыць — усё роўна адно.*

**Вякала** *м.* і *ж.*, **вяканнік** *м. неадабр.* Крыкун, той, хто беспадстаўна пачынае спрэчкі, крык. *Ета пыстыя́нный вя́кыла, усё яму ні ныравіцца. Тую вякылу слухыць — луччы абыйціць. А ета ўзноў Андрюшчыхін вя́кыньнік ірьвецца, нійдзе ён угамону сабе ні найдзіць. Во яшчэ другей вякыньнік ныдыідаіць.* **Вяканніца** *ж. Уніміся, вя́кыньніца, рызьвя́кылыся, места табе німа, спраўлюся і ныкармлю. Чыя там вякыньніца руспусьціла свой язык?*

**Вялікаднік** *м. жарт.* Той, хто святкуе вялікдзень. *Нашы вялікыднікі учора дуўгуваta сядзелі.* **Вялікадніца** *ж. Ты глянь-ка, глянь: вялікыдніцы некуды выпрывіліся, ды прібраліся як! — во хаці ты пуця, каб мушчыны ні хадзілі.*

**Вялікадня** *н.* Вялікдзень. *Кулініна дзяўчонка зыбігала к нам пірід вялікыднім. Посьлі вялікыдня вы́біруся я к сяструхні, я ўжо даўно сыбіраюся. Памяниш.* **вялікадніка.** *Што, кумок, скора вялікыдніка, ты ўжо, відна, пыдгатовіўся?*

**Вярзей** *м.* і *ж. іран.* Хлус, пляткар. *Аднаго мала, дык, наця вам, яшчэ адзін вярзей пыд'явіўся, слухыйця абоіх. Ікая ж іна вярзей пустамалотный! Узмацн.* **верзяіна.** *Такей ужо твой Васіль быў вірьзяіна, што пушукаць толька другога такога, бувала, сапрець лухту, што век ба ні прідумыў. Павеліч.* **верзяішча.** *А ні парі ты, вірьзяішча, моху з балота, ці ты была ў тых Віхряных, ці ты відзіла што-небудзь.*

**Вяртлюг** *м.* Скрутак саломы, галінак. *Мы як былі ў Курскый воблысьці, дык там так тапілі: прінясець саломы, вяртлю́г скру́цюць і ў печ, а дроў там німа. Памянш.* **вертлюжок.** *Сядзіць і віртлюжкі круціць з лазы цэлый дзень.*

**Вяртушка** *ж.* Непаседа. *Нійдзе табе, вярту́шка, ні сядзіцца, найдзі сабе якую-небудзь зыба́ву ды пысядзі ціха. Твыя тожа ня меншыя вяртушка была.*

**Вярха, верхака** *прысл.* Вярхом. *Лётыюць вірьха́, як яны голыў сабе ні паскру́чывыюць. Ну пысадзі, ён жа тожа хочыць вірьха праехыць. Тады ба́цькі як пашлі ны вайну, старейшыя вірьхыка́ езьдзілі-к ім у Сапрынывічы, яны там троху стыялі. Вірьхыка ні ізда́, рызаб'есься увесь чыста.*

**Вярхняк** *м.* Верхняя частка асады акна, дзвярэй. *Дзьвері як аса́джыюць, збоку ставюцца прітылкі, а зьверьху кладзецца вірхня́к. У нас вірхнякі над вокнымі пулукруглыя, а ў каго прямэя. Памянш.* **верхнячок.** *Маліэнькій вірхнячок, а сколька я над ім нубуйтува́ўся, як цісанеш, усё ўбок і ўбок, пакручыныя нейкыя дзеріва.*

**Вярцель** 1 *м.* Скрутак. *Скруцюць вярцель іс тряпык і гуляюць.* 2 *перан. м.* і *ж.* Хітрун, махляр. *Во с каго вярцель, ён табе усё пірякруціць, піряверніць, дыгары ныгамі пыставіць і паспробый ты дыкажы яму што-небудзь. Мы помнім, ікая іна вярцель была. Памянш.*

**верцялёк.** 1. Скрутачак. *Прібярі-ка ты ат'етуль сваё вірцялькі.* 2. Хітрунчык. *Вірцялёк хлапчонык, увесь у тату пашоў.*

**Вяршэнне** *н.* Завершванне (стога, капы). *Нейкыя ваша вяршэньня ніхармузныя, каб ні паехыў увесь верьх у етый бок, г' дзярейні.*

**Вяхала, вяхкала** *м.* і *ж. асудж.* Балбатун, крыкун. *Во ўжо тряпло, во ўжо вяхыла, чуў, ня чуў, кызалі яму, ні кызалі — будзіць пустоя несьць, перць, трілюдзіць. Ні хвалі свайго вяхкылу і ні зуступайся, за дзела нылаілі, зы язык дужа длінный.*

**Вяханне, вяхканне** *н.* 1. Брэх. *Сыбачонкі таго са шчэпыць, а вяхыньня як з бальшога. Ета вяхкыньня твайго сыбакі, яго ўсюдых зразу па голысу пызнаіш.* 2 *перан. груб.* Бесталковая балбатня. *Хто ж яе вяхыньня ні знаіць, усім ныдаела сы сваім ізыком. А сьціхні зь вяхкыньнім, як зы язык пачэпліныя цэлый дзень!*

**Вяхаць, вяхкаць** *незак.* 1. Брахаць. *Дужа ўедлівый сыбачка, хто ня йдзець, усё вяхыіць і вяхыіць і к ныгам кідыіцца. У тым канцы дужа уедліва сыбакі вяхкылі.* 2 *перан. груб.* Гаварыць, балбатаць. *Нечыга вяхыць, ты там ні была й ня відзіла. Каб ты меншы вяхкыла, лі цябе б і людзі меншы сьміяліся, а твой жа язык ні разу ні змуўкаіць.* **Вяхнуць** *зак.* 1. Гаўкнуць. *Усюдых ціха, нійдзе нічога ні шылахнецца, сыбака толька нейдзі далёка-далёка вяхнуў.* 2 *перан. груб.* Сказаць, балбатнуць. *Усігда такей: ні падумыўшы, вяхніць што зря, а тады глядзіць, як рызівон.*

**Вяшчуцца** *незак.* Прадчувацца. *Мне ета горя даўно вяшчулыся, я пы пріметых чуствывыла.*

## Г

**Гаварнуць** *зак.* 1. Пачаць шырока абгаворваць. *Як гыварнулі пра Колю з Надзькыю, ёй дзівацца було некуды.* 2. Сказаць. *Сяньня гыварнуць, а заўтря успакоюцца, дужа я баюся іхныга гывареньня.*

**Гаварунка** *ж.* Гаваруха. *Ён, як мамрюк, а йна гываруйка, вясёлыя, пріветлівыя, дужа вясёлыя мыладуха, усё шчабечыць.*

**Гавець** *незак.* 1. Пасціць. *І ны пасты ўжо забылі, і ны піліпыўкі, ніхто цяперя ні гавеіць, а раншы ж і малый*

*пост быў, і вялікій пост, скаромныга ня елі.* 2 *перан.* Не задавальняць патрэбы. *Ну што, паехыла твыя, дык гавеіш? Ён і раншы ні гавеў, ня бойсь ты зы яго.*

**Гагатня** *ж. неадабр.* Гучны смех, рогат. *Аж на вуліцы ваша гыгытня́ чутна. Што ім атходзіць, сыбяруцца, сыбяруцца, спра́вюць гыгатню і так дзень прі дзень.*

**Гадаваннік** *м.* Той, хто гадуе, займаецца гадаваннем. *Сь цябе ні абы-якей гудува́ньнік, ты нугудува́ў дзяцей, знаіш, як зь імі абрышча́цца.* **Гадаванніца** *ж. Глядзі, гудува́ньніца, зы дзіцёнкым нада глядзець ды глядзець. У вас будуць і ціляты, і пырысяты ў пырядку, з вас гудуваньніцы ніплахея.*

**Гадавік** *м.* Жывёліна ва ўзросце аднаго года. *Здаровый бычанок, гыдавік, а ну пуўтыра́ года пыказыіць. Двух гыдывікоў к свадзьбі забіў, трі дні гулялі ўсёю дзяреўнію. Памянш.* **гадавічок, гадавічочак.** *Пыдгла́дзіла гыдывічка́, с крошкыю будзіць, сваё спарней, чым куплёныя. Ай, гыдывічочыка жалка губіць, ніхай пыткыча́іцца.*

**Гаданнік** *м.* Той, хто варожыць, гадае або каму варожаць, гадаюць. *Во і вам карты нада, гыда́ньнікі найшліся. Дык айдзе, гыда́ньнікі, яблыкі схуваны? — ні ў жысьць ні дыгыда́іціся.* **Гаданніца** *ж. Зычыніліся ў той хаці гыда́ньніцы, верна, пры жыніхоў варожуць. Тута, гыданьніца, гыданьнім ні паможыш, вазьмі ды пушукай хырашэнька.*

**Гаджэнне** *н.* Дагаджанне. *Дужа любіць гаджэньня, толька дыгыджа́ць яму некыму, ніхто слухыць ня хочыць.*

**Гаджэннік** *м.* Той, хто дагаджае. *Не, ня думый, цяперя гаджэньнікыў табе ня будзіць, ня хочыш дзелыць, дык хуць галодный сядзі, і зьесьць ніхто ні зваріць.* **Гаджэнніца** *ж. Дужа ў іх Прося быльшая гаджэньніца была, а тута за нешта рыссваріліся.*

**Газеціна** *ж.* Адна газета. *Во розум у чылавека, з газеціныю у грібы пойдзіць: іна зачэпіцца ў ку́сьці і пырвалыся. У газеціну зывярні ды пылажы. Памянш.* **газецінка.** *Худзь ба якей кусочык газецінкі, зывярнуў бы трошку.*

**Гайканне** *н.* Крык, галёканне. *Ну нягож хто, лырьяныўскія хлопцы пашлі зь вічарінкі, узьнялі га́йкыньня.*

**Гайкаць** *незак. неадабр.* Крычаць, галёкаць. *Ішлі сы свадзьбы, дык яны тута цэлый час га́йкылі, усё дурачы-*

*лiся, нi маглi успакоiцца.* **Гайкнуць** *зак.* Галёкнуць. *Було цiха, цiха, а тады як гайкнулi зу кустамi, мы ажно пыцскачылi: што там такоя.*

**Галаднець** *незак.* Рабiцца галодным. *Не, ня вiдна, каб ты гыладней, брюха цiряз ремiнь пiрiвалiiцца нi ад голыду. Ня бойся, што гыладнеюць, луччы пыд'ядуць.*

**Галамуз, галамузнiк, галамузiк** *м.*, **галамуза** *м.* i *ж.* *жарт.* Неслух, свавольнiк. *Во гыламўзы сыбралiся, нiчога ня слухыюць, што нi скажыш, як нi да iх гаворiцца. Нешта ня дужа ты ўспыкаiвыiш сваiх гыламўзыў. Ах ты, гыламўзiк, у чые йта ты ўчора iгрушы лазiў? Ну нiхай толька пупадуцца мне тыя гыламўзьнiкi, крапiвыю ныджгаю. Стой, гыламўза, я цябе сiчас злаўлю. Узмацн.* **галамузiна.** *Якей жа ён быў малый гыламўзiна, нiкога ня слухыў. Павелiч.* **галамузiшча.** *Ну й гыламўзiшча дзяўчонка, чаго толька зь яе нi тварiцца.* **Галамузка** *ж. Чышчы мальцыў гыламўзка, так i ходзiць ны гылаве цэлый дзень, так i ходзiць.*

**Галамузiць** *незак. жарт.* Своволiць. *Нечыга пытхвалiвыць, гыламўзюць i твае харошынькiя. Цi вы тута слухылi матку, ай гыламузiлi?*

**Галамузый** *прым.* 1. Са збiтымi рагамi. *Я помню, у iх была тыкая гыламўзыя карова, ны мылако нiчога была. Бегыiць быран гыламузый.* 2 *жарт.* Непаслухмяны, свавольны. *Ай, якей жа ён гыламўзый, дзядзьку i таго ня слухыiць. Памянш.* **галамузенькiй.** *Дужа ты гыламузiнькiй стаў, нада б табе мыхрыча даць.*

**Галапоўзiк** *м. жарт.* Балаўнiк. *Ах ты, гылапоўзiк, я цябе сiчас ныбалыюсь. Твае гылапоўзiкi тожа ня дужа нысiдзяць цiха.*

**Галапуз** *м. жарт.* 1. Дзiцё. *Твой гылапўз цэлый дзень рягочыць.* 2. Гарэза, балаўнiк. *Нада глядзець, каб тэя гылапузы у гарод ня ўлезьлi, патруць усё, што ёсць.*

**Галапупiк** *м. жарт.* 1. Дзiця. *Нада б тваiх гылапўпiкыў унiмаць троху, дужа яны многа волi бяруць.* 2. Гарэза, балаўнiк. *Зыйшла я, а там поўныя хата гылапўпiкыў, адзiн пыд адзiн.* **Галапупка** *ж. Ах ты, гылапупка, любiш пыбалывыцца з бабыю.*

**Галатва** *ж.* 1. Беднота. *Сколька яны жылi, усё ў iх гылытва i гылытва. Ад гультайства уся гылытва, што, яны ны прыпiтанiя ня могуць заробiць?* 2. Басякi. *Тая гылытва што хочыш схвацiць.*

**Галачка** *ж.* Адвараная бульбiна. *Адну галычку зьела,*

*а большы я ні хачу. Галычык нымыкáюцца с салым, ны стыкану мылыка выпʼюць і пабеглі.*

**Галачкамі** *прысл.* Цалкам. *Сідзяць кругом чугунка і бульбу гáлычкымі ядуць, аж насы гнуцца. Малый як устаець, кажныя раньня зыказыіць бульбу галычкымі.*

**Галашчочка** *ж. жарт.* Прыгожая дзяўчынка-падлетак. *Пыдрыстáіць гылашчочка, скора у Варкі адбою ня будзіць ац сватоў.*

**Галдзець, галдзіць** *незак. асудж.* Бязладна і шумна размаўляць. *Усе галдзелі, нічога нільзя було пыняць. Ты сыма галдзіш большы ўсіх, а ны мяне варочыіш. Усю ноч сяньня галдзілі тута, спаць ні дывалі. Дакуля яны будуць галдзіць, выйдзі ды прыгані.*

**Галдзёж** *м.*, **галдзенне** *н. асудж.* Бязладны крык, шум. *Пытхаджў і слухыю, чаго ў іх еткій галдзёж. Ны мáкывыя зяренца бяды там зьдзелылі, дык пыдніла галдзёж, хуць ат усяго атрякіся і зь дзяреўні ўцікай. Што ты рызьбяреш у таком галдзеньні, ніхай троху сьціхнуць, тады пыгаворім.*

**Галіць** *незак.* Абіраць, агаляць. *Я прыгыварíла, нашто ж вам галіць чылавека ды пасьледніга, дык адзін с прікладым ка мне,— ну што ты хочыш, ці ў паліцыю хто с совісьцю йшоў.*

**Галоўка** *ж. перан. іран.* Галава, кіраўнік, арганізатар. *Іхнія галоўка Сьціпанёнык, як ён скажыць, так і будзіць. Ён ваша галоўка, бізь яго вы і шагу ня ступіця.*

**Галубец** *м.* 1. Голуб. *Адзін гулубец жывець ны дваре. Дужа любіў гулубцоў, пынавешывыў ім карзінык у пуні, яны тама і вядуцца.* 2. Зварот старэйшага, пажылога да маладога. *Не, гулубец, ня тоя ты гаворіш, я век пражыў — такога ня чуў. Памяншш.* **галубчык.** *Пыкармі галýбчыкыў.*

**Галубятнік** *м.*, **галубятня** *ж. перан.* Жылое або гаспадарчае памяшканне малых памераў. *Што ж ты гулубя́тнік строіш, ны тваю сямʼю нада пра што большыя думыць, і ў цябе ёсьць за што. Ікая ета баня, гулубя́тня пулучылыся, вісокыя, цесныя, у ёй ні павернісься і дух ня будзіць дзіржацца.*

**Галузаванне** *н.* Свавольства, балаўство. *Ны галýзывыньня нада рімушок ці пруцік ёмкій, у мяне б я толька глянуў у тэй бок, сядзеў ба як шоўкывый.*

**Галузлівый, галузный** *прым.* Свавольны, распусны. *Мáлый такей быў галýзьлівый, такей неслух быў, а ця-*

*перь стаў і совісный, і сьцясьніцільный, як саўсім другей маліц. Што йта сь цябе, хлопіц, дзеіцца, чаго ты стаў такім галўзным?*

**Галузнік** *м.* Свавольнік, распуснік. *Чаго ты расьцеш еткім галўзьнікым, скора я зы цябе вазьмуся, інычы пуця сь цябе ня будзіць саўсім.* **Галузніца** *ж. Усе зь ёю нянчуцца, вылхвяцца, а йна тыкая галўзьніца расьцець, што ўжо цяперя слова ёй ні гывsitu.*

**Галузнічаць, галузіць, галузаваць, галузавацца** *незак.* Свавольнічаць, распуснічаць. *Нешта ты крепка галўзьнічыць узяўся, ужо і бацьку ня слухыіш, нада зы цябе пырядкым брацца. Адных кініш, пойдзіш нá дзінь, ну што яны дзелыюць, галўзюць,— носюцца, гылыгыляць, прібягіш — усё нáпіта. Каб у крепкія рукі пупаўся, так ба ні галўзывыў, а тут некыму баню даць кажный раз. Як станунь галўзывыцца, ты б за прут ды пруцінаю, пруцінаю пы ныгах!*

**Галяка, галяком** *прысл.* Галышом. *Я як вазьму хлузіну, гылікá будзіш ляцець да выгыну біз аглядкі. Што етыму кырапўзу, гыляком бегыіць пы хаці. Гыляком пы такой хыладзіні сыгласны кытанўць у горыд.*

**Гамаванне** *н.* Суніманне, супакойванне. *Ім ні такоя гумувáньня нада, іх аднаго і другога каб хырашэнька бізунчыкым джыґнуў, тады б яны успакоіліся.*

**Гамаваць** *незак.* Сунімаць, супакойваць. *Рузмудрелі біз бацькі, тэй скора умеў гумувáць. Гумувалі цябе, ды мала, нада було так укаціць, каб ты нядзелю ня сеў.* **Гамавацца** *незак.* Сунімацца, супакойвацца. *Я знаю, як яны гамўюцца, возьмісься зы хлыбазіну — аціхнуць, атыйшоў с карзінкыю — яны ўзноў зы сваё, ладна гамуюцца.*

**Гамбенне** *н.* Прыніжэнне, ганьбаванне. *Ніхто ні спужаўся іхныга гáмбіньня, я кылі скажу, дык зумурўюцца.*

**Гамжэнне** *н.* Забруджванне. *Ну як жа глядзець ны ваша гамжэньня, кылі вы ніскалька адзежыны ні бірігіцё, хто ж вам калі нуспруўляіцца ўсяго ўсякыга.*

**Гамзатый** *прым.* Неакуратны, неахайны. *Дужа гымзáтый чылавек, нічога ні бірягець, як ён жыць ні сыбіраіцца. Ня будзь гымзатыю, зы сабою можна дагледзіць.*

**Гамзаць** *незак.* Брудзіць, камячыць. *Буваіць, і ладныю адзежыну справюць, нічога ні глядзіць, зразу пычынаіць гымзáць.* **Гамзацца** *незак.* Брудзіцца, камячыц-

ца. *Ты ж прібяры, складзі роўнінька, акуратнінька, нашто кідаць, каб гымзáлыся.*

**Гамзіла** *м.* і *ж.* Неакуратная, неахайная асоба. *Якей ты гамзіла стаў, валіш у адну кучу і чыстыя, і грязныя, розвылкі ў цябе ні на грош німа. Зроду была ты гамзіла і астáнісься ёю.*

**Гамонне** *н.* Канец, смерць. *Як рускручу, тута табе будзіць гамоньня на месьці.*

**Ганкі** *мн.* Гоні. *Падбілыся сіла саўсім, ганкі прайду і садзісь аддыхаць. Редка ў нас хто гываріў ганкі, гоні стырікі зналі хырашо, а ганкі — так, редка.*

**Ганянне** *н.* 1. Праследаванне, беганне ўслед з мэтай злавіць. *Твайго гыня́ньня дужа нехта баіцца.* 2. Акучванне або выворванне бульбы. *Лягли аддыхнуць посьлі гыня́ньня, сяньня яны пыработылі. У цябе такоя гыняньня, што кусты ні выпáхывыюцца.*

**Ганяцца** *незак. перан.* Мець вялікую схільнасць, ахвоту. *Малый гыня́іцца за цёткыю, куды іна, туды і ён. Мáлыя гыня́ліся за кніжкымі, а пыдрасьлі — гуляньня на ўме стала.*

**Гар, гара** *ж.* 1. Гар, пах гарэлага. *Зірні-ка ты ны дваре, нешта гáрьрю пахніць. Я даўно пачуў, што гáря пахніць, ну сьпірва уніманія ні абраціў, а тады зірьк — агонь прыбіваіцца.* 2 *перан. іран.* Самагон. *Гáрі ў кустах нацэдзіць, сядзіць дый пыцягыіць. Пыднасілыся к нам зь нейкыю гарьрю, мы ня пробывылі.*

**Гараджэнне** *н.* 1. Узвядзенне плота. *Ацступіся ты с такім гыраджэньнім, я сыма і то раўней кыля́к заб'ю.* 2. Плот, няўмела зроблены. *Ты сам відзіш, што тваё гыраджэньня січас пыляціць. Ета гыраджэньня аўцы ня ўдзержыць.*

**Гараджэннік** *м.* Той, хто гародзіць, займаецца гараджэннем. *Якей гыраджэньнік, такей і пляцень. Што ты зыстыўляіш, што зь дзіцёнка зы гыраджэньнік.* **Гараджэнніца** *ж. Цішэй, гыраджэньніца, бі, абух саскочыць ды пы наге, будзіш ікытáць.*

**Гарадчанін** *м.* Гараджанін. *Нейкій гырыччáнін пры Мархву нашым бабым рысказывыў, як усё було. У нас гырыччанін нучуваў, пупаў пад дождж, пірімяк да костычык. Што гырыччáнім, у іх Дуброва пад бокым, яны агрібаюць і ягыд, і грібоў, і арехыў.* **Гарадчанка** *ж. Ты ўжо гырыччáнкыю стала, ці помніш, як і зы матыку брацца. Зь мяне тыкая гырыччанка, як сь цябе.*

**Гарбаносік** *м. жарт.* Мужчына з гарбатым носам. *Я вашыга гырбаносіка знаю, хітрый мужык, зь ім гывары ды аглядывыйся.* **Гарбаноска** *ж. Узноў нешта наюджывыіць гырбаноска Хадоріным, яны яе ува ўсём чысьцінька слухыюць.*

**Гарбенне** *н.* Цяжкая, знясільваючая праца. *Гарбеў ён тады, гарбеў, біўся, біўся, ні пымагло і гарбеньня нічога, астаўся гылышом.*

**Гарбузікі** *мн.* Насенне гарбуза. *У кырман гарбўзікыў насыпылі і пабеглі, хочыш, на ўрокых будуць лўзкыць.*

**Гарбузіна, гарбузініна** *ж.* Насенінка гарбуза, асобная расліна. *Ціплёнык гурбузіну ні русклюець, ні кідай. Адна гурбузіна на ўвесь гарод, ныясі гурбузоў с аднае. Глытаіць гурбузініны ні лупёмшы. Памянш.* **гарбузінка, гарбузінінка.** *Гурбузінкі кой-айдзе узыйшлі,— позна, ня будзіць гурбузоў, ні пасьпеюць. Гурбузінінка лезіць пы плятню, гарбуз вырысьціць і парьвець.*

**Гарбузнік** *м. жарт.* Ахвотнік да гарбузовай кашы. *Якей жа ты ў мяне гарбўзьнік, табе хуць выпісывый гурбузы ды варі.* **Гарбузніца** *ж. Хадзі, хадзі, гарбўзьніца, я табе пыдальлю, нясі місычку.*

**Гарбузятнік** *м.* Той, хто псуе гарбузы або крадзе іх. *Ну дам гурбузятнікым, ну толька пупаду іх, ета ж нада: пылавіну гурбузоў пірігадзілі: пырызьбівалі, семічкі пывыбіралі і пакідылі.* **Гарбузятніца** *ж. Я ету гурбузятніцу палкыю путурю ат хаты, ніхай толька папробыіць паткнецца.*

**Гарбыль, гарбэль** *м. перан. абраж.* Гарбатая або згорбленая асоба. *Некуды ж кылдыбаіць етый гарбыль. І раншы крюкым хадзіла, а цяперя саўсім гарбыль стала. Калі я лысый, дык лысых многа, а ты быў гарбэль і астанісься.*

**Гардабычанне** *н. неадабр.* Выхвалянне, задаванне. *Ны тваё гырдабычыньня усім глядзець спраціваіла, як толька табе сымаму ні ныдаесьць.*

**Гардабычыць, гардабычыцца** *незак. неадабр.* Выхваляцца, задавацца. *Усю жызьню гырдабычыў, нёс сябе ніізьвесна як вісока, пакуль ні абырваўся. Чарку ўзяў і пашоў гырдабычыцца, увесь у бацьку, іхныя ўся прірода тыкая, ні раз людзі ўнімалі.*

**Гарлапаненне** *н.,* **гарлапаністасць** *ж.* Крык, крычанне. *Схадзі, ты яшчэ паслухый яго гырлыпаніньня. Тута і біс твайго гырлыпаніньня вушы тріщчаць, нечыга ны-*

*дыйдаць. Ны работу ня дужа пытхвáцін, большы ў кусты глядзіць, а гырлыпáністысьці многа, хуць адбуўляй камунебудзь.*

**Гарлапаністый** *прым.* Крыклівы. *У іх там гырлыпáністыя бабы, ня дужа ты зь імі пыгавoріш. Каб ты быў меншы гырлыпаністый, і с табою б рызгыварівылі як нада.*

**Гарлянка** *ж.* Горла. *Каб узяў зы гырлянку, дыўлянўў хырашэнька, ён ба ў тэй міг места сабе найшоў, айдзе б што ў яго дзелыся.*

**Гармонікі** *мн. перан.* Хрып. *Набегыіцца, рыспацеіць, а тады вады халодныя хвáціць, нызаўтріга паслухыіш — гармонікі ў грудзях. Каторый дзень гармонікі у грудзях чутны.*

**Гарнец** *м.* Гарнец. *Памянш.* **гарнічак, гарчык.** *Бувала, гáрнічык ячменю на жорных пірякруціш, сьпякеш і сядзіш, у вайну, ой, дыстывалыся ўсяго. Гáрчык мукі ў цеста як усыпіш, тады есьць, а так дык варочыіць карыта.*

**Гарцаванне, гарцанне** *н. перан.* Свавольства з беганінай. *Толька вы ні ўніміця сваё гурцувáньня, я вас унімy. Дос мне глядзець ны ваша гырцáньня, марш на вуліцу! Як толька пыдняліся, ні пасьпелі вочы прамыць, пычалі гырцаньня.*

**Гарцавацца** *незак. неадабр.* Сваволіць, дурэць, кідацца. *Як вам тута гурцувáлыся, нешта да поўнычы хата хыдаром хадзіла.*

**Гаршчонак** *м.* Невялікі гаршчок. *З бызара прівёз гаршчоных, стала мыць, а ён цякець. Памянш.* **гаршчоначак.** *Гаршчонычык с кулак, што ў ім ныварíш. Ох, быў у мяне гаршчонычык зылатэй — разьбіўся!*

**Гарэлашнік** *м.* Ахвотнік да гарэлкі. *Яны гарелышнікі харошыя, ты ім купляй і станоў, а яны піць будуць, ну ізыком пылáхыюць, троху пыхвалюць цябе.* **Гарэлашніца** *ж. Тожа мне гарелышніца, кылі зыманýлыся выпіць, дык вун мыгазін, купляй і пі.*

**Гарэлка** *ж.* Гарэлка. *Памянш.* **гарэлачка.** *Не, ён ня любіць, ён толька пыглідáіць ны гарелычку дужа ласа. Павеліч.* **гарэлішча.** *Нажлýкціўся гарелішчы і пашоў, яму нічога ні нада, яго нічога ні біспакоіць,— спакоін.*

**Гаспадзінка** *ж. іран.* Уладарная жанчына, пані. *Тыкая-то гыспадзінка Тымара, я ёй пріслуговывыць абязына, а сыма што, хвора скаціну пыглядзець?*

**Гасцівый** *прым.* Такі, які любіць хадзіць у госці. *Ці я ні знаю такіх гасьцівых, яны б рысхáджывыліся пы гысьцяx, каб хто трухтувáў — паіў, карміў смашна, яны песьні б пелі.*

**Гасцяваіца** *незак.* 1. Частаваіца. *Я зыйшла, а ён адзін сядзіць, гасьцюіцца.* 2. Гасцяваць. *Дакуль ты будзіш гусьцювáцца, схадзі с хлыпцамі, пыкáшывый.*

**Гаўрык** *м. іран.* Вычваральнік, распуснік, злодзей. *Етым гáўрікым сад апчысьціць і гарод выцірць нічога ня стоіць, ато і ў мёд пацџэлюцца злазюць. Глядзі хырашэнька, тута гырадзкея гаўрікі нечыга вылачыліся, прігліда́ліся.*

**Гашчэнне** *н.* Частаванне, пачастунак. *Ішлі вясёлыя посьлі гашчэньня, дыгадзілі ім Антоныўны. Ці пыныравілыся ж вам сватыва гашчэньня?*

**Гашэннік** *м.* Той, хто тушыць. *Схадзі ты сам ды зытапчы, ато етыя гашэньнікі будуць кулупацца дый самі апсмалюцца.* **Гашэнніца** *ж. Зьверьху ў сьцякло дуні, і яно пыгасьніць, а з машынкыю тая гашэньніца будзіць цэлый час вазіцца.*

**Гваздаць** *незак.* 1. Біць. *Зывалілі і дывай гвыздáць кучыю, во табе й слабінькія.* 2. Забруджваць, пэцкаць. *Нашто ты будзіш новыю куртку гвыздаць у грязь, старёныш якей уськінь на плечы і йдзі.* **Гваздацца** *незак.* 1. Біцца (аб што-н.). *Кáжын раз гвыздáіцца на дном месьці і ня можыць пыправіць.* 2. Пэцкацца. *Чаго ты надзетый пойдзіш гвыздáцца, я сам схаджу і пірядзелыю.*

**Гвоздзік** *м. перан. жарт.* Бадзёрае дзіця (звыч. хлапчук). *Ну-у, якея вы ўсе тут ладныя гвозьдзікі! Баліць яму крепка, а дзяржыцца гвозьдзікым.*

**Гвэзданне** *н.* Забруджванне, квэцанне. *Ні магу я глядзець ны такоя гвэздыньня, як ета так жыць на сьвеці, каб ні бярежч адзежыны.*

**Гвэздаць** *незак.* Забруджваць, квэцаць. *Хто ж вам нуспруўляіцца, хто вам ныбярецца нырядыў, калі вы ўсё пыдряд гвэздыіця. Самыя луччыя спраў, толька надзеў і пычынаіць гвэздыць.* **Гвэздацца** *незак.* Забруджвацца, квэцацца. *Ня йдзі гвэздыцца, тама нікога ня відна, як станіш, дык і будзіш пы калена ў грязі.*

**Генераліць** *незак. іран.* Уладна гаспадарыць *Ну ці ты ні знаіш, як ён гінірáліць любіць. Яны б гініралілі, ды прізнывáць іх ня дужа хто прізнаець.*

**Генеральшая** *ж. іран.* Уладная гаспадыня. *Пріехыла Домніна гінірáльшыя, будзіць пывадзіць свае пырядкі. Січас іхнія гініральшыя зыявіцца, рыспырядзіцца.*

**Гібанне** *н.* Згінанне, хістанне. *Во табе гібыньня, во табе крепкія достычкі, нада ў кросны зыклыдáць, а ты стругай. Гібыньня, ґібыньня, а клянок крэх! — дудурáчылісь.*

**Гібецца** *незак.* Гібець. *Жыць, як людзі, тыкая аторва ня будзіць, будзіць гібецца, айдзе якую капейку зарьвець.*

**Гідаваць, гідавацца** *незак.* Гідзіцца. *Я гідувáў ба піць с цэбра посьлі каровы, посьлі кароў ня п'юць, ета посьлі кыня можна, конь чыста п'ець. Яны ўжо гідуюць с аднае міскі есьць. Я б гідувалыся піць посьлі кыня, хуць гаворюць: конь чыстый. І посьлі свайго дзіцёнка я дыідаць гідýюся.*

**Гіджэнне** *н.* Гідлівасць. *Каб вы́хыртывыўся ладна, то біз усякыга гіджэньня зьеў ба зы маліну.*

**Гіморнік** *м. іран.* Капрызнік. *Такому ґіморніку пыдыбраць што-небудзь трудна. Вы ў мяне ґіморнікі даўно, ну як ні зварю дзень — другей, забудзіця ґіморнічыць. Памянш.* **гіморнічак.** *Як табе, ґіморнічык, посьлі лупкі ґіморнічыіцца?* **Гіморніца** *ж. Не, мыя ні ґіморніца, ня буду гывaріць, як ня ёсьць, ёй усігда ладна.*

**Гіморніцтва** *н. іран.* Капрызы. *Я б зь іх мігым вы́гнула ґіморніства, у мяне б зылатымі зьдзелыліся.*

**Гіморнічацца** *незак. іран.* Капрызнічаць. *Меншы ґіморнічыйся, большы толку будзіць. Доўга тут ґіморнічыліся, адзін ладна, а другей яшчэ луччы.*

**Гламазджэнне** *н.* Нагрувашчванне. *Тваё глымаждждэньня цірізь мінуту рызьляціцца, кылі хочыш, во стой і дзяржы, а я зы цябе дзіржаць ня буду.*

**Гламаздзіць** *незак.* Грувасціць, няўмела, беспарадкава класці. *Нашто роілым глымазьдзíць, ета да первыга ветру: толька дунець, і яно ўсё пыляціць.*

**Глінамес** *м. іран.* Неакуратны, неахайны чалавек. *Вядзіця яго ў свáты, глінамеса етыга, ён жаніцца гатоў.*

**Глінацёп** *м. іран.* Неакуратны, неахайны чалавек. *Табе б і стыдна хадзіць глінацёпым, ці ты сам сябе дагледзіць ня можыш. Глінацёпыў тваіх і зу людзей ні шчытаюць.* **Глінацёпка** *ж. Я чылавек як чылавек, зь мяне ніхто ні сьміяўся, а ты ўсігда была глінацёпка.*

**Глінацёпства** *н.* Неакуратная, неахайная справа. *Ны*

*тваё глінацёпства глядзець праціўна, ета ж ні работа, а ніізьвесна што.*

**Глубачына** *м.* Глыбіня. *У Сьвятым возірі глубычына ніізьвесна ікая, лом нывязывылі на двоя вожык і мерілі,— ні дыстывалі дна, лом ідзець і йдзець, як у кісель.*

**Глузднуць** *зак.* Моцна ўдарыць. *Глуздануць, што атляціш, тады й айдзе тваё адурюваньня дзеніцца і храбрысьць мігым зьляціць.* **Глуздануцца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Рукі рыстапырыўшы, пёрся, ня ўвідзіў, што бірьвяно прыцягнулі на ўвесь праём, крепка глузданўўся.* **Глузданутый** *дзеепрым.* *Пойдзіш ты глузданутый. Ён, яй-богу, усё дно як нейкій глузданутый.*

**Глуздаць** *незак.* Разумець, цяміць. *Як ты яму ні нымікай, нічога ня глуздыіць. Каб глуздыў у чом-небудзь кыпілінычку,— айдзе там!*

**Глумачанне** *н.* 1. Псаванне, марнатраўства. *Серцу больна глядзець ны такоя глумачыньня, а ім худзь ба што.* 2. Важданіна. *Луччы ты ні пычынай зь імі глумачыньня, ато сам сабе рад ня будзіш, сам аць сябе атрякесься.*

**Глумачыць** *незак.* Псаваць, марнатравіць. *Такоя ладныя сянцо, а ты глумачыш з восіні, такоя ніхай ба пыд вясну пыліжала.* **Глумачыцца** *незак.* 1. Псавацца, марнатравіцца. *Віджу, што бяс толку тыкая адзежа глумачыцца, я ўсё у шкап ды ны замок: ня ўмеіця бярежч — у тряп'е хадзіця.* 2. Важдацца. *Мы зь імі цэлый месіц глумачыліся; то яны прыдаюць, то ўжо ні прыдаюць, то пыдажджыця дзень—другей. Зь дзіцямі малютычка глумачыцца.*

**Глуміла, глуміна** *м.* і *ж.* Недалёкая, разумова абмежаваная асоба. *Глуміла ты, яны зяця ужо даўно сабе нагледзілі, ныт табою толька сьмяюцца, а ты ні пынімаіш нічога. Каб тую глуміну ня слухыў, даўно б с каровыю быў, а так ні каровы, ні пацьцёлка. Быў ты глуміна і ўсігда будзіш.*

**Глупіла, глупіна, глупяк** *м.* і *ж.* Недалёкая, разумова абмежаваная асоба. *Глупілы вы, вас абводзюць кругом пальца, а вы і ня відзіця, і ні пынімаіця. Што йта ты зу глупіна, тама ўсё ёсьць: і сода, і дрожджы. Ён: я пайду— і пашоў ны быльшак, за ім Верка ўдагон, а дзела було атвечыра, іна ўсьлед: куды ты пойдзіш, глупіна ты. Ну куды ж ты, глупяк, глядзіш, дождж находзіць, хляніць вот-вот, а ў цябе сена сушыцца, скарей хвытай у капёшку.*

*Памяниш.* **глупячок.** *Глупячок ты малінькій, так жа ніхто ня дзелыіць.*

**Глутырына** *ж.* Глыба, вялікі кавалак чаго-н. *Пызысыха́лі глуты́ріны, рызьбівацы нада, іх бырына ні пулумаіць, разьві тольна прікласьць курчы́гыю якою.*

**Глушня** *м.* і *ж. абраж.* Глухая асоба. *Гывары ці ні гывары, ня чуіць глушня́, яму нада крічаць у самыя вуха. Я гываро: коні ў вы́ку, глушня́ ты ста́рыя!* **Глушка** *ж.* Глухая жанчына. *Ёй було гадоў чатырныццыць, зыхвырала ціхым, а та́ды ж ніхто ня ўмеў лячыць, неік ны гылаву падзействывыла і асталыся глу́шкыю. Памяниш.* **глушачка.** *Як жалка, у яе дзяўчонка глу́шычка.*

**Глыбеннік, глыбленнік** *м.* Той, хто паглыбляе, робіць глыбейшым. *Што вы тута, глы́біньнікі, ныкывіря́лі, нада хырашо кыпаць, узяць штыкі ны чатыры, ато пырянулі, пырянулі і ладна. Як возьмуцца етыя глы́бліньнікі, яны табе зу пуўдня шахты вы́рыюць, выда будзіць цэлыя лета дзіржацца.* **Глыбенніца, глыбленніца** *ж. Такея глы́біньніцы будуць пяць дней рыць, узялі б пыпрасілі якога мушчыну ці Пітрыка ныня́лі. Хырашо ў цябе, глы́бліньніца, работа ідзець, ужо ўкыпа́лыся пы калена.*

**Глыканне** *н. жарт.* Глытанне. *Глядзі, будзіць табе глы́кыньня, як зыстрянуць айдзе костычкі. Дудура́чыўся з глыка́ньнім, хвытаіцца зы жывот.*

**Глыкаць** *незак. жарт.* Глытаць. *Ён тває клёцкі ня есьць, ён глы́кыіць іх, ня еўшы, раз, раз і гатова. Ай, ні пляці, ён ні па дной глыка́ў, па дзьве зразу.* **Глыкацца** *незак.* Глытацца. *Учора табе ўсё пыдряд глы́кылыся, тольна пыдывай було. Мяса луччы глыка́іцца, як бульба?* **Глыкнуць** *зак.* Глытнуць. *Ікая тама выпіўка, што ты трілюдзіш, пы разу глы́кнулі ды скарей ны калёсы. Ідзі й ты глыкнеш, тама троху асталыся, лі шкапа стаіць.* **Глыкнуцца** *зак.* Глытнуцца. *Бяры, бяры, табе глы́кніцца етый стыканчык лёгінька. Відзіш, як ладна глыкну́лыся.*

**Глытаннік, глытальшчык** *м.* Той, хто глытае. *Етый глыта́ньнік будзіць ба́лывыцца і якую жылізя́чыну праглоціць, тады што зь ім дзелыць. Глядзі, глыта́льшчык, ні храбріся дужа, быў тут храбрец адзін, дыхрабрі́ўся: нейкім магнітым жалезьзя выцягывылі зь яго.* **Глытанніца, глытальшчыца** *ж. Ці ты знаў такую глыта́ньніцу?— сядзіць і вішні с костычкымі глык, глык. Вун Танічка іхныя была тыкая глыта́льшчыца, дыглыта́лыся, што апірацыю дзелылі.*

**Гмыр** *м.*, **гмыра** *м.* і *ж.* Надзьмутая, нелюдзімая, нёзадаволеная асоба. *І гляніш — німа нічога завідныга, і так сядзіць гмырь, ат людзей атвырачыіцца. Такей самый гмыря, як дзед. Усю нядзелю гмырію ходзіць: рызабідзілі дужа, што праўду скызалі, гаворюць жа людзі, што чорт праўды ня любіць. Памянш.* **гмырок.** *Зыдаўся гмырёк пы сваёй пріродзі: спадлоб'я гляніць і пабег. Узмацн.* **гмырына.** *Як толька Прося зь ім век прывікувала, с такім гмырінью. Павеліч.* **гмырышча.** *Ні пысядзіць зь людзямі, ні слова ні скажыць, шапку на вочы і пашоў гмырішча, і ўсё.*

**Гнаяўка** *ж.* Невялікі нарыў. *Другей раз і гныяўка ускочыць — намучыіць. Памянш.* **гнаявачка.** *Гныявычкі пашлі пы бырадзе, нада було б чым-небудзь пымазыць.*

**Гнідзіна** 1 *ж.* Гніда (са знач. асобнасці, адзінкавасці). *Як вымыіш са шчолыкым гылаву, ні разу ні гнідзіны ні зывядзецца. 2 м.* і *ж. перан. абраж.* Капрызнае дзіця, надакучлівая, непажаданая асоба. *Лазіць ета гнідзіна пуд рукамі усюдых, глядзі, кіпятком абваріш. Паўзець сюда гнідзіна, рысьсядзіцца і пашоў жвянькыць: тоя яму ні так, ета яму ня етык.*

**Гнілацёп** *м. неадабр.* Неахайны, недагледжаны чалавек. *Я ўстрэціў: ідзець гнілацёп нейкій, дайжа ні падумыў ба, што Пынасёнык так апусьціўся,— ні пызнаў.* **Гнілацёпка** *ж. Урадзілыся такою гнілацёпкыю, ці йна сыма сябе дагледзіць ня можыць, зь ёю і мужык із-за етыга жыць ні стаў. Гл.* г л і н а ц ё п.

**Гніліна** *ж.* 1. Загніванне, гніль. *На від ігруша уродзі крепкыя была, а ў сярёдку гніліна, буря й пірілумала.* 2. Гнілушка. *Гніліна выляіцца пыд ныгамі, як прібраць некыму. Памянш.* **гнілінка.** *Я ні купляў ба тую хату, іна някрепкыя, у бёрных гнілінка ёсьць. Па-мойму, дык з гнілінкыю ігрушы яшчэ смашней.*

**Гніллё** *н.* 1. Гнілушкі. *Ну ніхай пацсохніць гнільё, у печы спаліцца.* 2 *м.* і *ж. перан.* Слабая, нямоглая асоба. *Ён і мыладзей гнільлё быў, усё кархыў, як здыхля. Што, кылі мы ўжо гнільлё, толька сьвет копцім.*

**Гнілушка** 1 *ж.* Гнілы кавалак дрэва, гнілушка. *Гнілушкі пыпілілі і склалі пыць сьцяну, пасохнуць, дык пыгыряць. Нада було пызьбіраць гнілушкі, чаго яны выляюцца.* 2 *м.* і *ж. перан.* Слабая, нямоглая асоба. *Была бабіца крепкыя, здаровыя, а стала гнілушка,— урэмя, што ж хацець, кылі пыдзь дзіваноста пыдбіраіцца. Па-*

*мянш.* **гнілушачка.** *Гнілу́шычку ні нада резыць, іна так рассыпліцца.*

**Гнілушына** *ж.* Гнілушка. *Адну гнілу́шыну і кідаць няхота, дывай піряlarжым.* *Каб ны машыну, можна було б і гнілушыны ўськінуць. Памянш.* **гнілушынка.** *Нашто вам гнілу́шынкі трогыць, ікая зь іх польза.*

**Гнісць** *незак. перан.* У групавой гульні быць у слабейшай камандзе, якая прайграе і знаходзіцца ў падпарадкавальным стане. *Сколька ні гуляім у мячыка, мы ўсігда ны вярьху, а яны гнію́ць. Ці хырашо гнісьць пыд нізом, наверьх мы вас саўсім ня пусьцім, у нас матка харошыя.*

**Гной** *м.* Гной. *Памянш.* **гнаёк, гнаёчак.** *Гнаёк ба вывазіць, цяплы́нь тыкая. Гнайку́ як дасі, усё бярецца ў рост. Увечырі путрусілі гнаёчык, а ўраньні і зыпыхалі, дужа пыдла́дзілысь. Павеліч.* **гнаішча.** *Гнаішча ны дваре кучымі ляжыць, ніхай ба яго скарей вывізьлі.*

**Гнусіна** *м.* і *ж.* Скнара, жмінда. *Старэй быў гнусіна ішчэ ікая, зь ім жжыць нялёхка було, ладзілі дый ладзілі.*

**Гнусявіць** *незак.* Гнусавіць. *У іх у сям'е усе гнуся́вюць, большыя, бувала, станіць гывapіць, дык чуць рызьбяреш.* **Гнусявіцца** *незак.* 1. Гнусавіць. *Адз зыдач гнуся́віцца, як жа, мол, знай, хто мы такея.* 2 *перан. іран.* Скнарнічаць, скварнічаць. *Дос гнусявіцца, у цябе зыпа́сыў ныкла́джына гадоў ны пяць упярёд.*

**Гнюслівый** *прым. перан. іран.* Сквапны. *Мае дзеці гнюсьлівымі ні зыдаду́цца, я іх етыму ня ўчу. Ні пы гыдах гнюсьлівыя, пы бабі пышла.*

**Гнядзець** *незак. перан. жарт.* Сталець, убірацца ў сілу. *Гнядзеіць хлопіц, яму сімнаццыць, а ўжо як ныстыяшчый мушчына. Твае гнядзеюць, нечыга абіжацца, могуць пыдмяніць.*

**Гнятучка** *ж. неадабр.* Нястрыманасць. *Гняту́чка іх гняцець, ні даюць тазік пыставіць, у рязон мяне ні бяруць етыя куры.*

**Гняціна** 1 *ж.* Вялікі гнёт. *Ні палка, а гняціна, ні пыпіліць, ні пыкалоць.* 2 *ж.* Адзін гнёт. *Выцігнулі іс сажылкі гняціну, пацсохніць — дровы будуць.* 3 *м.* і *ж. перан. іран.* Цяжкая, непаваротлівая асоба. *Сядзіць гняціна дзень прі дзень, с хаты ня выпыўзіць. Разьдзелылыся гняціна, пывярнуцца цяжола.* 4 *м.* і *ж. перан. іран.* Скнара. *Гняціна чылавек, у яго выпрысіць што-небудзь ня*

*дужа надзейся. Павеліч.* **гняцінішча.** *Паспробый ету гняцінішчу на воз усьперць.*

**Голда** *м.* і *ж. асудж.* Крыкун. *Голду іхныга усе хырашо знаюць, горла руспускаць умеіць уго як. Успыкáівый троху сваіх голд, роўныя, як матка, так і дычка, адна другую ні пірявесюць. Павеліч.* **голдзішча.** *Рызя́вілыся голдзішча, куды там паслухыць каго, худзь ба каплю стыда якога была.*

**Гонціна, ганціна** *ж.* Адна дошчачка гонту. *Во пыдгыда́ў прівезьць гонту, як шчы́тыныя ўсё пашло, нескылька гонцін асталыся. Ня слухыіць — дык ты яго гонцінью ціряс плечы. Ты, знаць, надумыўся пы ганціні на цэлыю крышу сыбраць. Крыша ўжо старыя, веціp вы́дрыў нескылька ганцін і пыцякло. Памянш.* **ганцінка.** *І астатнія ганцінкі сыбярі ды ў пучок зьвяжы, мала на што зныдабіцца могуць.*

**Грабанутый** *дзеепрым.* 1. Крыху згрэбены. *Во тут грібану́та, а дальшы ўся гріда ні чыпа́на, як ліжала, так і ляжыць с камлыжкымі.* 2 *перан.* Узяты. *Ладна с кучы грібанута, насыпын мех як панесьць.*

**Грабар** *м.* Той, хто капае калодзежы. *Самі ў нас ні разу ні кыпалі калодзіжыў, неік ня ўмелі, ні було сьпіцыялістыў, нынімалі гра́быріў. Гра́бырі раншы хадзілі зь дзяреўні ў дзяреўню.*

**Грабёнка** *ж.* 1. Невялікі грэбень, якім чэшуць лён. *Грябёнкыю мы́чуць лён, а тады рашчэсывыюць мычку, як узьдзенуць на гребінь.* 2. Скаба ў аглоблях калёс, на якой верхнім канцом трымаецца атоса. *Ны грябёнкі ёсьць зубцы, атосу пірядзьвініш, можна путужы́ць і пысла́біць, каб хамут крепка сьцягнуць. Памянш.* **грабёначка.** *Нейдзі зыцірялыся грябёнычка, хацела змычыць мычык і ні найду нійдзе.*

**Грабун, гробшчык** *м.* Зграбальшчык. *Грібуны́ гыря́ча ўзяліся, ды скора астылі, як селі куріць, да бедыў праседзілі. З мушчын грібуны нясьпецныя, гресьць — ета бабскыя работа. Пагода віда-віда порціцца, грёбшчыкі піріхвацілі мылыка с хлебым і скарей пабеглі, ішчэ пырядышныга дыгрібаць.* **Гробшчыца** *ж. Ці ў цябе рукі ні туды служуць, ці што, мне тыкая грёбшчыца ні нада, што сена клыка́мі астаецца.*

**Грабяльнішча** *н.* Дзяржанне ў граблях. *Ну хто ж дзелыіць грыбільнішча сасновыя, пірібіра́нку пірібраў, стаў зьдзьвігаць, яно крэх і пыпыла́м. Памянш.* **грабяльні-**

**шчыка.** *Харошыя грыбільнішчыка будзіць, толька нада, каб высыхла.*

**Градабойкі** *мн.*, **градабоддзе** *н.* Пабітыя градам пасевы. *Убіралі сяньня грыдабойкі, што тама нымалоціш, зяренца сухенічкыя, тонінічкыя, ведыма, нідазрелыя. Зразу посьлі вайны пасеілі дзівітнаццыць гіктар жыта, і град усё пымясіў, грыдабодзьдзя нільзя було жаць, кысамі пыкасілі.* *Памянш.* **градабоічкі, градабоддзіка.** *Грыдабоічкі пакошыны, ліжаць, толька на корм пойдуць. Ну што мы, прішлі на поля, пылядзелі ны грыдабодзьдзіка, аж зыплакылі.*

**Гражэннік** *м.* Той, хто пагражае. *Тэй усё дужа грозный гражэньнік быў, пакуля сам пулучыў што нада, зарюмзыў і пашоў.* **Гражэнніца** *ж.* *Ну й схваціць калінебудзь гражэньніца твыя, так прыздраўлю, што другім зыкажыць.*

**Граза** *ж.* 1. Навальніца. *У гразў ўсігда глядзі, каб комін быў зачынін.* 2. Пагроза. *Думыў, грыза яго камунебудзь дужа страшна. Нада, каб грыза на іх была.*

**Гразната** *ж.* Бруд. *Ну як жа так жыць, рызьвялі грізнатў, ні зайціць у сенцы, ці ў важ жа рук німа прібраць усё, пріпырядзіць, як у людзей. Што я зьдзелыю, кылі грізныта, мае змагі німа шагу ступіць.*

**Грaзнота** 1. *ж.* Бруд. *Чаго ў цябе грязнота кругом, стыдна так зупуска́цца.* 2 *м.* і *ж.* Брудная асоба. *Іўляіцца мыя грязнота, толька вочы блішчаць с-пыд грязі.*

**Гразьба, грозьба** *ж.* Пагроза. *Каб твае гразьбы́ дужа быяліся, верна б, ужо ўвесь сьвет разьбегся і ты адзін толька б астаўся. Мікілаівых грозьбыў ніхто і ў рязон ні бярець, пысьмяюцца і ўсё. Дужа ты страшын некыму сы сваімі грозьбымі.*

**Граканне** *н.* Важкае паданне на зямлю. *Гря́кыньня такоя дырма ні праходзіць, січас ні пачуствыіш, а ціріз гады атразіцца.*

**Гракаць** *незак.* Важка кідаць на зямлю, валіць. *Такей кыра́ндыш, а большыга гря́кыіць кажный раз, як схвацюцца боріцца.* **Гракацца** *незак.* Важка падаць на зямлю. *Ахотычка ж яму гря́кыцца етык, паўзець туды і паўзець, а тады то грўдкымі, то сьпінкыю гряк і гряк.*

**Граматнець** *незак.* Рабіцца больш пісьменным. *Ня дужа ты нешта грымытнеіш, усё с памылкымі пішыш і пішыш, урокыў ня хочыш учыць.*

**Грамаць** *ж.* Пісьменства, пісьменнасць. *Як ні знаіш*

*грáмыці, якей жа ты чылавек. Сы стырікоў ніхто грамыці ня ўмеў, ета як царькоўна-пріхадзкýю у нас аччынілі, тады дзеці троху бегылі, і то ня ўсе хадзілі.*

**Граміла** *м.* і *ж. гумар.* Вялізная няскладная асоба. *Відзім — ідзець сы сваім грамíлыю, і ён вядзець яе пад ручку, як барышню. Узмацн.* **граміліна.** *Нада ж тыкая грамíліна урадзілысь: ні ў бацьку, ні ў матку,— у каго іна й пышла. Павеліч.* **грамілішча.** *Цімоха хто помніць, во быў грамíлішча, а ціхій-ціхій, спакойный-спакойный, хто яму што ні скажыць, ён: ай, дзеткі, ні нада.*

**Грануць** *зак.* Кінуць з рук, перастаць рабіць. *Кініць, гряніць, работыць ні ў зуб ня хочыць, сядзеў бы с кніжычкыю ў цяньку.*

**Грахаводка** *ж.* Грахаводніца. *Ой, гріхаводка была Анькіна дзеўка, мы яе як аблуплíныю зналі, усе яе прадзелкі ны нашых вычах былі. Памянш.* **грахаводачка.** *Гріхаводычка Маруся, я с табою ажáнюся.*

**Грахануць** *зак.* Важка кінуць, ударыць. *Як грыханець яго аб землю, тэй і зыікытáў. Сысна як грыханýла пу кустах, толька треск на ўвесь лес.* **Грахануцца** *зак.* Важка ўпасці, ударыцца. *Грыханýўся бокым ны кірьпічча. Буря калі падніміцца, етый сук тресьніць і грыханецца ны прывады́.*

**Грачышнік** *м. іран.* Пазашлюбнае дзіця (хлапчук). *Ныйшла сабе грячы́шніка, сядзіць у маткі, нянчыцца, ужо з год, ладный мальчоных, як цяльпýх. Памянш.* **грачышнічак.** *Як жа там яе грячы́шнічык гадуіцца?* **Грачышніца** *ж.* Пазашлюбнае дзіця (дзяўчынка). *Паехыла, года ціріс пуўтыра зыіўляіцца, грячы́шніца ну руках, любуйціся, бацька з маткыю, гадуйця, зыбава ны старысьць.*

**Грашына** *ж.* Манета. *Што я табе пазы́чу, кылі ў мяне самой грашы́ны німа. Ікая грашына зывядзецца, дык ны яе дзесіць дзірік усігда. Памянш.* **грашынка, грашыначка.** *Ды хуць грашы́нку якую заробіць, і то ладна, ніхай сыглышаіцца. Што ён просіць, у яе ў самой грашы́нычкі німа.*

**Грохание** *н.* Грукат, гук ад удару. *Нешта ўсё мыстáчуць, цэлый дзень лі іх сяньня грохыньня. С такім грохыньнім лёхкія атаб'еш.*

**Груздзік** 1 *м.* Маленькі грузд. *Пабег сяньня чуць дзень, такіх мыладзенькіх грýзьдзікыў ныпароў.* 2 *м.* і *ж. перан.* Моцнае, здаровае дзіця. *Во твае грузьдзікі руз-*

*гуляліся, вясёлінькія дзеці. Што йта вам, грузьдзікі, ні сядзіцца?*

**Грукаценне** *н.* Грукат. *Як ныдаела ваша грюкаценьня, ажно ў вушах зьвініць! Унімціся з грюкаценьнім, слова нілізя скызаць.*

**Гручэць** *незак.* Грукаць, грымець. *Я, верна, пуўчыса грючэў, пакуля дастўкыўся. Хто там што дзелыў, доўга грючэла кылы канюшні. Вечырым як пычало грючэць, думыла, быльшая грызá будзіць, не, туча бокым пышла.*

**Грыбазвон** *м.* і *ж. абраж.* 1. Губаты чалавек. *Вашыга грібазвона у хату браць ніхто ні станіць, грібішчы тэя вісяць у яе, як лапці,— нявеста!* 2. Балбатун. *Распўрхыўся Мархвін грібазвон ніізьвесна за што: ні там кыня нывізáлі, айдзе ён хацеў. Памянш.* **грыбазвончык.** *Во яшчэ нада тут, і Веркін грібазвончык лезіць.* **Грыбазвонка** *ж. Ты толька й знаіш, што слухыіш Ляксеіву грібазвонку, іна цябе нудукўіць, нывядзець на пуць ісьцінный.*

**Грыбазвоніць** *незак.* Балбатаць. *Сойдуцца арáвыю і пашлі грібазвоніць. Каб меншы грібазвонілі, куды б луччы дзела було.*

**Грыбазвонне** *н.* Балбатуны. *Грібазвоньня кучыю як сыбярецца у тым канцы, ізыкамі лэх, лэх, лэх — кáжнінькыга абмусолюць.*

**Грыбач, грыбан** *м. абраж.* Губаты чалавек. *Скажы свайму грібачў, ніхай уніміцца с тріпатнёю, калі ня хочыць быць нылáіным. Ну й жыніхі ж саплівыя — грібачы, дужа яны каму нада. Аксюцін грібáн валокся тут чаго-то атвечыра, ці ні прапытывыіць ён, каб у зяці к Анькі.* **Грыбатка, грыбачка** *ж. У яе дружба с тою грібáткыю вадою ні разьліць, як сойдуцца і адна адной на вуха шы-шы-шы. Цябе грібáчка Домніна і пыдвіла, іна ў Крічыў цэлыя лета езьдзіла і там нытріпáла.*

**Грыбілы** *мн., абраж.* Губы. *Грібілы патвешывыюць, рызабіджыны дужа,— мáсьліціся вы зь імі і няньчыціся, ато яны дужа кріўдлівыя.*

**Грыбіна** *ж.* Грыб (абагульненае мноства). *Кылі на зіму грібіну якую высушым лішнію, ні звыляіцца, зімою усё пыдбярецца. Пашоччы ў лес, грібіну то там, то там найдзіш.*

**Грыбнічый** *прым. гумар.* Ахвотнік да грыбоў. *Вы ж, грібнічыя, хуць ні зублудзіціся, ато мне некылі бегыць пы лясу шукаць вас. Сустрюкай сваю грібнічыю, цэлыя вядро тырáніць.*

**Грыжа, грызь** *ж. перан.* Лаянка, сварка. *У іх даўно міжду сабою грыжа, даўно ні ладзюць. Што, кылі кажный дзень грыжа і грыжа. Пычынáлыся з мáлыга, а цяперя грызь ні сьціхаіць. Усяго було, і грызі хвытала.*

**Грызлівый** *прым. неадабр.* Сварлівы, бурклівы. *Грызьлівыя нявесткі пупаліся, і пыміссобкыю міру німа, і старýю дыпікáюць. Памянш.* **грызлівенькій.** *Твой сьвёкыр спакойнінькій, ета праўда, толька грызьлівінькій.*

**Грымлівый** *прым. неадабр.* Бурклівы, незадаволены. *Так ён быў нічога чылавек, і ні скупэй, і пыкладзістый, а к старысьці стаў грімлівый, ладзь ды ладзь.*

**Грымюга** *м. неадабр.* Буркун. *Ідзі ты ўжо, свайго грімюгу ублыгытвыряй. Яе свёкыр грімюга быў, усё грімеў і грімеў, ніхто яму уладзіць ня мог.*

**Грымячанне** *н.* Моцныя, гулкія ўдары. *Жджэць цябе грімячыньня, ой, жджэць, будзіш ты реўць.*

**Грымячыць** *незак.* Біць моцна, гулка. *Пупалі аднаго і дывай грімячыць, во будзіць знаць, сь кім зьвязывыцца.* **Грымянуць** *зак.* Моцна, з гулам ударыць. *Грімянулі яго ладна. Каб грімянула туўкачом у плечы с хаты, другей ба раз ня ўздумыў лезьць.* **Грымянуцца** *зак.* Моцна, з гулам ударыцца, упаўшы зверху. *Лесьвічка крэх, ён як грімянецца аб мост! Грімянесься сы йгрушы, тады ўжо ні дыжыдáй, дам дык дам!*

**Грэсца** *незак. перан.* Ісці з цяжкасцю (звыч. па снезе). *Пашлі, на ныч гледзічы, трудна будзіць пы сьнягу гресца, дарогі нійдзе ні сьлядочыка німа. Сьнегу по поіс, паспробый гресца ац самыя Зяціцы.*

**Губашлёпістый** *прым. перан.* Някемлівы. *Ён, канешня, нідурный чылавек, ну нейкій губашлёпістый, то абдýрюць айдзе, то сам воўрімя ні сыбразіць.*

**Губашлёпіць** *незак. перан.* Ратазейнічаць. *Хто табе вінувáт, кылі ты сам усюдых губашлёпіш, так нільзя рызівоньнічыць.*

**Губашлёпка** *ж.* Губатая жанчына. *Нейкыю губашлёпку пупаў сабе, ні нулюбуіцца. Нашто яму губашлёпка тая, усё дно як дзевык луччых німа.*

**Гузыр** *м.* Гузак. *Ап прітылку у пацёмкых лупляну́ўся ілбом, гузырь ускачыў, аж на людзі нялоўка выйціць. Памянш.* **гузырок, гузырочак.** *Глянула я, дык сідзяць гузырькі, нібальшыя, ну сідзяць. Ай, гузырёчык там тэй, толька рызгаворы лішнія.*

**Гузяк** *м.* Гузак. *Кылі й гузякоў ныставілі, ні ў чужоя*

*места, рузмудрей большы некуды. Памянш.* **гузячок.** *Чаго ж ета ў цябе гузячок сядзіць, ды іграз пысярёд ілба? З гузічкамі явіўся, красіў, нечыга скызаць. Узмацн.* **гузячына.** *Заробіў нейдзі гузячыну, на ўвесь лоб красуіцца, ладныя цацка. Павеліч.* **гузячышча.** *Пріходзіць, ужо на дзень бралыся, гузячышча во такей, ш шапку, левыя вока падбіта, рубашка рызыдрана,— любуйціся ны яго.*

**Гульнівый, гульнічый** *прым.* Такі, які любіць пагуляць. *Ён вісокій ня будзіць, пы бацьку пашоў, ну ўжо гульнівый, дык ні знаю, у каго ўдайся. А, ета ня дождж, гульнічых нашых каб і зь відра ліў, ня ўдзержый ба, калі гармоню пачулі.*

**Гультайё** *н. зб.* Гультаі. *Хворыст аблёгся, сеч хырашо, дык айдзе ж яны, гультайё, возьмуцца. Гультайё,— толька пыдываць спруўляйся, сьмітаны було ні паесьць, усё пыдмялі.*

**Гультайнічанне** *н.* Гультайства. *Дужа, людзі, у вас гультайнічыньня многа. Ціріз гультайнічыньня і ў лес ня выбрыліся, а чарніц було усыпына.*

**Гулюшка** *ж.* Пагулянка. *Быгатыю справілі гулюшку, усю радню зызвалі, суседзіў гукнулі, многа було ўсяго ныгатовына.*

**Гулюшы** *мн.* Гулянне. *У вас адны гулюшы на ўме, што-небудзь лі хызяйства паможч некылі.*

**Гуляннік** *м.* Гуляка. *С калодзіжа прінясуць, жах, жах, жах, вадзішча халодныя, гуляньнікым некылі дыждацца, каб хут трошку цяплом апхвацілыся, пыпрастўдзюцца і пызыхвырають. Сьпяць гуляньнікі біз задніх ног, усю ноч прабегылі нейдзі, знаць, ці ні ды Бірязуік дыбраліся. Памянш.* **гулянічак.** *Не, мой гуляньнічык, нада трошку думыць, як сена сыбраць, у зіму бісь сяніны нільга астывацца.* **Гулянніца** *ж. Толька скызалі пры вічарінку, усё дзела аб землю, дывай ныпыріджацца, во хаці ты пуця зь етыя гуляньніцы. Мыя гуляньніца тожа пыд раньня прішла, гулі саўсім адурілі, нейкій ці ні дуччанскій прібігаіць.*

**Гуменнік** *м.* Птушка, якая жыве на гумне (звыч. верабей), жывёла, якая бывае ў гумне (звыч. кот, заяц). *Віряб'і, етыя гуменьнікі, іх каб з руж'я, усе каноплі абдзяўбывыюць. Варот ні було, дык заіц пыняўся і пыняўся ў гумно, тама трошку сена ліжала, во гуменьнік!* **Гуменніца** *ж. Кошка саўсім гуменьніца стала, там і сядзіць і на печ ня йдзець, ну, ну гумне мышы ёсьць.*

**Гуркнуць, гуркнуцца** *зак.* 1. Пасыпацца раптоўна. *Пуўдня́ дровы складывыў, толька атыйшоў, яны і гу́ркнулі. Тваё кладжэньня нінадзёжныя, сам увідзіш, што етыя палкі гу́ркнуцца.* 2. Увайсці гуртам хутка. *Гуркнулі кучыю ў хату, я рысьцірялыся, стала і гляджу: адкуль ета яны? Як гуркнуцца цэлыю капою, будзіць клопыту бабі.*

**Гуртаванне** *н.* 1. Складванне абы-як, без парадку. *Якей толк з вашыга гуртува́ньня, заўтря нада на́ныва рызьбірацъ і пірікла́дывыць.* 2. Аб'ядноўванне. *Нічога ў іх ні пулучылыся з гуртуваньнім, ня с тога яны кынца пычыналі дзела.*

**Гуртаваць** *незак.* 1. Складваць абы-як, без парадку. *Усё ў адну кучу ні гурту́й, посьлі сам ні рызьбярэсься, што к чаму. Навошта вам гуртува́ць бульбу ў пуню, лішнію работу дзелыць, пацсохла і спрыва́джывый у погріб.* 2 *перан.* Аб'ядноўваць. *Васіль тады як пріехыў сь Пітрыграда, крепка гуртува́ў біднату, ён і камуну дзелыў.*

**Гурчэнне** *н.* 1. Гудзенне. *Ці чуіш гы, у том баку усё дно як нейкыя гурчэньня.* 2 *перан.* Бурчанне. *Наслухыліся іхныга гурчэньня дос, цяпер паслухый, што я табе скажу.*

**Гурчэць** *незак.* 1. Гусці. *Усю ноч сяньня машыны гурчэлі тут, пыд'іжджалі, ат'іждалі — кіпела работа.* 2 *перан.* Бурчаць. *Пычаў гурчэць, што ні там вожкі пыкладжыны, яму трудна ў чом-небудзь уладзіць. Сыбака залез у будку і гурчы́ць.*

**Гутаторанне** *н.* Павольная размова. *Каменьня, жалезьзя, а божа мой, сколька, кідайця гутаторіньня, тута прібірацъ ды прібірацъ.*

**Гутаторшчык** *м.* Аматар да размоў. *Сустрюкай гутаторшчыка, січас рызьвядзець бяседы.* **Гутаторшчыца** *ж.* *Тыкая ж гутаторшчыца, як яе баба была.*

**Гутаторыць, гутаторыцца** *незак.* Павольна размаўляць. *Чаго ёй ні гутаторіць, ні знаіць ні памыць, ні падмесьць, у яе ўсігда усё і падзелына, і паччышчына. Пынас, помню, як прідзіць, мушчыны да поўнычы гутаторюцца, ён дужа любіў пра жызінь руссуждаць.*

**Гушчызна, гушчынь, гушчэнь** *ж.* Гушчар. *У Шмату аборкі пызырасьлі, гушчы́зна ні пралезьць, ну зато айдзе чуць чысьцей лі асінык, пыдасінывікі ладна трыпляюцца. Я й падумыць ня мог, што ў Пашыні тыкая гушчы́нь, усё чыста пызырыста́ла. Пы Радкеўшчыні тыкая гушчэнь*

*містамі, што ня ўлезіш, тама і травы німа, і грібы ні растуць.*

**Гушчэць** *незак.* Рабіцца больш густым. *Чым дальшы мы йдзём, тым гушчэіць большы, а сонца ня відна, ідзём і ні знаім, куды йдзём, во було нам.*

**Гыкала, гыканнік** *м. неадабр.* Злосны буркун. *Сам пыспрабўй зьдзелый, а тады указывыць будзіш, гыкыла мне найшоўся. Другей мне гыкыньнік будзіць тут рызыряцца, ідзі вун у сябе ў дваре пагыкый.* **Гыканніца** *ж. Ікраз тыкая гыкыньніца яе мама была, пірят тою усе на цыпычкых хадзілі і ніхто ўладзіць ня мог.*

**Гыканне** *н.* Злосная буркатня. *Мы наслухыліся яго гыкыньня большы некуды.*

**Гыркала** *звыч м. перан., неадабр.* Злосны, нястрыманы чалавек. *Я тожа яго помню, ня меншый быў гыркыла, усё надутый хадзіў, носым чмыхыў, каб укусіць каго.*

**Гыркатня** *ж. перан.* Грызня. *Як жа ім було умесьці жыць, калі кажный божжый дзень гыркытня, а рызыйшліся — старыя самі пы сабе, мыладыя самі сабе, як хочыця, так і жывіця і ладзьця.*

**Гыцанне** *н. неадабр.* Паездкі. *Думыіш, ні ныдыідаіць ім гыцыньня, ныдыідаіць, ды яшчэ як!*

**Гыцаць, гыцацца** *незак. неадабр.* Ездзіць. *Сколька яны гыцыюць сюда, во пышчытай, сколька апходзіцца. Яны ў цябе гыцыюць, нашто ён, етый горыд. Кажныю нядзелю гыцыюцца туды-нызад, усё ўремя, усё грошы, а ты пра ета саўсім ня думыіш.* **Гыцнуць** *зак.* Паехаць, адправіцца. *Гыцнулі ны Дынбас, думыюць, многа заробюць.*

**Гэрчык** *м.* і *ж.* Асоба, здольная падкусіць. *Ліванок — гэрчык, што луччыга і ні прідумыіш, ён каго хочыш паткусіць і сам убаку астаніцца, як і нічога ні знаіць. Зь віду ціхінькыя, а тыкая гэрчык, што ні дывядзі бог.*

**Гэханне** *н.* Глухі, цяжкі стук, паданне. *Як пыд'іжджаіш к ряке, гэхыньня здаліку чутна. Такоя гэхыньня ґ дабру ні прівядзець.*

**Гэхаць** *незак.* Глуха, цяжка стукаць, біць. *Сваі б'юць ны ряке, трецьцій дзень гэхыюць бабыю. Пуўдня гэхыў лі пнёў, іх трудна калоць.* **Гэхацца** *незак.* Падаць, ударацца. *Каторый раз ты гэхыісься па етый лесьвіцы, яе толька спаліць астался, упусьці ў погріб новыю.* **Гэхнуць** *зак.* Цяжка ўдарыць. *Як гэхніць даўбнёю пу бухў, калодка напыл. Цябе раз гэхнулі, пулучыў, ну, відна,*

*ішчэ хочыш, ні хваціла аднаго разу.* **Гэхнуцца** *зак.* Упасці, ударыцца. *Так больна гэхнуўся, як толька жыў астаўся. Глядзі, астарожна, дзяржыся, гэхнісься с такея вісычыны і ні ўстаніш.*

# Д

**Дабіндзюгаць, дабіндзюгацца** *зак. асудж.* Дашвэндацца. *Ён дыбіньдзюгáіць, што Ільлюшчыха яго каромісльм папрэць ад двыра, іна ня дужа гультаёў любіць. Ці думыіш ты сваёю лыхматыю гылавою, ды чаго ты дыбіньдзюгáісься. Дыбіньдзюгаюцца, што крошкі аднае ны стале ні астáніцца, во ды чаго яны дыжывуць.*

**Давечы** *прысл.* Учора, нядаўна. *Давечы ка мне ны мінутку зыскачыў Купряёнык. Ты ўсюдых пірібылá, ня ў доўга бýдушчым ці ні зьбіраісься і ў Пацсолтыва, тама давечы у разьбітый лапыць пры цябе званілі.*

**Дакладаць, дакладываць** *незак. перан.* Прыраўноўваць беспадстаўна. *Каго ён толька ні дыклыдáў: у Хведзі спрасіла пры Кымшачонка — бегыіш за ім, пыстыяла зь Лявоныўым — любіш,— ну як жа жыць с такім чылавекым. Ета ён цябе так любіць, што к кажныму дыклáдывыіць.* **Дакласць** *зак.* Прыраўнаваць. *Ні разу ні зыхадзіў ён к Танькі, ета нарошня дыклáлі, завідна ім.*

**Двайнуць** *зак.* Пры гульні ў куля кароткую палачку— куль — падкінуць уверх і адбіць, за што залічваецца два ачкі. *Двайнýць і я ўмею, а ты паспробуй чытырнýць, як Грішка.*

**Двору** *прысл.* Дадому, дамоў. *Як рузгуляіцца мыльгвá, двору ні загоніш. Калі ты ўчора прішоў двору? Ласк.* **дворку, дворачку.** *Пойдзім, мой маліңькій, дворку, цёця ўжо спáткі хочыць, пойдзім. Січас пріедзім дворычку, будзім кніжычку чытаць пры лісічку і зайчыка.*

**Двухвядзернік, двухвядзёрнік** *м.* Посуд ёмістасцю ў два вядры. *Ета мыя цётка так памёрла: яго зыбралі ны вайну, ішчэ на тую, царскыю, а йна радзіла, двухвядзернік пыдніла і ўся. У мяне нывярьху і січас двухвядзёрнік выляіцца, я ўжо яго і ні зьнімаю, што зь ім дзелыць.*

**Двухлёзка** *ж.* Складаны ножык з двума лязамі. *Я купіў сабе двухлёзку, абоя лязы нытачу, як агонь. Двухлёзка луччы, чым с адным лязом. Памянш.* **двухлёзачка.** *Многа ты хочыш: каб зы пінáл аддаць табе двухлёзычку.*

**Джогасць** *ж.* Бадзёрасць, спрыт. *С такою джоґысьцю хуць куды. Пряма ні знаюць, куды дзівацць сваю джоґысьць.*

**Джыгун** *м.* Праныра (звыч. хлапчук, падлетак). *Урадзійся ў цябе джыґўн, ні пы бацьку з маткыю пашоў.* Памянш. **джыгунок, джыгунчык.** *Ну злаўлю я етыга джыґунка, пакушыіць ён пруціка. Сямёнывы джыґунчыкі такея прайдошлівыя, па дзеду зыда́ліся.*

**Дзебра** *ж.* Гушчэча. *У Канчырых містамі ныстыяшчыя дзебря. Мы раз у такую дзебрю пупалі, думылі, саўсім ня вы́біримся.*

**Дзебялець** *незак. жарт.* Мацнець, дужэць. *Пыдрыста́юць хлопцы, дзібялеюць, скора мушчыны возьмуцца хуць куды. Куды ўжо мне дзібялець, ні к таму мае гады ідуць, каб дзібялець.*

**Дзеланне** *н.* 1. Выраб, вытворчасць (працэс). *Ні хачу я такога дзелыньня, зыбірайця вы свае інструменты і разойдзімся пы-харошыму.* 2. Выраб (прадмет). *Ніхай яны нічога ня дзелыюць, ні вазьму я тога дзелыньня, кылі мне што нада будзіць, я куплю.*

**Дзеланнік, дзелальшчык** *м.* Той, хто робіць, вырабляе. *Ішла я міма, сьпяць тваё дзелыньнікі, ныработыліся, так яны і зызімуюць — ні зыряшэцюць пуні. Ай, дзелыльшчыкі яны, зьля́пыюць, зьляпыюць як пупала, хочыш, пойдуць — і зываліцца іхныя дзелыньня.* **Дзеланніца, дзелальшчыца** *ж. Якея яны дзелыньніцы, кылі матычык у руках ні дзіржалі, хочыш — заместа травы быракі вы́мытычуць. Сь цябе ніплыхая дзелыльшчыца, пальцы у вязёнкых вон вылазюць.*

**Дзеравенец** *м.* Вясковец, жыхар данай вёскі. *Пятрок наш, дзірявеніц, толька што ён даўно піряехыў у горыд. Пыдыйшлі яшчэ дзірявенцы ды пымаглі ўскласьць, а ўдваіх ба такоя бярно ні пыдня́лі.*

**Дзерануць** *зак.* 1. Ірвануць, драпануць. *Як дзірянець етый мех, ён і пыпылам. Тама шурпа́та, ска́бкі, дзірянуў пляча ды крыві.* 2. Узяць, спагнаць, садраць. *Лісьнікі крепка ў яго дзірянулі зы палкі.* **Дзеранупца** *зак.* Ірванупца, драпанупца. *Ладный быў кусочык мацеріі, нада було атрезыць, а ён пыцягнуў, укось дзірянулыся і прыпаў кусочык. Дзяржыся, пірібірай рукамі, ня едзь пы сасьне, дзірянесься, што кожа мехым зьлезіць.* **Дзеранутый** *дзеепрым.* Ірвануты, драпануты. *Ну кылі трошку й дзірянута, пройдзіць, цэл будзіш.*

**Дзесяціна** *ж.* 1. Дзесяціна. 2. Плата за памол. *Як вазілі раншы малоць, дык хунты плацілі, хто гыварыў хунты, а хто дзісяціна, ну дзісяцінью редка звалі, усё хунты.*

**Дзесяцінашнік, дзесяціннік, дзесяціншчык** *м.* Селянін, які меў мала зямлі, некалькі дзесяцін ці ўсяго адну. *Былі нейкія, дзісяцінышнікі зваліся, неік ім дзісяціны дывалі. Неік ны днаго гыварілі ў нас дзісяцінянік, у яго зямлі було мала. Былі надзелы, а ў каго былі дзісяціны, тэй быў дзісяціншчык, а як ета, я ні знаю.* **Дзесяцінашніца, дзесяцінніца, дзесяціншчыца** *ж. Чаго-то звалі яе дзісяцінышніца, у яе бацькі неік адзьдзельна дзісяціна была. Мужык рана памёр, а з мальчыкым асталыся, ні мыгла усё абработыць, часьць прыдыла зямлі, сабе трошку кінула, гыварілі на яе дзісяціньніца. Як ні пуўнадзела, а дзісяціну бацька даець у прідыныя, тады дзісяціншчыца у нас гыварілі.*

**Дзетный** *прым.* Такі, які мае дзяцей, мнагадзетны. *Нашто хлопцу зьвязывыцца зь дзетнью? Раншы дзяцей-дзяцей було, а цяперь айдзе тэя дзетныя сем'і. Ого, іна дзетныя, скора ды гіраіні дыцягніць.*

**Дзеўбаком** *прысл. перан.* Моўчкі, безуважна, бяздумна. *Тарчыць тама дзіўбаком і тарчыць, рот разінуўшы, што яму лі пáнывык дзелыць.*

**Дзёнка** *н.* Круглая драўляная крышка. *Капусту як соліш, на дзёнка абізацільна кáмушык пыкладзі, і каб цяжоліенькій. Дзёнка ў лазобкі выскычыла, крайкі пыдгнілі. Памянш.* **дзёнушка.** *Ну гуркі ў мяне ёсьць крепінькыя дзёнушка.*

**Дзёрнуць** *зак.* 1. Пацягнуць, смаргануць. *Удваіх як дзёрнулі зы вярёўку, макушка крэх, а бярёзка стаіць.* 2 *перан.* Пабегчы. *Яны цябе замецюць — дзёрнуць, тольска ў вочы ўвідзіш. Віджу, што цэліцца, січас дзёрніць пы пасевых, ну й карова зыдылáся!* 3 *перан. іран.* Выпіць. *Яны свайго ня ўпусьцюць, як сойдуцца кучыю, дзёрнуць ладна, сь песьнімі я́вюцца.*

**Дзікар'ё** *н. зб.* Дзікуны, неадукаваныя, нявыхаваныя, грубыя асобы. *Во дзікарьё нейкыя, нічога ім ні ўталкуіш, нічога пынімаць ня хочуць. Чаго вы, як дзікарьё, людзей ня відзілі ці што.*

**Дзікаронак, дзікароныш** *м.* Палахлівае, дзікаватае дзіця. *Твой малый сьпірва быў дзікарёнык, а посьлі бойкій стаў хлапчына. Дзікарёнуш ты малый, ніхто сюды*

*ня пойдзіць і ты нікому ні нада. Памяняш.* **дзікароначак.** *Усё адзін і адзін, дзікарёнычкым расьцець, ты яго часьцей с сабою бяры.*

**Дзіравіцца** *незак.* Прадзіраўлівацца. *Нідаўна былі новыя мяшкі, а гляджу — пычалі дзіря́віцца. Ета слабый мыцірiял, два разы пірісьцірну́ла і ўжо дзірявіцца.*

**Дзюбаць** *незак. перан. жарт.* Есці, піць. *Толька с пасьцелі, ні пасьпелі памыцца і ўжо дзю́быюць. Бутылычку купюць красьнінькыга, сыбяруцца, сідзяць дый дзюбыюць.* **Дзюбацца** *незак. перан.* Есціся, піцца. *А што, ім ладна дзю́быіцца тут, відзіш, пустэя бутылычкі.*

**Дзюбач** *м. іран.* Даўганосы чалавек. *Скажы ты мне, чаго твой дзюба́ч прістаець к маім хлыпцам, ці яны хужы другіх работыюць, ці яшчэ што,— узьеўся і ўзьеўся ніізьвесна чаго.*

**Дзюльканне, дзюлёканне** *н.* Падзыванне парасят, свіней выгукамі дзюль-дзюль, дзюлёк-дзюлёк. *Ня слухыюць яны твайго дзю́лькыньня, за бульбу ўзя́ліся. А сьціхні ты зь дзюлёкыньнім, яны вун за погрібым рыюцца ў саломі.*

**Дзюлькаць, дзюлёкаць** *незак.* Падзываць парасят, свіней выгукамі дзюль-дзюль, дзюлёк-дзюлёк. *Хвенька сяньня была ў дваре, я сыма чула, як іна ўраньні дзю́лькыла. Як возьміцца дзюлёкыць, дык іна і чужых пырысят пысыбярець.*

**Дзюндзіць, дзяндзіць, дзюндзюліць, дзяндзюліць, дзюндзюрыць, дзяндзюрыць** *незак. неадабр.* Доўга без сэнсу балбатаць. *Дзю́ньдзіць і дзюньдзіць адно й тоя: усе за ім пыдглідаюць, усе яму дренныга жылаюць, дужа пастылый стаў. Пра нешта дзя́ньдзюць кучыю лі погріба ат пуўдня. Ахотычка дзюньдзю́ліць пу пуўдня, усё дно як дзела у дваре німа,— тут жа столька ўсяго ня дзелына. Ня стой, ні дзяньдзю́ль, а йдзі пырысят кармі: ґвалту крічаць. Дзюньдзю́ріць табе ныравіцца, ня ела б і ні піла, каб толька язык пычысаць хуць сь кім-нібудзь. Дзюньдзю́рілі б і дзюньдзюрілі, ні сьціхаючы, як ім ужо ні ныдаесьць. Доўга дзяньдзю́рілі кылы бані, яны ж с пуўдня ідуць зы каровымі, каб сыбрацца ды ныбря́зкыцца.* **Дзюндзіцца, дзяндзіцца, дзюндзюліцца, дзяндзюліцца, дзюндзюрыцца, дзяндзюрыцца** *незак.* Узаемна балбатаць. *Кажный вечыр дзю́ньдзюцца часы па трі, ім абы ізыкі чысаць. Як вам тута дзю́ньдзіцца? Ім ладна дзя́ньдзілыся, усіх аббрізкыта́лі. Я пыстыяла, пышла, мост*

*памыла, дзяцей пыкарміла, а яны астáліся, усё дзюньдзю́ліліся. Вам дужа смашна дзюньдзю́ліцца, як сыбіріцёся кучыю. Ізьвесна, чаго яны сходзюцца — дзяньдзю́ліцца. Ім усігда дужа ладна дзяньдзюліцца. Дзелыць жа нечыга, дзюньдзю́рюцца і дзюньдзюрюцца з дня ў дзень. Сыты, надзеты, у цёплым сідзяць, ім ладна дзюньдзю́ріцца, а як ныцігаісься, дык худзь ба пірідыхнуць. Адна пышла, другая ўсьлед, у Каці сойдуцца і будуць дзяньдзю́ріцца цалюхтычкій дзень. Чаго ж ім ні дзяньдзюріцца, дзеці ні плачуць.*

**Дзюндзя, дзяндзюля** *м.* і *ж. неадабр.* Той, хто доўга займаецца пустой, бяссэнснай балбатнёй. *Пра што вам тая дзю́ньдзя плілá? — у яе ўсігда адно й тоя: як ёй цяжоліңька ды як ёй горькінька. Такога дзяньдзю́лю і сьвет ня відзіў, як баба ікая. Ета дзяньдзюля пышла пры сваё: во, ува ўсіх ёсьць, усе быгаты, а я нішчасныя.*

**Дзюшканне** *н.* Падзыванне свіней выгукам дзюшдзюш. *У бульбу як увалюцца, іх ніякім дзю́шкыньнім ні замоніш.*

**Дзюшкаць** *незак.* Падзываць свіней выгукам дзюшдзюш. *Саўсім цёмна було, яны удзьвюх усё дзю́шкылі.*

**Дзябанне** *н. іран.* Выпіванне. *Думыіш, я б дурілыся так, я б атучыла адзь дзя́быньня, у тэй ба бок ні глядзеў і як шаўковый ба стаў.*

**Дзябаць** *незак. іран.* Піць, выпіваць. *А што я буду хваліць, ні аткáзыіцца, як пупыдаіць, дзя́быіць.* **Дзябнуць** *зак.* 1. Выпіць. *У іх пытхыдзя́шчыя кынпанія, сойдуцца, то ладна дзя́бнуць, учыць на ета ні нада.* 2. Ударыць. *За імі глядзі астарожній, ні пы яго што, дык і дзябніць чым хочыш.* **Дзябнуцца** *зак.* Ударыцца, выцяцца. *Крепка дзя́бнуўся з балькі, чаго яго туды пыгнала.*

**Дзяганне** *н. неадабр.* Беганіна з тупатам. *Турі ты іх ат'етуля зь дзя́гыньнім зь іхным, духі пряма ат'ідáюць.*

**Дзягаць, дзягацца** *незак. неадабр.* Бегаць, насіцца з тупатам. *Як вечыр, да поўнычы і дзя́гыюць па вуліцы адзін за дным. Як сталі дзягыць пы падвокыньню, я прутуріла. Такея бульшуны́ сыбяруцца, вы́гуліюцца, а тады дзя́гыюцца ўсю ноч,— бáцькі на іх німа харошыга.*

**Дзягцявый, дзегцявэй** *прым.* 1. Прызначаны для захавання дзёгцю. *Дзіхця́вые вядро пыт пряслым вылялыся.* 2. Вымазаны ў дзёгаць. *Ты пыглядзі, якея ў цябе рукі дзіхця́выя, ці можна такімі за хлеб брацца. Дзіхцявэя вязёнкі ні нясі ў хату.*

**Дзяндзюленне, дзяндзюранне** *н. неадабр.* Доўгая пустая балбатня. *Нікому тваё дзяньдзю́ліньня слухыць ні аньцірэсна, лухты етыя тут наслухыліся дос. Іхныя дзяньдзю́ріньня як пычынаіцца, яму кынца-краю ні бyваіць, усё ла-ла-ла- і ла-ла-ла.*

**Дзярвячына** *ж.* Палена, чурбан, кавалак дрэва. *Пыць сьцяною дзірьвя́чына выляіцца, піріпіліця ды пабі ў баню. У яго паць сеным нескылька дзірьвячын ёсьць. Напійся, п'яный ляжыць, што дзірьвячына.*

**Дзяўбатый** *прым. зневаж.* Даўганосы. *Помніш, дзіўба́тыя тыкая дзяўчонычка к Хрісьціні прібігала, дык на той Васіль жаніўся. Памяниш.* **дзяўбаценькій, дзяўбаценечкій.** *Так ны пыгляд нічога хлопіц, трошку дзіўба́ціньхій, хто ж яго знаіць, ці ты іх раскусіш. Абея дзяўчонычкі, ікраз як сыма, дзіўба́цінічкія.*

**Дзяўбач** *м. зневаж.* Даўганосы чалавек. *Крепка прыздра́віла Мыланка таго дзіўбыча́, усё яму памянула, доўга будзіць помніць.*

**Длінназыкій** *прым. неадабр.* Крыклівы. *Каб трошку меншы быў длінназы́кім, луччы було б. Во зьехыла тыкі, дужа ўжо, дужа длінназыкыю была.*

**Длінненне** *н.* Падоўжванне. *Ніякыя тута дліньненьня ні нада, патходзіць, як па меркі.*

**Длінніна** *ж.* Даўжыня. *Дліньніна́ хырыша, а ў плічах вузкува́та. Нада памеріць дліньніну, ці хваціць, каб ні куруткува́та було.*

**Длінніць** *незак.* Павялічваць у даўжыню. *Тута, памойму, дліньніць ні нада, самый раз. То дліньніць насіў штаны, атпускалі, а тут ужо атрізаць зьбіраіцца.* **Длінніцца** *незак.* Павялічвацца ў даўжыню. *Папхні-ка ты жардзіну с таго боку, нешта іна ня хочыць дліньніцца, зычапілыся за нешта. Ета тыкая мацерія, што сыма дліньніцца.*

**Доканне** *н.* Выказванне здаволенасці. *Ты ні глядзі на докыньня, а пыдлівай чылавеку.*

**Докаць** *незак.* Выказваць здаволенасць. *Што ты докыіш, ты ж галодный зраньня, зьеж яшчэ місычку, ліщнія ня будзіць.*

**Дольнік** *ж.* Удзельнік у агульнай справе. *Якея цяперя дольнікі, ета раншы каго-небудзь бралі ў долю, во ён шчытаўся дольнік, наша ўремя у долю браць ні нада.* **Дольніца** *ж.* *Аксюта, баба твыя, неік у свайго брата*

*шчыталыся дольніцыю. Ты ўсё ў іх і ў іх, скора тама дольніцыю станіш.*

**Досвецце** *н.*, **досвіткі** *мн.* Дасвецце. *Сплю, нічога ня думыю, а як гляную — досьвіцьця ны дваре. Ня поўныч, а ўжо досьвіцьця, устывáць нада скарей ды печ рыстаплівыць. А ні дурі ты, якея досьвіткі, ішчэ чацьвёртый час толька.*

**Дохля, дыхля** *м.* і *ж.* Хілая істота (чалавек і жывёла). *Урадзіўся дохля, ён усю жызінь хы́рлііць. Зь яе і жыцілка тыкая, дохля, ні жывець ні пыміраіць. Наша кошка ужо старыя, дохля, і зытапіць рукі ні бяруць. Якей зь яго жаніх, ды́хля нейкій, нічога ў ім харошыга німа. Раз урадзілыся тыкая, то і да веку будзіць дыхля.*

**Драбаценне** *н.* Дробны тупат, шоргат. *Пытхаджу, чую дрыбаценьня ў хаці. Нехта ў пуні жывець, як заходзіш — нейкыя дрыбаценьня, а пыглядзіш — нікога німа.*

**Драбацець** *незак.* Дробна тупаць, шоргаць. *Ух, танцорка, як пойдзіць дрыбацець ды с прі́пеўкымі. Нешта дрыбаціць пы сьцяне, с-пат крышы што-небудзь вісіць.*

**Драбнотка, драбнушка** *ж.* Дробная істота. *Драбноткі пырысяткі, іх брацць ні стануць, ніхай трошку пыдгадуюцца. Як цялілыся, драбнотка была цёлычка, а цяперь, глянь-ка, як рузгудувалыся. Драбну́шка дзяўчонка, як і ня зь іхніга роду. Ён жа, знаіш, ікая драбнушка радзіўся, с кулачок таго дзіцёнка було. Памянш.* **драбнушачка.** *Ны зіму ні нада брацць, зь імі зыгарюісься, драбну́шычкі.*

**Драві́на** *ж.* Дровы наогул, адно палена дроў. *Нада клыпаціцца, каб дравіну якую прівезьць, прідзіць зіма, задмець, запрець—зукуку́ісься бяз дроў. Як жа ты дыжываісься, што ў цябе ні дравіны німа ны дваре. Памянш.* **дравінка, дравіначка.** *Січас ты ні пра што ня хочыш думыць, а што ты зыпяеш, як дравінкі ня будзіць у печ укінуць. Во дыжылáся дык дыжылася гыспадыня, дравінычкі ў хаці ні сталыся.*

**Дратвіна** *ж.* Дратва. *Тута крепкыю дрáтвінью прішывацць нада, абы-ікая нітка дзіржаць ня будзіць. Памянш.* **дратвінка.** *Я табе січас дрáтвінку скручу, дык ты прішыіш.*

**Драхценне** *н.* Паўната, рыхласць. *Такоя дряхценьня дужа нікрасіва, ідзець чылавек — толька пыхціць, ня спы́шыцца, ета хворый чым-небудзь.*

**Драхцець** *незак.* Паўнець, грузнець, рабіцца рыхлым.

*Матруніна большыя рана стала дряхцець, глянулі мы ны яе ны свадзьбі: разьдзелылыся, як дрігва.*

**Друбка** *ж.* Драбок, кавалачак. *Було ўремя, што дру́бкі сахыру у вочы ня відзілі. Друбку сухыря пыдзіржа́ла у році, нічога ні хачу есьць. Памянш.* **друбачка.** *Нейдзі дру́бычка сухіх дражджэй вылялыся, калі ня выкінулі куды.*

**Дружацкій** *прым.* Сяброўскі, кампанейскі. *У іх с прошлыга года дру́жыцкія атнашэніі. Ты ні мішайся, тута дру́жыцкыя дзела. Пятрок дужа быў дружыцкій хлопіц, умеў любую кынпанію пыдзьдзіржа́ць.*

**Дружба** *м.* і *ж. жарт.* Дружбак, сябар, кампанейская асоба. *Ну, дру́жба, зайдзім-ка, атмецім, столька мы ня відзіліся! Пятрок быў дружба маім хлопцым. Іван — дружба, ён ні ат якія кынпаніі ні ацстаніць.*

**Дручына** 1 *ж.* Палена, палка. *Вылялыся дрючына пыць сьцяною, мы яе парезылі. Ны яго, каб выпрывіць, дрючы́на нада, мы яго пытхва́тнысьць знаім.* 2 *м.* і *ж. перан. груб.* Неразумная, упартая асоба. *Дрючы́на ты бяспутныя, калі табе ўталку́іш што-небудзь. Памянш.* **дручынка.** *Дрючы́нкі палучыць і асядзіцца, і хмель пройдзіць, і зыдываньня айдзе дзеніцца.*

**Дручыніна** *ж.* Адно палена. *Рыгыза́тыя-рыгызатыя дрючы́ніна ліжала, я яе апсек — с паўвоза дроў. Нашто мне рысказывыць, ці я ні знаю, длі чаго дрючыніна. Павеліч.* **дручынішча.** *Дрючы́нішча каб па ім хадзіла часьцей, а словым — што словым, словым яго ня проймііш.*

**Дрыгала** *м.* і *ж. іран.* Асоба, якая ходзіць з выкрутасамі. *Дры́ґыла Полькін некуды пыцягнуўся,— рысхраньціўся, ці ні зьбіраіцца ў сва́ты. І ў яе тыкая дры́ґыла вырысла, узапрець кублукі па чэцьвірці, ідзець як ны кыстылях — дрыґ-дрыґ — зы работу ўзяцца ня ўмеіць, дайжа хату ні пыдмяцець.*

**Дрыгалы** *мн. груб.* Ногі. *Аткінь дры́ґылы, рыспасьцёрся — ні прайціць. Як зыкалеюць дры́ґылы, тады будзіць знаць, што нада ныдзівацца.*

**Дрыгнуць** *зак.* Дрыжаць ад холаду. *А чаго було дры́гнуць ну буі, ці вам некуды було зайціць пагрецца. Ты ні знаіш, як я дры́гла, тама ні хата, а лядоўня.*

**Дрыпса, дрыпсуля** *звыч. ж.* Няўклюдная, неахайная асоба. *Была ты дріпса і ўсігда будзіш, цябе сам чорт ні пірядзелыіць. І дычка тыкая дріпсу́ля, як матка, як тэй Мікіта вас толька церьпіць. Павеліч.* **дрыпсішча, дрып-**

**сулішча.** *А дріпсішча ты, а што ж ты надзелыла, цяперь ету сарочку ужо нічым ні атмыіш. Дріпсу́лішча ты пасьледнія ў дзярэўні, ныт табою кажный сьмяецца.*

**Дрэнчанне** *н. груб.* Непакой, неспакойныя паводзіны. *Чаго ў табе такоя дрэнчыньня сядзіць? Во дрэнчыньня зывялося, места сабе ніўдзе ні найдзіць.*

**Дубара, дубарам** *прысл.* Адтапырыўшыся. *Пулушубык пад дождж пупаў, скыржанеў, ду́быря стаіць, яго ўжо каб чым ці пымазыў, ці што — пулумаіцца. Ду́бырім рука прівязына у гіпсі, неік аць сябе локыць. Вецір падмець — рубашка ду́бырім.*

**Дубыранне** *н.* Адтапырванне. *Ты шый, каб дубы́ріньня ні було, ато мы знаім тваю работу. Вадою нада папырскыць і прігладзіць, дубы́ріньня ня будзіць.*

**Дубырыцца** *незак.* Адтапырвацца. *Ны табе як ны гырбатым пінжак дубы́ріцца, хто яго так пашыў?*

**Дубэра, дубара** *ж.* Стары гатунак бульбы. *Хто гаворіць дуба́ра, хто дубэра, яе большы дубэра завуць. Дуба́ра цяперь неік вывілыся, а на хутырі толька і сеілі дубару і скырасьпелку, редка ў каго была белыя. Памянш.* **дубэрка, дубарка.** *Сёліта дубэрка ўрадзіла нічога, ні нада богу гряшы́ць. Дуба́рка ціряшчур бу́йныя ні буваіць, ну пут кустом яе ўсігда многа.*

**Дубэрына** *ж.* Адна расліна або плод дубэры. *Сыскабліла нескылька дубэрін, пріставіла гаршчонычык к агню, дубэра цьвірдуватыя. Ета ня розывыя, ета дубэріна, у яе лісьцікі вузейшыя. Памянш.* **дубэрынка.** *Лі мяжы дубэрінкі асталіся ны скырасьпелкі, нада выкыпыць.*

**Дугнуць** *зак.* Спрытна пабегчы (пра вялікую істоту, чалавека). *Жырябок цёрся, цёрся, аброць ськінуў, як ду́гнуў цірізь ячмень, сьлед прулумаў, што нада загре́сьць ды пасеіць, ато плеш будзіць. Ста́рыя карова ўжо ня дугніць.* **Дугнуцца** *зак.* Саскочыць, упасці са значнай вышыні. *С такея высычыны́ ду́гнуўся, як ён толька ног ні пулумаў!*

**Дудара, дударам** *прысл.* Адтапырыўшыся. *Сьперіду нічога, а ны плічах пулушубык пулучыўся ду́дыря. Што ён можыць зьдзелыць, кылі рука ду́дыря стаіць, у гіпсі пыдвязына. Я відзіла, як ён ішоў: ныга неік ду́дырім служыць, ні пряма, а ўбок саўсім ацстаўліна.*

**Дудуканне** *н.* Ціхае перагаворванне. *Вам із-зу дуду́кыньня і печ тапіць некылі. Я іх січас путурю зь іхнім дудукыньнім.*

**Дудуканнік** *м.* Той, хто дудукае. *Вы, як ста́рыя бабы, дуду́кыньнікі, усё новысьці свае пірiка́зывыіця.* **Дудуканніца** *ж. Яны ізьвесныя дуду́кыньніцы, усё шыпатком, каб ніхто ня чуў лухту, што трілю́дзюць адна другой.*

**Дудыранне** *н.* Адтапырванне. *Нада рызгладзіць хырашэнька, тады ня будзіць такога дуды́рiньня.*

**Дудырыць** *незак.* 1. Адтапырваць. *Прівык руку ў бок дуды́ріць, нікрасіва.* 2. Адтапырвацца. *Правыя пылавіна ў тулупі дуды́ріць, саўсім ні пыдыгнана.* **Дудырыцца** *незак.* Адтапырвацца. *Пашыта дренна, паетыму і дудыріцца, ці яго ж ніплахея мысьцярiцы шылі.*

**Дуплё, дупля** *м.* і *ж. абраж.* Недалёкая, неразважлівая асоба, дурань. *Якей жа ты дуплё бізгаловый; нубухторiў у мякіну вады, нашто, каб падумыць. Ні хачу я з дуплём зьвязывыцца, ат яе тады жвя́ньқыньня ні адбяресься. Ду́пля ты, я гывару, ні нада нікуды апхадзіць, там ёсьць кла́дычкі, па іх піряскочыш. Не, з ду́плiю толку ні сыбяреш, ёй нічога ні ўталкуіш.*

**Дупляватый** *прым.* 1. Дуплаваты. *У паньськім саду ліпы былі бальшэнныя дуплюва́тыя, пчолы часта садзіліся роім.* 2 *перан. абраж.* Недалёкі, неразважлівы. *Якей дуплюва́тый чылавек, ты яму гыварі, талкуй, як луччы, а ён сваё творіць. Памянш.* **дупляваценькій.** *Нескылька дуплюва́цінькіх асінык сядзела. Сколька ты ні хвалі, а дуплюва́цінькій дуплювацінькім аста́ніцца. Нейкій ён усё дно як дуплювацінькій: а, а, нічога ні рызьбярецца, што яму талкуіш.*

**Дуплястый** *прым.* Дуплаваты. *Асіну зывалілі, іна ўся дупля́стыя ды самыя макушкі, як іна толька дзіржалыся. Памянш.* **дуплясценькій.** *Дупля́сьцінькій клянок сядзеў кылы ўгла і тэй зрезылі.*

**Дуралей** *м.* і *ж.* Дурань. *Узмацн.* **дуралеіна.** *Я і сыма ні знаю, чаго ён такей дуралеіна урадзіўся. Павеліч.* **дуралеішча.** *І Пылага ні пасьледнія дуралеішча была, усякый лухце веріла, хто што ні зьвярзець.*

**Дуралейскій** *прым.* Неразумны, безразважны. *Ны яго вы́хыдкі дуралейскія мы наглядзіліся большы ні нада. Выкінь ты дуралейскія мысьлі з гылавы.*

**Дуралейства** *н.* Бязглуздзіца, глупства. *Ні гырадзі ты дуралейства, нікога там ні було, можа, сыбака прабег пыд вакном. У яго ўсігда дуралейства на ўме.*

**Дуралея** 1 *ж.* Бязглуздзіца, глупства. *Ён і малый, і бальшэй дуралею тварiў. Дуралею злухця́ць, а ты й слу-*

*хыіш.* 2 *м. і ж.* Дурань. *Кажный відзіць, што ты дуралея. Аттаго дуралея, што чужым розумым жывеш, слухыіш каго пупала.*

**Дур'ё** *н. зб.* Дурні. *Во дурьё бабы, што ні пачуюць, пытхвацюць ны ізыкі, хуць будуць знаць, што ніпраўда, і пашлі лыпытаць.*

**Дурняком** *прысл.* Хітруючы, прытвараючыся. *Ён думыў, дурняком на сьвеці прыжывець, а тута рузумней зы яго найшліся: ідзі-ка ты, хлопіц, работыць.*

**Дуруша, дурнуша** *ж.* Неразумная, легкадумная жанчына. *Во яшчэ была дуру́ша на сьвеці, зь ёю усе слова быяліся скызаць. З дурушыю толку ніхто ні найдзіць, зь ёю век пражыць нада ні абы-якоя цярьпеньня. Як ты з дурнушыю пыталкуіш, ты к ёй пы-харошыму, а йна цябе аблаіць. Памянш.* **дурнушка, дурнушачка.** *Усё-тыкі дурну́шка: я гыварю, як луччы, а йна: чаго ты ні ў сваё дзела лезіш. Дурну́шычка ты, мы хочым, каб табе луччы було, а што ты зы Пітрачонкым вы́гыдыіш.*

**Дуць** *незак.* 1. Дзьмуць. *Цірясь сенцы дуіць сюды здорыва.* 2 *перан. гумар.* Ісці. *Дуй пряма па ржышчу вун на тэя кусты, тама нейкія ціляты хадзілі.* 3 *перан. іран.* Піць. *Часоў сь пяці як селі дуць, у іх там пу бутылкі ны брата выйшла.*

**Дыбалы** *мн. груб.* Ногі. *Пакуля ты сваё ды́былы ўкруціш, пяць разоў можна набуцца і разуцца.*

**Дыбанне** *н.* Няўклюдная хадзьба. *Пулюбуйцісь-ка ны яго ды́быньня, адну нагу пірістaвіць, тады другую цягніць і за стол дзяржыцца, за ножкі.*

**Дыбун** *м.* Кульгавы чалавек або дзіця, якое пачынае хадзіць. *Нешта ты дренна, дыбу́н, чыкільга́іш. Во якей дыбун, ідзець, ідзець, а тады плясь пысярёд мыста. Памянш.* **дыбунок, дыбунчык.** *Хадзі ка мне, дыбунок ма́лінькій, пысядзі ны каленькых. Відзіш, як дыбу́нчык твой крійляіць пы хаці туды-нызад.*

**Дыгалы** *мн. груб.* Ногі. *Ета ж нада, чу́чыла пасьледнія на сьвеці, ды́ґылы выстывіць, думыіць, дужа красіва. Спыднічэнкі во, чэцьвірць, ды́ґылы пызыкалелі, самі пысьсінелі, зато прігожа.*

**Дыгаць** *незак.* Хадзіць, ісці няўклюдна, не згінаючы ног. *Куды ж яму нашы дзеўкі, ні ныравюцца, па горыду зь нейкыю кудрюва́тыю ды́ґыіць пад ручку. Як мне на тую свадзьбу ды́ґыць, ні пайду.*

**Дыхала** *н.* Дых. *Нешта ў грудзях як кылянўла, аж дыхыла зыняло. Пад дыхыла яму як дасьць, ён і пыкаціўся ўверьх тырмашкымі.*

# Е

**Еджаный** *дзеепрым.* Часткова з'едзены, каштаваны. *Вярнуліся мы — нічога ня еджына і ня трогына, як кінулі, так і ляжыць нічыпаныя. Крупеня еджыныя, вун і міска нямытыя стаіць, а бульба ня трогына.*

**Емя** *н.* Яда, ежа. *Во відзіш, ікая я быгачка, сколька бульбы асталыся, тута табе і семя, тута і емя, і пырасёнычык рюхыіць: дай.*

**Енчанне** *н.* Екатанне, стогн. *Ня столька ў цябе тэя болі, сколька енчыньня. А ляжы ўжо моўча зь енчыньнім с тваім!*

**Енчыцца** *незак.* Мучыцца, цярпець пакуты. *С аппечынымі пальцымі будзіш доўга енчыцца. Большы некуды енчылыся, боль пряма нівынасімыя.*

**Еханне** *н.* Язда. *Ідзі ты к чорту с такім ехыньнім, я скарей пяшком дайду. Я знаю, якоя там будзіць ехыньня: дзесіць баб ны калёсы налезіць, што конь ні пыцягніць.*

**Ехаць** *незак. перан.* Распускацца (пра вязаны выраб). *Такея чулкі ня носкія, яны быйстра едуць. Вязёнка ны ладоні едзіць, нада зуцурувáць.*

# Ё

**Ёлачка** *ж. часц. мн.* Хвошч. *Ёлычкі вясною цілятым ірвуць і ігнятым, яны ішчэ ні распўсьцюцца, іх туўкáчыкымі завуць. Па ёлычкых каровы троху наеліся. Адна ёлычка засела пы ўсяму полю, ды гўстыя, густыя.*

**Ёрзала** *м.* і *ж.*, **ёрзаннік** *м.* Той, хто ёрзае. *Другей яшчэ такей самый ёрзыла найшоўся, мінуты ціха ні пысядзіць. Ну, ёрзылы, нада вам спакой даць. Чаго там места німа ёрзыньнікым, ай даўно ремінь па іх хадзіў?* **Ёрзанніца** *ж. Пысядзіця, ёрзыньніцы, ціха, як вас точыць нешта, седні німа ніяк.*

**Ёрзнуць** *зак.* Пачаць ёрзаць. *Ты у мяне ёрзьніш січас, палучыш спакой.* **Ёрзнуцца** *зак.* Ударыцца, упаўшы зверху. *Ладна ёрзнуўся сы йігрушыны ўмесці с сукым. Будзіця лазіць, пакуля ёрзьніціся, тады ні скліміця.*

# Ж

**Жадаванне, жаданне** *н.* Сквапнасць. *Мы такога жа́дывыньня ня відзілі ні разычку. Штоб еткыя жа́дыньня ў чылавека, пряма сам ні знаіць, як ба ён хвытаў, нёс і пёр.*

**Жадавацца, жадацца, жадобнічаць** *незак.* Сквапнічаць. *Каб ні жа́дывылысь хызяйствым, ні выця́гывылыся ў нітку, ато дужа-дужа цяжола. Бязь меры жа́дыюцца, хвытаюць, вылаку́юць, у іх ужо грошы, наверна, двацдыць тысіч на кніжкых, ны кажныга запісына. Ні жадобнічый, у цябе грошы хваціць і дзіцям, ні спыжывуюць.*

**Жадзіна** *м.* і *ж.* Асоба, празмерна сквапная. *Матка туруватыя, а дычка жадзіна. Узмацн.* **жаднюга.** *Ні разу б ні падумыў, што Антоныў сын будзіць такей жаднюга. Ты тыкая самыя жаднюга, як твыя матка была, усе вы адзіна́кывыя, у вас зімою сьнегу ня выпрысіш. Павеліч.* **жаднішча.** *У каго ты жа́днішча такей удаўся, у вашым жа радý жадных дужа ні було.*

**Жадоба** 1 *ж.* Сквапнасць. *Калі ўжо уелыся ў чылавека жадоба, толку ня жджы.* 2 *м.* і *ж.* Асоба, празмерна сквапная. *Узмацн.* **жадобіна.** *С такім жадобіныю іціць куды стыдна, ён зы капейку бучу узьніміць. Павеліч.* **жадобішча.** *Я пыглядзела, ікая іна жадобішча, ськібычку хлеба атрезыць трясецца.*

**Жалабіна** *ж.* Выемка, упадзіна, жолаб. *Во нейкыя жылабіна-тыкі ёсьць. Жылабіна, як карыта, нада було даўжэйшыю дзюўбаць. Памянш.* **жалабінка, жалабіначка.** *Ёсьць жылабінка, ды трошку зумува́іцца. Жылабінка ў зубі вышчырбілыся, будзіць балець. Саб'ю жылабінку з достык, ладна будзіць. Мост нада каб быў роўный, хуць ма́ліңькыя жылабінычка, а ўжо дренна. Відзіш, жылабінычка заметна на вока.*

**Жалабіць, жалабіцца** *незак.* Выгінацца. *Ны гародзі пілілі вялікім пастом, восім калод руспусьцілі, піліць нада ўмець, каб ні жылабіла піла, дзяржыш бокым,— к вечыру абамлелі мае рукі, лёг я, ні пашоў вячэріць. Як скрівіш пілу, тады іна ўсігда будзіць жылабіцца, ні атрежыш нічога роўна, а ў лес с такою пілою лучны і ня ехыць.*

**Жалабшчык** *м.* Той, хто скардзіцца. *Як бігаць, бігаць пірід абедым жа́лыбшчыкі ка мне: цётка Ганна, а ваш Мішка шапкі адбіраіць.* **Жалабшчыца** *ж.* *Хто вам тама*

*што надзелыў, жа́лыбшчыцы ўзяліся. Ні люблю я такіх жалыбшчыц, самі схадзіліся, самі і рызьбірайціся.*

**Жалельшчык, жаленнік** *м.* Той, хто выказвае шкадаванне. *Канешня, жалельшчык сь цябе ніплахей, ты німала каго пыжалей,— ты пасьледнію рубашку гатоў ш чылавека сыдрацъ. Як сабе што нада, тады яны ўсе дужа харошыя жаленьнікі, а як што даць, тады ў іх нічога німа, гылышом галюткія стыяць.* **Жалельшчыца, жаленніца** *ж. Ізыком іна жалельшчыца луччы некуды, а во схадзі пыпрасі пяцёрку да вечыра, пычанець: ай, німа, яй-богычку ж ба дыла, німа. Яны ўсе жаленьніцы адзінакывыя, зы каторыю ні хвацісь, нубушма́цюць і тады яны дужа хырашы.*

**Жаленне** *н.* Шкадаванне. *Хто іхныга жаленьня ні знаіць, яны тады жалеюць, як чуствыюць, што пылыта́цца чым-небудзь можна.*

**Жалецца** *незак.* Абдымацца, бурна выражаць пачуцці. *Ого, як вы крепінька жалеіціся сь цёткыю! Ну хваціць жалецца, садзісь-ка ты за стол.*

**Жамануцца** *зак.* 1. Ціскануцца. *Пацягні-ка кряпчэй зы задоўку, воз ішчэ жыманецца.* 2 *перан.* Неадольна захацецца. *Ім куды як жыманецца, ны вярёўкых ня ўдзержыш. Ці я ні знаю, чаго ён ходзіць лісіцыю: жыманўлыся купіць бутылычку.*

**Жаненне** *н.* Жаніцьба. *Як аччытаю бакі, ён і пры жаненьня забудзіцца, такей-то мыладэй. А йдзі ты сы сваім жаненьнім, жаніся, кылі дужа прісьпічыла, пысьмяшы́ людзей.*

**Жаненнік** *м.* Той, хто хоча ажаніцца. *Каб ажаніў хырашэнька вожкымі жаненьніка таго, ён ба забыў дуры: цірізь нядзелю у армію, а ён жонку прівылакець.*

**Жаніхайла** *м. іран.* Той, хто доўга збіраецца жаніцца, хлопец у гадах, які заляцаецца да дзяўчат. *Як вам ня стыдна, жыніха́йлы, дзяўчоньік прізмушча́ць, ці яны вам роўныя!*

**Жарабцаванне** *н. асудж.* Гультаяванне, распуснасць. *Выгыняць нада жырібцува́ньня, іна́чы саўсім збыся́тнічыіць, чылавекым ня будзіць, хуць і січас якей зь яго чылавек.*

**Жарабцаваць, жарабцавацца** *незак. асудж.* Гультаяваць, распуснічаць. *Жырібцува́лі тут цэлыя лета, пraхоaу ні було. Што ж яны дзелыюць, жырябцўюць, больш*

*нічога. Я за іх вазьмуся, я іх атучу́ жырібцува́цца, у мяне як мініенькія возьмуцца зы работу.*

**Жарабятнік** *м.* Воўк, які палюе за жарабятамі. *Раншы у нас кругом былі лясы, вяліся жырібя́тнікі, то там то там, пачуіш, зарезылі жырябёнка.*

**Жарабятня** *ж.* 1. Хлеў для ўтрымання жарабят. *Раншы жырібя́тні былі, ды вайны, як коні многа було, а цяперь іх ня строюць, коні мала, усё машыны і машыны.* 2 *перан.* Вялікая недагледжаная хата. *Нашто вы сабе ны дваіх такую жырібятню рызьвялі, хто ў ёй жыць будзіць, яе ж толька вымыць сіла нада.*

**Жарануцца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Сам пынызгыридзіў, сам упацёмкых і жырянесься аб ета гыраджэньня.*

**Жардзей** *м. абраж.* Празмерна высокі чалавек. *Урадзіўся жардзей, па ком ён толька рос. Усё тэй жардзей зысыжанскій зь ёю хадзіў, пакуля пріжы́ў дзіцёнка.*

**Жаўлачча, жаўлаччо** *н. зб.* Жаўлакі. *У яе ў дзеўкых було нейкыя жыўла́чча пы ліцу, а тады прайшло замужым. Ат прастуды жыўлаччо пы ўсяму целу. На левый наге вы́сыпыла жыўлаччо.*

**Жаўтавіцца** *незак.* Фарбавацца ў жоўты колер. *Белыя ска́цірсьці кыла жоўтых пасьцілык жуўта́вюцца, нейкыя краска была някрепкыя.*

**Жаўтачка** *м.* Малярыя. *Жыўта́чкі нейдзі пытхваціў, сколька ні лячыўся, куды ня кідыўся, нічога ні пымагло. Жуўтачка уелыся, косіць іх пыдря́д.*

**Жаўтляк** *м. абраж.* Худы, змізарнелы чалавек. *Вы́прывілыся некуды сы сваім жыўтляком. Так і пірідай таму жыўтляку́, што ніхай ні дыжыда́іць асобыга прігілашэнія.* **Жаўтлячка** *ж. Адз злосьці, ат ненывісьці стала жыўтля́чкыю, іна толька адну сябе любіць, і то раз у год.*

**Жданнё** *н.* Чаканне. *Пыдыждаць ба можна, толька ці будзіць толк зь етыга ждыньня́. Нічога ім тоя жданьнё ні дало.*

**Жмаць** *незак.* Ціснуць. *Дура́чыюцца, балыюцца, жмуць адзін другога. Баціінкі крепкія, ну левый трошку жмець.* **Жмацца** *незак.* Ціснуцца. *У тэй аўтобусік жма́ліся, ён ма́лінькій, ня ўбіцца було, я за дною ка́плію ні асталыся.*

**Жмут** *м.* Скрутак. *Тріп'я́ жмут ляжыць у сенцых, як будзіць тря́пышнік езьдзіць, здадзім, можа, ў яго ніткі ладныя будуць ці платочык якей. Памянш.* **жмуток, жмуцік, жмуточак.** *Жмуткоў травы ныбра́ла, ныбрала і аба-*

*ткнула пацстрешша. Во такей во жмўцік скруціў, гаворіць, гатова. Я відзіла тэй жмуточык, дык ці ета ж ба хто падумыў, што там грошы.*

**Жога** *ж.* Пякотка. *Другей год жога, што ня зьем, гаріць і гаріць, толька ат малошныга нічога.*

**Жраннё** *н. груб.* 1. Яда, ежа. *Яны ныбралі жрыньня́ на троя судык, ні гылыдалі. Жраньнё ёсьць і сядзі, якога табе рыжна́ нада.* 2. Працэс прыняцця ежы. *Во жраньнё, што аж зы кайнерь цякець!*

**Журжа** *ж.* Мажная непаседлівая жанчына. *Узноў пы хатых пыляцела жўржа, на месьці ёй нійдзе ні сядзіцца. Успакой ты сваю журжу, ніхай трошку уніміць язык. Павеліч.* **журжышча.** *Адна зьехыла, другая жўржышча на зьмену ёй зыявілыся.*

**Жуханне** *н.* Рэзкае кіданне, скідванне, ліццё. *Ні хачу глядзець ны такоя жўхыньня. Ну к чаму ета жухыньня, пызальлеш усё, пад мост пыцякець, будзіць прець, гнісьць.*

**Жуханнік** *м.* Той, хто кідае, скідвае, лье. *Ты асцярожна, жўхыньнік, кідай, ато жухніш каму ны гылаву.* **Жуханніца** *ж. Рызыйшлася жўхыньніца, пырядык наводзіць, зь відра жух у вугыл, пыцякло пы шпалерых.*

**Жухаць** *незак.* Рэзка кідаць, ліць. *Куды пупала жўхыіць, як у яго вачэй німа. Нада акуратней ліць, а ня жухыць як зря.* **Жухацца** *незак.* Падаць. *Ты глянь, што яны зьдзелылі с крышыю: на вільчык узьлезуць, сыдзяцца і едуць, а тады жўхыюцца ны зямлю, разьезьдзілі увесь бок.* **Жухнуць** *зак.* 1. Упасці, зваліцца, пасыпацца. *Як жўхніць са стога, чуць ні на вілкі, яны саўсім рядым стыялі. Мяшок зываліўся ны скамейкі, ячмень і жухнуў ны зямлю,— пацьсеіла.* 2. Лінуць. *Кружка быльшая, як жухнуў на печку, мы як боб пасыпыліся с пылка.* 3. Ударыць. *Мятлою ціряс плечы як жўхніць яго: во я табе пыкажу, як трілюду перць ны чылавека.* **Жухнуцца** *зак.* 1. Упасці, зваліцца, пасыпацца. *Цігалі, цігалі кулі на крышу, а ён пывярнуўся бокым, туўханўў, і яны жўхнуліся нызад. Сам ідзі скарей, як жухніцца ны цябе крыша, прідавіць.* 2. Лінуцца, паліцца. *Кіпяток жухнуўся, во каб на ногі!* 3. Ударыцца ўпаўшы. *Будзіш так поўзьць і жухнісься с сука. Глядзі, жухнісься с хаты, ны ражэньні рёбры пулумаіш.*

**Жыгун** *м.* Балаўнік, распуснік. *Пынас усё хваліў: мае харошыя мальчыкі, трошку ба́лыўныя, а яны такея жы-*

*гуны, шкура на іх гарела. Памянш.* **жыгунок, жыгунчык.** *Жыгунок ён у цябе ўдайся, ні прідўмыць, у каго пашоў. Што яны жыгўнчыкі, я знаю, на тоя ж ты і бацька, каб унімаць. Цяперь ён совісный стаў, а малый первый жыгўнчык быў.*

**Жыло** *н.* 1. Жыццё. 2. Жыллё, прытулак. *Нада пра нейкыя жыло думыць. Што ж мы тады, астáліся пірідзь зімою на чыстым полі, пашлі ў Рылыўшчыну, а за лета с трудом пыпылáм субугорілі сабе жыло тута.*

**Жыраватый** *прым.* Тлусты, з праслойкамі тлушчу. *Сёлітнія жырувáтыя мяса, у нас такога ніхто ня любіць. Жыруватыя кырывáціна, ёсьць тоўстыя слаі жыру.*

**Жырастый** *прым.* Укормлены, тлусты. *Нідаўна яны забілі кыбына, дужа быў жы́рістый, сала чэцьвірцю ні схваціш. Ён змалку у вы́гыдзі жыў, пріехыў раскормліный, жы́рістый, на ём сала таго, хуць пылысáмі дзярі.*

**Жыта** *н.* Жыта. *Памянш.* **жытцо, жыцечка.** *Дажджы праходзюць і цёпла, і пу бугурках жыццо бярецца. Нейкыя зіма сёліта бяспўтныя, худзь ба жыцічка ні тмякла. Жыцічка сёліта, слава богу, урадзіла дужа хырашо. Павеліч.* **жыцішча.** *Во гываріліі, што тута сеіць дайжа ня стоіць, нічога ня будзіць, а яно якоя жы́цішча ўзялося, сярпом ні сьцягнўць.*

**Жыханне** *н.* Шмыганне. *Ты тут первый раз, табе ўсё ў нывіну́, а я ны Мархвіна жы́хыньня нагледзілыся, ці ні пяць гадоў пыдряд віджу.*

**Жыхаць** *незак.* Шмыгаць. *Ай, ныдаелі яны тута, кыла вілык жы́хыюць, глядзі, успоріцца каторый, атвядзі ты іх ґ гумну, ніхай там займўцца.* **Жыхнуць** *зак.* Шмыгнуць. *Ён у мяне лі рук жы́хнуў, як міціёр, я дайжа агледзіцца ні пасьпела. За ім глядзі і ня згледзіш, жыхніць і німа.*

**Жыцелка** *ж.* Жанчына са слабым здароўем. *Я тыкая жы́цілка, што сяньня хаджу, а нызаўтріга з ног звалюся, буду кычацца, як гылавешка. Ці ты ня відзіш, якея з нас жыцілкі.*

**Жыціна** 1 *ж.* Адно сцябло жыта. *Па ўсу кой-айдзе там жы́ціна, там тарчыць, вісокія вы́гнулі. Жыціну пы жыціні вырвуць і вырвуць, я на іх нысварілыся.* 2 *н. зніж.* Жыта наогул. *Калі ў зямлю ўкінуў жы́ціна, нешта ж будзіць. Жы́ціна тога ў мяне столька, паўклўмычкі асталыся. Край жы́ціна так стулувáлі, тама ні жаць, а толька скасіць касою.*

# З

**Заайкаць** *зак.* Заенчыць. *Як пыдзяржу ў руках, ты ныпраўду тады зыайкыіш. Прібеглі, глянулі, зыайкылі, а што ж ты зьдзелыіш, нічога ні паможыш.*

**Заартамоніць, заартамоніцца, заартамоннічаць** *зак.* Зазявацца, разгубіцца. *Яны знаюць, як зь ім апхадзіцца: пычанўць шпыряць са ўсіх бакоў, ён зразу і зыартамоніць, а ім толька ета і нада. Хырашэнька крікні, яны зыартамоніліся, што хут ты стріляй кыла іх — ні пачуюць. Будзіця во так хлынкыць туды-ызад і зыартамоньнічыіця, а тады ўсьлед дыгыняць прідзіцца.*

**Забабухаць** *зак.* 1. Важка загрукатаць (пра гарматныя стрэлы, выбухі). *Сьпірва лі Дубровы стрілялі, а тады ў тым баку зыбабўхылі, страшна було ўсім.* 2 *перан.* Глыбока закапаць, забіць. *Зыбабўхылі саху большы як на метыр, камель сукувáтый, іна за сто гадоў ні сыгніець. Зыбабухыў туды дайжа ня гвозд, а пряма нейкій штырь, ці ня рог зь вілык.*

**Забазарыць** *зак. неадабр.* Загалдзець. *Сыйшліся, зыбызáрілі тама, ні паймеш, хто што трілюдзіць. Ну какешня, зыбызаріла ваша нявестка, луччы яе ніхто ня умеіць, ету ўсюдых пачуіш.* **Забазарыцца** *зак.* Забалбатацца. *Як зыбызáрюцца, дык хуць стріляй,—ні пачуюць.*

**Забалакаць** *зак.* Загаварыць павольна, няспешна. *Я думыю, паехылі, а яны ўзноў зыбылáкылі, ніяк рысстряцца ня могуць, хуць рызвадзі іх.* **Забалакацца** *зак.* Загаварыцца павольна, няспешна. *Як зыбылáкыліся, і кароў прагледзілі, і цямнець пычало, праўда, мыя сыма прішла, стаіць і мікыіць: аччыняй.*

**Забаламуціцца** *зак.* 1. Пайсці няўлад (пра жыццё). *Што ў іх зыбыламўцілыся, іна ува ўсём вінувата, талковыя баба нывіла б пырядык.* 2. Павесці сябе асуджальна. *Як сам дзіржаўся, у іх ладна жызінь ішла, а як зыбыламўціўся, яно й пулучылыся так.*

**Забаліваць** *незак.* Захворваць. *Як гылыва зыбáліць, ня едзь у лес, ныйпачы січас рузвулнувáўшы. Анька ішчэ сыма нічога ня чўствывыла, а мы ўжо замецілі, што іна зыбáлівыіць.*

**Забалматаць** *зак.* Забалбатаць. *Будзіш ты ўсё слухыць, ён січас яшчэ зыбалмочыць, дужа нада табе ета. Нешта зыбылмытáў і пашоў: ні пы яго пулучылыся.* **Забалматацца** *зак.* Забалбатацца, загаварыцца. *Як зы-*

*балмочуцца, ім нічога тады на вум ня йдзець. Зыбылмыта́лыся і на ўсё забыла, во ізыкі бабскія, хуць урізай.*

**Забарабаніць** *зак.* Пачаць грукаць. *Як зыбырыба́ніць у дзьвері, я ўжо думыла, тама нівісь што.* 2 *перан. жарт.* Занесці. *Яго доўга упра́шывыць ні нада, скажы — і ён у мінуту зыбырыба́ніць тваю цубулю, пуслухмя́ный хлапчынка.* 3 *перан.* Пачаць шпарка гаварыць. *Яны ўдзьвюх як зыбырыбанюць, зь імі чорт ні згаворіцца. Чаго ён там зыбырыбаніў, што яму ні так скызалі?*

**Забараніць** *зак. жарт.* Абараніць. *Не ўжо, на етый раз цябе ніхто ні зыбароніць, палучыш ты на ўсю катушку. Каб лідагоськія хлопцы ні зыбыранілі яго, ні знаю, чым ба там кончылыся.*

**Забараняльнік, забараняннік, забараняльшчык** *м.* Той, хто забараняе. *Ны твайго зыбырыня́льніка ніхто ўніманія ні абрышча́іць, ці ён гаворіць што, ці не. Дужа вас многа ўсюдых, зыбырыня́ньнікыў, каб вас троху меншы, куды б луччы було. Мушчыны вязуць тылакою Дзянісу бярьвеньня ны хату, тэй выскычыў, стаў: я вам зыбырыня́ю сюда везьцьl—а Іпат плячом аттаўкнýў етыга зыбырыня́льшчыка, і пывязьлі бярьвеньня. Аткуля ты, такей зыбырыняльшчык, мы еткіх даўно ня відзілі.* **Забараняльніца, забараняннiца, забараняльшчыца** *ж. Ідзі ты ўжо, йдзі, зыбырыня́льніца, ты тута рызьбіра́ісься, як сьвіньня ў пяріных, што ім сказына, то яны й дзелыюць. Прілітаіць Ільлёва зыбырыня́ньніца: я вам тута ні дам езьдзіць, я тута зыгыраджу́, я тута пірікыпа́ю, а ны яе ніхто і ўніманія ні абрасьціў. Нашто табе ўмешывыцца, зыбырыня́льшчыца: зыбыраню́, зыбыраню,— іх дзела мыладоя, ім жыць, а ні табе, хлопіц ён ніплахей, пыныра́віліся адзін другому — ніхай сходзюцца, ні мішайся. Ніхто пры вашу зыбырыня́льшчыцу дайжа ня думыіць.*

**Забарона** *м.* і *ж. звыч. жарт.* Абаронца, заступнік. *Пятрок надзеіцца на цесьця, ета ўся яго зыбарона. Цяперя ён сьмел, найшоў сабе зыбарону: сільчаным бутылку га́рі пыставіў.*

**Забароншчык** *м.* 1. Той, хто забараняе. *Такея-то мне зыбароншчыкі найшліся, дужа я стану іх прізнывацъ.* 2. Абаронца, заступнік. *Я нікога ні быялыся і ні баюся, мне зыбароншчыкі ні нада былі раншы, і цяперя я ў іх ні нуждаюся.* **Забароншчыца** *ж. А якея ў цябе ў самой тута правы, што ты ўзілася, тыкая зыбароншчыца? Ня*

*тую ты вы́брыў сабе зыбаронншчыцу, ня ўмеіш ты выбіраць.*

**Забарсень** *м. перан. абраж.* Няўдаліца, няўмека. *І тэй ішчэ за́бырсінь сюды лезіць, сядзеў ба ўжо, рот сышчапіўшы. Адны забырсьні сыбра́ліся, як чучылы, ні вічарінка, а ніізьвесна што.*

**Забарсыванне** *н.* Уцягванне аборы ў лапаць. *А ну цябе с такім зыба́рсывыньнім, дывай я, скарей будзіць, ато к вечыру ні пыўцягніш.*

**Забарсываннік** *м.* Той, хто ўцягвае аборы ў лапці. *Ні на шутку ўзяўся зыба́рсывыньнік, скора лапці будуць гатовы.* **Забарсываннiца** *ж. Сь цябе і прядзеньніца харошыя, і зыба́рсывыньніца нядренныя.*

**Забарсываць** *незак.* Уцягваць аборы ў лапці. *Бувала, станіш зыба́рсывыць лапці, а аборы ірвуцца, самі вілі, а нам жа було па шэсьць гадкоў.* **Забарсываный, забарсаный** *дзеепрым. Што ты гаворіш зыбырса́ны, яны ж саўсім ні зыба́рсывыны, дайжа аборіна адна толька ляжыць. Зыбарсыныя лапці рызбырса́іш, аборінкі ўсігда нада. Кылі лапці зыбырсаны, ні баімся мы паноў.*

**Забарстваваць** *зак.* Пачаць жыць прывольна, бесклапотна. *Твой вярнуўся, цяперя ты ўзноў зыба́рствыіш. Ні заві́дывый, ня дужа іна зыба́рствывыла і прі мужуку́.*

**Забаўлянне** *н.* Забаўка. *Такоя зубуўля́ньня ні дывядзець ды дыбра, гнітанецца дзіцёнык на́ўзныч сьпінкыю і астаніцца калекыю на ўсю жысьць.*

**Забедавацца** *зак.* Нагаравацца. *Зыбідува́лыся, чаго яны ня пішуць, паехылі, німа і німа нічога, каб што дренныя ні було.*

**Забел** *м.* Заправа, забелка. *Чым большы забелу, тым смашней ва́ріва. Адз забелу ніхто кріві́цца ні станіць.*

**Забіджанне** *н.* Крыўда. *Што там ты скажыш, многа зыбіджа́ньня Анька цярьпела. А ні було там ніякыга зыбіджаньня, ніхай ні пріду́мывыюць, ета ім гываріць нечыга.*

**Забіджаць** *незак.* Моцна крыўдзіць. *Ён яе зыбіджа́ў, усігда зыбіджаў, ета йна нема як рыба, ні прыгывaрілыся нікому ні разу.* **Забідзець** *зак.* Моцна пакрыўдзіць. *Ай, ніпраўда, ну як іна ўжо забідзіла, яны праўду скызалі, што нілізя так пуступаць.* **Забіджаный** *дзеепрым. Мархва сябе забіджыныю ні шчытаіць. Ні такей ты ўжо забіджыный, як табе здаецца.*

**Забілябеніць** *зак. неадабр.* Забалбатаць без сэнсу і

разумення. *Што ён зыбілябеніў, што ён знаіць, ты во пычынай ат Туўкачывыя лужы і адзін за дным ішлі аборычкі: Віктырыва лужа ны Мікіціхіным, Мільяныва лужа ны Мархвуціным, Аўдакімыва лужа на Дукывым, Антоныва лужа ны Ільлёвым, тут Кыбанова лужа, а за Хведзькіныю банію Кыбаноў лажок,— усьцяж пу зугуменьню.*

**Забіраннік** *м.* Той, хто забірае. *Ён у мяне зыбярець лазобку, іш ты яго, зыбіраньнік найшоўся, длі яго тута ставілі.* **Забіранніца** *ж. Ня дужа хто прізнаець такую зыбіраньніцу, ты йдзі ў свайго брацца зыбярі, кылі дужа сьмела.*

**Забіраць** *незак. перан.* Пачынаць узмацняцца. *Як пад'ем, часы два нічога, а тады зыбіраіць, зыбіраіць, як різанець боль — ета язва жалудка.* **Забраць** *зак.* Узмацніцца. *Другей раз як зыбярець пуд грудзямі, хуць ґвалту крічы. Нямнога й выпіў, а яго крепка зыбрала, язык, як тряпышка, зыхадзіў.*

**Заблуд** *м.* Ачмурэнне. *Іду і пряма заблуд нейкій ны мяне ныпаў, кажыцца, знакомыя дарожка — і ні рызьбяруся, куды йду.*

**Заблуканяцца** *зак.* Пачаць гультаяваць. *Саўсім зублукуняліся, усё лета яны паліц ап паліц ні ўдарілі, ну доўга ім ну дурняк жыць ні ўдасца, прідзіцца пру кусок хлеба падумыць.*

**Заблямкаць** *зак.* Забразгаць. *Ета дзітвыра там, дзелыць нечыга, узноў нейкім жылізяччым зыблямкылі ны дваре.* **Заблямкацца** *зак.* Завазіцца бразгаючы. *Зыблямкыўся ж жалезьзім, што й ня чуіць, як абедыць заву. Чаго яны лі таго жалезьзя зыблямкыліся?*

**Забойный** *прым.* Вельмі буйны (пра дождж). *Гуркі пупалі пыдз забойный дождж, ня ўсходзюць, пробывыла рыскалупывыць: сідзяць сагнутыя, жоўтыя, ня могуць прабіцца. Забойныя дажджы усяму ўредны.*

**Заборына** *ж.* Дэталь агароджы, плота. *Заборіны ны дваре выляюцца, нада пыпіліць. Кылі хвачў заборіну, дык ты ў мяне будзіш ляцець, ні глідаючыся, жаніх такей. Памянш.* **заборынка.** *А вун заборінкі, прібіць нада, ніхай ні выляюцца.*

**Забраджаный, забрадзеный, забратый** *дзеепрым.* Узяты. *Не, ты ўжо і ня думый, што зыбраджыныя верніш. Столька сек, трі кучычкі нылажыў, і ўсе трі зыбрадзіны. Носіцца з зыбратымі тряпкымі, як яму ня стыдна. Зы-*

*братыга ён табе ні аддасьць, дайжа ні надзейся. Зыбратый скот рявець у пуні.*

**Забражыць, забражыцца** *зак.* Закіснуць, забрадзіць. *Твае ягыды тута зыбра́жылі, ужо кіслым пахнуць. Яблыкі як зыбражыюць, дык нічога, я дайжа люблю такея. Квасу надзелыіць, ён зыбра́жыцца, тады сядзіць ды пыпіва́іць, што яму, піньсіянер.*

**Забразкаць, забразкатаць, забразкацець** *зак.* 1. Забразгаць. *Жалезьзім як зыбря́зкыюць, ажно зьвініць у вушах. Вот-вот Андрей пыдбягіць, зыбрязкочыць у дзьвері, я па ўремю чуствыю. Сяньня дужа рана зыбрізкацелі кыла пунь, рана паехылі.* 2 *перан. неадабр.* Пачаць балбатаць. *Узноў зыбря́зкылі, лухту нясуць і нясуць адна другой, кажный божжый дзень ат раньня да вечыра треплюцца. Мала ім с таго прібу́дзіць, калі яны пра Польку зыбрязкочуць — пыбрязкочуць і ўнімуцца. Як сыйшліся, так і зыбрізкацелі, німа ім ні ўніму, ні спакою, тылыла́хкыньня адуріла.* **Забразкацца, забразкатацца** *зак.* 1. Заняцца бразганнем. *Ты зыбря́зкыісься пыдзь дзьвірямі, і яны ні пачуюць. Заснулі, ня чуюць і ня чуюць, дык ён саўсім зыбрізкыта́ўся.* 2 *перан.* Забалбатацца. *Як зыбрязкыюцца, дык ба цэлый дзень стыялі і ні рысхадзіліся. Зыбрізкыта́лыся, забыла, што ў печы гаріць, во ўжо натура!*

**Забрудзянець, забрудзянецца** *зак.* Зрабіцца брудным. *Ікая зь яе хызяйка, грязну́ля з грязнуль, у яе ўсё зыкарела й зубрудзянела, іна і сыма гря́зьзю зуплула́. Настолька ўсё зубрудзянелыся, што я ні знаю, калі там можна дамыцца і нейкій пырядык навесьць хут троху.* **Забрудзянелый** *дзеепрым. У цябе ж усё зубрудзянелыя, дайжа рубашкі чылавечыскія зьмяніцца німа, атряха ты, сы трях атряха. Куды ты такей зубрудзянелый пойдзіш?*

**Забрудзяніць** *зак.* 1. Зрабіцца брудным. *Рубашка ўся зубрудзя́ніла, што ні дамыцца за дзьве нядзелі. Як зубрудзя́ніць усё, мыю, мыю, ат рук ацста́ну.* 2. Зрабіць брудным. *Ты зубрудзя́ніў свой касьцюм, што ён і ны касьцюм ні пахож, саўсім, як анучa.* **Забрудзяніцца** *зак.* Зрабіцца брудным. *Ідзі скарей у баню вымыйся, ты зубрудзя́ніўся, што ны цябе глядзець нілізя. У цябе зы нядзелю штаны зубрудзя́ніюцца, кылі так увы ўсякыю грязь ныдзіва́ць будзіш.* **Забрудзяненый** *дзеепрым. Рубашка тыкая зубрудзя́ніныя, што яе ніхто ні атмыіць.*

*Сам грязный, адзежа зубрудзяніныя, як саўсім біс прігляду жывець.*

**Забрузнуць** *зак. груб.* Апухнуць. *Жрець ды сьпіць, большы нічога ні знаіць, ужо вочы ац сну забрю́зьлі, прамыць некылі.*

**Забрусянець, забрусянецца** *зак.* Апухнуць. *Ня жджы, пакуля ўсё зубрусянеіць, зьезьдзі січас ґ доктыру. Шчыка адз зубоў зубрусянела, што глядзець страшна. Рука зубрусянелыся ат пліча да локця. А есьлі і зубрусянеіцца, што я зьдзелыю.* **Забрусянелый, забрусянеўшый** *дзеепрым. Пальцы зьверьху зубрусянелыя: ці рожа, ці так прастуда ікая-то. Ны такую зубрусянелыю нагу ня дужа пыдбяреш уссу́нуць што. Нагу разьбіў на нейкыю прытырча́ку, ідна, грязь пупала, калена зубрусянеўшыя, сінія, ажно глядзець страшна.*

**Забрыкаць** *зак.* Пачаць бегаць, насіцца, падскакваць. *Каб коні забры́кылі, аўса ім нада. Цялёнка толька ў поля пусьці, ён забры́кыіць скора, ня то што ў пуні дзіржаць.*

**Забрыляць** *зак.* Забаранаваць абы-як. *Якоя там було скыраджэньня, зыбрыля́лі пы вярьху, а пычалі пыхаць пад бульбу — зімля кускамі варочыіцца.* **Забрыляный** *дзеепрым. Разьві ж тут скароджына, троху зыбрыля́на, як бяз рук нехта дзелыў. Ат логу пахыта трошку зыбрыля́ныя, а к верьху дайжа разу быраною ні праехына.*

**Забрынець, забрынецца, забрыняць** *зак.* Пачаць кіснуць. *Капуста як зыбрынеіць, нісмашна, ня кісла і ні салодка, жджы, пакуль брыд сойдзіць. Я ня жду, пакуль капуста пракісніць, троху зыбрынеіцца, і я варю. Я крышку пыдніла — тама ўжо ладна зыбрыняла, брыд ажно ў вочы б'ець.* **Забрынелый** *дзеепрым. Зыбрынелыю ні нада трогыць, як ладна паткісьніць, тады бярі.*

**Забубнець** *зак. перан. неадабр.* Забурчаць. *Зубубнеў нешта сабе пад нос і пывалокся з двыра — асоба тыкаято важныя, каб хадзілі піряд ім на цыпычкых.* **Забубнецца** *зак.* Празмерна разбурчацца. *Айдзе тэя крючкі, сам куды-небудзь сунуў і ні найдзіць, ён зубубнеўся за́ дзінь.*

**Забудзька** *м.* і *ж. жарт.* Забыўчывая асоба. *Во якей ты ў мяне забу́дзька, ну ўспомні-ка, успомні, айдзе ты клаў вязёнычкі. Што ты хвалісься, ты ўсігда была забудзькыю.*

**Забузаніваць** *незак.* 1. Заношваць, забруджваць. *Ах, як ты нічога ні бірягеш, усё зубуза́нівыіш! 2 перан.* За-

тузваць здзекамі і прыніжэннем чалавечай годнасці. *Зубузáнівыюць мушчыну, чаго ён маўчыць ім?* **Забузанівацца** *незак.* Заношвацца, забруджвацца. *Чаго ж ня будзіць зубузáнівыцца, калі ні біряжеш нісколька.* **Забузаніць** *зак.* 1. Занасіць, забрудзіць. *Табе нічога нілізя дываць новыга, хадзі ў старье ў лапліным, чысьцінькыю рубашку зубузáніў, як тряпку.* 2 *перан.* Затузаць здзекамі і прыніжэннем чалавечай годнасці. *Такім толька пупадзіся ны язык, любога зубузанюць, кырявей анучы сатрýць.* **Забузаніцца** *зак.* Занасіцца, забрудзіцца. *Табе б ету жылетку памыць нада, іна зубузáнілыся, што ажно блішчыць ад грязі.* **Забузаненый** *дзеепрым.* 1. Заношаны, забруджаны. *Ні кідай зубузаніныя курткі ш чыстыю адзёжыю, яе нада апскрібаць і апчышчаць.* 2 *перан.* Затузаны. *Іван у яе усігда быў зубузáніный, іна толька сябе прізнаець.*

**Забузіць** *зак. жарт.* Пачаць шумець, буяніць. *Ого, як ты зубузіў, дзеда зу вусы́ цігаць гатоў. Як зубузілі, дык було ні пуцступáйся к ім.*

**Забузовываць** *незак.* Заношваць, забруджваць. *Дужа ні зубузовывый новый пулушубык.* **Забузовывацца** *незак.* Заношвацца, забруджвацца. *Глядзі, каб ні зубузовывылыся куртычка.* **Забузаваць** *зак.* 1. Занасіць, забрудзіць. *Што ны яго ні напрі, зы нядзелю зубузýіць, любая адзежына станіць, як тряпка. Пулушубкі зубузувáлі, што іх толька выкінуць.* 2 *перан.* Затузаць канчаткова. *Зубузувáлі чылавека, што, па-іхніму, ён капейкі ні варт.* **Забузавацца** *зак.* 1. Занасіцца, забрудзіцца. *Новінькія штаны ў цябе зубузуваліся, што толька ны анучы пусьціць. Зубузувáўся лі погріба, пакуля клáдзі міняў, грязь ручуя́мі плувець.* 2 *перан.* Празмерна стаміцца. *Сяньня мы так зубузуваліся лі пнёў, што чуць жывыя двору прішлі.* **Забузава́ный** *дзеепрым.* 1. Заношаны, забруджаны. *Куртычка ўся чыста зубузувáна, усё дно як у сыбакі ў зубах пыбыла. Куды ты на людзі ету кухвайку ныдзіваіш, іна зубузувана хужы некуды.* 2 *перан.* Празмерна стомлены. *Пріехылі зубузуваныя, коні рыспряглі, пусьцілі і скарей спаць.*

**Забузянець, забузянецца** *зак.* 1. Зарасці пустазеллем (пра пасевы). *Нада прырвáць ячмень січас, зубузяней, у ім травішчы, травішчы, скора саўсім у яго ня ўлезіш. Зубузянеліся гряды, трыва гудзíць.* 2. Змяшацца з пустазеллем (пра насенне). *Зубузянела жыта, відзіш, сколь-*

*ка тут сьміцьця́, чуць ні ныпылавіну зь зірня́тымі. Пышаніца мыя зубузянелыся саўсім, нада пыміняць, ат яе сьміцьця і ні аччы́сьціш, і ні атвеіш.* **Забузянелый** *дзеепрым. У харошыя хызяйкі гряды зубузянелыя ня будуць, іна найдзіць уремя і вы́пылыць, і прырваць, айдзе густа.*

**Забузяніць** *зак.* 1. Зарасці пустазеллем (пра пасевы). *Гряды тває зубузя́нілі, што ня відна ні гуркоў, ні морквы, ні цубулі — нічога.* 2. Змяшаць з пустазеллем (пра насенне). *Чыстыю, пацьсеіныю пышанічку і так вы зубузя́нілі!* **Забузяніцца** *зак.* 1. Зарасці пустазеллем (пра пасевы). *Кылі дапусьціш пасевы зубузя́ніцца, прыпа́шчыя дзела, ня хлеба нымалоціш, а травы.* 2. Змяшацца з пустазеллем (пра насенне). *Ячмень зубузяніўся, пырасёнку зьмялю.* **Забузяненый** *дзеепрым. З зубузя́ніныга поля хлеба ні ныясі. Іравэя нічога, чыстыя, а жыта зубузяніныя, большы яго сеіць ня будуць, прівязьлі нейкій новый сорт, зірняты буйныя, ка́ліва ў каліва.*

**Забуйтавацца** *зак.* Празмерна стаміцца, прыкладаючы вялікія намаганні. *Мы так сяньня зубуйтува́ліся ў лесі, што пріехылі, ні рукою ні нагою шывяльнуць ня можым. Другей раз так зубуйтўісься лі скыта́, што чуць жывэй двору пріцягнісься.*

**Забуранне, забурыванне** *н.,* **забурка** *ж.,* **забур** *м. жарт.* 1. Заправа. *Ложка зубуря́ньня ні зыпра́ва, ты ладна ліні. Ні хачу я такога забу́рівыньня, луччы ты саўсім ня лі. Усё вун забу́рівыньня ў лыханку́, лінеш і ладна будзіць, там яго пыря́дышныга. Ікая с сы́ўрыдкі забурка, ты сьмітаны хырашэнька ліні, ні жалей, дык зьесьць будзіць ґ душэ. Ці ў цябе рукі ні туды служуць, уся забу́рка ў залу́.* 2. Запраўлянне. *Ты ны яго зубуряньня пыглядзі, відзіш, сколька асталыся, я ж табе гываріла: ні вылівай усяго. Пусьці-ка ты з забу́рым сы сваім, аддай дзяўчонкі, іна луччы зьдзелыіць.*

**Забурацъ** I *незак.* Абрушваць, валіць. *Ня с тога вы боку ўзяліся зубуря́ць.* **Забурацца** *незак.* Абрушвацца, валіцца. *Я ўжо думыў, тута ўсё зубуря́іцца.* **Забуромшы** *дзеепрысл. Зубурёмшы такога здурувуна́, можна гогылім хадзіць. Мы ішлі, глядзім, што тама за куча, а ета Іваныва баня зубурёмшы,— во дастоіла.*

**Забураць** II *незак.* Запраўляць. *Зубуря́й быракі ды пыбягім скарей, мы і так самыя пасьледнія асталіся.* **Забурацца** *незак.* Запраўляцца. *Ат мылыка трошку зубуря́іцца, смашней, як лінеш.* **Забурыць** *зак.* Заправіць.

*Сырыквашы ў капусту лінула, зубуріла, іна смашнейшыя будзіць.* **Забурыцца** *зак.* Заправіцца. *Нічога, трошку зубурілыся і ладна, зьядуць, дзеці капусту любюць.* **Забуромшы** *дзеепрысл. Сколька ні зубурёмшы, а ўсё ахатней ядуць.*

**Забурбулець, забурбулецца** *зак.* Забурліць, закіпець. *Нідаўна прістáвіла чугунок, а ён ужо зубурбулеў, ну б́ярёзывыя дровы дужа жаркія. Дыстывай, абоя гаршчонычкі зубурбулеліся, табе кіпятку хваціць ікраз на ўвесь твой посыд.*

**Забурлець** *зак.* 1. Забурліць, закіпець. *Ну, раз забурлела, дыстывай, гатова. Такей атліў дождж, што па вуліцы выда зубурлела.* 2 *перан.* Захваляваца. *Як скызалі, што Сярьгея ставюць брігадзірым, дзяреўня зубурлела: нет, такога ня будзіць,— і ні стаў.*

**Забурэцца** *зак.* Пачаць бурэць, пабурэць. *Жыра як ударіць, жыта забуреіцца раншы ўремя, тады харошыга зірна ня будзіць.*

**Забухаць** *зак.* 1. Пачаць страляць, грукаць. *Пад лесым як забýхылі с арудзій, мы думылі, січас пы насударюць і канец нам.* 2 *перан.* Закапаць вельмі глыбока, убіць вельмі моцна. *Забýхылі шула чуць ні ны два метры; нашто ўжо так глубока зыкапывыць, ці яно паверніцца.* 3. Пачаць моцна кашляць. *У яго лёхкія някрепкія, трошку прісты́ніць — і забухыў. Як забухыіць, усё дно як у грудзях у яго ірьвецца.* 4 *перан.* Стаміць. *Вазы бальшэнныя, так забухылі коні, што яны чуць-чуць даклы́пылі, каб яшчэ вёрст пяць, і нучувацъ ба прішлося.* **Забухацца** *зак.* 1. Закашляцца. *З бальнымі лёхкімі як забухыіцца, чуць аддышыцца.* 2 *перан.* Вельмі стаміцца. *Ты думыіш, мы меншы забухыліся — мокра, грязна, а нада пыдняць ды пыдняць, паспробуй, пытапчыся так цэлый дзень.*

**Забухікаць, забухукаць** *зак.* Пачаць моцна кашляць. *Ветрым яго чуць апхваціць і зубухікыў. Якей сь цябе жыціль, трошку веціp вяйнець і ўжо зубухікыў. Яны зубухукылі, што цэлыю ноч самі ні спалі і ні дывалі мне заснуць.* **Забухікацца, забухукацца** *зак.* Моцна закашляцца. *Тама пыл стаўбом, мінутку пыстыялі і зубухікыліся. Ну што ты зубухýкыўся, як старэй, баню прукурі, вы́пырься, піріпацей і ўсё як рукою зьніміць.*

**Забухцець** *зак.* 1. Забрадзіць з шумам (пра цеста, брагу). *Цеста хырашо зубухцела, пірагі далжны смаш-*

*ныя пулучыцца. Брага зубухцела, ува ўсю работыіць.* 2. Запухнуць ад вільгаці. *Дзьверi зубухцелі і ні зычыняюцца, і цісаць ба ні хацелыся, вы́сыхнуць — тады дзіржацца ні势 станyць.* **Забухцецца** *зак.* Запухнуць ад вільгаці. *Вароты с суруватыга зьдзелыны, зубухцеліся, што ні ўшчыняюцца, а калі ўшчыніш, то ні аччыніш саўсім, так во і гарюю зь імі каторыя ўремя.*

**Забухціць** *зак. неадабр.* Пачаць бурчаць, бубнець. *Мала што ён зубухціць, ты зыпрігай і едзь, што йта ён спруўляў калёсы, ці, можа, бацька яго.*

**Забушмаціць** *зак.* 1. Пачаць гаварыць пустое. *Я доўга кыла іх ні пірясўшывыўся, ён зубушма́ціў нейкыю лухту, я й пашоў.* 2. Загаварыць, задурыць. *Ты тама глядзі, варон ні лаві, ато адны зубушма́цюць цябе нарошня, а другея калёсы аббяруць.*

**Забыўчыватый** *прым.* Забыўчывы. *Ай, нейкыя я стала забы́ўчывытыя, што хто скажыць, трошку прайду і забыла, пра што ета мне гыварілі. Брацць ён помніць, аддывацць тольки забыўчывытый.*

**Забязножыць** *зак.* Захварэць на ногі. *Хужы німа як зыбязножыіш у старысьці, тады ўжо горя — большыга горя і ні шукай. Я была зыбязножыла, цэлыю зіму ні мыгла нуступіць, паўзком, паўзком усюдых, ета цяперь трошку рысхадзілыся.*

**Забялянне, забеліванне** *н.* 1. Малочная заправа ў страве. *Во яно зыбіля́ньня, у аббіцічку. Забелівыньня у латычкі ну тубурецiку, увальлеш, як троху пыкіпя́ць быракі.* 2. Запраўлянне. *Крупеню кылі варіш, с адным мылаком нада варіць, ато чарку мылыка лінула — і ўсё яе зыбіля́ньня. Атыйдзі ты ат печы з забелівыньнім, ніхай матка сыма увальлець.*

**Забяляный** *дзеепрым.* 1. Запраўлены малаком. 2 *жарт.* Светлавалосы, белы. *Бягі ўжо, бягі к свайму зыбіля́ныму, ён даўно цябе прыжда́ўся. Як увідзіць сваю зыбіляныю, аж рыстаець.*

**Забясхлебіць, забясхлебіцца** *зак.* Застацца без хлеба. *Нічога я табе ні пымагу, Настычка, мы сяньня самі зыбясхлебілі, нада думыць, як да горыда дыбіра́цца. Што ж ета ты зыбясхлебілыся, кылі ня хочыш куплёныга, рышчыніла б ны пару булычык свайго.*

**Завадзіць, завадзіцца** *зак.* Зрабіцца перашкодай. *Яму што як зыва́дзіць, тады толку ня жджы, будзіць хадзіць, скулець, ныдыіда́ць — ні аччэпісься. Цёлычка*

*Сярьгею дужа зывáдзілыся: пывядзём, прыдадзім, січас грошы харошыя будуць,— я знаю, чаго йна яму зывáдзілыся.*

**Заважджыванне** *н.* Прывязванне лейцаў да аброці запрэжанага каня. *Якоя ж ета зываждҗывыньня, кылі вожка ні дзяржыцца, я пыцягнуў — іна й атвізалыся.*

**Заважджываць** *незак.* Прывязваць лейцы да аброці запрэжанага каня. *Такей бальшун, а кыня ні наўчыцца зываждҗывыць.* **Заважджаць** *зак.* Прывязаць лейцы да аброці запрэжанага каня. *Слаба зывыжджаў, зь левыга боку вожка атвізалыся, а жарёбка мылыдая, і пышла гуляць, добря, што хуць на куст узьбіў.* **Заважджаный** *дзеепрым.* З прывязанымі лейцамі (пра каня). *Я ж сам зываждҗывыў, пяць мінут таму нызад конь стыяў зывыжджáный, айдзе ж вожкі дзеліся?*

**Завазголіваць** *незак.* Замазваць, вымазваць. *Ахотычка ж табе новыю адзежыну зывазґолівыць, іна ж ба ніхай пра людзі астывалыся, пра горыд.* **Завазголівацца** *незак.* Замазвацца, вымазвацца. *Малыя па дзесіць разоў у дзень зывазґолівыіцца, я ёй мыць ні спруўляюся.* **Завазголіць** *зак.* Замазаць, вымазаць. *Зывазґоліць яны ў мінуту могуць, каб ны работу такея скорыя былі. У бульбу увесь чыста перід зывазґоліла.* **Завазголіцца** *зак.* Замазацца, вымазацца. *Вазьмі ацьцягні мáлыга ад бульбы, ён ужо і так зывазґоліўся большы некуды. Аднае мала, дык і ты яшчэ хочыш зывазґоліцца.* **Завазголеный** *дзеепрым. Зыйшла я ў хату, ён сядзіць лі шайкі, увесь вымызыный, зывазґоліный і сьмяецца. Ты каб толька глянула, як яны былі зывазґоліны.*

**Завазгравіць** *зак.* Запэцкаць, замазаць. *Ні ныдзівай ты ім чыстыга, яны цірізь мінуту ўсё зывызґрявюць. Ты мне толька новінькія штонікі зывызґряў, тады луччы ў хату ні пыказывыйся.* **Завазгравіцца** *зак.* Запэцкацца, замазацца. *Зуб гаріць туды, а туды ня пусьцюць, каб узноў па вушы зывызґрявіцца.* **Завазграўленый** *дзеепрым. Усю вун адзёжу зывызґряўлінью ў начоўкі ўтапіла, пымікаіць троху ды нада з мылым ацьцерць.*

**Завала** *м.* і *ж.* Завала, гультай. *Узмацн.* **заваліна, завалюга.** *У каго ён, такей зывáліна, пашоў, у раду, кажыцца, усе прыцаўнэя былі, а ён з гультаёў гультай удаўся. Тыкая зывалю́га зьдзелылыся, спала б дзень, і спала, і спала. Павеліч.* **завалішча.** *У мяне свой быў зывáлішча ні пасьледній, знаю, як такога прітўркыць.*

**Завалаводзіць** *зак.* Замучыць цяганінай. *Як зывылаводзілі мяне с тымі бумагымі, дык я думыў, саўсім нічога ня будзіць.* **Завалаводзіцца** *зак.* Замучыцца цяганінай. *Ты сам вінуват, усігда зывылаводзісься, а тады пычынаіш войкыць, што ўремя ні асталыся.*

**Завалантырыць, завалантырыцца** *зак.* Завазіцца і пратэрмінаваць. *Сьпірва яны самі нарошня зывылантыріді, а посьлі ўжо некыму було умішацца. Мы с хатыю зывылантыріліся, урeмя ўпусьцілі, а ў пустэй сьлед што дзелыць — хужы німа.*

**Завалачыць** *зак.* Забаранаваць пасеянае. *Раз пасеіна, то і зывылачыць нада, ня кініш жа так. Ты атвечыра пасей, я пріганю парку і зывылачў.* **Завалачыцца** *зак.* Забаранавацца (пра пасеянае). *Калі ў зямлю ўкініш, як-небудзь зывалочыцца, ні астаніцца ліжаць паверьх.* **Завалочаный** *дзеепрым.* *Чаго ты рыссыкытáлыся, ячмень твой даўно зывалочын. Саўсім нікудышна зывалочына, я б такім вылачэньнікым рукі пыпірібіваў ба.* **Завалачомшы** *дзеепрысл.* *Зывылачомшы, нада будзіць у лаўку зьбегыць.*

**Завалэндацца** *зак.* Заленавацца, замарудзіць. *Чаго вы зывалэндыліся, січас кажныя мінута дырыгая, выседжывыцца некылі.*

**Заваратка, заварацьь** *ж.* Круты паварот. *З возым ны зáвырыткі, глядзі, астарожна, ён вісока нырклáджын і можыць пірядок са шморіна сыскачыць, калі крута паверніш. Конь рызыгнаўся ны зáвырыці, а дарога сьлізкыя, сані ны ўхаб і нá бык, мы й пасыпыліся ў сьнег, як бульба. Мы іх дыгналі ўжо лі завырыці.*

**Заварачыванне** *н.* 1. Заварочванне. *А ну цябе с такім зывырáчывыньнім, нада ныпярёд забежч, а ты ўбок гоніш.* 2. Укручванне. *Якоя ета зывырачывыньня, ныкымкáла і ладна, па-твойму.*

**Заварзёкываць** *незак.* Замазваць. *Ахота ж табе зываpзёкывыць путнўю адзежыну, прібярёг ба, ніхай ба чыстыя к празьніку была.* **Заварзёкывацца** *незак.* Замазвацца. *Нечыга зыварзёкывыцца, адна я зы вамі ні намыюся і ні ныпрібірáюся.* **Заварзёкаць** *зак.* Замазаць. *Ты сваімі чобытымі толька мост зываpзёкыіш, ідзі ат'етуль.* **Заварзёкацца** *зак.* Замазацца. *Мы тама як зываpзёкыліся лі посыду, пакуль атмыліся, і йціць ужо некылі.* **Заварзёканый** *дзеепрым.* *Ты ўжо хуць зываpзёкыный хвартук ня прі умесьці ш чыстыю адзёжыю.*

**Заварзёпываць** *незак.* Замазваць, вымазваць. *Нашто ж ты чыстыю адзёжыну зыварзёпывыіш, як тряпку, дзелыіш?* **Заварзёпывацца** *незак.* Замазвацца, вымазвацца. *Чаго ты палезіш туды зыварзёпывыцца, тама ў гліну выданыцікла́, ні пралезьць.* **Заварзёпаць, заварзёпкаць** *зак.* Замазаць, вымазаць. *Увесь посыд зыварзёпылі і кінулі. Сам зыварзёпкыў, сам ніхай і атмува́іць, мне некылі за ім пымінутна зь вехцім хадзіць.* **Заварзёпацца, заварзёпкацца** *зак.* Замазацца, вымазацца. *Айдзе ж ты етык зыварзёпыўся? Пашлі ў пуню, зыварзёпкыліся, чаго було туды лезьць бясь сьвету?* **Заварзёпаный, заварзёпканый** *дзеепрым.* *Іўляіцца ўся зыварзёпыныя, атмувайця яе. Учора была куртычка чысьцінькыя, акуратнінькыя, а сяньня гляджу — зыварзёпкыныя ляжыць.*

**Завашапрудзіцца** *зак. іран.* Пачаць задавацца, вычвараць. *Дужа быльшая важнысьць, кылі яны ды зывышапру́дзюцца, іх ніхто ні прізнывáў і прізнываць ня хочыць.*

**Заверабеніць** *зак.* Затараторыць, пачаць гаварыць вельмі шпарка. *Падбегла, як зывірябеніла, як зыбылбыта́ла, мы пуўчыса ні маглі рызыбрацца, што ёй нада.*

**Заверзць** *зак. неадабр.* Пачаць гаварыць пустое. *Ня лезь ты к яму з рызгаворым, толька троніш — зывярзець пустату, ні піряслухыіш.*

**Завесіна** *ж.* Завеса. *Нейкія завесіны я нідаўна ны бані відзіў, можа, ета тэя самыя, што ты іскаў. Памянш.* **завесінка.** *Ніжнія завесінка сыржа́віла і атвалілыся, на дной ряма ня будзіць дзіржацца.*

**Завіда** 1 *ж.* Зайздрасць. *Ну чужоя у вас усігда завіды многа було.* 2 *м.* і *ж.* Зайздроснік. *Ня будзь завідыю, нада сваё нубува́ць, а ні ну чужоя зыріцца. Завідым ні разу свайго ні хвытаіць, усё чужоя вочы коліць.*

**Завіднік** *м.* Зайздроснік. *Ні прідумыю, па кім ты ўдаўся такей завіднік. Вы ўсігда былі завіднікымі, усё вам чужоя було смашна.* **Завідніца** *ж.* *І пляменьніца тыкая самыя завідніца, як цётка. Чаго вам, завідніцы, ні хвытаіць, што яшчэ нада?*

**Завіднічаць** *незак.* Зайздросціць. *А што ж ба вы думылі, жыць мы ня ўмеім ці што, нам ішчэ і ні так будуць завіднічыць.*

**Завідный** *прым.* 1. Зайздросны. *Ты такей самый завідный, як твой бацька быў.* 2. Такі, які выклікае зайздрасць. *Ета карова завідныя, зы яе семсот вочы заплюсь-*

*ні і аддывай, луччыя ты ні найдзіш, пыглядзі, вымя якоя і трецьцім целім.*

**Завільготываць** *зак.* Пачаць жыць бесклапотна. *Яны доўга ждалі етых пірявы́бырыў, цяперя зывільготыюць, конь у іх у руках будзіць усігда.*

**Завінацца** *незак.* Затрымліваціца. *Схадзіць, канешня, схадзіця, толька доўга ні зывіна́йціся, у дваре работы па горла.* **Завінуцца** *зак.* Затрымацца. *Мы тама ні сядзелі, мы адну мінутку зывіну́ліся. Ціляты зывіну́цца у лашчынкі, тама харошый дзя́цільнік засеў, ніхай пускубу́ць.*

**Завірыдаваць, завірыдавацца** *зак.* Пачаць самаўпраўнічаць. *Яму толька дупусьці узяць уласьць у рукі, ён уго як зывіріду́іць. Так ужо зывірідува́ліся, ніякыга успыкаенія німа ім, усё б, кажыцца, зыгряблі.*

**Завіскатаць** *зак.* 1. Запішчаць. *Я чула, нешта сьвіньні зывіскыта́лі, ну хто ж ба мог падумыць, што воўк днём прідзіць хвытаць сьвіньней. 2 перан.* Пачаць крычаць, шумець. *Во, доўга ма́лым зывіскыта́ць, і пабіцца могуць, і будуць рігытаць — віскыта́ць.*

**Завісь** *ж.* Усё тое, што вісіць у выглядзе мярэжкаў. *Ініі асеў, ікая за́вісь красівыя ны бярёзках, пруцікі пывагнуліся, як узоры. У яе ў хаці прібрана, у задній за́вісь па сьценых, кружывы.*

**Завогірнічаць** *зак.* Заганарыцца, зафанабэрыцца. *Яны цяперя сталі саўсім сымыстыяцільныя, завоґірнічылі. Што ты завоґірнічыў, цябе ішчэ мала пра́знуюць.*

**Завозчык** *м.* Завознік. *Ету ноч многа завошчыкаў нучувала. Былі тама знакомыя завошчыкі, і маю клу́мку піріпусьцілі.* **Завозчыца** *ж. Я сваю завошчыцу ішчэ ўвечыры сыбрала. Відзіла: і Гапкіна завошчыца тама тарчыць.*

**Завугнявіць, завугнявіцца** *зак.* Загаварыць гугнява. *Пріпрецца січас, зувугня́віць: а мяне ні туды ысадзілі, ня ў той тарелкі пыда́лі,— ныдыя́длыя баба. Ты яшчэ тут зувугня́ўся, цябе ня чулі.*

**Завухаць, завухкаць** *зак.* Зарохкаць спуджана. *Кыбанчыкі даўно заву́хылі, ім зымішаць нада, ужо абеды ны дваре. Выйдзі-ка ты зірні, чаго там пырысяты заву́хкылі, ці ні сыбака якей чужэй гыняіць.* **Завухацца, завухкацца** *зак.* Нарохкацца спуджана. *Пацьсьвінык заву́хыўся ўжо, а ты ўсё ня корміш, каб цябе так пыдзіржаў галодныю, што б ты скызала. Мішай, мішай, дос тріло́-*

*ды пірілівацъ с пустога ў парожнія, сьвінка завўхкылыся, ня ейшы, аж сьцяну грызець.*

**Завылангацца** *зак.* Разленавацца. *Сяньня ты нешта зывылынѓа́йся, нада б яшчэ нямнога пыка́шывыць, пагода дужа гадзіць.*

**Завыцца** *зак.* Наплакацца горка і няўцешна. *Асталыся адна, цяперя ёй хуць завы́йся. Завыцца нада — такоя горя пірyцерьпіць.*

**Завэдзгывацъ** *незак.* Вымазваць. *Пірістань завэдзгывыць лайкі, січас я цябе успакою. Ні завэдзгывый пулушубык кыла пнёў, што-небудзь ста́рінькыя ўзьдзень.* **Завэдзгывацца** *незак.* Вымазвацца. *А што ж ты зьдзелыіш, кылі завэдзгывыіцца, ён жа саўсім крошышный.* **Завэдзгацца** *зак.* Вымазацца. *Ня лезь ішчэ ты сюда, ніхай ужо я адзін завэдзгыйся, а то яшчэ і цябе атмувай.*

**Завэрзывацъ** *незак.* Вымазвацъ. *Глядзі, штоб большы нічога ні завэрзывый, ато вун ны масту пысаджу і еж, як пырасёнычык.* **Завэрзывацца** *незак.* Вымазвацца. *Ужо большы некуды завэрзывыцца, як ён учора к вечыру пришой, верна, усёю кымпаніію па лужых лазілі цэлый дзень.* **Завэрзацъ** *зак.* Вымазацъ. *Увесь мост куры ныгамі завэрзылі, чаго ты іх палкыю ня гоніш ач шайкі.* **Завэрзацца** *зак.* Вымазацца. *І нада ж прідумыць так завэрзыцца, ета ж каб хацеў, дык так ня вымыжысься з гылавы да ног.* **Завэрзаный** *дзеепрым. Завэрзыныя, зыгря́зьніныя прішлі, зь іх цякло і плуло с абоіх, я ажно зы гылаву хвацілыся.*

**Завядзіцъ** *зак.* Завадзіць. *Чаго табе етыя бярёзкі зыв́ядзілі, яны сідзяць і нікога ні чыпаюць. Я знаю, табе калі што зыв́ядзіиць, то ўжо ні ацстаніш.*

**Завякацъ** *зак.* Пачаць выкрыкваць. *Глянь, чаго ён зывякый, каб пыд бірьвяно ні пупай. Нехта зывякый, мы чулі, у Рывах, разы чатырі крікнуй, а тады ня чуць і ня чуць.*

**Завяхацъ, завяхкацъ** *зак.* 1. Заяхкаць (пра сабаку). *Пу кустах сыбака зывя́хый, відна, пыдняй зайца, ды сьціх, знаць, пыціряй. Пынасый сыбака зывя́хкый, у нашыга голыс грубейшый.* 2 *перан. груб.* Пачаць крычаць, гаварыць пустое. *Ніхай на нохыць што-небудзь пачуюць, січас зывя́хыюць, усё дно як ніізьвесна што сытварілыся. Яны зывяхкылі, што Пітрачонык жэніцца, ды ня тую бярець, каго яны намецілі.*

**Загавар** *м.* 1. Замова. *Ні за́гывыр нада, а ў бальніцу*

*скарей вязі, г доктыру.* 2. Загавор. *Ета проця цябе яны загывыр гатовюць.*

**Загаварыванне** *н.* Замова. *Ат твайго зыгывáрівыньня толку, што ат кызла мылыка, ці ты пашэпчыш, ці не — адно будзіць.*

**Загагатацца** *зак.* Гучна зарагатаць. *Усе, сколька там було, зыгыгытáліся, як яны пычáлі свае арцікýлы пыкызывыць.*

**Загагуля** *ж.* Загагуліна. *Зыгагýля нейкыя тут тарчыць, сьцяшы яе. Ні работа ета, са ўсіх бакоў зыгагулі. Памянш.* **загагулька.** *Ач чаго тута зыгагýлькі, я ні знаю.*

**Загадаваный** *дзеепрым. перан.* Закормлены, вырашчаны ў прыглядзе. *Яны зугудувáныя, у вы́гыдзі расьлі, у іх камінныя здароўя. Што ёй атходзіць, змáлку зугудувáныя.*

**Загадкі** *мн. перан.* Недагаворанасць, двухсэнсавасць. *У яго ны кажным слові зáгыдкі, як хочыш, так і пынімай. Ты нешта ўсігда зáгыдкымі гаворіш.*

**Загайкаць** *зак.* Загалёкаць, закрычаць. *Мы йшлі пряма і пряма, а яны ўжо вун айдзе зыгáйкылі, крічы, каб варочыліся.*

**Загакаць** *зак.* 1. Загрукаць (пра стрэлы, выбухі). *Мы ўнізу сядзім пад берігым, а ціріз нас як зыгáкылі зы ряку, во страху було. Уго, як тама крепка зыгакыла, ажно зімля трясецца.* 2 *перан.* Забіць, загнаць у зямлю. *Так ужо крепка кольля зыгáкыў, верна, па метру ў зямлю зыгнаў, ні падрыюць.* **Загаканый** *дзеепрым.* Моцна, глыбока ўбіты. *Такей штырь зыгáкын, яго ніякыю сілыю ня вы́рьвіш.*

**Загаладаваць, загаладаць** *зак.* Пачаць галадаць. *Тады выпыў ніўрыжáй, дык зугулудувáў народ, мы самі с трудом пірібівáліся, і з грячыхі хлеб пяклі, і альняноя семя варілі. Во будзіш так тунýцца і зыгылыдáіш, яйбогу, зыгылыдаіш, дзядзька цябе большы сныбжáць ня будзіць.*

**Загалдзець, загалдзіць** *зак. неадабр.* Загаварыць адначасова. *Кучыю як зыгалдзелі, тырырáм зьдзелылі, слова яму скызаць ні далі. Як сыбяруцца, так і зыгылдзяць. Ні було тама мяне, я б ім пыкызаў, у мяне б яны зыгалдзілі ды ўняліся б ціріз мінуту.*

**Загалузаваць, загалузіць, загалузіцца, загалузнічаць, загалузнічацца** *зак.* Пачаць балавацца. *Таго зыгалýзывылі, што ты ўніманія на іх ні абрышчаіш, нада, каб яны*

*бацькыву руку пыстаянна чуствывылі. Ты, маліц, зыгалузій, цябе нада ўнімаць, ежылі ты сам ня ўніміська. Ты ў мяне ціряшчур зыгалўзійся, табе ўспыкаеньня харошыя нада. Чуць толька вожкі атпусьцій, волю дай, яны і зыгалўзьнічыюць, іх у строґысьці нада дзіржаць кажныю мінуту. Што ты зыгалўзьнічылыся, матку ня хочыш слухыць, стыдна такой дзяўчонкі бáлывыцца.*

**Загаманіць** *зак.* 1. Пачаць размову. 2. Загаварыць, заняць размовамі. *Мне ж даўно нада бежч двору, а ты мяне зыгыманіла і зыгыманіла. Ты астарожній, ні рытазейнічый, ато могуць нарошня зыгыманіць.*

**Загамзаць, загамзіць, загэмзаць** *зак.* Змяць, занасіць (звыч. пра адзенне). *Зыгымзáць адзёжыну лёхка, ціжалей спрáвіць, а пра ета вы саўсім ня хочыця думыць. Трі разы зьезьдзій у лес, пулушўбык зыгамзій чыстый, а ў цябе ж быў старейшый. Пыглядзі, сам пыглядзі ны свае валінкі, айдзе ты іх загэмзыў так, што іх ня чысьціць, а толька выкінуць.* **Загамзацца, загамзіцца, загэмзацца** *зак.* Змяцца, занасіцца. *Калі ні бярежч, любая ныпрятка зыгымзáіцца, вы ўсякім дзелі нада акуратній апхадзіцца. Кылі ў бяспутных руках, усё зыгамзіцца, а ты ж ба, як людзі: зьдзей, вытріс дый акуратнінька павесій. Ну, у пуні, канешня, ня чыста, алі ж нада акуратній глядзець, ато загэмзыйся, хуць у атмочку цябе кладзі.* **Загамзаный, загамжоный, загэмзаный** *дзеепрым. У горыд зыгымзáный касьцюм ні ныдзівай, ці ў цябе німа чысьцейшыга нічога. Як такую зыгамжоныю куртычку на плечы надзець! А чаго ў цябе ірьмяк такей загэмзыный, ці ты ў грязі айдзе кычаўся ў ём? Кывалеры зыявіліся — рубашкі загэмзыныя, любуйціся.*

**Загараваццa** *зак.* Забедавацца. *Блыгыдыря богу, што матка сыгласілыся паможч ды пад'ехыла, адна ж ба я зугурювáлыся з мáлымі. Ня хочыця слухыць — зыгарюіціся.*

**Загардабычыцца** *зак. іран.* Заганарыцца, заўпарціцца. *Ну дык што, есьлі твой Валодзька зыгырдабычыўся, мы яго піріпрашывыць ня пойдзім.*

**Загарнываць** *незак.* Загортваць, абгортваць. *Бягі скарей, кышні, куры капусту зыгáрныюць. Акуратнінька рядкі зыгáрнывый, каб роўнінька зімля лажылыся. Хырашэнька дзіцёнка зыгáрнывыйця, вецір дужа резкій, а ён слáбінік саўсім.* **Загарнывацца** *незак.* Загортвацца, абгортвацца. *Аць сьцяны глядзі, каб дужа ні зыгáрнывы-*

*лыся сьмяцьцё ў чыстую просу, тады нáныва пірічышчáй. Січас ня дужа цёпла, зыгáрнывыйся луччы, прыхвáціць ветрым і будзіш склімець.*

**Загарцаць, загарцаваць** *зак. неадабр.* Пачаць гойсаць, насіцца, сваволіць. *Толька я з двыра, яны і зыгырцáлі, прібягіш з работы, тута ўсё пыраськідына, пырызвылáкывына, німа на іх бацькі харошыга. Відзіш, як зугурцувáлі, чаму ты ня крікніш на іх. Як я пыдзяржу вас у руках, большы вы ні зыгарцýіця.*

**Загваздаць, загваздзіць, загвэздаць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Ета ж нада так зыгвыздáць навюсінькыю кохтычку, чаго ты ў ёй лезла ў ямку. Айдзе ты ўвесь рукаў зыгвазьдзíў у дзёгыць, што яму цяперя зьдзелыіш, новый пінжачок і нікуды ні надзеніш. Вярёўкі загвэздыў, пінжачок загвэздыў, ці ты па бульбі пы якой тоўчыный кычаўся, ці айдзе ты так вы́мызыўся.* **Загваздацца, загвэздацца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Аднаго мала, дык і другей сýніцца сюды зыгвыздáцца, чаго ты тут ня відзіў. Учора прішоў грязный, як чорт з балота, і сяньня якуюнебудзь пролыбку найдзіць, загвэздыіцца.* **Загвазданый, загвэзданый** *дзеепрым. Ці скрябі, ці ні скрябі, а ўжо з зыгвыздáныга новыга табе ня будзіць, нада було глядзець, куды лезіш. Знаць, у нейкыя цеста кохтычка загвэздына. Гляджу, што йта на ём, а ета ўвесь перід у дзёгыць загвэздын.*

**Загламаздаць** *зак.* Заплесці абы-як. *Нада хут троху зыглымыздáць карзінку, пакуль спляцеш новыя, бульбу не ўвы шта вы́кыпыць.* **Загламаздацца** *зак.* Заплесціся абы-як. *Як зыглымыздáлыся, так і ладна, дужа будзіш да цýґу карзінку дывадзіць.* **Загламазданый** *дзеепрым. Троху зыглымыздáна і ладна, ціпляты меншы лезьць будуць. І праўда, што зыглымыздáный, што йта зы работа.*

**Загламаздзіць** *зак.* Загрувасціць. *Такей раскошный двор, а ўвесь зыглымазьдзілі, нійдзе ні пыкласьць нічога, ні пывярнуцца нілізя.* **Загламаздзіцца** *зак.* Загрувасціцца. *Ты так заглымазьдзíўся, што к табе і праходу німа.* **Загламазджоный, загламозджаный** *дзеепрым. Пунька меншыя так зыглымажджона, што туды ня ўлезьць. Зыгламожджыны сенцы, доступу ні к чому німа, што прібраць нада, а што саўсім выкінуць.*

**Заглуздзіць** *зак.* 1. Пачаць гаварыць пустое. *Ды я ўжо чую, пра што ён зуглузьдзíў, ён пыхвастыцца любіць.* 2. Задурыць балбатнёй. *Са ўсіх бакоў апкружы́лі, зуглузь-*

*дзілі Сахрона, што ён гатоў быў усе грошы аддаць.* **Заглуздзіцца** *зак.* Задурыцца. *Я неік зуглузьдзіўся, стаю і ні знаю, чаго я сюды ішоў. Мы абоя зуглузьдзіліся саўсім.*

**Заглумачываць** *незак.* Ачмураць, задурваць. *Ён адзін зуглума́чывыіць за́ дзінь большы, як якіх пяціра, такей ніспакойный дзіцёнык.* **Заглумачывацца** *незак.* Ачмурацца, задурвацца. *Чаго мне туды йыціць зуглума́чывыцца, луччы я сыма сабе гаршчонычык прістаўлю, зварю і гылыва будзіць спакойна.* **Заглумачыць** *зак.* Ачмурыць, задурыць. *Іньціресна було глядзець, як Пынасывы хлопцы зуглума́чылі Максіма, во хохыту було. Не, ня думыйця, мяне вам зуглумачыць ні ўдасца.* **Заглумачыцца** *зак.* Ачмурыцца, задурыцца. *Другей раз як зуглума́чыцца, дык зь ёю ні найціць ні пыціряць. Я саўсім зуглума́чылыся ціразь етых гасьцей.* **Заглумачаный** *дзеепрым. Ён усігда ходзіць, як нейкій зуглума́чыный. Ну ці ты зуглумачыныя, што табе ніяк ні ўталкуіш, кылі кажныму ясна.*

**Загневаць, загнявіць** *зак. іран.* Разгнявіць, раззлаваць. *Нечым жа ты загневыў сваю Томычку, кызала, каб і на вочы ні пыка́зывыўся. Глядзі, загневыіш Ныпраёнка, кончыцца твыя лавычка. Нешта ты зыгнявіў сваю куму, ходзіць і на сьвет ні глядзіць. Ты ж глядзі ўжо, другей раз ні зыгнявí.* **Загнявіцца** *зак.* Разгнявіцца, раззлавацца. *А ніхай зыгнявіцца, дужа іна мне важна. Ні на шутку зыгнявіліся, нечым ты іх дужа путкулупнуў.* **Загневаный, загняўлёный** *дзеепрым. Прішла загневыныя, рузбурчэлыся: я іх зу людзей віла́, а яны во як твыря́ць. Пынас сяньня нешта дужа зыгняўлёный.*

**Загнятаць** *незак.* Бязлітасна біць, лупцаваць. *Ну цябе ж пряма зыгніта́юць, а ты ўсё дно сваё творіш, і чаго ты такей распу́шчыный удаўся!* **Загнесць** *зак.* Задушыць, забіць. *Ета тваё шчасьця, што ты ні пашоў ціряз роў, яны там сядзелі, ждалі цябе, злавілі б і зыгнялі. Ну загнесьць мальца нада, сколька ён шкоды тваріць усякій раз.* **Загнесца** *зак.* 1. Задушыцца. *Чаго вы шчэміціся ў ету дзірьку, загнесца хочыцця?* 2 *перан.* Пралезці. *Глянь-ка, тута так вузка, а як-то загнёўся, пралез.* 3 *перан.* Пачаць сквапнічаць. *Мы думылі, у Кузьмінка піріхва́цім сотні дзьве на первый случый, дык загнёўся: німа, німа.* **Загнецены** *дзеепрым.* Задушаны, забіты. *Найшлі айдзе-то зу Дубровыю загнеціныга.*

**Загойзаць** *зак.* 1. Пачаць бегаць, скакаць, сваволіць.

*Як толька я куды выйду, яны і загойзылі.* 2 *перан.* Змяць, вымазаць. *Пы сіньніку́, пы пасьцілкых талу́юцца, загойзылі пасьцель, гані іх мыхрачом аттуля, ці ім ны масту зыняція німа.* **Загойзацца** *зак.* 1. Забегацца, загуляцца. *Сыбяруцца тылакою, як загойзыюцца, нічога ня чуюць.* 2. Запэцкацца, вымазацца. *У што ты загойзыу́ся, у пылі якой кычау́ся ці што.* **Загойзаный** *дзеепрым.* Змяты, вымазаны. *Куды у́жо такую загойзыныю пасьцель слаць, хуць вы́трісь, а пасьцілкі памыць нада будзіць, іх у рукі ні у́зяць.*

**Загоцаць** *зак. неадабр.* Пачаць скакаць, падскакваць. *Ні пасьпела я дзьвері зычыніць, чую: загоцылі, як жырібяты, я зу пруціну ды нызад, жыва у́спакоіла.*

**Заграбаць** *зак. перан. асудж.* Хапануць. *Што у́ Домны асталыся, яны у́сё зыгра́былі, пу́нчына толька ацалела, ня у́сьпелі пірявезьць.*

**Заграніва́ць** *незак.* Забруджваць. *Ні зыгрязьнівыйці-ка вы чыстый мост, выціра́йця ногі, ато яго мыць ня дужа лёхка. Нашто ты чы́сьцінькія вязёнычкі так зыгря́зьнівыіш.* **Заграніва́цца** *незак.* Забруджвацца. *Кыла бульбы у́сё зыгря́зьнівыіцца, жджэш, каб скарей зь ёю упра́віцца ды пырядык трошку навесьць.* **Загразненый** *дзеепрым. Мост дужа зыгря́зьніный, як яго цяперя дамы́цца.*

**Заграмаздаць** *зак.* Заштукаваць абы-як. *Забіу́ трі калы, зыгрымызда́у́ хвырасьціныммі дзірьку, куры ня у́лезуць, толька нада будзіць кряпчэй задзелыць.* **Заграмаздацца** *зак.* Заштукавацца абы-як. *Ні дывадзі, як зыгрымызда́іцца, так і ладна, некылі кыпацца.* **Заграмазданый** *дзеепрым. С аднаго боку троху зыгрымызда́на, цяперя каб ат вуліцы пыправіць.*

**Загрыбазвоніць** *зак. груб.* Забалбатаць. *Тая грібá́тыя зыгрібазвоніла, пустату́ трілю́дзіць і трілюдзіць.* **Загрыбазвоніцца** *зак.* Забалбатацца. *Зыгрібазвонюцца, дык пра у́сё на сьвеці забудуць.*

**Загрывак** *м. перан. жарт.* Карак. *Наеу́ загрівык на цёшчыным салі, як у выла. Палу́чыць пы загріу́ку, тады і уніміцца.*

**Загрымываць** *незак.* Пачынаць грымець. *Дровы набіты, пыкла́джыны, цяперя ні страшна, што і гром загрімывыіць.* **Загрымець** *зак. перан.* 1. Паехаць. *Загрымелі Сьціпанідзіны госьці ці ні у́ Сквіряту.* 2. Быць вызваленым з пасады. *Доу́га ён ні набу́дзіць, пудура́чыцца, пуду-*

*рачыцца і зыгріміць з должнысьці.* 3. Злосна забурчаць. *Луччы вы ня трогыйця і пыкладзіця ўсё на места, ато прідзіць — узной зыгріміць.*

**Загудзець, загусць** *зак.* 1. Загусці. *Нешта ў коміні зугудзела, каб ні сажа зыгарелыся. Што там зугуло?* 2 *перан.* Заплакаць. *Ты троху парю́мзый, ну, відна, мала, ні ўспакоісься — яшчэ зугудзеш. Ты пакуля загуў біс прічыны, ну даслу́жысься, што ныпраўду можыш загусьць.* 3 *перан.* Пачаць хутка расці. *Палі: зугудзець пустазельля. Трыва зугула́ пы грідах, горька нада палоць.*

**Загуніць** *зак.* Зганьбіць. *Нешта Кываленкі загу́нілі твайго зяця, чым ён ім ні дыгадзіў? Ніхай пыхвалюць, ніхай загунюць, мне ета адно й тоя.*

**Загутаторыць** *зак. гумар.* Пачаць ажыўленую размову. *Ну ета самыя зудушэўныя падругі сыбраліся, як зугутаторюць, іх зы каўнерь ні рызьвядзеш.* **Загутаторыцца** *зак.* Загаварыцца. *Мы даўно ня відзіліся, сыбраліся, рады былі пысядзець, зугутаторіліся да поўнычы.*

**Загыкаць** *зак.* Пачаць груба гаварыць, распараджацца. *Прішоў, загы́кый: ні туды ячмень ссыпылі,—ну, кылі ні ыравіцца, вазьмі ды пірясып.*

**Загырчэць** *зак.* 1. Злосна загыркаць. *Іхный сыбака як зыгырчы́ць, дык паткнуцца к ім баісься, ён злэй, злэй і с пацьцёлка ростым.* 2 *перан. груб.* Злосна забурчаць. *Так узьеўся ны нявестку, як увідзіць яе, і зыгырчэў.*

**Задабра** *ж.* Заправа, прыправа ў страву. *Уся задыбра во прігатоўліна, як зыкіпіць бульба, так і ўкініш, а я пыбягу карову даіць.*

**Задабранне, задабрыванне** *н.* 1. Запраўлянне, прыпраўлянне. *Якоя ў цябе зыдыбря́ньня, што міма льлецца. Атыйдзі ты ад гыршка с такім зыда́брівыньнім, бісь цябе я зьдзелыю што нада.* 2. Заправа. *Ты ўсё зыдыбряньня прігатоў і пыкладзі на відным месьці, а мы самі ў быракі пыкладзём. Зыда́брівыньня ні пыўрядзіць ніякый ядзе, налі-ка сала ў бульбу ці мяса ў капусту большы пыкладзі — ня спорціш.*

**Задабраннік, задабрываннік** *м.* Той, хто запраўляе. *Ты глядзі, зыдыбря́ньнік, лі, ды ні рызьліва́й, ато пыцякець у жар, толька будзіць пахнуць. Сь цябе сьпецный зыда́брівыньнік.* **Задабранніца, задабрыванніца** *ж. Сь цябе відзіш ікая зыдыбря́ньніца: цубулю ўкінула, пысаліла, а сьмітанку сыма зьела, іна ж была прігатоўліна ў шча́віль. Атыйдзі-ка ты, зыдабрівыньніца, ат посыду.*

**Задабраць** *незак.* Запраўляць (страву). *Жыдкыю бульбу хырашо зыдыбряць салым с цыбулію, толька яе нада хырашо піріжáріць.* **Задабрацца** *незак.* Запраўляцца (пра страву). *Кулеш толька салым зыдыбряіцца, можна адною жыжкыю, а можна і скварык, і кілбасы рыскрышыць нядренна.* **Задабрыць** *зак.* Заправіць (страву). *Зыдабріш і прістаў к агню, ніхай пыкіпіць трошку і пакушый, іна ці ня недысыль.* **Задабрыцца** *зак.* Заправіцца (пра страву). *Як большы зыдабріцца, усякыя іда смашней, а біз зáдыбры ня тоя, не.* **Задабраный, задобраный** *дзеепрым.* *Не, быракі ішчэ ні зыдыбряны нічым, нада сьмітаны пылажыць і зыквасіць трошку сыўрыдкыю. Усё задобріныя, ні нада нічога нікуды класьць, трошку пыкіпіць і ціріш час усё будзіць гатова.*

**Задавала** *м.* і *ж.*, **задаваннік, задавальшчык** *м.* Задавака. *А хто ж такога зыдывáлу ні знаіць, ты ўмеіш толька зыдывацца. Думыіш, усё ета праўда, што йна ныгываріла,— не, ета ў зыдывáлы прівычка тыкая. Зыдывáньнікыў ніхто ня любіць. Па кім ты пашоў, еткій зыдываньнік? Па-твойму, можа, і не, а толька ён быў зыдывáльшчык, што большыга і ні прідумыіш.* **Задавалка, задаванніца, задавальшчыца, задавачка** *ж.* *Танічка тыкая ўжо зыдывáлка, думыіць, луччы яе і на сьвеці німа. Яны дужа бальшэя зыдывáньніцы, яны сябе луччы ўсіх шчытаюць, нам, мол, ніхто ня ровін, мы первыя крысавіцы. Ты толька ня будзь такою зыдывáльшчыцыю, як твыя мама была, тая ўсё цаны-меры сабе ні знала. Яе ў нас ніхто ні любіў, дайжа скыкаць яе ня дужа бралі, іна дужа была зыдывáчка. Памяниш.* **задавалачка.** *Верка — тожа ня меншыя зыдывалычка, хуць ёй саўсім зыдывацца нечым.*

**Задакаць** *зак.* Пачаць паддакваць. *Мы думылі, пыныстыяшчыму пыгаворім, а рызгавора ні пулучылыся, яму ўсе зыдáкылі, ну ён паслухыў-паслухыў і паехыў.*

**Задасадзіць, задасадзіцца, задасадываць, задасадывацца** *зак.* Забедаваць. *Жджы ты, пакуля Ахрямёнык зыдысáдзіць. Абея зыдысáдзіліся, сідзяць і ташнýюць, як дальшы сы ўсядзьбыю быць. Марья крепка зыдысáдзілыся, нада пастройчыну збуваць і страшна збуваць, ніізьвесна, як тама жызінь палучыцца. Маріна таго зыдысáдывыла, што з мальца німа пуця, у большыга свыя сямейка — дай божа, а меншый як веціp. Як тута быў, дык чуць ні гнала: нашто ён мне такей, а як паехыў — зыды-*

*са́дывылыся і дренный ладзін ба быў.* **Задасадава́ный, задасаджаный** *дзеепрым. Відзілі мы Алёну, дужа зыдыса́дывыныя, што сын так зьдзелыў, а нызад жа ня верніш, ні адзьдзелыіш. Я зыйшла ў хату, сядзіць зыдыса́джыныя, гылаву патпёрла рукою, сыма ні прідумыіць, што дальшы дзелыць.*

**Задаўніваць** *незак.* Зацягваць на працяглы час. *Луччы ты зынясі і аддай січас, ні нада зыда́ўнівыць, уремя пройдзіць, забудзіш, а тэй скажыць: зытаіў,— зынясі.* **Задаўнівацца** *незак.* Зацягвацца на працяглы час. *Ні люблю я, кылі што зыда́ўнівыіцца, па мне, кылі надумыўся, зьдзелый, кылі ўзяў — аддай.* **Задаўніць** *зак.* Зацягнуць на працяглы час. *Вот відзіш, зыдаўнілі, цяперя самім ніпріятнысці, а каб зьдзелылі у сваё ўремя, і адным ба було́ хырашо, і другім ладна.*

**Задачы** *мн.* Задаванне, фанабэрыя. *У яго ўсігда зыда́ч дужа многа було. Такея ўжо зыда́чы, што пряма ні знаіць, айдзе дзіваць сябе.*

**Задвор'е, задворышча** *н.* Задворкі. *Усё задвор'я зыва́ліна саломыю, нада прібірaць, можа, успыхаць прідзіцца, а тама заложына. Дужа ён далёка хуваў — ны задворішчы палкі ськінуў і трошку сакою прітрусіў.*

**Задзелываць** *незак.* 1. Заштукоўваць. 2. Вымазваць у гразь. *Ты ўжо етый касьцюм сколька разоў задзелывыў, дый задзелывыць большы некуды, ён у цябе за месіц стаў, як тряпка.* **Задзелывацца** *незак.* 1. Заштукоўвацца. *Зату́л сам задзелывыцца ня будзіць* 2. Вымазвацца ў гразь. *Ні нада абоім задзелывыцца, адзін ужо каторый зла́зьця страччэй, ні шыра́хыйціся дужа ап кольля.* **Задзелаць** *зак.* 1. Заштукаваць. *Дзірькі нада задзелыць.* 2. Вымазаць у гразь. *Задзелыў ты сваю адзёжу, саўсім нікчомныя стала, нада быць акуратным, бярежч адзежыну.* **Задзелацца** *зак.* 1. Заштукавацца. *Калі ж тэй пралом задзелыіцца?* 2. Вымазацца ў гразь. *Хва́ціць таго, што я ўвесь у гнаі, дык і ты сюды лезіш, хочыш задзелыцца, я тута адзін спраўлюся.* **Задзеланый** *дзеепрым.* 1. Заштукаваны. *Сьценка задзелына.* 2. Вымазаны ў гразь. *Што яны тама айдзе тварілі, айдзе кычаліся, прішоў увесь задзелыный у нейкыю грязь жоўтыю, як іржа.*

**Задзервянець** *зак.* Задзеравянець, застыць, замлець. *Бульба зыдзірьвянела, што яе ня тоўч, а сеч тыпаром нада. Чаго вы тут таўморіціся, усё ны стале зыдзірьвяне-*

*ла. Рука другей раз так зыдзірьвянеіць, што ні пывярнуць.*

**Задзешава, задзёшава** *прысл.* Танна. *Задзешыва ж табе хата абыйшлася, другому ны такую даміну нада работыць ды работыць. Ашыбнулыся на етый раз, задзёшыва аддыла цубулю. Задзёшыва ўзяў кароўку, ны пыгляд, кажыцца, нічога.*

**Задзёра** *м.* і *ж.*,. **задзіраннік, задзіршчык** *м.* Задзіра. *Такога задзёру ня дужа словым успакоіш, як зы каўнерь возьміш, тады троху пынімаіць. Задзёра дзеўка, іна табе ня дужа ўступіць у чом-небудзь. Каб хырашэнька хто ўспакоіў тога зыдзіра́ньніка, і тыкі найдуцца, успакоюць, ня можыць быць, каб ні найшліся. Найшоўся мне другей задзіршчык, хочыць, каб унялі, як первыга. Етый задзіршчык сяньня палучыць сваё, ня можыць быць, каб ні пулучыў.* **Задзіранніца** *ж. Ну зь яе ніплыхая зыдзіра́ньніца, каго йна калі тронула, хуць адно слова скызала.*

**Задзёрліва** *прысл.* Задзірліва. *Зь імі нілізя так задзёрліва рызгыварівыць, стыдна.*

**Задзёрлівасць** *ж.*, **задзіранне** *н.* Задзірлівасць. *Каб сь цябе хто найшоўся троху задзёрлівысьці вы́гныць. Ён трошку пылядзеў, пылядзеў на Коліна зыдзіра́ньня, а тады як шуганець яго ад двыра.*

**Задзёрлівый** *прым.* Задзірлівы. *Ня думыла я, штоб Варычкін маліц быў такей задзёрлівый. Ён задзёрлівый, як кыстра, чуць што — увесь успы́хніць і біцца гатоў.*

**Задзірацца** *зак. перан.* Адлуплівацца, задзірацца (пра дрэва пры апрацоўцы). *Нейкыя палка пупалыся, я і ў адзін бок стругаю, і ў другей, як ні шырахну рубанкым — зыдзіра́іцца. Што йта зы бярёза была — атрезылі нескылька палык — ня колюцца, апцісаў брусочык, пычаў стругаць — зыдзіраіцца, мучыўся, мучыўся і выкінуў у дровы.*

**Задзікавацца** *зак.* Вельмі здзівіцца. *Нада було зыдзікува́цца, як яны выдзелывылі! Пёкла ажно зыдзікувалыся: няўжэлі Антонывы дзеці такея?*

**Задзіўленый, задзіўлёный** *дзеепрым.* Празмерна здзіўлены. *Пріехыла з Воршы задзіўліныя, гаворіць, я і падумыць ні мыгла, што яны так акыпіру́юцца, так крепка жыць станyць. Тады ўсе былі зыдзіўлёныя, што Пітрачок надумыўся жаніцца, усе думылі, што ён ні разу ня жэніцца.*

**Задзогаць, задзугаць, задзыгаць** *зак. неадабр.* Пачаць гоцаць, насіцца, сваволіць. *Таго задзогылі, што ўняць некыму, слабінку пачуствывылі, ніхто ў руках ні дзяржыць. Як бацька ў дваре, тады яны спакойныя, а як ён выйшыў, яны задзўгылі, хату дыгары кареньнім варочыюць. Далёка яны ня йдуць, а кругом двыра як задзы́гыюць, носяцца, як жырібяты.*

**Задзюндзіць, задзяндзіць, задзюндзюліць, задзюндзюрыць, задзяндзюліць, задзяндзюрыць** *зак. неадабр.* Пачаць гаварыць пустое. *Ну як жа, прішла, задзю́ньдзіла, што йна самыя горькыя на ўсім белым сьвеці, гарчэй яе німа. Пра што там Гапка зыдзя́ньдзіла? — верна, ўспомніла свае быта́ліі зь нявесткыю, іна часта ўспымінаіць. Ну што, кылі яны зудзюньдзю́люць, яны зудзюньдзюлюць, а ты зывярніся ды йдзі, ніхай дзюньдзю́люць. Прідзіць і зудзюньдзю́ріць, як іна к свытам езьдзіла і як яе тама дужа хырашо сустрюкалі, чуць ні слаліся піряд ёю. Трі сваццы сыбраліся, як зыдзяньдзю́лілі — раньнія абеды былі,— дык сонца зыхадзіла, чуць рызыйшліся. Мы стыялі кучыю, рызгыварівылі, тэй пра тоя, тэй пра тоя, а тады Хадосычка пыдыйшла і зыдзяньдзю́ріла, што яе нявестка ні пынімаіць.*

**Задзядзець** *зак. жарт.* Пасталець. *Твае хлопцы зыдзядзелі, як бацька быў, тэй тріццыць шостым годым жаніўся.*

**Задзяжыць** *зак.* Бадзёра зайсці, дайсці. *Ета мне нада пуўдня іціць ды таго Сільца, а яны зы два часы зыдзяжуць. Я думыю, ён ужо зыдзяжыў у Сапрынывічы, там яго жджэць нейкыя ніныглядныя.*

**Задзячыць** *зак.* Пачаць гаварыць без упынку. *Сьціпанідзіна сваё зыдзя́чыла: дужа яе абіджаюць, ні даюць дзьвюх кароў пірядзержыць, мала грошы агрібаіць.* **Задзячыцца** *зак.* Загаварыцца. *Зыдзя́чыўся, ні знаіць, пра што трілю́дзіў, як прішоў.*

**Задокаць** *зак.* Пачаць адмаўляцца. *Я хацела ладна ацсы́пыць квасолі, а яны абея задокылі: ой, ні нада, дос, дос і зы мяшок — зывя́зывыць.*

**Задорыстый** *прым.* З задзірынкай, з пакручастымі слаямі (пра дрэва). *Дужа задорістыя дзеріва пупалыся, і рубанык войстрый, а ўсё дно зыдзіраіцца, ніяк ні сустругаіш гладка.*

**Задоўжыцца** *зак.* Паказацца доўгім (пра час). *Сяньня ўремя неік ні задоўжылыся, скора прыляцела. Другей*

*раз дзень як задоўжыцца, жджэш, жджэш, каб вечыр скарей.*

**Задрабацець** *зак.* Пачаць танцаваць з дробным моцным прыстукваннем. *Як зыдрыбацелі адна піріда дною, адна хырашо, а другая яшчэ луччы і ўсё ўремя с пріпіваньнімі.*

**Задрапаць** *зак.* 1. Пачаць драпаць. *Чую, нехта зыдрапыў пы дзьвірях, я ччыніла, а ніхай цябе, ета Надзькіна ўнучка дзьвярей ні аччыніць.* 2 *перан.* Пабегчы шпарка. *Пы дзяреўні прайшоў слух, што пырцізаны вот-вот патходзюць, дык етыя бобікі зыдрапылі, толька пыл зукурей.*

**Задрахцець, задрахцецца** *зак.* Распаўнець. *Саўсім мылыдая і зыдряхцела, я ў такіх гыдах як агонь была, усюдых пысьпівала. Так зыдряхцелыся, што большы некуды, стала, як дзіжа, у дваре круглый год сядзеўшы. Скора зыдряхцеіцца і меншыя.*

**Задрыгаць** *зак. перан. іран.* Няўклюдна пайсці. *Некуды задры́ґыла твыя хвалёныя, ці ні к свытам сыбралыся,— тама яе ждуць — ні даждуцца.* **Задрыгацца** *зак. перан.* Вельмі стаміцца, ідучы без патрэбы. *Ніхай, ніхай бігаць, пы такой дарогі яны задры́ґыюцца, сьнег па поіс, нагу ўсодзіш, нагу вы́ніш, будуць ім дзеўкі.*

**Задрыпаць** *зак.* Затузаць. *Ён і нідурнэй чылавек, такей ціхій, яго неік задріпылі і задріпылі.*

**Задрыпка** *звыч. ж.* Неахайная асоба, задрыпа. *Храсіньніна задріпка як рызыйшлася: як ета так, мне зыпісалі меншы ўсіх, я тожа работыла,— лета прабры́ндыла і хаці ты зь яе пуця.*

**Зыдрыпсіцца** *зак. асудж.* 1. Апусціцца. *Мылыдая баба, задріпсілыся, як толька ёй людзей ня стыдна.* 2. Закапрызнічаць. *Во есьлі яны ды задріпсюцца, губы надмуць, мне яны дужа важны, асобы-то такея.*

**Задур** *м.,* **задурэніе, задурэнне, задурмачанне** *н.* Ачмурэнне. *Якей ны цябе задур найшоў, мы ж ясна аб'ісьняім: тута дарогі німа. У яго урімінáмі пряма нейкій задур: ні тога ні пынімаіць, ні другога. Ны яго як нойдзіць зудуренія: нічога ні сыбрыжаіць. Ці ў цябе зудуреньня якоя було, што ты Мікілая ні пызнаў, ён жа табе скызаў «здрастуй». Ты ні глядзі ну зудурмáчыньня, а бяріся ды дзелый.*

**Задурмачываць** *незак.* Адурманьваць, ачмураць. *Каго ты зудурмачывыіш, ці ты думыіш, мы ні знаім і ня відзім, длі чаго ета тріл́юдзіцца, цябе даўно ўсе рускусі-*

*лі.* **Задурмачывацца** *незак.* Адурманьвацца, ачмурацца. *А ты ні зудурмáчывыйся, а думый, што дзелыіш. Урімінамі ён неік зудурмáчывыіцца, тады зь ім толку ні дыбяреш.* **Задурмачыць** *зак.* Адурманіць, ачмурыць. *Цябе дзеўкі зудурмáчылі, ты ат іх саўсім біз ума астáнісься. Во, доўга цябе зудурмачыць, табе лухту сапрýць, і ты будзіш рот разінуўшы веріць.* **Задурмачыцца** *зак.* Адурманіцца, ачмурыцца. *Як зудурмачысься у етый тыўпясьні, дык ні сыбрыжáіш, за што брацца. Ён сы сваім хызяйствым зудурмáчыўся, нашто яму, каб хто спрасіў, дзьвюх кароў дзіржаць, чаго зь яго ні хвытаіць.* **Задурмачаный** *дзеепрым. Ат іх, і ні хацеўшы, зудурмáчыный пойдзіш, як гылаву аклýмюць сваім піскым ды віскым. С табою пажыць — любэй будзіць зудурмáчыный.*

**Задушлівый** *прым.* Дыхавічны. *Пыц старысьць ён стаў задýшлівый, нічога ня мог дзелыць, іна трошку кыпашылыся, сыны пыцскáкывылі, пымыгалі.*

**Задушша** *н.* Дыхавіца. *Яны абоя нейкія слабыя, у аднаго задушша і ў другога, езьдзюць, лечуцца, толька ім і лячэньня ня дужа пымыгаіць.*

**Задыбацца** *зак.* Моцна стаміцца, тупаючы, ходзячы каля гаспадаркі. *Як ты ўсіх вупруўляіш, адна ты задыбыісься лі хызяйства, ніхай ба дзяўчонка асталыся пымыгаць.*

**Зажаднічаць, зажаднічацца, зажадавацца, зажадацца** *зак.* Праявіць сквапнасць. *Нешта ён разым зыжадднічыў, можа, хто тріпануў што-небудзь. Я ня думыла, што Андряёнык так зыжаднічыіцца. Раншы ён такей ня быў, а цяперь нешта зыжáдывыўся. Ня думыў я, што Цімох етык зыжадыіцца, ірунды мы пыпрасілі, пяцёрку ды скрысеньня — німа ні капейкі,— усё дно як мы ні ддадзім.*

**Зажарабцаваць, зажарабцавацца** *зак. перан. асудж.* Пачаць жыць бесклапотна, свавольна. *А што ім дзелыць, зьедуцца сюда на лета і зыжырябцýюць. Тває плямяньнікі ладна зыжырібцувáлі. Атпруўляй-ка ты іх куды-небудзь ны работу, яны ў цябе тута зыжырібцувáліся.*

**Зажвянькаць** *зак. неадабр.* Пачаць нудныя размовы, абгаворы. *Што я яе курей сыгнаў, дык зыжвянькыла — ні пыныравілыся, а што яны бульбу пыклыдáюць, бушýюць у ёй — ета нічога, так і нада.* **Зажвянькацца** *зак.* Шмат паабгаворваць. *Паспробый-ка ні ўгадзі ім хуць на волыс, зыжвя́нькыюцца, і ац свайго атрякесься.*

**Зажымаць** *незак. перан.* Прысвойваць, утойваць. *Любіць чужоя зыжымáць, чаго там. Ці ў яго німа, ён зыжымаіць, рыстрáціцца баіцца.* **Зыжымацца** *незак. перан.* Прыбядняцца, праяўляць сквапнасць. *Нечыга зыжымáцца, у цябе ў аднаго грошы ныкрятына, сколька ўва ўсёй дзяреўні ні сыбяреш.* **Зажаць** *зак. перан.* Прысвоіць, утаіць. *Ён мой ножычык найшоў і зыжаў. Глядзі, пупадзець ім у рукі і зажмўць, яны такея.* **Зажацца** *зак. перан.* Прыбядніцца, праявіць сквапнасць. *Ці ў іх німа за што харошыю апстаноўку купіць, зыжáліся, іна дрыжыць ныт кáжныю капейкыю.*

**Зажыць** *зак.* 1. Пачаць жыць лепш, раскошней. 2. Спажыць, прысвоіць. *Усё Ціхоныва хызяйства яны зыжылі, усё ім дысталыся. Зыжывуць яны і тваё, каму ж іныччы астаніцца.*

**Зазліцца** *зак.* Раззлавацца. *Ні пымінай ты Толіка, ета тáйнысьці дзелыіць, і ён зазьліцца ны яе. Яны зазьліліся даўно, ідуць міма, дык дайжа атвырáчыюцца, каб ні глядзець сюды.*

**Зазнібець** *зак.* Захныкаць, заныць. *Чаго ты, мой няґеґлый, зызьнібеў, чаго тама ні хвытаіць? Нешта кума твыя зызьнібела, гаворіць, у бок дужа коліць.* **Зазнібецца** *зак.* Нахныкацца. *Малыя тама, наверна, зызьнібелыся.*

**Зазублівань, зазубляць** *незак.* Пашкоджваць лязо. *Ні зазўблівый скоблі па смольных сучках, яны засохлі, сталі, як жалезныя. Пылажы нож, нечыга зузубляць, ён дужа цьвёрдый, пуўдня нада аттáчывыць.* **Зазублівацца, зазубляцца** *незак.* Пашкоджвацца (пра лязо). *Абы-што режыш, паетыму і серп зазўбліцца. Каб сярпы ні зузубляліся, ны жалезныя ня вешый.* **Зазубіць** *зак.* Пашкодзіць лязо. *Увесь тапор зузубіла ны кысьцях, косьці нада сеч тупічкыю якою. Зазўбіш нож — глядзі, пупадзець.* **Зазубіцца** *зак.* Пашкодзіцца (пра лязо). *Ён жа ні сам зузубіўся, ножык етый, па нейкыму зялезьзю стругаў. Бірягі тапор, зазўбіцца — палкі дроў нечым будзіць піряеч.* **Зазубленый** *дзееприм.* *Лупатка саўсім зазўбліна, нада хут троху цірнуць бруском ці патпілкым, а так яе ў зямлю ня ўсодзіш.*

**Зазыкаць** *зак.* 1. Загізаваць. *Як зазыкыіць скот, тады зь ім будзіць трудна, збутуряй скарей куды-небудзь у ваду, можа, ўдзержыш.* 2 *перан. жарт.* Пачаць бегаць. *Ох,*

*зазыкылі вашы хлопцы, ні адна вічарінка ў акругі бязь іх ні апходзіцца.*

**Заіграць** *зак. перан.* Неадольна захацець. *Нашы сяньня зыігрáлі ў Лырьяныва, у іх тама ўхажоркі ждуць. Зыіграў пірііжждáць у горыд: прыдам хату, а тама куплю новыю.*

**Заімець** *зак.* Займець, набыць, прыдбаць. *Зыімеў такоя хызяйства, што зь ім некыму руўняцца. Зыімела мáлыга, сядзіць, нянчыцца. Ого, якога ты сабе кывалера зыімела!*

**Заіндычыць** *зак. неадабр.* Забалбатаць. *Я ўжо, і хырашо гаворюць, ні ўсігда рызьбяру, а Тымара нешта зыіндычыла, я нічога ні пыніла.* **Заіндычыцца** *зак.* 1. Зафанабэрыцца. *Так цяперя зыіндычыўся, хвон-бароным хадзіць, а ці даўно з грязі выліз?* 2. Замітусіцца, разгубіцца. *Хырашэнька ж, хырашэнька прікажы, каб ні забылі хлеб выніць, я іх знаю: зыіндычуцца і на ўсё забудуць.* **Заіндычаный** *дзеепрым.* Разгублены. *Нешта бегыіць туды-нызад нейкій зыіндычыный, ці шукаіць каго, ці што.*

**Заікасцік** *м.* Заіка. *Узноў прібег Танькін зыікáсьцік, па вушы ўлюбіўся, жыць бізь яе ня можыць.*

**Заірзаць** *зак.* Пачаць сваволіць. *Ні пірід дабром ты, маліц, зыірзáў, шкура ны табе даўно чэшыцца. Ны мінутычку атвернісься куды, яны й зыірзалі.* **Заірзацца** *зак.* Засваволіцца, сваволячы, забыцца пра ўсё. *Зыірзáліся што ні замецілі, як я пыдыйшоў.*

**Зайціцца** *зак.* Дайсці да крайнасці ад жаху, болю. *Як рызазьліцца, як зáйдзіцца, сам ні знаіць, што тваріць. Дзіцёнык зайшоўся ат кріку, а ты ня чуіш. Серца зайшлося, ні ўздыхну.*

**Закабункі** *мн.* Выбрыкі, капрызы. *Я нагледзілыся ны тваe зыкабýнкі, дос. Нам ня меншы яго зыкабункі збрыдзіліся, цяперь мы цярьпець ня будзім.*

**Закабызіцца** *зак. неадабр.* Закапрызнічаць. *Зыкызбызіўся, што ні хацела яго пыдыждаць, а мне яго кыбыжэньня і ні брыдзіць.*

**Закавуліна** *ж.* Закавулак. *Аббягі кругом двыра, цялёнык пабег у зыкавýліну, січас ачынецца ны грідáх. Памянш.* **закавулінка, закавуліначка.** *Тама была нібыльшая зыкавýлінка, усё калёсы стыялі. Наш двор стыяў во так, а яго пуня ў тэй бок, і тута пулучалыся зыкавýлінычка.*

**Закавырнуць, закавірнуць** *зак.* 1. Крануць. *Зыкывыр-*

*нўў нохыць, ён зыламіўся, баліць. Былячку зыкывірнўў, іна стала большы красьнецца.* 2 *перан.* Паддзець, падчапіць. *Зыкывырнўлі летышнімі капёшкымі,— ні зулюбіў, пашоў і зубубнеў нешта. Яны скызалі бізь нічога ніякыга, а Зьмітрок падумыў, што яго зыкывірнулі Анькыю, як усхадзіўся!*

**Закавырыста** *прысл.* Мудрагеліста. *Дужа ў цябе зыкавыріста ўсё пулучаіцца. Ён усігда гаворіць зыкавыріста.*

**Закавярзаць** *зак.* Заплесці няўмела, абы-як. *Зыкывірзаў, зыкывірзаў, і ладна будзіць, абы бульба ня сыпылыся. Каб і пляцень троху зыкывірзалі, хужы ні було б, ні сыгряшылі б.* **Закавярзацца** *зак.* Заплесціся няўмела, абы-як. *Ты ні дывадзі дужа, як зыкывірзаіцца, так і ладна, быракі бальшэя, ня высыпюцца, а як мароз пріхваціць, пыгніюць.* **Закавярзаный** *дзеепрым. Плятнёўка ўжо троху зыкывірзана, што табе яшчэ нада. Так яны заплеціны,— зыкывірзаны, а ні заплеціны.*

**Закаенчыцца** *зак.* Замучыцца. *Зыкаенчыўся ён саўсім сы сваёю рукою, куды ня кідыўся, у каго ні лячыўся — німа луччыньня і ўсё.*

**Закажанець** *зак.* Закарэць ад бруду, ад дрэннага догляду. *Ён ужо ўвесь зыкыжанеў ад грязі, што яго ня мыць, а пыкласьць у атмочку дні ны два, а тады скресьць, як пырасёнка.*

**Заказыванне** *н.* Заказванне, паведамленне. *А мы ўжо і біз зыкaзывыньня знаім пра сход, ураньні на пункці гыварілі, што стыршына пріїжджаіць.*

**Закалістый** *прым.* Аселы на ніжнюю скарынку (пра хлеб). *Каб ты ўмела печ, у цябе б і хлеб зыкалістый ні пулучаўся. Што зыкалістый—ета ат печы многа завісіць.*

**Закальжэць, закальчэць, закальчанець** *зак.* Замерзнуць, перамерзнуць. *У пінжачышкых пабеглі, а буря ўсхадзілыся, холыд, яны зыкальжэлі, прібеглі — у іх зуб на зуб ні пупыдаў. Ты яшчэ хочыш зыкальчэць, як у пынядзелык, дык ідзі, раз ня хочыш слухыць, я большы атыгріваць ня буду. Яй-богу, яны тама зыкыльчанеюць сяньня, аткуля етый хыладзіна так усхадзіўся. Мы былі саўсім зыкыльчанелі, пакуль ды дзяреўні дыкаціліся.* **Закальжэлый, закальчанелый** *дзеепрым. Туды бег гіроім, а аттуля вярнуўся зыкальжэлым, айдзе й гіройства дзелыся. Пылядзіш, яны зыкыльчанелыя прівалюцца, што на іх — тряпінычкі, ці яны грэюць.*

**Закаляваць** *незак.* Мерзнуць, перамярзаць. *Я большы туды зыкылівáць ні пайду, сам ідзі, кылі табе нырáвіцца. Ці ета ўжо старысьць патходзіць, ці што: як на двор— рукі зыкылівáюць, ні за што ўзяцца ні магу.* **Закалець** *зак.* 1. Застыць, замерзнуць. *Уся ідá ны сталe зыкалела, калі вы ныбрязкочыціся? Надзенься, як людзі, прыхваціць усяго холыдым, зыкалеіш, успаленія пытхвáціш, вазіся тады с табою, лячы, пы дыктырáх цігай. Каб штонебудзь цяплейшыя пытпрянуў, ні зыкалеў ба так.* 2 *перан.* Памерці. *Пакуля людзі прібеглі, ён ужо зыкалеў, во што дурута дзелыіць.* **Закалелый** *дзеепрым.* 1. Застылы, замёрзлы. *Я пріхаджу — стаіць бульба зыкалелыя, а яны рузмундыкывыюць. Бігаць зыкалелыя, ажно пысінелі, як куріныя пупы. Айдзе ты ўдзержыш зыкалелымі рукамі.* 2 *перан.* Мёртвы. *Мы пыдыйшлі, а ён ляжыць зыкалелый, ужо сьняжок прісыпыў. Каб я ўжо ныйшла цябе зыкалелыга тут, мне б ляхчэй було адзін раз серца пиріламіць.*

**Закалякаць** *зак.* Пачаць свабодна і весела размаўляць. *Етыя друзья як зыкылякыюць, дык могуць і скот с поля прігнаць і спаць лежч, а яны ўсё будуць пірілівацъ с пустога ў парожнія.* **Закалякацца** *зак.* Загаварыцца. *Сяньня вы зыкылякыліся за ўсе разы, наверна, нічога на сьвеці ні асталыся, што б вы ні пірігыварілі.*

**Закамкываць** *незак.* Закомкваць. *Ні зыкáмкывый далёка, скора нада будзіць дыстываць, тады ні рызьбяресься, што айдзе.* **Закамкывацца** *незак.* Закомквацца. *Усё ўместа зыкáмкывыіцца, а ты ня відзіш нічога, зразу кладзі ў пырядку.* **Закамкаць** *зак.* 1. Закомкаць. *Чыстыя чулкі зыкымкалі с анучымі, я йскала, йскала, як прываліліся.* 2 *перан.* Схаваць. *Ён грошы зыкымкаіць, у яго ня дужа палучыш.* **Закамкацца** *зак.* Закомкацца. *У цябе тута ўсё зыкымкáлыся, ні рызьбяресься, айдзе грязныя, айдзе чыстыя, усё нада ацьціраць.*

**Закамырастый** *прым.* Ганарысты. *Ого, іна дзейка зыкамырістыя, зь ёю да трёх ні гывbooрі. Зыкамырістыя была баба, чаго там.*

**Закамырджываць** *незак.* *жарт.* Цягнуць з сабою. *Куды вы яго зыкамырджывыіця, ён саўсім хворый, яму ні ды вічарінкі.* **Закамырдзіць** *зак.* Пацягнуць з сабою. *Зыкамырдзілі яго: мы табе стáвілі і ні раз, а цяперя ты нам стынаві, у цябе грошы ёсьць. Зыкамырдзілі мяне разым ны вічарінку йціць.*

**Закамырываць** *незак.* Цягнуць з сабою. *Віджу, што ўжо зыкамырівыюць цябе ні на шутку, тута свадзьбыю ці ні пыпа́хывыіць.* **Закамырыць** *зак.* Пацягнуць з сабою. *Ідзі ты луччы пряма, ні пытхадзі к етым сваім друзьям, зыкамы́рюць выпіваць з імі, ні атвяжысься.*

**Заканархаць, заканырхаць** *зак.* Пачаць хныкаць, стагнаць. *Ні магу я слухыць, як твыя Гапка зыкына́рхыіць, самыя горькыя пулучаіцца на ўсём белым сьвеці. Нешта зыкына́рхыў і палез на печ, я ўжо сыма скот карміла. Вады хыладнейшыя напіўся і зыканы́рхыў. Ся́дзіць во так во, гылаву пыдапрець і зыканы́рхыіць, ікая іна была харошыя і як цяперя ёй усюдых ніладна.* **Заканархацца, заканырхацца** *зак.* Расхныкацца. *Саўсім ты нешта зыкына́рхыўся, ходзіш як ніжывэй. Абоя зыканы́рхыліся, ну іх с такою работыю.*

**Заканіцеліваць** *незак.* Пачынаць каніцеліць. *Віджу, што зыкыніцелівыюць, не, думыю, нічога з вамі ня будзіць, я пряма к стыршыне.* **Заканіцеліць** *зак.* Пачаць каніцель. *Ён усігда як зыкыніцеліць, толку зь ім дужа трудна дыбівацца,— яго б даўно прыгналі, ну грамытный дужа, грыматней яго німа тут.*

**Закапыліванца** *незак. іран.* Дзьмуцца, капрызнічаць. *Анька часта зыкапы́лівыіцца, ёй каб дыгадзіць, Ішчэ тэй чылавек ці радзіўся на сьвеці.* **Закапыліцца** *зак.* Надзьмуцца. *Зыкапы́ліўся, што яго ні пызвалі ўчора на выпіўку. Ну ніхай зыкапыліцца, дужа я прізнаю яго.* **Закапыленый** *дзеепрым. Ішла ўчора зыкапы́ліныя, нешта сьвякрова ні па ёй скызала. Калі ён ня быў зыкапыліный?*

**Закараўліваць** *незак.* 1. Забруджваць. *Чыстыю адзежыну ні нада зыкыря́ўлівыць, згамзіць што хочыш нядоўга.* 2 *перан.* Знеслаўляць. *Дос вам зыкыря́ўлівыць чылавека, вы самі ны сябе зірніця.* **Закараўлівацца** *незак.* Забруджвацца. *Я гляджу, як у цябе ўсё чыста зыкыря́ўліцца, і думыю, ці зьбіраісься ты на сьвеці жыць.* **Закаравіць** *зак.* 1. Забрудзіць. *Саўсім новый касьцюм быў, а ты яго зыкырявіў, што ў рукі ўзяць нілізя.* 2 *перан.* Зняславіць. *Любога чалавека вы зыкырявіця, вы толька саміх сябе прізныіцё. Зыкыря́віла етых дзяўчонык, зьдзелыла іх плюга́ўкымі.* **Закаравіцца** *зак.* Забрудзіцца. *Ні дупускай, каб адзежына зыкыря́вілыся, хто табе кажный месіц нуспруўля́іцца новыга. Саўсім ты, чалавек, зыкыря́віўся.* **Закараўленый** *дзеепрым.* 1. Забруджаны, брудны. *Хо-*

*дзіць зыкыряўліный атряха атряхыю, як толька яму людзей ні пазорна.* 2 *перан.* Абняслаўлены. *У іх кажный будзіць зыкыряўліный, яны пы сабе нікога ні пыдбяруць, ім жыніхоў хуць выпісывый.*

**Закарагодзіць** *зак. жарт.* Уцягнуць у кампанію, забраць з сабою. *Зыкырагодзілі майго хлопцы некуды, памойму, у Пірядзіна сыбіраліся. Дзеўкі прібеглі, зыкырагодзілі мяне: пайдзём, цётка, і пайдзём, цябе тама ждуць.*

**Закаржанець, закаржанецца** *зак.* 1. Засохнуць. *У цябе і ны дзіванчыку кускі зыкыржанелі, хуць пырасёнку рызмачы. Зімля зыкыржанелыся, лупаткыю ні ўбадзюліш, горька дождж нада.* 2. Зрабіцца брудным. *Зыкыржанелі за етым жнівом, баню прукуріць некылі.* **Закаржанелый** *дзеепрым. Зыкыржанелыя камлыжжа нада пырызьбівაць палкыю. Твой пулушубык каторый дзень зыкыржанелый выляіцца.*

**Закаркаць** *зак. перан. неадабр.* Пачаць плявузгаць, гаварыць абы-што. *Хто пры яго Сеньку гыварíў што-небудзь, чаго ён зыкáркыў. Ой, ныдыя́длыя баба, узноў зыкаркыла, узноў ні па ёй зьдзелына.*

**Закарміць** *зак.* 1. Загадаваць, перакарміць. *Зыкармілі, рузгудува́лі, ідзець — толька пыхціць.* 2. Дрэнным харчаваннем давесці да схуднення. *Кыравёнку зыкармілі, чуць ны ныгах стаіць. Зыкармілі, жыр зьехыў і глядзець ні стала на што.* **Закарміцца** *зак.* Загадавацца. *Зыкарміўся, што яму калі атхадзіла, ці ён пірірабо̀тыўся, ці пиріхыладзіўся калі.* **Закормленый** *дзеепрым.* 1. Занадта сыты, тлусты. *Хто з мыладых гадоў закормліный, таму і і ў старысьці нічога ні прістаець.* 2. Схуднелы ад дрэннага харчавання. *А чаго ж ён у цябе такей закормліный? Кабыла закормліна, што ат ветру хітаіцца.*

**Закарстравацца** *зак.* Замучыцца, запакутавацца. *Зыка́рствывыўся ён сы сваімі ныгамі, нядзелімі цярьпець ня можыць.*

**Закарчэць** *зак.* Закарчанець. *Слабінька надзетыя пабеглі, зыкарчэюць такім холыдым. Быў зыкарчэў ну буі, ай-я-яй, хыладзіна, ня вытрывыць.*

**Закатываць** *незак.* 1. Закочваць. *Вочы зыка́тывыіць.* 2. Закасваць. *Як ета ты ня ўмеіш рукавы зыка́тывыць, во зыклаў раз, другей раз, пацсунуў і яшчэ зыкладзі.* **Закатаць** *зак.* 1. Закаціць. *Зыкыта́лі бірнушкі пыт паветку, ніхай ні мякнуць ны даждлжы.* 2. Закасаць. *А чаго ты з рукамі ў ваду лезіш і рукавоў ні зыкытаў?* 3 *перан.* Бяз-

літасна адсцябаць. *Толька злаўлю другей раз ны яблыні, я цябе зыкытаю, атвыкніш ты лазіць,— ета ж нада, ні пасьпела яблынка ацьцьвісьць, ён ужо сь цьвету ірьвець.* **Закочываный** *дзеепрым.* Закочаны. *Калёсы ні закочывыны на двор, яны тама стыяць у зыкавўліні. Закочывыныя палкі усе цэлы.*

**Закаўкаць** *зак. перан. іран.* Падаць голас (пра дзіця). *Як зыкáўкыюць у люлькі адзін за дным, тады забудзіць пра гулі. Во яшчэ ні хвытала, другей зыкаўкыў.* **Закаўкацца.** 1. Намяўкацца. *Ну аччыні ўжо, ніхай пагреіцца, іна зыкáўкылыся пыдзь дзьвірямі.* 2 *перан. іран.* Наплакацца. *Вазьмі на рукі етыга лабрэта, зыкáўкыіцца, звучылі самі з рук ні спускаць, нянчыціся.*

**Закахікаць** *зак.* Закашляць. *Устывай-ка і ты, дос вылежывыцца, старэй Пынас ужо зыкахікыў, сьнег рызгрібаіць кыла погріба.* **Закахікацца** *зак.* Закашляцца. *Што ты зыкахікыўся, як старэй якей, табе ішчэ і шэзьдзісят гадоў німа, можна у сваты везьць, каб ні старыя.*

**Закацістый** *прым.* Адхоны. *Зыкáцістыю крышу накрыць многа ляхчэй і пыпрáвіць кылі нада, пыправіш луччы, толька іна прыцякець скарей.*

**Закачаць** *зак.* Забрудзіць, качаючы, качаючыся. *Зыкычáлі чашку, што ў рукі ні ўзяць. Пінжак зыкычаў плямымі і ні цьціраіцца, зумувáць нада. Зыкычаіш рубашку — я табе мыць ня буду.* **Закачаный** *дзеепрым. Ськідай сваё тряхольля зыкычаныя ды надзень касьцюм чылавечыскій.*

**Закваклівацъ** *незак.* Замазваць, запэцкваць. *Можна акуратней абыйціцца, ні зыквáклівыць рукавы, на што яны цяперя пахожы.* **Закваклівацца** *незак.* Замазвацца, запэцквацца. *Ні дывай яму бульбыю зыквáклівыцца, ато ён ня столька ў рот, сколька пу рубацёнкі варзёкыіць.* **Закваклiць** *зак.* Замазаць, запэцкаць. *Пінжачок зыквáкліў увесь чысьцінька у цеста ў нейкыя, што яны там кылы таго агню дзелылі, а штанёнкі зымазыны ды пылавіны ў нейкій дзёгыць.* **Закваклiцца** *зак.* Замазацца, запэцкацца. *У нешта зыкваклілыся, увесь перід грязный. Айдзе ты зыкваклілыся ў цеста, пыглядзі, ікая ў цябе пыла.* **Закваклeный** *дзеепрым. Ці відзіш, ікая ты зыквáкліныя, зразу пызнáіш, што кулеш зыкылáчывыла, няўрёма.*

**Заквактаць, заквохаць** *зак. перан. іран.* Застагнаць. *Палку дроў пірярезыў і зыквыктáў: сьпіна скріпіць. Кар-*

*зінку бульбы выбіріць і заквокчыць: ой, туды коліць, ой, сюды поріць. Што табе нідылігаіць, што заквохыў, як старый дзед, лезь ужо, капусты увальлю.* **Заквактацца, заквохацца** *зак.* Расстагнацца. *Яны абея зыквыкталіся, можа й, баліць, ну тама ня столька болі, сколька квыктаньня. Адарка заквохылыся сы сваімі ныгамі, быляць, ня можыць ступіць, а дзелыць хуць пы хаці нада.*

**Заквашывацца** *незак.* Закісаць, скісаць. *Капуста толька стала зыквашывыцца, хто ня есьць, а я такую дужа люблю.* **Заквасіцца** *зак.* Закіснуць. *Квас хырашо зыквáсіўся, можна піць, а хочыш, і с сабою бярі. К вечыру мылако зыквасіцца, пыстаў у ваду.*

**Закіданнік** *м.* Той, хто будуе (закідае) сценкі ў хляве. *Ладныя вы зыкіданьнікі — за цэлый дзень пяць бірнушкоў пріпусьцілі.* **Закіданніца** *ж. Вот вам і другая зыкіданьніца на помышч ідзець, ну ладна, зарезыць паможыць ды хуць у канцэ палку падзьдзержыць.*

**Закідка** *ж.* Нятоўстае бервяно, прызначанае ў сценку хлева, у фундамент, закладка ў станку каня. *Закíдкі склалі кыла шульля, мы іх заўтря ны крайнію сьценку пусьцім. Конь аткінуў мордыю закíдку і разгýліць пы канюшні.* *Памянш.* **закідачка.** *Ны канюшню прівязьлі закíдычык, нада адгырадзіць нескылька станкоў.*

**Закірарэць** *зак.* Закарэць. *За полівым зыкірарелі, што ні дамыцца нічога, стыряліся прыпалоць, трыва адуріла, дожджыкі праходзюць, цёпла, яе гоніць і гоніць.*

**Закіпываць** *незак.* 1. Закіпаць. *Лі гня чугунок закіпывыіць, а збоку толька сагрейся, яго тожа к агню нада пірістáвіць.* 2 *перан.* Пачынаць злаваць. *Пёкла яму уперік слова скызала, па шэрсьці ні пыгладзіла, ужо закіпывыіць.*

**Закіўкаць** *зак.* Падаць голас. *Я доўга сяньня ні спала, неік сон ні брау, пыд раньня кошычка закíўкыла, я ўстывала аччыняць. Пыстаў мылако пыдагрецца, скора наш мáлый закіўкыіць.*

**Закласць** *зак. перан.* Распачацца надоўга (пра дождж). *Летысь такою парою даждж ык зыклáлі, кажный дзень лілі дзьве нядзелі, пыгніло сена ў пакосых, капёшкі пыпрымікáлі.*

**Заклецце** *н.* Месца за клеццю. *Сакý прівязі і абярні ны заклецьці, трошку праветріць, і складзём у пуню.*

**Заклініць** *зак.* Заклінаваць, умацаваць клінкамі. *Дзьве ножкі крепка дзіржацца ў скамеічкі, а дзьве вы-*

*іжджаюць, зыклініць нада.* **Заклініцца** *зак.* Заклінавацца. *Іна тыкая ручка, уся разьбітыя, тута і ці зыклініцца што, саўсім не ў чым дзіржацца, новыю нада вырізаць.* **Закліненый** *дзеепрым. Трі разы цю́кнуў, тапор і сыскачыў, во табе й закліні́ный, тэй клінок чуць дзіржаўся.*

**Заклумліваць** *незак.* Затлумліваць. *Свае троя ды яшчэ Анюціны прібігаць, як справюць хай, заклу́млівыюць зá дзінь. Вы яе меншы заклу́млівыйця, у яе гылыва слабыя, спакой нада.* **Заклумлівацца** *незак.* Затлумлівацца. *Ня буду я зь імі сядзець, заклу́млівыцца, тваe дзеці — ты і гадуй, ці ў мяне свайго зыняція німа.* **Заклуміць** *зак.* Затлуміць. *Кума твыя ўчора прішла, зуклуміла мяне сваімі рызгаворымі, лухту прець і прець, і ўсё кынца німа. Зы раньня як заклумюць дурамі, аж гылыва кругом ідзець.* **Заклуміцца** *зак.* Затлуміцца. *Ты с адным зуклумілыся, а каб табе пяціра на рукі, ды адной, штоб ты тады запела. Як зуклуміліся, дык дайжа ні знаім, у якей бок выйціць к нашыму полю.* **Заклумленый** *дзеепрым. Я кажный дзень заклу́млiныя, устаніш — ні знаіш, за што хвытацца, і с поля прібягіш — поўныя рукі работы: і сьвіньні пішчаць, пуню ірвуць, і карова кричыць, і малых ныкарміць нада. Нейкій заклумліный ходзіць, відна, яго дзела ні выпáлівыіць.* **Заклумёмшы** *дзеепрысл. Выйшлі с хаты зуклумёмшы.*

**Заклызніць** *зак.* Пачаць гаварыць абы-што. *Старэй нешта заклы́зьніў, як ён ізь гініралым сустрюкаўся і ні знаў, хто ета.*

**Закожнік** *м. асудж.* Той, хто жыве за кошт іншага. *Сядзелі закожнікі ну чужых гырбах. Што, і ты хацеў ба закожнікым быць? — не, ня думый, у цябе ні палучыцца.*

**Закокаць** *зак.* Пачаць квактаць. *Квакуха нейдзі ў капусьці закокыла. Пятух толька найдзіць якоя зярно, січас закокыіць — курей завець.*

**Закоскі** *мн.* Пачатак касьбы. *Заўтря ў нас закоскі, пойдзім аборкі касіць, а посьлі аборкыў у луг паедзім пад Белыю Гару. Спруўляюць дакоскі, а закоскі — ета так, шуцюць.*

**Закоснік** *м.* Каснік. *Закосьнікі нада, каб чысьцінькія былі. У акуратныя дзяўчонкі закосьнікі усігда у пырядкі.*

**Закот** *м.* Бакавы схіл страхі, які заходзіць пад франтальныя схілы. *Закот — ета як і затул, толька туды, пат крышу. У Гаўрілывых крыша біз затулыў, з закотымі.*

**Закрапіць** *зак. перан.* Моцна ўзяцца (пра мароз).

*Мароз з мылыдзічком зыкряпіў надоўга, ладна цісьніць. Зыкряпілі марозы, што ня дужа куды тронісься.*

**Закратываць** *незак.* Закладваць далёка. *Палкі ня стоіць зыкрятывыць, нада будзіць у марозы ны паттопіну піряреэыць, а с-пыц саломы ня выцігніш.* **Закратывацца** *незак.* Закладвацца кругом. *Дрывамі зыкрятывыіцца, усё дно як зьбіраіцца тута на дзесіць гадоў астывацца,— трі машыны прівёз.* **Закратаць** *зак.* Закласці далёка. *Усё жэрдзя бульбоўнікым зыкрятылі, яно тама папреіць. Прібірай і вілкі, і граблі, зыкрятыюць, што ні дыстаніш.* **Закратацца** *зак.* Закласціся кругом. *Зыкрятыўся сеным, ува ўсіх вугулках ныпхáта, хата зываліна, ношкымі цігаў,— на трі гады хваціць.* **Закратаный** *дзеепрым. МаліНькыя пунька зыкрятына усім усякім, нада увесь хлам пывыкідáць. Інструмент січас зыкрятын усякім быpaxлом — ні дыбяресься.*

**Закручываць** *незак. перан.* Затойваць, прысвойваць. *Як жа яму ня стыдна чужэя грошы закрýчывыць, ніякія совісьці німа ў чылавека.* **Закруціць** *зак.* Затаіць, прысвоіць. *Я даў яму як чылавеку двaццыцьпятную, дык зукруціў: я ў цябе ні браў. Зукруцілі прыміроўку, ні аддáлі, хут там і було пуўтары дзісяткі.* **Закручаный** *дзеепрым. Як ты ні гывapі і ні апраўдывый Стыхванёнка, а пуўтары сотні закручыны, і ён знаіць, як ета дзелылыся.*

**Закрэхаць** *зак.* Пачаць гучна трэскаць. *Думыю, крепкій лёд, іду сьмела, а ён закрэхыў — іkpaз я пысярёд быў. Ды пылавіны ці дарезылі, а верба закрэхыла, відзім, валіцца.*

**Заксціцца** *зак.* Пачаць хрысціцца. *Заксьцілыся піряд ім, што ніпраўда, нісколька ня веріць. Заксьціся, чылавек, што ты вярзеш пустоя, хто нас калі відзіў умесьці.*

**Закубрыць** *зак.* 1. Злавіць, убачыць, сустрэць. *Ён даўно зьбіраіцца цябе закýбріць. Раз друзья зукубрілі, то цяперя пысідзяць, пакуль ныгаворюцца.* 2. Закапрызнічаць. *Мы яе знаім, як калі зукубріць, ня хочыць браць, ні ўгаворіш.*

**Закудрычыць** *зак. жарт.* Павесці ў в. Кудрычы, узяць замуж у Кудрычы. *Нашы пабеглі і твайго хлыпца закýдрічылі с сабою. Пы ўсяму відна, што цябе скора закýдрічуць, Грішка ацьцябе ні аџступáіць.*

**Закукавацца** *зак.* Замучыцца, загаравацца. *Трецьцій месіц рука ні праходзіць, мякніць, баліць, іна з рукою зукукувáлыся. Адна астанісься — зукукýісься: дзітвыра*

*малыя, помышчы німа ніякія, у маткі меншыя дачкі ўнукі ну руках.*

**Закукобіцца** *зак.* Заваждацца, замучыцца. *Адны рукі — зукукобіцца баба, хваціць зь яе, каб хуць свае бліжы былі, пыцскачылі б калі.*

**Закупліваць** *незак.* Закупляць, падкупляць. *Ні раз цябе закуплівылі, ты зу бутылку прыдасіся любому. Ён чуствыіць, што яго закуплівыюць, толька пысьміхаіцца. Медніка закуплівылі усе пыдряд.*

**Закурняўкаць** *зак. перан. іран.* Нясмела падаць голас, загаварыць. *Мыксімёнка яшчэ тут ні хвытала, зукурняўкыў, што яго дужа абідзілі — сторыжым ні пыставілі.*

**Закухтываць** *незак.* Празмерна захутваць, хутаць. *Дзіцёнка ціряшчур як закухтывыіш, яму плоха, пірігріваіцца, пацеіць, а тады прастуджыіцца.* **Закухтывацца** *незак.* Празмерна захутвацца. *Ты закухтывыйся посьлі бані, веціp дужа едкій,— рызагрейся, зразу можыць прыхваціць.* **Закухтаць** *зак.* Празмерна захутаць. *Вы яго закухтылі, усё дно як на поўныч зьбіраіціся везьць. Горла як закухтыю, тады ныдзяжней, ні прастудзісься.* **Закухтацца** *зак.* Празмерна захутацца. *Ого, ты закухтыўся, як мядзьведзь якей стаў, сколька ны табе адзёжы етыя!* **Закухтаный** *дзеепрым. Мітрыхваныў нешта сяньня ходзіць закухтыный. Ураньні пывізла сваіх у горыд закухтыных.*

**Залавічча** *н.* Месца паміж лавай і сценкай. *Цяперя ўжо ні кладуць, а ў стырікоў усігда была прівычка, каб тапор у яго быў у зылавіччы, паміж лаўкыю і сьцяною.*

**Залажыць** *зак. перан.* Распачацца надоўга. *Глядзі, што дажджы заложуць на трецьцію квадру, на сходзі, будуць ліць дзьве нядзелі. Рызгаворы зылажылі, да поўнычы ня кончуць, усё ўспомнюць зы паўвека.*

**Заламліванне, заламыванне** *н.* Заломванне. *Ні пымагло нам і зыламлівыньня, ён зыламывыў сучкі, а мы зьбіліся, усё пыцірялі, зукруціліся і ні знаді, куды іціць. Зыламывыньня ні работа, нада пілкыю сучкі пыбрізаць, ета вясною дзелыюць.*

**Заласкатаць** *зак. неадабр.* Забалбатаць. *Як сыйшліся, так і зылыскыталі, ніўдзе ім міру ні буваіць. Я яе натуру ўжо ізучыў: прідзіць і зыласкочыць.* **Заласкатацца** *зак.* Забалбатацца. *Адна пініда дною зылыскыталіся, цэлый дзень іхныя ізыкі ні сьціхалі, угамоньня ні було, адна ішчэ нейкыя упацёмкых тырахцела.*

**Залатнік** *м.* Матка ў жанчыны. *Зылатнік сырвала і ўсю жызьню мучылыся, ціразь ета і на тэй сьвет пышла.*

**Залахаць** *зак. неадабр.* 1. Забалбатаць. *Як спрасілі, сколька сыма трудадней вырыбытыла, дык ні пынырaвілыся, зылáхыла, другіх ба толька любіла пувучаць.* 2. Забегаць (звыч. па хатах). *Як явіліся сюды, так і зылахылі пы хатых, во тыкая натура і ў маткі была, па ёй пашлі.* **Залахацца** *зак.* Забегацца. *Зылáхыліся, што ўжо ні прідумыюць, куды яшчэ бежч, аж ізыкі высылыпілі.*

**Залачэць** *незак.* Брацца на золак. *Нада пыднімацца, ужо зылачэіць, калі мы туды дыбярёмся. Сяньня яны явіліся, як ужо зылачэла, ета ж нада усю ночычку цігацца, як на іх тэя вайкі ні ныскачылі.*

**Залашчаніваць** *незак.* Зашмальцоўваць. *Нікуратныя ты, усякыю адзежыну зылышчáнівыіш зы нядзелю, лі гаршкоў нада астыражней.* **Залашчаніваца** *незак.* Зашмальцоўвацца. *У цябе перід усігда зылышчáнівыіцца, аж блішчыць.* **Залашчаніць** *зак.* Зашмальцаваць. *Ты свой пінжачок так зылышчáніў, што яго ўжо нічым ні аччысьціш.* **Залашчаніцца** *зак.* Зашмальцавацца. *Твае штаны саўсім зылышчáніліся, у горыд надзень чысьцейшыя.* **Залашчаненый, залашчоный** *дзеепрым.* *Ты ў мяне дужа на што глядзіш, ты гатоў і ў зылышчáніным плашчы іціць ны свадзьбу. Як табе ня стыдна ў такой зылашчоный куртычкі хадзіць. Пінжачышка зылашчоный, сам грязный, нямытый, апушчэніц апушчэнцым.*

**Залаяць** *зак.* Моцна налаяць. *Ну ніхай ён нарьвецца мне на вочы, зылáю, саўсім зылаю,— ета ж нада усякыю трілюду прідумывыць ны чылавека.* **Залаяцца** *зак.* Моцна палаяцца. *Паміж імі даўно міру ні було, ну ўчора ўжо саўсім зылаіліся, што пёрлі, што гналі адзін ны днаго — ай-я-яй, што!* **Залаяный** *дзеепрым.* *Няўжэлі ёй учырáшніга було мала, ніхай паткнецца, зылаіныя пойдзіць ат хаты.*

**Залецце** *н.* Пазамінулы год. *Што ты яму пымінаіш залецьця, ты пыньцірісуйся, айдзе ён усю вясну цігаўся. Залецьця ім крепка асталыся ў паміці.*

**Залёпываць** *незак.* Запэцкваць, залепліваць. *Ні залёпывый чыстыга відра, старінькыя бярі і мясі там што хочыш.* **Залёпывацца** *незак.* Запэцквацца, залепліваецца. *Ахота вам залёпывыцца січас, пацсохніць трошку і дадзелыіця, яно ж ні гаріць, штоб абізацільна ў етый мамент зьдзелыць.* **Залёпаць** *зак.* Запэцкаць, заляпіць.

*Штаны саўсім залёпыў, зь імі нічога ня зьдзелыіш і пы пінжаку плямы ці ат мазуту, ці ат масла якога-то.* **Залёпацца** *зак.* Запэцкацца, заляпіцца. *Другей ба ў грязі цэлый дзень работыў і так ні залёпыўся б, ато вуліцу піряйшоў і ў грязі з ног ды гылавы.* **Залёпаный** *дзеепрым. Кылі ты прідзіш залёпыный, дык што, луччы будзіць? У што йта ў цябе рубашка залёпына?*

**Залётаць** *зак. перан.* Пачаць мітуслівую беганіну. *Узяліся зы работу, залётылі, адзін карзіны нясець, другая зь мяшком бягіць, трецьція бульбоўнік у кучу сьцягыіць.* **Залётацца** *зак.* Забегацца. *Столька ў цябе дзялоў, што ты пряма залётылыся. Залётыюцца зь етым мячыкым, ні піць, ні есьць ня хочуць, прібігаць і ў пасьцель. Чаго ты етык залётылыся, сядзь, пірідыхні, нікуды твае госьці ні зьбігаць, пыдаждуць.*

**Заліваць** *незак. перан.* Даваць вельмі многа (звыч. пра карову). *Як у нас была Трамбоўка, іна зылівáла мылаком, што ўжо дыбрячыя была карова, дык і толку мала.*

**Залізацца** *зак.* Залячыць рану лізаннем (пра жывёлу). *Кот заліжыцца і ўзноў пабег. У сыбакі быльшая рана была ны баку і во зылізáлыся, ён усё яе лізаў і лізаў.*

**Залобак** *м.* Вузкі, франтонны бок страхі, схіл. *Узырвала ветрым увесь залобык, нада правіць. Ны залобку нада було прікласьць кряпчэй. Памянш.* **залобачак.** *Залобычык стаў прыцікаць, нада пыдріманьціривыць, ета ж ня дзела, што ны гылаву капыіць.*

**Залубець, залубянецца** *зак.* Закарэць. *Ныдзіваіш і ў дождж, і ў пыль, і ў грязь, плашч зулубеў, аж бубніць. Ны табе ж кожа зулубела ад грязі, тапі баню ды вымыйся як нада. Уборка позныя, хвыталі ротым і носым, усё зулубянелыся, тута було ні ды чыстаты, думылі, каб толька скарей с поля ўхваціць.* **Залубелый, залубянелый** *дзеепрым. Буду шчолык дзелыць, усё ета зулубелыя ўкіну, ніхай атмякніць, дык ататру. Такея ўжо зулубянелыя боты, усё дно як век ня чышчыны. У мяне яшчэ нескылька зулубянелых айчын выляіцца, нада б аддаць у вызілку.*

**Залупаць** *зак.* Пачаць лыпаць з непаразуменнем.— *Здароў, Кузьма! — крічу, а ён стаў, залýпыў — ні пызнаець. Абоя залупылі вычамі: аткуля ета што ўзялося.*

**Залюбіць** *зак.* Упадабаць, прыняць з прыязнасцю.

*А хто ж ба ны яе месьці зулюбіў, каб на сына пычалі ўсё ўсякыя прідумывыць, ці табе самой пыныравілыся б. Ні зулюбілі, як мы скызалі ім пра Колю.*

**Залюкаць** *зак.* Затукаць. *Залю́кылі мульчугана, зы пасьледнію пыпірашку ў іх ходзіць. Яны любога зату́кыюць, залюкыюць, хужы хужшыга зьдзелыюць.*

**Залядзянець** *зак.* Заледзянець, пакрыцца лёдам. *Пат крышыю дождж зысікаў, цяперя замёрзла, усё зылідзя́ніла, ні ўзырваць нічога. Зылідзя́нііця вы, так ныдзіваўшыся, пінжакі ныпряніця.* **Залядзянецца** *зак.* Заледзянецца, пакрыцца лёдам. *Зімля зылідзя́нілыся, скот ня выгыніш.*

**Замазголіваць** *незак.* Замазваць, вымазваць. *Ты пылядзі, як рукавы зымазґолівыіш пы загнету, зы нядзелю куртку спорціш ні к чорту.* **Замазголівацца** *незак.* Замазвацца, вымазвацца. *Ма́лыя ўсігда зымазґолівыюцца, што ты зь імі зьдзелыіш. Пірістань зымазґолівыцца, куды ты будзіш годный, як вы́мыжысься.* **Замазголіць** *зак.* Замазаць, вымазаць. *Прібярі адзежу, цялёнык дыстаніць, зымазґоліць, а то й пад ногі сьцягніць і ўтопчыць. Лі чугуноў зымазґоліў рукавы.* **Замазголіцца** *зак.* Замазацца, вымазацца. *Лі посыду полы зымазґоліліся, ну на бульбу ішчэ можна будзіць падзьдзець.* **Замазголеный** *дзеепрым. Рыбаловы твае ходзюць кыла речкі зымазґоліныя, праўда, нескылька штучык у вядзерцы буўтаіцца, злавілі.*

**Замазкатаць** *зак.* 1. Пачаць гучна грукаць, ляскаць. *Жалезьзя нейкыга пріньсьлі, рысклалі ны калодкі, як зымызкыталі, ажно ў вушах зьвініць. У самыю поўныч зымызкытаў у дзьвері, я прыхвацілыся і ні рызьбяруся, што ета айдзе. 2 перан.* Моцна пабіць. *Яны ўтрёх нывалюцца ны яго, дык зымазкочуць, луччы ніхай ні зьвязыіцца.* **Замазкатацца** *зак.* Ачмурэць ад грукання, ляскання. *Нешта ўсё клепіць, зымызкытайся зы раньня, ніхай ужо, нечым жа зыняцца аднаму.* **Замазкатаный** *дзеепрым.* Моцна збіты, пабіты; забіты. *Во так бу́дзіш і будзіш ім ныдыідаць — зымызкыта́ный пойдзіш. Каб ужо найшлі айдзе зымызкытаныга, я б нісколька ні жалела — так збрыдзіўся.*

**Замаладзіць** *зак.* Падмерзнуць на маладзіку. *Мылыдзічком як падмерзьніць, гаворюць зымыладзіла. Кончыўся рыстароп, зымыладзіла, сьнегу яшчэ паткініць, і дарога станіць.*

**Замаліць** *зак.* Палічыць малым. *Ты свайго саўсім зы-*

*ма́ліла, яму дваццыць гадоў, а ў цябе ўсё ён дзіцёнычык нісмышлёный, ты яго хуць пірід людзямі ні страмі.* **Замаліцца** *зак.* Выдаць сябе малым. *Каб ні було каму работыць, так ба ні зыма́лілыся, а зы брыта́мі сядзела, пакуля жыніхі сталі бегыць.* **Замаленый** *дзеепрым. Аттаго што зымаліныя, аттаго і ня ўмеюць ні к чому рук пріложыць.*

**Замарачаць** *незак.* Замарочваць. *Бігня́ ета толька зымырыча́іць, пряма адурівыіць, дзела ніякыга, а насіся бяс толку туды-нызад.* **Замарачацца** *незак.* Замарочвацца. *Я сваіх піцярых вы́гыдывыла, а столька ні зымырыча́лыся, сколька с тваім с адным.*

**Замаркатаць** *зак.* 1. Ціха, адрывіста забляяць. *Старыя аўца зымыркыта́ла. Як ігнят німа, аўца січас зымаркочыць.* 2 *перан. іран.* Пачаць невыразна гаварыць. *Узноў зымыркытаў сваё, дужа яму Лявонывы уеліся ў душу.*

**Замарыванне** *н.* Стома, стомленасць. *Зыма́рівыньня тожа так ні праходзіць, сіла выбіваіцца троху-патроху.*

**Замарывацца** *незак.* Стамляцца. *Нешта я стаў зыма́рівыцца на етый рабоці. Кажыцца, я ні разу так ні зымарівыўся, як сяньня, чуць-чуць дывалокся.* **Замаромшы** *дзеепрысл. Зымарёмшы кыня, многа ні ныпашыш. Прішла зымарёмшы, пірікусіла трошку — ды на печ. Мы ўсе былі зымарёмшы ды пасьледніга.*

**Замасоліваць** *незак.* Замасліваць, зашмальцоўваць. *Я ўжо ні намеюсь ні мыць, ні ацьціраць за ім, зымасолівыіць кажный дзень усё пыдряд, што ні надзеніш ны яго.* **Замасолівацца** *незак.* Замаслівацца, зашмальцоўвацца. *Ні зымасолівыйся, як малінькій, ато ты ложку ў руках пы-чылавечыскі дзіржаць ня ўмеіш.* **Замасоліць** *зак.* Замасліць, зашмальцаваць. *Хто табе нукупля́іцца тэя адзежы, штаны зымасоліў, сталі, як тряпка чугуны выцягывыць.* **Замасоліцца** *зак.* Замасліцца, зашмальцавацца. *Твой пінжачок ужо так зымасоліўся, што яго большы нілізя ныдзівыць. Прібярі ты ат іх міску, зымасоліліся, як чэрця.* **Замасоленый** *дзеепрым. Кохтычка зымасоліныя, як у малютычкі. Нейкія зымасоліныя тряпкі цігаіць пырасёнык пы двару.*

**Замататорыць** *зак.* Закруціць, зацягаць (пра чалавека). *Зымытаторіў мяне малый па горыду: і туды яму нада, і тоя яму купі, і ета пыкажы — саўсім зывадзіў.* **Замататорыцца** *зак.* Закруціцца, забегацца. *Пашлі ты*

*сяньня каго-небудзь другога, я ўчора зымытаторіўся, бегыўшы з бумагымі, мыладзейшыга каго пашлі.* **Заматтораный** *дзеепрым. Знаіш, сколька нам бігатні було кажный дзень, мы аттуля ніізьвесна якея зымытаторіныя вярнуліся.*

**Заматываць** *незак.* 1. Абкручваць, хутаць. *Меншы ты яго зыматывый, ён здыравейшый будзіць.* 2 *перан.* Прысвойваць, утойваць. *Мільлянёнык чэсный чылавек, чужога ён зыма́тывыць ні станіць, ны яго можна пылажыцца.* **Заматаць** *зак.* 1. Абкруціць, ухутаць. *Зымыта́ла дзіцёнка, што ён тама ні прадышыць.* 2. Прысвоіць, утаіць. *Во, яны грошы ні зымытаюць, ім толька ніхай у рукі пупадуцца, тэй мамент і відзіў.*

**Замацюкаць, замацюгаць** *зак.* Нагаварыць мацюкоў. *Толькі ніхай я ўстречу яго, зумуцюка́ю, ета ж нада ўсякыю лухту прідумыць ны чылавека, чаго сы трыда ні було. Не ўжо, большы ён цярьпець ні станіць, ён жа зумуцюга́іць цябе, куды ты вочы сваe дзеніш.* **Замацюгацца** *зак.* Пачаць лаяцца матам. *Глянуў на ўсю ету работу, зумуцюга́ўся,— ну й праўда, любэй ба ня выцірьпіў, што столька лесу спорцілі.* **Замацюканый, замацюганый** *дзеепрым. Пашоў сяньня зумуцюка́ный, скрівіўшы гылаву,— яму тыкі нада, ато ніўдзе ні було угамоньня чылавеку. Січас пад'едзіць Высілёнык і пойдзіш ты ат'етуля зумуцюга́ный, ён цябе прыздравіць, палучыш ты сваё.*

**Замашараваць, замашаравацца** *зак.* Пачаць бесцырымонна гаспадарыць, распараджацца. *Як прiехыла, так і зумушурува́ла пы хаці, усё па-свойму пычыла пірядзелывыць. Кылі другей раз так зымышаруіцца, я яго уніму, ніхай к сабе ідзець і там рыспыріджаіцца, як хочыць, а тута нечыга.*

**Замікаць** *зак.* Замукаць (пра цяля, карову). *Бычок замі́кыў: дывай піць. Карова прібягіць і замікыіць пыд вакном, каб яблык нясьлі, дужа яблыкі любіць.*

**Замітушыцца** *зак.* Замітусіцца, пачаць паводзіць сябе неспакойна, разгублена. *Увідзіў, што мы патходзім, зымітушыўся, ні знаіць куды дзецца, а мы: ну-ка, пыказывый, айдзе мяшочыкі пухуваны!*

**Замор** *м.*, **заморка** *ж.* Стома. *Ны вічарінку цябе і замор ні бярець, гатова да відныга скыкаць, а тута ўся, ня можыш. Ні чырясь сілу, нам паць сілу нада работыць, а ета ні заморка, дома я ні так зымаріюсь.*

**Заморушак** *м.* Слабае, хілае дзіця. *Мальчонка яе ней-*

*кій заморушык, худэй, бледнінькій, яму нечыга нідылігáіць.*

**Замуравецца** *зак.* Замуравець. *Сколька дней цёпла пубуло, а ўзгоркі зумураваліся,— што значыць вісна.*

**Замурзаціць** *зак.* Замурзаць. *Што ж ты зумурзáцій ліцо, як чырцянок. Чаго табе сюда лезьць, ці ты хочыш усё на сьвеці зумурзáціць?* **Замурзаціцца** *зак.* Замурзацца. *Як пусьцій іх на вуліцу, зы час зумурзáцюцца, што ні пызнаць. Кошка лезіць у печ грецца, як зумурзаціцца там!* **Замурзачаный** *дзеепрым. Зірні ны яго, якей ён зумурзачыный, усё дно як сьвіньню ссаў цэлый дзень.*

**Замурыжываць** *незак.* Мучыць, грызці пастаяннымі папрокамі, ушчуваннямі. *Доўга ня ўцерьпіць, яны яго зумурыжывыюць біс прічыны.* **Замурыжыць** *зак.* Замучыць, загрызці пастаяннымі папрокамі, ушчуваннямі. *Ты свайго зяця зумурыжыш, так гыняўшы, пацерьпіць, пацерьпіць і ўцякець. Зумурыжылі хлыпца работыю.* **Замурыжыцца** *зак.* Замучыцца, стаміцца. *А ніхай яе, зумурыжыўся за лета зь етыю пастройкыю, хвытай пріскыкым, трактыра ня кініш, а тут нада то тоя, то тоя дадзелыць.* **Замурыжаный** *дзеепрым. Нешта ў цябе від дужа зумурыжыный, відна, бяреш ціряшчур ны рабоці.*

**Замусолівыць** *незак.* Зашмальцоўваць. *Ішчэ ладныя ныпрятычка, а ты зумусолівыіш яе айдзе-зря, бярешч нада, усякыя адзежына прігляд любіць.* **Замусоліваццa** *незак.* Зашмальцоўвацца. *Пытпіряжыся якою вярёвычкыю ці чым, каб полы ні зумусолівыліся.* **Замусоліцца** *зак.* Зашмальцавацца. *Пакуля с кыбаном вазіўся — смаліць яго, рызьбірaць, цігаць, а тады секлі, салілі — штаны саўсім зумусоліліся.* **Замусоленый** *дзеепрым. Рызьвярнула, пыглядзела, што тута такоя, а ета ж твой платок такей зумусоліный. Ета ж нада, ужо і ды шапкі дыбраўся, уся зумусоліныя.*

**Замуціць** *зак. перан.* 1. Хітра нашкодзіць. *Усё дзела тут зумуцій Арьхіпёнык, яму ну рукў, каб яны ні пыладзілі хуць у чом-нібудзь.* 2. Занудзіць. *Посьлі капусты мяне дужа зумуціла, іна смашныя, ну кіслуватыя.*

**Замушкарыць, замушкардзіць** *зак.* Выбіць з сіл, стаміць бесперапыннай тузанінай. *Сам цэлый дзень стаіць с тыпаром і нам: ну-ця, хлопцы, дывайця яшчэ апцешым, саўсім зумушкáрій. Зы два дні зумушкáрдзіць кыня, што яму нядзелю аддыхаць нада будзіць. Здароў, а мы зь ім ні справімся, ён нас зумушкáрдзій.* **Замушкараный, за-**

**мушкарджаный** *дзеепрым. Коні зумушка́ріны, с хумутоў ні выходзюць, ім абізацільна нада хуць дні трі пірідыхнуць. Нейкій від у цябе дужа зумушка́рджыный. Зумушкарджыныя пріехылі, прішлося путрудзіцца, ні ны бацькывый шыі сядзець.*

**Замуштраваць** *зак.* Заганяць, замучыць. *Саўсім зумуштрува́лі чылавека і церьпіць ім усё, я б такім ні стала цярьпець, я б дыла здачы.* **Замуштравацца** *зак.* Замучыцца. *Паехылі лёгінька і пірікусіць ні ўзялі, думылі, часы зы два справімся, а тама да вечыра буйтува́ліся, зумуштрува́ліся, чуць жывэя пріехылі. Зумуштру́іціся адны, ніхай хлопцы памогуць.* **Замуштраваный** *дзеепрым. Чаму ж яны ня будуць зумуштруваныя, калі столька работы, а конь жа жывэй, яму тожа пірядышка нада.*

**Замыліцца** *зак.* Збянтэжыцца, разгубіцца, заццацца. *Гаворім, ты ж рыскажы, як тама було ўсё, а ён чаго-то замыліўся: ай, ну іх, посьлі калі-небудзь.*

**Замырчэць** *зак.* Замармытаць. *Ета аўца спрасонку зымырчэла, вуўка ува сьне увідзіла. Пра што ён зымырчэў, я нічога ні рызыбраў.*

**Замыслова** *прысл.* Замыславата. *Ты ні гывapі зымыслова, ты рысталкуй, куды іціць. Дужа зымыслова пычаў строіцца, і нічога ня выпыліла.*

**Замысловый** *прым.* Замыславаты. *Зымысловыя работа, ня дужа рызьбяресься, што к чаму. Такея зымысловыя, як Наста, нійдзе ня сыйшчыш.*

**Замытарываць** *незак.* Стамляць тузаннем. *Сілы ў мяне, як у тога кымыра, а йна карова кру́ткыя, зымыта́рівыіць мяне, куды захочыць, туды й пыцягніць.* **Замытарывацца** *незак.* Стамляцца ў тузанні. *Сім'я быльшая, а помышчы дужа ніаткуль, ён усё лі коні і лі коні, адна зымыта́рівыіцца с хызяйствым, блыгыдыря хуць дзеці карову зывядуць і прігонюць.* **Замытарыць** *зак.* Стаміць тузаннем. *Зымыта́ріла ты мяне сы сваёю сакою, ніхай пыляжыць. Мякінью зымытарі́ў — пуўдня вазіў і цігалі ны хату, праўда, карова яе дужа любіць.* **Замытарыцца** *зак.* Стаміцца ў тузанні. *Я саўсім зымыта́ріўся с пастройкыю, усюдых нада пасьпець, і там глядзі, і тут хвытай, а рукі адны, ні рызарьвесься.* **Замытараный** *дзеепрым. Настолька ён зымыта́ріный, продыху ні мінуты ня відзіць, іна ня дужа пытхва́тныя, а аднаму трудна за ўсім пысьпіва́ць.*

**Замычэцца** *зак.* Намычацца. *Ідзі падой і будзіш дрімаць сколька захочыш, карова зымычэлыся.*

**Замэнчыцца** *зак.* Замучыцца, забегацца. *Лі двыра і работы ня дужа многа на від, і замэнчысься большы, як на полі. Замэнчылыся іна сы сваёю дзітварою, усюдых нада пасьпець.*

**Замякаць** *зак. жарт.* Закамячыць. *Зымя́кыіш ты етыга цільпука́, толька рягочыць, рукі рыстапы́ріць і бягіць ны мяне.* **Замякацца** *зак.* Нападацца. *Ой ты, мылышок, зымякыўся, прыгыўшы,— ны бальку залезіць і прыг у сена, дужа яму аньціресна так.*

**Замякаць** *незак.* Намякаць. *Ні дывай зымікáць ніякый адзежыні, іна порціцца. Нада крыць скарей, ждаць некылі, сьцены зымікáюць, гніль заводзіцца.* **Замякнуць** *зак.* Намокнуць. *Травы я ні жалею, тама пасьці адна сыка, а во што снапкі зымя́клі — хужы. Там пáра пірібірáнычык, прібярі, ато можыць зымя́кнуць, хмаріцца пычало.* **Замяклый** *дзеепрым. Каб ты зразу хваціўся посьлі дажджу, палез, пыглядзеў, можна було б зьнесьць і пірісушы́ць, а пыліжала сена зымя́клыя — пычало тынець. Кінуў зымяклыя тряп'ё, яно і папрела.*

**Замяраннік, замяральнік, замяральшчык** *м.* Замершчык. *Зь яго такей зыміря́ньнік: можыць у два разы большы намеріць, а, хочыш, у трі разы меншы ў яго палучыцца. Твае зыміря́льнікі множыць дайжа ня ўмеюць троху, мы знаім, як яны ў школі учыліся. Адзін зыміря́льшчык памеріў — пуўгіктара пулучылыся, а ў другога дайжа сорык сотык ні выходзіць.* **Замяранніца, замяральніца, замяральшчыца** *ж. Зыміря́ньніца наша пабегла ш шыгáлым удойж, уперік, нешта пісанула ну бумажкі, цётка, сорык сотык у цябе жжата, крічыць. Ты луччыя, чым брігадзір, зыміряльніца: шыгамі памеріла, і столька пулучылыся, як у яго. Пыстаў ты, зыміря́льшчыца, шыгала, ніхай яны самі меріюць, як хочуць.*

**Замятайла** *м. перан. іран.* Прыслужнік, паслугач. *Табе, знаць, ныравіцца зымітайлыю век быць. Пасьледній зымітáйла стаў у Іхімёнка, ныт табою кажный сьмяецца. Усяго я нагледзіўся ны сваём вяку, ну такіх зымітайлыў ішчэ ня відзіў.*

**Замятаннік, замятальшчык** *м.* Той, хто замятае, падмятае. *Якей зь яго зымітáньнік, кылі венік большы яго, вазьмі сыма ды зымяці, ніхай ні пыліць. Зымітáльшчык етый пылі толька надзелыў, я атыбрала ў яго мятлу.*

**Замятанніца, замятальшчыца** *ж. Скарей, зымітáньніца, вурушыся, яны вот-вот зыявюцца ў хату, а ў цябе ні прібрана. Ты зірнят, зымітáльшчыца, ні мяці ў аторю, у цябе ліцяць ува ўсе бакі.*

**Замятлёвываць** *незак.* Абшываць. *Што ўжо я ўмела зымятлёвывыць, бувала, рукамі зьдзелыю луччы, чым ны машыні пулучалыся.* **Замятлёвывацца** *незак.* Абшывацца. *Нешта ў цябе дужа ніакуратна зымятлёвывыіцца.* **Заметляваць** *зак.* Абшыць. *Айдзе атрезына, зымятлю́й, ня будуць ніткі ссыпацца. Я зымітлювáла рукаў, можна ныдзіваць.* **Заметлявацца** *зак.* Абшыцца. *Зымятлю́іцца чуць і можна пынасіць, толька нада зьдзелыць акуратнінька.* **Заметляваный, замятлёваный** *дзеепрым. Рукавы зымітлювáны, ныдзівай, ды другей раз ірваць ня ўздумый, сам будзіш іманьціррывыць. А ныдзівай ты ўжо, ні вазґолься, там усе дзірічкі зымятлёвыны.*

**Занедалужыць** *зак.* Занемагчы. *Я ўжо зь месіц зынідалужыў, ніяк ня выскрібусь. Мы як зынідалу́жылі абоя, а ня можым сь печы саскресца, карові паткінуць і то ня можым, я ны яго: ідзі, а ён ны мяне: сыма злазь.* **Занедалужыцца** *зак.* Занездаровіцца. *Яму зь вечыра зынідалу́жылыся, вялый быў, а к раньню жыра як усхваціліся, гаріць увесь чыста агнём. Ён даўно зынідалу́жыўся, а тады ж яно адно ґ другому і плувець.* **Занедалужаный, занедалужаўшый** *дзеепрым. Ён ужо каторый год зынідалу́жыный, і баліць у яго, і хріпіць у яго, німа толку сы здароўім. Быў зынідалужыный саўсім, ну трошку стаў пупруўляцца. Нешта ў цябе від, усё дно як ты зынідалу́жыўшый, можа, айдзе прудуло ці вады халодныя хваціў. Я хаджу тыкая зынідалужыўшыя, у грудзях ломіць, у гылаве цяжола.*

**Занездаравець** *зак.* Захварэць. *Я была як зыніздыравела пад Новый год, а ні магу ні рукою, ні нагою шывяльнуць. Валочысься й валочысься, а як зыніздыравеіш, тады дужа плоха.* **Занездаравецца** *зак.* Пачаць нездаровіцца. *Яно як зыніздыравеіцца, тады як на проклітыга валіцца ўсё атаўсюль.*

**Занозлівый** *прым. перан.* Такі, які любіць падкалупнуць. *Ён дужа занозьлівый, усё будзіць ціха, спакойна, а тады як пыткывырнець! Аксюта — баба занозьлівыя, іна табе ні ў чом ня спу́сьціць.*

**Заносчыватый** *прысл.* Ганарысты. *Пы маткі ўдáліся: ат пріродзьдзя заношчывытыя. Канешня, каб цябе ўся-*

*кій торкыў, нільзя дупускаць, ну й дужа заношчывытым нікрасіва.*

**Зануджываць** *незак.* 1. Рабіць хілым, слабым. *Іна ня доглідым, а сваім ізыком зану́джывыіць.* 2. Пачынаць нудзіць. *Хуць адну кыпілі́нычку сальныга зьем і сыма чую: ужо зану́джывыіць, нічога мяснога к роту ні пыднасі.* **Зануджывацца** *незак.* Нудзіцца, рабіцца хілым, слабым. *Ты ні зану́джывыйся, рузувіря́й сябе патрошку, у людзей і яшчэ хужы буваіць, а жывуць.* **Зануджаный** *дзеепрым. Пыткármлівый луччы, ато ён у цябе дужа зануджыный. Змалку за ёю прігляду ні було і цяперя зануджыныя.*

**Занурыць** *зак.* Зрабіць заняпалым, стомленым. *Так кармёмшы, ты яго саўсім зану́ріш, што йта зы мыладэй будзіць. Зунурілі кыня, ён і плуг цігаць ня хочыць, нада луччы карміць.* **Занурыцца** *зак.* Заняпасці. *За кніжкымі зунуріўся, пряма вачэй ні атводзіць. Кажный дзень цягнуць — саўсім зану́рісься, аддыхаць патроху нада, ну яе, і работу ету.* **Зануланый, зануроный** *дзеепрым. Прігляду харошыга ні було, ён змалку зану́ріный. Дзяржыць нейкыю зану́рінаю кыравёнку, даець, як кыза. Нейкій від яго дужа зунурёный.*

**Занюндзіць** *зак. неадабр.* Пачаць нудную доўгую гаворку. *Як рызьвядзець сваe жалыбы, як заню́ньдзіць, такою прікініцца сіратою кызанскыю, гарчэй горькыга зьдзелыіцца. Ну, заню́ньдзіў ну пуўдня, слухыйця яго лухту!*

**Запаганіцца** *зак.* Сапсаваць сваю рэпутацыю ў выніку дачынення да ганебнай справы. *Нашто яму було улізаць у такую кынпанію, толька зыпыга́ніўся, усе пальцымі будуць пыказывыць.*

**Запальчывата** *прысл.* Запальчыва. *Ня прыгый так зыпа́льчывыта, ніхто цябе дужа ні баіцца.*

**Запальчыватасць** *ж.* Запальчывасць. *Дужа многа зыпа́льчывытысьці, каб хто хуць пылавіну найшоўся ды вы́гныў.*

**Запальчыватый** *прым.* Запальчывы. *Во родныя браты, а адзін, як цялёнык, ціхій, спакойный, а другей, як вінаход, мінуты ня ўседзіць і дужа зыпа́льчывытый, толька ні па ём скажы, січас як агонь успыхніць.*

**Запаршывець, запаршывецца** *зак. перан. іран.* Заганарыцца пабагацеўшы. *Ён запаршы́віў, што й знацца ня хочыць. Трошку зыпаршы́віііць, тады к яму ні пацсту́-*

*пісься. Усё хадзіў, што на ём і большы нічога, а тута, глянь, як зыпаршы́віўся — харомы разьвёў, цілівізыр, хызяйства, во ўзяўся хызяін.* **Запаршыўленый** *дзеепрым.* Неахайны, брудны. *Прішоў ён тады — тыкая зыпаршы́ўліныя была адзежа, ні мыць ні було чаго, ні чыніць, спалілі ўсё ў печы, а ён новыя надзеў.*

**Запарываццa** *незак. перан.* Занадта вазіцца, кешкацца, залішне старацца. *Нільзя ж так зыпа́рывыцца ны ўсякый ірундзе, айдзе нада, айдзе ні нада, сядзіць, кыпаіцца.* **Запароцца** *зак.* Завазіцца, закешкацца. *Як запоріцца сы сваім тряп'ём, яе ня вы́цігнуць нікуды. Зыпаролыся ў грідах, трыва апыланіла.*

**Запаскудзіцца** *зак.* 1. Зрабіцца брудным. *Есьлі ты мне яшчэ раз зыпаску́дзісься, ня жджы дыбра.* 2 *перан.* Ублытацца ў непрыемную справу. *Сам сабе ні рад, што зыпаскудзіўся зь етыю бульбыю, нашто іна яму была.* **Запаскуджаный** *дзеепрым.* Забруджаный. *Куды я пыбягу табе ету мінуту, кылі ўвесь посыд зыпаску́джын, вы́мыю і пайду, цэлы будуць, кылі мінуту пыдаждуць. Увесь ірьмяк зыпаскуджыный, залеплін чым-то.*

**Запацецца** *зак.* Запацець. *Вокны зыпацеліся, і ня відна нічога, гаворюць: вокны плачуць. Як сьцякло зыпацеіцца, нада працерць.*

**Запаяць** *зак. перан.* Моцна сцебануць. *Зыпыя́й ремня цірісь сьпіну́, паслухыіць. Зыпыя́ў бізунчыка, дык жыва пытхваціўся.*

**Запеклаваццa** *зак.* Празмерна запрацавацца. *Ля́да рызрыба́тывылі, усе зыпіклува́ліся: пні, кареньня, сякі і сякі. Зыпіклу́іцца іна ў такой сям'е, я б ніза́штычка ні рішылыся так гылаву зывязывыць.*

**Запетаваць, запетаць** *зак.* 1. Бязлітасна пабіць. *Ну, пупаду ў гародзі, запетыю, я атаўчу, як лазіць. Трахім каб цябе зыхваціў тут, запетыў ба, ты б яго доўга помніў.* 2. З сілай убіць. *Дзіркі прукруціў і штырі дзірівя́нныя запетывыў, ні вурухнецца. Запетылі бяз розыму, а цяперь пычалі выця́гывыць, ірвацца, дый ня вы́цігніш.* 3. Стаміць. *Ты яго запетывыла работыю, ніхай ён пройдзіць, хуць людзей пыглядзіць. Яму тожа нейкій пірядых нада, а ты яго запетыла работыю, сьвету белыга ня відзіць.* **Запетаваццa, запетацца** *зак.* 1. З сілай убіцца. *Во крепка гвозд запетывыўся, стаіць прітылка, ні шывяльнецца. Штырь чуць ня ў шморін тыўшчыною, запетыіцца — то ўжо будзіць дзіржаць.* 2. Стаміцца. *Мы*

*запетывыліся, пакуля пірінясьлі: жалка було, што такоя сухенічкыя сянцо нымякніць. Запетыліся вы кыла пнёў, нашто вам так зыбівацца, ніхай яны згыряць тут на месьці.* **Запетаваный, запетаный** *дзеепрым.* 1. Бязлітасна збіты. *Ні паслухыіш, дык запетывыный пойдзіш, тады і слухыць наўчысься. Калі слова ды цябе ні даходзіць, запетыный тута сядзіш і прікымянеіш.* 2. Моцна ўбіты. *Крючча запетывына — яго ніякыю сілыю ня вырьвіш, толька нада резыць, выкалывыць. Во запетын кол, увесь верьх разьбіт, а ніжы дзяржыцца, крепкій.* 3. Стомлены да рэшты. *Ім тама хваціла, запетывыныя пріехылі, чуць у хату ўваліліся. Запетыныя ат пнёў прішлі, нубуйтуваліся.*

**Запечкі** *мн.* Запечак. *Пыдз запечкымі ў мяне стыяць штындары дужа крепкія, дайжа пуд вуглы такея ні становюць. Памянш.* **запечачкі.** *Доўга Лабуз вазіўся, па дзьве палычкі ў дзень тріпускаў, ну зьдзелыў запечычкі, як атліў.*

**Запіпчыць** *зак. гумар.* Закурыць. *Як бальшэя, запіпчылі і пыдаліся пы гародых, куды тэя бацькі глідзяць. Глядзіш, каб табе харошыя пыпіросіна, а свае ня хочыш запіпчыць?*

**Запірхываць** *незак.* Засоўваць. *Ні нада куды пупала нажніцы запірьхывыць і нечыга мне тут усё варочыць дыгары нығамі.* **Запірхывацца** *незак.* 1. Затыкацца, забівацца. *Што там пулучаіцца, ні праходзіць і ўсё, трошку йдзець нурмальна, а тады узноў запірьхывыіцца саломыю.* 2 *перан. груб.* Давіцца. *Адною бульбыю запірьхывыіцца, жаднысьць заела.* **Запірхнуць** *зак.* Засунуць, запіхнуць. *Зыпірьхнець куды пупала вязёнкі, а тады пурхыіць: айдзе яны. Як зыпірьхнуў гарошыну ў вуха, ґ доктыру вазілі, дыстывалі, самі нічога ні маглі зьдзелыць.* **Запірхнуцца** *зак.* 1. Заткнуцца, забіцца. *Што там такоя: комін зыпірьхнуўся, дым ня йдзець. Была маліжкыя дзірічка, цяперя зыпірьхнулыся і ні цякець вядро.* 2 *груб.* Падавіцца. *Во зыпірьхнесься, так хвытайшы і грёбшы.* **Запірхнутый** *дзеепрым.* Засунуты, напоўнены. *Саломыю труба зыпірьхнута, вытрісь ды нясі, пыставім грубычку. Рот зыпірьхнут бульбыю, што ні прыгаворіць.*

**Запікаваць, запічкаваць** *зак.* Моцна заткнуць, закрыць, закупорыць. *Нада крепка-крепка зыпікуваць, ато пычанець бражыць і пробку выб'іць. Зыпікувалі сяньня пісьмо і пыслалі яму, усё пынылісалі. Ты крепка ні*

*зыпічку́іш, дывай я сыма. Бувала, квасу надзелыім, бікла́жкі зыпічку́ім, і ён доўга стаіць.* **Запікавацца, запічкавацца** *зак.* Моцна заткнуцца, закрыцца. *Як зыпіку́іцца крепка, каб воздух ні прыхадзіў, тады будзіць стыяць, ня спорціцца. Нешта ў трубычкі зыпічкува́лыся, мы рыскалу́пывылі, рыскалупывылі, чуць рускулупа́лі.* **Запікаваный, запічкаваный** *дзеепрым. Банкі ў мяне крепка зыпікува́ны, сьмела ды вясны будуць стыяць. Не ш чым стыяць у яго дзьве бочычкі зыпікува́ныя, ды ні пагледзіла, ш чым. Каб було крепка зыпічкува́на, ня спорцілыся б, відна, воздух зайшоў. Комін зычы́ніт, вокны наглуха, дзьвері — усё зыпічкувана, воздуху німа, дыхыць нечым.*

**Заплашэць, заплахаваць, заплашэцца, заплахавацца** *зак.* Саслабець, аслабець. *Хадзіла і хадзіла, а тады зразу зыплашэла, зьлігла. Нашы гады такея, што зыплашэць нядоўга, сяньня ходзіш, варушысься, а заўтря з ног далоў. Лыўрінёнык пасьледнія ўремя саўсім зуплухува́ў, у яго ны сярёдку нешта баліць. Рунува́та ты зуплухува́ла, ішчэ мыгла б сколька гадкоў пыдзіржацца. Нісьцярёнык даўно зыплашэўся, ну ды пасledніга ўремя дзіржаўся ны ныгах. Марья саўсім зыплашэлыся, чуць толька ногі пірістыўля́іць пы хаці. Што ў восімдзісят гадоў зуплухува́лыся — ета ня дзіва: і так столька дзіржалыся, а ў яе жізьні усяго хвытала, піріжыва́ньніў усякіх було больш некуды.* **Заплашэлый** *дзеепрым. Кузьмічонык саўсім зыплашэлый, зь яго работнік ужо ні палучыцца, так, лі хаты будзіць кыпацца трошку.*

**Заплут** *м.* Ачмурэнне, блытаніна ў галаве. *Ну пряма за́плут нейкій найшоў, ні знаю, у якім баку дарога і ўсё!*

**Заплутухаць** *зак.* 1. Заблытаць, зблытаць. *Ніткі ліжалі, кыцянок улез у іх і пачаў гуляць, зуплутуха́ў усё. Ні мішай, ты мяне толька зуплутуха́іш, я сам саб'юся.* 2. Заблудзіцца. *Нада ж у такіх кусьцікых зуплутуха́ць, айдзе ў цябе гылыва ны плічах была.* **Заплутуханый** *дзеепрым. Вожычкі пыц стряхою ліжалі, мокрыя, зуплутуха́ныя, іх нада рускруціць ды павесіць, ніхай прасохнуць. Ну нейкій я зьдзелыўся зуплутуханый, ніяк ні рызьбяруся, што к чаму.*

**Заплываць** *незак.* Заглушацца (травою). *Гурочыкі прулузну́ліся і лібядою зуплува́юць, аткуля яе столька ныбрала, во ўредныя трыва!* **Заплысць** *зак.* Заглушыцца (травою). *Ячмень заплы́ў асотым, нада скарей пра́рвы-*

*выць. Нічога ня будзіць, кылі дапу́сьціш, што грядьі зуплуву́ць травою.*

**Заплюскываць** *незак.* Заплюшчваць. *Ты ні атвырачывыйся і вачэй ні заплюскывый, ты зірні, што тває нытварілі ны гародзі. Сьцялі ды кладзі, ён ужо вочкі зыплю́скывыіць.* **Заплюскывацца** *незак.* Заплюшчвацца. *Надзелыіць ён табе многа, сядзіць, і ў яго вочы заплю́скывыюцца.*

**Запомніваць** *незак.* Запамінаць. *У мяне ў ма́лыя тыкая была паміць, што ні ў кога ні було, я во такея доўгія вершыкі запомнівыла зразу. Што ты мне будзіш запомнівыць, ты свайму лыхыда́ну запомні.* **Запомнівацца** *незак.* Запамінацца. *Ты січас паўчы і спаць лажыся, а ўраньні ўстань і пухтарі, яно тады луччы запомнівыіцца.*

**Запорчыванне** *н.* Псаванне. *Ці гніль ікая, ці якоя другоя запорчывыньня як уесца ў дзеріва, яно тады скора гніець; грібок яшчэ нейкій буваіць.*

**Запорчываць** *незак.* Пачынаць псаваць. *Ты яго патроху зьдзержывый, ніхай ні запорчыіць серца, што ён тады зы чылавек будзіць.* **Запорчывацца** *незак.* Пачынаць псавацца. *Відзіш, бульба запорчывыіцца, пірібярі, гнілую аткінь, а цэлыя ніхай прасохніць.* **Запорціць** *зак.* Сапсаваць. *Ні бярёгся, запорціў сваё здароўя, а цяперіцька хы́рліііць. Ня сып, адна карзінка бульбы можыць увесь погріб запорціць.* **Запорціцца** *зак.* Сапсавацца. *Моркву ды марозікыў ні пасьпелі схваціць, іна і запорцілыся. Сена суруваціцькыя грэблі, можыць запорціцца у капёшкых.* **Запорчаный** *дзеепрым. Уся капуста запорчыныя. Намучыісься, калі жалудык запорчыный, а запорціць нядоўга, ныправіць трудна.*

**Запостываць, запостывацца** *зак. часта жарт.* Пачаць пасціць, адмаўляць сабе ў ядзе або ў чым-н. іншым. *Як бувала? — во як бува́ла: як запостыюць ны дзьвінаццыць нядзель, ні малошныга, ні мясного ў рот ні бяруць, мылако ў погрібі ў бочкі зьлівалі, а тады ўжо дарву́цца, ныяду́цца — ж жывытамі кычаюцца. Січас вы дужа жырна едзіця, ні агледзіціся, як запостыіціся, будзіця голыю костку рады глыдану́ць.*

**Запраганнік** *м.* Той, хто запрагае. *Ты глядзі, зыпріга́ньнік, клішча́мі к шыі хамут ні надзень, ато паедзіш.* **Запраганніца** *ж. Сь цябе зыпріга́ньніца, як зь мяне пе-*

*кырь, ніхай сам выйдзіць ды зыпрягець. Дывайця пыднімацца: зыпріганьніцы пашлі.*

**Запрададжаный** *дзеепрым.* Запрададзены. *Што я, зыпрыдáджыныя табе ці што, на ўсю сям'ю дзелыю, дык ішчэ ідзі ты ны яго матку петыйся, а йна вылежывыцца будзіць. Цягнуў увесь век, як зыпрыдаджыный.*

**Запракідацца, запракідывацца** *незак.* 1. Ушчамляцца (звыч. пра каня). *Наш Гнядэй астарожный быў конь, а два разы зыпрыкідáўся. Чаго ж ня будзіць зыпракідывыцца, кылі пылавіна стынка ямкыю.* 2 *перан. жарт.* Паміраць. *Ці ні сыбраўся ты, старэй, зыпрыкідáцца? Айт, пыра б ужо зыпракідывыцца.* **Запракінуцца** *зак.* 1. Ушчаміцца (звыч. пра каня). *У нас конь адзін раз зыпракінуўся, біўся, біўся і нагу злумаў.* 2 *жарт.* Памерці. *Ты глядзі толька ні зыпракíньсся пірíц свадзьбыю, каго тады жаніць будзім.*

**Запратаць** *зак. перан.* Моцна, без жалю пабіць. *Ты ўжо сваё пулучыў раз, што ты гылавою круціш, учора цябе бацька чуць ні зыпрятыў, дык сяньня ат мяне будзіць.* **Запратаный** *дзеепрым. Мікіта пры яго гаворіць: вот халера, зыпрятыный ходзіць, а дуроў ні кідáіць.*

**Запуга** *ж.* Запалохванне, страх, перапалох. *Даў ба яму харошыю запýгу, пыспыкайнеў ба, ато дужа ўжо рогі пырасьлі. Ладныя запуга яму была, большы сюда ня сýніцца.*

**Запужацца** *зак.* Вельмі спалохацца. *Зупужáцца нада: цап зу руку, мне неік кропна стала, а так спужалысь ня дужа.*

**Запурхаць, запурхацца** *зак.* Разбубнецца. *Што я там такога прыгыварíла, ну скызала, хадзіў ён ґ Домніный дачке, чаго ён запýрхыў. Ну ніхай запýрхыіць, я знаю, чым яго ўняць. Ні ўгадзіла: ні так есьць пыднісла — запýрхыўся.*

**Запярхаць** *зак.* Пачаць моцна кашляць. *Лёхкія слáбыя, а бярежца саўсім ня хочыць, вады халодныя хвáціць, і зыпірьхáў. Нешта карова зыпірьхáла, ці ня пыльныя сена.* **Запярхацца** *зак.* Закашляцца. *Бярежца — ніскалька ні бірягецца, узноў зыпірьхáўся. Во Пульчоньк зыпірьхаўся ны дваре, зы вярсту чутны яго пярьхі, пярьхі.*

**Запятак, запятнік** *м.* Задняя частка падэшвы ў лапці. *Зыпяткі і мысы часцей усяго ірваліся, бувала, зыкывіряіш троху лыкым ці вярёвычкыю і ходзіш. Нікаторыя*

*зыпя́тнікі пытплітáлі зразу новыя, каб меншы тыпталіся. Памяниш.* **запятачак, запятнічак.** *І ў етым зыпя́тычку дзірічка, і другей чуць дзяржыцца. Каб запя́тнічкі трошку пыдзіржаліся, ніхай ба, у марозы можна пыхадзіць.*

**Запяўняць, запеўніваць** *зак.* Пераконваць, запэўніваць. *Іна мяне цэлый час зыпіўня́ла, што ўсё будзіць хыраишо, у Архіпёнка совісьць луччы некуды. Што ты мяне запеўнівыіш, кылі твайму ні аднаму слову веріць нілізя. Запеўнівыў: ух, я што хочыш длі цябе зьдзелыю, а як прішлося ґ дзелу — віль у кусты.* **Запяўніць, запеўніць** *зак.* Пераканаць, запэўніць. *Мне раз так Бгыт лешчынскій зыпяўніў, дык я нядзелю расхлёбывыўся. Раз Кузьмянок зыпяўніў, будзь спакоін. Запеўніў, што абізацільна прідзіць, і так падвёў. Мала што яны запеўнілі, яны як веціp: сяньня ў іх адно, а ызаўтріга другоя.* **Запяўніцца, запеўніцца** *зак.* Пераканацца, запэўніцца. *Думыў, зыпяўніцца, ажно не, саўсім у расьцерінныссьці. Хочыць запеўніцца, што яны праўду гываріліі, а яны могуць і праўду скызаць, і збрешуць — дорга ня возьмуць.* **Запеўненый, запяўнёный** *дзеепрым. Прішоў ён запеўніный, уродзі спакойный, ну ў душэ ён ім, па-мойму, ня веріць. Цяперь-то яны зыпяўнёныя.*

**Зараблянне** *н.* Заробак. *Тваё зырыбля́ньня ізьвесна: каб ны чарычку було. А сьціхні ты с сваім зырыблянньнім, ныэырыбля́іш.*

**Зараблянnік** *м.* Той, хто запрацоўвае, працаўнік. *Сь Пітрыка ніплахей зырыбля́ньнік, ён прадзержыць сям'ю і дзьве прадзержыць,— ніхай ён хуць сам ны сябе заробіць.* **Зараблянніца** *ж. Мыя зырыбля́ньніца глядзіць, каб толька ны пріборы ікая капейчына была, што ёй большы нада.*

**Заранне** *н.* Світанне. *Па-мойму, зыря́ньня, а пятух нешта маўчыць. Вы́іхылі — ны зыряньня бралыся.*

**Заран** *прысл.* Раней прызначанага часу, не позна. *Яны зáрыня прішлі. Усе чыста пыпыжáлі, толька яго хвост тарчыць, ён тады просіць: сажніця вы мне ета жы́ціна, дык мы як прільнўлі, зáрыня жжалі.*

**Зарапярціцца** *зак.* Пачаць актыўна рыхтавацца. *Як скызалі, што Саньку прівядуць іграць, ух, зыріпярцíліся нашы дзеўкі. Січас Івыняты зыріпірцяцца, свадзьбу яны справюць харошыю.*

**Зарацца** *незак.* Світаць. *Толька пычало зыря́цца, і*

*мае грімяць, ляпыюць у дзьвері: аччыняй. Зыряіцца, будзім устываць, печ нада зытаплівыць.*

**Зарачанец, зарачанін** *м.* Жыхар в. Зарэчча, а таксама любы чалавек, які жыве за ракой. *Чаго к вам зырічаніц Пітрачоньк зыхадзіў? Зырічанцы з нашымі хлыпцамі дужа дружылі. Ні нада вам було з зырічанцымі чыпацца. К Пылагіный дачке нейкій зырічанін бегыіць. Зырічані у нас другую нядзелю ні пыказыюцца, як пryздравілі іх хырашэнічка.* **Зарачанка** *ж. Пра ета нейкыя зырічанка рысказывыла, а ці праўда — я ні знаю.*

**Зарачанскій** *прым.* Такі, які жыве ў в. Зарэчча, а таксама такі, які жыве за ракой. *Зырічанскія дзеўкі бойкія. Учора к нам зыіжджаў Лісяёнык зырічанскій, ён усё рыскызаў пры Ісыінят.*

**Зарашэчываць** *незак.* Прыбіваць паплёт. *Пычаў быў зыряшэчывыць, а тады зьлез, у горыд паплёўся, гыварыў, гвозьдзя хочыць пыглядзець, лазою круціць няскора.* **Зарашэчывацца** *незак.* Прыбівацца (пра паплёт). *Самo, канешня, зыряшэчывыцца ня будзіць, рукі пріложыць нада.* **Зарашэціць** *зак.* Прыбіць паплёт. *Зыряшэчу пуню, а тады ўжо ў Рослыў паеду, накрыць як-небудзь і бізь мяне саломы ныцігаюць. Зыряшэціць гвозьдзім ні цяжола, прібівай і ўсё, лазою прікручывыць нада ўмець.* **Зарашэціцца** *зак.* Прыбіцца (пра паплёт). *Цэла твыя павець будзіць, зыряшэціцца, усё дно крыць нечым, а як сена нымякніць, хужы будзіць, січас яно як порых.* **Зарашэчаный** *дзеепрым. Ежылі зыряшэчыныя будзіць, скарей прікрыіцца як-небудзь, хуць сакі ўсьцягніш, нықідаіш.*

**Зардзіцца** *зак.* Зазлаваць, ускіпець. *Абоя зардзіліся, што брігадзір пыслаў с косымі, чаму ні ны падвозку. Ніхто яго ні спужаўся, калі ён зардзіўся.* **Зардзіць** *зак.* Ахапіць злосцю. *Чаго цябе зардзіла, ніпріятна праўду слухыць?* **Зарджоный** *дзеепрым. Прішоў зарджоный, нійдзе места часы два ні ныхадзіў, дужа яго дыпяклі.*

**Заробіць** *зак.* 1. Запрацаваць, зарабіць. *Хлеба яны многа заробілі.* 2 *перан.* Заслужыць (пакарання). *Січас ты ў мяне заробіш. Заробіў, сваё пулучыў і сядзеў да вечыра, як мыш пад венікым, во як нада ўнімаць. Заробілі ны арехі.* **Зароблены** *дзеепрым. Такей работнік, як ты, сваё заробліныя ў мяшку прінясець. Заробліныя палучыць, так ня бойдзіцца, прідзіць бацька і нысякець. Ні плач, ета заробліныя вярёвычка.*

**Зарудзець, зарудзянець, зарудзецца, зарудзянецца** *зак.* Зрабіцца брудным, занасіцца. *І сам зурудзеў, і адзёжу зынасіў саўсім, баню нада тапіць як-небудзь,— пыра дужа гырячыя, зы работыю дыхнуць некылі. Сыма ні дупускай, каб зурудзянелі, зыстаў вымыцца як нада. Пінжачок зурудзянеў, што і к тубуну надзець стыдна, а ня то ў горыд іціць. Усё ны табе зурудзелыся, памыйся ды надзень чыстыя. Рубашка ладна зурудзелыся кылы кыўніря́. Ты ні зыгрязьніўся, а зурудзянеўся, цябе можна толька кіпятком апшпарівыць ды гыльніком грязь зьдзіраць.* **Зарудзелый, зарудзянелый** *дзеепрым. Якое ў цябе тряп'ё зурудзелыя, выбірь як-небудзь мінуту ды шчолык зьдзелый, у цябе ж ня семіра на шыі, с адным можна ўремя вы́рвыць. Ськінь сваё зурудзянелыя тряхольля, буду шчолык ставіць, дык ататру разым. Ты дайжа сам ні знаіш, якей ты зурудзянелый.*

**Зарудзяніць** *зак.* 1. Зрабіць брудным, занасіць. *Нікчомна бяльлё зурудзя́ніў.* 2. Зрабіцца брудным. *Ці шыю ня мыіць, ці што ў яго там, кажын раз каўнерь як зурудзя́ніць, да́мыцца нілізя.* **Зарудзяніцца** *зак.* Зрабіцца брудным. *У пылі пыстыяла цэлый дзень, кохтычка зурудзя́нілыся, што стала ня кохтычка, а тряпка, ні тмува́іцца. Ты сам зурудзя́ніўся, як чорт з балота.* **Зарудзянены** *дзеепрым. Ну ніжнія ніхай, ніжнію ты даўно пірідзіва́ў, а чаго ў цябе верхніца тыкая зурудзя́ніныя, ты ж яе толька ўчора надзеў, ці ў мяне ўсяго зыняція, што стыяць над ночвымі ды аціра́ць.*

**Зарупаціцца** *зак.* Заруціцца. *Як увідзіў, што дзела ні пылыса́, ніхто зы яго ня зьдзелыіць, зару́пыціўся. Такея гультаі ня дужа зару́пыцюцца, іх ны кажным шагу нада пытпа́рівыць.*

**Зарухаць** *зак.* 1. Зарохкаць. *Пыстаю, пріслу́хыюся: айдзе йна зарю́хыла, а йна ў салому ў пуні ўкыпалыся і ляжыць.* 2 *перан. груб.* Пачаць гаварыць. *Толька тронь ці скажы што ні па ём, зарю́хыіць, як чорт, рузбубніцца, што слухыць ні захочыш.* **Заруxацца** *зак.* Нарохкацца. *Ат пырысят пысадзілі аднаго, ён прівык усігда ўмесьці, зарю́хыўся, тужыць пы сваіх. Кылі кыбанчык адзін ат усіх, зарю́хыіцца.*

**Зарыгаць** *зак.* 1. Моцна зарыпаць. *Ужо часоў дзьвінаццыць було, ня меншы, пасьці ўсе спалі, я тожа лажыўся і чую: вароты зары́гылі, яны іржавыя. Узноў зарыгыў дзьвірямі, во шкура чэшыцца.* 2 *перан. неадабр.*

Заплакаць моцна, наўзрыд. *Рызабідзілыся дужа, зарыгыла, што ні па ёй скызалі пры Лышынка. Калі й зары́гыіць, ёй палезна: сьлёз дужа многа.* **Зарыгацца** *зак.* Заплакацца. *Цяперя зары́гыіцца, абідна дужа, што ні па-іхныму пулучылыся.*

**Зарына** *ж.* Асобная зорка. *Усё тучымі зыцягнута, заріны німа нійдзе, заплу́тыўся і ні знаю, куды йціць, а цемінь хуць вока вы́кыль. Памяни.* **зарынка, зарыначка.** *У яго з вычамі дужа плахоя дзела, зарінкі пірiц сабою ня відзіць. Цёмна, цёмна, худзь ба зарінычка айдзе блішчэла, і дужа ціха, ажно неік ву́шна.*

**Засаддзе** *н.* Месца за садам. *Усё зыса́дзьдзя выкым засеілі. Пы зысадзьдзю пусьцілі скот. Што зы садым адзь дзярэўні, паетыму і зысадзьдзя завецца.*

**Засажанец, засаджанец** *м.* Той, хто жыве за ракой Сож. *Куліноўна нейкыга зысыжа́нца вы́пырыла, хочыць аддаць сваю пляменьніцу, так ён нічога хлапчына ны пыгляд, часта тут буваіць. Ды вайны, бувала, кажныя скрысеньня каробчынскій быльшак аж грімеў, зысыджа́нцы гу́жым ехылі ў горыд ны бызар, а цяперь саўсім ня езьдзюць.* **Засажанка, засаджанка** *ж. Зысыжа́нка іхныя ўсё круціць носым, нешта ні па ёй, нічога, пыжывець — прівы́кніць, па ёй ста́ніць. Сваіх усіх пірібраў дзевык — ні патходзюць, можа, ны зысыджа́нкі жэніцца.*

**Засажанскій, засаджанскій** *прым.* Такі, які жыве за р. Сож. *Раншы к нам і зысыжа́нскія хлопцы прібігалі гуляць. У Вульляны ў скрысеньня свадзьба, яе старшый жэніцца, зысыжа́нскыю дзеўку бярець. Якей-то зысыджа́нскій мушчына ныбіваіцца к ёй у зяці, жонка памёрла і дзяцей німа, іна і сыма ні прідумыіць, браць ці не.*

**Засакатацца** *зак.* 1. Насакатацца. *Чма́рка зысыкыта́лыся, бегыўшы зь яйцом, нійдзе места ні пыдбярець зьнесца, ёй ужо і пятух шукаіць гняздо і ўсё ні пы ныра́ву.* 2 *перан. іран.* Забалбатацца. *Зысыкыталіся, ня ўвідзілі, як і машына прыскачыла. Як зысакочуцца, хут ты іх рызвадзі.*

**Засаладзець, засаладзецца** *зак.* Засаладзіцца. *Квас твой ня дужа удашный, зысыладзеў, а кіснуць ня хочыць, відна, ні так ты яго дзелыла. Нешта цеста зысыладзелыся, ці ня рошчыныя мука ета. Ягыды як зысыладзеюцца, і пашлі гуляць, банку рызырваць могуць.* **Засаладзелый** *дзеепрым. Есьлі цеста зысыладзелыя, рызаб'ець, разгоніць, яго ну лупату ні ўскладзеш у печ пысадзіць.*

**Засарпаць** *зак.* Пачаць храпці, фыркаць (звыч. пра каня). *Некыга коні пачулі, відзіш, зысáрпылі і ну кусты глідзяць, ну вайкоў жа тут ня чутна.* **Засарпацца** *зак.* Шмат пафыркаць. *Зорька твыя зысáрпылыся,— во здаровыя кабыла, ну і ніпірябірлівыя. Ты, як конь, зысарпыўся.*

**Засвяціць** *зак. перан.* Моцна ўдарыць. *Як засьвецюць паміж вачэй, айдзе ў цябе што й дзеніцца, усе дурікі з гылавы пывыскáкывыюць.*

**Засек** *м.* Засек. *У клеці с аднаго боку адгырáджывылі зáсікі, гліныю абмáзывылі і сыпылі зірняты, нада було і каб суха, і каб мышы ні тачылі. Памянш.* **засечак.** *У нас у клеці с аднаго боку былі бальшэя зáсікі, а з другога зáсічкі, каб чаго-небудзь нямножка усыпыць.*

**Засесць** *зак.* 1. Засесці. *І сяньня думыюць засесьць да пойнычы.* 2 *перан.* Густа пакрыць, зарасці (пра расліны). *Тыкая дзятлывіна ат мяжы засела, гýстыя, густыя, дужа зялёныя. Бярёзка, асот заселі пы ўсядзьбі, іх дужа трудна вывадзіць. Такей густэй бірізьняк быў засеў зу Глубокыю кынавыю, тама гадоў пяць ні пыхáлі, а тады Яшка узыдраў плугым.*

**Засівіцца** *зак.* Зрабіцца сіваватым. *Я дужа ні дывадзіла ім да цýґу, мылыка ліну, троху зысівіцца крупеня, і ядуць,— а айдзе чаго було брать, хаґы німа, стройся, блыгыдыря хуць карова зацэліла.*

**Засіліць** *зак.* 1. Павесіць. *Засіліць гадысьць такую нада було, каб і пы зямле нашый ні хадзіў.* 2 *перан.* Апанаваць, узяць сілу, уладу. *Іхнія плойма засіліла дзярейню, і вірядýюць, як самі хочуць, нічога ня зьдзелыіш.*

**Засіціць, засіціцца** *зак.* Пачаць сыпаць (пра дробны дождж). *Зайчора пыд абед як засіціў, і ўсё ні сьціхаіць, сыпіць і сыпіць. Помніш, як летыся ні дываў бульбы кыпаць, і сёліта можыць на месіц засіціцца, у бырызнáх бульба пыгніець.*

**Заскаваць** *зак.* Зацкаваць. *Нашыга сыбаку заскýй — на шыю кініцца, дужа злэй. Іван так, у шутку, зускувáў, а ці сыбака пынімаіць, ён ныпраўду кінуўся.* **Заскавацца** *зак.* Зацкавацца. *Толька скажы: кусі ці бярі, зразу зускуецца.* **Заскаваный** *дзеепрым. Сыбака быў зускувáн, сам ба ён так ня кінуўся, яны нарошня рыздражнілі і зускувалі.*

**Заскараджываць** *незак.* Забараноўваць. *Коля ўсігда зыскырáджывыў мякка, ён абы-як дзелыць ні любіў, а*

*Сенька быў роіла, праедзіць туды-нызад пы разу і гатова.* **Заскараджываццa** *незак.* Забараноўвацца. *Нешта ў цябе ня дужа ладна зыскыра́джыіцца, відзіш, сколька зірнят пы вярху ляжыць.* **Заскарадзіцца** *зак.* Забаранавацца. *Ны Углах хырашо зыскырадзілыся, а ны Зьмітракоўшчыні памучыліся: скачыць бырына пы камлы́жжы і ўсё.*

**Засквярцца** *зак.* Засквярціся. *Увечырі лягушкі пы аборкых як зысквярýцца, усё роўна як іх там цэлый міліён, ны разныя гыласы.*

**Засклімець** *зак.* Пачаць ныць, хныкаць. *Віцяркoм дунець ны яго, і ўжо ўвесь, зысклімеў, а, бувала, бысяком выскычыш ны каўзель, і паехылі, ніякыя халера нас ні брала.* **Засклімецца** *зак.* Шмат паныць, пахныкаць. *Вазьмі на рýкі, пынянч, зысклімеўся, ліжаць ня хочыць.*

**Заскрабанне** *н.* Заграбанне. *Нешта посьлі твайго зыскрібáньня многа сена ўсьлед астаецца. Ідзі ты з зыскрібаньнім, нечыга тут скресьць.*

**Заскрабываць** *незак. перан.* Няўмела забараноўваць. *Малыя тама зыскрáбывылі троху, ці яны што зьдзелылі, ці большы утыптaлі зь іхнію работыю.* **Заскрабывацца** *незак.* Даходзіць да знямогі ў драпанні. *Я думыю, чаго мой так зыскрáбывыіцца, пряма кожу ны сабе дзярець, а як глянула — нейкія кругі па целу пашлі.* **Заскрабаць** *зак.* 1. Пачаць драпаць, шкрабаць. *Ета кот пыдзь дзьвірямі зыскрáбый, а табе пыкызáлыся ніізьвесна што. Ён як прідзіць, пыд вакном табе зыскрáбыіць.* 2 *перан.* Няўмела забаранаваць. *Тоя скыраджэньня і ня відна, трошку зыскрáбый уперік. Вазьмі граблі, ды хуць грыблямі троху зыскрабый грядку, зімля пуруўняіцца.* **Заскрабацца** *зак.* 1. Пачаць драпацца, шкрабацца. *Я пачула, як ты лі дзьвярей зыскрáбыўся. Ты пыглядзі, што Шурік дзелыіць, ён жа зыскрабыўся, ды крыві рысцырáпыў нейкія болькі.* 2 *перан.* Няўмела забаранавацца. *Зыскрáбыюцца твае гряды посьлі, аддыхні.* **Заскрабаный** *дзеепрым.* 1. Падрапаны. *У малыга шчочка саўсім зыскрáбына.* 2. Няўмела забаранаваны. *Ні скыраджэньня, а горя, трошку зыскрáбына пывярьху, а глуты́рі с кареньнім як ліжалі, так і ліжаць.*

**Заскулець, заскуліць** *зак. перан.* Пачаць ныць, хныкаць, дакучаць. *Мы пашлі, а йна астылáся, зускулела кыла іх, што йна дужа бедныя і нішчасныя. Зускуліла, што ў яе ні таго ні хвытаіць, ні другога, дужа ныдыя́длыя*

*баба.* **Заскулецца, заскуліцца** *зак.* Разныцца, расхныкацца. *Пырхвянёнкыва нявестка зускулелыся, што ёй ня ў том полі участык адбілі, разым сы сваімі дужа хацела. Аддай ты етыя кацелычкі, іна ні аччэпіцца, зускуліцца. Зускуліўся, каб я ўзяў яго с сабою на мельніцу.*

**Заскяпліваць, заскяпываць** *незак.* Надколваць. *Ты цяшы, толька ні нада зыськяплівыць, тады нічога ні палучыцца, треснутыя — ета ні тыпарішча. Што ты дзелыіш, ты ж зыськяпывыіш чыряна і зь яго нічога ні палучыцца, укініш у печ.* **Заскяпліваццa, заскяпываццa** *незак.* Надколваццa. *Мы думылі, хырашо тресьніць, а яно пашло ўбок зыськяплівыцца, дзьве плашкі ня выйдзіць, прідзіцца круглячком пылажыць, ато саўсім спорціш. За етый брусок і брацца ні нада, ні апстругаіш, ён будзіць зыськяпывыцца, слаі дужа пакручыныя.* **Заскіпаць, заскяпіць** *зак.* Надкалоць. *Такей роўнінькій быў брусочык, дывадзіў я яго, дывадзіў і зыськіпаў, ажно жалка. Тыпарішча зыськяпіў, нада зьбіць ці провылкыю роўнінька скруціць, а так чыпляіцца, кожу пыдзяреш ну руке.* **Заскіпацца, заскяпіцца** *зак.* Надкалоцца. *Прітылка зыськіпалыся, як хто ідзець, так і чыпляіцца, ці сьцяшы, ці гваздом пdescribed, пыпраў як-небудзь. Адзін вілышнік пулумаўся, а другей зыськяпіўся, двоя вілык і нечым салому паднесьць, нада хуць ны якую раўнейшыю палку узьбіць вілкі.* **Заскіпаный, заскепленый** *дзеепрым. Я сам глядзеў, што харошыя дыска, а вун відзіш, як у вугалку зыськіпана, тэй кусочык вылымыіцца, і йна спорчына. Не, ета бярно заськепліныя, яно ны пыдвалкі ні гадзіцца, сысна як валілыся, треснула,— а так ба зь яго пыдвалкі дужа харошыя былі.*

**Засланянне** *н.* Заслоньванне. *Тваё зыслыняньня кошка аткініць і ў печ улезіць. Якое ж зыслыняньня, кылі юшка пывярнулыся і бокым стала.*

**Заслепнуць** *зак.* Аслепнуць. *Старуха засьлепла, зарінкі ня відзіць. Ці ты засьлеп, ці што, ня відзіш, куды лезіш.*

**Засляпіць** *зак. перан.* Падмануць, зачараваць. *Яны такея махырі, каго хочыш засьлепюць. Ты ішчэ мала солі зьеў, каб зысьляпіць Кыныстрацёнка, тэй цябе наскрозь відзіць. Зысьляпіла ж яго нейкыя ў Кылатовіні.* **Заслепленый** *дзеепрым. Сірьгяёнкывы засьлепліны Ігнатым, гатовы яго ну руках насіць, а тому толька тоя й нада. Ён саўсім засьлеплін сваёю Маруськыю.* **Засляпём-**

**шы** *дзеепрысл. Прецца ў лужыну, зысьляпёмшы вочы. Зысьляпёмшы Івана, ён хацеў так просьцінька с Пырхвянёнкым разьдзелыцца, а тута ня выйшла, рузумней зы яго людзі найшліся.*

**Засмаргыванне, засморгыванне** *н.* Зацягванне, зацісканне. *Луччы атыйдзі с такім зысмáргывыньнім, калі бяз рук дзелыць — луччы ні пытхадзіць і ні брацца. Ні нада такоя засморгывыньня, што ў дзьве дзірькі прыцягывыіш, а дзьве пустэя астаюцца.*

**Засмаргываць, засморгываць** *незак.* Зацягваць, заціскаць. *Вярёўку нада зысмáргывыць кряпчэй, зьедзіць — і жэрдзь трахніць пы гылаве. Ты ня ў тэй бок зысмáргывыіш, січас выцігніш саўсім. Ты самыя абыкнавенныя пяцелькі ня ўмеіш засморгывыць і рукі ні туды слýжуць.* **Засмаргывацца, засморгывацца** *незак.* Зацягвацца, заціскацца. *Як путужыў, пычало луччы зысмáргывыцца. Етый каўнерь шнурочыкымі зысмáргыіцца, па новый модзі зьдзелын. Я цягну, а яно ні засморгывыіцца, ці ні зыстрялі тама вузялкі якея, можыць вярёўка пырвацца, іна ня дужа крепкыя.* **Засмаргнуць** *зак.* Зацягнуць, заціснуць. *Зысмаргні во ў дзьве пяцелькі ды зывяжы. Нада кряпчэй пыцягнуць, тады зысмаргнеш, а так нічога ні палучыцца.* **Засмаргнуцца** *зак.* Зацягнуцца, заціснуцца. *Я толька пыцягнуў ціхінька, яно і зысмаргнулыся. Ціріз вузялок пірякінь пяцельку, тады лёхка зысмаргнецца.* **Засмаргнутый, засморгнутый** *дзеепрым. Яно чуць-чуць зысмаргнýта, дзіржацца ня будзіць, нада пытпрáвіць. Тута крепка засморгнута, ня трогый. Твае засморгнутыя кончыкі апяць выіхылі, нызад удзівáй.*

**Засопсць** *зак.* Засапці. *Узноў можыш засопсьць, як учора.* **Засопсца** *зак.* Засапціся. *Нада ж етык засопсца, адкуль ты ляцеў, што пірідыхнýць ня можыш.*

**Заспасібкаць** *зак.* Пачаць шматразова дзякаваць (гаварыць спасіба). *Я чула, як табе Антоніха зыспасíбкыла, ды ні знаю завошта.* **Заспасібкацца** *зак.* Надзякавацца. *Ты ўжо саўсім зыспасíбкылыся сваёй куме, ні прідумыіш, ны якой наге стаць піряд ёю.*

**Заставіць** *зак.* 1. Прымусіць. *Ніхто б мяне ні зыстáвіў с пастылым жыць.* 2. Здаць у арэнду поле, луг (у мінулым). *Антоныў бацька сам ні касіў і аддывай усігда дзёшыва, я пайду, пыпрашу, дам яму трінаццыць рублей, і ён мне зыстáвіць, хлопцы пяць коп накосюць лугавога сена, прівязуць.* **Заставіцца** *зак.* Здацца ў арэнду

(пра поле, луг). *Што луг зыста́віцца, ён дайжа і ня думыў, яму каб ну бутылку було.* **Застаўленый** *дзеепрым.* 1. Прымушаны. *Віджу, што зыста́ўлін, цябе ні зыстаў, дык ты і пальцым ні пышавеліш зьдзелыць што-небудзь.* 2. Здадзены ў арэнду (пра поле, луг). *Зы зыста́ўлінью дзісяціну троху плацілі.*

**Застраміць** *зак.* Вельмі насарамаціць. *Луцэя устреціла Сімінка, зыстраміла яго, красьнеў ён, красьнеў як рак варіный, ды красьнець большы некуды.* **Застраміцца** *зак.* Насарамаціцца. *Зыстрамі́ўся чыріс сваю ду́рысць, нашто було с такімі чыпа́цца, іх ня трогыць, а абыйціць зы вярсту нада.* **Застрамленый** *дзеепрым. Выскычыў ат'етуля зыстра́млiный, айдзе яму посьлі такога стыда вочы дзівацьь.*

**Застрашыць** *зак.* Накрыць страху саломай. *Як застряшы́м павець, тады мы пацскочым і паможым вам. Толька мы зыстряшы́лі, зьлезьць пасьпелі, дождж як хлынуў, пряма лівінь, усё зытапіў.* **Застрашыцца** *зак.* Накрыцца саломай (пра страху). *Ні бядуй, застряшы́цца і пуня, во трошку пыслыбаднеіць, вырьвім дзень і прібягім.* **Застрэшаный** *дзеепрым. Як застрешына, тады ўжо ня бойся, і дождж ні зальлець, і сьнегым ні зынясець, тады спыкайней.*

**Застуджаць, застуджываць** *незак.* Застуджваць. *Ногі нілізя зустуджа́ць, яны любюць, каб у цёплым і ў цёплым. Хто ў мыладэя гады засту́джывыіць сябе, тэй ой намучыіцца к старысьці.* **Застуджацца** *незак.* Застуджвацца. *Січас ты нічога ня думыіш, зустуджа́ісься, а посьлі будзіш каіцца, папомніш маё слова, будзіш. Сколька яму ні гывbooрі: ні засту́джывыйся, ня слухыіць, ні ў чом яго ня ўверіш.* **Застудзёмшы** *дзеепрысл. Абувайся цёпла, зустудзёмшы ногі, будзіш мучыцца. Малый усё дно як зустудзёмшы, у гру́дкых хріпіць.*

**Заступа** *м.* і *ж.* Абаронца. *У іх самыя галоўныя засту́па Сашка, за ім яны як зы камінною гарою. Грамчэй плач, твыя заступа бягіць, пыжалеіць.*

**Заступанне** *н.* Заступніцтва. *Нісколька ні паможыць тваё зуступа́ньня, кылі хочыш, ты дайжа напорціш, есьлі ўмішаісься. Ня лезь ты з зуступаньнім сваім, ня дужа ты там нада.*

**Засураць, засурываць** *незак.* Запарушваць. *Вочы ні зусуря́й, дренна можыць кончыцца. Веціp як пыцягніць з-зу вугла, вочы зусуря́іць. Засу́рівыць вочы уредна, яны*

*тады сьлізяцца, красьнеюць, нада бярежца.* **Засурацца, засурываацца** *незак.* Запарушвацца. *У рабоці і вочы зусуряюцца, а куды ж ты дзенісься, ета ґ гультаю толька нічога ні прістаець. Вочы бірягі, каб ні засурівыліся, ато зренія порціцца, а бяз зренія якей чылавек.* **Засурыць** *зак.* Запарушыць. *Зусурій вока, кажыцца, хырашо прамыў, нічога ні асталыся, а яно красныя і красныя.* **Засурыцца** *зак.* Запарушыцца. *У Лісяёнка тожа так було: вока зусурілыся ны мыладзьбе, думыў, пройдзіць, ні абраціў уніманія, а яно як рызбалелыся, дык езьдзіў, у Мугулёві спысалі.* **Засураный** *дзеепрым.* *У Ленкі ці ні засуріна вока, нешта трець, яно красьніњкыя. Цэлыю нядзелю вока було засуріна.* **Засуромшы** *дзеепрысл.* *Зусурёмшы ня церць, а прамыць скарей вочы нада.*

**Засценчывата** *прысл.* Сарамліва і ціха. *Ён усігда так засьценчывыта гаворіць.*

**Засценчыватасць** *ж.* Сарамлівасць, ціхмянасць. *Як пышылаўся па сьвету, айдзе і засьценчывытысьць дзівалыся.*

**Засценчыватый** *прым.* Сарамлівы і ціхі. *Прыкапёнычык быў дужа засьценчывытый, што яму хто скажыць, ён січас у краску, зыгаріцца. Хто дужа засьценчывытый, ніхырашо.*

**Засцень** *ж.* Цень. *С аднаго боку ат ліп засьцінь, а з другога пуня стаіць, сонца у ету прыкавуліну саўсім ня сьвеціць.*

**Засцябываць** *незак.* 1. Зашпільваць лёгка. *Лоўка зысьцябывыіш ґузікі.* 2. Зашываць наспех. *Як жа ты зысьцябывыла, што бульба сыпіцца, пысярёд трошку зысьцябнула, а ўнізу дзірькі, што кулак лезіць.* **Засцябывацца** *незак.* 1. Зашпільвацца лёгка. *Етыя ґузічкі лёхка зысьцябывыюцца.* 2. Зашывацца наспех. *Як зысьцябывыіцца, так і ладна.* **Засцябнуць** *зак.* 1. Зашпіліць лёгка. *Зысьцябні каўнерь, воґірь, ідзець і вецір кругом сьвішчыць.* 2. Зашыць наспех. *Ну некылі січас вазіцца, лапікыў табе шукаць паць цьвет, ніхай зысьцябнець трошку ніткыю намітусь ды едзьця.* **Засцябнуцца** *зак.* 1. Зашпіліцца лёгка. *Зысьцябнуцца нада, а ні хадзіць атряхыю с ытрях.* 2. Зашыцца наспех. *Зысьцябнецца мяшок трошку і ладзін будзіць, кладзі быракі, ды Жыгалык ня высыпюцца.* **Засцябнутый, засцёбнутый** *дзеепрым.* *Ідзець рысхрістаный, адзін ґузік зысьцябнутый. Ладна пашоў, ґузікі ціріз адзін засьцёбнуты. Адну я трошку*

*зымітлювáла, а дзьве дзірічкі былі зысьцябнýты, я мяшок ны прясла павесіла. Прарешына хрест-нáхріст засьцёбнута, можа, пыдзяржыцца да вечыра, а там я зылаплю.*

**Засцягнуць** *зак.* Зашпіліць. *Вышы зысьцягні ґузік, у горла будзіць дужа халодна. Прарезычка цесьнінькыя, чуць зысьцягнýў пугывіцу.*

**Засяканне** *н.* 1. Засяканне. *Пыцстыўляіш нагу, ашыбнесься, ды пы пальцых, будзіць тады зысікáньня.* 2. Засечка. *І ў адном месьці зысіканьня, і ў другом зарубка, пыгáдзілі бярно.*

**Засярбыванне** *н.* Запіванне з сёрбаннем. *Ні сарпый ты, як конь, з зысяр́бывыньнім сваім, дайжа нікрасіва так сірбáць.*

**Засярбываць, засёрбываць** *незак.* Запіваць з сёрбаннем. *Мы зайшлі к яму: сядзіць ны скамеічкі, чугунок пірі́ц сабою пыставіў, бульбу гáлычкымі есьць і кіслым мылаком зыся́рбывыіць. Я таблетку вазьму, а тады скарей засёрбывыю крупенію, дужа яны нісмашенныя нейкія.* **Засярбывацца** *незак.* Запівацца з сёрбаннем. *Ты бальшымі кускамі ні бяры ў рот пячэніны, тады і зыся́рбывыцца будзіць хырашо.* **Засярбнуць** *зак.* Запіць з сёрбаннем. *Ты батончыка ўкусі і мылáчком зысярбні, будзіць смáшнінька.* **Засярбнутый** *дзеепрым. А ні балыйся, зысярбнýтыя глытаіцца хырашо.*

**Затакаць** *зак.* Пачаць падтакваць. *Яны прівыклі пірід нычальствым хадзіць ны задніх лапкых, што Паўлюк ні скажыць, зытáкыюць: так, так, Арцёмывіч.*

**Заталаваць** *зак.* Стаптаць, змясіць. *Зутулувáлі край бульбы, усё дно як тама цэлыя лета табун хадзіў, нічога ня думыюць, куды вочы глідзяць, туды і пашлі.* **Заталавацца** *зак.* Пачаць таптацца, мясіцца. *Яны зутулувáліся, што ня відзілі, як Дынілёнык пыдыйшоў ззаду с пугыю ды пы ныгах іх, пы ныгах, так ужо беглі, самі ні зналі, куды ўцікаць.* **Заталаваный** *дзеепрым. Пыд вакном усё зутулувáна, гряды вы́цірты,— ну што, кылі яны тубуном усё лета мясіліся, што на ўбітым вырысьціць.*

**Заталалакаць** *зак.* Забалбатаць. *Сыбрáліся кучыю, зытылылáкылі, верна, зяцёў абгыварівылі. Як зытылылакыюць, ня скора пірістануць, у іх новысьціў на цэлую нядзелю хваціць.* **Заталалакацца** *зак.* Забалбатацца. *Ніхай толька тая Сумусёнкыва зайдзіць, зытылылáкыюцца — на ўсё забудуць. Вам зытылылакыцца нядоўга,*

*ета ваш хлеб ізыкі чысаць.* **Заталалаканый** *дзеепрым. Прішла зытылылакыныя, ужо ня помніць, што айдзе клала, я спрашыю, айдзе ніткі, дык вочы вытрішчыла: якея ніткі?*

**Заталаскаць** *зак.* Зацягаць. *Шчанкі пупалі мáльцыву цілагреічку і пашлі гуляць, пуўдня цігалі, зубамі ірвалі, зытылыскáлі — адно шмáцьця асталося, ні ныдзіваць яе, а худзь ба тряпышнік узяў.* **Заталаскацца** *зак.* Зацягацца. *Кохтычка зытылыскáлыся кыла бульбы, лі посыду, нікуды йна ня годна, тут, у дваре, зімою, можа, калі надзеніш.* **Заталасканый** *дзеепрым. Хвуртучок лі плітня выляіцца зытылыскáный, зыгáджыный, чаго ты кідаіш адзежу айдзе-зря, каб іна гамзілыся.*

**Затамкаць** *зак.* Пачаць ляпаць. *Чым-то ны дваре зытáмкылі, тама жалезьзя усякыга поўна.*

**Затарабаніць** *зак. перан.* Пачаць грукаць. *Я толька вочы зьвілá, зыдрімáла і яны зытырыбáнілі ў дзьвері, ну ўстала, пысядзелі, яны віна с сабою харошыга прівязьлі і нейкыя шыньпáньськыя нылівалі, сь пеныю, смашныя.* **Затарабаніцца** *зак. перан.* 1. Зайсці. *Ты ішчэ ў Бірязуйкі зытырыбáніськя зы час, слáбінькыя тыкая.* 2 *перан.* Загаварыцца. *Як зытырыбáніліся, сталі успымінаць, як у дзеўкых жылі, цямнела — рызыйшліся.* **Затарабаненый** *дзеепрым.* Аднесены. *Парнісьцікі твае ішчэ ўчора зытырыбáніны, ґ бабі Міця гатоў ляцець на злом гылавы хуць калі.*

**Затарабеніць** *зак.* Забалбатаць. *Хаці ты пуця, калі яны пыдрастýць, яны січас зытырабенілі — зь імі сам чорт ні згаворіцца.* **Затарабеніцца** *зак.* Забалбатацца. *Зытырабеніліся і машыну прагледзілі, пяшком пыцягнуліся. Крікні, што ждуць, ато зытырабенюцца — да вечыра ні разойдуцца.*

**Затарахцець** *зак. перан. неадабр.* Забалбатаць. *Як зытырахціць, зь ёю сам чорт ні згаворіцца. Нешта ні па ёй скызалі, зытырахцела, ну пуўдня зывілáся.*

**Затарачыць** *зак. жарт.* Занесці. *Няўжэлі так скора зытырáчыў мяшок? Я доўга ждаць ні стану, раз, і зытырáчу, баба ішчэ спасіба скажыць.* **Затарачаный** *дзеепрым. Айдзе бязьмен, спрашывыю,— а ўжо зытырáчын, к Сямёну яны рады бегыць кажный дзень, тэй усігда мідуніцымі угасьціць.*

**Затармашыць** *зак.* Затармасіць. *Адзін адно, другей другоя, зытырмашылі хлупчугáна. Дайця хуць мінуту*

*спакою, вы яго саўсім зытармошыця.* **Затармашыцца** *зак.* Затармасіцца. *Зытырмашыўся зь естыю бігатнёю, ніяк ні найду канцоў.* **Затармошаный** *дзеепрым. Дайця яму спакой, ён і так зытармошыный.*

**Затаўморыць** *зак.* Загаварыць, задурманіць, затлуміць. *Аксеньню зытаўморілі, сядзіць, слухыіць. Ты мяне тута хочыш зытаўморіць, некылі мне ўсякыю лухту слухыць.* **Затаўморыцца** *зак.* Загаварыцца, задурманіцца, затлуміцца. *У ха́ці зы раньня так зытаўморісься, што лучча б дзень ны калхозный рабоці стыяў.* **Затаўмораный** *дзеепрым. Мы ўдзьвюх зытаўморіныя, а іна ж усігда адна.*

**Затаўмясіць** *зак.* Затаўчы, заштурхаць. *З ма́лым палезла ў кучу, яго чуць ні зытыўмясілі, і чаго було лезьць, што іна тама ня відзіла.* **Затаўмясіцца** *зак.* Затаўчыся, заштурхацца. *Сяньня нечыга ны бызар іціць, тама зытыўмясісься у грязі посьлі дыжджа.* **Затаўмяшоный** *дзеепрым. Я ўжо думыла, ты айдзе-небудзь лі плітня зытыўмяшоный ляжы́ш.*

**Затаўпорыць** *зак.* Заштурхаць. *У такой кучы, хочыш, зытаўпорюць, я туды ні палезу. Кажный хочыць ускресца, мяне чуць ні зытаўпорілі.* **Затаўпорыцца** *зак.* Заштурхацца. *Трі бабы кыла дной печы, хуць і хызяйства нібальшоя, а зытаўпоріліся зы раньня.* **Затаўпораный** *дзеепрым. Сяньня ты зытаўпоріныя, ікраз тады, як некылі.*

**Затахаць** *зак.* Затахкаць. *Я толька пачула, як зыта́хылі крепка ў дзьвері пыд раньня. Што, зыта́хыла серца, як устреціў Рыманоўну?* **Затахацца** *зак.* Стаміцца стукаючы. *Што вы зытахыліся, аддыхаць ідзіця, сядзьця, па кружычкі мылыка выпіця.*

**Заташнаваць** *зак.* Загараваць, пачаць сумаваць, цяжка перажываць. *Нешта Мархва дужа крепка зутушнува́ла, неік ажно з ліца стала міняцца, відна, яго дзялы плахі.* **Заташнавацца** *зак.* Загаравацца. *Я пы дзіцях зутушнува́лыся, як паехылі, ні днаго слова німа.* **Заташнаваный, заташнованый** *дзеепрым. Лёня быў дужа зутушнува́ный, відна, нічога ў яго ня выпыліла, штраху ўляпілі, прідзіцца плаціць. Каб табе прігвазьдзілі етык, ты б хадзіў ня меншы зыташновыный.*

**Затваранне** *н.* Рашчынянне (цеста). *Зытвыряла нейкыя цеста, а ёй скызалі, што йдзець Сямён, іна і зытвы-*

*ряньня кінула і бягіць на вуліцу, рукі ў цесьці пірiц сабою дзяржыць.*

**Затвараць** *незак.* Рашчыняць (цеста). *Зытвыряй-ка ты якіх-небудзь піряпечык, можа ж, сваты пад'едуць, абішчалі.* **Затварацца** *незак.* Рашчыняцца (пра цеста). *Відзіш, як у яе ладна зытвыряюцца ладкі — халодныга мылыка нубухторіла у муку, яны ні падойдуць.* **Затварыць** *зак.* Рашчыніць (цеста). *Січас хлеба трошку зытварю, ураньні пріснакоў сколька сьпякецца, піряб'ёмся, цэлы будзім.* **Затварыцца** *зак.* Рашчыніцца (пра цеста). *Цеста ў цябе зытварілыся луччы ні нада, толька булкі, як пряд, зьнізу зыкáліц, што зубы вя́знуць, а зьверьху корка — ня ўкусіш і пысярёд жывоя цеста.* **Затвараный, затвораный** *дзеепрым.* *Каб зытвыря́на було, яно б чýствывылыся, дух ба ішоў такей кіслуваціенькій. Цеста затворіна і пыдыйшло хырашо, нада тычынаць печ, гатоў скоўрыды.* **Затваромшы** *дзеепрысл.* *Зытварёмшы, спякеш, а само цеста ня ўчыніцца. Тут цеста зытварёмшы ня кініш і ні пайціць нілізя, дык я сыма рузуріылыся.*

**Заткалá** *м.* і *ж.* *перан. груб.* Крыкун, той, хто не дае нікому выказацца. *Во зáткыла рызыйшоўся, у каго ён толька удаўся на сьвеці, ці нада, ці німа за што — усігда глотку дзярець. Унімі ты ета зáткыла, чаго іна лезіць, куды ёй ня сьледыіць.*

**Затаркыванне, заторкыванне** *н.* 1. Заторкванне, затыканне. *Пыдажджы-ка ты з зытáркывыньнім, тута б луччы достычку прібіць. Не, нейкыя ў цябе заторкывыньня як ні сваімі рукамі.* 2. Тое, чым заторкваюць, затыкаюць. *Ні дзяржыцца тваё зытáркывыньня, ты атыйшоў, яно і атляцела. Ня хочыць заторкывыньня дзіржацца, тут ба зымáзыць нада було.*

**Затаркываць, заторкываць** *незак.* Заторкваць, затыкаць. *Прýцікі трошку зытаркывыла, дык ці яны ўдзержуць курей. Пычаў заторкывыць дзірькі, а ў гылаве пывяло, зьлез і лёг. Заторкывый, пакуль можна, ня жджы, што зыпяець, зугудзець, луччыя пагоды ня будзіць.* **Затаркывацца, заторкывацца** *незак.* Заторквацца, затыкацца. *Я суну, а яно ня хочыць зытáркывыцца. Трошку заторкывыіцца, айдзе так, айдзе пымыгаю.* **Заторкаць, заторнуць** *зак.* Заторкнуць, заткнуць. *Пуньку я ўжо ўсю хырашо заторкыў, нікуды ні надмець. Ключ у шчэлку заторнула і ніяк ні дыстану. Дзьверi ны пáлычку заторніць і пышла на цэлый дзень, ні разу ні зымыкáіць.* **За-**

**торкацца, заторнуцца** *зак.* Заторкнуцца, заткнуцца. *Пойдзім пірякусім трошку, а етыя шчэлкі і посьлі заторкыюцца. Што тама мішаіць, нешта ні заторкыіцца ватка. Трошку заторніцца дый ладна, абы сьнегым ня сыпала. Зірні-ка, ці ета пруцінка нейкыя сюда заторнулыся, вынь.* **Заторкываный, заторканый, заторнутый** *дзеепрым. Хырашо ня помню, ну там нічога ні заторкывына, луччы злазь ды пыглядзі, каб ні жалець посьлі. Унізу дзірькі троху заторкыны, а вісока я ні ўскрябўся, пріедзіць маліц, ніхай троху апторкыіць. Усё кругом заторнута, бальшэя шчэлкі достычкымі пызыбівáны, вецір ня пройміць. Мы пыдыйшлі, дзьвері заторнуты, пыглядзелі — ны гародзі поріцца.*

**Затоўхаць** *зак.* Пачаць штурхаць, наштурхаць. *Ідзець і рытазейнічыіць, як затоўхыіш у бок, тады: а, а. У такой ціснаце затоўхыюць, луччы туды ні пытыкáцца.*

**Затравяніваць** *незак.* 1. Зарастаць травой. *Бульба пычыла зытрывя́нівыць, нада пыскырадзíць, а ўсьлед ба прайціць прырваць.* 2. Садзейнічаць зарастанню травой. *Ты сам зытрывянівыіш етый кусок.* **Затравяніваціца** *незак.* Зарастаць травой. *Калі ня поліш, ні дыглідаіш, усякыя зімля будзіць зытрывя́нівыцца, зямле догляд нада.* **Затравяніць** *зак.* 1. Зарасці травой. *Дужа пышаніца зытрывя́ніла, ды пырнік, яго ня вырьвіш, с кареньнім будзіць варочыцца* 2. Пасадзейнічаць зарастанню травой. *Ты сыма зытрывяніла гряды, а цяперь ня войкый, што ўсё заглу́шына, нада було меншы вылежывыцца, а прырваць, як людзі, ў сваё ўремя.* **Затравяніцца** *зак.* Зарасці травой. *Ні дывай усадзьбі зытрывя́ніцца, трыва пойміць, нічога зь ёю ня зьдзелыіш, ня выпыліш і нічым ня вы́відзіш.* **Затравянелый, затравяненый** *дзеепрым. Лён быў дужа зытрывянелый, многа зь ім нывазіліся, а цяперя нічога ўзяўся. Усе ўчасткі зытрывянелыя, няскора ім рады дадуць. Сыма атряха, паетыму і гарод зытрывя́ніный, і ў хаці пырядку ніякыга німа, ці йна зломка б лішній час у грідах пысядзець.*

**Затрапывыць** *незак.* Заношваць. *Што яму ня купіш, усё зытря́пывыіць, у яго дайжа у гылаве ні стаіць, каб дагледзіць адзежыну.* **Затрапываціца** *незак.* Заношвацца. *Таго зытря́пывыіцца касьцюм, што ты ні бірягеш яго ніскольки. Ты нешта стаў зытря́пывыцца, усё дно як жыць на сьвеці ні зьбіраісься, вазьмі сябе ў рукі.*

**Затрасаць** *незак.* 1. Доўга трэсці. *У яго была мыля-*

*рія, зытрісала яго, езьдзіў у Маскву, ліжаў там, вярнуўся нічога, вылічыўся.* 2. Злёгку засыпаць, прысыпаць растрэсваючы. *Пычаў лугавоя сена зытрісаць аборкывым.* **Затрэсць** *зак.* Пачаць трэсці. *Як зытрясець яблыну, яблыкі пук, пук. Яны вывілі сь сябе Высілёнка, яго аж зытрясло ўсяго. Другей раз зытрясець мяне, я скарей на печ, ріпаду к поду.* 2. Злёгку засыпаць, прысыпаць растрэсваючы. *Тама трошку рызьлілося, зытрясі зьверьху чым-небудзь.* **Затрэсца** *зак.* 1. Пачаць трэсціся. *Адз злосьці увесь затрёсься. Каб ты вуўка увідзіў, як я, нос к носу, і ты б затрёсься.* 2. Злёгку засыпацца, прысыпацца. *А ніхай, некылі пыцьціраць, во трошку зытрясецца ацірыю і ладна.* **Затрэсеный** *дзеепрым.* Злёгку засыпаны, прысыпаны. *Уся сьцёжычка затресіна сеным. Палкі затресіны саломыю, ну чуць-чуць відна, што палкі ліжаць.*

**Затрасываць** *незак.* Злёгку засыпаць, прысыпаць растрэсваючы. *Нашто б ён, думыім, салому носіць, а ета ён сьляды зытрясыіць. Нешта лі гумна зытрясывыў, а што ў яго тама було — ні знаю.*

**Затрожыць** *зак.* Закрануць. *Нехта пыгнаў мяне, як ударілыся бачыныю, стала гыряча, ці я нерву затрожыла, акалечыла тут во бачыну.*

**Затрухнуць** *зак.* Злёгку засыпаць, прысыпаць. *Трошку зутрухні зьверьху, каб чысьцей було ступіць. Мукою зутрухнеш — тады пыядуць, а так дужа ня хочуць, карыцца пірявернуць, бульбу ны зямлю вывірнуць і затопчуць.*

**Затрывушыць** *зак.* Ударыць у вуха. *Цярьпеў Мыкар, цярьпеў, глядзеў ны яго адурюваньня, а тады як зытрівушыць, тэй і с капыльля далоў. Каб зытрівушыў хырашэнька, каб ён знаў, як ета на сьвеці жывуць.*

**Затрылюдзіць** *зак.* Пачаць гаварыць абы-што. *Мікіту слухыць — ета што, во як Мікіпырёнык зытрілюдзіць, тут мала ў каго хваціць цярьпеньня піряслухыць.* **Затрылюдзіцца** *зак.* Ачмурыцца. *Зытрілюдзіўся, дык ужо ні знаіць, якую лухту яшчэ перць.*

**Затул, затулак** *м.,* **затуліна** *ж.,* **затулле** *н.* Бакавы схіл у страсе, накрытай саломай. *Увесь затул у пуні ад быльшыка ветрым узырвала. Ны затул столька ўжо сьнегу дало, што ні знаю, калі ён рыстаніць. Нада як зьдзелыць затулык, паедзіш — хто зы яго возьміцца, а тут жа восінь, скора засьвішчыць, зугудзець. Затуліна мяне дужа трівожыць, іна чуць ліпіць, веціp усходзіцца*

*і парьвець, а хочыш — і крышу ўсьлед ськівіць. Нада было б затўльля троху пытпрáвіць, аттуль, ат пуні, саўсім сьвіцицца, цякець як у решыта. Памянш.* **затульчык, затулік, затулачак** *м.,* **затулінка** *ж. Сьпецна затўльчыкі задзелыны, відна, што ныстыяшчый масьцір пыхадзіў. У затўліку ёсьць дзірічкі, пыптыкáць нада. Затўлычык можна зáкулькымі зышчыціць, хто ўмеіць, у таго дужа лоўка пулучаіцца. Нада б заткнуць затўлінку, а тады ўжо ехыць.*

**Затульна** *прысл.* Ціха, спакойна. *Між пунію і павецьцю усігда затўльна, туды веціp ні пупыдáіць. Зы бацькывымі плічамі і дзіцям затульна. Табе сядзець затульна, сядзі моўчынька і еж хлеб. Памянш.* **затульненька.** *Пакуля ён быў, жыла затўльнінька, а цяпеpя прідзіцца самой пыклыпаціцца трошку.*

**Затульнасць** *ж.* Цішыня, спакой. *Ні завідый ты яе затўльнысьці, нугурювалыся іна дужа многа.*

**Затульный** *прым.* Ціхі, спакойны. *Кыла лесу была затульныя мясьціна, ні зудувáла дужа. Зы Аўсяёнкым у яе будзіць затульныя жысьць. Памянш.* **затульненькій.** *Цілятxі затўльнінькій вугалок найшлі і ляглі. Жалывыньня пулучаіць, работы бальшэя німа, затульнінькыя мясьцінка.*

**Затуманіць** *зак. перан. жарт.* Закурыць. *Зутумáнюць, як бальшэя, і паехылі, во німа на іх бáцькі харошыга сь ціріськсядзельнікым. Дывай-ка мы зутуманім ды пыталкўім як нада.*

**Затумкаць** *зак.* Затузаць. *Затўмкылі нешта цябе саўсім, як ты ні хызяін у хаці, а бытрак нейкій, ты іх сам хырашэнька вазьмі ў лапы.*

**Затупілічыць** *зак. жарт.* Зарэзаць. *Табе ня чорт бяды, у цябе тубунюга авец, зутупілíчыў быранчыка і еж. Ты яго толька, глядзі, ні зутупіліч, ато што ён тады будзіць дзелыць.* **Затупілічаный** *дзеепрым. Толька пашоў у пуню, гляджу — ужо быранчык зутупілíчын, двынáццыць у яго руках сядзіць. Ты ўжо яго пыжалей, нашто ж ён мне зутупілічыный.*

**Затурканый** *дзеепрым.* Затузаны, затуканы. *Яны ўсё ны яго шурхылі, шурхылі, пражыў затўркыный, як парыбык. Чаго ты ходзіш такою затуркыныю, ці ты ня можыш ім даць атпор.*

**Затурлычыць, затурлыкаць** *зак.* Пачаць пець або гаварыць невыразна, падобна да булькання. *Вясною вый-*

*дзіш, жаўрынкі як зутурлы́чуць ны разныя гыласы. Іна і так кыртáвыя, а ўжо як расстроіцца, як зутурлы́чыць, ні словічка ні рызьбяреш яе гаворкі. Малыя зутурлычыла, ужо кой-што і пыняць можна. Буваіць, і жаўрынкі зутурлы́кыюць, а тады хылады ўзноў пытхвацюцца, вісна ны вясну ні пріходзіцца. Мой ґ году ужо ладна зутурлыкыў.* **Затурлычыцца, затурлыкацца** *зак.* Загаварыцца. *Калі ты ў мяне яшчэ так зутурлы́чысься, дык у хату ні пушчу, сьвіньні крічаць, пуньку ірвуць, а ў яе новысьці дужа аньціресныя. Вы тута зутурлы́кыліся, а карова крічыць нядоіныя, пыдаі карову, а тады хуць і да раньня ні рысхадзіціся.*

**Затурмачыванне** *н.* Загаворванне, задурванне. *Я зразу рызгыдаў іх зутурмáчывыньня: думылі, зыгаворюць і я нічога ня ўвіджу.*

**Затурмачываць** *незак.* Загаворваць, задурваць. *Ну хвáціць зутурмáчывыць, ён і ыпраўду можыць падумыць, што прайшоў ты агні і воды і медныя трубы.* **Затурмачывацца** *незак.* Загаворвацца, задурвацца. *Ну што ты зутурмáчывыісься як ніізьвесна хто, усё дно як дзіцёнычык нісмышлёный.* **Затурмачыць** *зак.* Загаварыць, задурыць. *Хваціць ужо, ты яго хочыш саўсім зутурмáчыць. Ідзі, ды варон ні лаві, ато зутурмачуць і зыбяруць сала, а ты будзіш стыяць рот разінуўшы.* **Затурмачыцца** *зак.* Загаварыцца, задурыцца. *Зутурмáчыліся у Сапрыныўскім лясу, ніяк ні рызьбярёмся, куды к ряке выйціць, а спрасіць у некыга і спрашывыць стыдна: такей-то лес.* **Затурмачаный** *дзеепрым. Яно ўжо відна, што ты зутурмáчыный, зразу у іх дудку пычаў пець. Нейкыя ты, як зутурмачыныя, с табою ні то ні два.*

**Затурчэць** *зак.* 1. Пацячы моцным струменем. *Чугун стáрый, доўга дзіржаўся, а тут зутурчэў у дзьве дзірькі. Ціплыта зразу ударіла, ручайкі зутурчэлі і ны дваре, і па вуліцы — усюдых.* 2. Зацвыркаць. *Конікі зутурчэлі пы ўсяму лугу, іх тама шчытаць — ні пірішчытаць. Нейкыя птушычка зутурчэла ў кýсьці.* **Затурчэцца** *зак.* 1. Пацячы моцным струменем. *Узноў лі коміна зутурчэлыся, горька нада лезьць крышу чыніць.* 2. Зацвыркацца. *Нейкія птушычкі нібальшэнькія пу кустах зутурчэліся.*

**Затурываць** *незак.* 1. Заганяць далёка. *Ні нада ў абеды скот так далёка затурівыць, цябе ж бабы зылаюць, шутка дзела, туды зь вёдрымі іціць даіць.* 2 *перан. неадабр.* Засяваць без развагі. *Усё пыдряд затýрівыюць*

*ячменім, ніхай ба і пышаніцы троху пасеілі.* **Затурацъ** 1 *незак.* Заганяць далёка. *Ні надумыйся кароў у атаву зутуряць.* 2 *зак.* Стаміць ганяючы. *Пыраска свайго хлыпца зутуряла саўсім: туды бягі, сюды ляці, сяньня едзь у горыд, заўтря ў Крічыў, ён ужо ні спруўляіцца яе слухыць.* 3 *незак. перан.* Засяваць без развагі. *Харошыю зямлю зутуряюць аўсом,— не, ні хызяіны яны.* **Затурацца** *зак.* Забегацца, набегацца. *Зутуряўся за етым пацьцёлкым, ніўдзе ня хочыць хадзіць.* **Затурыць** *зак.* 1. Загнаць. *Пакуля я зутурю карову ды нызад вярнуся з маімі ныгамі, чуць ні абеды.* 2 *перан. неадабр.* Засеяць без развагі. *Кругом нашыя дзяреўні зутурілі усё ячменім, а ён за логым ня дужа хырашо і расьцець.* **Затурыцца** *зак.* 1. Загнацца. *Бріцы троху зьела, ніхай пыстаіць, ні галодна, затуріцца пазьней, пастух ні так далёка.* 2 *перан.* Засеяцца без развагі. *Пасі ўжо, січас ёсьць айдзе, скора затуріцца ўсё кругом, разу сы скатом нейдзі будзіць дзецца.* **Затураный** *дзеепрым.* Заганяны. *Каб столька пабегыла, як Танічка, ты была б ня меншы зутуряныя, нікуды пасьпець ня можыць.* **Затураный** *дзеепрым.* 1. Загнаны. *Затуріны коні к Лідагошчу, ці ты за імі находзісься.* 2. Засеяны без развагі. *Поля за дзінь ні абыйціць, затуріна аўсом, яго б столька ні нада було.* **Затуромшы** *дзеепрысл.* 1. Загнаўшы. *Зутурёмшы скот, у грібы кытанулі, пы мяжэ, пы мяжэ і ў бярезьнічык.* 2. Засеяўшы. *Столька зутурёмшы пышаніцыю, можна будзіць пірагі есьць.*

**Затучываць, затучывацца** *незак.* Пакрывацца хмарамі. *Есьлі стала затучывыць, то дыбра ня жджы, спорціцца пагода. Спорцілыся пагода саўсім, кругом затучывыіцца, пойдзіць дождж.* **Затучыць, затучыцца** *зак.* Нахмарыцца, пакрыцца хмарамі. *Учора атвечыра як затучыла, я думыла, ны нядзелю зыкладзець, а січас узноў пагода стала. Дужа харошыя пагода пыстыяла трі дні і ўзноў затучылыся, узноў зылажыць ны нядзелю у самый сінакос можыць.*

**Затынянне** *н.* Абстаўлянне сценак плахамі. *Ужо і зытыняньня ні дзяржыцца, атвалііцца, етыму ж погрібу ніізьвесна сколька гадоў, ішчэ старік лі яго вазіўся, дзелыў.*

**Затыняннік** *м.* Той, хто затыняе *(гл.). Мы думылі, што ты ніплахей зытыняньнік.*

**Затыняць, затыніваць** *незак.* Абстаўляць сценкі пла-

хамі (у пограбе, сажалцы). *Пычаў зытыняць погріб, а ён бягіць: зыпрігай, нада ехыць, ну пріишлось кінуць, пашоў зы канём. Пычалі погріб затынівыць, дзьве сьценкі зьдзелылі, а трецьція пасыпылыся ды чуць ні пыд балькыю, хырашо, справіліся, патпёрлі,— зімля рушыныя.* **Затыняцца, затыніваццa** *незак.* Абстаўляцца плахамі. *Неік у цябе няроўна зытыняіцца. Масьцір такей, што ні затынівыіцца, каб ны сьпіцыяліста, тут ба на дзень усяе работы.* **Затыніць** *зак.* Абставіць плахамі. *Нашы на хутырі як зытынілі погріб дубовымі плашкымі, балькі дужа крепкія пылажылі, іструбчык дубовый,— яму б веку ні було, а ціплыта дзіржалыся, як у хаці.* **Затыніцца** *зак.* Абставіцца плахамі. *Погріб ты ні хвытай, ні затыніш сёліта — налета затыніцца, і так пірізімуіць, а як пуня астаніцца бяс крышы, зукукуісься.* **Затынены** *дзеепрым.* *Затыніныя сьценкі хырашо дзіржацца, дуб пупаўся дужа крепкій, а нізатыніныя апсыпаюцца, мышы дзірік пынадзелылі, лазюць.*

**Затырхацца** *незак. груб.* Душыцца (дрэннай ежай), давіцца. *Тыкая натура ў чылавека: будзіць зытырхацца пы нішчымніцы, а куска сала ня купіць. Ну й зытырхайся сваімі грышамі, я й бязь іх прыжывў.*

**Затыхкаць** *зак.* Пачаць моцна біцца (пра сэрца). *Піріпужалыся, серца затыхкыла, думыла, канцы мне там будуць. Вазьмі ластыўку ў рукі, як у яе серца затыхкыла.*

**Затэпкаць** *зак.* Пачаць хадзіць, тупаць, затупаць. *Мы сяньня доўга вылежывыліся, чуім, ужо старыя пыднілася, пы хаці затэпкыла, тады ўжо мы сталі вурушыцца. Анюціна малыя да году затэпкыла.* **Затэпкацца** *зак.* Затупацца, стаміцца тупаючы. *Пырасёнка біць — затэпкыісься за дзінь, многа работы. Мы етык затэпкыліся ўчора, што і пыднімацца ня хочыцца — столька ж ныгатовілі, ныварілі ўсяго.* **Затэпканы** *дзеепрым.* *Ніхай іна пыляжыць, куды іна затэпкыныя тыкая пойдзіць, дзеці зьбегыюць зы каровыю. Я саўсім затэпкыный, я б і на печы трошку пагреўся.*

**Заўголле** *н.* Завуголле. *Туляіцца пы заўгольлю, каб нічога ня дзелыць. Заўгольля б аціралі с пыпіросымі ў зубах, хочыш — ішчэ кінуць у салому акурык і зушугаіць.*

**Заўгольнік** *м.* 1. Вісус, гультай. *Якей сь цябе чылавек, заўгольнік ты, большы ніхто.* 2. Злодзей. *Кідай, кі-*

*дай, ды бойся тых заўгольнікыў, яны табе памогуць вокыркі дусушыць, дасушуць.* **Заўгольніца** *ж. Ныдз заўгольніцыю мала пысьміяцца, яе нада пыганыю мятлою туріць атаўсюля. У маткі то тоя, то сёя часьценька рук ні мінала і дычка вырысла тыкая самыя заўгольніца. Бясстыдніца ты, заўгольніца ты, нашто табе чужэй мужык быў.*

**Заўгольнічаць** *незак. асудж.* 1. Паводзіць сябе распусна. *Як прівўчыцца змалку заўгольнічыць, тады ні піряўчыш.* 2 *перан.* Красці. *Гыварілі, можа, ны каго другога, а заўгольнічылі яны, мы луччы знаім.*

**Заўгольный** *прым.* Хлуслівы, зладзейскі. *У цябе нейкія мыслі заўгольныя сталі. Айдзе ты ныбраўся заўгольныга пывядзенія? — нільзя ж так дзелыць.*

**Заўлётка, заўлёціна, заўлякаша, заўлякашка** *м.* і *ж.* Каханы, каханая. *Ны сваіх заўлётык ніяк ня могуць нулюбувáцца. У мяне заўлётка Коля, лёхкыя ны(† званія, скора, скора я скажу: Коля, ды сьвіданія. У мяне заўлётык пяць, пычынаю іх шчытаць: Коля, Пеця, Міша, Вася, пятыга забыла звацъ. У мяне заўлётык многа, многа, многа, ні адзін, і ў Маскве, і ў Лінінградзе, і у Кудрічых адзін. Мілыя заўлёціна, ў цябе ухвáтка цёціна, зу ухватку цёціну люблю цябе, заўлёціну. Ня можыць ны сваю зыўлікáшу нагледзіцца. У Міці тыкая зыўлікáша, што любога хлопца атаб'ець. Зыўлікашы, ды ні нашы, зыўлікаюць, ды ні нас, толька нашы зыўлікашы дыляко жывуць ат нас. Нікому свайго зыўлікáшку ні аддасьць. Сяньня твыя зыўлікашка абішчала пріціць ны вічарінку. Памянш.* **заўлётачка, заўлякашачка, заўлёцінка.** *Кінула цябе заўлётычка, з другім пышла. А заўлётычка ты мой, прывадзі мяне дамой. Айдзе ж ты сваю зыўлікáшычку дзеў? Ці забыла ты свайго заўлёцінку? Была заўлёцінка, ды ні твыя стала.*

**Заўродываць, заўроднічаць, заўродывацца, заўроднічацца** *зак.* Пачаць вычвараць, самаўпраўнічаць, самаўладнічаць. *Сьпірва быў нічога, зь людзямі хырашо апхадзіўся, а посьлі як заўродывыў, дык жызьні ні стала, хуць зь дзярэўні ўцікай. Іхныя хлопцы с Хвідарёнкым сьпеліся і заўроднічылі, думылі, гылавы ня зносюць, а пріщоў новый стыршына, быйстра іх ны сваё места пыставіў. Дужа заўродывыліся, ды ўняць некыму: каб Гыўрілёнык на іх, тэй ба ні даў рызмахнуцца. Пасьледнія ўремя твой Мітрыхванька саўсім заўроднічыўся, скажы-*

*ка, ніхай трошку па-людзку ґ другім атносіцца, луччы будзіць.*

**Заўшывіцца** *зак. іран.* 1. Завашывець. *Ня будзіш глядзець зы сабою, як усе людзі, ну й заўшы́віiсься, што пы табе поўзыць будуць.* 2 *перан.* Заганарыцца. *Ад быгаства заўшы́віўся, нікога роўныга пы сабе ні пыдбярець.*

**Захадзіцца** 1 *зак.* Стаміцца ходзячы. *Як заходзісься к вечыру, чуць жыў.* 2 *незак.* Даходзіць да страты самавалодання ад плачу, злосці і г. д. *Пла́чыць, заходзіцца: а што ж я адна буду цяперь дзелыць. Яны пряма зыхадзіліся, іх дайжа вылірья́нкыю паілі. Такей нервынный стаў, такей праціўный, ікая-нібудзь мелыч ні па ём — заходзіцца адз злосьці.*

**Захайдошыць** *зак. жарт.* Забіць, знішчыць. *Во табе й Пітрачок, вуўка зыхайдошыў. Не, мой саколік, прідзіцца цябе зыхайдошыць, толку сь цябе ніякыга, жаніцца ты ня хочыш, нашто ты.* **Захайдошаный** *дзеепрым. Ты мне толька ні ўніміся, у мінуту будзіш зыхайдошыный, так табе балыўства ня просьціцца.*

**Захаладжываць, захаладжаць** *незак.* Застуджваць. *Глядзі, дзеўка, зыхыла́джывыіш ты сябе ў етых трантых, у пляхоцьці у етым, схвацісься вума, ды позна будзіць. Ні зыхыладжывый ногі, застудзіш ногі — тады ты прыпа́шчый чылавек на сьвеці. Ты ішчэ нідаўна пыдняўся, ні нада сябе зыхылыджа́ць, цяплей надзенься. Ніякыга платочыка ні зывязывыіш, гылаву сваю зыхыла́джыіш, січас нічога ня чуствыіш, а к старысьці яно атрыгнецца.* **Захаладжывацца, захаладжацца** *незак.* Застуджвацца. *У рiзінывых ботых ногі дужа зыхыла́джывыюцца, восінь пыхадзіць — ета рымацізу абізацільна пытхваціш. Ай, сыма я зыхылыджа́юся: то пырасёнку выскычыш вынісьць, то курям сыпнуць, карову глянуць,— ай, цёпла, пакуля надзенісься, а праступа сваё бярець.* **Захаладзіць** *зак.* 1. Застудзіць. 2. Пахаладнець. *Разым зыхыладзіла, магло б ішчэ троху пыдзіржаць.* **Захаладзіцца, захаладацца** *зак.* 1. Застудзіцца. *Нешта німа здароўя ні чырта, трошку зыхылыда́юся і ўвесь.* 2. Пахаладнець. *Рана зыхыладзілыся. Вот-вот зыхылыда́іцца, к таму ідзець. Прібірай усё, пакуль ні зыхылыдалыся, тады позна будзіць хвытаць.* **Захалоджаный** *дзеепрым. Ногі зыхалоджыны, як толька прісты́нуць — ломюць, цярьпеньня німа. Іна змалку зыхалоджыныя, прігляду тады за імі*

*дужа ні було, а як гады пыдыйшлі, усё ета пычынаіць чуствывыцца.*

**Захаладзь** *ж.* Прахалода, цень. *У захылыдзі столька градусыў, а на сонцы большы. Худзь ба якую захылыдзь найціць, пряма дыхыць нечым адж жары.*

**Захамутацца** *зак. перан.* Ускласці на сябе клапатлівыя абавязкі. *Ты сам зухумутаўся і цягні сам, ніхто зы цябе другей спруўляцца ня будзіць. Сам ні рад будзіш, як зухумутаісься, луччы ў ету пятлю ня лезь.*

**Захандошыць** *зак. жарт.* Пазбавіць жыцця. *Зыхандошыць цябе мала за еткія прадзелкі. Дабегыіцца, што яго айдзе-небудзь зыхандошуць, будуць яму дзеўкі.* **Захандошаный** *дзеепрым. Ці ты ішчэ ні зыхандошын?*

**Захахатацца** *зак.* Насмяяцца. *Пыглядзець ны Сідарёнкывы выкамырствы — зыхыхытаацца нада. Усе зыхыхыталіся, як ён стаў рысказывыць пры Мікілаівыга,— штоб такоя ны старысьці гадоў прідумляць.*

**Захвастацца** *зак.* Напарыцца да знямогі. *Я думыў, вы тама захвошчыціся, ета ж нада так дух любіць! Як узьлезіць ны палок, пряма захвошчыцца, чуць жывэй злазіць, дужа любіць паріцца.*

**Захват** *м. перан.* Пашкоджанне пасеваў холадам, туманам. *Зыхват — сырысьць, як-то уліяіць, пышаніца вырысла, а зірна ні було, заморушкі.*

**Захвацістый, захватный** *прым.* З шырокім захватам (пра серп). *Цяперя вы тых сярпоў і ні знаіця, а ў мяне яны разныя былі, я зыхвацістыя любіла. Ён, сярпок, ня дужа зыхвацістый, ну войстрый, як агонь. З доўгім мысым зыхватный серп, харошыя жнія такім сярпом нівісь якую пыласу згоніць, толька каб войстрый быў. Нашто мне зыхватный, мне худзь ба абломык якей, я дваццыць снапоў нажну і зь мяне дос.*

**Захваціць** *зак.* 1. Захапіць. *Зыхваці чаго-небудзь у кашолку пірікусіць.* 2. Прыхапіць спякотай. *Дыжджа дайно ні було, ячмень па ўзгоркых зыхваціла, ён цяперя ні ныправіцца, зірна ня будзіць.* **Захвацёмшы** *дзеепрысл. Зыхвацёмшы вядро вады, цэл будзіш. Зыхвацёмшы вас голых на полі, дасьць дождж. Зыхвацёмшы Бырысёнка, што ўжо зьдзекывыліся над ім немцы, а тады й зыстрялілі.*

**Захітаць** *зак.* Пачаць хістаць, захістаць. *Ліпкі сідзяць слабінька, вецір іх раз, другей зыхітаіць і ня прімуцца, ссохнуць, прівізаць ба нада.* **Захітацца** *зак.* Захі-

стацца. *Што, кылі сыха зыхітáлыся, унізу сук, пакуля ні атрыіш — ня выцігніш. Мех цяжолый, узяў на плечы, ажно зыхістáўся.*

**Захлехатаць** *зак. перан.* 1. Пачаць выражаць непакой (пра свінню ў перыяд цечкі, пра галодных свіней). *Сьвіньні ні хыця зыхляхочуць, як пысідзяць галодныя цэлый дзень.* 2. Гучна закіпець. *Чугунок даўно зыхліхытáў, а ты ўсё яго ні дыстаеш.* 3 *перан.* Моцна зазлаваць. *Нешта зыхліхытáў, ніяк ня ўніміцца. Натура ў чылавека тыкая, каб толька зыхліхытáць, ніхай ніякія прічыны ня будзіць.* **Захлехатацца** *зак.* 1. Пачаць выражаць непакой (пра галодных свіней). *Сьвіньні ў цябе зыхліхытáліся, кармі йдзі, што ты сыма сабе думыіш с пустазвонствым сваім.* 2 *перан.* Моцна зазлавацца. *Ён прідзіць, гляніць— зыхляхочыцца, луччы прібярі ўжо ды маўчы.*

**Захлёпаць** *зак.* Захлюпаць. *Чую, нехта зыхлёпыў пы грязі пысярёд вуліцы, ці нехта чужэй, ці п'яный, там грязь абыйціць можна. Штаны пы калені захлёпыў, нада зумувáць, ато грязь прікареіць, тады ім нічога ня зьдзелыіш.* **Захлёпацца** *зак.* Захлюпацца. *Унізу увесь захлёпыўся, зумуваць нада. Палезіш туды пріцімкым і захлёпыісься па вушы, ды раньня пыдажджы, у цябе ні гаріць.*

**Захлёскаць** *зак.* Пачаць ляскаць (пугаю). *Пýгыю захлёскыў, тады мы пачулі, айдзе ён. Адзін піріда дным як захлёскыюць пугымі, дужа ладна ўмеюць.*

**Захліпкаць** *зак.* Захліпаць. *Во ўжо, за нейкыю каробычку захлíпкылі, ніхай і ён трошку пугуляіць, пугуляіць і аддасьць.*

**Захліпцець** *зак.* Моцна, неадольна захацець. *Ні выторкывыйся зь яблыкым, увідзіць — зыхліпціць, а зь яго жыватком ні нада яблык. Сьпірва гулялі нічога, а тады зразу зыхліпцелі ехыць, у рёў абоя.* **Захліпцецца** *зак.* Моцна, неадольна захацецца. *Ой, якей ты скорый, то ні зьбірайся, а тут уміг зыхліпцелыся ґ дзеду, бяріця с сабою і ўсё.*

**Захлуджываць** *незак.* Засмечваць, загрувашчваць. *А ты сам меншы захлýджывый кругом, тады і пырядка большы будзіць. Захлýджывыюць і ня думыюць, што зыгарецца можыць.* **Захлуджывацца** *незак.* Засмечвацца, загрувашчвацца. *Цяперя і Радкеўшчына захлýджывыіцца, за ёю ніхто дужа ні глядзіць. Меншы захлуджывыйся, ці ты прібраць ня можыш.* **Захлудзіць** *зак.* Засмеціць, загрувасціць. *Зухлудзілі увесь лес, агонь уваліцца — усё*

*выкыціць, і сухоя, і сыроя. Двор зухлудзіў — ступіць нейдзі.* **Захлудзіцца** *зак.* Засмеціцца, загрувасціцца. *Настолька бірізьняк зухлудзіўся, што тама ня то што якей гріб вырысьціць, а туды ўлезьць — ногі пулумáіш. Ты зухлудзіўся кругом, што к табе ні пыдыйціць.* **Захлуджаный** *дзеепрым. Шмат лырьяныўскій дужа захлýджын, дзеріва сьсякуць, палку возьмуць, а ўсё астаецца. Раншы Дуброва была дужа захлуджына.*

**Захлюпа** *м.* і *ж.* Неакуратная, запырсканая асоба. *А якей жа ты захлю́па, ты ж ба пыглядзеў, ны каго ты паходж, увесь чыста грязный па вушы. Пра тую захлюпу я і гываріць ні хачу, іна куды йдзець — ні глядзіць, грязь — ніхай грязь, лужа — ніхай лужа, ні абойдзіць.*

**Захлюпываць, захлюпкываць** *незак.* Запырскваць, абпырскваць. *Будзіш захлю́пывыць штаны, яны ў цябе зы нядзелю стануць ні к чорту годны. Ні захлю́пкывый ты ні бацінык, ні штаноў, я сам ужо як-небудзь ныпрáўлю, ато я зыгрязьню́ся і ты яшчэ ў прідачу.* **Захлюпывацца, захлюпкывацца** *незак.* Запырсквацца, абпырсквацца. *Акурáтній ідзі, меншы захлю́пывыйся. Табе ў ету грязь саўсім нечыга лезьць, толька захлюпывыцца. І табе ахота захлю́пкывыцца — перцца пы грязішчы, сяньня на том бызарі жывэя душы ня будзіць.* **Захлюпкаць** *зак.* Запырскаць, абпырскаць. *Прішоў грязный кругом, касьцюм захлю́пкыў, што зь ім дзелыць цяперь — ні знаю. Захлюпкыць адзежыну нядоўга.* **Захлюпкацца** *зак.* Запырскацца, абпырскацца. *Толька пусьці ў грязь, зы мінуту захлю́пкыіцца. Захлюпкыліся пы грязі, туды вёрст пяць ды ызад.* **Захлюпаный, захлюпканый** *дзеепрым. Прішоў настолька захлю́пыный, што на ім сухога рубца ні було, стаіць, а зь яго кап, кап. Ні нясі ў хату сваe захлю́пкыныя транты, ніхай у сенцых, там будзіш аччы́шчывыць.*

**Захляпістый** *прым.* Плаксівы. *Ну чаго ты, чаго тыкая зыхля́пістыя, пыдажджы, памыю рукі і вазьму цябе, тпруцькі пойдзім, кароўку пыглáдзім.*

**Захрамываць** *незк.* Пачынаць кульгаць. *Карова, памойму, зыхрáмывыіць, нада кыпыты пыглядзець, каб ня ўбілыся што, праўда, іна ня дужа даецца. Нешта ты ўсё дно як зыхрамывыіш, ці ні пірябілі табе дзеўкі ногі айдзе-небудзь, а?* **Захрамець** *зак.* Закульгаць. *Ці ня пасьлі вічарінкі ты зыхрамеў? Хто сяньня пасьвіў? — ураньні завёў карову здаровыю, а с пустуха прішла і зы-*

*храмела.* **Захрамецца** *зак.* Закульгацца. *Я то ні знаю, чаго ў яго зыхрамелыся, ну нейкыя ж прічына была, гыварiць ня хочыць.* **Захрамелый** *дзеепрым. Можа, ён зыхрамелый ат удару, што ўчора з бальки ударіўся. Пашоў усё дно як зыхрамелый.*

**Захропсць** *зак.* Захрапці. *Яму нядоўга захропсьць, толька лёг і сьпіць. Як чáрычку возьміць, зыхрапець на ўсю хату. Вазьму зы гырлянку, што захропсьць ні пасьпеіш.*

**Захуркаць** *зак.* Забурчаць. *Ты хуць у мелычы яму ні ўладзь, ого як захýркыіць.* **Захуркацца** *зак.* Разбурчэцца. *Другей раз захýркыіцца, тады ўжо уперік нічога ні гыварі, луччы прамоўч.*

**Захурхулець, захурхулецца** *зак.* 1. Моцна закіпець, забулькаць. *Чугункі аж зухурхулелі, дыстывай. Жару пыдгарні, дык твыя крупеня зухурхуліцца.* 2 *перан.* Моцна зазлаваць. *Ты яму ні туды вязёнкі пылажы, і зухурхуліць. Ныряд далі ні туды, куды яму хацелыся, зухурхулеў. Тыкая-то важнысьць, есьлі Стыхван зухурхуліцца.*

**Захыркаць** *зак.* 1. Зафыркаць. *Нешта захы́ркыла ў саломі, каб ня тхорь тама сядзеў. Калі яму што було пы ныраву, як прішоў, так і захы́ркыў, і тоя ні так, і ета ня етык, яму ні разу нічога ня будзіць так.* 2. Пачаць цяжка дыхаць. *У яго калі-то зьвяріныя сіла была, а цяперя пыўвярсты пройдзіць і захы́ркыіць.* **Захыркацца** *зак.* Задыхацца. *Німа ў яго здароўя ніскольки, дзесіць мінут пакідыіць вілкымі і захыркыўся. На, папробый ты ету пілу пыцігаць, ці ты захы́ркыісься, ці не.* **Захырканый** *дзеепрым.* Задыханы, стомлены. *Прібеглі захы́ркыныя: тама нехта сена бярець. Чаго ты еткій захыркыный, усё дно як зы табою сотня ваўкоў гнáлыся.*

**Захырлець, захырлецца** *зак. перан.* Расхварэцца. *Нікога ня слухыў, ні бярёгся, холыду пытхваціў, захы́рліў і захырліў. Была круцяшчыя, вірцяшчыя, пычыла усякыю дурату хвытаць, зыхырлела і згасла. Ат праступы усё ўсякыя прікідáіцца, ветрым прыхвáціць і захы́рліiцца. І бярёгся крепка, і ні ўбярёгся, захырліўся, і нічога ні пымыгаіць.* **Захырлелый** *дзеепрым.* Слабы, хілы, недалужны. *Бацька быў захырлілый, і дзеці такея самыя. З мылалества была зыхырлелыя, яе і пы дыктырах вазілі, і бабкі шыпталі — німа лýччыньня.*

**Захырчэць** *зак.* Злосна забурчаць. *Ны цябе калі і ні зыхырчэць, толку ня будзіць. Ня ў той шайкі карові*

*рызьвілá, і зыхырчэў, во й пыспрабўй с такім чылавекым жжыць, а я столька ўремя дурюся.* **Захырчэцца** *зак.* Разбурчацца. *Тама бяды тэя столька було, дык зыхырчэўся, што кошку нá ныч кінула ў хаці.*

**Зацараваць** *зак. іран.* Пачаць уладарыць. *Свой брігадзір, Максімывы зыцарюють. Крепка быў зуцурював, ды скора яго ўлада кончылыся.* **Зацаравацца** *зак.* Наўладарыцца. *Ліванёнык як зыцарюіцца, яго няскора споріш, ён акружыць сябе усякімі пріхлібáцілімі і будуць цягнуць яго руку.*

**Заціўкаць** *зак. перан. жарт.* Пачаць нясмела падаваць голас. *Мае як толька ўскрўцюцца, так і заціўкыюць: дывай ім бульбы. Кучкыю пыд вакном заціўкылі, тама нейкія мульчугáны зь імі былі.* **Заціўкацца** *зак.* 1. Доўга бесперапынна ціўкаць. *Ціплытá ударіла, дык птушычкі заціўкыліся пу кустах.* 2 *перан.* Доўга падаваць голас. *Твае мылышы заціўкыюцца, кашы нясі скарей, ішчэ сьлёз будзіць.*

**Зацмыгаць** *зак. неадабр.* Пачаць шукаць, вынюхваць, падглядваць. *Қыбанчык ужо кынчаіцца, скора зацмыгыюць,— такея рысхадовыя людзі, ня думыюць, як заўтря жыць, што сяньня ёсьць і ўсё.*

**Зацурбоніць, зацурбэніць, зацурболіць** *зак.* Моцна, гучна пацячы, паліцца. *Як зуцурбоніць выда ў погріб, тады ты нымыхáіш рукою, цяперя абгледзь хырашэнька, каб айдзе дзірічык ні було. Мышы прытачылі погріб наскрозь, выда й зуцурбэніла ў норку, каб ні хваціліся, повін ба зá ныч быў. Увосінь дзірічкі ні пызадзелывылі, узноў зуцурболіць у сенцы, насіся с пасудыю, пыцстыўляй.*

**Зацыўкаць** *зак.* Пачаць моргаць вачамі. *Пычáлі гываріць пры Пілінёнка, а йна зацыўкыла: пры каго вы мне вірьзіцё,— іна пра тога Пілінёнка ні разу ня чула. Пірістань дражніць, відзіш, ён ужо зацыўкыў, зарейць гатоў.*

**Зацьмецца** *зак.* 1. Прысмягнуць, пацямнець ад гарачыні, пачаць тлець. *Сядзеў кылы гня, як варона, кухвайка зацьмелыся. Глядзі, тама зямлі ні так многа засыпына, а ты жаріш, сьціна можыць зацьмецца, што ні замеціш.* 2 *перан.* Нахмарыцца, пацямнець. *Нешта було дужа зацьмелыся, дождж ці ні нычынáіць.*

**Зацюпа** *м.* і *ж.* Брудная, неахайная, неразвітая, затузаная, марудлівая асоба. *Мне зацюпа ваш ні нада,*

*сколька хочыця, столька й жаніціся зь ім. Узілася Саўкіныга зацюпу урузумляць, а ён: а, а, як выранёнык. Пыкажы йдзі етый зацюпі дарогу, ато зайдзіць ня ў Добрыя, а ў Колтыва.*

**Зачапаць** *зак.* Зайсці з цяжкасцю. *А пайду, як-небудзь жа зычáпыю к вечыру, можа, ікая машына пупадзецца, пыдвязець. Кажыцца, ня дужа далёка, а з вузілкáмі чуць зычапылі, трі разы аддыхалі пы дарогі.* **Зачапацца** *зак.* Стаміцца, павольна ходзячы, тупаючы. *Я тама нічога такога і ня зьдзелыла, яны самі рызьбіралі кыбанчыка, а зычáпылыся зá дзінь, дык чуць ны ныгах стаю к вечыру. Якоя хызяйства — ні хызяйства, а зычапыісься, пакуля таўпорісься з гыршкамі, ш чугункамі.* **Зачапаный** *дзеепрым.* Стомлены, абяссілены. *Нейкыя ты зычáпыныя ходзіш, пысядзі во мінутку, пыгаворім, рыскажыш, як тваe дзеці жывуць. Гнядэй ужо стáрый, гадоў пітнáццыць, усё ў рабоці і ў рабоці, ідзець з возым зычáпыный, чуць цягніць.*

**Зачарвівецца** *зак.* Зрабіцца чарвівым. *Сёліта нешта гуркі зычарьвівіліся, ні разу так ні було. Дренна, як бульба зычарьвівіцца, цьвёрдзінькія, як гвозьдзікі, чырьвячкі сідзяць.*

**Зачарэпываць** *незак.* Зачэрпваць. *Як ні зычарепывыла, усё нейкыя сьмяцьцё у вядро пупыдáіць, яго б зычынáць нада, етый калодзіж.* **Зачарэпывацца** *незак.* Зачэрпвацца. *Тама вады астáлыся адна капля, нічога ні зычарепывыіцца, вядро ня тоніць, становіцца.* **Зачарэпаць, зачарэпнуць** *зак.* Зачарпнуць. *Зычарепый ды ложку на хлеб, каб ні апкáпывыць скацірсьць, учыся, як дзед, есьць. Бягі-ка ты зычарепні вядзерца сьвежынькія вады, людзі нап'юцца. Ні буўтайся, як малютычка, зычарепнуў і еж.* **Зачарэпацца, зачарэпнуцца** *зак.* Зачарпнуцца. *Нада хырашо чарепнуць, дык зычарепыіцца, а кылі балывыцца, як ты, нічога ня будзіць. У Кандыбіный сажылкі дзед браў ваду вядром раз і штук пяць красёў зычарепнулыся, тады пад вечыр пашлі, цэлыя вядзерца нылавілі.* **Зачарэпнутый** *дзеепрым.* *Ні нада бежч пад дождж, намочысься, зычарепнутыя вядро стаіць у сенцых.*

**Зачатніваць, зачатнівацца** *незак.* Пачынаць хварэць, слабець, мізарнець. *Як прываліўся пад лёд, посьлі тога і стаў зычáтнівыць, ён дужа пірікалеў тады. Яны неік зычáтнівыліся з мыладосьці, гадоў пы двацыць мінула*

*і сталі хы́рліць.* **Зачатніць, зачатніцца** *зак.* Захварэць, аслабець, змізарнець. *Свыя ністарожнысьць: ні бярёгся, рыспацелый ваду халодныю хвытаў, лёхкія пуцстудзіў, зычатніў і зычатніў. Здароўя нада бярежч змалку, як зыча́тніісься, тады ўжо толку німа.* **Зачатнены, зачатніўшы, зачатнелы** *дзеепрым. Ні пывязло бабі зь дзіцямі, так ёй було цяжола ставіць іх на ногі, узрасьціла — адзін памёр, і дзеўка ходзіць зыча́тніныя. Від у яго дужа зыча́тніўшый, ці ў пырядку у яго зь лёхкімі. Зыча́тнілый вярнуўся с плену, года пуўтыра пыліпеў.*

**Зачудзіць** *зак.* Пачаць жартаваць, гаварыць неверагоднае. *Етыга на ўсё хвыта́ла, узноў зучудзіў. Хведзя прідзіць, зачу́дзіць, зь ім ні зускуча́іця, аткуля толька што ў яго бярецца з рызгаворымі.*

**Зачумачываць** *незак.* Адурманьваць, затлумліваць. *Дос табе іх зучума́чывыць!* **Зачумачывацца** *незак.* Адурманьвацца, затлумлівацца. *Ты ўсігда зучума́чывыўся, ня толька сяньня.* **Зачумачыць** *зак.* Адурманіць, затлуміць. *Ну зучума́чыла сваімі басьнімі, вярзець і вярзець, і вярзець, як яе сустрюкалі, як яе прыва́джывылі — толька ну руках ні насілі, і то зьбіраліся.* **Зачумачыцца** *зак.* Адурманіцца, затлуміцца. *Яму тожа дзела хвытаіць, як зучума́чыцца з намі, дык і ашыбнуцца можыць, ці ён жа адзін усё ў гылаве удзержыць.* **Зачумачаны** *дзеепрым. С таго боку, із-зы рякі, нейкія зучума́чыныя мальчонкі прібігалі, гадоў пы высімнаццыць, нашым дзеўкым усё сьміяліся: вам луччых жыніхоў і ні нада.*

**Зачумліваць** *незак.* Загаворваць, затлумліваць, зачмурваць. *Вы сваімі рызгаворымі зачу́млівыіця усякыга, іх ня выцірьпіць ніхто.* **Зачумлівацца** *незак.* Затлумлівацца, зачмурвацца. *Туды йціць — толька зачу́млівыцца, лухты як напруць, аж гылыва зыбаліць.* **Зачуміць** *зак.* Загаварыць, затлуміць, зачмурыць. *Зучуміла сваімі рызгаворымі, век яе ні піряслухыіш. Вы мяне зучумілі, ну вас, пайду.* **Зачуміцца** *зак.* Затлуміцца, зачмурыцца. *Зучуміліся зь імі, ніякыга толку ні даб'есься.* **Зачумлены** *дзеепрым. Абоя вы нейкія зачу́мліныя, з вамі сам чорт толку ні дыбярець.*

**Зачуханец** *м.* Прыніжаны, неахайны чалавек. *Ты луччы ў яго маткі спрасі, чаго ён такей зучуха́ніц. Пры вашыга зучуханца ніхто і гываріць ні станіць.* **Зачуханка** *ж. Апусьцілыся, ні глядзіць зы сабою ніскалька, ходзіць зучуханкыю, як ёй ня стыдна, мыладой бабі.*

**Зачы** *прысл.* У адсутнасці, не ў вочы. *Зачы вы ўсе дужа сьмелыя, вы ж вазьміця ды ў вочы скажыця яму ета. Зачы ныгаворюць ніізьвесна чаго, а ўстрецюцца — ні знаюць, ны якой наге стаць піряд ім.*

**Зачынянне** *н.* Закрыванне. *Ну якоя ж ета зычыняньня, чапок ны прабой усклаў і пашоў, карова рыгамі таўкнець вароты і пабегла.*

**Зачыняннік** *м.* Той, хто закрывае. *З малыга ізьвесный зычыняньнік: можыць зычыніць, а, хочыш, забудзіцца, кініць напіта і пыбягіць гуляць.* **Зачынянніца** *ж. Пымагі ты етый зычыняньніцы, можыць пальцы пыдбівáць варотымі.*

**Зачышчываць** *незак.* Зачышчаць. *Рямы калі трошку айдзе шурпáтыя, сьцяклом зачышчывыюць. Нада акуратнінька зачышчывыць, каб гладка пулучылыся.* **Зачышчывацца** *незак.* Зачышчацца. *Палка была нейкыя павітыя, і ат рубанка зыдзірáіцца, і сьцяклом ня дужа хырашо зачышчывыіцца.* **Зачышчываный** *дзеепрым. Не, крайкі ні зачышчывыны, кыла іх ішчэ многа работы.*

**Зачэгнуць, зачэгнуцца** *зак.* Змізарнець. *У мыладэя жонкі і зачэг, ці йна табе есьць ні даець, ці зработыўся дужа. Бульба ат мяжы чаго-то саўсім зачэгла. Капуста зачэглыся, жаўцеіць, ажно ета мядзьвёдка кыряныкі пыпад'ела.* **Зачэглый** *дзеепрым. Сыма атряха, пы хаці прайціць ляніцца, таго і дзеці зачэглыя, зы дзіцямі дыгляд нада, а йна сыма сябе ні дагледзіць.*

**Зачэпа** *м.* і *ж.* Асоба, якая прыстае, чапляецца, задзіраецца. *Ты сам ня будзь зачэпыю, і цябе ніхто ня троніць. Сам зачэпа ні пасьледнія, к кажныму падлезіць, куды ні нада ўмішаіцца. Тыкая ўжо зачэпа дзяўчонка, Коля стаіць, а йна пыдыйшла, піхунь яго ззаду.*

**Зачэпістый, зачэпный** *прым.* Такі, які прыстае, чапляецца, задзіраецца. *Шурік доўга зачэпістым быў, а во атучылі, саўсім другім мальцым стаў. Такей зачэпный, як бацька, тэй мог к любому прістаць бізь нічога ніякыга, і етый такей самый.*

**Зашалапучываць, зашалапучывацца** *незак.* Пачынаць вычвараць. *Віджу, што ён зышылапучывыіць, я зу рукаў ды двору. Сярёжка пычаў быў зышылапучывыцца, а яго сыгряблі: ну-ка ўніміся,— зразу сьціх.* **Зашалапуціць, зашалапуцiцца** *зак.* Пачаць вычвараць. *Ён як зышылапуціў, што куды там руўняцца каму. Чаго іх зышылапуціла, унімаць некыму ці што. Вот ежылі твае сільчані*

*зышылапўціліся, прізнывáць іх нехта станіць, пышылапўцюцца і ўнімуцца.* **Зашалапучаный** *дзеепрым.* 1. Ветраны. *Аўдзяёнык зышылапучыный, і твой такей самый агáрык, роўныя пара.* 2. Узбуджаны. *Віджу, што йдзець зышылапўчыныя, нейдзі ні дыгадзілі.*

**Зашалудзець, зашалудзецца** *зак.* 1. Закарэць. *Пырысяты і ат холыду могуць зушулудзець, і ат кармёжкі, ны зімў мальгвў кідаць вапшчэ нінадзёжна. Яно зразу відна було, што с такога пырасёнка толку ня будзіць, ён зушулудзеўся біз мылыка, пішчыць, ныдыідáіць, ні прідумыіць, штоб ён еў.* 2 *перан.* Заняпасці. *Зушулудзелі із-зу гультайства, работыць ня хочыцца, а есьць ба смашна елі. Адзін сядзіць у хаці, зушулудзеўся.*

**Зашалудзівіць, зашалудзівіцца** *зак.* 1. Закарэць. *Малінічкій хуць хто: ці цялёнык, ці пырасёнык як зушулудзівіць, тады яму трудна рады даць. Ці будзіць якей толк сь цёлычкі, нешта зушулудзівілыся, струпы пашлі па ёй.* 2 *перан.* Заняпасці. *Ета ня дзіва, што гультай зушулудзівіў. Табе-то стыдна так зушулудзівіцца.* 3 *перан. іран.* Пачаць беспрычынна вычвараць, шумець, актыўна дзейнічаць. *Сьпірва былі ух як зушулудзівілі: нашто на іх так гаворюць, а тады аселіся. Во кылі Іван ды зушулудзівіць, што с таго, пушуміць ды ўніміцца. Як нюхнець у чарку, так і зушулудзівіўся. К свытам едуць, зушулудзіviліся.*

**Зашалудзіць, зашалудзіцца** *зак. перан. іран.* Пачаць беспрычынна вычвараць, шумець, актыўна дзейнічаць. *Чутна ўжо: старшый Мікілаіхін зушулудзіў. Былі зушулудзілі, а хлопцы нашы на іх пыглядзелі толька, дык зразу сьціхлі. У горыд, з горыда, ато й два разы на дні і бігаць, і бігаць, мы думылі, чаго яны так зушулудзіліся, ажно гасьцей сустрюкаюць, ды дужа важных.*

**Зашарахоніць, зашарахоніцца** *зак.* Забегаць, заклапаціцца, пачаць энергічныя дзеянні. *Узноў Шурка зышырахоніў ехыць, ня можыць у дваре уседзіць. Мікітывы зышырахоніліся сватоў устрічаць, знаць, у чацьверьг пріігжджаюць.* **Зашарахонены** *дзеепрым. Такей зышырахоніный від у яго, кажыцца, січас горы піряверніць.*

**Зашкаруджываццa** *незак.* Пачынаць ганарыцца, паводзіць сябе з выклікам. *Крікні-ка, ніхай асядзіцца, нечыга яму зышкарюджывыцца, іщчэ падросьць нада ды нос пацьцерць хырашэнька.* **Зашкарудзіцца** *зак.* Заганарыцца, пачаць паводзіць сябе з выклікам. *Ны хракцір*

*дужа кастрівый, як у чарку нюхнуў, так і зышкарю́дзіўся: мол, я луччы ўсіх. Каб у нас так зышкарюдзіўся, яго б мігым унялі, сеў ба, сядзеў і ня піснуў.*

**Зашкумардзіць** *зак.* Затузаць, зашкуматаць. *Сыбакі як пупалі, і к ёй, зушкума́рдзілі б, каб ні ныряўся с палкыю Ільля. Вы ўжо матку хочыця зушкумардзіць,— а самі спруўляйця пріборы, заробця ды спраўця.* **Зашкумардзіцца** *зак.* Затузацца ў клопатах. *Тама і работы тае столька, а зушкума́рдзіліся большы некуды. Кыбына калоць — так зушкума́рдзісься, што большы некуды.* **Зашкумарджаный** *дзеепрым.* Затузаны, стомлены. *Яны вун зушкумарджыныя пріехылі, сьпяць. Нейкій від у цябе дужа зушкума́рджыный, у цябе ж, кажыцца, ні так ужо многа дзялоў тых.*

**Зашкуматаць** *зак.* Зацягаць, затузаць. *Бегла сыбаччыя свадзьба, а ён ішоў, яны ны яго, каб на йгру́шыну ні ўскачы́ў, зушкумута́лі б. Ні глядзі, што няґеґлыя, утрёх як возьмуцца, яны цябе зушкумута́юць.* **Зашкуматацца** *зак.* Затузацца. *Столька рёгыту було, як яны шчапіліся адзін з другім, і доўга б цігаліся, яны б тама зушкумута́ліся, каб ні рызьвялі.* **Зашкуматаный** *дзеепрым.* Зацяганы, стомлены. *Кухвайка зушкумута́ныя, зушкумутаныя, кінь лі парога, ногі выціраць будзіць. Пріінджа́лі яны раз, ці ня ў горыд ехылі, зыіжджа́лі, помню, зушкумута́ный нейкій кунюшок быў запрежын.*

**Зашкур'е** *н.* Пазаскуравая клятчатка. *Я помню, рысказывылі: у адных ні даілі карову, дык мылако пашло пы зашку́рью.*

**Зашломаць, зашломкаць** *зак.* Затупаць, зашлэпаць. **Г** *Дуброві нечыга зашломыў. Я чула, што ён зашломыў пы хаці, ці я ж ба падумыла, што ён пойдзіць карову глядзець. Некуды ўніз пы грязі зашломкыла ґ греблі, ні сядзіцца бабі ў хаці, нашто ёй сажылкі.* **Зашломацца, зашломкацца** *зак.* Затупацца, зацягацца. *Здаройя ўсё, хуць нікуды ўжо ня йдзець, а лі гаршкоў зашломыіцца. Я зы раньня як зашломыюся, дык хуць ба пірідыхнуць мінутычку. Бульбу сяньня сеілі, я зашломкылыся большы некуды. І работы ня відна, а зашломкыісься к вечыру — чуць ныгамі пірістыўляіш.* **Зашломаный, зашломканый** *дзеепрым. Я ні знаю, як ён ны работу, а від у яго нейкій дужа зашломыный. Ла́дзін ён будзіць і зашломкыный, сыма ня сь первых крысавіц.*

**Зашлындаць** *зак.* Пачаць швэндаць. *Дзень, можа, і*

*пыработыіць, а тады ўзноў зашлы́ндыіць. Маріна пынадзеілыся, што пуню пыправіць,— троху пацю́кый лі днае сьценкі, а тады зашлындый пы дзярэўні.* **Зашлындацца** *зак.* Нашвэндацца. *Твае работнічкі зашлы́ндыліся тут за лета, яны паліц ап паліц за ўсё ўремя ні ўдарілі.*

**Зашлэмкаць** *зак.* Затупаць. *Куды йта ваша ста́рыя зашлэмкыла, ці ні надумылыся іна праведывыць Айдыкімінят?* **Зашлэмкацца** *зак.* Натупацца да знямогі. *Да беда печ топіць, зашлэмкыіцца сы сваім хызяйствым, ікая зь яе тады работніца.* **Зашлэмканый** *дзеепрым. Прідзіць зашлэмкыный, куды ты яго пашлеш.*

**Зашмараваць** *зак.* Защмальцаваць. *Увесь перід зушмурува́ў як нарошня, ны каго ён пахож, етый маліц.* **Зашмаравацца** *зак.* Зашмальцавацца. *Куртычка зушмурува́лыся, што ўжо ў божыскій від ні прівядзеш.* **Зашмараваный, зашмарованый** *дзеепрым. Дзёхцім вярёўкі зушмурува́ны, куды іх ныдзіваць на плечы. Зышмаровыныю супоньку зыцягнуў, а тады рукі ап сябе выцір.*

**Зашмуляваць** *зак.* Зашмальцаваць, вымазаць तручыся. *Зушмулюва́лі адзёжу лі калёс, што яны там дзелылі, нашто ім восі було трогыць.* **Зашмулявацца** *зак.* Зашмальцавацца, вымазацца тручыся. *Ні бярёгшы, усякыя адзежына зушмулю́іцца — толька выкінуць.* **Зашмуляваный** *дзеепрым. Пріходзіць двору — плечы зушмулюва́ныя, перід вы́мызын, ці яго кычалі айдзе, што такей грязный.*

**Зашныхарыць** *зак.* Зашныпарыць. *Толька на двор увойдзіць і січас зашны́хыріла, што зы прівычка у бабы, якое яе дзела, што айдзе ляжыць; што ні пыкла́джына, ета ні длі цябе.* **Зашныхарыцца** *зак.* Страціць увагу пры шныпаранні. *Зашныхыріўся і ні замецій, як мы пыдыйшлі, скрасьнеў як рак.*

**Зашпыняць** *зак.* Затузаць. *Высіля Манічкыю зышпыня́лі, хто ня йдзець і кальну́ць: ну як табе у сва́ты зьезьдзілыся, як прінімалі цябе. Ніхай дызна́юцца, што стыяў с Кацію, праходу ні дадуць, зышпыня́юць.*

**Зашпыраць, зашпырыць** *зак.* Затузаць. *Цяперя яны Мішку праходу ні даюць, зышпыря́лі яго. Высілёвы ня ўпу́сьцюць, зышпыря́юць Антона, дадуцца ў знакі. Нявестку сваю зашпы́ріла, тая ўжо іціць сыбіра́лыся. Да не, Пёкліну дачку ні зашпы́рюць, іна ні пыддасца.* **Зашпыраный, зашпыраный** *дзеепрым. Раншы хадзіў саўсім зышпыря́ный, а цяперя наўчыўся, даець ім атпор пачом*

*зря. Населі крепка са ўсіх бакоў, зашпыріный ходзіць, ня можыць ат іх адбіцца.*

**Заштырацць** *зак.* Затузаць, заганяць. *Так гыняючы, ты яго саўсім зыштыряіш, ета ішчэ хырашо, што троху слухыіць, другей ба пыслаў пыдальшы: бегый сыма.* **Заштыраный** *дзеепрым. Ты відзіш, як Рыманоўна дзяржыць сваіх мушчын у чорным целі, у іх дайжа від нейкій зыштыряный.*

**Заштырыць** *зак. жарт.* Злавіць, захапіць. *Ніхай тolька Сымчанок заштыріць цябе ў саду, мала ня будзіць. Лісьнікі заштырілі:— Гывары хвамілію! — Пынымарёў.— Як зваць? — Сідыр Пылікарпыў. Яны й паверілі, шукайця таго Сідыра.*

**Зашураць** *зак.* Заганяць, затузаць. *Туды бягі, Коля, ета зынясі, тоя прінясі, нешта пыдай — зушуряла малыга саўсім. Крікні-ка, ніхай унімуцца, ціплят зушурялі.* **Зашураный** *дзеепрым. Такея ўжо зушуряныя коні, с хумута ні выходзюць як дзень, так ноч. Прігляду за імі дужа ніякыга ні було, паетыму і від такей зушуряный.*

**Зашурхаць** *зак.* Пачаць груба пакрыкваць. *Пынкрацёнык ня ўцерьпіў, зашурхыў ны яе.* **Зашурхацца** *зак.* Разбурчацца, раскрычацца. *Ну і што, есьлі Пітрачоньык зашурхыіцца, што ён длі каго значыць. Як зашурхыіцца, яму кажыцца, што ён усяму апора.*

**Зашчаплянне** *н.* Зашчэпліванне. *Якоя ж зышчыпляньня, што я піхнуў дзьвері, крючок і сыскачыў с прабоя, ні зашчэпліна, а зьверьху тольна ныкладзіна.*

**Зашчапляннік** *м.* Той, хто зашчэплівае. *Пыдыйдзі пымагі, ато етый зышчыпляньнік ды абедыў будзіць вазіцца.* **Зашчаплянніца** *ж. Ідзі-ка ты, зышчыпляньніца, ні брязкый крючком.*

**Зашчырыць, зашчырыцца** *зак.* Пачаць шчыраваць. *У пустэй сьлед зышчыріла, нада було раншы думыць, што ты на сьвеці жывеш. Зышчырілыся, як хызяйкыю стала. Каб вы ўсігда так глядзелі, як січас зышчыріліся.*

**Зашчэпа** *ж.* Зашчапка. *Крепкія зашчэпы у дзьвірях пыпрібіваў, усё дно як у канюшніх раншы дзелылі. Крюк абыкнавенный прідзелыў — во й зашчэпа. Памянш.* **зашчэпачка.** *Зашчэпычкі ёсць, тольна слабінькія. Іс провылкі зьдзелыў зашчэпычку.*

**Зашываннік** *м.* Той, хто зашывае. *Раз ні зышываньнік, то й ні бяріся ні зы сваё дзела, бісь цябе зьдзелыюць.* **Зашыванніца** *ж. Тыкая зышываньніца як пачыніць, дык*

*саўсім прідзіцца мяшок выкідаць, і анучы зь яго ня выбіріш.*

**Заяданне** *н. перан.* Сварка. *Як табе ныра́віцца яе зыіда́ньня, чаго ты яе ні ўспакоіш? Ня можыць біз зыіданьня, як пысва́ріцца сь кім, тады ёй ажно ну душэ пыляхчэіць.*

**Заяданнік** *м.* Сварлівы, няўжыўчывы чалавек. *Твайго зыіда́ньніка усе знаюць, пы-чылавечыскі зь людзьмі жыць ён ня ўмеіць, во каб пысваріцца яму абізацільна.* **Заяданніца** *ж. Як іна думыіць век пражыць такою зыіданьніцыю, с кажным ёй апасты́ліцца нада.*

**Заядлівый** *прым.* Заядлы. *Увы ўсякім дзелі дужа зыя́длівыя. Змалку зыя́длівый, сколька мы помнім, такей. І адзін зыядлівый, і другей, як шчэпюцца, во сьмеху буваіць.*

**Заясніць** *зак.* 1. Растлумачыць. *Січас прідзіць і зыясьніць, на што ты можыш рашчытывыць.* 2. Цвёрда сказаць. *Знаіш, што Сьціпанчыкыў зыясьніў сваёй цёшчы?* **Заяснёный** *дзеепрым. Яе свякрові ужо даўно зыясьнёна, каб гатовіла грошыкі. Ды яго нічога зыясьнёныга ні даходзіць, яму што-небудзь убіць няпроста.* **Заяснёмшы** *дзеепрысл. Ну, зыясьнёмшы такоя, ты хочыш, каб к табе хырашо атнасіліся.*

**Заяўлянне** *н.* Падача заявы, паведамленне ў якасці заявы. *Ідзі зыіўляй, ніхто твайго зыіўля́ньня ні баіцца. Уніміся з зыіўляньнім, сядзіш ціхінька і сядзі і нос ні ў сваё дзела ня торкый.*

**Заяўляннік** *м.* Той, хто заяўляе. *Такіх зыіўля́ньнікыў многа найдзіцца, хочыш, і ты схадзі зыяві, можа, ну душэ палехчыіць.* **Заяўлянніца** *ж. Зыіўля́ньніц етых усюдых і ўстрецюць, і праводзюць як нада,— ці гляніць на іх добрый чылавек, не-а, ні гляніць.*

**Збаламуціцца** *зак. неадабр.* Разбалавацца, зрабіцца баламутам. *Ты сыма вінувата, што ён у цябе збыламу́ціўся. Чаму ні збыламуціцца, кылі і там бутылычку торкыюць, і там падносюць, толька пі.* **Збаламучаный** *дзеепрым. Аттаго збыламу́чыный, што ты сыма ны яго глядзець ня хочыш. Пріехылі збыламучыныя, работыць ні бяруцца, во каб хто бутылычку ім купляў ды ставіў.*

**Збалдзець** *зак.* Ачмурэць. *Не, я тута ні ўжыву, ні ўгыварівый і ні ўвішчай, тута ат аднаго сквілу іхныга збалдзеіш зы нядзелю.* **Збалдзелый** *дзеепрым. Дайця яму ачухыцца худзь ба трошку, ён і так збалдзелый ста-*

*іць. Ці яны збалдзелыя, ці што, карова пы грідах ходзіць, а іх як ба і ні кысáіцца.*

**Збасець** *зак.* Застацца без абутку. *Нешта я збасела, нічога путнога німа ны нагу ўсторнуць. Ад гультайства і згалеіць, і збасеіць, тýкнуць ны яго некыму.* **Збаселый** *дзеепрым. Астáлыся к восіні збаселыю, нада біз атклáду ехыць у горыд ды купляць што-небудзь цяплейшыя, ато прімарозіць і ня выйдзіш.*

**Збасячыцца, збасятнічацца, збасячыць, збасятнічаць** *зак.* Разбалавацца, стаць гультаём, нахабай. *Што біз бацькі, збыся́чыўся, каб сам быў, ён ба скора уняў. Бісь цябе былі неслухымі і с табою збыся́чуцца, ты тожа пырядку ні нывядзеш. Паехыў, зырыбáтывыў ладна, капейка вілася, прігляду за ім ні було, пашлі друзья, выпіўкі і збыся́тнічыўся. Ежылі збыся́чыў с такіх гадоў, то чылавека ат яго ні дажджэсься. Атаб'ецца ат рук, збыся́тнічыіць, ні станіць чылавекым, кылі ні дзіржаць у руках.* **Збасячаный, збасятнічаный** *дзеепрым. Ну іх, збыся́чыныя хлопцы, ня будзіць ніякыга толку. Ён па віду відзін, што бязьмерна збысячыный. Прівазіла сваіх, ладныя пудуросткі, аднаму гадоў сімнаццыць, другей трошку меншый, а збыся́тнічыныя — на іх шкура гаріць.*

**Збіваннік** *м.* Той, хто збівае, займаецца збіваннем. *Саб'еш ты, зьбівáньнік, цябе нядзелю прасі — ня ўпросіш паможч у любой мелычы.* **Збіванніца** *ж. І ты ўжо зьбіваньніца узілáся, ці ў цябе пычыніць некыму, еткія лабрэты атлежывыюць плечы, а йна ляскыіць.*

**Збіваць** *незак. перан.* Скошваць збольшага. *Там і касіць дужа нечыга, ён і касец такей, зьбівáіць макушычкі.* **Збівацца** *незак.* Скошвацца збольшага. *Калі нямнога зьбіваіцца, дык і ладна, ніхай брýнкыіць.* **Збіць** *зак.* Скасіць збольшага. *Ікая ні трыва, нада було б зьбіць, ніхай ба ні стыяла. Яны й касцы такея, ну ніхай хуць пы макушкых саб'юць.* **Збіцца** *зак.* Скасіцца збольшага. *Во тута лі мяжы трошку саб'ецца і ў лашчынкі нямножка, пару ношычык будзіць.* **Збітый** *дзеепрым. Пы вірьхáх троху зьбіта, відна, кыса няклёпыныя была.*

**Збіраннік** *м.* Збіральнік. *Зьбірáньнікі карзінкі кінулі ды кыла гню сідзяць, бульбу пякуць.* *Памянш.* **збіраннічак.** *Зымаріліся зьбірáньнічкі, пыт капою ліжаць.* **Збіранніца** *ж. Твае зьбірáньніцы трошку падленівыцца сталі, скажы-ка, ніхай скарей пышавелівыюцца.*

**Зблажыць, зблажыцца** *зак.* Зблажэць. *Хрісьціна ду-*

*жа ны ліцо зблажыла, аж пыжаўцела неік. Чаму ні зблажысься, пірянёшшы такоя горя, каму б ета лёхка было хуваць дзеўку у самый красе.*

**Зблізь** *прысл.* Зблізку. *Зблізь такога воґіря ні пызнаў. Ты й зблізь ня ўвідзіш нікога, меншы варон нада лавіць.*

**Зблуджываць, зблуджывацца** *незак.* Заблуджвацца і не вяртацца ў двор. *Не, каб каровы зблўджывылі, у нас ня чутна было. Сыбакі зблўджывыюцца, пыбягіць куды і ні прібягіць.* **Зблудзіць, зблудзіцца** *зак.* Заблудзіцца і не вярнуцца ў двор. *Зыгыняй у пуню цялёнка ці хуць на двор успускай, ато будзіць цігацца, цігацца і зблўдзіць. Ну айца ўжо кылі і зблўдзіцца, піріжывеш, а во ў нас конь адзін раз сыйшоў, во горя было.*

**Зблуканяць, зблуканяцца** *зак.* Збадзяжнічацца. *Работыць ня хочуць, зблукунялі, цігаюцца, каб айдзе выпіць пупасьць. Меншый прыцавітый маліц, а большый зблукуняў. Зблукуняцца нядоўга, тады ціжалей ґ дзелу прілумаць.* **Зблуканялый** *дзеепрым. У яго і від зблукунялый, і вочы бегыюць, як у злодзія якога, саўсім апусьціўся.*

**Збойный** *прым.* Цесны, шматлюдны. *Ніплахей быў торг, збойный бызар, нійдзе было ні праціснуцца. Тута усігда збойныя лаўка, поўна народу.*

**Зборніца** *ж.* Вялікі торг у пэўны дзень года. *На зборніцу можна было ўсё купіць. Цяперя зборніц ні буваіць, а раншы ждалі і купляць, і прыдываць на зборніцу, дужа многа людзей зыіжджалыся.*

**Збрындавусіць, збрындавусіцца** *зак.* Зрабіцца лодарам, валацугай. *З большым удачы ні было, і меншый збрындавўсіў. Дапўсьціш, збрындавўсіцца, тады будзіш сам сябе за локці кусаць. Каб адзін па дном, яны б дзелылі, а кучыю збрындавўсіліся, цігаюцца, як сьвет пыціряўшы.*

**Збударажыць** *зак.* Растрывожыць, падняць на ногі. *Андрей пытхваціўся ехыць і другіх збудуражыў, каб ня ён, астатнія б і ні падумылі нікуды выбірацца.* **Збударажыцца** *зак.* Растрывожыцца. *Ты ім скажыш, яны толька хужы збудуражуцца, луччы ні гыварі. Як збудуражыліся, ні ўняць было, ні ўгывапіць.* **Збударажаный** *дзеепрым. Усе былі збудуражыныя, ні ў кога было толку ні дабіцца. Мы іх відзілі дужа збудуражыных.*

**Збузавацца** *зак.* 1. Знасіцца. *Касьцюмчык збузуваўся, што яго некуды ныдзіваць. Ні ныдзівай пулушубычка,*

*збузўіцца, што большы ні ныпряніш, у лес нада хужэйшыя ныдзіваць.* 2. Празмерна стаміцца. *Зы пасьледнію нядзелю мы так збузувáліся, што думылі толька, каб скарей вырвыцца аттуля.*

**Збычэць** *зак. іран.* Зрабіцца суровым, нелюдзімым. *С такою жонкыю як пыжывеш, дык ні хыцá збычэіш. І раншы, як мамрю́к, хадзіў, а цяперя саўсім збычэў.*

**Збязуліць, збязуліцца, збязульнічаць, збязульнічацца** *зак.* Зрабіцца гультаём, лайдаком. *Во зьбязўліця, ны вас ня то што дзеўкі, пасьледнія сучка ні гляніць, вам жа нада будзіць сем'і сыдзіржаць, а вас самíх карміць нада, ато з голыду здохніця. Сыма ува ўсём вінувата: ай, мáлінькія, сыма зьдзелыю, пыдрасьлі — ай, ніхай аддыхнуць, пасьпеюць ныработыцца,— яны і прівыклі ны маткіный шыі сядзець, зьбязўліліся. Тўкый, глядзі, тукый, зьбязўльнічыіць, што да веку гультуя карміць будзіш. Зьбязўльнічыцца нядоўга, ета яны ўмеюць, толька ны гарелычку грошы пыткідай. Ён ба ні зьбязульнічыўся, каб быў ны вычах.*

**Звад** *м.* Звада, непрыязнасць, спрэчкі. *У іх звад цягніцца гадоў пяць, як іх Сяргей ні ўзяў Проськіну дачку. Пашоў звад і пашоў, гы́ркыюць адзін ны днаго.*

**Звалацужыць, звалацужыцца, звалацужнічаць, звалацужнічацца** *зак.* Зрабіцца лайдаком, валацугай. *Пуця зь яго ніякыга ні було, у мыладосьці быў гультай, а пасьлі саўсім звылацўжыў. Звылацўжыіцца ўсьлед зы бацькыю,— во некыму іх крепка за хобыт узяць. Іхныя хлопцы звылацўжнічылі, дзелыць нічога ня дзелыюць, гарелычку пыпівалі б.* **Звалацужаный** *дзеепрым. Збáлывыныя, звылацужыныя зь іх толку ня жджы, ня будзіць, будуць хадзіць і цмыгыць, каб выпіць айдзе.*

**Званнё** *н.* Назва, найменне. *Званьнё, што пуня, іна цякець як у решыта, пірікрываць нада. Ніхай яму і звыньня́ ня будзіць, такому харошыму!*

**Зверху** *прысл. перан.* У дадатак, у прыдачу. *Ён як жаніўся, за Просію харошыга кыня ўзяў і яшчэ хацеў, каб зьверьху калёсы дáлі. Прўта табе адзь дзеда пупала і ў мяне яшчэ зьверьху мыхрычá палучыш.*

**Звесца** *зак.* 1. Звесці ў адно месца. *Усе калхозы зьвялíся с конімі, паўлуга зынялі, віцінар аглідаў.* 2. Страціць добрую пароду жывёлы, птушак. *У мяне ўсігда што ўжо нясўшчыя куры былі, бувала, зысыпáлыся яйцымі,*

*а тута во зьвілася і зьвілася, штук восім ёсьць, ну саўсім ні так нясуцца.*

**Звешыванне** *н.* Узважванне. *Ні нырáвіцца мне такоя зьвешывыньня, у етым кыбанчыку пудоў шэсьць далжно быць, а ні чатыры. Рад посьлі зьвешывыньня: здорыва пыправіўся.*

**Звешываць** *незак.* Узважваць. *Ты прігледзься, як ён зьвешывыіць: кініць і яшчэ пальцым уніз пажмець.* **Звешывацца** *незак.* Узважвацца. *Ні хачу я зьвешывыцца, сколька ёсьць, столька й ладна, усё маё.*

**Звяга, звягала** *м.* і *ж.*, **звягун** *м.* Звяглівая, крыклівая асоба. *Чаго ён такою зьвя́гыю стаў, верна, аць цёткі наўчыўся. Тыкая зьвя́га была, што ні прівядзі бог. Сы зьвя́гылыю як зьвя́жысься, то, кажыцца б, палы́ урезыў і ацступіўся. Аксюціна меньшыя тыкая зьвягыла, што як яе зімля носіць. Я дайжа прістáвіць сабе ні мыгла, што Андрей такей зьвягу́н.* **Звягуння** *ж.* *Дужа ныдаедлівыя зьвягу́ньня, усё ны каго-небудзь нясець лухту, ціха ні пабудзіць ні мінуты.*

**Звяганне** *н.* Звяга. *Некыму цябе ўнімаць з тваім зьвя́гыньнім, чаго ты ня пріўчысься дзіржаць язык зу зубамі.*

**Звягнуць** *зак.* Балбатнуць, сказаць абы-што. *Ны яго толька пынадзейся, можыць што хочыш зьвя́гнуць. Ні пы яго нешта пулучылыся, зьвягнуў, ну скора змоўк.*

**Звярыный** *прым.* Дзікі, магутны, празмерны. *У Высіля зьвярі́ныя сіла была, ладныя бірнушко возьміць на плечы і нясець, а пат тоя бірнушко кыня зыпрігаць нада. Пад восімдзісят пыдбіраіцца, а ў яго зьвяріныя здароўя, ні ён табе ня хы́рліў, ні балеў ні разу, дужа здаровый мушчы́нішча быў і січас ішчэ красень.*

**Звярышча** *м.* і *ж.* Вялікая, дужая, грозная жывёліна, чалавек. *Во зьвярі́шча ходзіць у Мікілая ны дваре, пудоў ны высімнаццыць кыбаню́га, ён яго зыпіраіць, каб ня відзіў ніхто. Такей зьвярішча быў конь, так і глядзеў, каб зубамі хвытану́ць. Ну й зьвярішча мужык, варочыіць адзін клáдзі, яны верна па тріццыць пудоў, таўшчэнныя дубы, ішчэ сурувáтыя. Такей ужо зьвярішча, Тонька ступіць піряд ім ні ўлáдзіць.*

**Згаладаный** *дзеепрым.* Схуднелы ад голаду. *Згылыдáныя яны ня ходзюць, нябось ты, яны ні дупускáліся, каб укусіць нечыга було. Нядзелі дзьве ні було у дваре сыбакі, а тады неткуль прібег згылыданый.*

**Згаладнець** *зак.* Згаладацца. *І ты б згыладнеў, каб*

*два дні у році крошкі ні було.* **Згаладнелый** *дзеепрым. Ня дужа яны згыладнелыя, толька што па ськібкі пірыга схвацілі і пабеглі, што самі зьядуць, а што курям пакрышуць.*

**Згамаць, згамкаць** *зак. дзіц.* З'есці. *Саша січас адзін усю кашку згáмыіць. Як згамыіш булычку, тады я табе канхветку дам — зукусíць. Ага, ны цябе пынадзейся, ся́дзіш ды адзін згамкыіш увесь кулеш, нам нічога ні асталіцца.* **Згаманый, згамканый** *дзеепрым. Я гляджу, айдзе йта яечка і сальца, ажно ўсё згáмына, мыладзец, Валодзя, хырашо ясі, будзіш росьць скарей, у школку пойдзіш. Я табе нямножычка-нямножычка нылíваю, штоб усё було згáмкына.*

**Згамзаць, згэмзаць** *зак.* Збузаваць, сцерці. *Такей харошый касьцюмчык яму справілі, сініналкій у палосычку, дык згымзáў зы адзін месіц. Дужа нікуратный маліц, што ні напрі ны яго, згэмзыіць, сатрець ны анучу.* **Згамзацца, згэмзацца** *зак.* Збузавацца, сцерціся. *Што було, усё згымзалыся, у толк ні пашло. Ну разьві ж я знала, што так згымзáіцца, каб знала, ці я ж ба новыю адзежыну пазволіла бузувáць. Ня будзіш бярежч — згэмзыіцца касьцюм, а другога я табе спруўляць ня буду, сам зароб.* **Згамзаный, згэмзаный** *дзеепрым. Ідзець, пальто на ём згымзáныя, сам нямытый, як чучыла якоя. Згымзаныя ня хочыць ныдзівáць, а нашто ж було дзелыць ны тряпку, нашто мяць було. Ужо і куртычка згэмзыныя, а ці даўно ж ты ныдзівáць яе стала.*

**Згарнываць, згартываць** *незак.* Згортваць. *Згáрнывыйка ічмянёк, нада ў мяшкі ссыпáць, каб дождж ні хля́нуў. Згáрнывыйця тряпкі сваe, што я буду рызглідаць, нічога там путнога ня выбіріш. Ну ён жа толька што згáртывыў жыта, айдзе ён дзеўся, куды ён пабег. Згартывый бумагі, асвыбыждáй стол, людзі січас прідуць.* **Згарнывацца, згартывацца** *незак.* Згортвацца. *Нічога тут ні згáрнывылыся, бярі, грыблямі зьдзьвінь троху, лупаткыю дзірівянныю паткінь, я зьмяту ды прікрыць нада. Нада табе згáртывыцца ды вупруўля́цца, хто с табою тута расьседжывыцца станіць.* **Згарнываный, згартываный** *дзеепрым. Нічога тама ні згáрнывына, тама работы ішчэ ды цімнá хваціць. Відна, што пы вярьху згарнывына, бруском грыблямі дзьвíнута. Там ужо ні асталыся згартывыныга ячменю, пірікусіця ды бягіця скарей прібірáць.*

**Згідавáць, згідавацца** *зак.* Згідзіцца. *Я б зьгідувáла*

*зы такей стол садзіцца. Мяне як зьгідўіць калі, я баюся ложку ў рот узяць. Ні прібраджына, ні пацьцёрта, у такой грязішчы абедыць сесьць зьгідўісься, як ета дзьве бабы ў хаці і каб пырядку ні навесьць.*

**Згледжыванне** *н.* Назіранне, высочванне. *Ты будзіш, як рытазей, сядзець лі выкна, Віцька прыбягіць і ні замеціш, во й згледжывыньня тваё будзіць.*

**Зглумачыць** *зак.* Змарнаваць, пусціць у глум. *Глядзі, ні аддывай яму зразу ўсі грошы, зглумачыць, зы нядзелю біс капейкі астаніцца. Сколька яны мне чаго зглумачылі — скызаць трудна.* **Зглумачыцца** *зак.* Змарнавацца, страціцца без карысці. *Неік пашло на звод, то адно зглумачыцца, то другоя; убытык за ўбыткым. Такоя сена зглумачылыся, яго каб ны бызар вывіз, грошы б, грошы былі, а яго сыбралі ня меншы пудоў шэзьдзісят.* **Зглумачаный** *дзеепрым. Боцікі яны ніплахея былі, а зглумачыныя нашто яны каму. Тыкая бульба была як каменьня, а зглумачына із-зу гультайства, ці ета нілізя було воўрімя прібраць, пріпуціць, каб марозым ні пріхваціла.*

**Зглупаваць** *зак.* Дапусціць пралік, зрабіць неабдуманы ўчынак, дзеянне. *Так я зглупуваў зь естыю кыравёнкыю, прасьціць сабе ні магу. Нада ж табе етык зглупуваць, а; каб ні пысьпяшыў, даўно б у хаці быў.*

**Згнісць** *зак. перан.* У групавой гульні быць у слабейшай камандзе, якая прайграе і знаходзіцца ў падпарадкаваным стане. *Вы згнііцё, ні разу наверьх ня выбіріціся. Адзін раз пупалі наверьх і ўзноў пад ніз пашлі, згнілі там.*

**Згон** *м. неадабр.* 1. Адкрытае месца для зборышча. *Ці вам тута згон якей, што большы пайціць некуды.* 2 *перан.* Вялікая колькасць. *Тама етых кывалерыў згон, адзін за дным міняюцца.*

**Зграйнасць** *ж.* Акуратнасць. *Дужа аць цябе зграйнысьці я ня відзіла, натопчыш, ныгадзіш, кініш адзежыну як пупала і айдзе пупала, во акуратнік.*

**Зграйнік** *м.* Акуратыст. *Вы абоя адзінакывыя зграйнікі, як адзін, так і другая, пулушубка с-пад ног ні падніміця. Памяниш.* **зграйнічак.** *Харошый зграйнічык: ныляпыў, ныляпыў і сеў.* **Зграйніца** *ж. Зыхацела ты, каб яе дычка была зграйніца,— ніряшлівыя, нікуратныя, як усе іхныя.*

**Зграйны** *прым.* Акуратны. *Айдзе ты відзіў, што Кос-*

*цікыў сын зграйный будзіць, такей самый нізграй, што й бацька.*

**Згрыбчаный** *дзеепрым. жарт.* Злоўлены, схоплены. *Бальйнік маліц, нічога ня зьдзелыіш, ён і згрібчыный будзіць ёрзыцца, пішчыць, дрыґыіць, рукамі мыхаіць, спраўся зь ім.*

**Згубашлёпіць** *зак.* Дапусціць памылку, праваронiць, зратазейнічаць. *Як жа вы згубашлёпілі с авечкымі, відна ж було, чаго яны круцюцца. Рытазей згубашлёпіць, а тады бегый зы яго, піріпрашывый.*

**Згультаеный** *дзеепрым.* Такі, які зрабіўся гультаём, лодарам. *Дужа згультаіныя хлопцы, кім яны ў Насты вырыстуць. Каб ты ні была тыкая згультаіныя, і ён ба к табе іньчы атнасіўся, а табе ж лень у хаці прібраць, ты рубашку пірісьціpнўць лянісься.*

**Згуненый** *дзеепрым.* Зганьбаваны, зняслаўлены. *Ну ніхай я згуніныя буду, а йна дужа харошыя, ета мне плоха, а ня ёй. А табе што, кылі тэя дзеўкі згуніныя, ета ні твае дочкі, ні плач.*

**Згырканый** *дзеепрым. неадабр.* Страчаны. *Не ўжо, цяперя позна згыркыный ножычык іскаць, а такей быў ножычык! Вязёнычка згыркына, надзень трясцы, а марозы бяруцца крепкія.*

**Здагадаць** *зак.* Здагадацца, дадумацца. *Чорт іх здыгыдаіць у пуні глядзець, яны чыріз грязь лезьць туды ні захочуць. Здыгыдала ж іх ны бані шукаць, мы думылі, тама ніхто ні найдзіць.*

**Здальшыцца** *зак.* Паказацца далёкім (пра дарогу). *Каб ты дзьве ночы ні спаў, і табе б здальшылыся дарога. Січас ты храбір, блізка дужа, а пройдзіш, дык здальшыцца йціць.*

**Здаравун** *м.* Здаравяка. *Айдзе табе брацца с такім здурувуном, ён цябе у мінуту разложыць ну лупаткі. Здыравўн хлопіц, у яго сіла пряма нямерныя.* **Здаравуха** *ж. Іна і здыравўха, і вісялўха, і рігатўха, тыкая аньціресныя дзеўка! Ніхай-ка і твыя здыравуха выйдзіць з грыблямі, дос ёй стульчыкі праседжывыць.*

**Здаравушчый** *прым.* Здаравенны. *Лісяёнкі булі здыравўшчыя хлопцы, к ім ніхто ня лез. Буланый у нас быў конь, такей здыравушчый, любэй воз цягнуў.*

**Здаўнівацца** *незак.* Зацягвацца ў часе. *Пычало здаўнівыцца, што ўсё адна й адна ў хаці, кажыцца, нівісь калі яны пріїжджалі.* **Здаўніцца** *зак.* Зацягнуцца ў часе. *Ета*

*вам здáўнілыся, што Алена ні разу ні зыхадзіла. Буваіць, нямножка ўремя пройдзіць, а яно як здаўніцца, усё рыўна як ніізьвесна калі було.*

**Здзержаць** *зак.* 1. Стрымаць. *Іван бы нытваріў дзялоў, хырашо, што хлопцы яго зьдзержылі. Жарёбка як пынісла тріпáць, айдзе ты яе зьдзержыш.* 2. Утрымацца (пра надвор'е). *Хваліць богу, зьдзержыла і сяньня, трошку увыбраліся сь сеным. Не, яй-богу, не, ду суботы ня зьдзержыць, раншы дождж пойдзіць.* **Здзержацца** *зак.* 1. Стрымацца. *Так ён расьсердзіўся, ня мог зьдзержыцца.* 2. Утрымацца (пра надвор'е). *Каб яшчэ дні трі зьдзержылыся, здорыва б луг пыдыгналі. Ня зьдзержыцца, пылядзіш, ня зьдзержыцца, к вечыру сыбярецца дождж.*

**Здзіцянець** *зак.* Здзяцінець. *Зьдзіцянеў ты малыга пужаць, нашто табе трогыць яго. Тыкая дзявýлішча у кáмушкі зь дзіцямі гуляіць, зьдзіцянела, знаць.* **Здзіцянелый, здзіцянеўшый** *дзеепрым. Во яшчэ другей найшоўся зьдзіцянелый, бегыіць, як малютычка, зь мячыкым кругом пуні. Ну зьдзіцянеўшый чылавек, другога нічога ні скажыш!*

**Здзяванне** *н.* Здыманне адзення, абутку. *С такім зьдзівáньнім ты да цёмныга ні разьдзенісься. Во зьдзіваньня: зы адзін край пыцягнуў, рубашка ат кыўніря й треснула.*

**Здзявацельства, здзякацельства** *н.* Здзек. *Каб ац свайго дзірявенца такея зьдзівáцільствы цярьпець, яго ж ба злавіць, зудушыць і ў роў зытыптаць,— стаў старыстыю, дык азьвярей. Тады кругом було зьдзікáцільства, ікая ўласць, кылі п'яный бургомісьцір бегыіць з ныганым пы дзярэўні і п'яныя пыліцейскія за дзеўкымі гыняліся з вінтоўкымі.*

**Здзявацца** І *незак.* 1. Знімацца. *Рубашка ні зьдзівáіцца.* 2. Здымаць адзенне. *Як пычаў зьдзівáцца, пароўся ён, пароўся з ґузікымі, а ня ўмеіць рышшпіліць. Зьдзівайся і йдзі ў адной майкі, у рубашкі зыпáрісься.* **Здзецца** *зак.* 1. Зняцца. *Пінжак нымя́к, дык чуць зьдзеўся.* 2. Зняць адзене. *Прішоў, зьдзеўся і палез ны хату, храпець. Зьдзенься, ськінь тряп'ё, ці ў цябе німа чаго чыстыга надзець?*

**Здзявацца** ІІ *незак.* Здзекавацца. *Усякія гáдысьці було ны зямле, былі такея, што нуд людзьмі зьдзівáліся. У газеці пісалыся, што над негрымі дужа зьдзіваюцца, стріляюць, у іх, дзярэўні палюць, як у нас прі немцых.*

**Здрыгавацца** *незак.* Уздрыгваць. *Нешта малыя наша пасьледнія ўремя здрыгывыіцца, сьпіць, сьпіць, а тады разым аж кылатнецца, ці ня выпужына іна.* **Здрыганууцца** *зак.* Уздрыгнуць. *Стаіць, стаіць, а тады разым здрыгнецца. Лі вуха ў мяне з руж'я бах, я ажно здрыгнуўся.*

**Здрыгануць** *зак.* Зрушыць (пра ўнутраныя органы). *Гаворюць, што ён мазкі здріганўў.* **Здрыганутый** *дзеепрым.* *У яго ці ні здріганўта што-нібудзь у сярёдку, від у яго дужа бальнэй.*

**Здыхнуцца** *зак.* Прадыхаць. *Прабегла зы каровыю трошку, здыхнуцца ні магу, духі зыхвáтыіць. Урімінáмі нічога, нічога, ато нешта пычынаіць сьціскаць у грудзях, ні здыхнуся.*

**З'еджаный, з'етый** *дзеепрым.* З'едзены. *Калі ўжо зьеджыныя, як жа ты верніш. Аткасіў біряжок зьетыга жыта, зь яго б нічога ні було.*

**Зелязяка, зелязячына** *ж.* Кавалак жалеза, выраб з жалеза. *Ні гляну́ў хырашо — думый, курчыга, ды пы зілізякі тыпаром. Зыгнаў зілізячыну ў калодку і ня вырьвіць, і ня коліцца, і ні пірярежыш цяперя. Памянш.* **зелязячка, зелязячынка.** *Тута любую зілізячку найдзіш, іх повін двор. Каб зьбіў зілізячынкыю якою, яно б кряпчэй дзіржалыся. Павеліч.* **зелязячышча.** *Ат нейкія машыны зілізячышча выляіцца, бальшэнныя, бальшэнныя, пудоў дзесіць.* **Зелязячча** *н. зб.* *Усякыга зілізячча накідына, прібраць нада, на ім ногі пывывырáчывыіш, як узаб'есься калі.*

**Зелянкавіць** *незак.* Выдаваць зеленаватым. *Ён гулубенькій мыцірíял і трошку зілінкáвіць, ны плацьця красівый будзіць.*

**Зелянкі** *мн.* Недаразвітыя канапліны. *Зілянкі у адзін пук с харошымі кыныплямі ні бяруць, іх адзьдзельна вяжуць, тады мнуць хужэйшыя што зьвіць.*

**Зеляпух, зеляпень** *м.* і *ж.* Худое, хваравітае дзіця. *Бегыіць зіляпух пы хаці, ручкі танюсінічкія і ножкі крівенькія. Зіляпух ты, зіляпух, усё ты ўжо знаіш, табе іщчэ росьць ды росьць нада. У Аўдоткіныя тожа такей самый зіляпень расьцецць. Шустрінькыя дзяўчонычка, ну тыкая ўжо худзенічкыя, зіляпень, хуць усе костычкі на ёй пірішчытáй. Памянш.* **зеляпеньчык.** *Малінькій быў зіляпеньчык, шкура на ім сьвяцілыся, а падрос — нічога ўзяўся мальчонка.*

**З'ёмка** *ж.* Прылада здымаць яблыкі з яблыні. *Сёліта*

*ты дзелый пабольшы з'ёмык, у цябе яблык — агрябесься, ажно суччa лумаіцца. Памяниш.* **з'ёмачка.** *Тыкая ўдобныя зьёмычка была і злумалыся.*

**З'ёмшчык** I *м.* Той, хто знімае што-н. *Ну цябе, зьёмшчык, ты так зьніміш, што ад гаршчонычка чыряпкі астануцца.* **З'ёмшчыца** *ж. Адна зьёмшчыца харошыя і другая ладныя, ідзі пымагі, ато ўпусьцюць яшчык і рызаб'ецца.*

**З'ёмшчык** II *м.* Фатограф. *Нейкій нідалёка ад бызара быў зьёмшчык, бегылі дзеўкі, зьнімаліся. Ты ўжо ці ні зыпісаўся у зьёмшчыкі, хватогрыхым будзіш.* **З'ёмшчыца** *ж. Глянь-ка, ужо і дзеўка зьёмшчыца, апырат наводзіць.*

**З'ёрзываць** *незак.* Бузаваць, таптаць, збіваць. *Пылядзі, як яны зьёрзывыюць салому, чаго ты ні турнеш іх аттуля пугыю.* **З'ёрзацца** *зак.* Збузавацца, стаптацца. *Як пыталўюцца кучыю дзень ды другей, сена ны аціру зьёрзыіцца, ні адна скаціна дайжа панюхыць ні захочыць.* **З'ёрзаный** *дзеепрым. Што йта вы тут дзелылі, чаго ўся пасьцель зьёрзыныя? Пад лесым стыяла дзьве зьёрзыныя капёшкі, ці цяперя што асталыся, ці не — ні знаю.*

**Зжабіць** *зак.* Перагнуць. *І роўніькія, і біс сучкоў лазіны, а во гнуў штук пяць і ўсе жжабіў. Ну й ету лазіну жжабіш, нада акуратній гнуць.* **Зжабіцца** *зак.* Перагнуцца. *Ну, кажыцца, січас абруч сагнецца роўнінька, гну, гну, вот-вот зьвязывыць, а ён возьміць і жжабіцца. Як гнеш, кымялёк нада сустругаць, ну есьлі айдзе няроўна різанеш, ён жжабіцца.* **Зжабленый** *дзеепрым. Вун яны твае пруціны, усе жжабліныя, ня хочуць гнуцца. Ны жжаблiный абруч можна плесьць, ну нікрасівыя будзіць карзіна, дый пулумаіцца скора, такей абруч доўга ні пыдзяржыцца.*

**Зжывацца** *незак.* Страчваць гаспадарку, набыткі. *Што ж вы жжываіціся, нічога ў вас ні астаецца, нада пры вясну трошку думыць, як усадзібку апсімяніць. Ладныя було хызяйства, як сам дзіржаўся, яно ўсё хырашо йшло, хуць ён дужа ні работыў, а бізь яго усё жжываіцца.* **Зжыцца** *зак.* Страціць гаспадарку, набыткі. *Ён тута сядзець доўга ні зьбіраўся, жжыўся на нет, дайжа кыравёнку прыдаў. Ты жжывесься, так траціўшы, а тады сам будзіш глядзець, каб хто мяшок бульбы пазычыў.* **Зжытый** *дзеепрым. Жжытыя трудна нызад варочыць, нада зразу глядзець, каб толкым ішло. У Антоніхі усё жжыта, халўпіну прыдасьць і паедзіць.*

**Зжынаць** *незак.* Спраўляцца, раўняцца ў жніве. *Каця ўжо нашто была работніца, а я зь ёю жжына́ла. Дзень трі дні жжынаць — ня сіла наша.* **Зжаць** *зак.* Справіцца ў жніве. *Ты ішчэ хочыш, каб я старысьцю з мыладымі жжала. Айдзе ты сажнеш зь Веркыю, іна, як агонь, работыіць. Жжаць цэлый дзень я ні магу, ні маё здароўя стыяць у сярпе адз зарі ды зарі.*

**Ззубліваць** *незак.* Зазубліваць. *Ні на што другоя ён узяў ножычык, будзіць ззу́блівыць. Ні дывай ззублівыць скоблю, тады йстрі посьлі яго.* **Ззубліваццa** *незак.* Зазублівацца. *Відзіш, што ззу́блівыіцца тапор, а ты бах і бах, тама ці ня гвозд сядзіць.* **Ззубіць** *зак.* Зазубіць. *Харошыя была цісла, я яе атайстріў дужа войстра, а Максім узяў і ўсю ззубіў. Ён у цябе такей майсьцір, што толька ззу́біць тапорік і ўсё.* **Ззубіцца** *зак.* Зазубіцца. *Я дык і сам ні знаю, як етый тапор ззубі́ўся, я сек дужа акуратна. Ножні ззубіліся, імі резылі усё пыдряд, а тады закінулі, яны і сыржа́вілі.* **Ззубленый** *дзеепрым.* *Учора ытачыў тапор, ну, думыю, будзіць ш чым ехыць за Сож, а сяньня хваці́ўся — ззу́блін увесь чысьцінька. Ззубліный ножык выляіцца ны лаўкі, ім нічога ні атрежыш.*

**Ззуванне** *н.* Разуванне. *Ныгрязьні́ў лі скамеічкі, ну цябе с тваім ззува́ньнім.*

**Ззуваць** *незак.* Знімаць (пра абутак). *Ты ня ўмеіш ззува́ць, глядзі, як я: раз і гатова. У цябе пулучаіцца, усё дно як Мікіта ззува́ў новыя боты.* **Ззувацца** *незак.* Разувацца. *Ідзі на двор ззувацца, ці я зы табою буду хадзіць усьлед с тряпкыю і пыцьціра́ць. У цябе ўсё ўмесьці ззуваіцца с анучымі.* **Ззуць** *зак.* Зняць абутак. *Ты ўсьцягніш, што ня ззу́іш, ні нада ныпірaць. Прішоў, ззуў боты і палез ціхінька на печ, трошку быў пад мухыю.* **Ззуцца** *зак.* Разуцца. *Вун пашоў ба і ззу́ўся у сенцых,— не, дык каб абізацільна тут суріць. Лапыць тады ў мяне ззуўся, ні туды, ні ызад, а яны ўсьлед бігаць, чуць ні хвытаюць.* **Ззуваный, ззутый** *дзеепрым.* *Сядзіць, ґ запечку прітуліўся і сьпіць, і боты ні ззува́ны. Кінь свае ззу́тыя чобыты у сенцых, ніхай у хаці ні грязьніцца.*

**Ззызнуць** *зак.* Перакалець, пасінець ад холаду. *Ззыз — чуць укаці́ўся ў хату, ета ж дадумыўся такім холыдым вупруўля́цца у адным пінжачку. Ніхай ззы́знуць раз, дык ну другей раз падумыюць, ці нада ныдзівацца.* **Ззызлый** *дзеепрым.* *Прібеглі абея ззы́злыя, я*

*ім уліла крупені гырячыя ды гыварю: лезьця на печ скарей.*

**Зімавік** *м.* Перазімаваны парсюк. *У ета скрысеньня удáшна зімывікá прыдалі, грошы у іх цяперя ёсьць. Сярьгей ішчэ січас двух зімывікоў дзяржыць. Памяниш.* **зімавічок.** *Кылі зімывічкоў пірядзержыш, ні прыгыдáіш.*

**Зіркачы** *мн. груб.* Вочы. *Чаго ты зіркачы́ сваё вы́лупіў, ідзі, куды сыбраўся. Пріцягніцца, вытрішчыць зіркачы, стаіць,— узяў ба, кажыцца, мятлу ды мятлою ат'етуль.*

**Злабрэтавацца, злабрэтаваць, злабрэціцца** *зак.* Зрабіцца лодарам, лежабокам. *Ды відна, што злабрэтывыліся, дайжа відра вады ня хочуць прінесьць. Вы́гуліўся за лета, злабрэтывыўся, што яму, усё було гатовыя. Ні зыстаўляй, дык ён саўсім злабрэтыіць, ты яго пычшавелівый усё урэмя. У мяне б ён так ні злабрэціўся, я б жыва яму толк даў, сяньня вілкі ў рукі: ідзі гной выкінь, нызаўтріга лупатку ў рукі: ідзі гряды пупруўляй.*

**Зладзіный** *прым.* Уласцівы злодзею. *У абоіх зладзіныя ухватка, як у бацькі, так і ў сынка. У яго дайжа паходка зладзіныя была, ні як у людзей. Ты прігледзься: і ўзгляд зладзіный.*

**Злазіць, злязаць** *зак.* 1. Знікаць (пра болькі, плямы на скуры і інш.). *Болькі былі пашлі пы ліцу, а цяперя злáзюць, чысьцеіць. Крысьнытá паменшыла і ўсё ета больныя злазіць, ны пыпраўку пашло. Кіпятком лінула, ны нагу пупала, кожа злазіць.* 2 *перан.* Худнець. *Ня дужа ён злазіць, як кыбан ходзіць. У работу як упрягуць, пычанець зьлізаць.* 3 *перан.* Пакідаць у спакоі. *Каторый год ні злазюць зь яго, крепка усьселі. Усьселі на Віктыра і ні зьбіраюцца зьлізаць зь яго, думыюць, каб ён цэлый век карміў іх. Ужо здыраву́шчыя хлопцы, у сябе, маглі б сколька хочуць заробіць, а ні зьлізаюць сы стырікоў.* **Злезць** *зак.* 1. Знікнуць (пра болькі, плямы на скуры і інш.). *Па левый руке былі селі скýлкі, ну цяперя зьлезлі, нейкыю мазьзю мазыла. Ніхай трошку прытрясецца, пыкáшыіць, жыр зьлезіць, ета яму на пользу пойдзіць. Кіпятком плёснуў ну руку, шкура зьлезла. Такоя ў яго мыладога хахольля було, кудря́выя, пы́шныя, а во ўсё зьлезла, гылыва голыя, як бубін.* 2 *перан.* Схуднець. *Удвыя зьлез Кындрацёнык, пытанеў, ато ўсё хадзіў, як бочычка.* 3 *перан.* Пакінуць у спакоі. *Няскора зь яго зьлезуць уредзіны тэя.*

**Злакаяннік** *м.* Нягоднік. *Хто пры яго путноя слова, пры злыкыя́ньніка етыга, скажыць, ны яго ўжо ніхто глядзець ня хочыць.* **Злакаянніца** *ж. Во была злыкыя́ньніца, як яе толька зімля насіла. Пы мамі пышла злыкыяньніца, тая тожа ўсігда ўсіх поідым ела.*

**Злакаяннічаць** *незак.* Паводзіць сябе па-нягодніцку. *Ого, сколька тут етый пыразіт злыкыя́ньнічыў, сколька ат яго людзі плакылі: сыбярець кучу людзей і пыгнаў у паліцыю, а тама швагрі дывай іх зымкамі біць.*

**Злакаянны** *прым.* Нягодны. *Чаго ён еткій злыкыя́нный, каб мог, кажыцца, паеў ба ўсіх. Ікая злыкыянныя сіла ў чылавека ўлезла!*

**Злапаціць** *зак.* Перавеяць зерне ўручную. *Нечыга расьседжывыцца, калі ты кучу злупа́ціш.* **Злапаціцца** *зак.* Перавеяцца ўручную (пра зерне). *Ні злупа́ціцца сяньня, заўтря кончу, накрыю на ныч пылаткыю, каб дужа ні ацсырела.* **Злапачаны** *дзеепрым. Злупа́чыныя зга́рнывыйця скарей у кучу і ныкрывайця, ці відзіця, ікая туча ныдзьвігаіцца.*

**Злаўрэднік** *м.*, **злаўрэдзіна** *м.* і *ж.* Нягоднік. *Кылі зыдаўся злаўреднік, яго ніхто ні пірядзелыіць. Сам ба, кажыцца, усіх пыдряд паеў, і дзеці па ём злаўреднікымі зыдаліся. Тыкая злаўредзіна чылавек, так і глядзіць, каб утваріць каму што-небудзь. Нада ж урадзіцца на сьвет еткыю злаўредзіныю.* *Узмацн.* **злаўрэдзішча.** *Я такога злаўредзішчы ішчэ нійдзе на сьвеці ня відзіла, ета ж падумыць, каб ны свайго родныга пайціць явіць.* **Злаўрэдніца** *ж. Ета ўжо ні прідумыіш, чаго тыкая злаўредніца зыдылася, і матка яе такою ні была, і бацька чылавек як чылавек быў. Пупадзець у тую сям'ю, станіць і злаўредніцыю, і кім хочыш.*

**Злаяцца** *зак.* Сказаць лаянкавае слова. *Зла́йся, а тады зірнуў ны мяне, увідзіў, што я пачула, пыкрасьнеў як рак. Мама, а я чуў, як Васіль злаіўся.* **Злаяны** *дзеепрым. Пойдзіць ён злаіный, калі ня ўніміцца.*

**Злежацца** *зак.* 1. Злегчыся, зляжацца. *Сена зьлежылыся, яго ірьві — ні ўзарьвеш і вілкымі. Тама хворысту многа ныкря́тына, ета ён зьлежыўся, дык выдаець, што яго нямнога.* 2. Вылежацца (пра фрукты). *Яблыкі зьлежыліся, смашныя сталі, а зялёныя було ні ўкусіць.*

**Злечыванне** *н.* Вылечванне. *Якоя тут будзіць зьлечывыньня, кылі кругом баліць.*

**Злечываць** *незак.* Вылечваць. *Раншы ніякыга лячэнь-*

*ня дужа ні було, а цяперя ўсякія балезьні зьлечыюць.* **Злечывацца** *незак.* Вылечвацца. *Хто рана кідыіцца ґ дыктырам, ні зупускаіць балезьні, тэя зьлечыюцца, і цяжолыя балезьні зьлечывыюць.* **Злячыць** *зак.* Вылечыць. *Куды ён толька ня езьдзіў, і ў Воршу, і ў Мугулёў, дужа нывазіўся, а зьлячыў хлопца.* **Злячыцца** *зак.* Вылечыцца. *Тады зьлечысься, як ні запўсьціш, а зупусьцёмшы, ніхто табе ні паможыць.* **Злечаный** *дзеепрым.* *Іванёнык, памойму, зьлечыный вярнуўся, від яго стаў нічога.*

**Зліпух** *м.* 1. Ніжняя скарынка хлеба з прысохлым попелам. *Як на лісьцікі хлеб содзіш, зьліпухыў ні разу ня будзіць. Сухей зьліпух смашный, толька залу нада хырашо ацскресьць.* 2 *перан.* Худая істота (звыч. хлапчук). *Пыкармі свайго зьліпуха, ён галодный цэлый дзень носіцца.* *Памянш.* **зліпушак, зліпушок.** *Мáліньнія зьліпушкі у шайку вы́кініш, а большыя пыбрізáць нада. Зьліпушок ты маліцькій, табе даўно спаць пыра.*

**Злодзей** *м.* і *ж.* Злодзей. *Узмацн.* **зладзюга, зладзюжына, зладзіна, зладзінішча, зладзюган, зладзюганішча.** *Пасьледній зладзю́га быў у сьвеці, віселі нашы вокырычкі, сушылі, ён зглядзіў, што мы пад вечыр атвярнуліся ны мінутку ґ гумну, ускачыў і зьняў. Што ён агарчыў, зладзю́жына, Полькіных, мы цьвёрда знаім, што ён навёў шайку, у пуню ўлезьлі, карову абулі ў лапці і пывялі. Зладзіна прыклятый, ета ён нашу авечку зьеў. Січас ён і ціхій і спакойный, а ты ні знаіш, якей ён быў зладзінішча раншы. Во злудзюгáн пыдрыстаіць, калі айдзе шыю ня зломіць, ні знаю, што зь яе будзіць. Мы яго хырашо помнім, быў злудзюгáнішча, ладна клеці чысціў. Ніхай ба Мітрыхванывым хлыпцам пупаўся ў рукі тэй злудзюганішча, навек ба зыкаіўся красьць.*

**Злубець, злубянецца** *зак.* Злубянець (ад старасці, бруду). *Плáшчык твой злубеў саўсім, ён і ваду прупускаіць, ня дужа накры́ісься. Грязь ны штанёнкых засохла, злубелі, ходзіць — яны ажно шуршáць. Ні дупускай пулушубык, каб злубянеўся, тады ён пулумаіцца і нічога зь яго ня будзіць, прыпадзець.* **Злубелый, злубеўшый, злубянеўшый** *дзеепрым.* *Куртка злубелыя-злубелыя, яе дайжа у рукі ўзяць нілізя, ці яе атмуваць, ці аббіваць — ні прідумыіш. Кожа нейкыя злубеўшыя, ці ня крышка ат хумута. Яны ўжо злубянеўшыя, етыя бацінкі, ты іх як кінуў сырэя, яны і зыкыржанелі, толька на нос ныдзіваць.*

**Злухціць** *зак.* Сказаць глупства. *Ягор то хадзіў у Сапрынывічы, з Надзькыю там рызгыварівыў, а што ён жаніцца сыбіраіцца — ета злухцілі, ня будзіць ён жаніцца, пакуля армію ні ацслужыць. Доўга ёй што-небудзь злухціць умеючы.*

**Злыдната, злыднота, злыдота** *ж.* Нягоды, беднасць. *Сколька мы помнілі, усё ў яго злыднытá была, дзяцей поўныя хата, і на печы сядзелі, і ны палу, як кырапýзьлікі, і пы масту поўзылі. Пупала ў злыдноту, нугурювалыся зы сваё замýжыства. Тэя гады у іх была злыднота, злыднота, нысьмігувáліся яны. Злыдота нывалілыся, дык яно ні ў чом німа толку.*

**Злыднік** *м.* Гаротнік, бядняк, бядак, няўдачнік. *Бацька яго вешный злы́днік быў, усё яму ні вязло ні ў чом. Калі ўжо злыднік, яму кругом бяздольля.* **Злыдніца** *ж. Ні чылавек ужо тэй, хто Мархві пызавідывыў, прыжыла іна век злы́дніцыю, куча дзяцей, ён памёр рана, усюдых адна, усюдых сыма,— намучылыся. Ах ты, злы́дніца, і ты ішчэ будзіш лухту прідумывыць!*

**Злыднічаць, злыднічацца** *незак.* Жыць у няшчасці, беднасці. *Як ён жыў, злы́днічыў цэлый век, пірiц самыю тою вайною купіў зямлі, а сыноў пабіла, ён шчасьця ня відзіў. Каму ахота злыднічыць, як Антон жывець. Ета ня жызьня так злы́днічыцца, адно за дным нішчасьці ны яго валюцца.*

**Злыдня** *ж.* 1. Беднасць, нягоды. 2 *зб.* Беднякі. *У іх тама адна злыдня жыла, зямлі ні було, пясок, нічога ні расло, пірібіваліся, хто як, а вясною німала і пы старцых хадзілі.*

**Злыйдух** *м. асудж.* Нягоднік, нячыстая сіла. *Злыйдýх быў чылавек, сколька зь ім горя Матруна хваціла. Такому злыйдухý ні ў чом ні ў век ні ўладзіш, прічэпіцца — ні за што ні зы якыя будзіць лаіцца. Узмацн.* **злыйдушына.** *У вас Хымчанок быў нячыстыя сіла, а ў нас Ляксейка ня меншыя злыйдýшына быў. Павеліч.* **злыйдушышча.** *Ну злыйдýшышча рызгрімеўся, кылі і німа ніякія прічыны, знáйдзіць зачэпку, спакойна ў яго ні пабудзіць.* **Злыйдушша** *н. зб. Пыдрыстаіць злыйдýшша, такея самыя будуць, як мама. Злыйдушша ж носіць некыга пы балоту, што ён тама забыў.*

**Злыйдуховый, злыйдухаватый, злыйдушный** *прым. асудж.* Нягодны. *Луччы ты мне пры яго ні рысказывый, хто йта ні знаіць, якей ён быў злыйдуховый чылавек.*

*Усяго я нагледзіўся у жызьні, ну такога злыйдухуватыга чылавека ні разу ні сустрюкаў. Злыйдушныя сіла ў табе сядзіць ці што, няўжэлі ты ня можыш паслухыць, як чылавек?*

**Злысіць** *зак.* Крыху абчасаць. *Нічога яны тама ня дзелылі, два кумлючкі трошку злысілі і пашлі. Дужа апцясывыць ні апцясывый, троху нада злысіць, каб раўней було, і ладна.*

**Злэўджаный** *дзеепрым. жарт.* Украдзены. *Я туды, сюды, айдзе мае мяшочыкі, а вазьмі трясцы, німа, злэўджыны, нідырма тут Гаўріла аціраўся. Ён і злэўджыныя ні пысьцісьняіцца, надзеніць.*

**Злюбаваць** *зак.* Упадабаць. *Пуньку тваю дужа зьлюбувалі гулубцы, каторый год вядуцца. Харошыю мясьціну зьлюбуваў сабе хату пыставіць, луг пыд вакном, речка, сы скатом луччыя выгыды ні найдзіш.*

**Злякнутый** *дзеепрым.* Спалоханы. *Ну зьлякнутый дзіцёнык, ці ты сыма ня відзіш, ляжыць, ляжыць, а тады ножкымі як задрыгыіць. Ты ўжо даўно зьлякнутыя, у цябе ў гылаве ўсё ўремя нечыга ні хвытаіць.*

**Змагар** *м. гумар.* Змагар, барацьбіт. *Сь цябе б самый раз пулучыўся змыгарь, як з Напрея, ізыком ба ты са ўсімі справіўся. Ну ці такога змыгыря ніхто ні знаіць.* **Змагарка** *ж. Сь цябе ні абы-ікая змыгарька, ізыком ты сьвет пірівярнуць можыш. Ты Лявоніхіну змыгарьку вазьмі сабе ў помышч.*

**Змагарнічаць** *незак. гумар.* Змагацца. *Не, сколька ты ні змыгарнічый, а табе с Пытапёнкымі ні справіцца, сілы ў цябе мала. Ты б змыгарнічыў, каб табе падзьдзержка зы сьпіною стыяла.*

**Змагарства** *н.* 1. Змаганне. *Як у цябе настрой посьлі змыгарьства с Просію, нешта ты яе ня можыш пыбядзіць.* 2 *жарт. зб.* Змагары. *Андреіхіна змыгарьства кучыю высыпыла, січас дадуць вам атпор.*

**Змантачыць** *зак.* Змарнатравіць. *Ня ўмеіць жыць, сколька ні заробіць, усё змынтачыць, і ня п'ець дужа, а капейка ні дзяржыцца. У людзей ба ны пяць гадоў тога быгаства хваціла, а яны за год усё змынтачылі.* **Змантачыцца** *зак.* Змарнатравіцца. *Каб жыць умелі, каб нудукуваў хто, нупуціў, яно б ні змынтачылыся столька. Грошыкі зывяліся, пашлі дружкі, чарычкі, так і змынтачыўся. Калі пра жызьню думыіць, дык ні змынтачыцца.* **Змантачаный** *дзеепрым. Позна ты хвацілыся грошы*

*спрашывыць, яны ўжо даўно змынтáчыны. Такоя быгаства змынтачына! — азылацiцца нада было.*

**Зматалыжыць, зматалыжнiчаць, зматалыжыцца, зматалыжнiчацца** *зак. неадабр.* Скруцiцца, зрабiцца нягоднiкам, падманшчыкам, несумленным чалавекам. *Нi дыжыдай, пакуля змыталы́жыць, бяры сiчас у рукi, ато посьлi зукукýiсься. Ня будзiць зь яго пуця, змыталы́жнiчыiць, як бацька, што ты хочыш, каб ат Андреiвый прiроды путноя што було. Нiхай бог даець жэнiцца, а толька пуцём ён нiзáштычка ня пойдзiць, змыталы́жыцца, жызьня у яго i ў вуме нi стаiць. Нi знаю я, айдзе ён змыталы́жнiчыўся, адзiн раз, посьлi вайны зразу, прiiжджáў, а большы тута нi пыказывыўся.*

**Зматузаць, зматузiць** *зак.* Адлупцаваць матузамi. *Дужа ён нупужáiцца, калi ты яго змутузáiш, зыхахочыць i пабягiць, а хочыш, iшчэ таўкнець i пыбягiць. Так ужо дыла свайму, так змутузiла, кляўся, што большы нi ў чый сад нi палезiць.*

**Зматычываць** *незак.* Ссякаць матыкай, узматычваць. *Я увiдзiла, што яны зматы́чывыюць усё пыдряд, крiкнула: што йта вы дзелыiця, работнiцы?* **Зматычывацца** *незак.* 1. Ссякацца матыкай. *Пырнiк укыряніўся, дайжа нi зматы́чывыiцца.* 2. Затупляцца (пра матыку). *С касы зьдзелылi матычку, злумалыся кыса,—во крепкыя сталь: столька iна ужо жывець, а нi зматы́чывыiцца.* **Зматычыць** *зак.* Ссячы матыкай, узматычыць. *Там нейкiя расткi былi, ён усё пыдряд зматычыў. Здароў, як возьмiцца, дык зá дзiнь етый кусок зматы́чыць.* **Зматычыцца** *зак.* 1. Ссекчыся матыкай. *Што нада, а што й нi нада, у яго ўсё зматы́чылыся. 2.* Затупiцца (пра матыку). *Войстрiнькыя была матычка i дужа лоўкыя, зматычылыся ўся, нада новыю зьдзелыць.* **Зматычаный** *дзеепрым.* Ссечаны матыкай. *Нiкуратна дзелыў, ты ж вiдзiш, зматы́чыныя расткi пывялi, пысьсiкáў кылы кыранькоў.*

**Зменка** *ж.* Змена, перамена. *Калi ж мыя зьменка прiдзiць, нешта яго нiма й нiма. Посьлi зьменкi позна будзiць у грiбы йцiць. На зьменку скарей зьдзелыiця, аднаму дужа утамiцiльна.*

**Змятлёвываць** *незак.* Сшываць рэдкай строчкай уручную. *Толька я пычыла зьмятлёвывыць — бягiць Рiпiнiна ўнучка: хадзiця к нам, баба завець. Ты, знаць, сяньня цэлый дзень ету спыднiчэнку зьмятлёвывыла, iзыкамi з Домныю малолi.* **Змятлёвывацца** *незак.* Сшывацца рэд-

кай строчкай уручную. *Як яно ў цябе зьмятлёвыіцца?* **Зметляваць** *зак.* Сщыць рэдкай строчкай уручную. *Сьпірва нада зьмітлювáць, памеріць, пыглядзець хырашэнька, а тады ўжо шыць. Зьмітлювала, як нystyяшчыя партніха, табе толька у мысьцярскую іціць.* **Зметлявацца** *зак.* Сшыцца рэдкай строчкай уручную. *Зьмятлю́іцца калі й няроўна, ніважна, шыць нада роўна, каб вуглами ні тарчэла ува ўсе бакі.* **Заметляваный, змятлёваный** *дзеепрым. Кохта даўно зьмітлювáна, узяцца пашыць усё мінуты ня выбіру, то тоя, то другоя у рукі плувець. Зьмітлюваныя яно нічога ляжыць, каб так і гатовыя було. Спадніцу толька пакроіла, ішчэ ляжыць ні зьмятлёвына. Каб зьмятлёвыныя была, памеріў ба і ніхай ба шыла, а так бяз новыя рубашкі астанецца.*

**Score** 

**Зможца** *зак.* Змагчыся, стаміцца. *Ах, як я змогся над етым пнём, кажыцца, ня дужа крепка сядзіць, а ўніз стры́жынь пашоў, ніяк ні дыстаніш сікануць. Ідзі заві есьць, яны тама змагліся, еткыю я́мішчу вы́бухылі.*

**Змуста** 1 *м.* і *ж.* Той, хто паддражнівае, зводзіць. *Ці ты Высілёвыга зму́сты ні знаіш, нарошня пыддражніць дзіцёнка, а тэй у рёў тады. Зыхар, змуста, прідзіць, ныбішчаіць: скора у сваты пріду, свадзьбу справім, хырашо жыць будзім, ішчэ мяса кусок прінясець, у маткі ўкрадзіць, яны і верілі, а тады стала тоўста, хвытала усякыю дурату і на тэй сьвет пышла. Во яшчэ змуста, ці іна замуж пойдзіць зы Сімінка,— паддýріць, а ён тады за ёю аж прягніць.* 2 *ж.* Тое, чым паддражніваюць, прынада. *Змусту нейкыю у кырман узяў, дражніцца зь дзіцямі.*

**Змушчаннік** *м.* Той, хто паддражнівае, зводзіць. *Як табе ня стыдна, змушчáньнік, дзіцёнка дражніць.* **Змушчанніца** *ж.* *Пышла тая змушчаньніца, ня будзіць цябе пыдмáнівыць.*

**Змыкаць, змычыць** *зак.* Счасаць лён на грэбені і скруціць у мычкі. *Учора я нічога ні ныпрáла, мы́чык трошку змы́кыла, сон неік амаріў, мінутычку пысядзелі і спаць лігла. Цяперішнія дзеўкі і мычкі ня змыкыюць, і ні адна зь іх віріцінá у руках ні дзіржала. Мы ўдзвюх сáдзім і зы час етый лён змычым. Змыч-ка трошку большы, каб ны раньня хваціла, я трошку раншы ўстану і якую мычку спрядý.* **Змыкацца, змычыцца** *зак.* Счасацца на грэбені і скруціцца ў мычкі (пра лён). *Кырацейшый лён ляхчэй змы́кыіцца, ну зато ён слабейшый, нітка слабейшыя. Каб ты ні лянілыся, етый ба лянок ні выляўся, даўно б*

*змычыўся, а так ляжыць, клы́чыцца тольки.* **Змыканый, змычаный** *дзеепрым. Што змы́кыныя, укінь у лубку, у мяне усігда мычкі у лубкі ліжаць, а астатнія заўтря дамы́кыіцца. Я думыла, тута ўсё гатова, тольки прядзі, а тута ні аднае мычкі ня змычына, ні знаю, што яны дзелылі столька ўремя.*

**Знадзеіць** *зак.* Падвесці, не зрабіць таго, што было ўмоўлена, збіць з панталыку. *Пыбішча́лі ж, абізацільна утрёх пацскочуць, памогуць, я і ждала, есьць пычыла гатовіць, а тута бальшоя раньня — німа, абеды — німа, так знадзеілі.* **Знадзееный** *дзеепрым. Большы некуды, як яны мяне пыдвялі зь естыю каровыю, астаўся я знадзеіный, калі ня ду́мна прыдывыць, нашто було тріпацца, я б другую айдзе шукаў.*

**Знайда** *м.* і *ж. жарт.* Пранікл івая асоба. *Ну й зна́йда ж ты, куды ні схувай канхветы, усюдых выпыріць і пыбярець. Якей жа ты знайда ў мяне зыдаўся, другога такога шукай — ня сы́йшчыш.*

**Знайціцца** *зак.* 1. Знайсціся. *Должын жа знайціцца ножык, ні згарэў жа ён.* 2 *перан. гумар.* Нарадзіцца. *Пыжывуць, пыжывуць, і дзіцёнык зна́йдзіцца. У іх нешта гадоў цірісь пяць дзевычка зныйшлася. Сьпірва етый Коля знайшоўся, а тады адзін за дным пасы́пыліся і Пецька, і, знаць, Мішка, і дзяўчонык штукі чатырі було.*

**Знанка** *ж.* Адваротны бок тканіны. *Тыкая мацерія, што зна́нка крысівей, чым ліцо. Што ты неік ні рызьбяресься, во ж ліцо, а во знанка. Памянш.* **знаначка.** *Ты пыглядзі-ка, ікая прігожынькыя зна́нычка у чыртакожу, хуць шый яе наверьх.*

**Знахадка** *ж.* Знаходка. *Ні хувай, ні хувай сваю зна́хыдку, ета Колі Аўдоткіныга ножычык.*

**Знесць** *зак. перан.* Сцерпець, не даць здачы. *Будзіш храбріцца, храбріцца, а ён сыданець і зьнясеш. Палезіць — яшчэ палучыць і зьнясець.*

**Знібіла** *м.* і *ж. неадабр.* Ныцік, плакса. *Займі чым-небудзь свайго зьнібілу, усё зьнібіць і зьнібіць, аж нудна слухыць. Чаго йна такою зьнібілыю зьдзелылыся, верна, што зьбянтэжылі, з рук ні спускаіця. Памянш.* **знібачка.** *Помню трошку, быў у яе мульчуган, такей зьнібычка. Куды ж адну зьнібычку пашлеш, іщчэ заблудзіцца.*

**Знімальнік, знімальшчык** *м.* Той, хто знімае што-н. *Выйдзі, глянь таго зьніма́льніка, апшасьнецца с су́ка, гря́кніцца аб землю, будзіць ліжаць і пішчэць. Вы, зьні-*

*мáльшчыкі, сучча ні публумáйця, ато ныззьнімáіця з вашыю акуратнысьцю. Етыя зьнімальшчыкі ўпусьцюць банку і рызаб'юць.* **Знімальніца, знімальшчыца** *ж. Ты яшчэ зьнімáльніца бяресься, пыкладзі зьёмку, сам прідзіць і пызьнімаіць. Во цяперя любуйся, куды ў тваё зьнімальшчыцы рукі служылі, цёрла кáхнулыся і ну кускі.*

**Зніманнік** I *м.* Той, хто знімае што-н. *Упýсьцюць тваё зьніманьнікі пыцягу, і сыма злумаіцца, і ім ногі пыдбіваіць.* **Зніманніца** I *ж. Ну цябе, зьнімáньніца, пусьці-ка ты, я сыма дыстану, ато ты сабе ны гылаву мылако вы́льліш, ці саўсім гырлачык упýсьціш.*

**Зніманнік** II *м.* Фатограф. *Відзім, нырідж́аюцца, зьніманьнік іхный пріехыў, хвытыграхвірывыць будзіць.* **Зніманніца** II *ж. Глянь-ка, ужо Лаўрінывa дычка зьніманьніца, с хвытыпырáтым ходзіць.*

**Знястажанне, знястажэнне** *н.* Знішчэнне. *Акыпіровывыцца яны тута ня хочуць, пусьцілі хызяйства ны зьністыжáньня, хáччыну прыдадуць і паедуць. Якоя страшныя зьністажэньня ішло па сьвету, сколька народухну пылягло зы вайну, дзяреўні пупусьцелі, мушчын ні стала, работыць некыму було.*

**Знястажаць** *незак.* Знішчаць. *Дужа быў харошый лясок засеў пы Шмату, а глядзець пірісталі, зьністыжáюць нупувáл, сякуць, як пупала, сучча кідаюць. Я зьністыжáў ба такіх гадыў, каб яны дайжа пы зямле ні хадзілі, уредзіны.* **Знястажацца** *незак.* Знішчацца. *Пашло ўсё зьністыжацца.* **Знястожыць** *зак.* Знішчыць. *Такея лясы кругом зьністожылі, я дайжа рыскызаць ні магу якея, сысна у сасну стыялі, удваіх було ні апхваціць. Столька людзей хвашысты зьністожылі, пішуць, што цэлыя меснысьці пустэя астáліся.* **Знястожыцца** *зак.* Знішчыцца. *Неік нізаметна і Кіреіва хызяйства зьністожылыся, як і ні було тут нікога зь іх.* **Знястожаный** *дзеепрым. Такея былі вербы — німа, зьністожыны, мы дзіцямі па іх лазілі, пу пуўдня праседжывылі. Нічога зьністожыныга ня верніш.*

**Знічыванне** *н.* Скручванне нітак у некалькі столак. *Ты дзелыіш абы-як, крутнула, крутнула і гатова,— во зьнічывыньня, пыглядзі, як зьдзелына.*

**Знічываць** *незак.* Скручваць у некалькі столак (пра ніткі). *Зьнічывыць хітрысьць нібыльшая, ну тожа нада прілумацца трошку, дайжа віріцяно пукруціць нада ўмець.* **Знічывацца** *незак.* Скручвацца ў некалькі столак

(пра ніткі). *Неік у цябе някрепка зьнічывыцца.* **Зніціць** *зак.* Скруціць у некалькі столак (пра ніткі). *Як зьніціш нітык, яны ні звыляюцца, і пачшыць што кряпчэй хырашо, і кілбас як начы́ніш, дык пірівяжыш падвесіць, нічыныя пад рукі нада буваюць.* **Зніціцца** *зак.* Скруціцца ў некалькі столак (пра ніткі). *Ат прядзеньня тожа завісіць, адны ніткі хырашо зьніцюцца, а другея ня дужа. У мяне ні гаріць, калі зьніціцца, тады й ладна.* **Знічаный** *дзеепрым. Етый шнурочык ня дужа крепка зьнічын. Тут нада каб крепка зьнічыный шнурочык, ато можыць ня вы́дзіржыць, парьвецца.*

**Зной** *м. перан.* Выпадак. *Таго ні знаіць, што ў маткі работа стаіць, хырашо, на етый зной Іван пріехыў.*

**Знуджываць** *незак.* 1. Рабіцца дрэнна. *Глядзі-ка ты за ім луччы, яго і ўчора зну́джывыла два разы, а сяньня во ўзноў.* 2. Даводзіць да суму. *Зну́джывыіш ты, дзеўка, харошыга хлыпца́, ну доўга ён тваіх капры́зыў ні пацэрьпіць.* **Знуджывацца** *незак.* Сумаваць. *Кінь ты па ім зну́джывыцца, ці табе хлопца ні найдзіцца, ішчэ луччы етыга кырапузьліка будзіць. Вольга ні тая, што будзіць знуджывыцца.* **Знуджаный** *дзеепрым.* Худы, хілы. *Каб луччы глядзела, яны б такея зну́джыныя ні былі. Нюшкін тожа зну́джыный мульчуган, відна, яму нешта нідылігáіць.*

**Знялюдзіцца** *зак.* Зрабіцца нелюдзімым. *Калі ты зьнялю́дзіўся, дык, па-твойму, і ўсе такея сталі,— не, другіх пы сабе ня мерій.* **Знялюджаный** *дзеепрым. Ён усю жызьню такей зьнялю́джыный, як індык, дутый ходзіць. Каму зьнялюджыный, а ёй ладзін — і ладна.*

**Зработаць** *зак.* 1. Зрабіць. *Яму із-зы Сыжа харошыя плотнікі хату зработылі, як лялька, стаіць.* 2. Справіцца ў працы, не адстаць. *Варочыіць як вол, зь ім ніхто ні зработыіць. Іван зь Мікілаім ні зработыюць, нізáштычка ні зработыюць, адзін успы́льчывытый і другей як сьпічка. С табою зработыць хуць каму дужа трудна.*

**Зраджаный** *дзеепрым.* Падведзены, падмануты, ашуканы. *Цьвёрда дыгывaріліся: бярём пацьцёлка, дзьве сотні зыдáтку далі,— паехыў мой учора — вазьмі тря́сцы, прыдалі ў сваёй дзяреўні, вярнуўся зрáджыный; зыдатык аддáлі, ну што ж зыдатык, мы дужа хацелі ат іх пароды карову. Тута Мікіпыр ува ўсём вінуват, пыбішчаў, ні падумыўшы, мы пынадзеіліся і акызаліся зрáджынымі.*

**Зраджацца, зраджывацца** *незак.* Выраджацца, спустошвацца. *Сеіш, сеіш, зімля зрыджа́іцца, гной нада класьць, а тута змагі німа яго варочыць. Як адно пы адном сеіш ці бульбу содзіш, зімля зра́джыіцца, усігда міняць нада, сёліта адно сеіць, на лета другоя.* **Зрадзіцца** *зак.* Вырадзіцца, спустошыцца. *Зімля як зродзіцца, тады трудна яе спыгна́івыць, нада кажын год гной класьць.* **Зроджаный** *дзеепрым. У мяне ны ўсядзьбі зроджыныя зімля, посьлі стыріка і гною ні лажылі, сеілі бульбу па бульбі, ета плоха.*

**Зрадка** *прысл.* Зрэдку. *Часта бувиць у яе ўремя німа, ну зрідка́ зыбіга́іць. Не, нашы многа ні бяруць, так, зрідка бутылычку возьмуць, вып'юць.*

**Зратазейнічаць** *зак.* Праваронiць. *Ты зрытазейнічыў сам у етым дзелі, каб ны каго другога, ён ба ні ўпусьціў свайго. Есьлі рысьціряіцца, зрытазейнічыіць, нічога ні палучыцца, а кылі абдумыіцца хырашэнька, як скызаць, то яго выйгрыіць.*

**Зрашчый** *дзеепрым.* Такі, які бачыць, не сляпы. *Толька шчот, што зря́шчыя, сьлед піріц сабою чуць відзіць. Як зряшчый, ён джоґій хлопіц быў, ета яго вочы пыткасілі цяперя.*

**Зруга** *ж.*, **зруганне, зруганіе, зругыванне, зругацельства** *н.* Здзек. *Адарка многа відзіла зру́гі зы сваю жызьню. Я б такея зругі ні цярьпела, думыіш жыць, я б скызала — жыві і атнасіся пы-чылавечыскі, а ня думыіш — ты сабе, я сабе, рызыбраліся і жывіця. Хваціла ёй зруга́ньня, сьвёкыр быў дужа нісызна́цільный, мужык яго слухыў, а посьлі зь дзіцямі толку ні було. За ўсё зруга́нія атвеціш, пыдажджы трошку, папомніш маё слова, што атвеціш. Бургомісьцір ны Аўдзяёнка як узьеўся, карову зыбраў, дзяўчонку сыгнаў, куды пыслаць — усюдых яго, усюдых яго, хваціў зру́гывыньня. Не, ён думыў, што зру́гывыньня так яму пройдзіць. Старыста быў, як зьверь, столька ўжо зруга́цільства ацьцярьпелі, большы некуды.*

**Зругацель, зругываннік** *м.* Той, хто здзекуецца. *Ні було на сьвеці такога зруга́ціля, якей зьверь Іван быў. Віктыр дужа быў зру́гывыньнік, адна жонка памёрла с халеры, другую біў дужа, на тэй сьвет зыгнаў, і ніхто яго ўняць ня мог: быгач на ўсю дзяреўню, а тады як було? — раз быгач, табе ўсё можна.* **Зругываніца** *ж. Што ты, зру́гывыньніца, дзелыіш, ета ж твыя матка родныя, іна*

*цябе выкырміла, выгыдывыла, у людзі вывіла, а ты паможч ня хочыш.*

**Зругацца, зругывацца** *незак.* Здзекавацца. *Пыліцэйскія тады яе златілі у Гірманію атпруўляць, зругáліся над ёю. Ён будзіць зругацца, а я цярьпець? — не, я палкыю путурю зяця такога. Толька ні пірістань ты зрýгывыцца, я цябе прыздраўлю.*

**Зрудзець, зрудзянець** *зак.* Зрабіцца рудым ад гразі. *Мы так зы работыю зрудзелі, во дыкыпáім заўтря быразёнкі ды нада абізацільна баню тапіць. Ты ўжо зрудзеў большы некуды, на той шыі грязь пряма кымкамі, хут трохy памыйся ды пірядзень рубашку. Ай-я-яй, як зрудзянеў плáшчык, ён жа цяперь нікуды ня годзін, толька, можа, капёшку накрыіш.* **Зрудзелый, зрудзеўшый, зрудзянелый, зрудзянеўшый** *дзеепрым. Цэлыю нядзелю былі ў лясу, секлі, вярнуліся грязныя, зрудзелыя, цэлый дзень атмуваліся. Чаго вы такея зрудзеўшыя, у вас жа баня у руках, у любэй мамент прукурілі і памыліся. Якей зрудзеўшый пінжачок, яго ніяк ні дамыісься. Нада баню вытыпіць ды мáлых атмыць, яны пряма зрудзянелыя, кажный дзень у грязі кыпаюцца, а ўжо нядзелі дзьве нямытыя. І адна верхніца зрудзянеўшыя, і другая, і ўсё некылі шчолыку прупусьціць.*

**Зрудзяніць** *зак.* 1. Зрабіць рудым ад гразі. *Зрудзя́ніў рубашку, ужо ні пызнаіш, якога іна цьвету, ні прідумыіш, як яе мыць прістyпіцца.* 2. Зрабіцца рудым ад гразі. *Зрудзя́ніў ты ўвесь чыста, як пырасёнык стаў.* **Зрудзяненый** *дзеепрым. Іна ні грязныя, а ўжо зрудзя́ніныя твыя сарочка, ці яе там табе ацьцерць ні маглі.*

**Зрушываць, зрушаць** *незак. перан.* Надрываць (унутраныя органы). *Ён сябе ні бірягець, ірьвецца, зрýшывыіць сьпіну, а посьлі будзіць стыгнаць, хадзіць крюкым. Усяк зрушáюць сяредзіну, то паднімуць дужа цяжолыя, а то, буваіць, і паверніцца ніправільна.* **Зрушывацца, зрушацца** *незак.* Надрывацца (пра ўнутраныя органы). *У Хрітона неік сьпіна зрýшывылыся, ці ён прістыўляўся, ці праўду гыварíў, бувала, ляжы́ць, квокчыць: узноў сьпіна зрушылыся. Часьцей усяго сьпіна ат пыдыманьня зрушáіцца, цірясь сілу брацъ нілізя.* **Зрушыць** *зак.* Надарваць (унутраныя органы). *Камні пыднімаў і зрушыў сьпіну, цяперя нічога ня можыць дзелыць. Дзяўчонкі усігда нада бярежца, зрушыць жывот, тады якей зь яе жыціль.* **Зрушыцца** *зак.* Надарвацца (пра ўнутраныя

органы). *У жываце ўнізу усё баліць і баліць, дыктары прізнаюць, што зылатнік зрушыўся.* **Зрушаны** *дзеепрым. Ежылі жывот зрўшын, то якей зь яго работнік. Машка даўно жаліцца, у яе матка зрушына, то адно ўремя нічога, то як пытхваціцца боль, кычаіцца іна, кычаіцца, ды кычацца большы некуды.*

**Зубаскаленне** *н. неадабр.* Зубаскальства. *Уніміціся з зубыскáліньнім, у мяне ныга ныryваіць, дыхыць нечым, а іх нешта іржэць, ня ўнімуцца.*

**Зубаскалка** *ж. неадабр.* Жанчына, якая пастаянна смяецца, рагоча. *Ну што табе, зубыскáлка, усё сьмешна, Сьпірідоніхі саўсім ні да сьмеху. А што ім, зубыскалкым, кылі ні пырігытаць.*

**Зубец** *м.* Адна долька часнаку. *Нескылька зубцоў айдзе-то вылялыся, пыдажджы, кылі найду, і табе трошку дам. Памянш.* **зубчык.** *Ач чысначы́ны атлумай пару зўбчыкыў, апчысьць ды ўкінь у бульбу, я люблю етый запых. Во тут нідаўна ліжаў зубчык чыснаку, ці ты ні прібрала яго куды-небудзь?*

**Зубіна** *ж.* Зуб (са знач. адзінкавасці). *У шысьцярне зубіна вы́лымылыся, а ні пагледзілі, коні пыдыгналі, зуб'я і пашло крышыцца, адзін за дным.*

**Зубішчы** *мн.* Хвароба дзяцей, як праразаюцца зубы. *У цябе ў мáлыга былі зубішчы, ты цяжола балеў. У мáленькіх дзяцей буваюць зубішчы.*

**Зыбаннік** *м.* Той, хто зыбае, варушыць. *Пымагі таму зы́быньніку, пацісьні хырашэнька ўніз, адзін ён чуць зы́быіць. Тэя зы́быньнікі удваіх як нылягуць, зразу пень пыляціць уверьх кареньнім.* **Зыбанніца** *ж. Ты хырашэнька нажмі канец уніз і апусьці, нажмі і апусьці, будзіць відна, айдзе кареньня дзяржыць, а так ікая сь цябе зы́быньніца сядзець ны палкі.*

**Зыбка** *прысл.* 1. Дрыгвяніста. *Ідзём, ідзём, чуім: зы́бка пыд ныгамі, во, думыім, як шухнім уніз, у балота — ці вы́лізім.* 2. Слаба, ненадзейна. *Зы́бка етыя палкі ліжаць, на іх апасна стынавіцца.*

**Зынуць** *незак. экспр.* Рухацца масаю ўпарта, спешна. *Мы стаім, глядзім, куды ета народ зы́ніць кучыю. Столька людзей зынула ўчора ны бызар, айдзе яны толька мясьціліся. Усякыя гадысьць зыніць ны яблынкі, і лісьця, і цьвяты пыд'ідаюць.*

**Зюзя** 1 *ж. дзіц.* Халадэча, холад. *Ныдзівай шубычку і вáлінычкі ныдзівай, сяньня зюзя ны дваре. Нада вязё-*

*нычкі брацъ, зюзя зы пальчык укусіць.* 2 *м.* і *ж. іран.* П'яная асоба. *Во зю́зя стаіць, зы пляцень дзяржыцца. Ныбраліся, як зюзі, сяделі ны калёсых, чуць ізыкамі варочылі.*

**Зявала** *груб.* 1 *м.* і *ж.* Крыкун. *Во зіва́ла рыспасьцёрся, зы пяць вёрст чутна, як крічыць. Тваю зіва́лу ніхто ня ўніміць, ні ра́зычку спакою ні знаіць, усё ірьвецца яе шлуньня.* 2 *н.* Рот, зяпа. *Зычыні зіва́ла, крікун такей найшоўся. Ого, як рыспастрэць зівала, скрічы́ся зь ім ныспрабу́й.*

**Зялеза** *н.* Жалеза, вырабы з прымессю жалеза. *Не-а, ета ні сталь, ета зялеза, мяккыя, сталь ба так ні пыдыва́лыся. Усякыга зялеза нываліна кучыю, ні знаю, нашто яго столька нывылачы́лі.*

**Зялезіна** *ж.* Кавалак металу. *Нескылька зялезін вылялыся пыц саломыю зьлева адзь дзьвярей, як увойдзіш, пылядзі, можа, выбіріш што-небудзь. Такую зялезіну і ўтраіх ні падыміш. Памянш.* **зялезінка.** *Во тут худзь ба ікая нібыльшая зялезінка — прібіць. Павеліч.* **зялезішча.** *Зялезішча ў іх пад вербымі ляжыць, ня то што пыднязь, а конь ні пывязець, ніхай ба у тэй лом зыбралі.*

**Зялезка** *ж.* Невялікі кавалак металу, няпэўны металічны выраб. *Я прігатовіў зялезку, хацеў прітылку зь бярном зьбіць, дык німа, зыцягнулі некуды ма́лыя. Каб якою-небудзь зялезкыю прібіў, кряпчэй ба було. Памянш.* **зялезачка.** *Сюда й нада ірунды, зялезычка ны ладонь, а як пуд рукою німа, вазьмі айдзе хочыш.*

**Зялезы** *мн.* 1. Пастка для лоўлі кратоў. *Што зь естымі крытамі стала, увесь гарод пірярылі, толька пайду у горыд, куплю зялезы і пыстаўлю.* 2. Жалезныя путы з замком для коней. *Былі такея ачча́йню́гі, што зялезы рызріза́лі і кралі коні. Айдзе-то і ў нас выляліся ста́рыя зялезы, ці ні замкну́тыя, ключ пыціря́ўся, а зялезы выляліся, яны ўжо даўно нікому ні нада.*

**Зямля** *ж.* Зямля, грунт. *Бульбу у яму сыпылі, ныты́пталі, усюдых зімля, нада падмесьць акуратніька, каб ні ныпылі́ць, а заўтря памыіцца. Памянш.* **зямліца, зямлічка, зямелька, зямелічка.** *Зямліца труд любіць, як рукі прілОжыш, пыпацеіш, тады і іна табе дабром атплоціць. А нынасілі зямліцы ў хату, зы ныгамі носіцца. Як спагноіш зямлі́чку, уработыіш, тады іна уродзіць. Раншы усё думылі, як ны зямлічку узьбіцца, ат рота атрывалі, нідыідалі, зьбіралі капейку ды капейкі, а цяперя куп-*

*ляць ні нада, ідзі работый, дый то машын хвытаіць. Зямелька прігляд любіць, як запу́сьціш, ні дагледзіш, хлеба ні спрашывый. Ніхай цябе зямелічка, гадысьці такой, ня носіць. Узнёсл.* **зямелюхна.** *Ны зямелюхну нада сіла, іна труд ды труд любіць. Столька зямелюхны кругом, усю апсіміня́ють. Павеліч.* **зямлішча.** *Як ну хутары ішлі, зямлішчы ныгрібалі, каб большы, каб большы, а каб хто падумыў, нашто іна была. Я пряма ні знаю, куды адэь зямлішчы дзівацца, носіцца і носіцца зы ныгамі.*

**Зямляніць** *незак.* Забруджваць зямлёй. *Ні зімля́ньціка вы чыстыга мосту, разуцца ў сенцых можна. Як ходзюць, зы ныгамі зімля наносіцца, зімлянюць у хаці, мыць ні справісься ўсьлед.* **Зямляніцца** *незак.* Забруджвацца зямлёй. *Як многа ходзюць, топчуцца, тады мост дужа зімля́ніцца. Дзеці ба́лыюцца, кычаюцца пы траве, а не — дык і пы па́хыці кычаюцца, адзежа зімляніцца, абмувыць іх ні пысьпіва́іш.*

**Зяпіцца** *незак. груб.* Крычаць. *Ляксеіва зя́пілыся большы ўсіх, уродзі аднаго трудыдня́ ні дыпісалі, у суботу жала — і німа, толька ці ні была іна у суботу у грібах. А хваціць зяпіцца, песьні мы твае чулі і пірячулі.*

**Зярэнца** *н.* Зернетка. *Хведзька акураціст быў, ён калі веіць, усігда мішкамі, пылаткыю засьцеліць, каб ні адно зяренца ні прыпала. Нескылька зяренцыў кынапель пупала ны гряды, і ў моркві каноплі растуць.*

**З'ясніць** *зак.* Растлумачыць. *Марья зьясьніла брігадзіру, што большы ны работу ня пойдзіць, нешта ні так ёй зыпісаў. Ну як жа, січас зьясьніць, што Антон луччы ўсіх рызьбіраіцца ува ўсякім дзелі.* **З'ясняцца** *незак.* Тлумачыць. *Няўжэлі я дылжна яму зысьняцца, куды мне нада пайціць. Зысьняйся піряд ім, такей-то хвон-барон найшоўся мне.* **З'яснёный** *дзеепрым. Табе ж було зьясьнёна, каб ты сядзеў тут і ня ріпыўся, тамыцька табе нечыга дзелыць.*

# І

**Іграць** *незак. перан.* Хацець, імкнуцца, выражаць нецярпенне. *Віджу, што ўжо іграіць у горыд бежч, там зь нейкыю устреціцца. Доўга яны ігралі ў етый лес.*

**Ігрушына** *ж.* Груша (дрэва і плод). *Крайнія ігру́шына ад дарогі падмёрзла, доўга ні хацела руспускацца, і*

*січас лісьцікі нейкія пыкарёжыныя. Ты папробывыў ба Зьмітракову ігрушыну, пряма заесца. Памяниш.* **ігрушынка.** *Каб пысадзіў лі дарогі ігрýшыньк, ніхай ба расьлі.*

**Іззаду, іззадзі** *прысл.* Ззаду. *Ён нідалёка ат Пітрачонкыў іззáду пашоў, ета вы ні пагледзілі. Глянь, хто ў цябе іззáдзі бягіць. Віджу, пытпыўзаюць іззадзі, ды цап яго за плечы, ён як пацскочыць!*

**Ізменшчык** *м.* Здраднік. *У нашый дзяреўні ізьменшчыкыў ні було, ніхто ўрагý ні служыў. Ты Каці ізьмяніў і Ганну сколька ўремя пыдмáнівыў, ні хачу я сы йзьменшчыкым і рызгыварівыць.* **Ізменшчыца** *ж. Дзеўкі бувають ізьменшчыцы чы́шчы хлопцыў, сяньня с адным гуляіць, а заўтря з другім пышла.*

**Ізменшчыцкій** *прым.* Здрадніцкі. *Ізьменшчыцкыя натура, за ета ніхто і ня любіць. Уся сім'я была ізьменшчыцкыя, і цяперя вуўкамі глідзяць.*

**Ікорнік** *м.* Рыба з ікрой. *Пашлі ў тоя вызярцо, злавілі рыбу — ікорнікыў, ім скызалі пусьціця, і яны пусьцілі етых рыбык.*

**Ікотка** *ж.* Ікаўка. *А хто яе знаіць, ач чаго іна буваіць, ета ікотка. Яго як узіла ікотка, аж дзівацца нейдзі.*

**Імшэнне** *н.* Пракладванне мхом. *С такім імшэньнім дык ну цябе, тута вецір будзіць у дзірькых сьвістаць, калі ўзяўся, дык імшы як нада.*

**Індычанне** *н. іран.* 1. Фанабэрыстасць. *Дужа ны ваша інды́чыньня хырашо глядзець, ныд вамі сьмяюцца, як нуд глумукáмі якімі, а вы й рады.* 2. Балбатня. *А пойдзім, ці ты ішчэ ні наслухылыся етыга індычыньня, у іх кынца ня будзіць.* 3. Мітусня. *У цябе індычыньня, усё роўна як ты ніізьвесна сколька грошы пыціряў.*

**Ірваком** *прысл.* Рвучы, вырываючы. *Мы глядзім і відзім: ён ірваком ірьвець етыя цьвяты. Ён ужо сам пыняў, што ірваком тута нічога ня зьдзелыіш, рыскáпывыць нада.*

**Ірваннё** *н.* Лахманы, рвань. *Пысыбрáла, пысыбрала ірваньнё — ды тряпышніку, ажно ў хаці пычысьцела. Там ішчэ пылядзі, на клеці ірвыньня́ усякыга поўна.*

**Ірдзель, ірдзень** *м.* і *ж.* Чырванашчокі, здаровы чалавек. *Сы рдзялём сы сваім пыхáжывыла пы бызару пад ручку. Пріїжджáла тыкая ірдзель, шчокі ажно гыряць, рузгудувалыся у вы́гадзі. Еткія ірдзяні разьдзелыліся, што куды там каму зь імі руўняцца. Каб папетыўся, як другія, такім ба ірдзянём ні хадзіў.*

**Ірдлівый** *прым.* Злосны. *Ня дужа Пашка спужаіцца, кылі ён ірдлівый, іна дасьць атпор, што яго й злосьць мінецца.*

**Ірзун** *м.* Гарэза, свавольнік. *Такей ірзу́н, што ён табе мінуты ні пысядзіць, цігай яго, вылачы яго, ён тады дужа рад.* *Памянш.* **ірзунок, ірзунчык.** *Што, ірзунок ма́ленькій, дужа ты хочыш пыбалывыцца? Яны ў цябе такея ірзу́нчыкі, што куды там — і бегыюць, і пы́рьхыюць, і езьдзюць адзін на дном, і чаго толька зь іх ня дзеіцца.* **Ірзуння, ірзуля, ірзуха** *ж. Я сваю ірзу́ньню патроху ўнімаю, і ты ны сваіх крікні, ніхай меншы хыдаром ходзюць. Ну й ірзу́ля ж дзяўчонка, ні мінуткі ні пысядзіць, нічым ні зыба́віцца, усё бегыіць, лазіць усюдых. Твыя ірзу́ха прібегла, зы маіх і некуды вы́прывіліся, ці ні ягыды пароць.* *Памянш.* **ірзунька, ірзулька, ірзулічка.** *Хадзі-ка ты, ірзу́нька, сюда, паслухый, што я рыскажу табе. Мыя ірзу́лька, мыя харошыя, ні пускаюць цябе пабегыць, а ты так пугуляць хочыш, січас я табе аччыню. Ах, ікая ты ў мяне ірзу́лічка, ну бягі, пугуляй.*

**Ірзы** *мн.* Балаванне, грубае свавольства. *Я ўмею вашы ірзы успыкаівыць, у мяне вы цірізь мінуту шоўкывымі зьдзелыіціся. Унімціся зь ірзымі з вашымі, ай вы яшчэ ремня зыхацелі?*

**Іўнік** *м.* Іўняк. *Іўніку у нас пы кынавых многа було. Іўнік толька на дровы пысякеш, большы ён нікуды ні гадзіцца.* *Памянш.* **іўнічак.** *Воўцы іўнічык аб'ядуць і каровы тожа, скот яго любіць.*

# К

**Кабыжэнне** *н.* Капрыз, вычваранне. *Мне ны яго кыбыжэньня некылі любувацца, стой, глядзі, кылі табе аньціресна. Ніхай уніміцца с кыбыжэньнім, ато яму дадуць места, што ні захочыць.*

**Кабылятнік** *м.* Вялікі воўк, воўк, які рэжа коней. *Ідзём мы сь Кіреіхыю, а воўк стаіць кулу кустоў, такей здаровый кыбыля́тнік, мы зыкрічалі: туга́, туга,— ён пывярнуў гылаву, глядзіць і ні ўцікаіць.*

**Кабылятніца** *ж. іран.* Мажная гультаяватая жанчына. *Ты сваіх кыбыля́тніц зыстаў работыць. Еткыя кыбылятніца вылежывыіцца дзень пры дні, ці йна ня можыць абматы́чыць лёну ўчастычык.*

**Каваннік** *м.* Той, хто куе, б'е молатам. *Пылажыці-ка вы, кува́ньнікі, жалезьзя ды йдзіця гуляць на вуліцу.* **Каванніца** *ж. Ты бяресься, кува́ньніца, луччы зу мушчыну, табе толька ў кузьні работыць.*

**Кавыляка** *м.* і *ж.* Кульгавая або нязграбная ў хадзе асоба. *Такей кывыля́ка, пакуля зь ім дыпляцесься да тых Суток! Кывыляка нейкыя ходзіць, каму іна нада за тэй замуж.*

**Каенчанне** *н.* Мучэнне, пакуты. *Якоя там каенчыньня, болька села, дык ужо ўвесь, ня можыць, дылікáцін дужа.*

**Казёнка** *ж.* Гарэлка з лаўкі. *Мы тады саўсім мáлыя былі, ну я помню хырашо: дзед возьміць бутылычку казёнкі, пызавець Стыхвана, сідзяць і п'юць удваіх.*

**Казляніць** *зак.* Прывесці казляня (пра казу). *У Полькіных козычку кызьляніла кыза, тыкая харошыя, будуць гудуваць.* **Казляніцца** *зак.* 1. Прывесці казляня (пра казу). *У самыя хылады кыза кызьлянілыся.* 2. Нарадзіцца (пра казляня). *Кызьлянілыся два кызьлянкі, худзь ба адна козычка.*

**Казюлька** *ж.* 1. Кузурка. *Як сонца прігрела, казю́лькі і палезьлі са ўсіх шчэлычык. Пу лугу ўжо столька казюлік, і стрякочуць, і цьвіркыюць, і так прыгыюць.* 2 *перан. жарт.* Козлы для распілоўкі дроў. *Рузлумалыся казюлька саўсім. Прібігаіць ґ Зыхару: ніхай твой Пятрок пыставіць казюлькі на места, ён узяў.*

**Какаты** *мн.* Кіпцюры, вялікія ногці. *С кошкыю балывыўся, іна кыкытáмі абыдрала рукі. Дыбегыісься адзін, што калі-небудзь вуўкам у кыкаты пупадзесься. Зугудувáла какаты́, як жа такімі пальцымі ды за бульбу брацца. Павеліч.* **какацішчы.** *Во кыкацішчы, ён цябе схваціць, ты й ня пісьніш.*

**Калаброд** *м.* Вычвараннік. *Вы ўжо Высіля ня помніця, а я помню, якей ён быў кылаброд. Ну й кылаброд, чаго ён толька ні вытвыря́іць!*

**Калантыранне** *н.* Мітусня. *Так ныдыідаіць кыланты́рıньня, урем ўбіваіцца, а толку німа ніякыга, каб бізь мітушэньня, глядзі, сколька б работы було пыдыгнана.*

**Калантырыцца** *незак.* Мітусіцца, таўчыся. *Ураньні як стануць кыланты́ріцца, у іх ні толку, ні ладу німа. Сколька вы тута ні кылантырьціся, а сена само ні сыгрябецца, зы граблі брацца нада.*

**Калашмаціцца** *незак.* Тузацца моцна. *Як дывай яны*

*кылашмáціцца, а што сьмеху було, што рёгыту! Крепка кылышмаціліся, пытрясьлі адзін аднаго.*

**Калашмачанне** *н.* Моцная тузаніна. *Я іх скора уніму с кылышмáчыньнім зь іхным. Проста балывыліся, якоя там було кылышмачыньня.*

**Калдыбай** *м.,* **калдыба, калдыбайла, калдыбала** *м.* і *ж.,* **калдыбка** *ж.* Кульгавая асоба. *Твой кылдыбáй крепка бярецца хызяйнічыць. Паччэпіць пад ручку свайго кылдыбáя і пашлі ны прагýлычку, кажный вечыр так ходзюць. Нейкыга зысыжанскыга калдыбу узіла сабе зяцім. У Мікілая была сістра калдыба, ёй гадоў дваццыць було, як памёрла. Ну як жа ён ходзіць, кылі ногі ні туды служуць, кылдыбáйла кылдыбайлыю. Ваша кылдыбайла некуды пыкалдыбыла за ўзгорычык. Жывець калдыбыла, каенчыцца, ныга ў яго саўсім ня дзействыіць. І Полька тыкая калдыбыла, як я, чуць ны нагу нуступаіць. Горя ў іх, бальшоя горя, первыя дзяўчонычка радзілыся нурмáльныя, а другая калдыбка, адна ножка многа кырацейшынькыя.*

**Калдыбанне** *н.* Кульганне. *Зь яе калдыбыньнім пакуля зыпляцецца туды, дзень пройдзіць. Ікая ж хыдзьба— кылдыбáньня, ны нагу ня можыць нуступіць, чуць аппіраіцца ны зямлю.*

**Калдыбы** *мн. іран.* Ногі. *Чым с тваімі калдыбымі выбірацца куды, луччы на печы сядзець. Рысставіць свае калдыбы і пачынаіць руссусолівыць: я б так зьдзелыў, я б етык скызаў.*

**Калелый** *прым.* Змёрзлы, перастылы. *Уваліўся калелый у хату, духу ня можыць пірявесьць, я яму скарей гырячыя капусты ныліла.*

**Каленне** *н.* Прастыванне на холадзе. *Посьлі такога каленьня, яй-богу, успаленія палучыцца, арганізма ні пірінясець еткыга холыду.*

**Калёска** *н.* Невялікае кола, колца. *Ладныя тачычка была, ды адно калёска треснула. Школу кончылі, цяперя яны вольныя, калёска якоя пупадýць і кычаюць цэлый дзень.*

**Калёссе** *н. зб.* Колы. *Калёсься там ляжыць многа, ну ріманьцірывыць нада, а так пыглядзі, можа, што-небудзь і пыдбяреш к мыжáркі.*

**Каліціна** *ж.* Каліна (дрэва і ягада, са знач. адзінкавасці і асобнасці). *Пысадзіў кылы прясла нескылька калінін, там нізка, далжны росьць. Узяў каліціну, і кіслыя,*

*і горькыя, ажно рот зводзіць. Памяншш.* **калінінка.** *Калінінка расьцець, кусьцік будзіць, як рызрасьцецца.*

**Калоннік** *м.* Той, хто коле. *Зымаріўся калоньнік, ладнью кучу нубузуваў, зы раньня.* **Калонніца** *ж. Ікая з бабы калоньніца, тута сілу ды сілу прікласьць, а йна цюкніць — во і ўсё калоньня.*

**Калтунаватый** *прым.* Хворы на каўтун. *Была тута адна култунуватыя, валосься лямцым було, ні рышчысаць. Не, у нашый месныcьці култунуватых ня чутна було.*

**Калупа** *м.* і *ж.* Павольная ў дзеянні асоба. *Ты ж вурушыся шустрей, нілізя быць такім калупыю. Марья тыкая ж калупа, там дзела на дзесіць мінут, дык іна пуўдня будзіць вазіцца.*

**Калупаннік** *м.* Той, хто калупае. *Я січас дам етыму кулупаньніку, усю бульбу пукулупаў, зыганю на печ, будзіць цэлый дзень сядзець.* **Калупанніца** *ж. Пу руках тваёй кулупаньніцы як пупадзець, тады іна найдзіць сабе зыняція.*

**Кальчэць** *незак.* Калець, мерзнуць. *Сколька вы там будзіця кальчэць, ідзіця ў хату! Мы лі скыта кальчэлі, кальчэлі, еткыя хыладзіна пытхвацілыся, худзь ба ж вы дыгыдаліся, пы якой тряпкі прінесьць.*

**Калядашнік** *м.* Калязнік. *Кылядышнікі хадзілі сы зьвяздою, зайдуць у хату і пяюць, ім дывалі сала, кілбасы, а хто жыта насыпіць, усе дывалі.* **Калядашніца** *ж. Бувала, як увалюцца кучыю у хату і кылядышнікі, і кылядышніцы, як ныпяюць, як ныгаворюць, ды так усё складна у іх пулучалыся!*

**Калядашный** *прым.* Калядны. *Пелі й песьні кылядышныя, красіва пелі, даўно було, я ўжо ні адну ня помню, забыліся. Кылядышныя марозы як возьмуцца жаріць, ух, пякуць.*

**Калядніčанне** *н.* Калядаванне. *Во і дывай-ка успомнім кылядніčыньня, пойдзім сы зьвяздою, ай стар ужо сь печы злазіць, а?*

**Калядніčаць** *незак.* Калядаваць. *Мы малыя і ўжо былі подрысьнімі, знаіш, як кылядніčылі, сы зьвяздою хадзілі, нызьбіраім і сала, і кілбас.*

**Калянець** *незак.* 1. Рабіцца цвёрдым, каляным. *Іна ня сохніць, а пряма кылянеіць ета гліна, тута ці ні падмешына трошку цэмінту.* 2. Мерзнуць, стыць. *Тыкая хыладзіна, рукі кылянеюць, а ў вязёнкых ікая работа.*

**Калячына** *ж.* Кол. *Нідаўна тут вылялыся ладныя кылячына, айдзе йна дзелыся. Як схваціць кылячыны пы плічах, і дуры пройдуць. Памянш.* **калячынка.** *Тама іщчэ далжно быць нескылька кылячынык, можна выбрыць і зыгнаць. Узмацн.* **калячыніна.** *Прiцягнуў трі дубовыя кылячыніны пы сажню, як ён толька дывалок. Павеліч.* **калячынішча.** *Ету кылячынішчу пыпіліць — печ можна вытыпіць.*

**Камлыжжа** *н.* Глыжэўе. *Камлыжжа пассохлыя, быраною ні рысскародзіцца, пырызьбівацць нада. Такея ўжо балыўнікі, сойдуцца і дывай мыхацца камлыжжым.*

**Камлюшка** *ж.* Невялікі камель. *Каб камлюшык нывазіў, кряпчэй ба былі штындары. Лісьнікі як гаворюць? — Уноччы пріедуць, звалюць, зыбяруць камлюшкі, а тады днём пріїжджаюць пыдбірацць макушкі.*

**Камляватый** *прым.* Камлісты, з тоўстым камлём. *Кумлюватый лес — ета ні стырадревіны, у камлі тоўстыя, а тады зразу танеюць, хряпычкі. У нас на хутырі кумлюватыя дубы расьлі лі аборкыў.*

**Камсаный** *дзеепрым.* Мяты. *Кымсаныга тріп'я троху выляіцца, нада було б качулкыю пыкычаць. Такоя кымсаныя я ўжо ныдзівацць ні стану.*

**Камянок** *м.* Уступ на печы. *Ны кымянок дужа нічога ні кладуць, вязёнкі можна уськінуць, сьпічкі тама ліжаць — у сухом. Памянш.* **камяночак.** *Мыла ны кымяночыку ляжыць.*

**Канаваліць** *незак.* Пакладаць. *У нас вясною нейкій зысыжанскій мушчына хадзіў, кынываліў. Дзелыць ты ўсё роўна нічога ня хочыш, ішоў ба ўжо кынываліць.*

**Канаванне** *н.* Прадвызначэнне будучыні. *Мы й біс кунуваньня скажым, што ў яго цірязь месіц свадзьба, а тама і хрісьціны ніўзадыўзі.*

**Канаваць** *незак.* Прадвызначаць будучае. *Што ж табе тоя кодла кунувала? Знаіш, каго табе Аксюта кунувала? Надзьку зырічанскыю.* **Канаваный** *дзеепрым. Посьлі Зьмітрыка яго ат кунуваныя хісьць атхіснула: Зьмітрок яе прываджывыў нескылька раз.*

**Каналуп** *м. перан.* Чалавек, які жорстка абыходзіцца з канём, наогул жорсткі чалавек. *Во яшчэ быў кыналуп, так мурдуваў коні, яны ў яго руках аж дрыжэлі. Такей самый будзіць кыналуп, як бацька. Узмацн.* **каналупіна.** *Век кыналупіна дыжываіць, а ніяк сваіх дуроў ня кіды-*

*іць. Павеліч.* **каналупішча.** *Кыналу́пішча ты проклітый, ты ж етыга кунюшка́ зумурдуваў, ён чуць ча́пыіць.*

**Канапатка** *ж.* Жанчына з вяснушкамі. *Бірягець сваю кыныпа́тку, каб ґ другім ня зьбегла. Ні хваліся дужа тою кыныпаткыю, знаім мы яе. Памянш.* **канапатачка.** *І дзяўчонкі такея самыя кыныпа́тычкі, як сыма.*

**Канарханне** *н.* Мукі, пакуты. *Ні люблю я кына́рхыньня, ета ўжо ня жызьня, а нівісь што. А ну цябе с тваім кынархыньнім, едзь у бальніцу, ніхай паложуць, там дыктары, а я што табе пымагу.*

**Канархаць** *незак.* Ледзь дыхаць, мучыцца. *Жыць — якей зь яго жыціль, а кына́рхыць трошку ішчэ будзіць.* **Канархацца** *незак.* Жыцца. *Як табе тута кына́рхыіцца, можа б, дывалокся як ды нас, свадзьба у скрысеньня будзіць.*

**Канарэз** *м.* Чалавек, які жорстка абыходзіцца з канём, наогул жорсткі чалавек. *А ніхай жа бог замілыіць і зыбароніць, якей ён кынарез. Узмацн.* **канарэзіна.** *Ізыком мяккій, ла́скывый, кажыцца, хуць ды раны пріклыда́й, а хракцірым кынарезіна. Павеліч.* **канарэзішча.** *Ах, якей жа ён кынарезішча быў!*

**Канарэзь** *ж.* Хлапчукі-свавольнікі. *Ета кынарезь што хочыш сытваріць можыць. У іхный дзяреўні кынарезі як насыпына, і сады аптрісаюць, і гароды выціраюць.*

**Каніцеленне** *н.* Важданіна. *Посьлі ўчырашніга кыніцеліньня мне туды і пыка́зывыцца ня хочыцца. Кылі к Мікілаю пупалыся ў рукі, узноў кыніцеліньня пычанецца.*

**Канькканне** *н. неадабр.* Дакучанне просьбамі. *Я яго січас атучу ат ка́нькыньня, ся́дзіць і зумуру́іцца. Ці ты біс канькыньня ні аднае мінуты пысядзець ня можыш?*

**Канюшнік** *м.* Канюшня. *Як толька гырнізува́ўся калхоз, мой ды самыя вайны ны каню́шніку работыў.*

**Канюшны** *прым.* Такі, які мае адносіны да канюшні. *Ны канюшні былі калёсы, сані, хумуты, каб падвезьць што нада, ві́лкі там усякія, граблі, ета і зваўся каню́шный інвінтарь.*

**Каняціна** *ж.* Каніна, конскае мяса. *Гаворюць, есьць такея меснысьці, айдзе ядуць адну кыня́ціну. У вайну і кыняціну елі, як ні було нічога луччыга.*

**Капаннік** *м.* Капальшчык. *Ныработыюць тваe кыпа́ньнікі дужа многа: сыбяруцца кучыю і будуць пуўдня куріць. Памянш.* **капаннічак.** *Ідзі-ка ты, кыпа́ньнічык,*

*піріхваці троху.* **Капанніца** *ж. У Гаўріліхі сяньня многа кыпáньніц сыбралыся. Зь мяне тыкая кыпаньніца: пяць кустоў вырыю і аддыхаю.*

**Капачка** *ж.* Кропелька. *Кáпыюць кáпычкі, ну на дождж ні пыказыіць. Вады ні кáпычкі німа, схадзі прінясі суды. Усё выпілі ды кáпычкі.*

**Капачка** *ж.* Прылада для капання. *Тут худзь ба ікаянебудзь кыпáчка, каб трошку ускывіряць. Памянш.* **капачачка.** *Ці ня відзіў ты маю кыпáчычку, тута ліжала нідаўна.*

**Капачык** *м.* Капач. *У мяне быў ладный кыпáчык, а во нейдзі закінуўся, ніяк ні найду. Кыпачыкым трошку пыпарі дый ладна будзіць.*

**Капельнік** *м.* Піпетка. *Нечым і нечым зыкáпыць у вочы, дык я ўжо свайго пыслала: купі ты зразу штукі трі кáпільнікі.*

**Капоша** *м.* і *ж.* Павольная асоба. *Ай, с такою капошыю сыбірацца хужы некуды, па-мойму, раз, раз пірядзеўся і пашоў. Ты ўжо капоша, як ікая старуха, во прісела і пыдбірай пыдряд скорінька.*

**Капрызіста, капрызуліста** *прысл.* Капрызна. *Капрізіста губы надуў. Ні знаю, нешта пыглідаіць кыпрізўліста.*

**Капрызістый, капрызулістый** *прым.* Капрызны. *Ні люблю я капрізістых: дмецца, гыдай, што яму ні так: ні так, дык скажы пряма. А ты ўжо й замеціла, што ён такей кыпрізўлістый.*

**Капусціна** *ж.* Адна расліна капусты. *Капўсьціну пысадзілі ў гурках і расьцець ладный кычáнчык. Ікая капусьціна зывізáлыся, і тую коні згрызьлі.*

**Капуха** *ж.* Павольная жанчына. *Што ўжо цяперь гываріць, кылі іна і ў дзявостві была тыкая самыя капўха. У якім дзелі капуха, а жаць іна скора жнець, ніхто зь ёю дужа ні справіцца.*

**Капыл** *м.* і *ж. перан. іран.* Капрызная, надзьмутая, незадаволеная асоба. *Нешта твой капыл сяньня надуўся, як індык, чым ты яму ні ўгадзіла? Тыкая была капыл, як сыч, ацставіць губы і ходзіць надутыя цэлый дзень.*

**Каравашный** *прым.* Брудны, неахайны. *Як табе ня стыдна хадзіць такім кырявышным? Апусьціўся, цігаіцца кырявышный зь дзяреўні ў дзяреўню.*

**Каравіца** *ж.* Вельмі добрая карова. *Што ўжо была ў мяне на хутырі кыравіца, пряма зылівала мылаком. Бы-*

*гатыю кыравіцу купіў сабе Зьмітрачонык, чацьвёртым целім, вымя тоя чуць ні ды зямлі.*

**Каравятнік** *м.* Вялікі воўк, здольны задушыць карову. *Такога здыраву́шчыга кырывя́тніка у кустах відзіў, каб ня кінуўся на скот, верна, прібег аткуль, яны пірібіга́юць зь места на места.*

**Каравяціна** *ж.* Мяса каровы. *Дужа жырныя кырывя́ціны ні купляй і касьцей адных ні бяры, глядзі, каб мяса большы. Памяни.* **каравяцінка.** *Можа б, і ты зьеў кырывя́цінкі кусочык, ай ня хочыцца посьлі бызара?*

**Карапузлік** *м.* Карапузік. *Што мне с такім кырапу́зьлікым брацца боріцца! Ікая там вічарінка, адны кырапузьлікі сыбраліся.*

**Карапузлый** *прым.* Карапузы. *Ці я тых кырапу́злых ня відзіла, ні паеду, луччы быразёнычку бульбы вы́біру.*

**Карбатый** *прым.* Скрыўлены, сагнуты. *Куды ж такея кырба́тыя доскі на мост класьць, ражном будзіць стыяць, ішчэ б на столь парезыліся. І Аксюта стала кырбатыя, ходзіць сагнутыя, сьпіна ні рызьгінаіцца.*

**Кардыль** *м.* Палачка, якую кідаюць так, каб яна ляцела ўперад, становячыся канцамі на зямлю, гульня ў кардыль. *Карды́ль нада, каб быў сь цяжолыга дзеріва, лёгінькій далёка ні пыляціць. Ма́лыя любюць гуляць у кырдыля́, пускаюць етыя палкі адзін за дным.*

**Кардылянне** *н.* Кіданне кардыля, гульня ў кардыль. *Будзіця кіда́ць, кідаць, а тады каму-нібудзь у лоб пупадзець зь етым кырдыля́ньнім.*

**Кардыляць** *незак.* Кідаць кардыль. *Толік умеў кырдыля́ць луччы ўсіх, зь ляўшы як пусьціць, етый кардыль ляціць ніізвесна куды.* **Кардыляцца** *незак.* Ляцець (пра кардыль). *Другую палку вы́ріжыш, дык іна саўсім ні кырдыля́іцца, а каторыя дужа хырашо ідзець.* **Кардыльнуць** *зак.* Кінуць кардыль. *Ладна кырдыльну́ў, палка ацскачыла ў бок ды ў шыбку, Мархва выскычыла, пыдніла крік, було сквілу.* **Кардыльнуцца** *зак.* Паляцець (пра кардыль). *Відзіш, як етый раз хырашо кырдыльну́лыся, ні ўсігда так пулучаіцца.*

**Каржак** *м.* Высахлы кавалак, корж. *Кыржа́к во ёсць, рызмачы ды зьеж, а хочыш — дыжыдай, пакуля прісонок сьпякецца.*

**Каржэлый** *прым.* Высахлы, цвёрды. *Як жа так дупускаць, каб вобуў такей каржэлый выляўся. Ня хочыш*

*ацскачыць у мыгазін, грызі каржэлыя кускі, ці мне тваіх зубоў жалка.*

**Каржэнне** *н.* 1. Высыханне да зацвярдзення. *Якей толк зь естыга каржэньня, звыляіцца і ў шайку выкініш.* 2 *перан.* Бескарыснае жыццё, існаванне. *Жызьня яе каржэньня, с хаты чуць выпыўзіць.*

**Каржэнь** *м.* 1. Высахлы кавалак, корж. *Ты кряпчэйшый, разьбі етый каржэнь, яго бырына ні рызьдзярець.* 2 *перан. жарт.* Стары чалавек. *Каржэнь ты, унука глядзі, а ня жонку табе мыладую нада.*

**Каржэць** *незак.* 1. Высыхаць да зацвярдзення. *Ні нада многа накўплівыць хлеба, тады ён толька каржэіць. Вун ішчэ зыўчыра́шнія пріснакі каржэюць.* 2 *перан.* Бескарысна жыць, існаваць. *Ікая ўжо ат мяне польза, сяджу на печы, каржэю.*

**Каркала** *м.* і *ж. неадабр.* Той, хто прадказвае непрыемнасці. *А сьціхні ты, ка́ркыла, ёй і так ні салодка. Вы толька слухыйця каркылу ету, іна вам ныка́ркыіць.*

**Карміна** *ж.* Корм. *Карміну пріпуціць нада, у пагоду прібраць. Ікая была карміна, іна ўся пыгамзілыся ў етыга хызяіна, ці ён пріпуціць што ўмеіць.*

**Кармленнік** *м.* Той, хто корміць, утрымлівае. *Зь яго такей кармленьнік: ляжыць і засьнець, і будзіць брюзнуць, пакуля сьвіньні крік справюць.* **Кармленніца** *ж.* *Кінула я сваю кармленьніцу адну ў дваре, прікызала, каб хырашо глядзела і ўсіх пыныка́рмлівыла.*

**Карожыць** *незак.* Круціць, ламаць. *Нашто табе ету лучыну карёжыць, ніхай ляжыць, ны паттопу будзіць. Нешта мяне карёжыць усю, лумаіць, відна, прастуда ходзіць па целу.*

**Карозлівый** *прым.* Карузлы, упарты. *Пітрачок карёзьлівый зыдайся, увесь у маму. Ста́рыя карёзьлівыя, ніяк сваіх прівычык ні кідаіць.*

**Кароўскій** *прым.* Каровін, прызначаны для каровы. *Асты́ніць кароўскыя поіла, бяріся, вынісім і пыбягім. Кароўскыя масла кажный любіць. Кароўскыю пацьсьцілку складзі у вугалок, каб ні мякла.*

**Карпенне** *н.* Аднастайная надакучлівая праца. *Ні кажныя выдзіржыць такоя карпеньня ныт пряжыю. А што толку ат вашыга карпеньня, разьві ат яго польза ікая ёсьць?*

**Карства** *н.* Мука. *Пысядзіш, дык ног ні піріцягніш, ка́рства ёсьць тыкая жызьня.*

**Картаўнік, картоўнік** *м.* Ігрок у карты, ахвотнік гуляць у карты. *Кыртыўнікі як зысядуць на цэлый вечыр, дык да поўнычы ні разойдуцца. У нашых картоўнікыў адно зыняція — нугуляцца.*

**Картоўнічаць** *незак.* Гуляць у карты. *Нашы мушчыны любілі картоўнічыць, тады іх було многа, як зысядуць у каго як сьцямнеіць, так і разойдуцца толька пыд раньня.*

**Карханне** *н.* Кашаль, харканне. *Яго кáрхыньня зы вярсту чутна, выйдзіць, лі ґанык станіць і дывай кархі, кархі.*

**Карціна** *ж.* Адна карта. *Ета Мішка схуваў кáрціну, ён усё вярцеўся. Харошыя была калода, ды дзьве карціны пыціралыся. Памянш.* **карцінка.** *Во тута адна кáрцінка.*

**Карцініна** *ж.* Карціна, малюнак. *Нада будзіць і мне такую карцініну купіць, іна дужа прігожыя. У Мары ў задній хаці быльшая карцініна вісіць, моря нарісовына.*

**Карцініцца** *незак. жарт.* Прыхарошвацца. *Як скрысеньня, і пычынаіць карцініцца, цэлыя раньня адзь зеркыла ні атходзіць, мажыцца, красіцца, прічэсыіцца, каб увесь бызар ёю любуваўся.*

**Карыцца** *незак.* Ачышчацца ад кары. *Сыроя дзеріва усякыя хырашо коріцца. Сасновінькія паплецінкі нічога корюцца, толька скобля дужа смалою зыліпáіць.*

**Карэнне** *н.* Ачышчэнне ад кары. *Посьлі кареньня ажно плечы быляць зь ніпрівычкі. Ат кареньня рукі ўсе ў смале.*

**Касабрух** *м. абраж.* Тлусты чалавек. *Кысабрю́ха свайго пашлі зь вілкымі, а не — сыма пайдзі, а тады мне будзіш указывыць.*

**Касабрухій** *прым. абраж.* Тлусты. *Вучы свайго кысабрю́хыга, а я біс тваіх саветыў абыйдуся.*

**Касавуранне** *н.* Косае паглядванне. *Я табе дам кысавýріньня, сагнула гылаву і глядзіць адным вокым — апсяку вярёўкыю, дык пірістаніш кысавýріцца.*

**Касапузый** *прым. абраж.* Тлусты. *Ходзіць кысапýзый, як ваперь, брюха ціряз ремінь пірявешывыіцца.*

**Касаты** *мн.* Пеўнікі (кветкі). *У нас на хутырі дужа красівыя кысáты расьлі пат пунію, бальшэй куст, цьвілі пасьці ўсё лета. Нысадзілі кысатыў у пулусадніку дужа многа. Памянш.* **касацікі.** *Кысáцікі редка ў каго цяперя ёсьць.*

**Касмаччо** *н.* Касмаццё. *Кысмаччо ны гылаве пы аршыну. Надзеў кухвайку, кысмаччо зь дзірік тарчыць.*

**Кастра** *м.* і *ж. перан.* Запальчывая асоба. *Дзёма кыстра́ быў чылавек, яго ні любілі за ета ў дзярэўні. Іна кыстра баба, як узьесца, то ўжо дыпякець.*

**Кастравый, кастрывый** *прым.* 1. Кастравы. *Кыстрявыя пінька, відна, ні дымякла, пысьпяшылі мы яе выцігнуць.* 2. Запальчывы. *На від пыгля́дный, а хракцірым кыстря́вый. А ну яго, твайго Мікіпырёнка, зь ім як ш чылавекым ні пыгаворіш, чуць што ні па ім — растопыіцца, распу́рхыіцца, дужа кастрівый ны хракцір.*

**Кастрыстый** *прым.* Кастрывы. *Калі лён кастрістый, намучыісься, прясьць яго ныдыіда́іць, усё кастрінкі выску́бывый ды выкідай.*

**Катовый, катоў** *прым.* Каціны. *І катовыю пасу́дзіну нада памыць. Катовыю шапку ма́лыму пашылі, і дзеці сталі дражніць катом, бегыюць усьлед і крічаць: кот, кот рыжый. Ні абярні, тама ў каробычкі катова іда. Дзьвері аччы́ніны — ета катова работа: на дзьвері узьлезіць, пычанець кыкытамі драць і аччыняіць хату.*

**Кахіканне** *н.* Кашлянне. *Ляжы ўжо ты ціха сы сваім кахікыньнім, у цёплым троху можна цярьпець.*

**Кахліць** *незак.* Моцна напальваць. *Ка́хлілі і кахлілі печ бяз розвылкі, пакуля сьціна зацьмелыся, хырашо — запых пачулі, ато й пыхнула б сьвечкыю.* **Кахліцца** *незак.* Моцна напальвацца. *Грубка ка́хліцца бяс толку, у хаці ні халодна.*

**Кахляный** *прым.* Кафельны. *Кыхля́ныю грубку куды крысівей пыставіць. У дзярэўні кыхляныя грубкі пасьці ні ставюць.*

**Кацалап** *м.* Чалавек, у якога няма пальцаў. *Во ніхай што кыцыла́п, а плотнічыіць хырашо, бальшым пальцым пріцісьніць тыпарішча к ку́ксі і дзяўбець.* **Кацалапка** *ж. Будзіш торкыць так рукі ў сечку, атрежыць пальцы і астанесься кыцыла́пкыю на ўсю жызьню.*

**Кацельнік** *м.* Качагар. *Кузьма доўга работыў кацельнікым, а тады ў дворнікі піряйшоў. Зыгарэў, стаў чорный, што кацельнік.*

**Кацярынінскій** *прым.* Такі, які адносіцца да часоў Кацярыны II. *Пы Каробчынскыму быльшаку усьцяж стыялі кыцярінінскія бярёзы. Гываpілі, што ета кыцярінінскій быльшак.*

**Качарэжжа** *н. зб.* 1. Пні, бясформенныя кавалкі дрэ-

ва. *Курчувалі балота, дык кычарежжа нывазіў, сухоя будзіць гарець, толька пріпыря́ччыць навозісься.* 2 *перан. груб.* Ногі. *Скарей пыднімай сваё кычарежжа, так ды абеда ні дыпляцёмся.*

**Кашаліцца** *незак.* Збівацца, мясціцца (у цеснаце). *Чаго вам кышаліцца у такой цесный хаткі, пыпрасіціся у Хадоскіных, яны пу́сьцюць, там раскошна, хуць дзьве вічарінкі гуляйця.*

**Кашаляць** *незак.* Накладваць, нагрувашчваць. *Пу́нчына маліцькыя, цесьнінькыя, ні нада туды усё ўсякыя кышыля́ць.*

**Кашнік** *м.* Ахвотнік да кашы. *Нылажу міску, мае ка́шнікі як апсядуць, у міг пыядуць, кашу яны дужа любюць, а я ішчэ нымасьлю хырашо. Памянш.* **кашнічак.** *Січас я йду, толька ка́шнічка свайго пыкармлю.* **Кашніца** *ж. Тыкая ўжо кашніца, кажыцца, большы і ня ела б нічога, варі ёй кажный дзень кашу.*

**Кашырыцца** *незак.* 1. Займаць, мець намер заняць. *І ну Кузьмову усадзьбу пычына́юць кашы́ріцца.* 2. Выдаткаваць, расходаваць. *Ныдбірігáй, нечыга так кашы́ріцца сь сеным, ішчэ ніізьвесна, ікая вісна будзіць. Ні кашырьсь-ка дужа з бульбыю, на семя ні хваціць, кылі будзіш гамзіць.*

**Квашанка, квашонка** *ж.* Квашаная капуста. *Міску ква́шынкі на стол унісла, чугунок бульбы выцігнула, во й есьця, у мяне німа ўремя прісмакыў вам нығытаўлівыць. Квашонка як зыдасца, дужа смашныя, ня хужы гуркоў, ну ета ішчэ нада сьпіцыяліст квасіць.*

**Квэцала** *м.* і *ж.* Той, хто пэцкае, забруджвае. *Во яшчэ квэцыла, нада хут трошку акуратней дзелыць. Ты сам увідзіш, як ета квэцыла пыдатрець.*

**Кіданнік** *м.* Той, хто кідае, шпурляе. *Успакой кідыньнікыў етых, па іх даўно вярёўка рявець. Будуць мыхаць, мыхаць тэя кіда́ньнікі, пакуля вочы адзін другому павыб'юць.* **Кіданніца** *ж. Вун яны, твае кідыньніцы. Да, сь цябе ніплыхая кіда́ньніца, ты, глядзі, на вербу ня ўськінь етыя тряпкі.*

**Кіп** *м.* Кіпенне. *Якей там кіп, жару пыдгарні.* 2. Накіп. *Кіп у чугунку лумаіцца кускамі. Нада аччысьціць кастрюлю ат кіпу.*

**Кіпун** *м. перан.* Моцны мароз. *Я маліцькыя была, дык, помню, усю зіму нісьцярьпімыя кіпуны́ пяклі. Такея кіпуны́ былі выскычылі, пряма усё гарела.*

# Л

**Лабавіна** *ж.*, **лабяк** *м.* Пагорак. *Мой бацька сьпірва рысьцірябіў усьцяжную пыласу на роўным, а гады ціріз два і лыбавіну рызработыў, як пад год, жыта нядренныя зыдывалыся. Тэй лыбяк ныпрасна пыхалі, на ім дайжа трыва ні рысла, і, пасеіўшы, нічога ня вырысьціць. Памянш.* **лабавінка, лабячок.** *Ны лыбавінкі многа ні накосіш, редзінькыя трыва, усігда выгыряіць. Коні спутыў і пусьціў у лашчынку, а сам прілёг ны лыбячку і заснуў.*

**Ладжанне** *н.* 1. Папраўлянне. *Тваё лáджыньня січас рызваліцца.* 2. Дагаджанне. *Ажно праціўна глядзець ны тваё ладжыньня, ты ўжо сыма ні прідумыіш, як ім гадзіць.*

**Лады** *мн.* Згода. *Мы вязём, а ты нам ставіш барыш і лады́. Тады будуць лады́, як ты зы пытрáву заплоціш.*

**Лажэнне** *н.* Ускладанне, накладанне. *Ну цябе с такім лажэньнім, ня столька на воз, сколька міма. Пыглядзі ны яго лажэньня, во ета кладзець дык кладзець!*

**Лазіца** *ж. ласк.* Лазняк. *У Кругліенькім аборычку ладныя лазіца, каб пашоў с тыпаром, высік, іна б вы́сыхла пагодыю, пыттаплівыць дужа б хырашо была сухенічкыя. Памянш.* **лазічка.** *Пруцікі лазічка, такою ні натопісься, нада пушукаць айдзе буйнейшыга насеч.*

**Ламіна** 1 *ж.* Палена. *Чаго ты іх ламіныю ні папреш ат хаты, ета ж нада такей ґвалт справілі.* 2 *м.* і *ж. перан. груб.* Гультай, абібок. *Як ён, етый ламіна, думыіць зіму зімуваць? Па ком толька тыкая ламіна ўдылася? Узмацн.* **ламініна.** *Во хто быў ламініна, шаг ступіць ляніўся. Павеліч.* **ламінішча.** *Во айдзе яшчэ ламінішча пыдрыстаіць, усіх акасьнець.*

**Ламком** *прысл.* Ламаючы. *Ні нада там нічога резыць, ідзі біз ныжа, ламком нулумаіш вецьця.*

**Лапанне** *н. груб.* Хапанне, абдыманне. *Ні руспускай рукі, ато будзіць лáпыньня.*

**Лапатаннік** *м.* Балбатун. *І ты паверіла лыпытаньніку, ён што хочыш лыпатнець, збрешыць — дорга ня возьміць.* **Лапатанніца** *ж. Тыкая ўжо лыпытáньніца, аткуля ў яе што бярецца, ні сьціхáючы язык верціцца і верціцца кажныю мінуту.*

**Лапатня** *ж.* Балбатня. *Наслухыўся я ўсякія лыпатні, каб усяму веріць, ні знаю, што дзелыць ба нада.*

**Лапачанне** *н.* 1. Веянне. *Пы́льный посьлі лупáчыньня,*

*ідзі абмыйся троху.* 2. Вастрэнне (касы). *Ну яго, с такім лупа́чыньнім, зывярнуў жа́ла ў касе масьцір етый, кліпаць нада.*

**Лапленнік** *м.* Той, хто латае. *Ды я віджу, што сь цябе ла́пліньнік ніплахей: зна́нкыю наверьх прішыва́іш.* **Лапленніца** *ж. Пыглядзі, як тая лапліньніца прішываіць, можа, дзьве палы ўмесьці шшыла.*

**Ласкатаннік, ласкатун** *м.* Балбатун. *Лыскыта́ньнік, як баба, як яму толька ня стыдна лыскыта́ць етык. Ну ніхай Аўдотычка, іна баба, дык ён жа тожа еткій самый лыскату́н.* **Ласкатанніца, ласкатуння, ласкатуха** *ж. Адна лыскыта́ньніца хырыша́, а другая яшчэ чы́шчы бярецца, як зывядзецца зраньня, к вечыру ня сьціхніць. Ну й зыдылася ў Арцёма лыскату́ньня, сяреднія, так ужо лёгінька язык падвешын, ні ны мінуту ні сьціхаіць тырахцець. Сколька етых лыскату́х тута, во бярі с аднаго краю і гані ў другей, ні прупускай ні аднае хаты.*

**Ласкатнуць** *зак.* Балбатнуць. *Такей жа язык у бабы, што хочыш лыскатнець, а тады: ай, ай, я ні так гываріла, яны самі прідумылі.*

**Ласкатня** *ж.* Балбатня. *Наслухыісься яе лыскатні, дык у гылаве дурна становіцца, ні пірістыва́ючы ласкочыць.*

**Латаць** *ж.* Лотаць (кветка). *Жоўцінькія кра́сычкі такея растуць вясною пы балоту, пы аборкых — ета лыта́ць. Пу пуку лыта́ці нырвалі і тыра́нюць.*

**Лахамудра** *м.* і *ж.* 1. Неакуратная асоба. *Якей жа ты ў мяне зыдаўся лыхаму́дра, ніяк цябе ня пріўчыш к пырядку. Узмацн.* **лахамудрына.** *Ах ты, лыхаму́дріна, як цябе прілумаць, каб ні кідаў вобуву айдзе зря. Павеліч.* **лахамудрышча.** *У мяне свой такей самый лыхамудрішча, ніяк ні наўчў глядзець зы сабою.* 2 *іран.* Разумнік, хітрэц. *Ты ішчэ мала знаіш Насьціну лыхаму́дру, іна ўсё сь хітрікымі, сь хітрікымі.*

**Лахамудрыць** *незак. іран.* Паказваць сябе вельмі разумным. *Дос ужо табе лыхаму́дріць, ён сам знаіць, што купляць і як купляць.*

**Лахан** *м.* Вялікі гліняны збан. *Лыханы́ куплялі ны бальшую сям'ю, сырыквашу на творг зьлівалі, піряліць што, каб зьмяніцца, зімою можна було насыпыць чаго, мукі ўнесць.*

**Лахматка** *ж.* Непрычасаная жанчына; калматая жывёла. *Мода нейкыя ніізьвесна ікая пышла, лыхма́ткі хо-*

*дзюць па горыду, як век ні чысаліся. Лыхматка у Гыўрілёнка бегыіць, тыкая уедлівыя сучычка. Памянш.* **лахматачка.** *Нейкыю новыю пароду курей зывілá — лыхмáтычкі.*

**Лахмаценне** *н.* Рызманы. *Прібяpi хуць з моста лыхмáціньня, транты ўсякія выляюцца, ні ступіць, ні прайціць.*

**Лахмачанне** *н.* Ускудлачванне. *Дам лыхмáчыньня: пыдбягіць ґ дзяўчонкі і кудлаціць прічоску, а йна сыма сь сябе выходзіць.*

**Лахмачча** *н. зб.* Лахманы. *Ці ні зыцiраўся твой ножычык у тым лыхмáччы, ты пыглядзі хырашэнька.*

**Лахмотка** *ж.* Рызман. *Лі рук дык іна, і лахмотка, нада, калі ў дождж накініш, апкрыісься. Памянш.* **лахмотачка.** *Ну ці ета табе дыжывáцца, што толька лахмотычка на плечы асталыся, ты ж можыш купіць.*

**Лахудра** *м.* і *ж.* Неахайная асоба. *Ходзіш лахýдрыю, ці ты ня можыш луччыя адзёжыны надзець. Айдзе ты хацеў, каб лахудра дзяцей калі дагледзіла. Узмацн.* **лахудрына.** *Ну й зыдылáся лахýдріна, што ўзапреш, будзіць насіць, пакуля само ні зваліцца. Павеліч.* **лахудрышча.** *Ува ўсём белым сьвеці такея лахýдрішчы большы ні найдзіш.*

**Лахудрастый** *прым.* Неахайны. *На від ба яе дзяўчонкі нічога былі, ну такея лахýдрістыя, ні прібяруць, ні прігледзюць, пы зямле хадзіць лінáцца,— ну што ты хочыш, мама тыкая самыя была.*

**Лахудрын** *прым.* Такі, які належыць лахудры. *Лахýдріны рызгаворы ізьвесны: то некылі, то нечыга, парýпіцца — сыма, забі, ні паруnіцца.*

**Лашчанне** *н.* Пялегаванне. *Яму ныравіцца лáшчыньня, большы яго нянчы, гладзь, сядзіць і толька сьмяецца.*

**Лашчаный** *дзеепрым.* Ласканы. *Іна і лáшчыныя кыкцямі зу руку хвáціць, нейкыя ніпутнáя кошка.*

**Лебядзіна** *ж.* Адна расліна лебяды. *Лібядзіна вырысла пысярёд морквы, кареньня пусьціла, ня вырьвіш, усю гряду разьверніш. Памянш.* **лебядзінка.** *Кінь пырасёнычку нескылька лібядзінык, ён займіцца і пірістаніць пішчэць.*

**Легкадумнік** *м. Легкадум. Ну што мой савет, ты сам знаіш, якей ён ліхкадýмнік, так можыць падвесьць, што будзіш жалець, жалець, ды жалець большы некуды.*

**Легкадумніца** *ж. Што ты сыма сабе думыіш, ліхкадýмніца, сы сваімі свытáмі, у цябе ўжо дычка — нявеста.*

**Ледзянелый** *прым.* Надзвычай халодны, застылы, мёрзлы. *Як жа такея лідзянелыя яблыкі есьць, іх нагрець нада. Укаціліся ў хату лідзянелыя, чуць жывэя.*

**Лепшанне** *н.* 1. Выздараўленне. *Банкі яму пашлі на лепшыньня, зразу ляхчэй стала.* 2. Паляпшэнне, рамонт. *Посьлі твайго лепшыньня карзінычка саўсім рызвалілыся.*

**Лепшаннік** *м.* Той, хто папраўляе, рамантуе, робіць лепшым. *Сь цябе такей самый лепшыньнік, як с Колі, тэй кыляску як атріманьцірывыў, іна рассы́пылыся.* **Лепшанніца** *ж. Ды від́на, што тая лепшыньніца пыхадзіла тут, бёрда ляжыць рассыпыныя.*

**Лескатнуць** *зак.* 1. Бразнуць. *Што тама ліскатнýла ў пуні, каб ні звалілыся бырына с палык.* 2 *перан.* Сказаць, неабдумана, балбатнуць. *Каму ты веріш, чылавек ты, іна ліскатнець што хочыш.*

**Летавік** *м.* Маладняк свойскай жывёлы летняга нараджэння. *Ета бычок летывік, яму во ў юлі будзіць год, пызьнячок. Памяниш.* **летавічок.** *Можна й літывічкá карміць, вясеньнія пырысяткі лучча.*

**Лізнуць** *зак. перан.* З'есці вельмі мала. *Зу гульнёю некылі пад'есьць, пріляціць, лізьнець і ўзноў на вуліцу: друзья ждуць.*

**Ліняць** *незак. перан. гумар.* Худнець. *Лінáіць троху і Кіреіў сынок, ні тыкая харя, як раншы была.*

**Ліпучка** *м.* і *ж. перан.* Навязлівая асоба. *Сашка — ладный ліпýчка, ат яго ня дужа атвяжысься. Ня будзь ты ліпýчкыю, як мама твыя была.*

**Ліцаванне** *н.* Пераніцоўванне. *Нічога з вашыга ліцувáньня ні палучыцца, етый мыцірія́л ны знáнку ні глядзіцца.*

**Лубець** *незак.* Лубянець. *Чаго ты шубку ні прібяреш, выляіцца, лубеіць, а пыляжыць яшчэ, і саўсім прыпадзець.*

**Лужный** *прым.* Не з калодзежа (пра ваду). *Бульбу памыць і ў лужный вадзе можна. Лужныя выда с-пыт каплёў.*

**Лузканне** *н.* Лузганне. *Ці ета лýзкыньня,— так, сядзіць, балыіцца. Ні нада мне такоя лузкáньня, ці відзіш, сколька ты квасолі у глум пускаіш.*

**Лузканнё** *н. перан. зб.* Здаровыя дзеці. *У яе лузкынь-*

*ня́ многа, ці ня сёмый сёліта радзіўся. Сідзяць крысна-шчокія кырапузы, як лузканьнё.*

**Лупасіць** *незак.* 1. Лупцаваць, біць. *Хто яго толька ні лупасіў, усюдых яму пупыдала.* 2. Ісці (пра вялікі дождж). *Ды якей дождж лупасіць, во табе й німа ш чаго йіціць!*

**Лупач** *м. абраж.* Лупаты чалавек. *Прівазіла нейкыга лупычá, вочышчы во такея, пы яблыку.* **Лупатка** *ж. Ужо трецій раз павёз Мікілай сваю лупатку у радзільный дом. Памянш.* **лупатачка.** *Пупаў сабе лупáтычку і хваліцца: ох, крысавіца, а можа, йна яго пупала, зы цяперішніх дзевык ні бярісь.*

**Лупачы, лупы** *мн. абраж.* Вочы. *Чаго ты свае лупачы́ уставіў, ета меншый Гапкін, ні пызнаіш ці што. Пратрі лýпы, ужо дзевіць часоў пы радзіву скызалі.*

**Лупечыць** *незак.* Лупцаваць, біць. *Як дывай яго лупечыць, кучыю, відзіць — дзела ні пылысá, вы́рвыўся ды ўцікáць.*

**Лупляну́ць** *зак.* Лупянуць, выцяць. *Луплянý, што саўесься, айдзе тваё й дуры дзенуцца. Луплянí, каб ацскачыў, будзіш ты яго угыварівыць.* **Луплянуцца** *зак.* Лупянуцца, выцяцца. *Бег, ні пагледзіў жардзіны, як лупля-нецца з рызмáху, ажно зыікытáў.*

**Лутка** *ж.* Вертыкальны стаяк у асадзе дзвярэй. *На лýткі нада, каб крепкыя сысна, смольныя, у іх нада крюкі зыгыня́ць тоўстыя, дзьвері вешыць. Памянш.* **лутачка.** *Нічога бірнушко прівёз, руспушчý, дык лутычкі будуць.*

**Лындуля** *м.* і *ж. іран.* Гультай. *Што тут скажыш, лындýля ладныя вырысла, паліц ап паліц ня хочыць ударіць. Памянш.* **лындулька.** *Прі таком высьпітáніі будзіць другая лындýлька, ты яе хуць патроху ґ дзелу прівучывый. Узмацн.* **лындуліна.** *Ладный быў лындýліна, бакі атлежывыў. Павеліч.* **лындулішча.** *Ні прідумыць, у каго такей лындýлішча удаўся.*

**Лычаваць** *незак. жарт.* Рабіць падкоп (пад каго-н.). *Пыць цябе Ракоп, кажыцца, даўно лычýіць.*

**Лэўдзіць** *незак. іран.* Красці. *Чаго там гывaріць, твой брацiц ні прупускаў, айдзе блізка ляжыць, ýмеў лэўдзіць.*

**Любісцік, любчык** *м.* Любіста. *Табе ўжо асталыся толька любісьцікым свайго Колічку пытпáівыць. А ўсякія дураты було і ў наша ўремя, чаго ні тваріли, хлыпцáм лю́бчыку пыцсыпалі, яй-богу ж праўда.*

**Люнуць** 1 *незак.* Ісці гуртам. *Кучыю люнуць, ім тама работы на трі часы будзіць, зьдзелыюць і нызад вернуцца.* 2 *зак.* Хлынуць. *Люнула выда ў погріб, ды многа ныцякло.*

**Лядзень** *м.,* **лядзіна** *ж.* Лядзяк. *Лядзень ат каплёў атырваўся, зваліўся ды чуць ні пы гылаве. Лядзіны пысьсікаў, нада було аткінуць, па іх сані ня пройдуць. Памянш.* **лядзінка.** *Лядзінкымі ні мыхайціся, што як у ліцо пупыдзіцё адзін аднаму.* **Лядзенне** *н. зб. Лі калодзіжа дзеці троху цюкылі, апсеклі, нада паткідыць лядзеньня, узноў зьмерзьніцца за́ ныч.*

**Лядный** *прым.* Такі, які мае адносіны да ляда; з ляда. *Нам пріхадзілыся многа курчува́ць, ля́дныя работы цяжолыя. Лядныя сена ядомыя, карова есьць ня хужы, чым лугавоя.*

**Ляпень** *звыч. м.* Нязграбная, нязграбная асоба. *Сядзіць ляпень у маткі на шыі, ні к я́кыму дзелу ні прітуркыіш. Хата ляпнёў, хлопцы як мяхі і дзеўка тыкая.*

**Лясіна** *ж.* Бервяно. *Здаровыю лясіну вязьлі, нарежуць пыдвалкыў. Памянш.* **лясінка.** *Табе б сымаму́ нада було пару лясінык прівезьць.*

# ЗМЕСТ



*ГЕОРГИЙ ФЕДОРОВИЧ ЮРЧЕНКО*

**НАРОДНОЕ ПРОИЗВОДНОЕ СЛОВО**

**Из говора Мстиславльщины. А —Л**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар М. М. Дубоўская. Мастак Л. І. Усачоў. Мастацкі рэдактар В. Ф. Грынкевіч. Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак. Карэктар З. А. Гусельцава

ІБ № 1190

Здадзена ў набор 28.10.80. Падпісана ў друк 18.02.81. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 8,75. Ум. друк. арк. 14,70. Уч.-выд. арк. 15,5. Тыраж 1150 экз. Заказ № 2085. Цана 1 р. 20 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.